# *Алесь Якімовіч*

ЗБОР ТВОРАЎ
У ТРОХ ТАМАХ

## ТОМ ТРЭЦІ

*Апавяданні, казкі, аўтабіяграфія*

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1980

# НОВЫ ГОД

Завея ўсхадзілася яшчэ зранку.

А калі Дзіма ішоў са школы,— на вуліцах высіліся цэлыя гурбы, і барадатыя дворнікі ў аўчынных кажухах і валёнках шырокімі драўлянымі лапатамі рассоўвалі іх з сярэдзіны вуліцы да рыштткоў.

Дзіму падабалася завея і гурбы. Усё так незвычайна, усё ў густым белым пыле, які з усіх бакоў сыплецца з нейкіх таямнічых жорнаў. Вецер то прыціхне раптам, быццам змарыўшыся, то зноў шалёна загудзе, засваволіць. Калючым сцюдзёным снегам гарэзна сыпле ў твар, сячэ, як шротам.

Было яшчэ не позна, але горад ужо абхінаўся дымкаю ранняга снежаньскага змяркання.

Непрыемна толькі, што холадна. Але ж Дзіму гэта не ўпершыню. Так было і ўчора, і пазаўчора... Нават, здаецца, праз усё яго жыццё.

Маці кажа — вінавата вайна. Вось скончыцца яна, вернецца бацька, тады ўсё будзе добра... Тады ўжо яму, Дзіму, напэўна справяць і новае зімовае паліто, і валёнкі, і шапку цёплую ў дадатак...

Толькі ж нешта ніяк не дачакацца гэтай шчаслівай хвіліны.

Калі бацьку забралі на вайну, тады Дзіма хадзіў яшчэ ў другі клас. І можа нават так здарыцца, што ён скончыць і чацвёрты, а бацькі ўсё не будзе. Што ж тады станецца з яго далейшай вучобай? Гэтая далейшая вучоба можа адбывацца ўжо толькі ў гімназіі, куды вельмі ж хоча паслаць яго маці.

«Вернецца бацька, будзем на работу хадзіць удваіх, а ты ў гімназію пойдзеш»,— цешыць яна Дзіму і сябе.

Чаму яна так кажа, Дзіма добра ведае: у гімназіі трэба плаціць шмат грошай за навучанне... Ды і не прымуць туды яго ў гэтай кароценькай, латанай-пералатанай світачцы, пашытай яшчэ пры бацьку, у дзіравых чаравіках-атопках.

Шчырае матчына жаданне паслаць яго ў гімназію захапляе і самога Дзіму. Вось чаму і зараз, прабіраючыся

па сумётах дахаты, ён грэе сябе марай аб шчаслівай будучыні. Тым больш, заўтра ўжо ён будзе жыць у новым гопдзе, у якім, калі пашанцуе, і збудуцца ўсе яго мары.

Наставіўшы кароткі каўнер халоднай світкі, ён подбегам заспяшаўся да свайго завулка.

* * *

Замка на дзвярах не было.

Дзіма спыніўся здзіўлены: другі ключ ад замка быў толькі ў маткі. Але ж яна ніколі гэтак рана не прыходзіць. Яна варочаецца з работы ўжо тады, калі Дзіма, скачанеўшы ад холаду і суму ў сырым падвале, кладзецца спаць.

Можа, зладзеі залезлі?

Але ж ніякіх свежых слядоў ля дзвярэй няма. Усё гладка замецена снегам. Нізкае акенца таксама засыпана сумётам да самага верху.

Урэшце, гэтая думка не надта і палохае яго, бо ён ведае, што красці ў іх няма чаго. Так кажа і маці, калі гаворка заходзіць пра замок.

А можа, бацька вярнуўся?

Хлопчыку раптам робіцца горача ад гэтай заманлівай здагадкі. Мацней б'ецца сэрца. Дзе ўзяў бацька ключ, каб адамкнуць хату,— аб гэтым не думалася. Іншае, моцнае і радаснае, пачуццё засланіла на момант усё астатняе.

Ён яшчэ раз акінуў вачыма пусты завулак з узвіхранай завеяй, ласкавей глянуў на вялікі дом, у цёмным падвале якога пражыў усё сваё дванаццацігадовае жыццё, і з хваляваннем адчыніў дзверы.

Сянец не было, і ён тут жа разам з сіверным ветрам і снегам апынуўся ў цёмным склепе. Прычыніўшы за сабою дзверы, нерашуча спыніўся.

— Хто там? — пачуўся з кутка слабы голас.

— Гэта ты, мама? — запытаўся здзіўлены Дзіма.

— Я, сынок.

— Вас раней пусцілі сёння з работы?

Маці прамаўчала.

— Можа, газоўку запаліць? — сказаў Дзіма.

— Запалі...— тым жа слабым, нейкім не сваім голасам адказала маці.

Ён вобмацкам знайшоў на ляжанцы запалкі.

У пакойчыку пасвятлела.

Цяпер Дзіма ўбачыў, што маці ляжыць на пасцелі, на-

крыўшыся коўдрай. Твар яе празрыста-бледны, зморany. На ім яшчэ выразней гарацъ яе вялікія вочы.

Дзіма падышоў бліжэй да ложка і спытаўся трывожным голасам:

— Табе нездаровіцца, мама?

Расцягваючы словы, яна сказала:

— За ляжанкай, сынок, засталося крыху трэсак. Награй чаю.

Было ясна, што маці захварэла. І, відаць, моцна.

У апошнія гады гэта здаралася часта. Яна працавала на тытунёвай фабрыцы. І хоць заходзіў Дзіма да маткі на якую часіну, але заўсёды выходзіў адтуль з перасохлым горлам і цяжкімі грудзьмі, нібы з чаднай лазні. У доўгім дашчаным будынку там сотні жанчын і падлеткаў, такіх, як ён. Паветра густое і нейкае агіднае. Вакол чуецца няспынны кашаль. Вузкія вокны перакрыжаваны жалезнымі кратамі. І нідзе ў іх не відаць ніводнай фортачкі. Зімою там гэтак жа холадна, як і на двары. Маці, калі прыходзіць дахаты, доўга не можа адагрэцца каля сваёй ляжанкі. Кашляючы, яна кляне фабрыканта за нечалавечую прагнасць: нават на дровах скупіцца, і адзіная ў цэхавай сталоліне круглая печ, абабітая чорнай бляхай, стаіць халодная ўсю зіму.

Дзіма згатаваў у каструльцы вады, наліў у кубак і, знайшоўшы ў скрынцы стала кавалак хлеба, падаў матцы.

Маці адкінула коўдру з грудзей, заварушылася з намерам устаць. Але тут жа зноў цяжка апусціла галаву, закашляўшыся.

— Нешта я зусім здалася,— сказала яна.— Памажы хіба, сынок.

Дзіма падклаў руку пад матчыну галаву, прыўзняў яе, падкамячыў пад плечы падушку.

Маці павольна выпіла чай. Да хлеба не дакранулася.

Потым, лежачы, доўга пазірала на сына. Нешта нядобрае адчуў Дзіма ў яе засмучаных круглых вачах...

* * *

Наверсе, у гаспадара дома, зайграла музыка. Яна даходзіла сюды і праз гнілую столь, і праз няшчыльныя дзверы, завешаныя ад ветру посцілкай.

Маці сказала:

— Прысылала гаспадыня наймічку...

— Чаго? — спытаў Дзіма.

— Па доўг за кватэру...

— А ты хіба палучку прынесла?

— Прынесла...

Памаўчаўшы, яна загаварыла, перасільваючы нейкі ўнутраны цяжар, які прыгнятаў яе:

— Нічога ад палучкі не засталося... Большую палавіну за штрафы вырвалі. Ды і — апошняя, сынок, гэта палучка мая... Адправіў мяне, дзіцятка, крывасмок наш зусім. Без здароўя, бачыш, засталася я. Часта прытомнасць на рабоце трачу. Такія яму ўжо не патрэбны...

Дзіма сціснуў губы, не па-дзіцячаму задумаўся. Яму было зразумела, што сказала маці.

У гэты вечар яны доўга не спалі.

Новае, самае бязлітаснае і страшнае гора нёс ім новы год.

Калі цьмяны агеньчык газовачкі пачаў прыкметна асядаць, маці сказала:

— Кладзіся ўжо, сынок. Газы больш няма. А заўтра відней будзе, з чаго нам пачынаць. Можа, я яшчэ папраўлюся і, можа, дзе знайду другую работу...

Дзіма падумаў сабе, што словы гэтыя маці сказала без веры ў іх, каб суцешыць яго. Але ён ужо вырашыў, з чаго пачынаць яму новы год. І, уладжваючыся на сваім палатняным ложку, ён сказаў разважліва, як дарослы:

— Я, мама, пайду на работу прасіцца. Такіх жа на фабрыцы шмат...

Маці глуха застагнала.

Усе гады, як пайшоў бацька на вайну, яна баялася і падумаць аб тым, каб спыніць сынаву вучобу. Намагалася з усяе сілы. З дня ў дзень душылася на фабрыцы за кавалак хлеба. А зараз яна адчула сябе зусім бездапаможнай, выкінутай з жыцця.

Старэнькі насценны гадзіннік зашыпеў расцяжна і прабіў дванаццаць разоў.

— З Новым годам, мама! З новым шчасцем! — прагаварыў Дзіма, глыбей зашываючыся ў сваю халодную пасцель.

Прыйшоў Новы год — тысяча дзевяцьсот семнаццаты...

Не ведаў тады яшчэ Дзіма, што гэты год нёс ім і мільёнам змучаных людзей сапраўднае, вялікае шчасце.

*1948 г.*

# ЛЯ КАМІНКА

— Мамка, а мамка, даўно ты не расказвала нам казак. Раскажы яшчэ якую! — прасіў матку малодшы яе сын Кастусь.

Яго маці, Кацярына, толькі што ўхадзілася з хатняю работаю і цяпер збіралася сесці на ўвесь вечар за калаўрот.

На камінку ўжо зырка шугалі смалякі. А з-за акенцаў ціснулася ў хату цёмная зімовая ноч.

Не хацелася Кацярыне брацца за кудзелю. Нямала і так надакучыў за доўгую зіму шумлівы калаўрот. Ды трэба было прасці. Надыходзіць вясна. А там — распачнуцца кросны. Пакуль іх вытчаш ды выбеліш, людзі ў поле выйдуць.

Кацярына жыве ўдавою. Дзеці яшчэ малыя. Самаму большаму сыну пайшоў ад каляд толькі дванаццаты год.

— Праўда, мамка,— падхапілі Кастусёву просьбу і старэйшыя браты Алесь і Пятрусь,— ты ж шмат ведаеш казак! Раскажы!

— Ну, добра,— згадзілася маці.— Раскажу і казку і праўду... Але хіба прасці верацяном буду. Калаўрот вельмі ж тарахціць.

Кацярына села за прасніцу. Сыны прыладзіліся бліжэй да яе, ля камінка.

Маці пачала:

— Не далёка і не блізка, у нашай ці не ў нашай старане жыў-быў адзін пан. Багаты быў пан. Зямлі ў пана — вокам не акінеш, вёрстамі не змераеш. Лесу — сокалу за дзень не абляцець. Палацы панскія залатыя ды сярэбраныя, рознымі кветкамі размаляваныя, багатымі шаўкамі абабітыя.

Год за годам ішлі, год за годам плылі. Сядзеў той багаты пан у сваіх палацах. Нічога не рабіў, смачна еў і піў, колькі хацеў спаў. Кожны вечар шумныя балі спраўляў. З'язджаліся да яго на балі другія паны, такія ж, як і ён сам. Гулялі паны, віно ракою цякло.

— А адкуль жа, мамка, пан браў усё гэта? Ён жа сам, ты кажаш, не працаваў...— перапыніў казку Алесь, падварушваючы смалякі на камінку.

— Слухайце, даведаецеся,— адказала маці.— Звалі таго пана Лапам. На ўсю акругу быў ён вядомы. Сам цар яго ведаў. Казалі, нават у госці да яго прыязджаў. І былі ў Лапы слугі-рабочыя. Шмат слуг. Усё, што трэба было рабіць,— рабілі слугі. Поле аралі, збожжа сеялі, касілі і ўсё, усё чыста рабілі.

Камандаваў слугамі не пан, а паўпанкі — розныя аканомы ды прыганятыя. Сам пан і камандаваць ленаваўся. Што яму турбавацца. Сядзі сабе ды лічы гатовыя барышы.

Цяжка было жыць панскім слугам-рабочым. Дзень і ноч рабі на пана. У хаце холадна і голадна. Есці няма чаго ні сабе, ні дзецям, бо плаціў ім пан за работу такую плату,— абы з голаду не памерлі.

— Ты ж казала, мамка, што ў пана было ўсяго многа. Чаму ж яго слугам так дрэнна жылося? — зноў запытаўся Алесь.

— Праўда,— вяла далей казку маці,— было ў пана ўсялякага дабра. Ды скупы быў пан. Не шкадаваў толькі сябе. А другіх і за людзей не лічыў, слуг сваіх не іначай як быдлам зваў.

Жывёлу панскую пасвіў адзін пастух — Якім...

— Якім? — здзівіліся сыны.— Нашага ж тату гэтак звалі...

— Але, дзеткі, і ваш бацька зваўся Якімам, так, як і панскі пастух. Змалку пачаў ён панскую жывёлу пасвіць — гусей, свіней, потым і кароў. Бацькі яго жылі ў гэтага ж Лапы. Замалада яны паўміралі ад горкага жыцця, ад цяжкай працы і пакінулі сына круглым сіратою.

Выгадавала Якіма сцюжа халодная, узрасціла яго доля горкая. Бацькам яму быў лес дрымучы, маткаю — лаза на балоце.

Гэтак рос і гадаваўся Якім. Бывала, сядзе на пні ў лесе і думае, сумуе. А з вачэй слёзы горкія сірочыя коцяцца. Развясельвала яго хіба што дудка лазовая, супакойвала песня птушыная.

А сумаваў Якім не дарэмна. Кожны дзень быў вінаваты ён перад аканомам. То кароў не напасвіў удосыць, то збожжа патаптаў пры дарозе, у поле гонячы. За ўсё адказваў Якім.

Прыйшла пара — ажаніўся Якім. Ды лепш не стала яму жыць на свеце. Новы клопат агарнуў: хлеба няма дзяцей карміць, грошай няма газы і солі купіць.

Жонка Якімава таксама на пана працавала, прасветлай

хвіліны не знала. Дзеці адны гадаваліся. Бывала, пойдуць бацькі на ўвесь дзень на работу, а дзеці плачуць, поўзаюць галодныя па халоднай глінянай падлозе ў старэнькай хатцы.

Аднаго разу прыгнаў Якім кароў з пашы і недалічыўся адной. Засталася недзе ў нетры лясной. Відаць, ваўкі зарэзалі.

Даведаўся пан Лапа пра гэта і загадаў выгнаць Якіма з маёнтка з усёю сям'ёю...

Пайшоў Якім у свет новай долі шукаць, а жонка з дзецьмі — жабраваць.

— Ды гэта ж усё роўна як мы жабравалі, калі таты не было з намі! — дзівіліся сыны.

— Але, усё роўна як мы...— не зводзячы вачэй з кудзелі, адказала маці.— Дык вось. Беглі дні, беглі тыдні, месяцы беглі, а Якіма як не чуваць, так і не чуваць.

Ды прыйшоў нарэшце шчаслівы год — вярнуўся Якім у маёнтак панскі. Не адзін вярнуўся, а з войскам чырвоным.

Як пачуў пан пра Якіма, пра войска чырвонае, кінуў свой палац, ды толькі яго і бачылі. Кажуць, недзе аж за мяжою апынуўся.

А Якім кінуўся дзяцей ды жонку шукаць. Знайшоў і прывёў назад у панскі палац. Сам жа сеў на каня і паехаў далей. Паехаў знішчаць, з палацаў выганяць усіх паноўкрывасмокаў.

Ды не аб'ехаў усіх маёнткаў Якім з чырвоным войскам. Падламалі паны крылы Якіму, моцна паранілі яснага сокала... Перад смерцю яшчэ дамоў прыехаў ды тут і сканаў пры дзецях, пры жонцы. Толькі сказаў, канаючы, малым сынам: «Я не ўсіх паноў пазнішчаў. Я змарыўся... Расціце, сыны мае, вялікімі і дужымі ды ідзіце далей маім следам».

Сказаў так чырвоны воін Якім і рукі згарнуў...

Маці змоўкла. Адвярнуўшыся, выцерла ражком хусткі вочы.

Сыны нейкі час сядзелі ціха, углядаючыся ў зыркае полымя смольных карчоў, потым старэйшы, Алесь, сказаў задуменна:

— Дык і наш жа тата гэтаксама прыехаў з вайны паранены і памёр дома... Я ж помню тату, як цяпер, з гэтае казкі...

— І я помню! — сказаў сярэдні сын Пятрусь.

— І я помню! — сказаў самы малодшы сын Кастусь.

Маці паглядзела на сыноў чыстымі ад слёз, спакойнымі вачыма.

— Але, дзеткі,— цвёрда сказала яна,— быў гэткім і ваш бацька.

Вочы ў сыноў заблішчалі, сэрцы захваляваліся. Кожнаму хацелася адказаць на бацькаў запавет:

— Мы, бацька, пойдзем тваім следам, мы закончым тваю справу!

Але і без гэтых слоў матцы былі зразумелымі ясныя мыслі сыноў чырвонага воіна Якіма.

*1925 г.*

# САНЬКА

На нізкі стол, засланы белай настольніцай, падае цьмянае асенняе святло. Павыбіваныя ў акенцах шыбіны пазатыканы пакуллем і анучамі. Уцалелі толькі дзве шыбіны; яны і асвятляюць сяк-так гэтую ўбогую хацінку.

За сталом сядзіць шчуплы, бледны хлапчук гадоў трынаццаці. Перад ім пляшачка з чарнілам і лісток паперы ў клетку, відаць, вырваны з школьнага сшытка.

З цікавасцю і нават зайздрасцю ў шэрых вачах ён глядзіць на дзяцей, якія з шумам возяць па хаце сваю самаробную калясачку. Гліняная падлога няроўная, з выбітымі ямамі, і калясачка грукоча, як сапраўдны воз на камяністай грэблі.

Але хлапчук заняты важнай справай: падняўшы ўверх ручку з пяром, ён чакае дыктоўкі.

Дыктуе яму цётка Палашка.

— Пішы, Санька, пішы, каток...— кажа яна, а далей і не ведае, якое яшчэ слова падабраць.

Палашку цяжка слухаць. За кожным словам яна божкае і выцірае ражком хусткі вочы. Санька ведае, што гэтае божканне і слёзы нічога ёй не дапамогуць,— іх нават у лісток не ўпішаш, бо пісаць трэба толькі тое, што цётка Палашка выказвае словамі, а не слязьмі. І яму хочацца хутчэй скончыць гэтае невясёлае пісьмо.

Але цётка Палашка вельмі ж доўга божкае, пакуль скажа новае слова. І ўсе яе словы пра адно і тое ж: збожжа свайго нажала мала; дроў ні палена, і каня няма, каб прывезці; дзеці босыя; сама хворая...

Праўда, Санька не першы раз піша такія пісьмы.

Чацвёрты год як ідзе вайна. Ракрутак [1] у вёсцы шмат. А грамацеяў, як кажуць, са свечкай не знойдзеш. Калі хто і ходзіць у школу, дык найбольш год ці два, а з такой граматай людскае пісьмо не вельмі і напішаш.

На грамату Саньку пашанцавала. Яго бацька бабыль [2]. Жыве з мазаля. Зімою калоды возіць, а ўлетку ў маёнтак

[1] Ракрутка — жанчына, муж якой служыў салдатам у царскай арміі.

[2] Бабыль — беззямельны селянін.

да пана Карпінскага ходзіць залатоўкі на хлеб зарабляць. І вечна зайздросціць ён пісьменным, бо ў яго рабоце вельмі ж часта патрэбна грамата. Таму ён і наважыў хоць з апошняга, а вучыць сына. «Няхай не наракае потым на бацьку»,— з гонарам кажа ён жонцы. Да таго ж часта цешыцца ён, гледзячы, як шыбка і зграбна піша яго сын і як бойка ён чытае. А сам употайкі нават аб большым думае: аддаць Саньку, як падрасце, валасному пісару ў памочнікі. Смелая гэта мара для яго, але ж няхай пісар паспрабуе знайсці сабе лепшага памочніка! Бацька цвёрда верыць у Санькаў пісарскі талент, і гэтая вера грэе яго худыя косці: «Не будзе тады гэтак гараваць, як бацька»,— думае ён.

Нарэшце такі Санька спісаў усе Палашчыны жальбы і скаргі на горкую долю. У канцы ўжо сам, без дыктоўкі, ён яшчэ раз перапісвае нізкія паклоны і пажаданні салдату Якубу добрага здароўя і шчасця.

Застаецца змайстраваць канверт. Санька пачынае выразаць яго з лістка чыстай паперы, а цётку Палашку просіць прынесці трошкі мукі, каб зрабіць клей. Мукі ў цёткі няма, і яна, выцершы сплаканыя вочы, збіраецца ісці пазычаць у суседзяў.

Але ў дзвярах цётка раптам спыняецца: у хату заходзіць высокі барадаты чалавек у шынялі, з бляшанай салдацкай цэшкай на шапцы, з паходным мяшком за плячыма.

— Якубка! — з крыкам кідаецца да яго цётка Палашка.

Дзеці перастаюць гуляць. Нясмела, спадылба разглядаюць незнаёмага салдата. Якубам завецца іх бацька. І ён у салдатах. Гэта ведае не толькі старэйшая шасцігадовая Волька, а і чатырохгадовы Міколка. Але — хіба ж то ён?

Нарэшце салдат здымае мяшок і пачынае абнімаць дзяцей.

— Павырасталі без мяне! — дзівіцца ён, а вочы яго блішчаць ад слёз.— А гэта чый? — паказвае ён на Саньку.

— Міронаў,— адказвае шчаслівая Палашка, хоць яна ўсё роўна і цяпер выцірае вочы ражком хусткі.— Ён жа табе ўсе пісьмы пісаў. І сёння вунь напісалі. А ты неўспадзеўкі сам прыйшоў...

— Дзякуй, сынку,— вітаецца салдат з Санькам за руку.

На Санькавым твары цвіце вясёлая ўсмешка. Ён рад і

ад салдатавай падзякі, і ад шчасця, якое раптам наведала гэтую сям'ю.

Тым часам услед за Якубам пачынаюць заходзіць суседзі і ўсе, хто ўжо даведаўся аб яго звароце. Кожнаму хочацца пабачыць і паслухаць чалавека з вайны. І ўсіх цікавіць адно:

— Што на свеце чуваць? Ці скора вайне канец? Калі зямлю панскую дзяліць будуць?

— А я спяшаўся: думаў, падзялілі ўжо,— сур'ёзна кажа Якуб.— Што ж вы думаеце — сам пан Карпінскі вам зямлю дзяліць будзе?

— Ды мы б ужо як-небудзь і без яго ласкі абышліся, але ж не даюць,— адказвае Санькаў бацька Мірон, набіваючы самасадам сваю люльку-самадзелку.

— Хто гэта павінен даваць?

— Уласць. Хто ж яшчэ?

— А якая ў вас уласць? — пытаецца салдат.

— Вядома якая: у нас — стараста Адам, а ў воласці — старшыня і яго благароддзе земскі начальнік. Усё як і пры цару было...

— Ну, гэтыя не дадуць,— згаджаецца салдат.

— Выходзіць, дарэмна рэвалюцыю рабілі. Нічога не змянілася: вайна ідзе, зямлі нам няма, а ў пана як было яе цераз горла, так і засталося,— разважае Мірон.

— І дакуль яно, суседзе, будзе так? Ты там мо чуў што наконт перамен? — цікавіцца Якубаў сусед, Юрка, нізенькі селянін, апрануты ў падраную фуфайку, з якой скрозь тарчыць вата.

Шчаслівая цётка Палашка тым часам падае на стол міску гарачай капусты.

— Паеш, Якубка, потым гаварыць будзеш,— ласкава запрашае яна.

Якуб сёрбае лыжак колькі капусты і зноў гаворыць:

— Чуў я шмат чаго, у салдатах будучы. Ёсць там людзі разумныя. Яны ведаюць, што на свеце робіцца і што нам рабіць трэба. Нават у газетах пра гэта пішуць. Я вось прывёз некалькі. Талкова пішуць.

— Што ж гэта за газеты? — цікавіцца Мірон.— Нам тут іншы раз стараста чытае, дык нешта не чуў я, каб пісалі што талковае.

— Дык гэта, відаць, Керанскага газеты,— здагадваецца Якуб, разгладжваючы ўскудлачаную ў дарозе бараду.— А ён за буржуяў стаіць.

— Ліха іх ведае чые, але вельмі ж ад іх Мікалашкам пахне.

Выняўшы з торбы скрутак газет, Якуб разгортвае іх і кажа з жалем:

— Вось толькі чытаю я не шыбка. Яшчэ сам сабе якнебудзь расслібізую...

— То, можа, дай Саньку,— раіць Юрка.— Ён тут у нас, брат, цяпер першы грамацей. Такія пісьмы ракруткам шпарыць, што і пісар не дакажа.

Санька чырванее ад пахвалы, а бацька задаволена ўсміхаецца ў свае вусы.

— Маладзец! — скупа хваліць Якуб.— На, брат! Вось тут, у пачатку гэтай, пачытай. Садзіся сюды.

Ён адсоўваецца далей у кут і дае Саньку месца побач, ля дзвюх светлых шыбінак.

Санька бярэ газету і пачынае чытаць артыкул, паказаны дзядзькам Якубам. У артыкуле пішацца аб тым, што трэба неадкладна спыніць вайну, якая карысна толькі буржуям, трэба адабраць зямлю ў памешчыкаў і перадаць усю ўладу Саветам рабочых і салдацкіх дэпутатаў.

Усе ўважліва слухаюць простыя і ясныя словы, стараючыся нават не дыхаць моцна.

— Ну, гэта нехта з нашых напісаў,— выціраючы спацелы лоб, кажа ўсхваляваны пачутым Мірон, калі Санька скончыў чытанне.

— Бальшавікі напісалі,— тлумачыць Якуб.— Я, на вайне будучы, нямала бачыў і чуў іх. Сапраўды, як сказаў Мірон, гэта нашы людзі. За нас стаяць. Яны праўду кажуць: зямлю і ўладу нам трэба самім браць у свае рукі. Гэтак ужо шмат дзе і робяць. Я так думаю: чакаць больш не будзем? Склічам сход і прызначым сваю Савецкую ўладу, як бальшавікі раяць. І маёнтак пара забіраць...

* * *

Асенняя раніца.

У паветры яшчэ вісіць дробны шэры туман. І яшчэ нельга сказаць, што выйдзе з гэтага туману: сонца ці хмары. Але на вуліцы сёння робіцца нешта незвычайнае: грукочуць калёсы, гамоняць людзі... Усе едуць і ідуць некуды за вёску.

Па вуліцы бегае стараста Адам, тоўсты, каржакаваты мужык з залатою завушніцаю ў правым вуху; ён, як ачмурэлы, размахвае рукамі і лямантуе, спыняючы людзей:

— Апамятайцеся!.. Што робіце?.. Земскі забараніў самаўпраўствам займацца!..

— Што нам твой земскі! У нас цяпер свая ўласць! — адказваюць яму мужчыны.

Стараста лыпае вачыма і яшчэ горш гарэзіцца:

— Не прызнаю вашай уласці!

Раптам двое мужчын саскокваюць з вазоў, падыходзяць да старасты, знянацку хапаюць яго і, разгойдаўшы, кідаюць цераз плот у крапіву.

— Там брашы! — са злосцю кажуць яны і зноў спакойна варочаюцца да сваіх вазоў.

Дзядзька Якуб па дарозе заходзіць да Мірона. Санька з бацькам у гэты час падмазваюць колы.

— Познішся, сакратар,— усміхаецца дзядзька Якуб.

— Зараз,— адказвае за Саньку бацька.— Пачакай, паедзем разам.

З учарашняга дня дзядзька Якуб — старшыня, а Санька — сакратар новай улады: сельскага Савета. Саньку дзіўна без прывычкі чуць гэтае слова — сакратар. Але так парашыў сход. «А што Санька малаваты — не бяда,— сказаў дзядзька Якуб.— Затое ніхто з нас так не напіша, як Санька». Усе з гэтым згадзіліся.

— Вазьмі, сакратар, свае прылады, прыйдзецца запісаць, што каму раздамо, каб усё па закону было,— раіць старшыня.

— Добра,— кажа Санька і, выціраючы рукавом нос, бяжыць у хату.

Неўзабаве яны далучаюцца да людзей і едуць у маёнтак.

...На дзядзінцы маёнтка пана Карпінскага народу, як на кірмашы ў святочны дзень.

Шум, гоман...

На адным возе стаіць панскі аграном Янушэўскі. На ім чорнае, да каленяў, паліто, лакіраваныя боты і сіняя шапка з вялікім лакіраваным брылем. Шырокі твар яго блішчыць ад чырвані. І наогул здалёк здаецца, што ён не сапраўдны жывы чалавек, а намаляваны рознымі фарбамі партрэт. То здымаючы, то надзяваючы пенснэ, ён нешта даводзіць сялянам, якія пазбіраліся каля яго.

Якуб саскоквае з воза і ідзе да агранома. «Чаго ён там балакае?» — думае старшыня.

— Вы не глядзіце, што я служу ў пана. Я — сацыяліст-

рэвалюцыянер,— б'е сябе ў грудзі аграном.— Я спачуваю бедным...

— Гэта добра,— перапыняе яго Якуб.— Нам такія людзі надта патрэбны. Давай злазь з воза і дапамагай народу дзяліць маёнтак.

Янушэўскі раптам змаўкае, здзіўлена глядзіць на салдата Якуба. Потым пачынае чмыхаць носам і падкручваць свае вострыя тонкія вусы.

— Колькі ў маёнтку кароў? — пытаецца Якуб, падступаючыся бліжэй да агранома.

— Навошта гэта табе ведаць? — мармыча аграном, збіты з панталыку.

— Магу сказаць, раз ты сацыяліст ды яшчэ і рэвалюцыянер: у нас пяцьдзесят бескароўных. Ды парабкаў у маёнтку трыццаць. Таксама без кароў галеюць. Ці хопіць усім па карове?

Янушэўскі шустра саскоквае з воза.

— Дык гэта ж не законна!.. Часовы ўрад не дазваляе рабіць гэтага...— з аглядкаю падступаецца ён да смелага салдата.

— А мы дазваляем! — перапыняе яго Якуб.

— Хто гэта — вы? — зняўшы пенснэ, пагардліва разглядае Янушэўскі салдата ў старым выцертым шынялі.

— Бальшавікі! Вось хто.

— Мы... мы не згодны з імі!..

— А мы згодны! — чуюцца вакол галасы.— Гані яго, хлопцы, адсюль!

Янушэўскі жвава праціскаецца наперад і, не азіраючыся, спяшаецца да панскага дома.

За ім наўздагон сыплюцца моцныя слоўцы, смех.

— Падліза панскі!..— смяецца Якуб.— Чуў я такіх «сацыялістаў». Ваўкі ў авечай шкуры. Пан сам не асмеліцца сюды выйсці, дык свайго сацыяліста падаслаў...

— Пан збег ужо некуды,— чуюцца галасы.

— І ліха з ім! Вінцэсь! — гукнуў Якуб старога парабка.— Ты, мусіць, не горш за сацыяліста панскага ўсё тут ведаеш.

— Дзіва што,— адзываецца Вінцэсь.— За сорак гадоў парабкоўства каб не ведаць.

— Давай, брат, будзем канчаць з тваім парабкоўствам. Хадзем разбураць гэтае асінае гняздо!..

— Хадзем! — загаманілі вакол, і ўсе рушылі за парабкам і Якубам.

* * *

У вёсцы трывога: прыехаў земскі з казакамі... Праўда, спыніліся яны ў старасты. Але ўсе ўжо здагадваюцца, па якой справе. Так сабе, без дай прычыны, казакі не паедуць.

Неўзабаве прывялі сюды Якуба.

Земскі хмурыць густыя белыя бровы, як індык, выцягвае доўгую шыю і нейкі час з цікавасцю разглядае высокага барадатага салдата.

— Ты па якому праву дазволіў маёнтак раздаваць? — тупнуў ён нагою.

— Па нашаму, савецкаму,— коратка адказвае Якуб.

У земскага торгаюцца бровы, ён хапаецца рукою за свой «селядзец» [1].

— Законнай улады не прызнаеш! Загадай сваім мужыкам, каб зараз жа ўсё было вернута ў маёнтак.

— Не магу,— адказвае Якуб.— Такой улады я не маю без рашэння агульнага сходу.

— Я пакажу табе ўладу! Забраць у халодную! Стараста, бяры казакаў, і каб мне ўсё было знойдзена і вернута!

Стараста хапаецца за галаву.

— Ваша благароддзе...— заенчыў ён, але, успомніўшы, што цяпер гэтае старое, царскае, велічанне не ў модзе, паправіўся: — Пане земскі, я ж нічога не ведаю, што ў каго, а сам жа ніхто не прызнаецца: скажа — не быў, не бачыў.

— Рабіць вобыск!

— Нічога не будзе. Пакуль вы тут гаворыце, яны ўсё пахавалі. Я іх ведаю...

— Біць розгамі — прызнаюцца...

— Не,— зноў круціць галавою стараста.— Не выб'еш. Гэта народ такі. Я іх ведаю. Вот хіба адбярыце ў яго,— паказвае ён на Якуба,— спісы. У яго запісана, што каму даў...

Земскі весялее і ахвотна хапаецца за такую параду.

— Дзе спісы? — пытаецца ён у Якуба.

Якуб разводзіць рукамі:

— Няма...

— Лжэш! — падскоквае да яго стараста.— Думаеш, калі я там не быў, дык і не ведаю. Усё ведаю!

— Спаліў я іх...

---

[1] «Селядзец» — шабля.

— Лжэш! — зноў перапыняе яго стараста.— Пане земскі, дазвольце зрабіць вобыск у яго.

Земскі згаджаецца. Два казакі з шабляй нагала і стараста вядуць Якуба дахаты на вобыск.

Па вуліцы насустрач бяжыць Санька. Якуб ведае, што спісы ў Санькі. «Як жа яго папярэдзіць?» — думае ён.

— Ты куды, Санька? — гукае Якуб.

— Дадому...

— А да мяне вот ідуць спішы шукаць, якія я спаліў... Ну, бяжы, бяжы...

«Зразумее ці не?» — хвалюецца Якуб, ідучы пад канвоем дахаты.

Ніякіх спісаў у Якуба, вядома, не знайшлі. Але тут стараста ўспомніў Саньку.

— Напэўна, у сакратара...— робіць ён здагадку.

Але і ў Санькі спісаў не знаходзяць.

* * *

З таго часу Якуб з Санькам сядзяць у халоднай. Халодная — гэта звычайны драўляны будынак з кратамі ў вокнах. Людзей тут — не павярнуцца. Замест нар — на падлозе салома. Людзі ходзяць па гэтай саломе, сядзяць на ёй, спяць... Яна збіта і змята на пацяруху.

За кратамі хмурае асенняе неба. Цэлымі днямі імжыць дождж. Часамі ён разыходзіцца і доўга, як гарохам, барабаніць у малюсенькія шыбіны.

Такімі ж пахмурымі здаюцца і людзі. Яны мала гавораць. Больш маўчаць, аб нечым думаюць.

У дзядзькі Якуба тут шмат знаёмых. Ён падсаджваецца да іх і заводзіць гаворку. Санька чутка прыслухоўваецца да гутаркі і даведваецца шмат чаго цікавага: што робіцца ў другіх вёсках, за што людзі сядзяць у халоднай. Адзін старасту пабіў, другі перад усім народам валаснога старшыню абразіў, трэці ў панскім лесе дрэва ссек... А ёсць і такія, як дзядзька Якуб. Ён заве іх бальшавікамі. Аднойчы нават на Саньку сказаў: «Ты, брат, у мяне бальшавік. А бальшавікі народ упарты. Дваццаць гадоў з царом ваявалі, а свайго дабіліся. І мы, брат, з табою свайго даб'ёмся. Быць не можа!»

Часта арыштаваных выклікаюць на допыт. Тое ж робяць з Якубам і Санькам. Санька пакуль што прызнаўся

толькі дзядзьку Якубу: спісы ён закапаў на прызбе ў пясок.

— Добра,— сказаў на гэта Якуб.— Толькі я памыліўся: думаў — спаліш...

— Не адважыўся без вашага дазволу,— шчыра прызнаўся Санька.

Якубу падабаецца Санька: кемлівы хлопец, хоць і ціхі. Вучыць бы трэба яго далей. Мог бы вялікім грамацеем стаць. «Трэба сказаць пра гэта Міроноу»,— думае ён.

На допыце звычайна пускаюць у ход усё: і ўгаворы, і грозьбы, і бізуны. Горш за ўсё бізуны. Ад іх доўга гарыць скура. Але Санька нават не плача, як ні балюча яму. Ён толькі мацней сціскае зубы і часам стогне.

Аднойчы ў час допыту ўвайшоў пан Карпінскі.

— Скажы, дзе спісы, і я дам за гэта твайму бацьку каштанавага жарабца і дзесяць асмін жыта,— лісліва загаварыў ён да змучанага Санькі.

Санька глянуў на яго коса і адвярнуўся. Пасля таго, як прыйшоў з вайны дзядзька Якуб, Санька зусім іншымі вачыма пачаў глядзець і на пана, і на яго жарабцоў. Праўда, ён і дагэтуль ведаў шмат цікавых рэчаў: пра вайну, пра Мікалашку, якога скінулі напрадвесні, пра Керанскага і яго маркі, якія нічога не варты — іх рэжуць аршынамі і даюць за пачак запалак. Але толькі цяпер ён разабраўся па-сапраўднаму, што робіцца на свеце: чаму ідзе вайна, чаму пан багаты, а яго бацька бедны. У газетах, якія прынёс дзядзька Якуб, ён вычытаў, што буржуі і паны — павукі, крывасмокі. Такім ён цяпер уяўляў і пана Карпінскага. Ён і сапраўды на павука падобны: нізкі, з таўшчэзным жыватом з добрыя ночвы. Санька ведае, што жарабцоў пан не гадаваў і не гадуе. Гадуюць за яго парабкі і яго бацька, які ўлетку косіць для іх сена ў маёнтку. І ніколі ён не бачыў пана за плугам ці за бараною.

Пан не траціць надзеі на багатыя посулы і зноў паўтарае сваю прапанову. Саньку разбірае злосць, і ён, нарэшце, адказвае рашуча:

— Мы і так возьмем тваіх жарабцоў!

Пан разяўляе рот і ледзь не валіцца з крэсла ад такіх слоў малога хлапчука.

Дзёрзкі Санькаў адказ каштуе яму лішніх бізуноў...

* * *

Саньку разбудзіў моцны шум і крыкі. Працёршы вочы, ён убачыў, што ўсе стоўпіліся ля дзвярэй. Знадворку нехта моцна грукае ў дзверы. Праз хвіліну дзверы падаюць.

— Рэвалюцыя! Бі буржуяў! — чуюцца крыкі з двара.

На вуліцы бегаюць людзі, абнімаюцца, махаюць рукамі, крычаць: «Ура! Ура!»

Якуб спыняе аднаго знаёмага рабочага з лесапільні.

— Што здарылася, Сцяпан?

— Рэвалюцыя ў Петраградзе,— адказвае ён на хаду.— Керанскі ўцёк. Улада цяпер наша, Савецкая!

— Чакай, братка, раскажы,— даганяе яго Якуб, усё яшчэ не верачы пачутаму.

— Спяшаюся,— махае рукою Сцяпан.— Ля Савета дэманстрацыя збіраецца. Прыходзь, там пачуеш.

Якуб спыняецца ў роздуме.

— Не, Санька,— кажа ён,— давай лепш дадому. Нашы ж, мусіць, нічога пра такую радасць не ведаюць. Значыць, цяпер пану Карпінскаму больш не панаваць!

Такі першы практычны вывад робіць ён з пачутай навіны. І яны хутчэй спяшаюцца дадому. Пад нагамі шамаціць пясок, крануты першымі замаразкамі. І хоць нізкае асенняе сонца грэе слаба, але вакол светла і радасна. Лёгка нясуць ногі дзядзьку Якуба. Санька нават подбегам не спраўляецца. Яму робіцца цёпла, і неўзабаве ён расшпільвае сваю саматканую світку. Шчокі яго палаюць лёгкім румянцам. Сённяшні дзень здаецца яму весялейшым за ўсе вёсны, пражытыя ім.

Якуб таксама перажывае вялікую радасць. Усю дарогу ён адбівае ваенны шаг, размахвае рукамі і напявае сам сабе:

Отречемся от старого мира,
Отряхнем его прах с наших ног!
Нам не надо златого кумира,
Ненавистен нам царский чертог...

— Падцягвай, Санька,— часам скажа ён, агляну ўшыся, і зноў бадзёра шагае далей.

Санька гэтую песню ўпершыню пачуў у халоднай. Ён яе нават паспеў добра вывучыць. Але падцягваць сароміцца, бо вельмі ж у яго тонкі голас супраць баса дзядзькі Якуба. Ён разумее, што нічога з такой дапамогі не выйдзе. Ды, урэшце, яму і так весела.

Недалёка ад маёнтка Якуб раптам спыняецца: насустрач едзе пан у брычцы. На кучарскай лаўцы сядзіць панскі аграном.

— Ці не гэтага жарабца пан аддаваў табе за спісы? — весела падміргвае дзядзька Якуб Саньку.— Ну, цяпер можна мяняцца. Згодзен?

Санька смяецца.

— Стой! — спыняе Якуб брычку, ухапіўшы жарабца за вуздэчку.

Пан спалохана выглядае з-за аграномавых плячэй.

— Што табе трэба? — пытаецца ён, заікаючыся.

— Ды вось сакратар наш перадумаў: згодзен мяняць спісы на жарабца...

Якуб гаворыць так, а сам тут жа распускае супоню і знімае дугу.

— Трымай свайго жарабца, Санька,— вокам не міргнуўшы, кажа ён, а потым з дугой у руках падыходзіць да пана:

— Ну, як: згодзен на мену?

Пан маўчыць, злосна нахмурыўшыся, а панскі «сацыяліст» тым часам порстка саскаквае з брычкі і дае драла ў поле.

— Ну добра,— спакойна разважае Якуб,— так і быць, мы не пашкадуем свайго жарабца завезці цябе, пане Карпінскі, у халодную. Балазе, месца там цяпер вольнае.

І зноў напяваючы сваю песню, ён пачынае запрагаць жарабца ў брычку.

*1947 г.*

# ЮЗІК

(Расказ партызана)

Наш невялічкі атрад толькі што сабраўся быў снедаць, як раптам недалёка ад нас нешта моцна хруснула, заварушыўся гушчар, і ўслед за гэтым з кустоў паказалася галава хлапчука-падлетка.

Мы ўсе, без каманды, хапіліся за зброю. Адцэджаная бульба дымілася каля вогнішча прыемнай парай. Але не да яе было. У мяне адразу чамусьці мільганула думка: хлапчук — праваднік; ён прывёў белых; значыць, мы акружаны...

Гэтыя западозранні падмацаваліся ўслед яшчэ і тым, што хлапчук, паказаўшы з кустоў галаву, раптам знік. Кусты запасталі, і ўсё сціхла.

Перапалоханы, я глянуў на таварышаў; яны — на мяне. Стаім і не ведаем, што рабіць: кінуцца наперад за хлапчуком ці назад адыходзіць?

Я быў за старшага ў атрадзе, і, вядома, усе чакалі маёй каманды. Успомніўшы гэта, я загадаў паціху:

— Вогнішча загасіць. Усім схавацца і чакаць,— а сам, туляючыся між дрэў, падаўся да кустоў.

Падышоў, гляджу — стаіць той хлапчук і цікуе ў наш бок. Мяне ён, мусіць, і не заўважыў: я ішоў вельмі асцярожна. А потым я ледзь не закрычаў на ўвесь лес. Але замест гэтага радаснага крыку толькі праказаў:

— Бадай цябе, ажно настрашыў нас. Хадзі сюды!

Пачуўшы мой голас, хлапчук павесялеў, падаўся да мяне. Ды чамусьці неахвотна: утаропіўся, глядзіць здзіўлена на маю рыжую, густую і даўгую бараду. Я здагадаўся, у чым справа: ну, вядома, з такой барадой ён мяне яшчэ не бачыў! І мне смешна стала. Хацелася нават спачатку пастрашыць хлапца, змяніць голас, ды перадумаў: напалохаецца, думаю, пусціцца наўцёкі, тады даганяй.

— Ты што, Юзік, не пазнаеш? — загаварыў я звычайным голасам.

Бачу, мой Юзік адразу змяніўся ў твары: павесялеў. Але ўсё яшчэ дзівіцца на маю бараду. А барада ў мяне сапраўды страшная вырасла: раней я сам сябе пужаўся,

калі часамі заглядваў у ваду замест люстэрка. Потым прывык.

— Ой, дядзька Мацей, далібог, не пазнаў вас! Як загаварылі — голас знаёмы, а твар зусім не,— падышоў да мяне Юзік.

Гэта быў мой добры знаёмы, сын аднавяскоўца Мірона. Мірон наш чалавек. Я нават чакаў з дня на дзень яго ў сваім атрадзе. Дзён два таму я з ім бачыўся, і Мірон гаварыў, што ўжо ўсё бадай гатова: чакай, кажа, прыйду, і не адзін. І вось зараз замест Мірона перада мною яго сын.

— Ну, здароў, Юзік,— падаў я яму руку.— Як жа гэта ты сюды трапіў?

Юзік, пэўна ж, сваім адумам не мог трапіць да нас, і яго прыход мяне дзівіў і цікавіў.

Пасля майго запытання Юзік адразу спахмурнеў, на вачах я заўважыў слёзы.

Таварышы, калі ўбачылі, што я размаўляю з хлапчуком, падбеглі таксама.

— Дык вось хто тут нас пужае! — загаманіў, рагочучы, Адам, які таксама быў з аднае з намі вёскі і цяпер пазнаў Юзіка.— А мы ўжо думалі, ты цэлы полк паноў за сабою прывёў.

Нас акружылі партызаны. Пасыпаліся жарты, смех. Але бачу па хлопцу — не да жартаў тут: нешта, мабыць, сур'ёзнае, здагадваюся. Я сцішаю сваіх хлопцаў і пытаю ў Юзіка:

— Бацька, мусіць, прыслаў?

— Ага,— матнуў ён галавою.

— Ну, ну? — не цярпіцца мне.

— Белапалякі ў нас... Усё забіраюць...— пачаў ён расказваць.— І вашага,— глянуў на мяне,— каня забралі... і ўсё трасуць — куфры, свірны, лепшае што — грузяць на вазы...

— Вось, гады, да рэшты азвярэлі,— гнеўна бліснуў вачыма Адам, які толькі што быў развесяліўся.

— Так, так... а што ж бацька табе сказаў? За чым выправіў?

— Бацька хацеў не даць цялушкі, але яму паляк як стукнуў вінтоўкай па галаве...— хлапец на хвіліну змоўк. Потым зноў загаварыў: — Ён сказаў мне бегчы да вас сюды і перадаць: можа, вы падскочыце ратаваць?

Гэтая сумная вестка ўсхвалявала ўсіх нас. За каня свайго я менш за ўсё турбаваўся. Але — жонка там, дзеці...

Я ж добра ведаў норавы панскіх бандытаў. Ды і ўсю вёску спустошаць. А ў той год людзі і так ледзьве ногі цягалі: збожжа ды жывёлу белыя ўжо да гэтага выбралі. Цяпер, значыць, грабяць апошняе, людзей з торбамі па свеце пусцяць. Ды, чаго добрага, пасля грабяжу могуць і вёску падпаліць. Бандытам што — людзей шкада? На тое яны і бандыты.

Калі я падумаў так, у мяне аж сэрца закалацілася.

— А колькі іх, Юзічак? — пытаюся я ў хлапца.

— Тата казаў: дзесяць чалавек.

— Дзесяць чалавек!

Я акінуў вокам сваіх сяброў. Яны зразумелі мяне.

— Хадзем, хлопцы!

Да вёскі вырашылі прабірацца балотам: якраз у адным месцы кусты падыходзілі да самых агародаў; гэтую дарогу мы і выбралі.

* * *

Раніца ўдалася свежая, росная; над балотам яшчэ дыміўся туман: выпарвалася раса. Мы ішлі подбегам. І так мы за дарогу разгарачыліся, так накіпела злосць, што ўсе з нецярплівасцю чакалі хутчэйшай сустрэчы: на сілу сваю, што і казаць — спадзяваліся цвёрда: апрача нашай гарачай злосці мы мелі наганы, вінтоўкі і немалы запас патронаў. Але наш атрад толькі нядаўна арганізаваўся, і дагэтуль у адкрыты бой з белымі мы не хадзілі. Практыкі такой не мелі.

Вось гэта нам і пашкодзіла. Кажучы, мы проста без усякай разведкі кінуліся з кустоў у вёску: мы верылі тым весткам, якія прынёс нам пасланец Юзік. Ён бег разам з намі, не адступаючы ні на шаг.

Толькі гэта, прыгнуўшыся, дабеглі мы да агародаў, як над галовамі празвінелі кулі, і мы пачулі: «Стой, пся крэў!»

— Лажыся! — скамандаваў я.

Пападалі мы ў разоры капусты, нацэліліся ў бок страляўшых, і... у гэты час з усіх бакоў пасыпаліся на нас белапалякі! Я зусім ашаламіўся: што ж гэта? Знарок падстроена? Тады як жа так? Каб хто другі, а не Мірон,— няўжо ён? Я глянуў на хлапчука: збялеўшы, як кужаль, ён таксама ляжаў поплеч з намі ў капуснай разоры. Не! Не можа быць! — пакаяўся я за свае думкі. Тады — што ж іншае?

— Назад! — даю я каманду, падымаюся і бягу да кустоў. Ногі самі нясуць мяне. За мной і ўсе таварышы.

А тут ззаду і з бакоў крыкі, трэск ад стрэлаў, свіст куляў...

І як толькі даскочыў я да кустоў, агляну́ўся назад. Бачу — і таварышы ўжо тут. Толькі Юзіка не заўважыў... А ў канцы агародаў, з аднаго боку і з другога, белыя. За імі — з-пад будынкаў і яшчэ бягуць. Што ж рабіць? Уцякаць далей — дагоняць, думаю. Апрача таго, кусты невялікія, за імі — прагалак балота. Выскачым на прагалак — нам і канцы: тут удалося, а там пэўная смерць. І вось у такі момант патрэбна выбіраць рашэнне. Усё гэта, канешне, рабілася і думалася куды хутчэй, чым я вам расказваю.

— Агонь па ворагу! — камандую я, яшчэ зусім не ведаючы, якое выбраць рашэнне.— Па правай групе! — дапаўняю сваю каманду.

Смальнулі мы ўсе па правай — спыніліся, заляглі белыя. Левая ж група яшчэ ляціць напралом — вось-вось да кустоў дарвецца.

— Па левай! — крычу.

Стукнулі па левай — чалавек колькі ногі задралі, астатнія таксама спыніліся, прызямліліся, што называецца. Смаляць па нас лежачы. Толькі лісце сячэцца ад куляў. Чую, хтосьці войкнуў ззаду. Ну, ды не да гэтага было: не аглядваюся.

Ад першых поспехаў мы нават павесялелі крыху. Перадавую лінію прымусілі легчы. А цяпер хоць падумаць можна — што далей. Бачым — заднія таксама астылі. Чалавек пяць бяжыць, а раней мне здалося — іх цэлая рота. Ды ўсё ж рана яшчэ спадзявацца на што-небудзь: сілы нашы няроўныя. Варта прарвацца іхнім чалавекам тром у наш тыл — а гэта не так і цяжка,— як мы адразу страцім сваю перавагу.

Страляючы, я думаў: што ж далей? І нічога не мог прыдумаць.

Але, як часта бывае ў такіх выпадках,— самы просты і разумны выхад з галавы вылятае. А такі выхад яшчэ — пакуль не позна — быў, хоць не для ўсіх: аднаму застацца тут, падтрымліваць перастрэлку, рэшта тады можа лёгка выратавацца: цішком праз кусты на балота, а там і ў лес. Праўда, той, хто застанецца,— застанецца назаўсёды... І тут зноў задача: выбіраць па згодзе? Але ж у нас лічаныя секунды. Я толькі цяпер заўважаю з боку ад сябе

Адама, які курчыцца ў кусце: значыць, гэта яго не мінула куля... І тут жа вырашаю: застаюся сам...

— Хлопцы,— шапчу я, улучыўшы перапынак у перастрэлцы,— давай назад!

Глядзяць хлопцы на мяне шырока раскрытымі вачыма і — ні з месца. Я здагадваюся: канечне, я нікому не перадаваў сваіх думак, але ж таварышы таксама думалі. А калі думалі — значыць, кожнаму з іх ясна, што такі загад — смерць: шчаслівы выпадак можа выратаваць, і то не ўсіх.

— Давай назад,— паўтараю я.— Тут застаюся я сам...

Не бягуць! Пераглядваюцца сумнымі вачыма адзін з другім, страляюць.

Бачу — падступаецца да мяне самы наш маладзейшы партызан Васіль. Махае левай рукой назад ад мяне: «Бяжы, дзядзька Мацей,— у цябе дзеці, жонка... ратуйся... я застаюся...»

Як жа так? І жаль мяне ахапіў на момант, і невыказная павага да таварышавага геройства. Ляжу і сам не ведаю, што рабіць. Два чалавекі загаварылі ва мне: адзін — бяжы, другі — не: такі таварыш даражэй жыцця, і ты яго пакідаеш. Не ведаю, які б перамог, каб раптам не пачулася з-пад вёскі:

— Урр-р-р-ра-а!

Здавалася, цэлы полк грымнуў там.

Бачу — ляцяць са стрэльбамі ў руках нашы вяскоўцы, чалавек дзесяць. За імі — яшчэ. А праз хвіліну якую — агарод застракаціўся ад людзей.

Бліжэйшыя да іх белыя паўсхопліваліся з узнятымі ўгору рукамі.

— Ур-ра! — рынуліся мы з кустоў насустрач.

І на агародах, як тычкі-пудзілы, выраслі перад намі белыя. Рукі ўгору: «Пан, я ваш!»

Сабралі мы гэтых паноў, сагналі ў адно месца, варту прыставілі. Аказалася іх не так і мала: аж дваццаць чалавек, ды параненых засталося на агародах некалькі.

Падыходзіць да мяне Мірон, з перавязанаю галавой, з вінтоўкай у руках. Я аб усім цяпер здагадаўся: ну, канечне, ён выратаваў! Тут жа пры ўсіх мы шчыра паціснулі адзін аднаму рукі. Вакол шум, радасць, гоман. Бачу — здалёк жонка бяжыць, дзеці.

— Як жа гэта табе ўдалося,— кажу,— сабраць гэтулькі людзей?

Мірон усміхаецца:

— Яны, паны, дапамаглі: падчыстую грабіць сталі, а акажыся, дык вось як адказвалі,— паказаў ён на перавязаную галаву.

— А чаму ж,— пытаюся,— ты падвёў так нас: перадаў, што дзесяць, а тут вунь колькі?

— Тады і было не больш, потым яшчэ пад'ехалі. Тут, брат, я не вінаваты,— усміхнуўся ён.

Мірон расказвае мне так і раптам, нібы штосьці ўспомніўшы, пачаў шукаць вачыма навакол.

— А дзе ж мой Юзік?

Я паціскаю плячыма. Мірон бялее ад гэтага.

— Ды тут дзе-небудзь,— махнуў я рукою на агароды.— У разоры мы разам ляжалі.

— А потым? — насядае на мяне Мірон.

— А потым,— кажу,— я нічога, апрача белых, не бачыў.

— Дзе — у якой разоры? — Мірон пацягнуў мяне за світку.

— У Цімохавай капусце, здаецца...

Мы адарваліся ад людзей і пабеглі. За намі яшчэ некалькі чалавек — мужчын, дзяцей, жанчын. Прыбеглі ў капусту. Бачым — так, ляжыць тварам уніз. Толькі не ў тым месцы, дзе мы спачатку заляглі, а з другога канца грады...

Глянуў я на Мірона: у яго твар проста скамянеў. Схапілі мы з ім моўчкі Юзіка, перавярнулі: сіні ўвесь, але не жоўты, як мярцвяк. І тут жа, на радасць нашу, павекі вачэй яго заварушыліся, сілячыся адплюшчыцца, губы таксама пачалі лавіць паветра...

— Жывы! — зарадаваўся бацька.

Я радаваўся не менш за яго. Мы тут жа скінулі з сябе світкі, асцярожна паклалі на іх нашага самага маладзейшага байца і гуртам панеслі ў хату.

*1935 г.*

# ГУЛ БУБНА

— Ото ж, жэўжык! I як гэта ў яго так спрытна выходзіць? — гаварыў сам з сабою дзед Цімох у варывеньцы, паварочваючы з боку на бок унукаў бубен.— Малы падшыванец, а бубен у яго як жывы шчабеча...

Дзед Цімох прысеў на калодку і нават стукнуў злёгку палачкай па бубне. Гул ціхі, нясмелы вырваўся з туга напятай цялячай скуры і рассыпаўся па варывеньцы.

— А няхай яго, яшчэ людзей напужаю,— сказаў сам сабе дзед Цімох і асцярожна палажыў палачку на бубен.

— А-а, гэта ты, стары? — абазваўся неўзабаве з-за вушака сусед Ігнась, таксама не малады ўжо мужчына.— А я думаў, хто з малых тут практыкуецца.

Дзед Цімох крыху збянтэжыўся.

— Гэта ж, бачыш, як той кажа, паспрабаваў грукнуць у гэтую музыку...— пачаў ён апраўдвацца перад суседам.

Сусед засмяяўся:

— Што, можа, у піянеры збіраешся падавацца?

— А што ж,— жартам адказаў дзед Цімох.— Мода цяпер такая пайшла. Ну, а калі мода, то чаго нам спаць у шапку.

— Я ўжо, браце, таксама не раз думаў пра гэта,— перапыніў яго Ігнась.— I што ж? Толку не вазьму ў галаву. Хоць ты сам, як кажаш, падавайся ў гэтыя камсамолы ці піянеры. I ведаеш, крыўдна. Верх бяруць нада мною сыны. Нічога не магу сказаць ім насупераК. Саб'юць з толку, ды і ўсё тут...

— Дзіва што саб'юць! — згадзіўся дзед Цімох.— Навуку, бачыш, ведаюць. А мы з табою не ведаем. Людзі цёмныя. Мы думаем, гром і навальніцу Ілья-прарок робіць. А мой унук Васілёк кажа: «Не, гэта лікцытрычаства такое ў хмарах збіраецца. Яно і робіць гром і навальніцу».

— Дык жа і поп навуку ведае,— кажа Ігнась.— А чаму ён з імі не ў хаўрусе?

Дзед Цімох махнуў рукою:

— Папу цяпер, відаць, не соладка жывецца. Вунь бязбожнікаў колькі аб'явілася! У газетах пра папоў такое пі-

шуць, што вушы вянуць слухаючы. Унук знарок мне пра іх чытае. І ўсё праўда. Так сабе абы-чаго не пішуць.

— Выходзіць, свет разумнее,— сказаў Ігнась.

— Выходзіць,— развёў рукамі дзед Цімох.— Раз яны ўсе так дружна ўхапіліся за работу, каб пабудаваць, як яны кажуць, новае, лепшае жыццё, то чаму ж не зробяць гэтага. От зноў жа вазьмі нашага Васілька. Спрадвеку курэй, цялят і парасят мы трымалі ў хаце. А цяпер? Паслухалі ўнука і ачысцілі хату. І ведаеш, лягчэй дыхаць стала... Іх, бачыш, так у атрадзе вучаць.

— І добра вучаць, скажу табе,— згадзіўся Ігнась.

Дзед з суседам моўчкі падышлі да бубна.

— Дык, кажаш, у піянеры трэба падавацца? — усміхнуўся сусед.

— А чаму ж?

Стары салдат турэцкай вайны дзед Цімох выцягнуўся ў струнку, падняў руку:

— Будзь гатоў!

А потым сур'ёзна дадаў:

— От няхай ужо лепш без мяне бубняць. Не буду ім замінаць.

Дзед Цімох яшчэ раз, ужо весялей, тромкнуў па бубне. Гул бубна зноў напомніў яму пра шустрага ўнука Васілька і яго сяброў, якія дружна крочаць па вуліцы, па аколіцах і ідуць недзе далёка, далёка, у новы, незразумелы для яго свет радасці і шчасця.

*1925 г.*

# БЕСПРЫТУЛЬНЫ

Бацька скапаў два гады таму назад. Маці на гэтым тыдні згарнула свае худыя мазольныя рукі. Застаўся Максімка як ёсць сіратою. Няма да каго прыхіліцца, няма каму пра сваё гора расказаць. Бедны хлопчык Максім! Ой, які бедны!.. Хоць бы якая далёкая радня была. Усё свае людзі. Хоць вокам хто кінуў бы сяды-тады на сірату. А п'яны гаспадар дома, дзе жыў Максімка з маткаю, казаў ужо:

— Чаго табе сядзець тут, малы?

— А што мне рабіць? — глытаючы слёзы, запытаўся хлопчык.

— Ідзі адгэтуль...

— Куды?

Сумна зрабілася Максімку ад гэтых слоў гаспадара. А ў грудзях горача, горача...

— Куды хочаш! — раптам раскрычаўся гаспадар.— Прасіся, можа, хто на работу возьме. А мне ты не патрэбен!..

Далей — болей, і праз колькі часу Максімка апынуўся на вуліцы. На голай брукаванай вуліцы, без бацькоў, без прытулку. Рэшткі хатніх пажыткаў гаспадар выкінуў на падстрэшша, а пакой здаў другім кватарантам.

Першы дзень Максімка прахадзіў па вуліцах. Увечары галодны зашыўся ў цёмны куток у кіно і там застаўся на начлег. Але назаўтра раніцай агледзеў яго дворнік і выгнаў мятлою вон.

Зноў бадзяецца Максімка па вуліцах. Навакол тысячы людзей. Усе кудысьці ідуць — адны спяшаюцца, другія так сабе шпацыруюць. Ніхто, здаецца, і не гляне на гэтую маленькую мурашку — беднага худзенькага хлопчыка Максімку.

Ежу здабываў Максімка па-рознаму. Выпрасіць у каго кавалак хлеба ў сталоўцы або ў хлебнай краме, гэтым і пражыве дзень. А то, як з рукі, на нізкім рынку ў гандляркі праснак ці абаранак перахопіць... Былі і такія дні, калі жыў адною вадою.

Змучаны, зมораны за дзень, прыстае хлапчына дзе-небудзь да спакайнейшага кутка — адзін або з такімі ж сяб-

рамі, ды там і начуе. Ці мала слёз выплакаў Максімка! Яму ж яшчэ толькі дванаццаты год ідзе. Хто возьме такога за работніка? Хто згодзіцца даглядаць яго? Ды і не адзін ён такі. Шмат іх, беспрытульных, бадзяецца па разбуранай і спустошанай войнамі краіне.

Часта думаў Максімка пра бацькоў: чаму яны паўміралі? Чаму яго аднаго пакінулі?

Успаміналіся матчыны словы:

— Памру, сынок, і я хутка...

А калі Максімка палохаўся гэтых слоў, маці тут жа суцяшала яго:

— Не, не, сынок, не бойся... я жартую...

Не жартавала, аднак, маці. Кашляла, кашляла — і памерла. І ўсяго з аднаго кашлю памерла. З кашлю ж памёр і бацька. Доўга кашляў ён. З таго часу, як вярнуўся з белапольскай турмы.

Праўда, Максімка вельмі цьмяна ўжо ўспамінае дзень, калі бацьку яго схапілі белапольскія жандары... Цэлых два гады пасля таго не было яго дома. За гэты час выгнала Чырвоная Армія белых палякаў з яго роднага горада і зноў прыйшла сюды Савецкая ўлада. І вось пазалетась раптам вярнуўся бацька. Худы, абшарпаны. Максімка не пазнаў яго. Як расказваў потым бацька, сядзець бы яму ў белапольскай турме яшчэ шмат гадоў, каб не сябры: вырвалі яны яго з-за кратаў і тайком праз мяжу ў Савецкую краіну пераправілі.

Яшчэ ўспамінаў Максімка тую фабрыку, дзе працаваў бацька. Аднаго разу нават зайшоў туды. Але ўсё тут было для яго цяпер пуста і нецікава. І зусім новыя, незнаёмыя людзі стаяць пры тым станку, на якім бацька працаваў.

Толькі адзін дзядзька быў крыху знаёмы Максімку. Раней ён працаваў качагарам. І Максімка баяўся тады гэтага дзядзькі — бруднага, запыленага. Цяпер дзядзька-качагар стаяў пры станку, і выгляд яго зусім змяніўся.

Убачыўшы Максімку, дзядзька спыніў малога:

— Чакай, хлопча.

Максімка падняў на дзядзьку свае сумныя чорныя вачаняты.

— Я ўжо шукаў цябе, сынку...— ласкава сказаў дзядзька.

Абцёршы вусы рукою, ён дадаў:

— Можа, лепш было б табе на службу падацца?

— Куды? — запытаўся Максімка.

— А ці не ўсё роўна?

— А есці на службе будуць даваць? — падумаўшы, пацікавіўся малы.

— Вядома, будуць,— усміхнуўся дзядзька.— Для гэтага ж і ідуць на службу.

Максімка адчуў вялікую прыхільнасць да чалавека, які сказаў яму такую радасную навіну. Хацелася кінуцца рапгам, абняць і пацалаваць гэтага мілага дзядзьку. Але зрабіць так ён не адважыўся.

* * *

Служыць Максімка ў дробнага крамніка. Гаспадар яго гандлюе рознаю драбязою. А Максімку даў работу — прадаваць на вуліцах ірыскі.

Бегае Максімка з драўлянай скрынкай у руках з вуліцы на вуліцу, крычыць колькі сілы:

— Ірыскі, каму ірыскі! Па капейцы штука, па капейцы... Арэхавыя ірыскі, арэхавыя!..

Навакол грукочуць аўтамабілі, аўтобусы, тарахцяць рамізнікі, скрыгочуць па чыгунных рэйках жалезныя колы гарадской конкі. Максімка ні на што не звяртае ўвагі. З галавы яго не выходзяць ірыскі. Кожнаму ласкава загляне ў вочы, кожнаму перабяжыць дарогу, прапануючы свой капеечны тавар. І так расхвальвае яго, што, з боку слухаючы, здаецца, няма на свеце нічога смачнейшага, чым Максімкавы ірыскі.

— Адкуль ты бярэш іх, гэтыя ірыскі? — запытаўся аднаго разу ў Максімкі нейкі невядомы яму хлапчук у чырвоным гальштуку.

Максімка падняў з вачэй сваю не па мерцы вялікую бацькаву шапку, агледзеў незнаёмца і прамаўчаў.

— Я не пайду туды браць іх,— здагадаўся хлапчук, што Максімка, відаць, баіцца саперніка.

Слова за слова, і Максімка расказаў хлапчуку, дзе ён бярэ свой тавар.

— Кінь ты гэтыя ірыскі! — сказаў хлапчук.— Няхай твой гаспадар шукае другога дурня, каб зарабляў яму грошы.

— А што ж мне рабіць? — спалохаўся Максімка.

— Ідзі да нас.

— Куды?

— У піянерскі атрад.

Хутка хлапчукі зразумелі адзін аднаго.

— Ты будзеш вучыцца,— сказаў піянер.

— А дзе я жыць буду?

Піянер падумаў, потым упэўнена сказаў:

— У дзіцячы дом пойдзеш.

— А ці ж прымуць мяне?

— Піянерскі атрад папросіць, дык прымуць.

Радасць ахапіла Максімку. Новая, светлая дарога малявалася перад яго вачыма. Ён будзе вучыцца, як і ўсе дзеці! Не будзе бегаць цэлымі днямі па горадзе і крычаць да хрыпаты: «Ірыскі, ірыскі!..»

— Добра,— адказаў узрадаваны Максімка.— Я пайду ў піянерскі атрад і ў дзіцячы дом.

Хлапчукі ўзяліся за рукі і рушылі разам у школу, дзе вучыўся новы Максімкаў сябра. Упершыню ў гэтую хвіліну Максімка адчуў, што яго назаўсёды пакідае трывожны страх сіроцкай адзіноты.

*1925 г.*

# СІРАТА

## I

Марылька толькі што пачала ачуньваць. Праз цэлых тры тыдні змагалася яна за жыццё — цяжка хварэла на тыфус...

Ды не толькі бязлітасная хвароба прыгнятала малую. Іншае гора моцна сціскала ёй грудзі. Яго, гора гэтага, нельга пазбыцца. Сілы няма ў кволай, худзенькай дзяўчынкі прагнаць яго ад сябе, далёка прагнаць, у лясы цёмныя, у пушчы дрымучыя. Моцы няма ў малой перамагчы яго, падолець уласнымі слабымі рукамі, уласным малым яшчэ розумам...

І часцей чым калі клікала яна ў гарачцы праз усе гэтыя пакутлівыя дні маму або шаптала гэтае самае дарагое для яе слова.

За вокнамі праз цьмяныя паколатыя шыбы весела ўсміхаецца вясновы дзень. То там, то сям радасна выводзяць сваё задорнае «кукарэку» пеўні. Мітусяцца пад стрэхамі шустрыя вераб'і. Для іх самая пара гняздзіцца. Наперабой, праз сварку, займаюць яны свае ціхія, вузкія шчыліны ў закотах і пад кроквамі. А іншы раз сярод іх і ластаўка ўтыцца. Яна таксама шукае сабе месца для гнязда.

Вясна ў поўным росквіце. Пад акном распускаецца зялёнае лісце бэзу. Яго пах праз пабітыя шыбіны струменіцца ў хату і ажыўляе млявае цела хворай Марылькі. Яна чуе вясёлыя, звонкія галасы дзяцей з вуліцы. І не можа стрымацца, намагаецца ўстаць.

«Можа б, я і расхадзілася»,— думае дзяўчынка. Але штосьці моцна стукае ў скроні, усё туманіцца, і яна апускаецца назад, у запечныя лахманы.

— Гультайка ты, прытварака! — злосна бурчыць на яе з качарэжніка высокая, хударлявая кабеціна з цёмным маршчыністым тварам. Гэта — Антоля, Марыльчына гаспадыня.

Марыльцы не ўпершыню чуць такія словы. Але сёння яны здаюцца больш крыўднымі, чым калі. Твар яе ўспыхвае хваравітай чырванню. «Добра табе казаць так, самой не адляжаўшы. Не шкадуеш ты мяне ні кроплі. Хіба такой горкай павінна быць скарынка чорнага хлеба?» — думае

сама сабе дзяўчынка і тут жа, па прывычцы, пакорліва шэпча сухімі патрэсканымі губамі:

— Я ўжо ачуняла, цётухна... Устану...

Антоля дасціпная да ўсялякай работы і праз меру скнарная кабета. Для яе свету мала. Сама згорблена, зрэбная кашуля, з паўгода нямытая, блішчыць ад бруду. Спадніца і каптур старасвецкага вырабу — мо спадчына яшчэ матчынай маткі... Толькі суравыя шэрыя ніткі трымаюць гэтыя лахманы на яе хударлявым целе і не даюць ім рассыпацца на шматкі.

Антоля не любіць, калі хто ўпікае ёй скупасцю. Гора тады ўпікальніку! Ніхто ў вёсцы не можа лепш лаяцца за Антолю. Цэлыя пакаленні спрадвеку стваралі гэты від красамоўства і, відаць, цалкам перадалі яго ў спадчыну Антолі.

Сёння яна займалася звычайнай перасушкай сваіх скарбаў. Гэтая работа карысталася асаблівай пашанай у Антолі. Дзесяткі розных мяшэчкаў і скрыначак вісяць і стаяць па ўсёй згорбленай, як сама Антоля, і падпёртай тоўстымі падпоркамі хаце.

— Дармаедзіна! — несціхана ўсё яшчэ лае Антоля Марыльку.— Каб ты ўжо нечага лягла ды не ўстала!..

Часта Антоля лаялася проста так сабе, без дай прычыны, па прывычцы або ад няма чаго рабіць. Так было і цяпер. Яна ведала, што Марылька ляжыць па хваробе, а не па лянопе, і ўсё ж не магла стрываць, каб не лаяць малую. Антоля не сябравала з другімі жанчынамі, бо кожная абыходзіла яе, злую і задзірлівую. Муж яе, Сымон, чалавек па натуры спакойны, негаваркі. Ён курыць люльку за люлькаю, набітую моцным самасадам, пэхкае цэлымі хмарамі дыму, нібы робіць цяжкую работу. І ва ўсім ён паслушны старой уладарнай жонцы.

Марылька павольна падымаецца з лахманоў. Яе цяперашні выгляд вельмі падобны да ўсяго гэтага ламачча, якое так багата рассеяна і рассыпана па ўсёй хаце.

У сенцах пачуўся глухі стук. Антоля кінула мяшэчак з зёлкамі на чарэнь печы і адчыніла дзверы. І ў той жа час нема залямантавала, схапіўшыся аберуч за галаву:

— Ай-яй! Што ж гэта робіцца!

І стрымгалоў кінулася ў сенцы.

Марылька выйшла ўслед за ёю.

На скрыні ў сенцах стаяла лубяная сявенька. У ёй было льняное насенне. Гэтае насенне толькі што высыпала

ненаедная рабая свіння. Відаць, яна і сама напужалася ад неспадзяванага стуку і шуму, бо зараз стаяла на сенечным парозе, вінавата скуголячы. Хоць урон яно і невялікі — сабраць можна насенне, але гвалту цяпер хопіць.

Кленучы свінню, а заадно і Марыльку, і ўсю сваю горкую долю, Антоля поўзала на каленях па сенцах, застаўленых і заваленых усялякім патрэбным і непатрэбным дабром і ламаччам, і згортвала далонямі насенне.

Да скупасці Антоля прывыкла. У гэтым яна знайшла сваю асалоду жыцця. За век напакаваліся, аж выпіраюць кублы палатна. Пабуцвела яно, а шмат якія скруткі і зусім пагнілі. Вядома, кожны такі збуцвелы скрутак аплаканы і перасушаны. Але ад часу нікуды не схаваешся: час нішчыць яе багацце, трухлявіць яго. Хоць колькі розных заклінанняў ды шэптаў нашаптала над кубламі Антоля! На гэта яна таксама дасціпная. Нездарма яе першаю знахаркаю ў вёсцы лічаць. Розныя зёлкі, сабраныя за дзесяткі гадоў, вісяць у яе хатцы пад столлю. У гэтых зёлках нямала, як думае Антоля, сілы ад усяго: і ад хвароб, і ад прываротаў, і наваротаў, і ад праклёнаў, і ад заломаў...

Калі сяк-так сабрала насенне, Антоля буркнула злосна да Марылькі:

— Ідзі сячы свінні бульбу, а то дзверы выламіць ды зноў бяды наробіць!

— Добра, цётухна. Я ж не лянуюся...

— Языком ты не лянуешся! Я будучы тваіх год панскай пакаёўкай была. А ты чаго варта?

А мо і сапраўды гэтая дзяўчына нічога не варта? Можа, яна не такая, як усе, нікому не патрэбная, ні да чаго не здатная? Хоць, здаецца, і стараецца з усяе сілы, як тая мурашка. Шмат не здужае — косці яшчэ слабыя, а што здужае — робіць старанна. А можа, і яна была б такой пакаёўкай, як Антоля, каб паказалі ёй, што гэта за штука такая. І яна не ўтрымалася, каб не запытацца:

— А што гэта — пакаёўка?

— Першая служанка ў паноў — вось што! — з ноткай ганарлівасці адказвае Антоля.

— Дык вы ў паноў служылі? — здзіўляецца Марылька.

— Вядома, служыла. Не табе раўня была! Я ў дзесяць разоў больш за цябе рабіла... Каб ведала, што ты такая няўдаліца, ніколі не ўзяла б у сваю хату!

Антоля лічыць сябе вялікай дабрадзейкай. Хто ж як не яна злітавалася над Марылькай і прыняла сірату ў свой

дом пасля смерці яе маткі! І зусім дарэмна суседзі тлумачаць гэтую яе дабрадзейнасць па-іншаму: сама Антоля бяздзетуха і старая ўжо, не можа адна даць рады сваёй гаспадарцы. Гэта і вымусіла яе зрабіць такі дабрадзейны ўчынак...

Цяжка, ой цяжка сячэ бульбу стары шчарбаты сякач! Пара густая курыцца над ражкай, дух сціскае. Млявасць расплываецца па ўсім целе. Але мацуецца малая работніца, перамагае сваю хваробу...

Трэба працаваць, а яшчэ больш трэба сіраце...

## II

На двары сцямнела. Сцішылася ўсё ў прыродзе. З поўдня ўсплываюць густыя, панурыя хмары. Яны што далей, усё больш шырацца, разнімаюць свае магутныя крыллі. Парнасцю вее ад зямлі.

— Абуй лапці! — загадала Антоля Марыльцы.

Марылька схамянулася. Адразу здагадалася, у чым справа: давядзецца недзе валачыся супраць ночы. Можа, нават і далёка,— хто ведае, што сёння прыйшло ў галаву старой скупяндзі? А не хочацца малой выпраўляцца ў дарогу — нацягалася за дзень і так у полі за каровамі. Цяпер бы паспаць соладка, пакуль зарумяніцца ўсход і не пабудзяць зноў выганяць на раніцу.

Ногі Марыльчыны патрэскаліся ад гразі і сонца, распухлі, быццам іх пакусалі восы. І ёй страх цяпер абуваць лапці — муляць будуць аборы і анучы...

— Цёпла ж на двары...— спрабуе адмовіцца Марылька.— Навошта лапці?

— Ты што,— павышае голас Антоля,— загубіць мяне хочаш? Хочаш, каб след пазналі...

«Хіба ўжо каб пазналі»,— падумала Марылька ўпотай і пачала абуваць сухія лазовыя лапці.

А калі сабраліся, ціха зашасталі крокі, і дзве цёмныя постаці зніклі за варотамі двара.

Спачатку падаліся за гумны, потым выпаўзлі на простую дарогу, што вяла ў засценак да багатых арандатараў, якіх усе звалі засцянкоўцамі або шляхтай.

Кругом на дзіва ціха. Неба падзялілася на дзве зусім адменныя палавіны: адна паўночная — зорная, і другая, паўднёвая — хмарная. Павольна, спаважна наплывае паў-

днёвая палавіна неба на паўночную, адваёўваючы зорку за зоркай. Удалечыні зрэдку мільгаюць зыркія бліскавіцы.

— Дождж будзе...— прашаптала Антоля, паглядаючы на неба.— Гэта добра. Толькі б невялікі...

— Чаму добра? — пытаецца Марылька, ледзь паспяваючы следам за гаспадыняй.

— След змые...

— Куды мы?

Антоля ў такі час крыху лагаднее. Вусцішнасць, цёмная ноч робяць сваю справу. Яна мякчэе і ласкавей размаўляе з Марылькай. Усё ж жывая душа, апора, хоць і ненадзейная. А можа, прачыналася ў чэрствым сэрцы гэтай кабеціны чалавечая ласка, мацярынскае пачуццё? Яна ж ніколі не растрачвала яго на сваіх дзяцей, якіх не мела, а ўсё ледзяніла ў сваім сэрцы.

— Недалёчка,— адказала Антоля на Марыльчына пытанне.— Скора назад вернемся. І выспацца яшчэ паспееш...

Неўзабаве з цемры ночы вырасла першая засцянкоўская будыніна. Дзесьці на выгане пачуўся брэх сабакі. Там, відаць, пасуцца коні.

Падарожніцы раптам спыніліся. Прыслухаліся. Сабак у самым засценку не чуваць. Агню ні ў кога. Толькі маланкі часцей бліскаюць.

— Не сапі гэтак! — штурхае Антоля дзяўчынку.

— Кашаль душыць,— апраўдваецца Марылька.— Ці вытрымаю?..

— Глядзі ў мяне! — грозіць Антоля.

Вось яны і каля гумнаў. Гумны засцянкоўцаў доўгія, цэлыя аборы — відаць, сапраўды не бедныя гаспадары тут жывуць.

Сэрца ў Марылькі тахкае ўсё мацней.

— Збірай палотны! — паказала Антоля на дашчаную павець. І абедзве, моцна сапучы, кінуліся пад страху паветы, дзе сохлі палотны. Іх сёння ўдзень асачыў Сымон, калі хадзіў у арэшнік па дубцы.

Губы ў Марылькі перасохлі і да хвалявання, і ад страху. Горла дзярэ кашаль... Яна хоча сказаць гаспадыні: «Хопіць, бяжэм!» — ды не можа: голас знік...

— Згортвай, згортвай вунь тыя! — падганяе Антоля, пакуючы ахапкі палацён у пасцілку. Ужо ліхаманка трасе яе, калоціцца ўся, а адарвацца ад палацён не можа.

I — Марылька ўсё ж не стрывала: спачатку паціху, а потым і моцна кашлянула...

Сухі кашаль падхапіў вецер ды кінуў у бок хаты. Але ён тут жа і знік, бо моцна забарабаніў буйны дождж.

Напалоханая Антоля кінулася ўцякаць з пасцілкаю за плячыма. Марылька пабегла ўслед за ёю з ахапкам палацён перад сабою.

— Заб'ю! Знявечу! — як змяя, сіпіць Антоля і тузае за плячо дзяўчынку, якая ніяк не можа паспець за ёю і ўсё больш млее і ад свайго ахапка, і ад напружанага перажывання. Дух займае. Хочацца кінуцца вобземлю і ляжаць каменем.

Антоля і сама цяжка крэкча. Сустрэчны вецер усё мацнее, дождж буйнее. У святле маланак ужо не страх, а смяртэльны жах ахапляе старую. Вось-вось, здаецца, засвеціць маланка і з чорнай бушуючай цемры вынырне чалавек — гаспадар крадзеных палацён. Кожны камень пры святле маланкі палохае яе. Яна хрысціцца, нешта мармыча сама сабе і зласней тузае дзяўчынку:

— Ідзі, каб ты ногі паламала...

Жмутак Марыльчын цяжэе, а яна слабее. Нарэшце Марылька падае. Спрабуе ўстаць, ды не можа.

Антоля кідае сваю пасцілку, тузае яе. Потым, калі не памагае ні лаянка, ні кленічы, закідвае пасцілку на плечы, хапае колькі можа палатна з Марыльчынага ахапка ды спяшаецца подбегам адна.

## III

Над збавеннем сваім Марылька не раз думала. Ведала яна, што на свеце жыць — гараваць. Так навучала яе Антоля. Антоля сама змалку не ведала прасветлай хвіліны. З сямі гадоў аддалі яе ў наймічкі да дробных паноў-фальваркоўцаў. У іх і гадавалася яна ў голадзе ды ў холадзе. Можа, гэта цяжкае жыццё паднявольнай наймічкі і вызначыла яе характар — грубы, чэрствы, зайздросны да ўсяго. Яна выхоўвала з Марылькі такую ж Антолю — прагную, скупую. Марылька пачынала гэта разумець. Яна бачыла, што людзі кругом жывуць лепш, весялей: лягчэй працуюць, чысцей апранаюцца, смачней ядуць. З часам пачынала пазнаваць дзяўчынка, што ўсё гэта хлусня, чаму навучае яе Антоля. Усё гэта толькі для задаваленння скупа-

сці і дзікасці памешанай на кубялках і мяшэчках бабы. Пра гэта Марылька не раз чула і ад суседак.

Ужо неяк пад восень здарылася гэта. Марылька пачула кароткую гаворку гаспадароў. Было якраз пасля снедання. Яна прывяла каня з пашы. Паснедала і, як звычайна, прылягла на палку. Не паспела задрамаць, як пачула голас гаспадара:

— Можа, і яе возьмем у поле? Будзе каня вадзіць.

— Самі справімся,— адказала Антоля.

Гаспадар, відаць, здзівіўся такому адказу.

— Выспіцца, нідзе дзенецца.

Тады Антоля растлумачыла яму:

— У саўгасе вунь добрая цыбуля выспела... Сёння думаю пайсці з ёю. Няхай лепш паспіць цяпер, каб потым на хаду не спала.

Сымон прамаўчаў. Да гэтага ён прывык.

І калі гаспадары падаліся ў поле, Марылька сабралася і кінулася ў саўгас. Што будзе, тое і будзе... Няхай падпільнуюць зладзейку ды хоць настрашаць. Можа, яна перастане тады цягацца поначы, куды не трэба. Так думала Марылька, бегучы ў саўгас.

Дарога зусім не здоўжылася. Не паспела яна і агледзецца, як апынулася на шырокім дзядзінцы саўгаса. Тут зусім усё не так, як у іхняй вёсцы. Вялікія каменныя будыніны — аборы для жывёлы. Агароды з добры палетак. На двары машыны: касілкі, жняяркі, малатарні.

Марылька ўпершыню трапіла ў саўгас. Да гэтага часу яна бачыла яго толькі здалёку.

А сэрца вось-вось, здаецца, выскачыць, калі падышла да белага мураванага дома. Як спаткаюць яе там? Што будзе з ёю, калі пра гэта даведаецца Антоля?

Дырэктар саўгаса, пажылы дзядзька Ляшчэня, з цікавасцю слухаў Марыльку.

— Бач ты яе,— хваляваўся ён,— чужой цыбулі захацела! Добра ж. Мы зробім так, што ёй наша цыбуля гарчэй перцу здасца. А ты не бойся — цябе ніхто не кране, калі застане з ёю на агародзе. Мы яе правучым...

Падумаўшы крыху, дзядзька Ляшчэня раптам запытаўся ў Марылькі:

— А хто ж гэта цябе, дзяўчо, навучыў так зрабіць?

— Ніхто,— адказала Марылька.— Сама надумалася.

— Цікава!

— Яна ўсё падманвала мяне,— расказвала далей Марылька.

— Як падманвала?

— Плакала ўсё, што цяжка ёй жыць ад беднасці...

— А можа, і праўда? — развёў рукамі дзядзька Ляшчэня.

— Не. Яны зусім не бедныя. Людзі жывуць і бядней, а красці не ходзяць. У маёй мамы нічога не было, а чужога яна не брала.

— Куды ж яна яшчэ хадзіла красці?

— Усюды. Дровы ў суседзяў крала, палотны...

— А як жа ты, Марылька, трапіла да гэтай вар'яткі Антолі? — запытаўся нарэшце дзядзька Ляшчэня.— Дзе твае бацькі?

І Марылька расказала дзядзьку Ляшчэню яшчэ адну невясёлую гісторыю — на гэты раз з свайго жыцця.

IV

...Далёка-далёка, за цёмнымі лясамі, за глыбокімі рэкамі, за люстранымі азёрамі (так здавалася ёй), была ў іх хата, хлеў, гумно. А побач такія ж будовы суседзяў.

І Марылька пільна стараецца ўспомніць усё, што было і як было. Ёй хочацца ўспомніць нават, хто жыў там ля іх, як выглядаюць яе былыя сяброўкі — Манька, Волька, Жэнька, што разам на прызбах з пяску пяклі аладкі. Але гэтыя мілыя далёкія малюнкі тут жа засланяюцца іншымі.

Вайна!.. Яна мала чаго разумела тады ў гэтым слове. Але добра памятае, што ніхто іншы, як вайна, і ёсць прычынай іхняй горкай долі. Бо хто ж, калі не яна выгнала яе бацькоў, усіх іх суседзяў з дзецьмі ў белы свет на мор і пакуты? Вайна пачынае здавацца ёй нейкім страшным людаедам — тым, пра якога маці расказвала ў казках. Аднойчы ён паеў усіх сваіх дзяцей, з'еў жонку і ўцёк у лясы. Вось з таго часу і бродзіць людаед па лясах. Сам да ваўка падобны, вочы па добрым яблыку, вопратка з мядзведжай шкуры... Такою, уяўляецца ёй, была і вайна.

Марыльцы споўнілася чатыры гады, калі яна назаўсёды пакінула сваю Алёхаўку, што дзесьці там, далёка-далёка на Гродзеншчыне. Тысячамі ішлі і ехалі на ўсход людзі. Звалі іх бежанцамі. На дарогах безліч драбін, коней. Крыкі і енкі навокал.

А ззаду, за гэтым тлумам, быццам тысячы громаў, вухкалі гарматы. Глухія выбухі іх прымушалі людзей кожны раз уздрыгнуцца. Гэта ішло адступленне рускай арміі. Перад арміяй гналі бежанцаў. Такі быў царскі загад. Розныя чуткі хадзілі пра лютасць немцаў. Адны казалі, што немцы ўсіх на штыкі ўзнімаюць, нават маленькіх дзетак. Малюнкі з такімі жахлівымі сцэнамі вывешвалі па ўсіх прыфрантавых гарадах і вёсках. Другія казалі, што нават зямлю і тую выпальваюць нейкім праклятым дымам. Калі пусцяць такі атрутны дым — пылу не застаецца на зямлі. І нічога расці потым не будзе...

Марыльчын бацька сяк-так дабраўся да станцыі. Напралом утыпчыліся ў вагон, адваявалі куточак для сябе і сваіх пажыткаў. Уладкаваўшы сям'ю, бацька выйшаў з вагона, каб прадаць каму каня і драбіны. Маці засталася пры дзецях. Страшна было адступіцца ад іх. На станцыі натоўпы людзей, свіст паравозаў, грукат колаў, трывожнае ржанне коней, плач і енк дзяцей,— усё гэта злівалася ў адзін жудасны крык разбуранага вайной жыцця.

— Бывайце, родныя палі і лясы! — махалі дрыжачымі рукамі людзі з тых вагонаў, якія ўжо краналіся з месца і адыходзілі ў невядомы і далёкі шлях.

Вось аказаўся і гудок цягніка, у якім апынулася Марылька. Свіснуў раз, другі. Цягнік крануўся і — пайшоў на ўсход...

Нема загаласіла маці, кінулася да дзвярэй:

— Міхал! Міхал...

Марылька з меншым брацікам учапіліся за матчыну спадніцу і таксама загаласілі на ўвесь вагон:

— Тата! Татачка!..

Цягнік пайшоў без бацькі...

Гэта быў пачатак іхняй вялікай бяды.

Заехалі яны сяк-так у далёкую Самару. Засталіся там, каб перачакаць вайну.

Маці бялізну багатым мыла, на розныя падзённыя заработкі хадзіла. Гэтак і кідалася з малымі дзецьмі. Часта ўспамінала бацьку. У першыя часы спрабавалі шукаць яго. Але не такі час, каб можна было цікавіцца каму такімі дробнымі справамі, як прапажа Марыльчынага бацькі.

А вайна не спынялася, і ехаць дамоў нельга было.

Добра помняцца рэвалюцыі. Нават і яна, Марылька, з брацікам бегалі тады напрадвесні па вуліцах Самары і крычалі, як і ўсе: «Далоў цара! Далоў вайну!» А ўвосень

яшчэ шумней і радасней было ў старым горадзе Самары. І новыя словы гучалі на вуліцах: «Уся ўлада Саветам! Няхай жыве Савецкая ўлада!»

Настаў дваццаць першы год.

Бязлітасны сухмень ушчэнт выпаліў урадлівыя землі Паволжа.

Прыйшоў голад. Ён уладарна разганяў людзей у іншыя, хлебныя, раёны.

Бежанцы гурбамі падаліся на захад, спадзеючыся трапіць на сваю бацькаўшчыну.

— Можа, там дзе і тату знойдзем,— часта гаварыла маці, збіраючыся ў вялікую дарогу.

Абнадзеяныя дзеці не маглі дачакацца часіны, калі яны сядуць у цягнік, каб ехаць дахаты.

Вёска родная ўяўлялася зноў такою ж, як і раней была: тыя ж суседзі, тыя ж хаты, поле, луг, рэчка... А галоўнае — там бацька, бо куды ж ён мог падзецца пасля вайны, як не прыехаць дамоў? Немца, якім так палохалі іх, даўно ўжо няма.

І зноў вагоны, зноў даўжэзная пакутлівая дарога. На станцыях хадзілі прасіць міласціну, хоць рэдка калі ўдавалася што сабраць. Бегалі ў блізкія лясы па грыбы, елі іх без хлеба і солі...

Праз месяц ці больш прыехалі нарэшце ў Мінск. Тут — стоп! Далей ходу няма: іхняя мілая і жаданая вёска на Гродзеншчыне засталася па другі бок мяжы — у панскай Польшчы.

Туды не пускаюць.

А ўжо і восень надыходзіць...

— Што рабіць будзем, дзеткі? — пытаецца зняможаная за доўгую галодную дарогу маці.

Глядзяць на яе дзеці, што сказаць, не знаюць, што параіць, не ведаюць.

Давялося падавацца ў вёску — шукаць прытулку на зіму і якой-небудзь работы.

Апошняе, што ярка ўсплывае ў памяці Марылькі,— хвароба: іспанка нейкая. Пасля гэтай іспанкі засталася яна адна...

Тады і трапіла сірата Марылька да нялюдскай скупой Антолі.

V

З усходам сонца будзіць стары Патап сваю памочніцу:

— Уставай, малая. На раніцу пара.

А неўзабаве ўжо гамоніць берасцяная труба, пошчак рассыпаецца па наваколлі, абуджае людзей, поле і гай.

Раніца на золку такая свежая, ядраная, водар ад зелені вее прыемнай асалодай, бадзёрыць.

Марылька засталася жыць у саўгасе. Ёй вызначылі тут і работу — дапамагаць старому скотніку і пастуху Патапу.

Хутка знайшліся і сяброўкі — аднагодкі Соня і Волька. Яны вучыліся ў мястэчковай сямігодцы. З восені ўпершыню пайшла вучыцца і Марылька. Саромелася спачатку, не хацелася такой бальшусе садзіцца за буквар разам з малымі. Ды памаглі сяброўкі.

— Не бядуй, сястрыца,— суцяшалі яны Марыльку,— і не агледзішся, як скончыш сямігодку. А там рабфак, тэхнікум...

Сэнсу гэтых слоў пра рабфак і тэхнікум Марылька не разумела, але адчувала, што нешта вельмі добрае замышляюць сяброўкі, калі радуюцца ад адной толькі думкі вучыцца далей пасля сямігодкі.

Марылька спадабалася саўгасным дзяўчатам. Яны з ахвотаю дапамагалі ёй пазнаваць мудрасць навукі.

— Даганяй нас! — заахвочвалі яе.

— А вось і даганю! — жартавала Марылька.

І праўда — з сярэдзіны зімы яе перавялі ў другі клас.

Вярнуўшыся са школы, Марылька бегла ў хлеў і там заўсёды знаходзіла сабе і работу, і цікавы занятак. А ўлетку дапамагала старому Патапу пасвіць кароў.

Чараду выганялі звычайна ў гай, пад рэчку. Гэта была адна з тых прывабных мясцін, якія шмат дзе ўпрыгожваюць наш край. Густыя кусты ўздоўж ракі, між імі зялёная сакавітая трава. У гэтых кустах каровы знікалі да самага паўдня. Пастухі ж бавіліся больш каля рэчкі. Марылька лавіла кашом рыбу, купалася, а дзед пёк бульбу, плёў лапці. Дзед не любіў купацца.

— Вады баяцца старыя косці,— казаў ён.

— У вадзе, дзядуля, амаладзееце! — аднойчы пажартавала Марылька з дзеда.

— Дзе там,— адказаў стары сур'ёзна.— Не на тое хіліць. Маладзейшыя за мяне і то вунь мруць, як тыя мухі. А мне...— дзед безнадзейна махнуў рукою.— Вось надай,

леташняй вясною, малады яшчэ чалавек і — рукі згарнуў... Нейкі бежанац з-пад Гародні. Адзін жыў, без сям'і. Марнаціўся небарака. Можа, з гэтага і сталася.

Дзед чамусьці часцей у апошні час скардзіўся на сваю нядужасць, успамінаў нябожчыкаў. Відаць, адчуваў, што дні яго таксама ўжо нядоўгія.

Дзедаў расказ пра бежанца з-пад Гародні моцна ўразіў Марыльку. Нейкае нядобрае прадчуванне ахапіла яе. «Можа, хто з нашай Алёхаўкі?» — падумала яна. І запыталася:

— Дзядуня, а хто быў той бежанец? З якой вёскі ці воласці?

— Вёскі добра не памятаю: ні то Аляксееўка, ні то Алёхаўка. Не скажу. А зваўся Міхалам.

І дзед спаважна пачаў расказваць пра нябожчыка Міхала ўсё што ведаў.

З першых дзедавых слоў Марыльцы стала ясна, што бежанец з-пад Гародні быў не хто іншы, як яе родны бацька...

Яна ўпала на калені старому і доўга ляжала, моцна рыдаючы і ўсхліпваючы.

Дзед не скора даведаўся, чаму так уразіў Марыльку яго расказ пра бежанца Міхала.

*1928 г.*

# ПАЎЛІК — КАМАНДЗІР

## I

У адзін з асенніх дзён сабралася ваенная школа на палявыя заняткі.

Дарма што зямля ад сырасці распаўзаецца, што на двары нявясёлая імжака,— курсантам на гэта не зважаць. Цяжка ў вучэнні — лёгка ў баі! Гэтую сувораўскую мудрасць яны ведаюць добра. Сёння ў іх мае быць самы гарачы дзень. Наступленне з атакай на варожыя ўмацаванні.

Па сігналу курсанты хутка пастроіліся ў шарэнгі. Да іх далучыліся гарматныя батарэі, эскадрон конніцы.

Грымнуў духавы аркестр, і начальнік школы, чарнавусы пажылы палкоўнік, скамандаваў:

— Шагам марш!

— Шагам марш! — падхапілі каманду камандзіры рот і ўзводаў.— Раз, два, тры!

— Грук, грук, грук! — застукалі па бруку сваімі цяжкімі ботамі курсанты.

— Тра-ра-рах! — загрукаталі гарматныя цягачы і двухколкі з кулямётамі.

— Лясь-лясь-лясь! — заляскалі падковамі жвавыя рысакі коннага атрада.

І стройная калона рушыла па мокрым няроўным бруку за горад.

## II

Паўлік як ніхто любіў слухаць ваенную музыку. Ды ўрэшце хто з хлапчукоў Паўлікавых гадоў можа заставацца глухім да яе?

Пачуўшы з хаты вясёлы паходны марш, ён борздзенька схапіў сваю куртачку, надзеў стары бацькаў шлем, свіснуў свайму неразлучнаму сябру рыжаму Мірціку і выскачыў на вуліцу.

Спачатку Паўлік ішоў тратуарам. Але чым далей, тым цяснейшым рабіўся тратуар: вельмі шмат ахвотнікаў было слухаць музыку лепшага ў горадзе духавога аркестра! Лю-

дзі спыняліся, збіраліся групкамі і загароджвалі Паўліку дарогу.

Пры такіх акалічнасцях, як кажуць, Паўлік лёгка мог бы загубіцца ў натоўпе і нічога цікавага не ўбачыць. Але не для гэтага ён выбег на вуліцу!

— Мірцік, шагам марш! — загадаў Паўлік свайму спадарожніку.

Ён вырваўся наперад і зашагаў па вуліцы амаль побач з начальнікам школы.

О, цяпер яму ніхто не перашкаджаў праводзіць курсантаў ваеннай школы за горад на вучэнне!

Мірціка пужаў незвычайны шум, натоўпы людзей, і таму ён ні на крок не адставаў ад свайго гаспадара. З Паўлікам, вядома, яму нідзе не страшна. Паўлік не раз абараняў свайго сябра ад нападаў на яго розных благіх хлапчукоў, і рыжы Мірцік гэта памятае.

Аўтобусы, рамізнікі, пешаходы — усе саступалі дарогу Паўліку і начальніку школы, за якімі рухалася цэлая ваенная часць. Ніхто Паўліка з вуліцы, вядома, не зганяў. Бо хто каму можа забараніць ісці па вуліцы! Праўда, начальнік школы хацеў быў спачатку даць каманду Паўліку збочыць на тратуар, але потым падумаў: малы не замінае, няхай сабе ідзе. Яму ж, відаць, гэта вельмі цікава.

Хутка Паўлік вывеў курсантаў за горад. Тут адкрылася перад імі шырокае пустое поле. Начальнік школы даў каманду, і ўся яго армія спынілася.

Спыніўся і Паўлік з Мірцікам. За дарогу ён намок, куртачка пацяжэла, са шлема капала за шыю. Рукі пакрэплі, і ён трымаў іх у кішэнях.

Але вось курсанты рассыпаліся па полі. З аднаго боку пастроіліся шарэнгі «белых», з другога — «чырвоных». «Чырвоныя» мусілі наступаць на «белых». Ад цікавасці і жадання ўсё ўбачыць Паўлік не ведаў, куды лепш кінуцца. Ён бегаў туды-сюды, стараючыся не прапусціць ніводнай важнай падзеі на полі бою. Цяпер яму стала не толькі цёпла, а нават горача. Куртку сваю ён расшпіліў, а шлем, каб не лез на вочы, трымаў у руках.

«Вось добра, што прыйшоў сюды, на самы палігон,— думаў шчаслівы Паўлік.— Будзе цяпер чаго расказаць сябрам — Віцю і Дзіму. Яны напэўна аж ахнуць ад зайздрасці...»

Пасля невялікай артылерыйскай падрыхтоўкі «чырвоныя» кінуліся ў атаку на «белых».

«Белыя» не здаваліся. З іх боку няспынна сакаталі кулямёты, стралялі з вінтовак. І атака хутка захлынулася: «чырвоныя» залеглі.

Паўлік страшэнна перажываў няўдачу «чырвоных». Ён жа сам не раз ваяваў з сябрамі на сваім двары і ведае, якая гэта крыўда быць пераможаным. Яму хацелася дапамагчы «чырвоным». Але як гэта зрабіць?

— Ура! Ура! — раптам зноў загукалі на ўвесь палігон «чырвоныя» і рынуліся ў атаку.

— Ура! Ура! — закрычаў і Паўлік ды, размахваючы шлемам, таксама кінуўся ў атаку на «белых».

«Ура» яго бадай ніхто і не пачуў, але не ў гэтым справа. Як жа можна было стаяць убаку і спакойна назіраць, як «чырвоныя» пад варожымі кулямі ідуць у бой?! І чым далей бег Паўлік, тым больш захапляў яго ваяцкі запал. Хутка ён страціў правільны кірунак і апынуўся ў баку ад наступаючых.

— Гэй, малы, з дарогі! — замахалі на яго курсанты, што беглі недалёка.

Азірнуўся Паўлік, аж бачыць: проста на яго імчыцца конніца!..

Гэта «чырвоная» кавалерыя выскачыла з-за горкі на дапамогу пяхоце.

Камандзір эскадрона першы ўбачыў Паўліка. «Не паспее малы збочыць»,— мільганула ў яго думка.

І ён падняў руку ўгору:

— Стой!

І сам рэзка тузануў за аброць. Толькі камякі размоклай зямлі паляцелі з-пад разгарачаных рысакоў. Эскадрон спыніўся траха не каля самага Паўліка. Мірцік яўкнуў і, калоцячыся, прыліп да Паўлікавых ног. Такога нападу на іх цэлага эскадрона ён не чакаў.

Што тут было рабіць? Сварыцца ці за вушы круціць малога?

— Ах ты, ваяка! — рассмяяўся камандзір эскадрона.— Ты ж нам усё наступленне сарваў! Ды і самога траха не растапталі. Бяжы дахаты!

Услед за камандзірам зарагаталі і курсанты. Пасыпаліся жарты.

— Ну і смяляка! Адзін цэлы эскадрон спыніў!

— А можа, гэта белы разведчык? Ён жа «белым» дапамог! Прыйдзецца яго ў палон забраць!

Але ў гэты час за блізкім хмызняком пачуліся гармат-

ныя стрэлы. Эскадрон ірвануўся наперад, туды, дзе грымела дружнае «ўра». А Паўлік кінуўся за хмызняк. Як жа можна страляць з гармат без яго?

## III

Калі школа вярталася з заняткаў, Паўлік зноў важна крочыў па вуліцы, а за ім грукала ботамі па бруку пяхота, тарахцела артылерыя, бразгалі падковамі коні...

Курсанты і іх камандзіры ўжо добра былі знаёмы з Паўлікам. Яны весела пасмейваліся, гледзячы на яго, і перашэптваліся:

— Хто ж у нас сёння камандзір: начальнік школы ці Паўлік? (Яны ўжо ведалі яго імя.)

— Ясна, што Паўлік,— адказвалі другія.— Ён жа нас на палігон вёў і назад вядзе...

І сам начальнік школы скупа ўсміхаўся ў свае густыя чорныя вусы.

А Паўліку хоць бы што. Шлёпае сабе па бруку мокрымі чаравікамі і падпявае ў такт маршу:

Вядзі ж, Будзённы, нас смялей у бой,
Хай гром грыміць,
Няхай пажар кругом, пажар кругом.
Мы ўсе адважныя героі,
І ўсё наша жыццё — барацьба...

Рыжы Мірцік спяшаецца ўслед за Паўлікам і часта наступае яму на пяткі.

*1930 г.*

# ВЫПАДАК НА ЧЫГУНЦЫ

(Апавяданне піянера)

Я вельмі люблю рэчку. Яна — лепшы для мяне прыпынак. І калі б маці не клікала ўдзень на ўсю ваколіцу: «Па-а-а-ўлік, абе-е-даць!», дык я мог бы дацямна не варочацца.

Хата мяне не вабіць так, як рэчка. Стаіць яна адна сярод чыстага поля. Ні табе пагуляць з кім, ні пагаварыць. Адно, што мне падабаецца,— паязды. Як дзень, так і ноч ідуць яны ды ідуць. І ніколі ніводзін не спыніцца. Падасць голас, прывітае бацьку з яго сцяжком і пачахкае недзе аж на граніцу (яна ад нас не так далёка). З вокан махаюць рукамі пасажыры, а я ім.

Рэчка ад нашага блокпаста за ганок трое. Яна нешырокая, з нізкімі берагамі, якія густаараслі явaрам, сітнягом і чаротам. Плыве сабе, як у вянку. Толькі сям-там бераг крыху ўзвышаецца, і зусім рэдка дзе ўбачыце на беразе пясок. Затое скрозь растуць кусты лазы, ракіты і алешніку.

У высокім куп'і на балоце і ў кустах водзяцца розныя балотныя птушкі — бакасы, кулікі, кнігаўкі, качкі... Ідзеш, бывае, балотам, высока падымаючы ногі, і раптам — фррр! з-пад самых тваіх ног. Расхінеш траву, а там — гняздзечка з яечкамі або птушаняткі рассыплюцца, як гарох, хто куды. Птушка-маці кружыцца вакол, ціўкае, небарака, хоча дзяцей абараніць.

Ды па мне магла б і не турбавацца! Я — не птушкалоў, а рыбак. І такі, якога пашукаць, як кажуць. У мяне аж пяць вудаў — і з малымі кручкамі, і з большымі, і нават адна на шчупака з вялізным кручышчам. Для ракаў у мяне ёсць адмысловая сетка. Словам, цэлая рыбацкая гаспадарка.

Праўда, рыба ўсё ж дрэнна ловіцца. Гэта, здаецца, адзіны недахоп у маёй рыбацкай справе. Ці то рэчка вінавата, ці вуды — не ведаю, але ўловам надта пахваліцца не магу. Галаўні і язі — рыба хітрушчая, падмануць яе не лёгка, акунёў трэба шукаць, і яны таксама не вельмі, відаць, дурныя: не хочуць брацца. Самая чыстая работа — печкуры і яршы. Гэтых дык лаві, колькі хочаш.

Але зусім не аб гэтым — аб другім хачу я расказаць.

Было яно так.

Паснедаўшы, я падаўся на рэчку лавіць занаджаных акунёў: цэлую банку чарвей усыпаў ім нанач.

Сяджу, лаўлю. Пагода слаўная. Сонца прыпякае, як перад дажджом. Неба чыстае, нібы шкло. На беразе разгыкаліся авадні і сляпні. Яны так і наровяць жыгануць цябе знячэўку. Адганяю я іх, а сам з паплаўка вачэй не спускаю. Акуні клююць слаба: відаць, не галодныя. Праўда, за гадзіны дзве я ўсё ж вывудзіў з пяток акуньчыкаў. Ладныя такія, плёхаюцца ў збанку, радуюць маё рыбацкае сэрца.

Толькі гэта затрапятаўся быў у мяне паплавок (відаць, нейкая рыбіна абнюхвала чарвяка), як нехта падышоў ззаду, і я агляну ўся.

— Клюе? — запытаў чалавек, які падышоў.

— Не вельмі,— кажу.

Я прыгледзеўся лепш: твар чалавека быў мне зусім незнаёмы. У правай руцэ ён нёс вуды. На ім быў стары, не раз латаны касцюм, на галаве — такая ж падраная шапка. На непрыгожымваспаватым твары тарчаў вялікі, як добрая дуля, чырвоны нос. Цяжка было сказаць — гарадскі гэта чалавек ці вясковы, стары ён ці малады (замест вусоў і барады на яго жоўтым твары скрозь расло кароткае рыжае шчацінне),— але агульны выгляд яго наводзіў на мяне страх. Адны толькі вуды сведчылі, што гэта свой брат — рыбак. Рыбакоў я паважаю. Яны хоць і рэдка, але наведвалі гэты глухі, зацішны куток.

Незнаёмы рыбак кінуў у траву свае вуды, падняў мой збанок.

— Акуні?

— Ага,— кажу,— акуні.

Потым ён прысеў на карачкі і ўтаропіўся на паплавок. Рыбіна, якая забаўлялася прынадай, адпусціла паплавок. Нейкі час ён злёгку пакалыхваўся на ціхай люстранай гладзі ракі. Потым раптам кульнуўся, даючы нырца.

— Цягні,— параіў незнаёмы рыбак.

Я шмаргануў за вуду і выкінуў на бераг невялічкага акуньчыка. Незнаёмы жыва ўсхапіўся, зняў з кручка акуньчыка і, папляваўшы на яго, укінуў у збанок. Мяне здзівіла, а разам з тым і спадабалася ўслуга старога рыбака. Мне ўжо стала здавацца, што ён нават і не такі страшны. Што ж, рабы, і толькі.

— Ты адкуль, хлапак? — запытаў ён праз нейкі час.

Я адказаў.

— А вы, мусіць, не з тутэйшых будзеце? Блізкіх рыбакоў дык я ведаю бадай усіх,— запытаўся і я ў сваю чаргу. Дзядзька, здаецца, лагодны. Можна скарыстаць выпадак і пагаманіць троху.

Рабы, не гледзячы на мяне, адказаў:

— Я тут да аднаго прыехаў...

— Куды?

— Ды вунь у вёску,— паказаў ён рукою.

— У Зазер'е?

— Але... Дык паспрабаваць хіба, ці што?

— Спрабуйце,— кажу, хоць мне і не хацелася гэтага, бо месца ў мяне занаджана, а рабы, відаць, рыбак не мною будучы: возьме ды вывудзіць усіх маіх акунёў...

— Да каго ж вы прыехалі? — пацікавіўся я.— У Зазер'і ў мяне многа знаёмых. Я ў школу зімою туды хаджу.

Рабы закашляўся. Потым прамармытаў пацішу пад нос сабе:

— Да Васіля...

— Канцавога, можа? — перапытаў я.

— Канцавога... Канцавога...

На гэтым наша знаёмства скончылася.

Рабы ўсё ж, на маю радасць, не стаў лавіць маіх акунёў. Ён адышоўся крыху ўбок.

Але неўзабаве вярнуўся зноў. У руцэ ён нёс вялізную плотку. Падышоўшы, ён укінуў плотку ў мой збанок і сказаў:

— Няхай табе будзе. Што я з аднае рабіць буду?

Я падзякаваў.

Ён прысеў і пачаў гаварыць. Усё распытваў. Відаць, што чалавек не тутэйшы. Найбольш яго цікавілі паязды — колькі разоў на дзень ходзяць, якія і калі ідуць. Недалёка ад нас, за лесам, ваенны гарадок. Я быў там разы са два. Дык ён як прычапіўся да мяне з гэтым гарадком! І колькі там войска, і ці ёсць гарматы, і ці ходзяць сюды ваенныя паязды... Я нічога толкам не ведаў. Мяне аж злосць пачала разбіраць на яго. Прычапіўся як смала. Вось якія цікаўныя людзі бываюць на свеце! А няхай іх з такімі людзьмі!..

Удзень маці паклікала мяне на абед. Я развітаўся з рабым і ахвотна пайшоў дадому. Нагаварыўся, хопіць.

* * *

На другі дзень рабы прыйшоў зноў. Ён падгаварваў мяне пайсці з ім у ваенны гарадок. «Я,— кажа,— сам быў ваенны, дык мяне да ваенных і цягне. Цікава ўсё ж паглядзець, як там і што».

Мне зусім не хацелася цягацца з-за яго. Я сказаў, што маці мяне адпусціла толькі на хвілінку, што мне трэба памагаць ёй палоць грады. Рабы згадзіўся. «Тады другім разам,— кажа,— сходзім».

Я нічога не адказаў. У мяне чамусьці мільганула нядобрая думка пра гэтага чалавека. Вельмі ж ён усім цікавіцца. Тут жа я парашыў сам сабе схадзіць у Зазер'е праведаць, хто ён і што. Можа, думаю, шпіён які ўнадзіўся хадзіць да мяне. У Зазер'і, апрача гэтага, у мяне былі іншыя справы.

Назаўтра на рэчку я не пайшоў. Не хацелася болей сустракацца з рабым. Ён мне і так надакучыў сваім прыставаннем.

У Зазер'е я выбраўся пасля абеду. Выйшаў на чыгунку і пайшоў збоку гладкаю сцежкаю. Зімою я таксама сюдою хадзіў.

Ісці было лёгка і прыемна. Рэйкі аж блішчаць пад сонцам. Абапал чыгункі сенажаці з кустамі і пералескамі. Пахне кветкамі і зелянінай. Цёплы свежы ветрык шчыкоча твар.

Іду я, насвістваючы матывы любімых песень. Асабліва мне падабаецца: «Па дарогах знаёмых за любімым наркомам мы каней баявых павядзём...» І здаецца, што я насвістваю не матыў, а свістам вымаўляю гэтыя словы.

Я жыва ўяўляю гэты малюнак і сябе адным з кавалерыстаў. Мне здаецца нават, што я еду проста ўслед за самім наркомам. Конь аж гарцуе пада мною ў такт марша.

У адным месцы яшчэ здалёк заўважыў я, што бліскучая пад сонцам рэйка нібы пакрывілася. Падыходжу бліжэй, так і ёсць: рэйкі на месцы стыку расшрубаваны і крыху ссунуты ў бакі...

У мяне ўсё закалацілася ўсярэдзіне. Кола не пройдзе праз гэтую пастку. Для мяне гэта было ясна. Тут жа я ўспомніў, што бліжэйшы поезд па гэтай лініі павінен быць пасажырскі... Але ж ён не скора яшчэ прыйдзе. Мяркуючы па сонцы, яшчэ гадзіны тры да яго прыходу. Можна паспець збегаць дамоў сказаць бацьку, каб паправіў рэйкі.

Ворагам не даждацца крыві нашых людзей! Звяры! Вось чаго яны захацелі!

Я завярнуўся і хутка пабег назад. Першае хваляванне мінала. Апрача ўсяго, у мяне на шыі гальштук, і, калі б нават паказаўся поезд знячэўку, можна было б яго спыніць.

Не паспеў я адбегчыся шагоў сотню, як раптам дарогу мне перагарадзіў знаёмы рыбак. Ён вынырнуў проста з кустоў. У руцэ яго былі знаёмыя мне вуды.

— Ты куды так ляціш? — затрымаў ён мяне.

— Дамоў,— кажу,— рэйка там...

Тут я схамянуўся і пакаяўся за неасцярожнасць.

«Можа, гэта ён сам і зрабіў»,— падумаў я.

— Што рэйка? — запытаўся рабы, падступаючыся бліжэй.

— Нічога... Дамоў мне трэба хутчэй...— адгаварыўся я і адступіўся ўбок.

Але ў тую ж хвіліну адчуў, што каўнер маёй кашулі затрашчаў у руках рабога.

— Мне няма калі!.. Пусціце!..

Я глянуў у вочы рабому. Што ён — жартуе ці напраўду? Але гэты погляд не абяцаў мне нічога добрага. Твар яго быў страшны, вочы лютыя. Я задрыжаў усім целам і пачаў крычаць: «Пусці! Я бацьку скажу!..»

Рабы сапхнуў мяне з чыгункі і пацягнуў у кусты. Не паспеў я апамятацца, як ён паваліў мяне і запхнуў у рот нейкую анучу. Я не даваўся як мог, пакусаў яму рукі. Але рабы стукнуў мне нечым цвёрдым па галаве, і я страціў прытомнасць.

Калі я прыйшоў да памяці, дык зноў убачыў перад сабою рабога. Ён сядзеў на купіне і курыў. Я хацеў устаць, але рукі і ногі мае былі звязанымі. Я стаў качацца па траве з заплыўшымі ад слёз вачыма. Крычаць і прасіцца я не мог: у роце ў мяне ўсё яшчэ была ануча.

Рабы, выкурыўшы папяросу, падышоў да мяне, капянуў нагою ў бок і сказаў:

— Выбірай, шчанё: або ў балоце гніць, або правядзеш мяне, а там я адпушчу цябе...

Цяпер мне і без высвятлення было ясна, хто такі мой знаёмы рыбак. Я не сумняваўся, што ён будзе здольны на тое, каб пакінуць мяне ў балоце гніць.

Што ж, прыйшлося згадзіцца стаць у рабога праважа-

тым, як гэта ні цяжка было. Выходзіла, што я павінен дапамагаць бандыту...

— Толькі ведай,— сказаў ён,— ты будзеш ісці са мною поруч. Уцякаць — нават і не думай. Бачыш гэтыя цацкі,— ён паказаў мне рэвальвер і фінку,— не адна, дык другая дагоніць. Калі хто трапіцца па дарозе і будзе што пытаць — адказваць не смей. Я адкажу сам. Чуеш?

Рабы развязаў мне рукі і ногі, дастаў з рота анучу. Ад хвалявання ў мяне не траплялі зуб на зуб.

А як жа поезд? Я глянуў на сонца. Быў адвячорак...

— Добра, пайду,— сказаў я рабому,— толькі папраў рэйкі. Поезд хутка будзе тут... Пасажырскі... там жа людзі...

Але рабы не даў доўга мне размаўляць. Ён зноў стукнуў мне кулаком у патыліцу, і я паляцеў старчма ўперад.

— Пайшлі,— сказаў ён,— і помні: адзін рух убок, і ты...

Ён не дакончыў сваёй пагрозы, ды мне і так было ўсё ясна.

У мяне млелі і падгіналіся ногі. У галаве стаяў незвычайны шум. Мне пачалі здавацца жахі крушэння. Цяпер яно немінуча...

Я хапаўся за ўсякую думку, якая магла абяцаць якінебудзь ратунак. «Рабы спадзяецца ўзяць мяне страхам. Няхай не вельмі-то спадзяецца!» — думаў я.

Спачатку мы ішлі балотам. Навокала пуста. Ні жывой душы. Сенажаці яшчэ стаялі некранутымі. Далёка на полі відаць былі дзве жанчыны. Яны, мусіць, палолі, бо працавалі сагнуўшыся. Рабы не пайшоў на іх. Ён абмінуў і дарогу, а пайшоў цераз поле разораю ў бок лесу.

Гэты манеўр разбіваў мае надзеі. Значыць, ён хітруе і не вельмі спадзяецца на мяне. Аднак я ведаў, якую раблю яму паслугу: са мною ды яшчэ з вудамі ніхто і не палічыць яго падазроным. «Лепш праваліцца б скрозь зямлю, чым быць слугою бандыта»,— думаў я.

На дварэ вечарэла. Рабы, мабыць, сабраўся ўцякаць гэтай ноччу за граніцу. Ліха яго ведае.

Я глядзеў на ўсе вочы. Няўжо не трапіцца ніхто з людзей? Здалёк па дарозе — бачыў я — людзі ездзяць і ходзяць. Але ж не паспееш ступіць і шагу, як рабы затрымае. Ён не спускае з мяне вока.

У лесе было спакойна. У адным месцы толькі стрэлі траіх дзяцей з кошыкамі ягад. Яны падзівіліся на нас і

пайшлі сваёй дарогай. Вось каб маглі ведаць яны мае думкі! Каб маглі расказаць за мяне аб падрыхтаваным крушэнні!

Я разрываўся ад жалю. Мо гэта была адзіная магчымасць выратаваць людзей, і я вымушан так лёгка траціць яе. Пакуль я разважаў так, дзеці былі ўжо далёка. Слёзы пакаціліся па маім твары. Потым я не стрымаўся і заплакаў наўзрыд. Рабы паказаў мне фінку, прыгразіўшы: «Перастань, а не — ты больш мне не патрэбен...»

Мы ішлі доўга, пакуль зноў не паказалася поле. На гарызонце за ім чарнелася сцяна другога лесу. Там недзе і была граніца, па маіх меркаваннях.

Раптам рабы спыніўся, схапіўшы мяне за рукаў. У тую ж хвіліну я ўгледзеў недалёка двух ваенных коннікаў, якія пад'язджалі да лесу. З-за жыта мне было відаць толькі, як яны падскоквалі ў сёдлах. Коні беглі трушком. Рабы, відаць, разгубіўся. Каб не выклікаць падазронасці, ён павольна пайшоў ускрайкам лесу ў бок дарогі.

Коннікі ўязджалі ў лес, не звяртаючы на нас увагі. І ў той момант, як яны вось-вось гатовы былі знікнуць за першымі дрэвамі, я на ўсю сілу рвануўся ўперад. Рабы не чакаў гэтага. Разгубіўшыся, ён выпусціў мяне з рук.

— Ратуйце! — нема крыкнуў я.

Коннікі спыніліся. Для іх мой крык быў незразумелы. Яны чакалі, мабыць, пакуль я сам прыбягу і раскажу толкам, чаго хачу.

Але я не дабег. Ззаду грымнуў стрэл. Куля прасвістала ў мяне над самай галавой. Мне здалося, што яна прабіла мяне навылёт. Я ўпаў. У гэты час каля мяне віхрам прамчаліся коннікі-пагранічнікі. Потым я бачыў, як яны пасаскоквалі з коней і з вінтоўкамі ў руках пабеглі ў глыб лесу. «Стой! стой!...» — чуліся адтуль іхнія выкрыкі.

Апамятаўшыся, я ўсхапіўся і кінуўся наўздагон за пагранічнікамі. «Поезд трэба ратаваць, калі не позна...» — думаў я.

Праз хвілін пяць я знайшоў іх у гушчары лесу. Яны абшуквалі рабога, які сядзеў на зямлі з падстрэленай нагой і з паднятымі ўверх рукамі. Не зважаючы на яго, я ў некалькіх словах расказаў пагранічнікам аб падрыхтаваным гэтым бандытам крушэнні поезда недалёка ад блокпаста... Трэба зараз жа імчацца конна на блокпост. Можа, яшчэ не позна...

Выявілася, што пагранічнікі не ведаюць прасёлачнай дарогі да нашай хаты.

— Я паеду з вамі! — кажу я.— Толькі хутчэй.

Пагранічнікі згадзіліся.

— Пачакай, Грыша, тут, вартуй,— сказаў адзін з іх свайму таварышу.

Пагранічнік памог мне ўсесціся на каня, сам сеў на другога.

— Валяй! — сказаў ён.

Дарога была мне знаёмая. Мы паспелі адысціся не больш дзесяці кіламетраў. У гэты лес мы часта прыходзілі па арэхі.

Я тузануў каня за павады, загалёкаў, і ён ірвануў наўгалоп, чуць не зваліўшы мяне з сядла: ногі мае не даставалі страмён.

— Зніміце сядло! — крыкнуў я пагранічніку, спыняючы каня.— Так лепш будзе. У сядле я не ўмею.

Ён зразумеў.

Без сядла я адчуваў сябе вельмі добра. Абчарэпіў каня нагамі пад бакі і моцна ўплёўся рукою за грыву.

Ездзіць конна я вялікі ахвотнік, хоць мне і рэдка траплялiся такія выпадкі. Прыходзілася ўпрошваць вясковых пастушкоў, каб далі праехаць на кані.

Сонца ўжо было на захадзе. Над палямі павеяла вячэрняй прахалодай. Я адчуваю, як сэрца маё б'ецца ўсё мацней. Конь ляціць на ўсю выскачку. Бакі яго зрабіліся мокрымі. Пагранічнік коціць за мною ўслед. На шырэйшай дарозе ён падроўніваецца і ідзе поплеч. Праязджаючы ў адным месцы каля пасёлка, я падумаў быў аб тэлефоне. Але парашыў, што ў выпадку няўдачы можна рызыкаваць патраціць лішні час.

Апошняя дарога, куды мы звярнулі, вядзе проста праз наш блокпост. Яшчэ здалёк я заўважыў адкрыты шлагбаум. Значыць, усё скончана. Позна! Звычайна за хвілін дзесяць да прыходу поезда шлагбаум бывае закрыты. Справа ясная...

З гарачкі я не заўважыў нават падазронага спакою каля хаты.

Бацька выбег з хаты, калі ўбачыў нас ужо на двары. Ён раскрыў рот, хацеў штосьці сказаць, ды так і не мог вымавіць ад здзіўлення. Коні нашы былі ў мыле, цяжка дыхалі. Самі мы былі страшэнна ўсхваляваны, расчырванеліся ад хуткай язды.

— Поезд прайшоў? — крычу я здзіўленаму і, відаць, перапалоханаму бацьку.

Бацька глядзіць то на мяне, то на пагранічніка.

— Што з табою? Адкуль вы?..— пытаецца ён нарэшце замест адказу.

Я ледзь растлумачыў яму, чаму гэта нас цікавіць.

— Поезд пройдзе праз дванаццаць хвілін,— можаце быць спакойны,— глянуўшы на гадзіннік, кажа павесялеўшы бацька.— Яшчэ паспеем спыніць.

У мяне ўвесь цяжар зваліўся з сэрца. З радасці я кінуўся бацьку на шыю, нібы гэта ён быў прычынай таго, што поезд яшчэ не прыйшоў.

* * *

Праз некалькі дзён я атрымаў пісьмо. У ім камандаванне N-скай пагранчасці абвяшчала мне падзяку за дапамогу ў затрыманні буйнага шпіёна і дыверсанта адной суседняй замежнай дзяржавы. А кіраўніцтва чыгункі апрача падзякі прыслала прэмію, аб якой я нават і не сасніў бы ніколі. Спінінг! Для такога заўзятага рыбака, як я, гэта было даражэй за ўсе прэміі на свеце.

Цяпер я не лаўлю яршоў і пячкуроў. Дробязь! Ці варта час траціць? На днях я злавіў спінінгам шчупака кілаграмаў са два вагою. Вось гэта дык рыбка!

*1937 г.*

# ПАНСКІ ЯБЛЫК

На занятках гуртка хатніх гаспадынь бабку Палагею папрасілі расказаць пра сваё жыццё. Агітатар Платон Сцяпанавіч зрабіў перад гэтым даклад аб тым, як цяжка жылося працоўнаму народу раней і чаго мы дасягнулі зараз за час Савецкай улады.

Бабка Палагея хоць была па натуры і гаваркая, усё ж аднеквалася.

— Ці ж патраплю я добра расказаць? — прагаварыла яна, калі ўсе падрыхтаваліся слухаць.

— Не скромнічайце, Палагея Іванаўна! — падбадзёрваў яе агітатар, дабрадушна ўсміхаючыся.

Бабка Палагея хвалявалася. Яна думала, з чаго б ёй пачаць. Не ішло на язык першае слова. Дома яна не раз расказвала пра сваё жыццё. Там гэта было проста і лёгка. А тут жа яе будзе слухаць цэлы сход!

— Дзе вы нарадзіліся, Палагея Іванаўна, і дзе жылі ў маленстве? — запытаўся агітатар.

Бабка павесялела. Знайшлося першае слова!

— Нарадзілася,— хутка адказала яна,— у маёнтку пана... бадай яму калом зямля! Забылася, як зваць свайго першага пана. Шмат я іх ведала. Не ўпомніш усіх. Ні то Цыбульскі, ні то Янульскі — ды ліха з ім! Гад быў печаны, як і ўсе яны, паны. Паганы, як яго сабакі. Памятаю, было мне, каб не салгаць, гадоў сем ці восем. Жылі мы зусім бедна. Андынары[1] панскай не хапала. А дзяцей нас было шмат. Улетку карміліся чым папала. Хлеб з мякінаю елі, шчаўе, лебяду варылі. Яблыкі, дык тыя, вядома, ласункам былі для нас. Іх можна было перахапіць часамі каля плота панскага саду: некалькі яблынь стаяла блізка ад плота, і яблыкі, падаючы, траплялі на дзядзінец.

Аднойчы ранічкай пабегла я ападкаў шукаць. Агляну-лася сюд-туд — не відаць. Бачу: раса патаптана, ну, значыць, падабралі ўжо без мяне. Не адна ж я ласавалася імі.

Крыўдна стала ад няўдачы. І есці так хацелася, што

[1] Андынарыя — месячная плата за работу збожжам.

хоць лопух грызі. Пакуль некалі маці наварыць якой лебяды — не дачакаешся!

Я ніяк не магу адарвацца ад гэтага месца. Тупаю, як навязаная. Прыглядаюся каля самага плота. Плот быў з дошак і не вельмі шчыльны. Раптам у адной шчыліне, амаль не паміж дошак, убачыла спелы чырвоны яблык з салодкай яблыні. У мяне дух захапіла. Дастаць ці адысціся? Стаю, як зачараваная, вачэй не магу ад яблыка адарваць. А гэта ж так лёгка дастаць яго! Варта толькі нагнуцца і працягнуць руку. «Вазьмі, дурная! Ён жа такі смачны, салодкі...» — здаецца, шэпча мне нехта.

Чым больш я стаяла і любавалася яблыкам, тым больш мне хацелася дастаць яго. Я не думала ў гэты час ні пра вартаўніка, ні пра аканома, ні нават пра самога пана.

Што ж мне рабіць? Асцярожна нагінаюся. Нясмела пасоўваю руку да плота, потым у шчыліну і — пальцы мае дакранаюцца яблыка! Сэрца як не выскачыць! Выхватваю руку з яблыкам, а яна назад не пралазіць.

Расчараваная, я выпускаю з рукі такую каштоўную здабычу!

«Не, я павінна дастаць яго!» — думаю сабе.

Цяпер ужо, калі яблык быў у маёй руцэ, мне цяжка з ім разлучыцца.

Я спрабую выгортваць яблык пальцамі. Гэта было нялёгка, і я шмат часу, мусіць, забавілася. Але вось як праз сон чую панскі голас:

— Кусі, Палкан!

Я ўсхапілася і аглянулася. Куляючыся, як мядзведзь, проста на мяне ляцеў панскі Палкан, вялізны злы сабака. Ад страху я нема крыкнула, а потым нічога і не памятаю.

Казалі, што калі пан адклікаў сабаку, я сама не ўстала. Парабкі пазвалі бацьку, і ён забраў мяне паўмёртвую, пакусаную. Бацька не вытрымаў, нешта недалікатнае сказаў пану. За гэта пан выгнаў нас, і мы паехалі шукаць другога пана.

Бабка Палагея спынілася, глянуўшы на агітатара. Хопіць ці яшчэ расказваць? Але ўсе слухачы былі моцна ўражаны пачутым і дружна папрасілі бабку расказаць, як яна жыла потым.

Цяпер, увайшоўшы ў ролю, бабка не аднеквалася. Яна расказала, як страціла ў дзесяць гадоў матку. Як, нарэшце, усё ж яна вырасла вялікай і выйшла замуж за парабка. Як цяжка ёй было гадаваць дзяцей і як дажыла да таго,

што яна, сямідзесяцігадовая бабуля, можа выбіраць у Вярхоўны Савет рэспублікі дэпутатаў.

Расчулены агітатар шчыра паціснуў бабцы руку і сказаў:

— Я не памыліўся, Палагея Іванаўна! Вы маеце што і ўмееце расказваць! Я спадзяюся, што вы не горш раскажаце ўсё гэта і на раённым сходзе. Мы так і запішам. Я спадзяюся.

На гэты раз бабка Палагея не адмаўлялася.

*1938 г.*

# АПОРКІ

(З мінулага Заходняй Беларусі)

Лаўрэн з сям'ёй жыў наводшыбе, у канцы вёскі. Ніхто яго не лічыў за гаспадара, а яго хату — за гаспадарку. «Куткавы» Лаўрэн, «бабыль»,— такім ведалі і так звалі яго ў ваколіцы. Нават прозвішча сапраўднага яго ніхто бадай не ведаў. Ды, папраўдзе, і не патрэбна яно было нікому. Зямлі ў Лаўрэна не было, жывёла не вадзілася, на сходы грамадскія ён не запрашаўся,— і ніхто ім вельмі не цікавіўся.

А жыў Лаўрэн з мазаля: хадзіў па багатых шляхецкіх хутарах, рабіў, што траплялася, і зарабляў, што ўдавалася. Зімою мёрз, улетку пёкся. Так і жыў.

Адзінаю ўцехаю ў жыцці куткавога Лаўрэна быў сынок Міхаська. Двое меншых дзяцей ён пахаваў,— не ўзняліся яны на ногі ў голадзе ды холадзе. А Міхаська сяк-так выкідаўся, акрыяў.

Усё жыццё змагаючыся за кавалак хлеба, Лаўрэн марыў цяпер аб лепшай долі для сына. Хаця б не давялося ісці яму бацькавым следам... І як толькі споўнілася Міхаську восем гадоў, бацька паслаў яго ў школу. Сам Лаўрэн граматы не ведаў, і праз гэта, думаў ён, такая яго горкая доля. Міхаська ж павінен ведаць грамату, і тады мо святлейшая дарога адкрыецца яму ў жыцці.

Цешыўся гэткаю прывабнаю думкаю куткавы Лаўрэн і марыў употай дачакацца лепшых дзён хоць на старасць, калі сын стане яму апорай. А калі Міхаська пачаў бегаць у школу ды пакрысе чытаць буквар, бацька павесялеў яшчэ больш. Доўгімі асеннімі вечарамі любіў сядзець ён з сынам за газнічкаю, слухаючы яго расказы аб школе або чытанне з буквара. Школа, праўда, была польская і буквар польскі, і цяжка было Міхаську разабрацца ў такой грамаце: не так гаварылі ў іх сям'і і на вёсцы, і таму большай палавіны з прачытанага ён не разумеў. Праз гэтае ж з першых дзён пазнаўся ён з пякучаю лапаю і з калючаю жарствою... Ды цярпеў пакорліва Міхаська, нават бацьку не скардзіўся, баючыся, каб не забралі яго са школы. Ён толькі часцей і часцей звяртаўся да бацькі за дапамогай: бродзячы ўсё жыццё па шляхецкіх засценках і хутарах,

бацька збольшага прывык да тых слоў чужое мовы, якія для Міхаські былі пустымі гукамі. Непісьменны Лаўрэн такім чынам стаў першым настаўнікам сына. Гэта таксама скрашвала яго нуднае беспрасветнае жыццё.

Так ішлі дні за днямі.

* * *

Міхаська прачнуўся ад непрыемнага холаду. На дварэ яшчэ толькі развідніваласяя. Туманна-змрочнае святло перадкаляднай пары ледзь прабівалася ў хату. У хаце было, як у лядоўні. Сям'я спала на палацях на саламянай падсцілцы. Міхаська спаў між бацькамі, і яму было цяплей. Але, калі бацькі паўставалі, ён адзін не мог сагрэцца, хутка азяб і прачнуўся.

Ён хацеў павярнуцца на другі бок і глыбей зашыцца ў салому, як пачуў гаворку бацькоў:

— Няхай мо пабудзе сёння дома? — гаварыла маці.

— А заўтра? — відаць, не згаджаўся бацька.

— Заўтра відней будзе...

Голас у маткі ціхі і плаксівы. Яна заўсёды так гаворыць. Міхаська не памятае, калі маці была весялейшай. Яна або думае аб нечым, або паціху плача. Яна скардзіцца на гора. Міхаська, вядома, разумее, што такое гора. Ён не маленькі. Гора — гэта тое, што ў хаце няма палена дроў, а на стале скарынкі хлеба. Гора — гэта тое, што і сама хатка спарахнела і ледзь ліпіць. Мароз раскашуецца ў такой хатцы, як гаспадар. Такое гора кожны зразумее. Міхаську хочацца зрабіць нешта такое, каб не было ў іх гора. Ён часта аб гэтым марыць. І ў марах заўсёды лёгка перамагае гэтае праклятае гора.

Зараз Міхаську не цяжка было здагадацца, што размова ідзе аб ім. «Чаму б гэта пабыць дома?» — падумаў ён. Але тут жа ўспомніў: учора ён вярнуўся са школы амаль босы — ад лапцей засталіся адны аборы і некалькі вушак. Анучы таксама ўшчэнт распаўзліся.

Міхаська прыўзняў галаву. Бацька стаіць, як здань, каля нізкага акенца. Высокі, худы, з упалымі грудзямі, праз меру згорблены. На ім падраны суконны халат і апоркі. Доўгія валасы ўскудлачаны, абсыпаны саламянаю пацярухаю. Ён нейкі час маўчыць, насупіўшыся, потым адварочваецца на хату.

— Параіла,— злосна сплюнуў ён у качарэжнік.

— Дык мо і зусім няхай сядзіць дома? — зноў загаварыла маці.

Бацька нічога не адказаў.

Але тут Міхаська не вытрымаў. Ён і чуць не хоча, каб пакінуць школу. Гэтага не можа быць.

Нарэшце выхад быў знойдзены. Канечне, Міхаська павінен вучыцца. Аб гэтым даўно перадумана і перагаворана ў сям'і. А сёння ён пойдзе ў школу ў бацькавых апорках! Такую раду прыдумаў бацька. Міхаську завядзе ў школу маці — балазе ў яе ліпяць яшчэ лапці,— апоркі на дзень яна забярэ назад, каб бацька мог пайсці ў іх на работу. А ўвечары, калі вернецца бацька, маці сходзіць па Міхаську. У школе ён перабудзе босы. Там цёпла, не так, як дома. Хоць босы, абы вучыцца.

Пасля такой рады ў хаце пасвятлела: і ад таго, што стала відней на двары, і ад таго, што Міхаська ўсё ж пойдзе ў школу.

Апоркі, аб якіх ішла размова, былі бязлітасна разбітыя і зношаныя. Але бацька шанаваў іх і клапаціўся аб іх не менш, чым аб хлебе. Гэта было ўсё з абутку, у чым ён мог выйсці з хаты, каб пашукаць якой выпадковай работы.

* * *

Школа была на хутары, у доме заможнага шляхціца. У яго былі два новыя прасторныя дамы, і адзін з іх ён ахвотна аддаваў у арэнду пад школу, бо, апрача арэнднай платы, меў і шмат выгад: зімою вучні рэзалі яму дровы, сечку, насілі ваду, вясной ураблялі агароды.

Маці прывяла Міхаську ў школу, зняла з яго ног апоркі.

— Хаця каб не прастудзіўся ты, сынок? — сказала яна трывожным голасам.

— Не прастуджуся, мама,— абнадзеіў яе Міхаська.— Толькі не пазніся глядзі. Як пачне змяркацца, дык і прыходзь.

Міхаська быў весялейшым, чым звычайна. Ён больш за бацькоў радаваўся знойдзенаму выхаду. Вучыўся ён з ахвотаю і стараўся як мог. Ды і весялей усё ж у цёплай школе. Тут нават голад не так адчуваеш, як дома.

Вучні, якія былі ўжо ў школе, здзіўлена пазіралі то на Міхаську, то на яго маці. Але вось маці выйшла, і ў тую ж хвіліну раздаўся піскілівы рогат другакласніка Юзэфа.



3 Зак. 2344

— Басяк! Басяк! Хлопцы, пашчыкатаць пяткі. Гэй!

Юзэф, як каршун, накінуўся на Міхаську, за ім і ўся яго хеўра. Школа напоўнілася шумам і крыкам.

Юзэф у школе быў галоўным заправілам. Ён меў нямала сваіх прыхільнікаў, сяброўства якіх падтрымлівалася больш страхам перад ім, чым шчырай да яго прыязню. Юзэф першая асоба пасля настаўніка: ён — сын мясцовага хутаранца, апрача таго — загадвае жарствой... Словам, ад яго шмат чаго залежыць у школьным жыцці.

Міхаська страшэнна не цярпеў шчыкоткі. Спачатку ён спрабаваў адбрыквацца, потым крычаць нема, пасля, сціснуты з усіх бакоў, мог толькі пішчаць нешта невыразнае. Нарэшце ён стаў адчуваць, як некуды правальваецца, галава закружылася, і ён страціў прытомнасць.

Калі, нацешыўшыся, Юзэф выпусціў Міхаську, ён не падняўся з падлогі. Бледна-сіні, з выразам пакуты, твар яго быў падобны на твар мерцвяка. Губы сутаргава сціснуліся. Худое, шчуплае цельца было нерухомым.

Юзэф спалохана заміргаў вачыма. Яго прыяцелі адскочылі далей, нібы іх тут і не было.

— Вады! — крыкнуў хтосьці з гурту дзяцей.— Зашчыкалі.

Дзеці, якія спачувалі Міхаську, тут жа сілай разнялі яму рот і ўлілі вады. Міхаська апрытомнеў. Усё яшчэ лежачы на падлозе, ён здзіўлена глядзеў на акружыўшых яго дзяцей, нібы штосьці сілячыся ўспомніць. Але ў клас увайшоў настаўнік, і ўсе кулём кінуліся да сваіх парт.

— Добры дзень, пан настаўнік! — хорам зазвінелі з усіх куткоў галасы.

Настаўнік строгай хадою важна шагае да стала. Гладка выгаленая лысая галава яго блішчыць, як вычышчаны медны самавар. Вусы старанна закручаны. Пад пахай у яго тоўсты класны журнал.

Міхаська ўсхапіўся з-пад ног настаўніка. Настаўнік, які дагэтуль не заўважаў Міхаську, раптам спыніўся. Яго мышастыя вочы, глыбока запалыя пад светлымі бровамі, злосна заміргалі, вусы заторгаліся, рот павольна пачаў разяўляцца:

— Гэта што яшчэ?

Перапалоханы Міхаська подбегам падаўся да сваёй парты. Але настаўнік спыніў яго:

— Што за фокусы?

Міхаська маўчыць. Ён зусім не ведае, што адказаць.

Сагнуўшыся, ён пільна ўглядаецца ў падлогу, нібы шукае там згублены адказ.

— Будзеш адказваць? — павышае голас настаўнік.

— Не... не...ведаю...

Міхаська хацеў быў сказаць, што яго сілай павалілі і шчыкаталі. А можа, гэта яму толькі здаецца? Штосьці ўсё, як у тумане. Толькі галава вельмі трашчыць ад болю і нешта нібы малаткамі стукае ў скронях...

Настаўнік не адстае. Ён бярэ лінейку і калючым поглядам абводзіць сваю ахвяру з ног да галавы, быццам хоча праверыць, колькі лап можа вытрымаць гэты свавольнік, які проста падымае яго на смех перад усёй школай — адмаўляецца адказваць на яго пытанні.

Але тут ён убачыў такое, ад чаго рука з лінейкай-лапай у яго адразу апусцілася.

— Хто дазволіў разувацца? Распуста! Зараз жа абуйся і — на каленкі. Юзэф, жарствы, самай адборнай! — загадаў настаўнік. Ён палічыў, што Міхаська проста так сабе разуўся з дураслівасці, каб зручней было бегаць па класе.

— Пан настаўнік! — захіхікаў з дзвярэй Юзэф.— У яго няма чаго абуць...

Пры гэтым ён выскаліўся на клас і, здаволены сваёй заўвагай, падскокваючы, пабег у кладоўку па жарству.

Вучэбны дзень пачаўся.

* * *

Ужо даўно разышліся вучні. Школа апусцела. Ад незвычайнай цішыні ў класе непрытульна і сумна. Міхаська адзін сядзіць ля акна і нецярпліва ўглядаецца ў даль, на дарогу. На дварэ змяркаецца, падымаецца завіруха. Вецер узнімае лёгкі снег з гурбаў і рассявае яго вакол. Ён стукае ў аканіцы, вые за вугламі. Аднаму ў класе робіцца вусцішна. Дзе ж маці? Чаму не нясе яна апоркаў?

Галава баліць нясцерпна і ад перажытага за дзень, і яшчэ больш ад голаду.

Яму становіцца ўсё няміла — і гэтая пустая непрыветная школа, і сярдзіты настаўнік, і ганарысты задзіра Юзэф. Ніхто не зразумее яго. Нікому ён не патрэбен. Адна толькі маці зразумее, і ён усё, усё раскажа ёй. Але дзе ж яна? Чаму так позніцца? Мусіць, бацька не вярнуўся яшчэ дахаты...

Міхаськавы думкі перапыніў скрып дзвярэй.

— Чаго сядзіш? З-за цябе аднаго школа будзе адчынена?

Гэта быў Юзэф, той зненавідны Юзэф, які зашчыкатаў яго сёння да страты прытомнасці. Ён прыйшоў зачыняць школу. Крыўда і пакуты перапоўнілі Міхаськаву цярплівасць. Ён безнадзейна глянуў яшчэ раз у акно. Недалёка, кіламетраў за два, бялеліся аснежаныя стрэхі іхняй вёскі...

— Зачыняй! — горда сказаў Міхаська, выходзячы за дзверы.

Першыя некалькі шагоў ён не адчуваў асаблівага холаду. Проста было непрыемна, і толькі. Потым у падэшвы ног пачало калоць, і ён адчуў, як дубянеюць пальцы. Міхаська прыпусціўся тады на ўсю сілу. Варочацца назад было позна. Школа закрыта, а ісці да Юзэфа, прасіцца — не! Гэтага ён, Міхаська, не зробіць.

Бегчы становіцца цяжэй і цяжэй. Міхаська расшпіліў халацік. Але і гэта не дапамагае. Ногі як нежывыя. Усё ўсярэдзіне млее. Грудзі разрываюцца.

Вось ужо і ўзгорак такі знаёмы. За ім — палавіна дарогі. Эх, сілы б яшчэ крыху. Ён сам яшчэ не заўважае, што сіла даўно ўся страчана, і ён ужо не бяжыць, а толькі ідзе подбегам і цяжка адсопваецца.

Вецер, які дзьмуў у бок, павярнуўся ў твар. Ён падхоплівае на полі снег і сярдзіта абсыпае ім бегляка, злуецца, трымае яго, перагароджвае дарогу. Ногі Міхаськавы праvальваюцца ў завеяныя каляіны. Ён спатыкаецца і падае. Некалькі разоў ён яшчэ ўсхопліваўся, а потым адолела раптоўная слабасць. У снезе ж было так лёгка і прыемна, і ног зусім нават не чуваць. Толькі невыразныя туманныя малюнкі-вобразы мільгаюць у вачах, перад вачыма...

Моцны вецер ірвануў з поля і абсыпаў яго халодным снегам. Але — няхай сабе. Яму ж так добра. Яшчэ хоць чутачку адпачыць бы. Вочы самі зліпаюцца, іх немагчыма разняць.

Ды навошта? Куды спяшацца? У школу? Не, ён болей туды не пойдзе...

*1938 г.*

# ДЗІЎНЫЯ ЛОДКІ

Такога шчаслівага дня я не памятаю ў сваім жыцці. Але, каб не забягаць наперад, раскажу па парадку.

Пасля абеду ў суботу брат Ганс паклікаў мяне ў канец двара і сказаў паціху:

— Слухай, Карлуша. Для цябе ёсць работка...

З затоенай усмешкай ён паглядзеў мне ў вочы.

— Малявать? — здагадваюся я. Якую ж бо яшчэ работку ён мне прыдумае?

— Ты ўгадаў,— кажа брат.— Ніхто лепш за цябе гэтага не зробіць.

Брат кажа праўду. Маляваць я сапраўды ўмею не кепска. Раней, як вучыўся, быў першым у класе па маляванню.

Ганс — камсамолец. І пра гэта ў сям'і я ведаю толькі адзін. Брат не хавае ад мяне нічога, ён верыць мне, як і сабе самому. Ён кажа, што з мяне таксама будзе добры камсамолец. Я люблю свайго брата. Ён вясёлы, смелы і справядлівы. А як ён ненавідзіць шупо Гешке і ўсіх нацы![1] Мне таксама хочацца быць такім, як брат. Бацька кажа, што я падобны на Ганса. Але гэта больш з твару, чым па натуры. Брат Ганс, напрыклад, не любіць лазіць па дрэвах, не любіць сядзець з вудачкай на рэчцы, зусім не цікавіцца гнёздамі і птушкамі, а я без гэтага і дня не магу пражыць.

Азірнуўшыся, Ганс дастае з кішэні і падае мне скамечаны лісток паперы.

— Тут усё напісана, што намаляваць,— кажа ён.

— У лазні? — запытаўся я.

Брат матнуў галавою.

— У кутку за печкаю знойдзеш кардон.

— Чаму не на паперы? — здзівіўся я.

— Так парашылі,— адказаў брат.— У лістку супраць лозунгаў паказаны прыблізныя размеры. Ідзі, Карлуша!

Я здагадаўся, для чаго патрэбны плакаты, і не распытваў у Ганса. Шупо Гешке даўно чакае начальства з акругі.

---

[1] Нацы — фашысты.

Кажуць, нібы сам акруговы кіраўнік нацы прыедзе і будзе нешта гаварыць. Гешке ўвесь час бегае па сяле, мітусіцца, наводзячы парадкі. З кожнага ўзяў падпіску канешне прыйсці ў нядзелю да школы сустракаць гэтае начальства.

Вядома, брат Ганс і яго сябры таксама рыхтуюцца. Для мяне гэта было ясна...

Я пайшоў у лазню, якая стаяла недалёка за агародамі, і там маляваў да самага цямна...

Назаўтра мне не спалася. Прачнуўся я раненька. На гародах яшчэ стаяў туман.

Спехам памыўшыся, я выбег на вуліцу. Там было пуста. Няўжо ўсе яшчэ спяць? Не можа гэтага быць! Плакаты даўно паднялі б на ногі ўсё сяло. Азадачаны такім падазроным спакоем, я прайшоўся ўздоўж вуліцы. Нідзе ніводнага плаката! Куды ж бы яны іх падзелі? Звычайна ўсе мае работы выклейваліся на вуліцы, і кожны мог іх прачытаць, пакуль не агледзіцца шупо. А можа, ён пранюхаў ужо і пазрываў?

Устрывожаны, я вярнуўся дахаты. Заглянуў у каморку, дзе спаў Ганс. Яго там не было... Дзіўна, што з плакатамі? Можа, думаю, Ганс забыўся пра іх?

Неўзабаве пачаў ісці народ да школы. Я таксама пайшоў з бацькам. Ганс, думаў я, напэўна будзе там. Ён-то павінен ведаць, што з плакатамі.

Школа наша стаіць у канцы сяла на ўзгорку, а каля яе крокаў за сотню цячэ рака, досыць шырокая, з глыбокімі ямінамі. Цераз раку ідзе доўгі драўляны мост. Мы заўсёды любім купацца ў гэтым месцы: ныраем з моста ў глыбокія ямы.

Каля школы сабраўся народ, але Ганса не відаць было. Гэтага я ўжо зусім не мог сабе растлумачыць.

Думкі мае былі перапынены аўтамабілем. Да школы падкаціў чорны, як жук, лакіраваны аўтамабіль.

Шупо Гешке, які ўвесь час круціўся тут, падскочыў да спыненай машыны і выцягнуўся ў струнку, нібы праглынуў палку.

Дзверцы машыны адчыніліся. Адтуль першым выпаўз невысокі шчуплы чалавек з чорнымі вялікімі акулярамі на носе, за якімі амаль не відаць было твару. За ім вылезлі два штурмавікі-ахоўнікі.

Акружаны штурмавікамі і шупо чалавечак падняўся

на ганак. Тут ён кашлянуў разоў колькі, разглядаючы хмары на небе, і пачаў гаварыць пра Гітлера. Брахаў, як і сам Гітлер, які заняволіў нямецкі народ і хоча заняволіць іншыя народы. Панурыўшы ў зямлю вочы, слухалі яго сяляне. Усё было вядома. З аднаго толькі нашага сяла мо трэцяя частка людзей загнана ў прымусовыя лагеры, на катаргу. Там сусед наш Эмануэль, які не падняў рукі перад атрадам штурмавікоў. Там стары Людвіг, які не меў з чаго заплаціць падаткі. Там Фрыдрых, Генрых, Густаў...

Раптам заднія рады заварушыліся. Людзі адварочваліся і ўглядаліся ў бок ракі.

— Плакаты! — пачуў я прыдушаны голас.

— Плакаты плывуць! — раздалося ўжо некалькі галасоў.

У гэты час мяне падхапілі, і я разам з усімі апынуўся каля моста на беразе ракі.

Услед за намі бег і сам фашысцкі начальнік з штурмавікамі.

— Дарогу! Дарогу! Разыдзіся! — махаў сваёй гумавай дубінкай шупо.

Мы расступіліся, і штурмавікі ўзбеглі на мост. Але тут яны адразу падаліся назад: проста на іх да моста адна за другой плылі дзіўныя лодкі: старыя чаўны, наспех збітыя з дошак плыты і звычайныя чурбакі з ярка намаляванымі плакатамі.

«Мае плакаты!» — ледзь не закрычаў я ад радасці. Вось яны дзе знайшліся!

«Прэч крывавага фашыста Гітлера!» — смела і ўпэўнена наступаў на штурмавікоў плакат з бліжэйшай лодкі. За ёй непадалёку ішла другая: «Прэч гітлераўца Штрайха!» Начальнік заскрыгатаў зубамі: на плакаце было яго прозвішча. «Свабоду Тэльману! Рот фронт!» — патрабавала трэцяя лодка. За ёю з кустоў выплывала чацвёртая і пятая...

Штурмавікі і шупо Гешке дрыжалі ад страху, пазіраючы на збянтэжанага начальніка, які то падбягаў да парэнчаў, то адскокваў назад, як апараны. Некалькі разоў ён выхватваў з кабуры рэвальвер, аднак на лодкі гэта ніякага ўражання не рабіла: павольна, але грозна наступалі яны на фашыстаў.

— Знішчыць! — роспачна запішчаў нарэшце чалавечак у чорных акулярах.

Але штурмавікі не крануліся з месца. Як укопаныя, стаялі яны на мосце.

— Чаго вытрашчыліся на мяне? — падскочыў бліжэй да іх начальнік.

— Глыбока, пан начальнік, і... вада асенняя,— прахрыпеў перасохлым горлам шупо Гешке.

— Бабы вы, а не салдаты! Марш!

Сагнуўшыся, як пабіты сабака, шупо пацягнуўся да берага. За ім пайшлі і штурмавікі. На беразе яны марудна раздзяваліся.

Мы не маглі стрымацца ад смеху. Я рагатаў больш за ўсіх. Некаторыя старэйшыя стрымлівалі сябе, а мне чаго баяцца. Хіба яны забароняць мне смяяцца? Дык вось дзе яна, мая работка, як кажа Ганс! Цяпер мне ўсё ясна. Такой выдумкі я, аднак, не мог бы сабе і ўявіць.

Шупо са штурмавікамі ўсё ж раздзеліся. Голыя, яны яшчэ стаялі на беразе, паглядаючы на начальніка. Можа, ён раздумае і адменіць свой загад? Страшна было лезці ў халодную ваду.

Пярэднія лодкі былі ўжо каля самага моста.

— Хутчэй! — заскакаў начальнік.

— Злітуйся, пан начальнік, плаваць не ўмею!..— зноў заенчыў шупо.

Але чалавечак так грозна глянуў на яго з-пад акуляраў, што шупо адным духам ускочыў у раку. Штурмавікі ўзмахнулі рукамі і паплылі да лодак. Гешке ўсё ж не паплыў. Ён стаяў па шыю ў вадзе і спалохана фыркаў.

Гэта яшчэ больш рассмяшыла нас. Такога прадстаўлення ніколі не бачылі ў сяле.

— Цёплая вада, пан Гешке? — жартавалі з берага.

— Можа, паплаўкі прынесці?

— Разыдзіся! — крычаў з моста начальнік.

Але каму хацелася разыходзіцца? Ды, урэшце, хіба глядзець няможна?

Даплыўшы да лодак, штурмавікі не ведалі, як іх знішчыць. Затапіць — не топяцца, гнаць на бераг — цяжка і ўсіх не выганіш. Тады яны пачалі зрываць плакаты. Рабіць гэта ў вадзе было таксама не лёгка. Лодкі круціліся, плакаты ныралі пад ваду, каб потым зноў выпшчаўкнуць наверх. Раззлаваныя штурмавікі лаяліся.

— Бомбамі ўзрываць іх трэба! — раілі мы штурмавікам.

— Або снарадамі разбіваць...

Гэтага ўжо чалавечак — начальнік, відаць, не вытрымаў, бо збег з моста і наставіў на нас рэвальвер.

— Разыдзіся!

Нікому, вядома, не хацелася пакідаць такое дармовае прадстаўленне. Але вось рэзкі стрэл пачуўся над нашымі галовамі. Усе прыціхлі. Потым пачуліся гнеўныя галасы:

— У народ страляць!..

— Мы на сваім беразе стаім!

— Фашыст! — пачуў я блізка ад сябе знаёмы голас. Я агледзеўся — гэта быў мой брат Ганс. Значыць, ён ужо вярнуўся. Лодкі — гэта, канешне, яго работка!

Ганс і яшчэ чалавек дзесяць выйшлі наперад. Моўчкі са сціснутымі кулакамі яны спыніліся супраць фашыста. Фашыст апусціў рэвальвер і адступіў назад. Ганс з таварышамі, а за імі ўсе мы падаліся ўперад, без крыку і пагроз.

— Камуністы! — нема заенчыў фашыст, адвярнуўся і шпарка пабег да аўтамабіля.

Гешке з штурмавікамі хутка падаліся да берага. Вызваленыя лодкі паплылі далей сваёю дарогай, радуючы нас і наводзячы жах на фашыстаў.

— Хадзем дамоў! — спакойна сказаў Ганс ні то да мяне, ні то да ўсіх.

Услед за намі бераг пачаў пусцець.

*1939 г.*

# ПАСТУШОК ІГНАТКА

## I

Адвячоркам пастушок Ігнатка пагнаў у поле сваю Красулю. Спачатку ён пасвіў яе на палявой дарозе. Травы на дарозе было мала, і пастушок сюд-туд забягаў на межы, ірваў траву і прыносіў Красулі.

Ігнатка вельмі шкадаваў сваю Красулю. Яна адна засталася ў гаспадарцы. Каня ўжо два гады таму секвестратар [1] забраў за падаткі. Ён хацеў тады забраць Красулю, але Ігнатка пачаў так плакаць і прасіцца, што бацька згадзіўся аддаць лепш каня. Затое Красулю цяпер запрагалі ў воз і ў саху. Ігнатку заўсёды балюча было глядзець на запрэжаную Красулю. Здаецца, лепш сам бы цягнуў, каб сіла была.

А зараз горшае гора напаткала, ды і не аднаго Ігнатку: на захадзе пачалася вайна з немцамі, і туды, на вайну, пагналі бацьку, дзядзькоў, суседзяў... Цяпер усюды толькі і гавораць пра вайну.

Ужо на захадзе сонца пастушок падагнаўся да панскіх паплавоў. Сялянскія палоскі ўпіраліся проста ў паплавы пана Халецкага. На панскія паплавы няможна было і нагой ступіць. І сяляне за кошт сваіх палосак пусцілі ў канцы поля шырокую мяжу, каб было дзе завярнуцца з канём. Гэтая шырокая мяжа так і называлася Канцамі. Сюды і прыгнаў Ігнатка сваю Красулю.

Зморааны за дзень, пастушок прылёг пры мяжы, захінуўся шарачковым халацікам і наглядаў за каровай. Яна далёка не адыходзілася. Увечары трава мякчэе. Скаціна ў такі час ахватней пасецца.

З часам Ігнатка пачаў заўважаць, што Красуля чамусьці расце ў яго вачах. «Хаця б не заснуць»,— думае ён. Трэба ўставаць, а ўставаць так не хочацца. Цела сагрэлася, разамлела, думкі затуманіліся салодкай дрымотай. Пастушок сіліцца глядзець на карову, а яна ўсё расце, пухне, потым становіцца цэлай гарой, і ўжо не відаць ні хваста, ні ног, ні галавы...

Ігнатка прачнуўся, хапаючыся за плячо. Яно вельмі ж балела. Пастушок расплюшчвае вочы і бачыць перад са-

[1] Секвестратар — зборшчык падаткаў.

бою панскага стражніка з нагайкаю ў руцэ. Крыху далей на прыгожым каштанавым жарабцы сядзіць сам пан Халецкі.

— Забраць! — чуе Ігнатка знаёмы панскі голас.

Пастушок аглянуўся: Красуля яго пасвілася за Канцамі... на панскім поплаве. Толькі цяпер ён зразумеў, што здарылася.

Ігнатка ўсхапіўся, падбег да пана і, заліваючыся пякучымі слязьмі, паваліўся перад канём.

— Паночак, даруй, я незнарок заснуў...

Ігнатка бачыў не раз, як дарослыя валяліся перад панам, просячы ў яго літасці. Ён таксама ведаў, што пан люты і нікога не мілуе, але гэта была нейкая цьмяная надзея на ратунак.

— Прэч, быдлянё! — з агідай адвярнуўся ад яго пан Халецкі.

— Паночак, у нас бацьку на вайну забралі... І каня за падаткі...

Стражнік тым часам злавіў Красулю, накінуў на рогі папругу і вёў да пана. Карове не хацелася пакідаць пашу. Яна круціла рагамі, упіралася. Стражнік раз-пораз хваставў яе нагайкай, кожны ўдар якой балюча калоў Ігнаткава сэрца.

— Каты! — не стрываў Ігнатка, кінуўся да Красулі, загарадзіў ёй дарогу.— Не дам каровы!

Стражнік збянтэжана спыніўся. Ён не чакаў такой адвагі ад гэтага худога, бледна-сіняга хлапчука.

— Чаго няньчышся з ім! — крыкнуў пан да стражніка.

Сцяўшы зубы, стражнік высока ўзмахнуў нагайкай. Цяжкая нагайка апераэала худыя Ігнаткавы плечыкі, якія тарчалі з-пад падранай шарачковай світкі. Але Ігнатка не адступіўся ад Красулі.

— Яшчэ! — камандаваў пан, пазелянеўшы ад злосці.

Ён прышпорыў жарабца, наехаў на пастушка і сам ударыў яго сваёй нагайкай. Ігнатка ўжо не вытрымаў гэтага ўдару, асунуўся на зямлю, выпускаючы з цэпкіх худых рук сваю дарагую Красулю.

Стражнік тузануў карову ўбок, абвёў каля Ігнаткі ды з лаянкай пацягнуў яе ўслед за панам.

Прыбіты пастушок застаўся ляжаць на траве.

На зямлю апускаўся халодны вячэрні туман. Ён закрываў сабою кусты, белай плёнкай слаўся па атаве, клубамі каціўся да поля.

II

І вось ужо каторы дзень Ігнатка не знаходзіць сабе месца. Красулькі няма, і няма яму прыпынку. Маці хадзіла да пана, упрошвала, але пан загарадзіў дзесяць злотых за патраву. Дзе ім узяць такія грошы? Бацька не пакінуў ім ніводнага злотага.

Ігнатка ўсе дні думае, як выратаваць Красулю з панскага палону. Сёння зайшоў да іх сусед, дзед Сымон. Ён як ніколі быў жвавы і вясёлы. Шэптам ён сказаў матцы,— але гэта чуў і Ігнатка,— што хутка іх гору прыйдзе канец: кажуць, сюды ідзе Чырвоная Армія. Дзед чуў такую навіну ад людзей. Ігнатка ледзь не падскочыў ад радасці.

— Гэта праўда, дзядуля?

— Кажуць людзі. Толькі — ша, маўчы...

— І яны вернуць нам Красулю? — пытаўся Ігнатка.

— Не толькі Красулю, унучак, волю адабраную вернуць!

Пасля такой навіны Ігнатка надумаўся неадкладна ісці ў маёнтак. Ён будзе там чакаць Чырвоную Армію, і як толькі яна прыйдзе,— адбярэ ў пана сваю Красулю.

Ісці было недалёка, спачатку перайсці поле, там панскія паплавы, лес, за лесам і маёнтак.

Выходзячы з лесу, Ігнатка заўважыў чалавека, які бег з поля. Хлопчык спыніўся, каб разгледзець, хто там такі, чалавек у гэты час забег у гушчар. Ігнатку ўзяла цікавасць. Цішком ён падышоў бліжэй і заўважыў, як чалавек выглянуў з-за дрэва. Ігнатка атарапеў: чалавек быў выліты пан Халецкі... Сустрэча з панам, вядома, нічога добрага не абяцала. І пастушок пабег далей ад бяды.

Толькі ўжо на полі Ігнатку прыйшла думка, што прыгода з панам была нейкая незвычайная. Чаго ж бы ён бег у лес, а не ехаў на кані? Ды і ўсё паказвала на тое, што пан Халецкі не лавіў каго ў лесе, а нібы сам хаваўся.

Усё гэта стала ясным, калі Ігнатка ўбачыў панскі маёнтак, акружаны народам. Між народу відаць былі ваенныя на конях.

— Ды гэта ж чырвоныя! — сам сабе закрычаў Ігнатка.— Пан уцякае ад чырвоных. Хутчэй туды, сказаць трэба пра пана!

Не памятаючы сябе ад радасці, Ігнатка кінуўся бягом да маёнтка. Ён спатыкаўся, падаў, зноў усхопліваўся, крычаў, махаючы рукамі, пакуль не заўважылі яго з грама-

ды ваенныя на конях. Камандзір атрада лейтэнант Макарэвіч тут жа галопам ірвануўся насустрач хлопчыку. За ім памчалася яшчэ некалькі байцоў.

— Таварышы!..— задыхаючыся, сказаў Ігнатка.— Там пан у лесе, лавіце яго!

Ігнатка ледзь не ўпаў на зямлю ад стомленасці і ўсхваляванасці, але камандзір атрада, прыгнуўшыся з сядла, падхапіў яго за плячо.

— Садзіся, хлопча, паказвай, дзе пан,— проста сказаў ён.

У Ігнаткі знікла ўсякая стома. Ён падскокнуў, ухапіўся за лейтэнанта і ў момант апынуўся на кані.

Каля лесу лейтэнант прывязаў каня, а сам услед за Ігнаткам пабег у гушчар.

Пана злавілі хутка. З непрывычкі бегаць ён не мог далёка ўцячы. Ды не было куды пану ўцякаць: за лесам пачыналася сялянскае поле, а там пан добра даўся ў знакі...

— Папаўся, гад печаны! — радаваўся Ігнатка.— Цяпер ты нам вернеш карову, га?

Пан сярдзіта чмыхаў і нешта мармытаў сабе пад нос, коса пазіраючы на пастушка.

— Якую, малы, карову? — запытаўся лейтэнант.

— Ён,— Ігнатка паказаў пальцам на пана,— забраў нашу Красулю, а мяне чуць нагайкай не забіў з сваім стражнікам.

— Што ж,— стараючыся стрымліваць сябе, сказаў лейтэнант да пана,— карову прыйдзецца вярнуць малому, а за пабоі — адказваць па закону — і не па вашаму, панскаму, а па нашаму — народнаму!

Каля поля лейтэнанта чакалі ўжо астатнія байцы з яго атрада.

— Глядзіце, пана ўпалявалі! — дзівіліся яны.— А гэта хто — загоншчык, відаць? — паказвалі байцы на Ігнатку.

— Каб жа толькі загоншчык! — усміхаўся лейтэнант.— Па-нашаму гэта — юны герой.

Байцы абступілі Ігнатку.

— Як жа цябе зваць, герой?

Ігнатка адказаў, з цікавасцю разглядаючы маладых хлапцоў, якія прыйшлі і прыехалі сюды да іх, каб прагнаць з іхняй зямлі такіх вось крывасмокаў, як пан Халецкі, і вярнуць ім волю.

Лейтэнант дастаў з кішэні аловак, блакнот і запісаў

пастушкова імя. Потым дарогаю распытваўся, дзе Ігнатка жыве, колькі яму гадоў, дзе яго бацька. Ігнатка расказаў усё як мае быць.

У маёнтку лейтэнант здаў пана пад нагляд парабкаў з чырвонымі істужкамі на рукавах, а сам сабраўся ехаць далей са сваім атрадам. Перад ад'ездам затрымаўся каля Ігнаткі. Яму вельмі спадабаўся гэты хлопчык, і не хацелася так хутка пакідаць яго. Хацелася нешта такое зрабіць для яго ці хоць сказаць яму прыемнае ласкавае слова. Ён прытуліў да сябе Ігнатку, усміхаючыся, папстрыкаў злёгку пальцам па яго кірпатым носіку.

— Малайчына, Ігнатка! Будзем варочацца назад — заеду да цябе ў госці. А к таму часу і бацька твой вернецца. Вайне ўжо канец.

Лейтэнант дастаў з кішэні чырвоную зорачку, такую ж, як у яго на шапцы, і падаў Ігнатку:

— На, браток, на памяць!

— Дзякую, таварыш! — адказаў узрадаваны пастушок.

Лейтэнант быў моцна расчулены. Хлопчык пачынаў падабацца яму ўсё больш. Перад ім быў сапраўдны малодшы брат, якога ён толькі што вызваліў з няволі. Лейтэнанту Макарэвічу здалося, што на вейках яго качаюцца слязінкі. Ён змахнуў іх рукой і прышпорыў каня.

Неўзабаве вясёлы і радасны пастушок Ігнатка гнаў дахаты сваю Красулю. На старэнькай яго шапцы красаваўся новы чырвоны значок.

*1939 г.*

# САРОЧЫЯ ЯЙКІ

Косця неяк з першых дзён свайго жыцця ў лагеры моцна пасябраваў з дзедам Анупрэем.

Дзед Анупрэй уночы вартуе лагер, раніцай спіць у сваім дзяжурным шалашы ў парку, а ўдзень ён як бы беспрацоўны. Праўда, не зусім яно так: дзед не любіць сядзець склаўшы рукі, не такая ў яго натура. Заўсёды і ўсюды знойдзе ён сабе работу: то абкошвае траву вакол лагера, то ладзіць і даглядае лагерную гаспадарку, то кош пляце, то, нарэшце, расказвае піянерам байкі. А калі ўжо, бывае, няма ніякай работы — дзед, кульгаючы на крывую левую нагу, абыдзе за дзень усю ваколіцу. З тым-сім сустрэнецца, пагамоніць, глядзіш — усе навіны вядомы яму.

Пры школе ў дзеда ёсць свой пакойчык: ён тут вартаўніком працуе. Улетку ж дзед туды рэдка і заглядвае. Цяпер ён таксама жыве па-лагернаму — на свежым паветры, дзе дыхаецца лягчэй старым грудзям. Сям'і ў дзеда няма. Старая яго ўжо гадоў дзесяць як памерла, а дзеці, як ён кажа, рассыпаліся па ўсім свеце.

Косця вельмі любіў слухаць дзедавы байкі — так дзед сам адным словам называў свае казкі, байкі і апавяданні. Дзе б што ні рабіў дзед, там і Косця каля яго. І трэба сказаць, дзеду такі слухач дужа падабаўся. Да таго ж дзед быў чалавек гаваркі, і калі ўжо не было каму слухаць яго,— ён гутарыў сам з сабою.

Аднаго разу дзед надраў у бары сасновых каранёў і пачаў плесці кош. Косця прысеў каля дзеда. Ён ніколі не бачыў, як плятуць кашы, і таму ўважліва сачыў за дзедавай работай.

— Дам табе, галубок ты мой, работу,— сказаў дзед.— Збегай на кухню па нож.

Косця рад быў выканаць дзедава даручэнне. Ён мігам збегаў на кухню і праз хвіліну вярнуўся з нажом.

— Ну вось, цяпер будзеш памагаць мне кош плесці.

— Я ж не ўмею...— адгаварваўся Косця, хоць самому і вельмі хацелася заняцца такою работаю.

— Не бяда,— супакоіў яго дзед.— Не ўмееш, дык навучышся.

Дзед выбраў гладкі корань і даў яго Косцю.

— На, ачышчай ад кары.

— І ўсяго? — здзівіўся Косця, узрадаваны такім лёгкім заданнем.

Косця жвава ўхапіўся за работу. Але з непрывычкі нож яго чамусьці не слухаўся: ён то лёгка слізгаўся па версе кары, то глыбока ўядаўся ў корань. Дзед, заняты струганнем абручоў, непрыкметна сачыў за Косцевай работай, пасмейваючыся сам сабе ў бараду. Нарэшце Косця сяк-так ачысціў корань. Дзед узяў у яго корань, пакруціў у руках, паматаў галавою:

— Ды ты ж, галубок мой, аскуб яго, як тую курыцу, а не ачысціў! За такую работу ты заслужыў лапу,— вось што я табе скажу.

Косця, вядома, быў нямала сканфужаны такой ацэнкай яго работы, але ён бачыў, што дзед журыць яго так сабе, не па злосці.

— А што гэта, дзед,— лапа? — запытаўся ён.

Дзед прыжмурыў вочы, і скупая ўсмешка прабегла па яго твары.

— Лапы ты не ведаеш? Які ж ты тады вучань, бацейка ты мой!

— Не,— шчыра прызнаўся Косця.— Не ведаю.

— А я, галубок ты мой, ведаю, ды яшчэ як! Агні яе няхай высмаляць. Лапа, ну як табе сказаць: лінейка такая дубовая або кляновая. Некалі настаўнікі білі ёю вучняў па далоні, па лапе, значыць. Таму і лапай праэвалі. Колькі гэтых лап меў я за зіму, калі вучыўся!

Дзед паглядзеў на свае далоні, і яму здалося, што і цяпер яшчэ яны шчымяць ад тых лап...

— А якая была навука даўней: мука, не навука. Бывала, зубрыш-зубрыш тыя «азы» ды «букі» — не лезуць у галаву, хоць ты іх калом туды заганяй. Што мы ні рабілі, каб запамятаць іх, якія спосабы ні ўжывалі...

Пры апошніх дзедавых словах Косця насцеражыўся. Ён успомніў, што і ў яго з арыфметыкай не ўсё гладка, і, можа, дзедавы спосабы маглі б быць карысны і яму.

— А якія спосабы, дзед, вы ўжывалі? — не без цікавасці запытаўся Косця.

Дзед даплёў вочка, пагладзіў бараду і нехаця адказаў:

— Шмат ёсць спосабаў...

— Раскажыце, дзядуля,— пачаў прасіць Косця.

— Ну, калі ўжо так цікавішся, дык слухай,— згадзіўся дзед.— Перш-наперш, ніколі, чытаючы, не еш...

— Чаму? — здзівіўся Косця.

— Бо заясі ўрок...

— Ой, які дзіўны спосаб! — зарагатаў Косця.— Вы не жартуеце?

— Табе смешкі. Не верыш?

— Не, дзядуля, я ведаю: гэта старыя забабоны...

— Не верыш — не трэба,— адказаў дзед, хітра ўсміхнуўшыся.— Другое — ніколі не шый на сабе нічога, бо памяць зашыеш.

Тут ужо Косця аж паваліўся ад рогату на траву. Ён рагатаў так шчыра і звонка, што дзед і сам не стрымаўся.

— Ой, дзед Анупрэй, вы яшчэ ніколі такіх смешных баек не расказвалі!

— Не верыш — не трэба. Як той кажа: слухаць — слухай, а хлусіць не перашкаджай! Дык вось. А самы лепшы спосаб — піць сарочыя яйкі. Гэта ўжо, кажуць, напэўна дапамагае памяці.

— Сарочыя? — перапыніў яго Косця.— А чаму не варонbackslashіны ці курыныя?

— Таму што сарока птушка разумная, а варона і курыца — дурныя,— вось чаму! — напускаючы на сябе цень нездаволенасці слухачом, буркнуў дзед.— Усяму цябе вучыць трэба, сам ты варона...

— І вы таксама пілі сарочыя яйкі?

— Я ці піў, кажаш?

Дзед зірнуў на сваю крывую нагу, якая абручом выгіналася ніжэй калена, прыцмокнуў і адказаў:

— Не давялося: восы падвялі...

Косця здзіўлена паглядзеў на дзеда: пры чым жа тут восы да сарочых яек?

— Ты, мажа, і гэтаму не паверыш. Ведаю цябе. Але спярша паслухай. Мне гэта, як сам здаровенек ведаеш, хацелася добра вучыцца, каб не мецъ лап. А спосабы тыя мне ўсё ж не памагалі. Вядома, гэта старыя забабоны, як ты сказаў. Але ж тады мы верылі ўсялякаму глупству. Дык вось, памятаю, адзін стары параіў піць сарочыя яйкі. Калі, кажа, і сарочыя яйкі не памогуць, дык лічы — прапала твая вучоба. Тут я і стаў бегаць у бор, прыглядацца да гнёздаў. Гнёздаў у бары было шмат, а каторае сарочае, каторае вароніна — з зямлі не вельмі ўгадаеш. Яйкі сарочыя я ведаў і не памыліўся б, каб іх убачыў. Яны такія ж,

як і вароніны, толькі зялёныя, з бурымі крапінкамі. Я стаў цікавацць, якія птушкі ляцяць на гнёзды. Сарокі ў нашым бары вадзіліся, гэта я ведаў.

Доўга я так хадзіў, шукаў, углядаўся і неяк аднаго разу ўсё ж убачыў сароку на хвоі. І каля гнязда! У мяне аж усё ўсярэдзіне закалацілася.

Лазіць па дрэвах я быў мастак, а тут хвоя нялюдская трапілася: высокая, пад самае неба, і гладзюсенькая, хоць бы дзе сучок,— так аж да самага верху. Ды нічога не парадзіш, як той кажа: лезу, не адракацца ж ад свайго шчасця, ад памяці сваёй. Змарыўся, аслабеў, а лезу.

І ўжо траха да галля не дабраўся, дзе гняздо было, як чую: ж-ж-ж!.. І проста ў мяне каля носа. Аглянуўся, бачу — аса! Адна, другая... Ды так і круцяцца. Бацейкі вы мае! Адкуль іх ліха нанесла? (Потым я даведаўся, што тут, побач, у дупле старой хвоі, было іхняе гняздо, і яны, дурныя стварэнні, падумалі, мабыць, што я да іх лезу.) Не паспеў я і вокам міргнуць, як адна аса пеканула мяне проста ў брыво. «Ай-ай!» — заенчыў я, хапаючыся рукою за ўджаленае месца. Другая рука тым часам сарвалася, і я каменем грымнуўся вобземлю...

Ну вось, з таго часу і нашу памяць аб сарочых яйках,— паказаў дзед на сваю крывую нагу.— Гэта ўжо я запамятаў навек, галубок ты мой.

Дзед раптам спахмурнеў і задумаўся. Відаць было, што і цяпер ён балюча перажываў бяду, якая здарылася з ім некалькі дзесяткаў гадоў таму назад.

Косця таксама быў засмучаны: яму шкада стала дзеда Анупрэя — добрага, вясёлага дзеда, які так недарэчна стаў калекам.

— А пасля гэтага вы яшчэ вучыліся? — запытаўся ён, калі дзед скончыў сваю байку.

— Болей ці вучыўся, кажаш? — перапытаў дзед.— Не! Хапіла і тае граматы. Ды яно мала хто тады ў нас і канчаў школу. Падняўся трохі на ногі — ну і пайшоў знаёмым бацькавым следам. Гэта вам, галубок ты мой, цяпер выгода: вучыся, колькі хочаш, абы брала ахвота!

У лагеры зайграў гарніст на вячэру. Косця развітаўся з дзедам ды пабег у сталовую з думкамі аб тым, што расказаў яму дзед пра сваю горкую навуку.

*1940 г.*

# ПІЯНЕР ГЕНЯ

## I

Калі вайна дакацілася да калгаса, дзе жыў піянер Геня, і ўсё вакол загудзела грымотамі і запалымнела пажарамі,— ён з мамаю перабраўся з хаты ў склеп.

Склеп быў на агародзе, між лапушыстага бульбяніку, які пачынаў ужо цвісці. Побач зелянелі густыя градкі морквы, завязваліся крамяныя качаны капусты, чырванелі бурачныя цыбуры. Была пара росквіту і красавання, пара, калі людзі, любоўна даглядаючы палеткі, цешацца з працы сваіх рук. Але бранiраваная фашысцкая навала ў той усім так памятны год бязлітасна нішчыла ўсё жывое і прыгожае.

Вечарамі грымоты крыху сцішаліся. Геня выходзіў са склепа, з болем і страхам узіраўся ў ваколіцу, дзе стаяла злавеснае зарыва ад бушуючых пажараў.

У адзін з такіх вечароў ён убачыў слуп агню над сваёй хатай. Сэрца яго моцна закалацілася. Немы крык вырваўся з яго грудзей. З гэтым крыкам ён убег у склеп і сказаў маці. Але, прыдушаная нечуванаю бядою, маці раптам адранцвела і доўга не магла паварушыцца...

А назаўтра ўсё прыціхла. Вайна адкацілася кудысьці за калгас. Глушэй гула зямля ад гарматных выбухаў. Геня выйшаў на свет. Перш за ўсё ён убачыў вакол вялікія змены: на месцы шмат якіх хат тарчалі абкураныя дымам печы, датляваючы, курыліся галавешкі. На вуліцы было поўна чужых салдат у зялёным адзенні, з круглымі каскамі на галовах. Адны з іх з аўтаматамі ў руках ганяліся за курамі і парасятамі, другія, расклаўшы на агародах і нават на вуліцы агні, смажылі на скаварoдах і варылі ў чыгунах свежаніну. Тут жа стаялі павозкі, матацыклы, розныя машыны.

Геня вярнуўся назад. Але ж сядзець у склепе яму і так надакучыла за гэтыя дні. Неўзабаве ён зноў выйшаў са склепа і падаўся ў гай — любімая яго мясцінка, дзе ён часта бавіў час улетку. Гай пачынаўся бадай што за самымі гумнамі. Гэта быў густы зараснік, перамешаны маладымі бярозкамі, алешынамі, лазняком. Несціхана шчабяталі

тут птушкі, гудам гула розная машкара, танцуючы, пырхалі матылькі.

Вайна, якая смяротнымі крыламі прашумела і над гаем, паламала шмат кустоў, пассякала галлё і лісце. Але гэтае калецтва можна было заўважыць толькі зблізку. Здалёк гай здаваўся такім жа прыгожым і прывабным, як і раней.

Геня, здавалася, забыўся тут і пра спаленую хату, і пра тое, што ўбачыў на вуліцы. Да яго зноў вярнулася бесклапотнае дзяцінства, спыненае вайною. Вось перад ім пырхнула маленькая даўгахвостая пліска з чарвячком у дзюбцы. Яна прысела на лазовай галінцы, трывожна завярцелася, азіраючыся. «Мусіць, гняздо недалёка»,— падумаў Геня. Птушачка пакруціла галоўкай, потым пераляцела на другі куст. Цікуючы, Геня крадком падаўся за ёю.

Раптам у насцярожанай цішыні пачуўся прыглушаны стогн. Геня спыніўся. Асцярожна расхінуў куст. За кустом, уткнуўшыся тварам у траву, ляжаў чырвонаармеец. Доўгі русы чуб яго ўпаў на траву. Рукі распасцёрты на ўсю шырыню; ён абняў імі зямлю і раз-пораз сціскаў і разнімаў кулакі, драпаючы траву. Акрываўленая правая калашына штаноў ніжэй паясніцы ўсыпана чорным мушыным роем. Побач, справа, ляжала каска.

Геня нагнуўся над раненым. І тут ён убачыў на пятліцах яго гімнасцёркі па два невялікія квадрацікі цёмна-чырвонага колеру.

— Таварыш лейтэнант...— прашаптаў усхваляваны Геня, асцярожна дакрануўшыся да пляча раненага.

Ранены, здавалася, не чуў яго.

— Таварыш лейтэнант... — паўтарыў Геня.

Ранены ледзь паварушыў галавою.

— Вады... піць...— асмяглымі губамі прашаптаў ён.

І толькі па стогну і гэтых словах можна было меркаваць, што ў распластаным целе цепліцца яшчэ жыццё.

— Пацярпіце крышку,— сказаў Геня,— я зараз збегаю...

Ён усхапіўся. Галава яго кружылася. Але калі ён крыху апамятаўся, дык падумаў, што ў калгасісці па ваду небяспечна. Можна нарвацца на немцаў і адкрыць след... Ніхто не павінен ведаць аб раненым камандзіру. Але дзе ж узяць вады? Ён успомніў пра канаву за гаем. Можа, яна яшчэ не зусім перасохла. Схапіў каску і кулём кінуўся за гай.

На шчасце, у канаве яшчэ сям-там блішчалі мелкія лужынкі. Геня раскапаў дно адной лужынкі, паглыбіў яго. Вада павольна збіралася на дно. Потым ён стаяў, млеючы ад нецярплівасці, калі асядзе каламута. І, не дачакаўшыся, зачэрпнуў вады ў каску. «Асядзе ў касцы»,— парашыў ён.

Калі ён вярнуўся назад, ранены не стагнаў і не драпаў пальцамі зямлю. Геня пачаў клікаць яго, варушыць. Ранены не адклікаўся.

«Мусіць, памёр, пакуль я чакаў, калі састоіцца вада»,— думаў Геня. У роспачы ён прысеў ля раненага, і слёзы самі пасыпаліся з яго вачэй. Яму было горка і да гэтай сустрэчы, а зараз яго чулае дзіцячае сэрца перапоўнілася болем да краю.

Вакол гэтак жа весела шчабяталі птушкі, дзумкалі чмялі, нібы выцінаючы на цымбалах, кружыліся матылькі... Але ўсё гэта здавалася цяпер Геню лішнім і недарэчным.

Ён доўга сядзеў засмучаны і заплаканы. З думак не выходзіла вайна, чужыя салдаты-ліхадзеі. Успомніў ён бацьку — вясёлага калгаснага брыгадзіра, якога не толькі ён — усе любілі. У першы ж дзень вайны бацька пайшоў на фронт. Дзе ён цяпер? Можа, вось гэтак жа ляжыць дзе пад кустом або ў чыстым полі, і чорныя крумкачы кружацца над ім... Але падобная думка пра бацьку ніяк не стасавалася з яго жывым вясёлым характарам, з яго смеласцю і дасціпнасцю. Геню здавалася, што нават смерць не зможа асіліць яго бацьку.

Думкі яго неўзабаве былі спынены: ранены заварушыўся.

— Жывы! — ускрыкнуў узрадаваны Геня.— Таварыш лейтэнант, я вады прынёс.

Ранены паспрабаваў павярнуцца на бок. Але яму, відаць, было вельмі цяжка зрабіць гэта. Геня дапамог яму. І калі ранены, счарнеўшы ад болю, крыху павярнуўся, Геня паднёс да яго губ каску. Ранены прагна адпіў некалькі глыткоў. Потым галава яго зноў упала на траву.

— Ты адкуль, сынок? — ледзь пераводзячы дух, спытаўся ранены.

— З калгаса,— паказаў Геня рукою за гай.

— А тата дзе?

— На вайне.

— Як цябе зваць?

— Геня.

— Геня... Генадзій, значыць...

Ранены заплюшчыў вочы. Лёгкая непрытомнасць заўладала ім.

— Геня...— зноў зашаптаў ён неўзабаве.— Я, мусіць, доўга не пражыву. Пакляніся мне, што ты захаваеш сцяг нашага палка... Пакляніся самым табе дарагім...

Дрыжыкі калючымі мурашкамі прабеглі па Геневым целе. Ранены гаварыў з ім такім тонам, нібы гэта былі чароўныя ўсемагутныя словы-заклінанні.

— Клянуся...— шчыра зашаптаў усхваляваны Геня.— Чэснае піянерскае... Клянуся...

Ён запнуўся, не ведаючы, як яму яшчэ клясціся.

— Досыць, Геня. Я веру табе. Ён там, у кусце, ляжыць. Схавай яго і нікому-нікому не кажы. Ваенная тайна. Разумееш?

Геня кіўнуў галавою. О, ён разумее, што такое ваенная тайна!

— Як вернуцца нашы — перадасі ім. Вось і ўсё. Я табе веру...

Геня маўчаў, углядаючыся ў твар камандзіра. Потым запытаўся:

— Перавязку вы зрабілі?

— Не, Генік.

Ранены паварушыўся. Пакутная грымаса болю ценем прабегла па яго твары.

— Ні ўстаць, ні павярнуцца...

— Бінт ёсць у вас?

— У сумцы, Генечка, індывідуальны пакет.

Геня хутка дастаў пакет, выняў з кішэні свой ножыкскладанчык і пачаў разразаць калашыну.

— Вы толькі не крычыце, таварыш лейтэнант... Немцы каб не пачулі,— упрошваў ён раненага.

Зрабіўшы, як здолеў, перавязку, Геня прынёс каску свежай вады.

— Цяпер вам будзе лягчэй. Пацярпіце. Я скора вярнуся,— сказаў ён і знік у кустах.

## II

Ідучы ў вёску, Геня думаў толькі пра камандзіра. Яму патрэбна дапамога, і нават вельмі спешна. А чым жа ён можа дапамагчы? Сказаць маме? А што зробіць яна? Ад

мамы думка перакінулася да важатай Мані. І гэтая думка заўладала ім.

Важатая жыла недалёка ад іх. Геня абмінуў свой склеп і, спяшаючыся, пайшоў па вуліцы. Цяпер ён не думаў пра небяспеку і не зважаў на салдат, якія, відаць, угаманіліся і зараз спалі пад дрэвамі ў садах і агародах.

Як жа парадзела вёска! Вось месца, дзе была хата дзядзькі Сцяпана. Тут былі шырокія моцныя лаўкі, моладзь вечарамі збіралася сюды спяваць песні. Каля хаты старшыні калгаса дзядзькі Якуба расла высокая старая ліпа, шырока раскінуўшы свае густалістыя галіны. На ёй была прымайстравана старая драўляная барана з буславым гняздом. Кожны год вясною на гняздо прыляталі буслы. Стоячы на адной назе, яны весела клекаталі на ўсю ваколіцу, радуючыся ўтульнаму гнязду, вясне і сонцу.

Страшнай зрабілася зараз старая ліпа. Адзін камель і тоўстае галлё тарчалі на тым месцы, дзе расло прыгожае пышнае дрэва. Згарэла і гняздо з буслянятамі...

З трывожным клёкатам кружыліся старыя буслы над асмаленым дрэвам. «Гнязда шукаюць»,— падумаў Геня. Сэрца яго сціснулася ад болю за пакрыўджаных птушак.

Важатую Маню ён знайшоў у старой варывеньцы, куды перабралася яна з маткай. Хата іх была цэлая, але зараз там жылі нямецкія салдаты.

Маня сядзела на парозе варывенькі, абірала бульбу. Старая маці крактала ў кутку на нейкіх лахманах. Геня даведаўся, што старую прыбіў гітлеравец: яна ратавала ад яго сваю карову. Прыходзіў доктар з калгаснай бальніцы Іван Нічыпаравіч. Сказаў, што ў яе адбіты лёгкія. Гітлеравец біў яе прыкладам, потым на зямлі — ботамі.

У Мані было сваё гора. Геня глядзеў у яе чырвоныя, затуманеныя слязьмі вочы і думаў: «Што яна можа параіць або дапамагчы, калі ёй самой патрэбна дапамога?» На бледным Геневым твары выразна свяціліся засмучэнне і гора. Маня заўважыла гэта.

— Ты што-небудзь хацеў сказаць ці так прыйшоў? — спыталася яна.

І Геня ўсё ж не ўтрымаўся, каб не расказаць ёй пра тое, што яго больш за ўсё хвалюе. Важатая перастала абіраць бульбу. З шырока раскрытымі вачыма слухала яна расказ пра сустрэчу Гені з раненым камандзірам. Калі Геня скончыў гаварыць, яна ўстала, папраўляла на галаве касынку, выцерла вочы і сказала:

— Пасядзі, Генечка, каля мамы. Вада ў кутку. Можа, дачысці бульбу...

— А ты куды?

— Пакуль што — не ведаю...

Праз паўгадзіны важатая вярнулася. Следам за ёю ішоў Іван Нічыпаравіч са сваім чамаданчыкам і палкай у руках. Прывітаўшыся, ён паставіў чамаданчык, зняў акуляры, працёр іх хустачкай, потым зноў надзеў і ўтаропіўся на Геню.

— Ну, сынку,— паціху сказаў ён,— раскажы ж ты мне ўсё пра камандзіра і яго рану...

Геня пачаў гаварыць. Доктар часта спыняў яго, перапытваў, ківаў галавою, знімаў акуляры і зноў надзяваў іх. Потым сказаў:

— Яго, канешне, трэба забраць адтуль. Магчыма нават гангрэна... А гэта значыць, без аперацыі нельга.

Заключэнне Івана Нічыпаравіча не ўзрадавала ні Геню, ні важатую. Як перанесці раненага і куды перанесці, калі ў вёсцы поўна немцаў?

— Маня,— сказаў нарэшце Геня,— нашу хату спалілі. Мы з мамкай жывём у склепе. Туды немцы не заглядваюць...

— Іван Нічыпаравіч, даражэнькі,— глянула Маня на доктара,— пасядзіце каля мамы... Цямнее. Мы пойдзем. Прабачце мне.

Іван Нічыпаравіч зняў акуляры. Ласкавымі вачыма глянуў на Маню.

— Не трэба, дачушка, выбачэнняў. Ці ж я маленькі, не разумею, што на свеце робіцца? За мяне, дзеці, будзьце спакойны.

У кутку застагнала маці. Маня падышла да яе.

— Што, мамка, цяжка?

— Цяжка, дачушка...

Маня адвярнулася. Слёзы душылі яе. Нядобра пакідаць маці ў такі час. Можа, яна, калі вернецца, і не застане яе... Чужы чалавек мусіць закрыць ёй вочы і скласці рукі.

Скрозь шчыліну закутка на матчын твар падала шэрае вячэрняе святло. Маня заўважыла: твар хворай мярцвецкі пажаўцеў, рысы яго завастрыліся і выцягнуліся. Вочы запалі.

З жалем і замілаваннем глядзела яна на роднага, блізкага ёй чалавека, душачыся ад нахлынуўшых слёз. А з ду-

мак не выходзіў і другі чалавек, якога яна ніколі не бачыла, але які стаў ёй блізкі і родны таму, што змагаўся і за яе, і за маму, і за ўсіх вось такіх жа сваіх людзей. І нейкая нястрымная сіла ўзнімала яе, клікала на дапамогу таму, хто застаўся тут разам з імі прадстаўніком сваёй Чырвонай Арміі.

— Мамачка,— прагаварыла Маня,— я ненадоўга адлучуся. Іван Нічыпаравіч пабудзе з табою.

— Ты зноў пакідаеш мяне?

Маня нагнулася і горача пацалавала маці.

— Так трэба, мама...

Геня з трывогай наглядаў сцэну развітання Мані і маткай. Што, калі Маня застанецца? І што з раненым, якому ён абяцаў вярнуцца зараз жа. Успомніў ён і сваю маці, якую не бачыў ад самага ранку і якая, напэўна, непакоіцца аб ім. Даваў сабе адчуваць і голад: цэлы дзень ён нічога не еў.

Маня накіравалася да дзвярэй, але Геня спыніў яе, ухапіўшы за руку:

— Ён жа галодны, Маня...

— Ах, я зусім забылася...

Яна аглянулася вакол. Што ж ёй узяць? Бульба не зварана. Малака няма.

— Ага,— павесялела яна,— бяжы на агарод, вырві колькі штук моркавак, а я хлеба вазьму. Пасля што-небудзь прыдумаем...

## III

Поцемкам увайшоў Геня ў склеп. Маці ўжо страціла ўсякую надзею ўбачыць сына. З паўдня яна шукала яго, потым аплаквала горкімі слязьмі, а зараз сядзела адзінокая ў кутку склепа, з трывожнымі цяжкімі думкамі. І як жа ўзрадавалася яна, калі пачула спачатку знаёмыя крокі, а потым голас:

— Мама, ты дома?

Яна кінулася абнімаць сына, распытвала яго, дзе ён быў і што з ім. Але Геня, замест адказу, толькі запытаўся:

— Немцы да нас не заходзілі?

— Чаго яны пойдуць сюды, сынок.

— Ну і добра. Не трэба, мама, каб яны і ведалі пра наш склеп. Пачакай, я зараз вярнуся...

І ён знік гэтак жа раптоўна, як і з'явіўся.

Праз хвіліну Геня вярнуўся. За ім ішлі яшчэ людзі. Яны неслі на насілках раненага.

— Мама,— сказаў Геня,— гэта свае. Мы прынеслі нашага раненага камандзіра. Ён будзе жыць у нас...

— Дзетачкі ж мае, яму ж тут, у склепе, мо нядобра будзе? — затурбавалася маці.

— Нічога не зробіш, цётка Марфа,— сказала важатая.— Ніхто не павінен ведаць пра яго. А больш патайнога месца ў нас няма.

Раненага асцярожна паклалі на зямлю, падаслаўшы коўдру-ватоўку.

— Пойдзем, хлопцы — сказала важатая.— А ты, Геня, можа, не спі сёння: пасядзі каля яго...

Калі яны выйшлі, маці з газовачкай у руках падышла да раненага і доўга ўглядалася ў яго твар. Ранены ляжаў моўчкі з заплюшчанымі вачыма.

— Малады яшчэ,— сказала яна.— Яму б доктара... А якую мы раду дамо?

— Доктар прыйдзе, мама,— адказаў Геня.

— Ідзі, сынок, спаць,— ты ж нябось нахадзіўся за доўгі дзень,— сказала маці, сядаючы каля раненага.

Але Геню не хацелася спаць. Пражыты дзень усё яшчэ хваляваў яго. І толькі за поўнач ён млява асунуўся на салому ў кутку склепа і заснуў сном спрацаванага чалавека.

## IV

Першыя дзён колькі Іван Нічыпаравіч бадай не адлучаўся ад раненага. Мераў тэмпературу, рабіў перавязкі, папраўляў пасцель. Ранены расказваў яму пра сябе, пра сваё жыццё. Завуць яго Барташэвічам Рыгорам Палікарпавічам. Ён настаўнік з Чэрвеньшчыны. Выкладаў у сярэдняй школе батаніку, заалогію і іншыя прыродазнаўчыя навукі. Там у яго засталася сям'я — жонка і двое дзяцей. Ён часта ўспамінаў пра іх, а ў гарачцы клікаў іх па імёнах. Настаўнік Барташэвіч быў камандзірам запасу, і таму ў першыя дні вайны ён ужо вёў у бой роту.

Іван Нічыпаравіч шчыра падружыў з хворым. Усё цяперашняе жыццё яго было запоўнена адным — адратаваць ад смерці свайго новага друга.

На пяты дзень раптам узнялася высокая тэмпература. Доктар запепакоіўся. Тэмпература не спадала. Барташэвіч гас увачавідкі. Пасля гэтага Іван Нічыпаравіч зрабіў вывад, што без аперацыі не абыдзешся. Усе дні ён са страхам чакаў гэтага моманту. Сам ён не быў хірургам. Але ён быў сельскім доктарам, і яму за доўгую практыку даводзілася мець справу і з хірургіяй, хоць складаных аперацый ён усё ж не рабіў яшчэ ніколі. Гэта і непакоіла Івана Нічыпаравіча. У горадзе, зразумела, можна было б знайсці хірурга. Але справа гэта рызыкоўная.

І Іван Нічыпаравіч адважыўся сам выняць з нагі асколкі... Яму здавалася цяпер, што са смерцю камандзіра яго ўласнае жыццё зробіцца пустым і лішнім.

...Цэлыя суткі пасля аперацыі Іван Нічыпаравіч не зводзіў вачэй з хворага. І якой жа была яго радасць, калі назаўтра раніцай тэмпература спала. Хвораму стала лягчэй. Ён заснуў і праспаў да паўдня.

Пад вечар Геня прынёс у склеп навіну.

— Каменданту капут! — сказаў ён.— Чэснае піянерскае...

Барташэвіч зацікавіўся навіною. Але хто забіў каменданта, Геня не ведаў. Ён толькі даведаўся, што неўзабаве прыехаў новы камендант і адразу схапілі з вёскі дзесяць заложнікаў.

Барташэвіч папрасіў Геню паклікаць важатую.

З Маняй ён гаварыў адзін на адзін. А назаўтра Геня прынёс у склеп новую навіну: усе заложнікі вызвалены, варта перабіта.

Так ішлі дні за днямі. Барташэвіч усё часцей выклікаў Маню. Маня засталася сіратою. Са смерцю маткі яе болей нішто не звязвала з хатай.

Ужо неяк пад восень, калі па полі слалася першая кволая павуціна і ў паветры закружыўся жоўты ліст, Маня прыйшла да Барташэвіча з клумкам у руках. Следам за ёю прыйшоў і Іван Нічыпаравіч, таксама з клумкам і доктарскім чамаданчыкам.

— Гатовы? — сустрэў іх Барташэвіч.

— Гатовы, таварыш камандзір,— па-ваеннаму адрапартавала Маня.

— Ці не ранавата, Іван Нічыпаравіч,— гаварыў Барташэвіч, устаючы з пасцелі. Абапіраючыся на палку, ён прайшоўся па склепе.— Прыстану яшчэ...— ківаў ён галавою.

— На руках данясу, таварыш камандзір,— усміхнулася Маня.— Я сказала хлопцам, што сёння ж прывяду вас. Болей чакаць не згаджаюцца. Ды і фашысты лютуюць...

— Нядобра ўсё ж, што камандзір кульгавы. Ды затое памочнікі ў мяне якія... Праўда? — ласкава глянуў Барташэвіч на Маню і Івана Нічыпаравіча.

— Памочнікаў у цябе, Рыгор Палікарпавіч, ужо бадай каля сотні...— адказаў доктар.

Барташэвіч апрануўся, падышоў да Гені.

— Дзякуй, збавіцель ты мой. Расці вялікі, Генечка,— сказаў ён, абнімаючы Геню.

У Гені на вачах выступілі слёзы.

— Іван Нічыпаравіч, і я з вамі пайду...

— Вось як! Малы ты яшчэ, брат...

— Я не малы,— пакрыўдзіўся Геня.— Вазьміце, дзядзя...

Ён аберуч павіс на шыі Барташэвіча.

— А маці што скажа? — пачаў здавацца Барташэвіч.

— Яна пусціць. Праўда, мамусенька?

Для маці гэта было вялікай нечаканасцю. Яна не ведала, што і адказаць ім — Геню і Барташэвічу. Ёй шкада было разлучацца з сынам, але яна добра ведала, з кім і на якую справу ён ідзе. Яна і сама б згодна ісці разам, ды як жа ёй прасіцца... І яна маўчала.

— Дык што ж, Марфа Платонаўна? — перапыніў цяжкае маўчанне Барташэвіч.— Можа, няхай... Геня хлапец дасціпны. Памочнікам будзе ў нас. А сцяг, Геня, цяпер ужо не тайна: ён будзе сцягам нашага партызанскага атрада, а можа і брыгады...

Узрадаваны Геня пачаў апранацца. Маці моўчкі выцірала ражком хусткі вочы. Потым яна раптам схамянулася і пачала збіраць сына ў дарогу.

*1944 г.*

# АЎТАМАТ

## I

— Грыша, немцы сышлі ўжо? — убачыўшы цераз плот свайго неразлучнага дружбака, паціху запытаўся Віця.

Грыша толькі што выйшаў з хаты. Спыніўшыся на ганку, ён збіраўся з думкамі, чым бы яму заняцца. Перад ім быў доўгі летні дзень. Ён ужо намерыўся быў спярша падацца да Віці, як пачуў яго голас.

— Сышлі, няхай яны ногі паломяць,— пстрыкнуўшы скрозь зубы слінаю, адказаў Грыша.

— Ну, то і добра. Ад нас таксама звалакліся. Яны цяпер да вечара не вернуцца.

— Каб яны назусім звалакліся, от тады было б добра... А так набегаюцца за дзень, як сабакі, а вернуцца, дык злыя, што ваўкі.

Віця лёгка пераскочыў цераз нізкі паркан і апынуўся на двары побач з таварышам. Абодва яны былі роўныя і па гадах, і па росту. Толькі Віця быў бледны і худзенькі, з віхрастым, даўно нястрыжаным чубам, а Грыша камлюкаваты, з шырокім скуластым тварам; круглая, як рэпа, галава яго стракацілася ад разор няроўнай саматужнай стрыжкі, відаць, «авечымі» нажніцамі.

— У вас дома ёсць хто? — таямнічым голасам спытаўся Віця.

— Я адзін.

— Ну то і добра.

— А што?

— Так сабе,— няпэўна адказаў Віця, засоўваючы руку ў глыбокую кішэню шарачковых штаноў. Не вымаючы рукі, ён агледзеўся, ці не відаць каго, і дадаў: — Хадзем лепш у клець...

Грыша не пярэчыў. Матнуў сваёю круглаю галавою ў знак згоды і памкнуўся ісці, але Віця спыніў яго:

— А хату замкнуў?

— Не.

— Замкні лепш.

Грыша замкнуў дзверы доўгім ключом, які праходзіў праз вушак, потым засунуў ключ пад крокву страхі.

Клець, куды прыйшлі хлопцы, была прыбудавана пры гумне трысценем. Зімою сюды ссыпалася мякіна і пацяруха для каровы. Тут жа валяліся і розныя гаспадарчыя прылады. Гэта было самае зацішнае месца на сядзібе, куды са старэйшых рэдка хто заглядваў, і хлопцы даўно аблюбавалі яго для сваіх сакрэтных сходак і спраў. Зараз тут, далей ад людскога вока, можна было памарыць уголас аб шмат якіх рэчах, што цікавілі малых. Не першы дзень ужо хлопцы ломяць галаву над тым, як знайсці ім партызан або што б такое прыдумаць, каб пазнішчаць гітлераўцаў, якія запаланілі іх калгас і ўводзяць тут свае фашысцкія парадкі. Марачы, яны не раз вынаходзілі розныя цудоўныя гарматы, якія самі не толькі раз'язджаюць па зямлі, але і страляюць толькі ў фашыстаў, а нашых ніводнага чалавека не зачэпяць. І ніякая сіла не можа ні спыніць, ні разбіць гармат. Спрабавалі яны стварыць у сваім дзіцячым уяўленні і такіх казачных асілкаў, якія не баяцца ні бомбаў, ні снарадаў. Бомбы і снарады адскокваюць ад іх, як мячыкі. А што да куль, дык асілак на іх і ўвагі не звяртае. Самі ж асілкі ходзяць па занявоўленых гарадах і калгасах і дзе толькі ўбачаць фашыстаў — раздзіраюць, як жаб.

Прыемна сніваць такія прывабныя мары! Калі ж гарачая фантазія астывала, хлопцы цішком, з палёгкай на душы, паглядалі ў цёмны куток клеці, дзе пад рэшткамі леташняй мякіны і пацярухі ляжыць, стаіўшыся, у зямлі самы сапраўдны ППД, знойдзены імі ў бары пасля адступлення нашых. Як зачараваны тэстамент, гэта рэальная, не казачная зброя бадзёрыла іх і напаўняла нуднае жыццё нечым светлым, радасным. Яны ўспаміналі сваю родную Чырвоную Армію, сваіх бацькоў-чырвонаармейцаў, успаміналі вясёлыя бесклапотныя дні шчаслівага жыцця ў школе, у піянерскім атрадзе... Мінула толькі якіх два месяцы, як прыйшлі да іх у калгас чужыя салдаты ў зялёных шынялях, а здавалася — прайшло шмат гадоў, і былыя дні ўяўляліся цяпер як нейкая цудоўная казка.

Зачыніўшыся ў клеці, хлопцы паселі ля сцяны. Грыша з цікавасцю сачыў за адтапыранай кішэняй свайго таварыша. «Відаць, знайшоў нейкую важную зброю»,— думаў ён.

— Цяпер можна,— з таемнасцю змоўцы загаварыў Віця.— Заплюшчы вочы і разяў рот...

І хоць размова Віцева крыху не вязалася з тым, аб чым думаў Грыша, ён усё ж заплюшчыў вочы і разявіў рот. Усміхаючыся, Віця выняў з кішэні нейкую прадаўгаватую рэч, укручаную ў бліскучую алавяную паперку, спрытна разгарнуў яе і, сказаўшы «раз, два, тры!», укінуў Грышу ў рот. Той сціснуў у зубах салодкую, як мёд, цукерку і са смакам пачаў жаваць яе.

— Дзе ты ўзяў? — спытаўся ён, праглынуўшы цукерку.

— Немцы на стале пакінулі — аж цэлых пяць штук! На яшчэ адну. І мне дзве застанецца, бо адну я ўжо з'еў.

Расправіўшыся з цукеркамі, Віця сказаў, кіўнуўшы галавою ў куток клеці:

— А цяпер давай паглядзім: можа, заржавеў?..

— А калі яны скора вернуцца?

— Чаго? Яны, мусіць, паехалі партызан шукаць. Нешта ўсё ґергеталі адыходзячы: «партызант, партызант...»

— Што ты кажаш? — захваляваўся Грыша.

— Сам чуў на свае вушы.

— Эх, каб ведаць, дзе нашы... Мы б ім хоць перадалі пра гэта...— пашкадаваў Грыша.

— Мы б тады ім і аўтамат аддалі,— дадаў Віця.— А так ляжыць дарэмна.

Хлопцы рукамі адкапалі мякіну, разгрэблі мяккую зямлю зверху і дасталі з ямкі ўкручаны ў стракатую посцілку пакунак. У пакунку быў аўтамат. Яны ўважліва агледзелі густа змазаны ствол, затвор, дыск з патронамі і засталіся задаволеныя: іржы не відаць было. Пасля гэтага яны зноў пачалі марыць аб тым, як звязацца з партызанамі і перадаць ім сваю знаходку. Ніхто з старэйшых іхняга сакрэту не ведаў. Грыша настойваў на тым, каб сказаць каму. Віця не згаджаўся. Ці можна быць упэўненым, што гэты старэйшы дапаможа? Яшчэ загадае аддаць фашыстам,— тады бяда. Яны ж з першых дзён вывесілі аб'яву , у якой пагражаюць шыбеніцай усім, хто не здасць зброю.

— Аддаць трэба толькі партызанам,— даводзіў Віця.

— Дзе ты іх знойдзеш? — заклапочана перапытаў Грыша.

— Трэба шукаць...

— Але ж яны, можа, дзе за дваццаць ці за пяцьдзесят кіламетраў...

Справа сапраўды не простая. У сваім барку, што сінеецца тут жа, за калгаснымі палеткамі, партызан не чуваць. Хлопцы ж там часта бываюць. А што робіцца далей, у вялікім лесе,— хто можа ведаць. Ісці туды, па-першае, боязна, па-другое, маткі не пусцяць.

Нацешыўшыся з аўтамата, яны зноў старанна загарнулі яго ў посцілку і захавалі ў тым месцы, дзе ён і быў. Потым пайшлі займацца сваімі штодзённымі справамі. Маткі іх і Грышава старэйшая сястра працавалі ў полі. Над калгасам немцы паставілі свайго старасту і паліцаяў. Паліцаі хадзілі са стрэльбамі, усюды заглядвалі, шнырылі, вынюхвалі, ва ўсё ўмешваліся. Цяпер яны тарчалі больш на полі як прыганятыя. Хто спрабаваў супраціўляцца няволі, яны білі тых самі або вялі ў воласць да пана каменданта.

З першых жа дзён у калгасе атабарыўся нямецкі атрад па ахове дарог: побач праходзіла чыгунка і шасэ. Ужо некалькі дзён, як фашыстаў пачалі даймаць партызаны. Пад адхон паляцелі цягнікі. На шасэ рвуцца міны, узлятаюць у паветра грузавікі... І гітлераўцы хадзілі пануры́я і лютыя, як ваўкі.

## II

Сонца было на захадзе. Яго доўгія мяккія праменні слаліся па зямлі коса і малявалі цыбатыя нязграбныя цені ад будынкаў і дрэў. Быў канец жніўня; у паветры сям-там плавалі на сваіх кволых красёнцах павучкі — прадвеснікі блізкай восені. Лёгкі ветрык пяшчотна калыхаў красёнцы, рассейваючы іх па колкім іржэўніку, па платах, кустах. У прыродзе, хоць яшчэ і невыразна, але ўжо вызначаўся пераход з лета на восень. Палі бадай апусцелі. Толькі дзе-нідзе тарчалі дзялянкі позняй ярыны, як забытыя гаспадарамі палосы.

Віця накапаў бульбы і пачаў варыць яе тут жа, на агародзе. Ён разлічваў да прыходу маці ўправіцца з работай, каб потым разам павячэраць. Жылі яны цяпер у меншай палавіне хаты, якая звычайна служыла для схову розных хатніх рэчаў. Чыстую, большую палавіну займалі немцы. Там жылі афіцэр і яго дзяншчык.

Першымі вярнуліся немцы. Афіцэр, на хаду расшпільваючы гузікі мундзіра, падаўся проста ў хату; яго

высокі хударлявы дзяншчык спыніўся ля ганка, водзячы вакол доўгім носам. На двары было пуста, і нішто, відаць, не затрымала яго ўвагі. Злосна чмыхнуўшы, ён крута павярнуўся назад і павольна пайшоў вуліцаю. Раптам ён спыніўся супраць двара, дзе жыў Грыша. Грыша ў гэты час карміў ля ганка сваю курыцу Рабку крошкамі хлеба. З чарады курэй яна засталася адна, і Грыша песціў яе сваімі клопатамі і ўвагаю. Салдаты, якія стаялі ў іхняй хаце, зараз цягалі курэй і ўсякую жыўнасць з суседніх двароў, маючы на ўвазе, што здабыча на сваім двары іх не міне.

Дзяншчык увайшоў на двор. Рабка згледзела чужога чалавека і пырхнула ў падваротню хлява, дзе ў яе было седала. Дзяншчык нешта забалбатаў да Грышы, паказваючы на хлеў. Грыша здагадаўся, аб чым ідзе размова, але не кратаўся з месца: ён не спадзяваўся, што немец з другога двара паквапіцца на яго Рабку, калі салдаты з іхняй хаты яе абыходзяць. Але дзяншчык зняў з пляча аўтамат, адчыніў вароты. Курыца масцілася ўжо на сваёй жардзіне, жмурачы вочы. Дзяншчык выстраліў. Рабка звалілася на зямлю. Ён падняў яе за ногі і, ухмыляючыся, жвава падаўся з двара міма збянтэжанага Грышы.

Сонца закацілася за лес. Цемень згушчалася ўвачавідкі. З поля пачалі ісці калгаснікі. Прыйшла нарэшце і Віцева маці. Зморaная і галодная, яна адразу прысела ля тлеючага вогнішча, дзе на трыножцы стаяў чыгунок зваранай бульбы. Елі яны моўчкі, як звычайна, хмурыя і сумныя.

Яны яшчэ не скончылі вячэры, як на агарод да іх прыйшоў дзяншчык. Ён загадаў ім зараз жа падняцца і ісці да пана афіцэра.

Афіцэр сядзеў за сталом, уплятаючы засмажаную курыцу. Чырвоны твар яго аж гарэў ад сытасці і віна, бутэлька якога стаяла перад ім. Еў ён павольна, не зводзячы вачэй са стала. Віця з маткаю спыніліся пры ўваходзе, чакаючы, што скажа ім афіцэр.

Афіцэр расправіўся з курыцаю, выцер хустачкаю рот і глянуў на ўвайшоўшых.

— У вашым доме,— загаварыў ён лянiва,— мяне абакралі... Я не хачу і не буду займацца следствам, хто пакраў мае цукеркі. Суд адбудзецца заўтра каля вісельні на вашым агародзе.



4 Зак. 2344

Перавёўшы асалавелыя вочы на дзеншчыка, ён дадаў:

— Заперці арыштаваных у кладовую і паставіць варту.

Дзяншчык казырнуў. Абамлелыя Віця і маці маўчалі.

III

Аб тым, што здарылася з Віцем, Грыша даведаўся толькі раніцай, калі на агародзе салдаты ўжо ставілі слупы для шыбеніцы, а пад вокнамі стараста з паліцаямі выгуквалі грозны загад пана афіцэра ўсім збірацца на месца пакарання злачынцаў, зрабіўшых замах на ўласнасць германскай імперыі...

Падзея гэтая так уразіла Грышу, што ён з немым крыкам кінуўся прэч з хаты. Маці ведала, якія шчырыя дружбакі былі Грыша і Віця, і яна не здзівілася такой уражлівасці сына. У яе самой падкошваліся ногі, млела ўсё ўсярэдзіне, хоць яна і не верыла ў сапраўднасць таго, што адбывалася. Можа, гэта проста так сабе гавораць... Яна паспрабавала падысці да суседчынай кладовай, каб хоць праз дзверы запытацца ў яе самой, аб чым гэта трывожна загаварылі людзі. Але вартавы наставіў аўтамат, пагражаючы спусціць курок. Яна адышла, села на сваёй прызбе і, скамянелая, сачыла за работаю салдат.

Грыша ў хату не вярнуўся. Ён зайшоў у клецы, зашыўся ў цёмны куток і плакаў наўзрыд, несціхана. Гэта ж ён таксама еў тыя праклятыя нямецкія цукеркі. Ён дакараў сябе са строгасцю няўмольнага суддзі, чаму яму не прыйшла тады думка параіць сябру занесці назад хоць рэшту цукерак. Можа б, не такая страшная кара спасцігла Віцю, калі б яны не ўсе цукеркі паелі... І што цяпер будзе? А мо Віця сказаў ці скажа і пра яго? Тады павесяць іх разам...

Праз шчыліну клеці Грышу добра відаць было, што робіцца на агародзе. Вось салдаты ўстаўляюць ужо другі слуп і засыпаюць камель яго зямлёю... Вось двое з іх прыстаўляюць да слупа драбіны і прыладжваюць перакладзіну... Бесклапотна нешта балбочуць, ухмыляюцца. Ім весела. Павесіць Віцю ім усё роўна што растаптаць казюльку. Агідныя каты! Яны відаць Грышу як на далоні.

І раптам яму нібы малатком стукнула ў галаву: «Забіць іх!» Ён глянуў пад ногі, дзе ўсяго на якія сантыметраў дзесяць у зямлі ляжаў запаветны ППД. Варта толькі дастаць яго, навесці праз шчыліну... Заманлівая думка на момант адагнала роспач і нуду. Што будзе потым, ён не думаў.

Грыша хутка раскапаў зямлю, дастаў пакунак. Разгарнуў яго, як учарашнюю цукерку, пакруціў аўтамат у руках. Ён ніколі не страляў з аўтамата, але, як і кожны цікаўны падлетак, даўно ўжо ведаў усе тонкасці гэтай справы. Да вайны ў барку быў лагер, дзе камандзіры і байцы праводзілі зборы, і, вядома, хлопцы былі там частымі гасцямі.

Ён прытуліў аўтамат да шчакі. Пякучыя слёзы градам пасыпаліся з яго вачэй. Ён развітваўся з аўтаматам, як з блізкім сябрам. Усе яго мары пра дзівосныя гарматы, пра цудоўных асілкаў канчаліся.

Перш чым разрадзіць аўтамат, ён акінуў вокам месца, мяркуючы, як бы прастрачыць не аднаго якога ката, а ўсіх. Тым больш што іх было толькі чатыры. Але тут ён убачыў, што на агарод збіраюцца калгаснікі, якіх гоняць паліцаі. Ён пачаў углядацца ў знаёмыя твары — у апошні раз хоць паглядзець на іх.

А дзе ж маці?.. Ён ясна ўяўляў сабе, што як толькі націсне на курок, дык не толькі фашыстаў заб'е, а і сябе. Яны ж, вядома, не даруюць яму.

На Віцевым двары паказалася постаць афіцэра з тоўстаю цыгараю ў зубах. Грыша толькі цяпер успомніў пра яго. Гэта ж яго, афіцэрскія цукеркі. Гэта ж ён аддаў загад вешаць Віцю. Пракляты вяпрук! Уся злосць, боль і нянавісць Грышавы перакінуліся раптам на гэтага самага крывавага ката. І ён тут жа рашуча навёў прыцэл на афіцэра, каб уляпіць яму ў жывот поўны дыск свінцовых цукерак. Няхай толькі падыдзе бліжэй.

Афіцэр махнуў рукою да вартавога, а сам паважна накіраваўся да гатовай шыбеніцы. Паліцаі замітусіліся, адганяючы народ, каб даць пану афіцэру шырэйшы праход. Людзям можна было глядзець толькі здалёк і вучыцца «нямецкаму парадку». Яны павінны дрыжаць не толькі перад немцамі, але і перад усім нямецкім. Дзеля гэтага і прыдумана была афіцэрам чарговая шыбеніца.

Ля шыбеніцы афіцэр спыніўся, ківаючы галавою. Ві-

даць, спадабалася яму работа салдат, бо тыя ззялі ад задаволенасці, круцячыся перад начальнікам.

Неўзабаве вартавы гнаў перад сабою арыштаваных. Віця ішоў са спушчанай уніз галавой, маці трымала каля вачэй белую хустку.

«Віцька, братка! — вырвалася з Грышавых грудзей.— Мы ж яшчэ ўчора збіраліся з табою шукаць партызан, каб аддаць ім аўтамат. А цяпер не трэба, Віцька... Я сам буду страляць. Ты гэта ўбачыш!»

Грыша нацэльваўся ў афіцэра, акружанага салдатамі. І калі той крыху падаўся ўперад, доўгая чарга прыглушаным пошчакам пасыпалася па клеці. За некалькі секунд спружына дыска выпрасталася, і раптам зрабілася ціха...

Віця ўзняў галаву. Перш яму здалося, што гэта немцы страляюць па іх. Але вось натоўп шарахнуўся ў бок двара, і ён з маткаю ў момант апынуліся сярод сваіх людзей. Вартавы пакінуў іх і шпарка прабіраўся наперад. Хтосьці ўдарам каменя зваліў яго на зямлю... Віця ўбачыў, што на тым месцы, дзе стаяла шыбеніца, валяліся распластаныя салдаты. Дзядзька Тодар з калом у руках распраўляўся з недабітым афіцэрам.

— У лес уцякай. Ратуйся! — пачуў ён голас дзядзькі Тодара.

Віця схапіў за руку разгубленую маці і пацягнуў яе за сабою. І калі раптам на загуменнях ён убачыў Грышу з аўтаматам у руках, яму ўсё стала ясна...

Далучыўшыся да сябра, яны разам памчаліся наперад, далей ад смерці, насустрач сінім барам і лясам.

*1945 г.*

# ПАРТЫЗАНСКАЯ МАЦІ

(Нарыс)

## 1. У ПАЛАЮЧЫМ ГОРАДЗЕ

У бухгалтарскім пакоі дарожна-механічнага тэхнікума ў той дзень было шумна і цесна: студэнты сабраліся па камандзіровачныя, і кожнаму хацелася атрымаць іх хутчэй.

— Людміла Лаўраўна!.. Людміла Лаўраўна!.. — звінелі вакол нецярплівыя галасы.

Невысокая, кволая на выгляд старая жанчына з сівымі валасамі, тая, каго клікалі Людмілай Лаўраўнай, ласкава адказвала:

— Грошы, хлопчыкі, і ў вайну рахунак любяць...

І яна машынальна, прывычнымі пальцамі адлічвала належную суму. Праўда, пальцы яе трэсліся больш звычайнага. Але яны не мыляліся, хоць яна сёння і адступіла ад свайго прафесіянальнага правіла — пералічваць грошы нанава.

За сценамі дрыжала зямля. Неба рвалася ад самалётнага гуду і зенітак. Няспынныя грымоты разлягаліся над горадам...

Старая жанчына часамі заглядвала ў насцеж адчыненае акно, што выходзіла ў батанічны сад: там скрозь сонца і зелень. Прырода ў самым росквіце. Ледзь-ледзь трапечацца лісце на дрэвах. Значыць, бомбы рвуцца недзе далей, у цэнтры, і, можа, нават там, дзе пакінула яна свайго хворага Аляксея.

У яе балела сэрца і за старога: ён адзін застаўся ў такую жудасную гадзіну іхняга жыцця.

Але думка аб тым, што без бухгалтара сёння нельга абысціся, крыху супакойвала яе вострае хваляванне, надавала сілы для выканання свайго службовага і грамадскага абавязку.

Раніцай дырэктар атрымаў загад — спешна камандзіраваць студэнтаў на граніцу для рамонту дарог і пабудовы авіяцыйных пляцовак. У касе з учарашняга дня засталіся грошы. Людміла Лаўраўна склала спіс і пачала выдаваць гэтыя грошы камандзіраваным.

К поўдню тэхнікум апусцеў. Людміла Лаўраўна замкнула пустую незгаральную шафу і выйшла на вуліцу.

І тут яна ўбачыла: за Камароўкай, над цэнтрам горада, стаяў густы дым, перамешаны чырвонымі языкамі полымя. Нельга было сказаць, каб гэты дым стаяў над адным якім месцам; ён клубіўся, як акінуць вокам, ішоў недзе правей за Камароўку. Ёй пакуль што не відаць было, што робіцца там, на Чырванасцяжнай...

Усё гэта яна разгледзела, калі дабегла да Савецкай. Тут сустрэла яе суцэльнае мора агню. Страшэнна трашчала, звіваючыся, бляха на стрэхах. З грукатам сыпалася чарапіца, апаўзалі перакрыцці шматпавярховых будынкаў, хаваючы пад абломкамі не толькі дабро людское, але і тых, хто не паспеў выскачыць з дому. І скрозь — на вуліцах, у дварах — трапляліся забітыя, абгарэлыя...

Са скамянелым сэрцам прабіралася Лаўраўна на сваю вуліцу. Але кожны загінуты спыняў яе на момант, яна мяльком скрозь слёзы кідала позірк на загубленае жыццё, і губы яе шапталі гнеўныя праклянцці тым, хто ўчыніў такую лютую бойню.

На Чырванасцяжнай яна ўжо не магла нават адрозніць свайго дома ад суседніх — усё злілося ў суцэльны бушуючы пажар.

Ёй стала ясна: позна!.. Яна абхапіла галаву рукамі і нейкі час стаяла так на скрыжаванні Фрунзенскай і Чырванасцяжнай. Горкія слёзы падалі з яе добрых ласкавых вачэй на брук, распалены гарачым чэрвеньскім сонцам і пажарамі.

Бомбы рваліся недзе далей, у цэнтры горада.

Неўзабаве яна пачула людскія галасы з блізкага берага Свіслачы. Старая схамянулася і рушыла туды.

Ля рэчкі сабраўся гурт людзей. Усе яны былі з бліжэйшых вуліц і завулкаў. Жанчыны галасілі. Дзеці ў сполаху туліліся да матак. Насустрач ім з другога берага плыла лодка. Высокі барадаты дзед жвава махаў вяслом, рассякаючы алавяную гладзь ціхай Свіслачы, у якой, як у люстры, адсвечваліся водбліскі полымя. Падагнаўшы лодку, ён сказаў тонам загаду:

— Давайце дзяцей і старых! Маладыя, пераходзьце ўброд: тут неглыбока.

На гэтай лодцы пераехала на луг, зарослы кустамі, і Людміла Лаўраўна.

Да самага цямна бегала яна, распытваючыся ў лю-

дзей, ці не бачыў хто яе дзеда. Але дзядоў у кустах на лузе было нямала, і ніхто нічога пэўнага адказаць ёй не мог.

Толькі назаўтра яна знайшла свайго старога: яго ў апошнюю хвіліну вынес з палаючай хаты сусед. Людзі дапамаглі яму дабрацца да берага рэчкі, дзе і знайшоў ён прыстанішча пад кустом.

Узрадаваная Людміла Лаўраўна перавяла мужа на Пралетарскую вуліцу: побач з мостам уцалела некалькі драўляных хатак. Жыхары пакінулі іх. Цяпер сюды збіраліся тыя, хто не паспеў выйсці з роднага горада.

## 2. ЧЫРВОНЫ СЦЯГ

У горад уварваліся фашысты. Вуліцы зашумелі ад гулу машын, гармат, цяжкога тупату салдацкіх ботаў.

Зялёныя шарэнгі ішлі маршам; яны з задавальненнем аглядалі разбураны і спалены горад і, ухмыляючыся, квакалі: «Рус капут».

Абапал моста пасталі вартавыя. Выкапалі траншэі.

Са сціснутым сэрцам пазірала Людміла Лаўраўна праз акно на «зялёных жаб», запаланіўшых горад. Гаваркая і жвавая па натуры, яна зусім змянілася за гэтыя дні: мала гаварыла, асунулася і раптам неяк адчула сябе вельмі старой і бездапаможнай. Вайна забрала ў яе ўсё: работу, свой прытулак, рэчы, хлеб...

Каб хоць крыху падбадзёрыць жонку, Аляксей менш скардзіўся цяпер на калаццё, спрабаваў сам тупаць па хаце і ўсё гаварыў аб тым, што ён думаў пра вайну. Ён цвёрда запомніў словы, якія чуў па радыё: перамога будзе за намі! Усім сэрцам верыў ён гэтым словам і няспынна паўтараў іх.

Увечары па Пралетарскай вуліцы, з боку опернага тэатра, імчаўся легкавы аўтамабіль. Ён ужо набліжаўся да моста, як раптам з акопа высунулася каска з наведзеным аўтаматам.

— Хальт! — крыкнуў немец.

Машына рэзка затармазіла. Прачыніліся дзверцы.

Немец застрачыў з аўтамата па машыне.

Трое ваенных ў пагранічнай форме выскачылі з машыны і, адстрэльваючыся, кінуліся ўлева на луг. Немцы пагналіся за імі.

Уся гэтая падзея адбывалася супраць акна, у якое з жахам пазірала Людміла Лаўраўна.

Калі немцы зніклі за мостам, яна выбегла на вуліцу. У машыне ўбачыла байца-шафёра, які бездапаможна асунуўся на сваім сядзенні. Людміле Лаўраўне здалося, што ён паранены. Дрыжачымі рукамі яна адчыніла кабіну.

— Ратуйся, саколік! — прашаптала яна.— Я памагу. Немцы пабеглі...

Але шафёр чамусьці маўчаў. Яна дакранулася да яго пляча, паварушыла і толькі цяпер пераканалася, што шафёр мёртвы...

Тады яна заглянула ў машыну: там нікога не было. Унізе, пры канапе, стаялі нейкія скрынкі, а ў кутку на сядзенні ляжаў невялікі скрутак, загорнуты ў газету. Яна ўзяла скрутак у рукі, адгарнула газету і ўбачыла чырвонае шаўковае палатно з вышытымі парчою краямі.

«Гэта ж сцяг,— падумала яна,— наш сцяг...»

Яна беражліва паклала яго на месца. Адступілася ад машыны. Стрэлаў ужо не чуваць было. «Загінулі ці ўцяклі? — у думках развažала старая.— І як жа гэта яны не ведалі, што горад захоплены ворагамі? А можа, яны сцяг ратавалі, рызыкуючы жыццём? Цяпер зялёныя жабы цешыцца будуць, глумячыся над сцягам, будуць квакаць: «Капут!»

Горкая крыўда апанавала старую. Яна рашуча вярнулася да машыны, схапіла скрутак.

— Не дам я ім сцяга! — усхвалявана прашаптала Людміла Лаўраўна, кінуўшы позірк на нерухомы труп шафёра. І гэтыя словы прагучалі як прысяга.

Да моста ўжо спяшаліся немцы.

Старая непрыкметна знікла за варотамі.

### 3. ПАРТЫЗАНКА

Халоднай снежаньскай ноччу Людміла Лаўраўна стаяла ў хлебнай чарзе. Хлеб іншы раз прадаваўся дзеля выгляду: захапіць яго маглі толькі шчасліўцы — першыя з чаргі.

Лядаштая вопратка слаба грэла старыя косці, і Людміла Лаўраўна, уздыхаючы, няспынна тупала, пляскала рукамі. Як і ўсе, яна з нецярплівасцю чакала світання, калі, здавалася, меншаў мароз і рабілася весялей на ду-

шы. Яна марыла пра хлеб — якое будзе шчасце, калі пашанцуе дастаць хоць колькі грамаў! Тады наперадзе спакайнейшы дзень. Яна адагрэецца і паспіць.

Пачало світаць. На ўсходзе займалася зарніца.

Міма чаргі прайшлі трое мужчын. Адзін з іх нешта загаварыў да сяброў, паказваючы на чаргу. Голас яго Людміле Лаўраўне здаўся вельмі знаёмым. «Хто гэта?» — зацікавілася яна, выходзячы з чаргі.

— Чакайце, чакайце! — клікнула яна прахожых.

Тыя спыніліся. Старая падышла да іх бліжэй.

— Хто гэта гаворыць тут знаёмым голасам? — пільна ўглядалася яна ў твары мужчын.

— А, Лаўраўна! — усклікнуў адзін з іх, выступаючы наперад.— Жывая?

— Жывая, галубок! — адказала старая.— І ты жывы? Вельмі рада.

Мужчына, які пазнаў Людмілу Лаўраўну, аказаўся яе знаёмым з Лагойска. Звалі яго Браніслаў Мікалаевіч.

Пагаварыўшы спехам аб тым-сім, Браніслаў запытаўся ў яе адрас.

— Хутка ўбачымся... — сказаў ён, развітваючыся.

Праз тыдні два ён сапраўды наведаў Людмілу Лаўраўну. Жыла яна цяпер на Друкарскай вуліцы. Старыя знаёмыя гутарылі аб жыцці-быцці, аб вайне. Нарэшце Браніслаў сказаў проста:

— Вось што, Лаўраўна: усе нашы людзі абвясцілі бязлітасную партызанскую вайну гітлераўцам. Твая дапамога патрэбна майму атраду...

Людміла Лаўраўна шырока раскрыла добрыя вочы.

— Дзякую, Браніслаў Мікалаевіч, за гонар. З дарагой душы буду памагаць вам, чым магу,— горача адказала яна.

З гэтай сустрэчы для Людмілы Лаўраўны пачалося новае жыццё: яна стала партызанкай.

Зноў вярнулася да яе ранейшая рухавасць і жвавасць. Цяпер яе бадай кожны дзень бачылі ў горадзе, асабліва на рынках. Але на рынках яна зараз больш цікавілася спецыяльным асартыментам тавараў: у зашмальцаваную палатняную сумку ўласнага вырабу пакаваліся і кашулі, і рамяні, і ліхтарыкі... Нават кнігі не менш цікавілі яе: яна ахвотна збірала вайсковыя падручнікі, карты, вучэбныя дапаможнікі...

З той жа нязменнай спадарожніцай-сумкай у руках

яна заходзіла да знаёмых дактароў і фармацэўтаў, дзе даставала бінты, вату, медыкаменты...

І калі доўга не з'яўляўся пасыльны з атрада, яна туга пакавала сваю сумку здабытым таварам, клала зверху колькі пачак запалак, іголкі, сахарын, брала ў рукі кій ды развітвалася са старым:

— Не вярнуся — не памінай ліхам...

Па дарогах яна абыходзіла небяспечныя пункты, трымаючыся прыказкі: сем вёрст — жабраку не наклад.

Так даходзіла яна да Лагойска. А там, у абход, знаёмымі сцежкамі заходзіла ў знаёмыя вёскі да знаёмых людзей. І ў той жа вечар у атрадзе ўжо ведалі аб яе прыходзе.

— Партызанская маці тут,— дакладваў камандзіру сувязны з вёскі.

Ноччу сувязны з атрада наведваў Людмілу Лаўраўну. Сумка яе запаўнялася новым таварам: газетамі, лістоўкамі, пісьмамі да родных. І зноў зверху, на віду, складваліся тыя ж запалкі, сахарын, іголкі. З імі Лаўраўна не разлучаецца: такая ўжо афіцыйная дзейнасць бабулькі — дробны абменны гандаль. Ніводзін патруль з нямецкай аховы да такой гандлёвай бабулькі не прычэпіцца.

Часта ў Мінску на розных вуліцах раніцай людзі спыняліся ля расклееных свежых партызанскіх газет і лістовак; часта з кішэняў даставалі тыя ж лістоўкі... Але нават самыя блізкія суседзі не здагадваліся, што гэта справа старой Лаўраўны.

Праўда, пра смеласць і дасціпнасць яе слава ішла далёка. Яна не баялася схадзіць на вярбовачны пункт на Мэблевую вуліцу, куды зганялі людзей для адпраўкі на фашысцкую катаргу, і даць хабар нямецкай «фраў», каб адпусціла бабчынага «пляменніка» ці «пляменніцу».

Аднойчы прыязджае да яе знаёмы Рыгор Баравец.

— Бяда,— кажа,— што рабіць, Лаўраўна?

І ён расказаў пра сваю бяду. Каля вёскі быў лагер ваеннапалонных. Сэрца аблівалася крывёю, гледзячы на пакуты людзей, якія трапілі ў лапы людаедаў. Рыгор выратаваў аднаго палоннага, Мікалая Семяніхіна: прызнаў яго за сына. Потым прывык да яго, як да роднага. Але ў вёску наляцелі вярбоўшчыкі. Яны схапілі і прыёмнага Рыгоравага сына. Цяпер ён на Мэблевай, чакае адпраўкі...

Выслухала Людміла Лаўраўна сумную вестку, паківала галавою:

— Нялёгкая гэта справа. Не паверыць «фрау», што ў мяне яшчэ адзін пляменнік завёўся. Ды паспрабую.

Апранае яна рызманы свае жабрацкія, бярэ ў рукі сумку нязменную, спадарожніцу верную, ды тупае на Мэблевую — з «пляменнікам» пабачыцца. Бабулька, вядома, не выклікае ніякіх западозранняў, і ёй нарэшце выдаюць пропуск на ўваход за калючы дрот.

Там яна знаходзіць свайго новага «пляменніка» Мікалая, перадае яму свой пропуск.

— А вы? — глядзіць на яе шырокімі вачыма Мікалай.

— Які ж я тавар: ад ветру валюся...

Здагадаўся Мікалай аб смелым бабчыным намеры, горача пацiснуў руку ды храбра рушыў да варот. Падышоў да будкі. Дрыжыць у яго ўсё ўсярэдзіне, але мацуецца — выгляду не падае. Сунуў скамечаны пропуск патрулю і — толькі яго тут бачылі...

А праз нейкі час падыходзіць і Людміла Лаўраўна...

— Пропуск? — спыняе патруль.

— Які там яшчэ пропуск! — сярдзіта адказвае бабка.— Не бачыш, хто ідзе? — дэманстратыўна выстаўляе яна напаказ патрулю сваю незайздросную асобу.

— Ну ідзі, ідзі,— падганяе немец, разгледзеўшы, што перад ім сапраўды незайздросны тавар: ніводзін фермер не купіць яго.

А назаўтра партызанскі атрад папоўніўся новым байцом.

## 4. ЖАДАНАЯ МАРА

Мінаў час, але пра сцяг ніхто, апроч старых, не ведаў. Нават роднай сястры не даверыла Людміла Лаўраўна сваёй таямніцы.

Неяк у першыя ж дні пасля здарэння з аўтамабілем старыя далі сабе зарок: захаваць сцяг да звароту Чырвонай Арміі. Як толькі вернецца яна ў іх родны Мінск, яны выйдуць сустракаць яе з гэтым сцягам.

Запаветная мара не пакідала іх нават і тады, калі Людміла Лаўраўна стала сувязной лагойскіх партызанскіх атрадаў. Сцяг і цяпер заставаўся строгай таямніцай. Ён натхняў старых на подзвігі ў імя перамогі; ён бадзёрыў іх у цяжкія хвіліны, надаваў сілы Людміле Лаўраўне ў яе нястомнай дзейнасці.

Хвалюючыся за лёс сцяга, яна хавала дарагую святыню спачатку ў падушцы. Але ёй усё здавалася ненадзейнай такая схованка. Тады яна перанесла сцяг у кладоўку.

Мінаў час, і гэтае месца не супакойвала яе. Апошнім месцам схованкі было выбрана падстрэшша. Крэкчучы, старыя ўзлезлі па драбінах на вышкі. Доўга гадалі-меркавалі. Нарэшце Аляксей адарваў унутраную закоціну, паклаў туды сцяг і зноў старанна прыбіў закоціну на месца.

Неяк напрадвесні 1943 года адбылася сур'ёзная сямейная нарада. Час ідзе. Старасць справа ненадзейная. Аляксею пераваліла за восьмы дзесятак. Людміла Лаўраўна ў любую хвіліну можа трапіць у лапы гестапаўцаў.

Цяжка было старым расставацца з сваімі марамі, ды рызыкаваць сцягам далей небяспечна.

Дасталі яны сцяг з вышак. У апошні раз разгарнулі яго. Перачыталі літары, з якіх складаўся надпіс N-скага палка. Распарола старая падкладку сваёй ватовай курткі. Зашыла туды сцяг. Узяла ў рукі сумку і кій ды рушыла ў знаёмую дарогу.

За горадам спыніў яе патруль.

— Куды ідзеш?

— Жабраваць. Не бачыш хіба? — адказала старая, смела размахваючы перад носам патруля зашмальцаванай жабрацкай торбачкай.

І яна пайшла сваёй дарогай. Абышла Лагойск, дабралася сяк-так да вёскі Ядаліна. Тут, як звычайна, зайшла пераначаваць да свайго знаёмага — Сяргея. Сяргей з радасцю сустрэў старую — быў ён такі ж сувязны, як і яна.

У тую ноч Людміла Лаўраўна не магла заснуць. Чакаючы чалавека з атрада, яна думала аб старасці, аб Чырвонай Арміі, якую, можа, ёй і не давядзецца зноў убачыць; на думку ўсплывалі малюнкі з жыцця заняволенай краіны. Яна ўспомніла, як аднойчы ішла з рынку. Зверху ў яе сумцы ляжала з дзесятак моркавак.

Па вуліцы фашысты гналі калону палонных. Галодныя, змардаваныя чырвонаармейцы не адрывалі вачэй ад яе сумкі. Яна разумела іх і цяжка пакутавала, як родная маці за сваіх дзяцей. Улучыўшы момант, яна пачала раздаваць ім моркву. Але тут жа адчула ўдар прыкладам у плечы.

Калі яна ўстала, калона ўжо адышлася. Старая падня-

ла раскіданую моркву і з жалем паглядзела ўслед палонным. Яна была вельмі слабай і не магла даганяць іх, каб раздаць астатнія моркаўкі.

Успомніліся і канцлагеры на Выстаўцы. Усю мінулую зіму забівалі там фашысты людзей і не хавалі. А колькі загінула ад холаду і голаду. Да вясны вакол лагера сабраліся горы трупаў. І толькі калі пачало прыграваць сонца, іх закапалі.

Лютую пакуту церпіць народ. Стогне зямля, чакаючы ратунку.

Але мары перапыняюцца радасным праблёскам: людзі не скарыліся фашысцкім душагубам! «Кроў за кроў! Смерць за смерць!» — напісалі яны на сваім слаўным партызанскім сцягу. І яна, старая кволая жанчына, таксама разам з усімі нясе гэты сцяг па краіне. І не ў тым справа, што не яна асабіста забіла галоўнага ката беларускага народа Кубэ,— але ж гэта зрабілі людзі з таго атрада, да якога належыць і яна.

У поўнач пачуўся лёгкі стук у сцяну. Старая прыслухалася. Стук паўтарыўся яшчэ раз. Яна счакала яшчэ колькі часу і, перакананая, што сігнал паданы правільна, выйшла адчыняць.

У хату ўвайшоў гаспадар з пасыльным атрада Цыганковым. Хутка запалілі газовачку. Замаскіравалі яе.

— Што новага, маці? — запытаўся Цыганкоў.

Замест адказу Людміла Лаўраўна распарола падкладку ватоўкі, дастала сцяг і падала яго байцу.

— Перадай камандзіру,— сказала яна.— Ды перакажы яму маю шчырую просьбу: сцяг уручыць толькі самой Чырвонай Арміі.

Цыганкоў з хваляваннем разгарнуў сцяг, перачытаў надпіс, потым укленчыў і пацалаваў ярка-чырвонае палатно. Устаўшы, ён выпрастаўся па-вайсковаму і адказаў:

— Ёсць, маці, перадаць сцяг самой Чырвонай Арміі!

* * *

Жаданая мара Людмілы Лаўраўны збылася: яна дачакалася Чырвонай Арміі. Праўда, пры радаснай сустрэчы ў руках у яе не было палымнеючага чырвонага сцяга, які яна так беражліва захоўвала каля двух гадоў. Але палкае сэрца партызанскай маці само палымнела ў гэты ўрачысты час жывым неўміручым сцягам.

Праз пяць дзён пасля вызвалення роднага горада Людміла Лаўраўна як ніколі лёгкаю хадою вярталася з партызанскага краю. У руках у яе была тая ж надзейная спадарожніца — палатняная сумка ўласнага вырабу. Пастарэла за гэтыя гады Людміла Лаўраўна, пастарэла і яе сумка...

На гэты раз у сумцы быў толькі адзін невялічкі лісток. Дазволім сабе перапісаць яго.

ДАВЕДКА

Дадзена гэтая даведка тав. Паповай Людміле Лаўраўне ў тым, што яна сапраўды мела сувязь з партызанскімі атрадамі «Бальшавік» і Захарава. Атраду «Бальшавік» дастаўляла ваенную літаратуру, зброю, ваенныя дапаможнікі, перасылала медыкаменты, соль, мыла і іншыя неабходныя матэрыялы. Атраду Захарава перадала цераз партызана Цыганкова чырвоны сцяг.

Камандзір п/а «Бальшавік»
8 ліпеня 1944 г.

Людміла Лаўраўна несла гэты лісток як самую дарагую ўзнагароду за ўсё перажытае.

*1945 г.*

# БРАТ І СЯСТРА

## I

У адзін з пагодлівых дзён верасня 1943 года Косця з малодшай сястрою Соняй ганяўся па лесе за матылькамі.

У той дзень яму споўнілася чатырнаццаць гадоў, і маці — старшая медыцынская сястра шпіталя Вера Паўлаўна Верамейчык — падаравала імяніцніку кавалак чыстай беласнежнай марлі на сачок. Ёй хацелася хоць чым-небудзь адзначыць чарговы дзень нараджэння сына.

Сам імяніннік, вядома, лічыў сябе дарослым партызанам і не вельмі ўзрадаваўся такому дзіцячаму падарунку. Але калі ён разам з маткай змайстраваў сапраўдны марлевы сачок, дык падарунак яму здаўся не такім ужо нікчэмным.

Гэта быў слаўны сачок, не горшы за тыя, якія куплялі яму бацькі раней, да вайны, у магазінах.

Бацька Косцеў пайшоў у армію з першых дзён вайны, а маці перабралася ў партызанскі атрад гэтай вясною, калі нельга ўжо было заставацца ў родным горадзе — фашысцкая разведка натрапіла на яе след... Радні ў яе не было, і яна вымушана была забраць з сабою ў лес і дзяцей. Ды, уласна кажучы, яна магла пакінуць на каго-небудзь у горадзе хіба адну толькі васьмігадовую дачку, бо Косця быў такім жа падпольшчыкам, як і яна сама: ці мала бінтоў, пакетаў ваты і розных лекаў вынес ён з амбулаторыі, у якой працавала медсястрою яго маці! Яна давярала яму не менш, як сабе. Быў ён хлапчына растаропны, рослы не па гадах, і маці цешылася з яго.

Набегаўшыся з сачком па лесе, Косця захацеў піць.

— Хадзем да крыніцы,— прапанаваў ён сястры, выціраючы рукавом лоб.— Там вада халодная.

— Не хачу,— адказала Соня.— Мне і так ногі баляць.

— Ну, дык пагуляй адна каля зямлянкі, пакуль я вярнуся.

— Добра,— махнула бялявымі коскамі сястра і пайшла да зямлянкі.

Крыніца знаходзілася ў глухой мясціне лесу, на нізкай адкрытай палянцы, зарослай густымі травамі. Яна сачылася проста з-пад камлюкаватай прысадзістай купіны і

тоненькім, як нітка, раўчуком цурчала кудысьці ў глыб лесу. Тут партызаны пракапалі неглыбокую ямку і аблажылі яе каменнямі. На дно гэтай невялічкай рачной студні насыпалі чыстага пяску-жвіру. Вада ў крыніцы была заўсёды празрыстая і студзёная. «Жывая вада» — называлі яе партызаны. Яна ратавала ў летнія спякотныя дні і людзей і ўсіх лясных жыхароў.

Да крыніцы Косця не дайшоў.

На заходняй ускраіне лесу, там, дзе размяшчаліся акопы і вартавыя пасты, раптам вельмі ж часта і густа засакаталі кулямёты; дрэвы зашумелі ад разрываў мін і снарадаў...

Косця зразумеў, што гэта не простая перастрэлка. У апошнія дні лагер жыў трывожным жыццём. З размоў старэйшых ён ведаў, што фашысты, раззлаваныя за разгром партызанамі іх гарнізонаў, сцягваюць сюды буйныя сілы для наступлення.

Косця пабег назад.

Каля зямлянкі Соні не было. Косця напалохаўся: дзе ж яна? Маці заўсёды просіць, каб ён не пакідаў сястру адну. І раптам ён згубіў яе ў такі час...

Ён забег у зямлянку. Там было пуста. Толькі на голых нарах ляжала запіска: «Косця! Я з Соняй у шпіталі. Як вернешся, бяжы да нас. Мама».

Косця супакоіўся за сястру: як добра, што яна там, з мамай.

Ля шпіталя, куды ён прыбег, стаялі санітарныя павозкі, да іх падносілі на насілках хворых і цяжкараненых.

Маці сустрэла яго са слязьмі:

— Дзе ты прападаў? Я так чакала цябе...

— А што здарылася, мама?

— Чуеш жа... Цэлы полк наступае на наш атрад. Відаць, давядзецца пакінуць гэты лагер. Пакуль што будзем вывозіць шпіталь.

Маці зняла [redacted] павозкі Косцева старое асенняе паліто, з якога ён даўно ўжо вырас, і падала яму:

— Вазьмі з сабою — скора вечар.

Потым з трывогай паглядзела на малую Соню, апранутую ў лёгкае бардовае паліто, з паркалёвай касынкай на галаве.

— Дачушка, ты пойдзеш з Косцем. Мне, відаць, прыйдзецца быць увесь час каля раненых. А ты, сынок,— звяр-

нулася маці да Косці,— глядзі, не пакідай Соню. Ідзіце ўслед за абозам. Добра?

— Добра, мама,— адказаў засмучаны Косця.

Маці пабегла ў санітарную зямлянку, а Косця ўзяў сястру за руку.

— Нікуды ад мяне не адыходзь. Чуеш?

— Чую,— пакорліва адказала сястра, бліжэй прыціскаючыся да брата.

Неўзабаве санітарны абоз рушыў ускраінай лесу ў дарогу.

Вера Паўлаўна з аўтаматам за плячыма бегала ад павозкі да павозкі, нешта загадвала санітарам, папраўляла падушкі цяжкараненым, падносіла да іх губ біклажку з вадою...

Дзеці яе ішлі за абозам разам з аховай і лёгка раненымі. Час ад часу кідаючы позірк на дзяцей, яна думала пра Соню: «Ці дойдзе малая?» Вазы былі перапоўнены, і Вера Паўлаўна вырашыла: няхай ідзе, пакуль можа. Наперадзе ноч, можа лепш тады ўдасца прымасціць яе дзе-небудзь...

Познім адвячоркам абоз нечакана наткнуўся на варожую засаду.

Пачалася перастрэлка.

Засада, відаць, была невялікая, і ўсе, хто мог, кінуліся на прарыў яе. Разам з усімі была і Вера Паўлаўна. Новая бяда на нейкі момант паслабіла яе ўвагу да дзяцей.

Пакуль ішла перастрэлка і штурм засады, Косця з сястрою сядзелі за калматым вываратнем, недалёка ад абозу. Ім было страшна, і яны не адважваліся вылазіць з зацішнага месца, пакуль не вернецца сюды маці або хто са сваіх.

І раптам усё сціхла. Косця ўсхапіўся, азірнуўся, але не ўбачыў ні абозу, ні людзей. Лес за гэты час пацямнеў яшчэ больш.

Як гэта ўсё здарылася, ён не мог растлумачыць ні сабе, ні сястры. Яму хацелася клікнуць матку. Але ж тут побач толькі што былі ворагі: гэта яны стралялі.

Косця прыпаў да зямлі: спераду чуваць быў глухі шум,— відаць, туды пайшоў абоз. Ззаду, на заходняй ускраіне, не спыняўся бой. Яшчэ не позна было вярнуцца назад, да сваіх, але яму ўсё здавалася, што маці недзе тут, блізка. Яна, вядома, не можа іх гукаць, каб не выявіць сябе ворагам.

Разгублены Косця замітусіўся на месцы, узіраючыся ў лясную цемру.

Сястра пачала ўсхліпваць наўзрыд.

— Нічога, нічога,— як мог, стараўся ён супакоіць сястру.— Мы знойдзем маму...

Ён гаварыў гэтыя словы і верыў у іх. Бо ці ж можна ўявіць, каб маці пакінула іх адных у цёмным лесе? Яна ж нават у спакойны час не адпускала іх далёка ад сябе...

— Косцік! — раптам пачуў ён збоку ціхі знаёмы голас.

Узрадаваныя дзеці кінуліся на гэты голас.

— Дзядзька Паўлюк!..

— Ціха...

Перад імі апынуўся высокі барадаты мужчына з аўтаматам у руках — адзін з байцоў аховы санітарнага абозу. Ён схапіў Соню на рукі і пабег наперад, правей той дарожкі, па якой ішоў абоз.

— Дзе мама? — шаптала Соня.

— Там... Маўчы...

Дзядзька Паўлюк меў намер абмінуць разбітую варожую засаду. Але ці то ён пралічыўся ўпоцемку, ці выдаў беглякоў здрадлівы хруст галля,— неўзабаве іх спыніў вокліч: «Хальт!»

Дзядзька Паўлюк баяўся рызыкаваць жыццём дзяцей — бегчы з імі пад кулямі. Ён апусціў дзяўчынку на зямлю і ўсклікнуў да Косці: «Бяжыце наперад!», а сам пачаў адыходзіць з боем.

Ды паядынак, відаць, быў няроўны: адна з варожых куль скасіла яго...

А дзеці не змаглі за гэты час далёка адбегчы, каб абмінуць небяспечнае месца.

## II

Праз тры дні пасля допытаў у фашысцкай камендатуры знясіленага пабоямі Косцю сілаю адарвалі ад сястры і ўкінулі ў грузавую машыну, у якой сядзеў аўтаматчык.

— Кляйн[1] партызан! — сказаў аб ім мардаты фашысцкі капітан, які вёў допыт.

Косця і не думаў ілгаць капітану, ён толькі наадрэз адмовіўся сказаць яму што-небудзь пра свой атрад. Праўда,

[1] Кляйн — малы *(ням.)*.

ён не ведаў, куды пайшоў атрад, затое добра ведаў, што такое ваенная тайна.

Апамятаўся Косця за калючай агароджай, каля нейкай станцыі, сярод натоўпу людзей, такіх, як і ён сам. Тут былі дарослыя і дзеці, і стаяў такі енк і плач, што ўсё гэта на пэўны час заглушыла яго ўласнае гора.

Недалёка ад варот сядзеў на кукішках пажылы селянін, абхапіўшы рукамі галаву.

Косця падышоў да яго.

— Вы не ведаеце, дзядзька, куды нас адгэтуль пашлюць?

Селянін падняў галаву, паглядзеў на Косцю сумнымі вачыма.

— Куды? Гэтыя душагубы знаюць для нас толькі дзве дарогі — або на той свет, або на катаргу да сваіх крывасмокаў. Хіба яны — людзі? Эх, хоць бы аднаго яшчэ прыкончыць... Тады і паміраць не страшна.

Селянін заскрыгатаў зубамі і зноў абхапіў рукамі галаву.

Косця не думаў зараз аб сабе — нутро яго гарэла ад трывожных думак за сястру. Яна засталася адна ў тым пустым хлеўчуку каля камендатуры, дзе іх трымалі апошнія дні.

Ён добра запомніў той двор і вёску: гэта зусім недалёка ад лесу, у якім быў іх атрад. Пры выездзе з вёскі там выган з кустамі і рэчка.

Пачынала цямнець. Косця апусціўся на траву. Накрыўся сваім кароткім паліто (як добра, што маці не забылася тады ў мітусні даць яму на дарогу паліто) і хутка заснуў.

Уночы ён прачнуўся не ад блізкай стральяніны, а ад таго, што нехта моцна наступіў яму на ногі. Ён паспеў усхапіцца раней, чым рынуліся на яго людзі. Яны панеслі яго перад сабою.

Усе кудысьці беглі, і ён бег. За імі, ззаду, стралялі; гулі паравозныя гудкі; у неба ўзвіваліся ракеты.

Што там рабілася, ён не ведаў.

Натоўп, які вынес яго з-за калючай агароджы, хутка пачаў радзець. Людзі разбягаліся ў розныя бакі. І нарэшце ён апынуўся адзін сярод цёмнай ночы.

Падпольнае і партызанскае жыццё навучыла яго асцерагацца ворага, не падпускаць яго да сябе. І ён бег усё далей і далей.

Пад раніцу ён змогся і прысеў на мяккі сівец каля нейкага хмызняку. Вочы яго заплюшчыліся самі. А калі ён расплюшчыў іх — ярка свяціла сонца, быў дзень. Ціхі, прыгожы вераснёўскі дзень!

Ён устаў, азірнуўся навокал і ўбачыў недалёка пастушка з кароваю. Косця павесялеў: усё ж жывая душа! І ён пайшоў да пастушка.

Нейкі час яны стаялі адзін супраць аднаго — два амаль роўныя падлеткі: Косця быў крыху большы за каранастага пастушка ў доўгім і шырокім, відаць, бацькавым, старым пінжаку.

— Гэта твая карова? — першым загаварыў Косця.

— Наша.

Так адбылося знаёмства.

— Хлеб у цябе ёсць? — паказаў Косця на зрэбную пастушкову торбачку.

— Чэрствы толькі. Будзеш есці? — запытаўся пастушок, здагадваючыся, чаму цікавіцца яго торбачкай гэты невядомы хлапец.

— Давай.

— А можа, бульбы напячом. Хочаш?

— Хачу.

Хлапчукі накапалі на недалёкім загоне па прыгаршчах бульбы, назбіралі ў хмызняку сухога галля.

— А запалак у мяне няма...— з жалем сказаў Косця, абмацваючы свае пустыя кішэні.

— У мяне цэлы карабок,— пахваліўся пастушок.

Хутка яны зусім пасябравалі.

Пад'еўшы бульбы з чэрствым хлебам, Косця запытаўся ў пастушка:

— А лес ад вас далёка?

— Які? Лясоў тут многа.

— Ну... самы вялікі...

— Не вельмі далёка. Вунь з таго ўзгорка відаць,— махнуў пастушок рукою ў бок узгорка.— Там раней партызаны стаялі...

— А цяпер?

— Не ведаю. На днях там вельмі ж стралялі. Потым, казалі, немцы з паліцаямі цэлымі машынамі вазілі адтуль сваіх забітых і раненых.

Косця захваляваўся: значыць, яму трэба хутчэй ісці туды! Там, каля партызанскага лесу, ён знойдзе вёску, дзе засталася сястра.

— Дай мне некалькі запалак,— папрасіў ён у пастушка.

Пастушок працягнуў яму карабок.

— На, бяры. Я сабе дастану.

## III

Блукаючы вакол лесу ў пошуках знаёмай вёскі, Косця думаў толькі пра сястру. Ён павінен знайсці яе. Аб іншым ён цяпер не мог думаць.

І, нарэшце, на другі дзень ён убачыў знаёмы выган і рэчку. У кустах на выгане, пры чарадзе гусей, стаяла з дубчыкам у руках малая дзяўчынка.

«Можа, яна што ведае пра сястру?» — падумаў Косця і накіраваўся да дзяўчынкі.

Але чым бліжэй ён падыходзіў да пастушкі, тым пільней углядаўся ў яе. Хустка ў дзяўчынкі якраз такая ж, як і ў Соні: белая, з чорнымі бобачкамі, з чорнай аблямоўкай... І паліто такое ж, цёмна-чырвонае. І ростам такая ж...

Дзяўчынка заўважыла яго і таксама пачала ўглядацца. Потым з крыкам ірванулася наперад. Косця замахаў рукамі:

— Ціха!..

Але на выгане нікога болей не відаць было. Дзеці селі між кустоў.

— Дзе мама? — пыталася Соня, моцна ўсхліпваючы.

Яна яшчэ не ўсё разумела, што адбылося. Але яна спадзявалася пачуць ад старэйшага брата нешта радаснае для сябе.

— Мама там... у лесе,— сказаў Косця, глытаючы слёзы.

— Дык пойдзем да яе, Косцік...

Напружана думаючы аб нечым, брат сказаў:

— Калі ты будзеш слухаць мяне, я завяду цябе да мамы.

— Буду слухаць,— пакорліва адказала сястра, не спускаючы заплаканых вачэй з брата.

— Чые гэта гусі?

— Не ведаю...

— А ў каго ж ты жывеш?

— У аднаго дзядзькі. Яго старастам завуць. Ён забраў

мяне тады, як цябе павезлі некуды, і сказаў, каб я пасвіла яго гусей...

Косця добра ведаў, хто такія старасты. Дык вось, значыць, чаму яго сілаю разлучылі з сястрою: старасту спатрэбілася пастушка... Гаспадары падзяліліся з ім: сабе забралі ў няволю яго, Косцю, а сястру аддалі свайму паслугачу...

Косця ўвесь дрыжаў ад злосці на ліхадзеяў, якія прынеслі яму гэтулькі гора.

Забраць сястру з сабою ён не адважыўся: а што, калі не скора ён знойдзе маму або каго-небудзь з сваіх людзей? Сам ён можа жыць як папала, а яна ж яшчэ зусім малая.

— Вось што, Сонька,— сказаў ён сястры.— Ты пакуль што жыві ў гэтага старасты і пасі яго гусей. Добра?

— Добра.

— І нікому не кажы, што бачыла мяне тут. Добра?

— Добра.

— А я пайду шукаць маму. Як знайду, прыйду па цябе.

Ён устаў і, як дарослы, пацалаваў сястру.

— Толькі не плач,— прагаварыў ён цераз сілу і пакрочыў у бок лесу.

Мінуўшы пустыя акопы на ўскраіне, ён дайшоў да таго месца, дзе быў штаб і шпіталь. Усюды было пуста.

Ён доўга хадзіў, аглядаючы зямлянкі. І дзіва — ніякага страху тут, на абжытых мясцінах, ён не адчуваў. Усё яму знаёма.

У сваёй зямлянцы ён знайшоў паўбуханкі чэрствага хлеба. Перакусіўшы, пачаў шукаць па другіх зямлянках — ці не засталося і там чаго-небудзь з яды. І раптам убачыў у адной зямлянцы на нарах, пад сенам, ручную гранату... Косця агледзеў яе — граната была зусім спраўная: ён добра разбіраўся ў такіх справах. І тут жа чамусьці ў яго ўзнікла думка: пачаставаць гэтай гранатай таўстамордага фашысцкага капітана. Як гэта зрабіць? Ну, ён яшчэ падумае. Косця палажыў гранату ў кішэню і падаўся знаёмай сцежкай да крыніцы папіць жывой вады.

І крыніца была такой жа, як і раней: тыя ж каменьчыкі на дне ямкі-студні, тыя ж сляды вакол вытаптанай вільготнай зямлі. Косця пачаў разглядаць сляды. Частка іх ужо засохла, але вось і зусім свежыя сляды ад ботаў... Значыць, нехта прыходзіў сюды зусім нядаўна, відаць, не пазней учарашняга дня. Хто б гэта мог быць? Нейкае няяснае чуццё падказвала яму, што гэта след чалавека, які

ведае партызанскую крыніцу. Ён доўга сядзеў на купіне, з-пад якой цурчэла жывая вада. Дзе маці? Дзе атрад? Як шкада, што маці тады не сказала яму, куды яны едуць. А можа, гэта была ваенная тайна? Успомніўся яму і той дзень, калі ён ганяўся з сачком за матылькамі. Якім усё гэта здавалася цяпер далёкім! Ці асмеліўся б ён тады адзін начаваць у полі або ў стозе сена?

Тым часам лес хмурнеў. Косця ўстаў і падаўся на луг — там, як заўважыў ён удзень, стаялі стагі.

Па дарозе ўспомніў дзядзьку, якому так хацелася вырвацца з-за калючай агароджы, каб прыкончыць яшчэ хоць аднаго душагуба. Ад дзядзькі думкі перайшлі да гранаты. Ён дастаў яе з кішэні, пакруціў у руках і адчуў сябе такім смелым, якім ніколі не быў за апошнія трывожныя дні.

Міжвольна ногі яго самі накіраваліся ў вёску. Кустамі паўз рэчку ён прабраўся на агароды, знайшоў у прыцемку знаёмы дом з садам. І калі ў вёсцы ўсё заціхла, папоўз у сад.

Стаіўшыся ў густым вішняку, ён доўга ляжаў, прыслухоўваючыся да крокаў вартавога. Адно акно выходзіла ў сад, астатнія — у палісаднік пры вуліцы і на двор. Вартавы хадзіў па двары, сяды-тады заглядваючы ў палісаднік і ў сад.

Косця вырашыў скарыстаць акно, што выходзіла ў сад. Яно было цёмнае, але ў доме яшчэ нейкі час чуваць быў шум. Значыць, вораг яго дома! Гэта падбадзёрыла Косцю.

Праз гадзіну шум у доме заціх. Пастуквалі толькі крокі вартавога. Потым і яны заціхлі. «Відаць, натупаўшыся, вартавы прысеў на ганку, а можа, і заснуў»,— падумаў Косця. У той жа момант ён ірвануўся да акна і з сілаю шпурнуў у яго гранату...

## IV

Каб схаваць след, Косця пабег уздоўж рэчкі ў процілеглы ад лесу бок. У адным месцы, за вёскаю, ён перайшоў мосцік і апынуўся на другім беразе.

У гэтую ноч Косця не спаў. У вёсцы яшчэ доўга стралялі, успыхвалі ракеты, і ён усё прыслухоўваўся, ці не чуваць дзе блізка пагоні.

Цэлы дзень Косця блукаў воддаля ад вёскі і ад лесу: фашысты, думалася яму, напэўна, усё яшчэ шукаюць таго,

хто пачаставаў іх гранатай. Яму вельмі карцела даведацца аб выніках першай сваёй баявой аперацыі. Але распытваць у сустрэчных людзей ён не асмельваўся.

І калі ўсё, як здавалася Косцю, супакоілася, ён зноў пайшоў да крыніцы — ці няма там свежых слядоў?

Свежы след быў тут і на гэты раз... Косця адчуў, як горача яму стала, калі ён нагнуўся разглядаць след. Вядома, гэта след свайго чалавека — фашыст ці паліцай адзін не пойдзе сюды!

«Трэба прыпільнаваць таго, хто сюды ходзіць, хоць бы прыйшлося сядзець тут да самай зімы!» — падумаў Косця. Ён вярнуўся ў гушчар пры палянцы і сеў там у зацішным месцы. У кішэні ў яго яшчэ заставаўся кавалак хлеба. Ён з'еў яго, схадзіў напіўся вады і зноў вярнуўся ў сваю схованку.

Ужо на адвячорку Косця раптам убачыў чалавека, які ішоў з другога боку палянкі да крыніцы. Апрануты ён быў проста: на ім была сялянская світка, шапка-кепка, насунутая на лоб амаль да самых вачэй, на нагах — боты.

«Гэта ён!» — падумаў Косця і пачаў пільна разглядаць чалавека. І калі той падышоў да сярэдзіны палянкі, Косця ясна ўбачыў худы маршчыністы твар — твар санітара Саўкі!..

Не памятаючы сябе ад радасці, ён кінуўся яму насустрач...

За ўсе апошнія дні Косця спакойна сёння начаваў у стозе з дзядзькам Саўкам.

Ад яго ён даведаўся вось што.

У час той сутычкі з засадаю маці яго была цяжка паранена ў плячо. Яна паслала па дзяцей байца Паўлюка. Але ні Паўлюк, ні дзеці на новае месца не прыйшлі. Атрад пасля жорсткага бою таксама пакінуў стары лагер і перабраўся на запасную базу; з гэтай базы і быў зроблены налёт на фашысцкі гарнізон пры станцыі. Косця толькі цяпер даведаўся, хто вызваліў яго з фашысцкага палону.

Гору Веры Паўлаўны не было межаў. Яна прасіла ўсіх шукаць дзяцей у старым лагеры.

Пошукамі заняўся санітар Саўка. Яго след каля крыніцы, якой ён не мог абмінуць, і ўбачыў Косця.

А калі праз дзень Саўка зноў прыйшоў да крыніцы, дык таксама знайшоў свежыя сляды, якія маглі належаць

толькі падлетку. Гэта зацікавіла Саўку, і ён часцей пачаў наведваць крыніцу. Тут яго і сустрэў Косця.

...Назаўтра раніцой Косця пайшоў на выган. Соня, як звычайна, была там пры старастаўвых гусях. Схапіўшы сястру за руку, ён сказаў весела:

— Пойдзем, Сонька, да мамы!

Дзяўчынка здрыганулася, збянтэжана заміргала вачыма.

— Праўда? — ледзь прагаварыла яна, не верачы пачутаму.

— Праўда! Няхай гэты фашысцкі староста сам пасе сваіх гусей. Больш ты яму — не слуга!

І брат з сястрой пабеглі кустамі, паўз рэчку, насустрач санітару Саўку.

*1954 г.*

# АЛАДКІ

Ганна вярнулася дахаты позна. Але дзеці яе яшчэ не клаліся спаць. Яны сядзелі моўчкі ў цёмнай хаце з двума замерзлымі акенцамі, напалову заткнутымі анучамі замест шыб, і насцярожана прыслухоўваліся да кожнага шоргату за дзвярыма. Іх было чацвёра. Самаму большаму, Віцю, ішоў дзесяты год, а самай меншай, Ядзі,— чацвёрты. Яны былі падобны адно на другое, і на ўсіх празрыста-васковых тварыках ляжала пячаць бядоты і голаду. За дзень яны набегаліся па хаце, нагуляліся ва ўсе гульні, якія ведалі, і зараз цярпліва чакалі матку. На двор гуляць зімой у маразы яны не хадзілі, бо не было ў іх ні адзення цёплага, ні абутку.

Раніцой выходзячы з хаты, Ганна сказала дзецям: «Калі будзеце хараша гуляць, я вам прынясу гасцінца. Можа, нават і хлеба дастану». Дзеці цвёрда запомнілі матчыны словы. Ганна пакінула ім гаршчочак бульбы ў печы і крыху саладухі — з астачы ўчарашняга дня. Дзеці з'елі бульбу і саладуху за раз, як толькі засталіся адны. Потым увесь дзень яны жылі надзеяй, што ўвечары вернецца маці і прынясе хлеба. І калі маленькая Ядзя раптам, між гульняў, пачынала плакаць і прасіць есці, яе цешылі старэйшыя: «Пачакай, мама прыйдзе, хлеба прынясе». Яна паслухмяна выцірала слёзы і, паглядаючы сваімі круглымі, як пацеркі, вачанятамі, дапытвалася, ці скора ўжо той вечар. Вельмі ж здоўжыўся ёй дзень. На змярканні яна перастала дапытвацца, ці скора вечар, і толькі руплiва сачыла за дзвярыма. У хаце пад вечар стала вельмі холадна. Дзеці сабраліся на палок, абхінуліся коўдрамі і сядзелі, цесна прытуліўшыся адно да аднаго. Кожны гадаў пра сябе, колькі хлеба прынясе мама і які кавалак прыпадзе на яго долю. А калі, нарэшце, за дзвярыма зашоргалі крокі, дзеці, як па камандзе, усхапіліся з палка з радасным крыкам: «Мама! Мама ідзе!» Яны не памыліліся, бо маміна хада была ім знаёма больш, чым свая ўласная.

Усю апошнюю зіму мама часта пакідала іх адных, выходзячы з хаты на ўвесь дзень. Яны ўжо бадай і не памятаюць таго часу, калі мама іх была ўсе дні з імі разам,

варыла ім есці, даглядала іх, ласкава гаварыла з імі і як з дзецьмі, і як з дарослымі. Гэта было тады, калі ў іх быў свой хлеб і ў хляве стаяла стракатая Манька з адным росам, якую мама штодня даіла і частавала іх цёплым салодкім малаком. У такія ўрачыстыя хвіліны ўсе яны збіраліся каля Манькі і мамы і з дзіцячай цікавасцю назіралі, як жвава і спрытна бегаюць маміны пальцы ля тугога вымя і як белымі пахучымі шнурочкамі струменіць малако ў даёнку.

Пераступіўшы парог, Ганна сказала:

— Вы яшчэ, дзеткі, не спіце?

— Не, мамка,— загаманілі дзеці.— Мы цябе чакаем...

Уздыхнуўшы, Ганна зняла з плеч торбачку і паклала на лаве. Дзеці з цікавасцю кінуліся да торбачкі, уважліва абмацалі яе і сумныя адышліся.

— А дзе ж хлеб, мамка?

Ганна падышла да стала, цяжка асунулася на лаву. Дзеці акружылі яе. Маленькая Ядзя ўспаўзла на яе калені і абхапіла яе за шыю худымі кволымі ручкамі. Ганна прытуліла дзяцей і, стрымліваючы сябе, спакойным голасам сказала:

— Прыйдзецца, дзеткі, так спаць класціся. За работу дастала крыху ячменю. Заўтра нядзеля, я нікуды не пайду, і мы з вамі намелем мукі ды напячом сапраўдных смачных аладак... Добра?

Замаркоціліся дзеці ад такой навіны, але шчырыя спачувальныя матчыны словы падбадзёрылі іх, і яны пакорна згадзіліся пацярпець да заўтра.

Назаўтра сям'я ўстала досвіткам. Маці запаліла газоўку і пачала малоць ячмень у жаронцах, што стаялі тут жа ў хаце, побач са ступай. Дзеці сачылі за рухам каменя і маміных рук з такой увагай, як сачылі яны раней за даеннем Манькі. Яны мацалі мяккую, яшчэ цёплую муку, спрабуючы яе на смак, і ўсе прыходзілі да вываду, што аладкі будуць смачныя і яны наядуцца ўволю.

Пакуль ішла падрыхтоўка да такога важнага доўгачаканага моманту, мінула, як здалося дзецям, шмат-шмат часу. Але ніхто не падганяў маму, хоць голад апякаў нутро і яны, каб мама дазволіла, з'елі б усю муку, не чакаючы аладак.

Нарэшце маці запаліла ў печы. Замешанае цеста падыходзіла, кавалачак здору, пазычаны ў суседкі, ляжаў на тапчане ў чаканні выканання сваёй не апошняй ролі ў гэ-

тай справе, дровы ў печы пачыналі гусці. Маці весялейшымі вачыма глядзела на дзяцей, і дзеці, глытаючы сліну, весялей глядзелі на маці.

Эх, дзеткі, каб была ў нас Манька, я б вам зараз па кубку малачка да аладак надаіла...

Успаміны пра Маньку былі самымі горкімі ў сям'і. Пра яе ўспаміналі, як пра самага блізкага сем'яніна, і той час, калі яны жылі з Манькай, здаваўся цяпер самым шчаслівым. Манька карміла сям'ю і малаком і хлебам, бо частку малака Ганна мяняла на хлеб.

З хлебам пачалася нястача з першых дзён вайны. Муж Ганны пайшоў на фронт, пакінуўшы сям'і свае працадні ў калгасе. Фашысты адабралі запрацаваны хлеб. З таго часу паратункам была карова. Ганна садзіла крыху бульбы, пад рыдлёўку, і клапацілася аб харчах карове — пасцілкамі збірала траву і запасіла на зіму сена. Гэтай работы хапала ёй на ўсё лета. Стараста не раз квапіўся на Ганніну Маньку, мецячы яе на чарговыя здачы немцам, але ратавалі людзі, бо ўсе ведалі, што без каровы ёй не пражыць з малымі дзецьмі.

Так жылося праз два першыя гады вайны. На трэці год, перад самай зімой, здарылася гэтае няшчасце ў жыцці Ганны. Аднойчы, вярнуўшыся з работы, яна не застала ў хляве Манькі: яе забралі фашысты з паліцаямі... У роспачы яна пабегла да каменданта нямецкага атрада са скаргай. Даведаўшыся, аб чым ідзе рэч, камендант загадаў старасту даць Ганне дваццаць пяць розгаў за тое, што яна асмелілася прыйсці да яго з такой скаргай. Стараста добрасумленна выканаў загад, і Ганна пасля — і ад перажытага гора, і ад болю — два тыдні праляжала ў пасцелі. Людзі пачалі заўважаць, што яна загаварваецца. Але з часам утрапенне прайшло. Яна ачуняла. Цяпер яна скупа мерала гаршчочкамі бульбу, а сама хадзіла па людзях у пошуках заработкаў ці горкага жабрацкага хлеба.

...Яшчэ не спяклася першая скаварада аладак, як у хату ўвайшоў «госць». Гэта быў нямецкі салдат, укручаны ў шарсцяную бабскую хустку, з-пад якой тарчалі рыжыя шчаціністыя вусы. Маленькія шустрыя вочкі і тонкі сіні нос былі дапаўненнем да яго смешнага ў такім уборы твару. На нагах яго красаваліся растаптаныя саламяныя боты. Адным словам, гэта быў досыць тыповы прадстаўнік фашысцкай арміі ўзору апошніх гадоў вайны.

Дзеці з цікавасцю заглядзеліся на гэтую недарэчную мешаніну салдата і бабы. Ім было і страшна, і смешна.

Немец падышоў да печы, локцем адштурхнуў Ганну з чапялою, а сам выставіў рукі ў чалеснікі, бліжэй да агню. Ганна моўчкі глядзела на «госця», баючыся вымавіць слова. Аладкі на скавародзе пачыналі гаманіць, іх трэба было варочаць. Дзеці паглядалі то на маці, то на салдата, то на печ са скавародою прывабных аладак.

Немец сагрэў рукі і адвярнуўся.

— Матка, яйкі! — шпарка забалбатаў ён, смешна вымаўляючы гэтыя даўно завучаныя ім словы.

— Няма курэй у мяне,— адказала Ганна.

— Матка, яйкі! — жэстыкулюючы рукамі і вусамі, упарта паўтараў немец.

Ганна адказвала адно і тое ж. Немец гарачыўся, даводзячы, што яму трэба. Але не дабіўшыся нічога, ён зноў адвярнуўся да печы і з рукамі залез у прыпечак, куды ссыпаўся жар і дзе заўсёды збіраўся попел. Ён жвава разграбаў попел і, чмыхаючы, пераціраў яго пальцамі. Але яек у попеле не было. Толькі горкі пыл, якога ён наглытаўся, непрыемна пяршыў у горле, і немец зачхаўся. Потым, адкашляўшыся, ён пачаў аглядаць хату. Ён ніяк не мог паверыць гаспадыні, каб у яе не было яек, бо добра ведаў з практыкі ў гэтай галіне, што па добрай волі ніхто яек не даваў і заўсёды прыходзілася іх здабываць, ужываючы розныя метады і прымяняючы ваяцкую хітрасць. Вочы яго затрымаліся на лахманах, што валяліся ў беспарадку на палку і на печы. Са спрытам ката, які заўважыў здабычу, ён раптам лёгка ўскочыў на палок і, злосна мармычучы, параскідаў лахманы па хаце. Але і там яек не было.

Тым часам Ганна, улучыўшы момант, дастала скавараду з першымі аладкамі. Дзеці працягнулі да яе рукі. Маленькая Ядзя закрычала: «Мама, мне першай!»

Немец павёў сінім носам. Пах свежых аладак, відаць, прывабіў яго, бо ў той жа момант ён апынуўся каля скаварады. Паразганяўшы дзяцей, ён выхапіў адну аладку.

— Матка, мне! — загаварыў ён, коўтаючы аладку.

На скавародзе заставалася яшчэ тры аладкі. Ганна памкнулася раздаць іх дзецям, але немец хапіў яе за руку і паказаў на тапчан.

— Матка, мне! — з пагрозай паўтарыў ён.

Бляднеючы, Ганна паклала аладкі на тапчан. Дзеці

заплакалі. Ганна глянула ў дзежачку і падумала: «Дзецям яшчэ хопіць, самой ужо такой бяды...» І яна наліла на скавараду новыя чатыры аладкі. Немец тым часам праглынуў аладкі, аблізаў вусы і сеў на тапчан, прагна ўглядаючыся ў дзежачку.

Другую скавараду аладак ён адабраў таксама. Тады Ганна парашыла болей не пячы. Яна паставіла скавараду на прыпечак, а сама з дзецьмі адышлася да стала. Немец скеміў яе намер і грозна крыкнуў, паказваючы на дзежку:

— Матка, мне!

Ганна прыкінулася, што не разумее, чаго патрабуе няпрошаны госць. У яе ўсё гарэла ўсярэдзіне ад жалю і злосці. Яна душылася ад слёз, гледзячы на галодных дзяцей. Але яна рабіла адчайныя намаганні стрымліваць слёзы, каб не паказаць дзецям сваёй пакуты. Аднак дзеці зразумелі з усяго, што аладак ім не дачакацца, і былі так уражаны няшчасцем, што не ведалі, як трымаць сябе: адбіраць у немца аладкі ці вінаваціць маму, што яна не праганіць драпежніка, які з рота вырваў у іх доўгачаканыя аладкі.

Расправіўшыся з другой скаварадой аладак, немец падскочыў да Ганны, хапіў яе за руку і падвёў да печы, паказваючы жэстамі, што яна павінна рабіць.

Шклянымі непрытомнымі вачыма Ганна абвяла дзяцей, немца і, уздыхнуўшы, паставіла скавараду на самы жар. Супакоены немец сеў на тапчан і зноў пачаў углядацца ў дзежачку. Там, на дне, была яшчэ кучка цеста, і ён, відаць, прыкідваў, колькі яшчэ аладак можна спячы з гэтага цеста.

На жару скаварада хутка нагрэлася амаль дачырвана. Ганна выняла яе чапялой, паднесла да дзежкі і рашуча шпурнула немцу ў твар...

*1944 г.*

# СВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

Міхась прачнуўся ад холаду. Коўдра з'ехала на зямлю. І, відаць, даўно, бо надта ж азяблі плечы.

У зямлянцы было цёмна, толькі маленькае акенца вылучалася шэрай няяснай плямай. Значыць, або відная ноч стаіць над лесам, або займаецца на дзень. На другім канцы нараў цяжка дыхала маці. Захліпаючыся, яна нешта гаварыла сама з сабою. Відаць, жыццёвыя клопаты не пакідалі яе і ў сне. Сястра Волька спала спакойна.

Міхась вобмацкам знайшоў коўдру, схаваўся пад ёй з галавою і часта захукаў, каб сагрэцца. Ён яшчэ не паспеў заснуць, як раптам пачуў, што пад ім нібы скаланулася зямля і моцны гул пракаціўся па лесе. Міхась адкінуў коўдру: што гэта? Бомбы ці снарады? Гарматы вухкаюць на ўсходзе ўжо дзён тры. Але дагэтуль іхні гул здаваўся нейкім глухім і далёкім. А гэты ж зусім побач!

Сон як рукой зняло. Міхась апрануў світку і ціхком, каб не пабудзіць маці і сястру, выйшаў на двор. Там, наверсе, можна лепш разабрацца, адкуль ідзе гэты гул і ці блізка ён.

Развіднялася. Скрозь лясныя шаты ясна відаць было чыстае неба. У апошнія дні ішлі дажджы. Прыходзілася сядзець у зямлянцы. Цёмна там і сумна. Як здоўжыліся для шустрага, непаседлівага Міхася гэтыя непагодлівыя дні!

Гарматны гул мацнеў. Цяпер Міхасю ясна было, што вайна ідзе зусім блізка. Недзе тут жа, за лесам. Што ж рабіць? Будзіць людзей? Але ж яны, відаць, самі чуюць. Усе дарогі, па якіх могуць адступаць немцы, ляжаць убаку, адны бліжэй, другія далей. Тут жа, у гэтым глухім гушчары, месца спакойнае. Сюды нават паліцаі не асмельваліся заглядваць. Тут знайшлі прытулак Міхасёвы аднавяскоўцы, вядома, тыя, каму ўдалося выжыць і ратавацца.

Здарылася гэта яшчэ ранняй вясною. У лясах, што акружалі Міхасёву вёску, размяшчаліся партызаны. Яны тут былі гаспадарамі, а не акупанты! Страціўшы надзею знішчыць партызан у адкрытым баі, фашысты ўвесь свой

гнеў і ваяцкі запал перанеслі на мірных людзей. І аднойчы пасля чарговага няўдалага паходу на партызан яны накіравалі жэралы сваіх гармат і мінамётаў на мірную вёску... Так ваяваць, вядома, лягчэй, а ў зводцы для вышэйшага начальства можна было далажыць аб незвычайных поспехах нямецкай зброі і атрымаць належную ўзнагароду.

Не ўсім удалося тады застацца жывымі... Цяпер адзіная надзея цешыць змучаных людзей — дачакацца сваіх, каб можна было хоць к зіме вярнуцца на папялішчы роднай вёскі. Партызанскія атрады зараз падаліся бліжэй да фронту, туды, дзе ішла вялікая бітва за Беларусь. Там, у іх радах, і Міхасёў бацька.

З зямлянак выходзілі людзі. Затаіўшы дыханне, яны слухалі гарматны гул і радаваліся таму, што ён так блізка. Гэта ідзе да іх доўгачаканая воля. І яна вось-вось — побач!

З суседняй зямлянкі вылез Алёша, Міхасёў аднагодак і самы шчыры прыяцель. Міхась падбег да яго.

— Чуеш? — узрушана ўсклікнуў ён.

— Чую...— усміхнуўся Алёша.— Гэта, мусіць, у Борках,— разважліва дадаў ён.

— Бяжэм,— крануў яго за плячо Міхась.— Можа, там партызаны... і нашы бацькі з імі... А не — дык пераскочым фронт і — да сваіх...

Ці трэба казаць, што гэтак жа хутчэй убачыць сваіх хацелася і Алёшу. Нават не падумаўшы, добра раіць Міхась ці дрэнна, ён ахвотна згадзіўся.

Нікому нічога не сказаўшы, тайнымі партызанскімі сцежкамі хлопцы рушылі да Борак.

Лес жыў сваім звычайным жыццём. Ён шумеў і спяваў рознымі галасамі — вясёлымі і трывожнымі. Сяды-тады над ім са свістам праляталі самалёты з чорнымі крыжамі на бартах. І скрозь яркая зеляніна, яна аж бушуе ў поўным сваім росквіце. А над усім на чыстым сінім небе з усходу падымаецца сонца. Яно яшчэ барвовае, і праменні яго яшчэ гараць толькі на вяршалінах высокіх дрэў, але ўжо ясна відаць, які пагодлівы сёння чакаецца дзень.

Недалёка ад ускраіны лесу Міхась спатыкнуўся на бягу і грымнуўся вобземлю.

Алёша спыніўся спалохана.

— Што з табою?...

«Ці не асколак заляцеў сюды?» — падумаў ён, нагінаючыся да сябра.

Тым часам Міхась устаў як нічога не было, паглядзеў пад ногі.

— Нічога,— спакойна адказаў ён.— Зачапіўся вось...— І падняў з зямлі тэлефонны шнур.

— Адкуль ён тут? — здзівіўся Алёша.

Шнур роўнаю струною цягнуўся праз лес, у той бок, дзе грымела страляніна.

— Можа, нямецкі кабель? — паціснуў плячыма Міхась. А потым пачаў разважаць сам з сабою: — А калі кабель, значыць, ён злучае батарэю са штабам...

Відаць, Міхась аб нечым здагадваўся.

— А мы праверым! — усклікнуў ён нарэшце і шпарка сунуў рукі ў кішэні світкі.— У цябе няма нажа? — запытаўся ў Алёшы.

— Не,— адказаў Алёша. Але на ўсякі выпадак таксама апусціў руку ў кішэню.— Не,— зноў пацвердзіў ён,— толькі крэмень вось...

— Давай!

Міхась схапіў крэмень і з усяе сілы пачаў пілаваць шнур. Абмотка шнура распаўзлася хутка. А калі дайшло да дроту, тут крэмень закоўзаўся і ні адна драцінка не падалася.

Міхась спахмурнеў. Не хацелася пакідаць справы, не даведзенай да канца. Ды ўрэшце, можа, гэта сапраўды той кабель, па якім падаецца каманда са штаба або наглядальнага пункта на батарэю...

— Шукай, Алёша, каменняў! — гукнуў ён сябру і сам тут жа адбегся ўбок, прыглядаючыся пад ногі.

Неўзабаве каменні былі знойдзены. Міхась падлажыў адзін камень, круглейшы, пад шнур, а другім, вастрэйшым бокам стукнуў па аголеным дроце. Дрот прыплюшчыўся. Міхась прыслухаўся. Нідзе нікога блізка не чуваць. Толькі за лесам шалеюць тыя ж гарматныя выбухі. Ён зноў яшчэ мацней ударыў па кабелі. І зноў прыслухаўся. За трэцім разам дрот расскочыўся, абодва канцы яго зваліліся на траву. І дзіва: ці то выпадкова, ці ад яго і сапраўды залежаў бой,— гарматы змоўклі...

Мінула хвіліна-другая — батарэя маўчала.

— Ага,— ледзь не заскакаў Міхась каля рассечанага шнура,— гэта па ім ішлі загады на батарэю! Бяжэм на луг, там усё ўбачым.

Крадучыся, хлопцы пабеглі праз гушчар туды, адкуль толькі што стралялі гарматы.



5 Зак. 2344

Неўзабаве лес пасвятлеў. Значыць, блізка і луг. А за ім — Боркі.

— Стой! — раптам гукнуў Алёша паціху.

Міхась спыніўся. Алёша замахаў рукою і кінуўся ў густы ельнік. Міхась пабег за ім.

— Што там? — запытаўся ён, упаўшы пад елку побач з Алёшам.

— Немцы... Вунь...

Цяпер ужо і Міхась убачыў іх. У бок ельніку, у якім схаваліся Міхась з Алёшам, спяшаючыся, ішлі два нямецкія салдаты з аўтаматамі ў руках. Відаць, яны былі нечым заклапочаны, бо ўвесь час прыгіналіся і ўглядаліся пад ногі.

Уцякаць было позна. Хлопцы цясней прытуліліся адзін да аднаго і замерлі ад страху. Убачылі іх немцы ці не? І што сказаць ім, калі яны знойдуць іх тут, побач з батарэяй? Толькі пра гэта цяпер думалі малыя.

— Пра кабель ні-ні!..— зашаптаў Міхась.— Мы не бачылі яго і нічога не ведаем...

— Добра,— адказаў Алёша, калоцячыся.— Мы скажам, што гуляем у лесе...

— Навошта гуляем? — запярэчыў Міхась.— Збіраем ягады! Так лепш.

— Але... збіраем ягады... так лепш,— згадзіўся Алёша.

Пакуль хлопцы гаманілі шэптам між сабою, салдаты прашмыгнулі паўз ельнік. Відаць, ён іх не цікавіў, бо ніводзін нават не прыгнуўся, каб заглянуць пад галлё.

І калі тупат іхніх ботаў пачаў аддаляцца, Міхась усклікнуў радасна:

— Ды яны, мусіць, разрыву кабелю шукаюць! Ну і шукайце сабе на здароўе!

Хлопцы вылезлі са сваёй схованкі і пабеглі далей. На лузе яны забраліся ў кусты алешніку і пачалі наглядаць за недалёкай вёскай. Ім здавалася, што там, у Борках, яны канешне ўбачаць знаёмыя постаці чырвонаармейцаў. А калі ўбачаць, то знойдуць спосаб і перабегчы да іх. Боркі ляжалі на ўзгорку і відаць былі добра. Але ніякіх адзнак жыцця ў іх не заўважалася. Дзве крайнія хаты гарэлі, ды нават і каля іх нікога не відаць было. Гэта моцна засмуціла хлопцаў. «З кім жа тады немцы ваююць?» — гадалі яны.

Мінула колькі часу. Нямецкая батарэя маўчала. Замест

яе цяпер бесперапынна трашчалі кулямёты і аўтаматы. Хто там страляў і куды — з-за кустоў не відаць было.

І раптам хлопцы ясна пачулі з боку вёскі магутнае «ўра». Гэта было сваё, усім зразумелае непераможнае рускае «ўра».

Пачуўшы гэты баявы кліч, хлопцы забыліся на ўсё. Няўжо іх жаданая мара збылася? Ніякага страху цяпер у іх не было. Яны гатовы былі кінуцца хоць у самае пекла бою, каб толькі хутчэй на свае вочы ўбачыць тых, каго яны так чакаюць.

Неўзабаве «ўра» пачало заміраць, а ўслед за гэтым хлопцы ўбачылі: па лузе на ўвесь дух імчацца немцы. Адны падаюць, другія бягуць далей.

— Ага! — заскакаў Міхась ад радасці.— Даняло пра-клятых...

І тут жа ён убачыў салдат у такіх з малых гадоў знаёмых светла-зялёных гімнасцёрках, у лёгкіх пілотках такога ж колеру і на іх... зорачкі! Няхай сабе гэтыя зорачкі і далёка, але Міхасю здаецца, што ён бачыць іх як на далоні. Памыліцца ён не можа — гэта зорачкі нашых савецкіх байцоў! Праўда, на плячах у байцоў пагоны. Ніколі раней Міхась іх не бачыў. Але ж ён чуў пра іх ад партызан і нават добра ведае, колькі і якіх зорачак, меншых ці большых, належыць насіць на пагонах таму ці іншаму афіцэру.

Страляючы на бягу, салдаты даганялі немцаў.

«Ура!» — на ўсю сілу закрычаў Міхась і кінуўся да нямецкай батарэі. За ім пабег і Алёша.

Хутка Міхась упаў першаму сустрэчнаму байцу на грудзі. Дух заняло і ад таго, што шпарка бег, і ад нястрымнай радасці, ён нічога не мог вымавіць, толькі моцна абхапіў аберуч незнаёмага, але такога роднага чалавека — запыленага акопамі і ваеннымі дарогамі чарнамазага байца вялікай арміі-вызваліцельніцы.

— Ну, здароў, брат, здароў! — прывітаўся баец. Потым прыгнуўся, вочы яго часта заміргалі, ён прытуліў Міхася да сваёй даўно не голенай шчакі і горача пацалаваў.— Як цябе зваць, браток?

Міхась адказаў.

— Здоўжылася, мусіць, чакаць нас, Міхаська?

— Ой як здоўжылася! — уздыхнуў Міхась.— Але мы ведалі, што вы вернецеся...

— Адкуль ведалі?

— Так усе гаварылі.

— Нялёгка было, хлопча, ісці да вас,— сказаў баец, выціраючы вочы памятаю хустачкаю няпэўнага колеру.— І сёння б, відаць, не дайшлі. Двух лепшых сваіх дружбакоў пакінуў я, брат, там, за Боркамі, у акопе...

Памаўчаўшы, ён гаварыў далей:

— Батарэя нямецкая не давала галавы падняць. А потым нешта з ёй здарылася. Снарады выйшлі, ці што. Ну, мы тым часам змялі пяхоту і даскочылі сюды. Вунь трафеі якія захапілі, цалюткія,— паказаў баец на гарматы, шырокія жэралы якіх нашы салдаты паварочвалі ўжо на захад.

Відаць, гэтая ўдалая баявая аперацыя моцна ўразіла чарнамазага байца і яму хацелася зараз гаварыць пра яе хоць з кім-небудзь. Міхась таксама парадаваўся багатым трафеям, а наконт маўчання батарэі нічога не сказаў. Ён усё яшчэ не цвёрда ведаў, што прычынай гэтаму сапраўды быў той дрот, які ён з Алёшам разбілі каменнямі.

Алёшу акружылі іншыя байцы. Адзін з іх прыколваў да яго шапкі чырвоную зорачку.

Пасля невялікага перапынку батарэя зноў загаманіла, толькі цяпер пасылала ўжо свае смертаносныя снарады на галовы тых, хто прывалок яе сюды на нашу мірную зямлю. Пад аховай гарматнага агню байцы рушылі далей. А хлопцы, усхваляваныя незвычайнымі падзеямі сённяшняй раніцы, пабеглі назад да сваіх зямлянак.

Над лесам узнялося сонца. Цяпер яно свяціла ясна і, здавалася, таксама бегла разам з Міхасём і Алёшам да іх бацькоў і суседзяў, каб хутчэй перадаць радасную вестку пра самае дарагое ў жыцці чалавека — волю.

Стаяў цудоўны светлы дзень.

*1958 г.*

# СЫН

Ніколі за гэтыя неспакойныя гады не хваляваўся так капітан Азаркевіч, як зараз, пераступаючы парог дзіцячага дома. Стаяла ліпеньская спёка, а ён адчуваў калючы холад ва ўсім целе.

У пакоях было душна. Дзеці бегалі, крычалі, складалі з кубікаў розныя хітрыя і няхітрыя пабудовы, вазілі ў аўтамабілях лялек, ляпілі з гліны танкі і гарматы.

Капітан спыніўся ля дзвярэй. Дзеці адразу заўважылі яго. Прыціхлі, як па камандзе, нясмела, але з цікавасцю разглядаючы незнаёмага дзядзьку з бліскучымі ордэнамі на грудзях, з чырвонаю зоркаю на шапцы і серабрыстымі маленькімі зорачкамі на пагонах.

Потым адзін хлопчык заміргаў вачыма, выцер рукавом носік і падаўся наперад.

— Дзядзя, ты чырвоны? — запытаўся ён тоненькім галаском.

— Чырвоны, сынку,— адказаў капітан.

— А ты не мой тата?

Капітан моўчкі разглядваў хлопчыка. У яго сына былі беленькія, як лён, віхрастыя валасы, блакітныя, як пралескі, вочы. Тады яму было ўсяго няпоўных два гады.

Гэта ўсё, што ён памятае. Такім у памяці жыве яго маленькі Віця. Гэты ж хлопчык, што глядзіць на яго з такой надзеяй, хоць і бялявы,— ні кроплі не падобны на вобраз сына, які ён тры гады носіць у сэрцы.

Стрымліваючы хваляванне, ён адказаў:

— Але, хлопчык, я тата, а чый з вас,— не ведаю...

— А дзе мой тата? Чаму ён не ідзе? — дапытваўся хлопчык.

— Твой тата прыйдзе...

Зажмурыўшыся, хлопчык адышоўся ад сваёй калясачкі.

— А Віця ў вас ёсць, дзеці? — спытаўся капітан, трацячы апошнюю надзею.

— Я — Віця, дзядзя.

Перад капітанам стаяў крыху большы хлопчык, але чарнявы. Рукі і ўвесь твар яго былі вымазаны ў гліну.

У гэты час у пакой увайшла кіраўніца.

— У нас два Віці, таварыш ваенны,— сказала яна,— гэты і вунь той беленькі,— кіраўніца паказала на хлопчыка, ужо знаёмага капітану.

— І ўсе?

— Быў яшчэ трэці, ды нядаўна памёр.

— А як прозвішчы іх?

Кіраўніца сказала прозвішчы. Ніводнае з іх не супакоіла капітана.

— Па прозвішчу вы не шукайце,— дадала яна.— Прозвішчы шмат якім дзецям давалі мы самі: яны ў нас з розных дамоў і садоў, а то і проста з вуліцы...

«Значыць, мой Віця, напэўна, той, што не дачакаўся мяне»,— падумаў засмучаны капітан. Тры доўгія гады ён думаў пра сына, пакінутага ў гэтым горадзе, марыў аб ім, сніў начамі... І якірваўся ён сюды зараз з першымі часцямі. Як шмат надзей цяплілася ў бацькаўскім сэрцы яшчэ ўчора, калі ён дабіваў са сваімі байцамі рэшткі фашыстаў на ўскраіне горада. Усе гэтыя гады ён пісаў жонцы, эвакуіраванай у тылавы раён: «Не сумуй, Ніначка, мы яго знойдзем...»

А зараз... Ён абышоў усе ўцалелыя дзіцячыя дамы і прытулкі. У іх засталося пяць Віцяў. Але ні ў адным ён не знайшоў ніводнай знаёмай рысы свайго роднага сына. Праўда, беленькі хлопчык, той, што гаварыў з ім, чамусьці найбольш уразіў яго.

Расчараваны, капітан развітаўся з дзецьмі. Ён вярнуўся ў часць, якая затрымалася часова ў горадзе, і паслаў тэлеграму жонцы. «Матчына сэрца не памыліцца»,— думаў ён.

Ніна Андрэеўна не дачакалася тэлеграмы: яна выехала ў свой родны горад, як толькі пачула вестку пра яго вызваленне.

У першым жа дзіцячым прытулку, куды яна трапіла, ёй сказалі, што хлопчыка Віцю шукаў два дні таму назад адзін капітан. Па тым, як апісалі яго выгляд, Ніна Андрэеўна пазнала мужа. І яна не ведала зараз, што рабіць: шукаць спачатку мужа або сына? У каменданта горада ёй сказалі, дзе спынілася часць. І яна пайшла туды.

Першыя словы пры сустрэчы былі пра сына. Ніна плакала, наракаючы на камандзіроўку, у якую яна паехала перад самай вайною. Праз гэта яна страціла сына, бо вярнуцца назад забраць яго ўжо нельга было...

Муж не мог змаўчаць пра вынікі сваіх пошукаў. Ніна Андрэеўна глядзела на яго засмучаны абветраны твар, на чырвоныя ад бяссонных начэй вочы, і сэрца яе сціскалася ад болю і за сына, і за пакуты мужа. Яна ведала, як любіў ён свайго Віцю.

— Эх, Ніначка, каб гэта быў наш Віця, хоць такі, худзенькі, замораны,— уздыхаў капітан.

— Я пазнаю, Міша... Мне б толькі глянуць...

Цьмяныя, але жывучыя ў дзіцячай душы ўспаміны пра бацьку растрывожылі Віцю. Гульні ў яго не ладзіліся. Хутка ён зусім засумаваў. Ён пачаў цурацца дзяцей і бавіць час адзін дзе-небудзь у кутку, у калідоры або на агародзе ў лапуху. «Дзе ж мае тата і мама,— думаў ён,— чаму яны так доўга не прыходзяць...» «Мама», — якое гэта салодкае, ласкавае слова! Ён не памятае твару мамы,— гэта было так даўно, калі ён глядзеў на яе твар і радаваўся яму. Але не мог ён забыцца першага ў яго мове слова «мама».

Калі капітан прыйшоў у дзіцячы дом з жонкаю, дзеці па-ранейшаму абступілі яго. Ён быў ужо ім знаёмы.

Ніна Андрэеўна з трывогаю ўзіралася ў дзяцей. Капітан не зводзіў з яе вачэй. Дзеці нешта шчабяталі яму, аб нечым пыталіся, але ён нічога не чуў і не бачыў, апроч жончынага твару.

— Міша,— сказала нарэшце яна,— я не бачу яго...

Капітан абвёў цяжкімі вачыма пакой.

— А дзе ж Віця беленькі? — запытаўся ён.

Дзеці кінуліся шукаць Віцю. Знайшлі яго на агародзе. Віця ўбачыў дзядзьку, які не прызнаў яго за сына, крадком, з-пад ілба, глянуў на высокую незнаёмую цётку і апусціў вочы.

Ніна Андрэеўна стаяла як скамянелая. Вачыма і сэрцам шукала яна знаёмае аблічча свайго Віці, а вобраз худзенькага хлопчыка мільгаў перад ёю, зліваючыся з усімі іншымі, такімі ж...

Потым яна глянула на мужа, які з трывогаю чакаў яе мацярынскага прысуду, і, нарэшце, схамянуўшыся, рашуча кінулася да хлопчыка: няхай будзе ён...

— Віцька, сынок...

— Ты мая мама? — перапытаў хлопчык, моцна абвіваючы рукамі шыю жанчыны.

— Твая мама, твая, Віцечка...

Слова «мама» раптам сагрэла хлопчыка і ласкай і шчасцем.

— Чаму ж ты так доўга не прыходзіла? Я чакаў цябе...— весела шчабятаў ён, мацней прыціскаючыся да мамы, быццам баючыся адарвацца ад яе.

Праз хвілін колькі новая шчаслівая сям'я пакінула дзіцячы дом.

*1945 г.*

# У РОДНЫМ ГОРАДЗЕ

Цягнік шпарка набліжаўся да горада. Ён пазніўся на добрыя дзве гадзіны, і машыніст зараз не скупіўся на скорасць, стараючыся хоць на колькі хвілін зменшыць гэтыя непрыемныя гадзіны.

На адным з паваротаў цягнік падхапіў вогненны шар узыходзячага сонца (яно раптоўна выкацілася з-за бору) і цяпер гарэзна імчаўся па зялёнай раўніне, абвіты густымі клубамі дыму. Мяккім, яшчэ вільготным святлом рассыпаліся прамені па твары пасажыра аднаго з купэ, які з самага золку не адводзіў вачэй ад акна. Гэта быў высокі мужчына гадоў сарака, з бледным тварам, на якім уздоўж шчок пралягалі неглыбокія маршчынкі, губляючыся ў коратка падстрыжаных шчаціністых вусах. Вочы яго часта і неспакойна міргалі. З прагнасцю ён курыў папяросу за папяросай, нецярпліва збіваючы попел мезенцам левай рукі.

У вагоне мітусіліся пасажыры: разбіралі пакункі і чамаданы, апраналіся. Чалавек жа, што прыліп да акна, не кратаўся з месца. І, мусіць, ён першы заўважыў аддаленыя абрысы горада ў лёгкім ранішнім тумане, бо часцей заміргаў вачыма і прыўзняўся вышэй на насках, каб лепш разгледзець тое, што ўбачыў.

Так, гэта быў горад, яго родны горад. Пасажыру здалося, што горад такі ж, якім ён пакінуў яго незадоўга да вайны, ад'язджаючы ў службовую камандзіроўку,— вясёлы і прывабны, як родны кут, з дзяцінства знаёмы і любы. На нейкі момант ім апанавала ілюзія: цягнік спыняецца каля новага вакзала-прыгажуна, сярод мітуслівага і шумнага натоўпу пасажыраў і сустракаючых ён пазнае жонку і дзяцей; яны з пышнымі букетамі свежых кветак; твары іх ззяюць ад радаснай сустрэчы з родным чалавекам.

Калі ілюзія знікла, панарама знявечанага горада буйным планам наляцела на чалавека. Ён скалануўся, закрыў вочы рукою і адвярнуўся.

* * *

Ужо ўсе пасажыры пакінулі перон, а чалавек, аб якім ідзе гаворка, усё яшчэ тупаў з чамаданамі ў руках на ад-

ным месцы, дзівячыся на спаленыя і пакалечаныя сцены вакзала, на незнаёмую пустку, дзе раней у розных кірунках разбягаліся шумныя вуліцы з кучаравымі клёнамі. Замест вуліц перад ім груваздзіліся жахлівыя руіны ды сям-там узвышаліся цагляныя фундаменты, па якіх толькі і можна было здагадацца аб былых вуліцах.

«Якою ж лютаю караю мусім караць мы гэтых вырадкаў, каб адплата была справядліваю?» — думаў чалавек.

Разгубленасць пасажыра кідалася ў вочы; яго заўважылі людзі з рабочай брыгады, што працавалі па ачыстцы вакзала. І адзін з рабочых запытаўся ў чалавека:

— Вы камеру шукаеце?

Успомніўшы пра чамаданы ў руках, чалавек сказаў:

— А хіба яна ёсць?

— Камера ж найпершае, што патрэбна пасажыру.— Рабочы паказаў рукою на недалёкі зялёны будынак-барак.

Здаўшы рэчы, чалавек з адным, меншым, чамаданам у руках пайшоў па вуліцы, якая сама трапілася яму першай.

З прывакзальнай плошчы ён убачыў, што вуліцы, дзе ён жыў, няма. Толькі два карпусы-аграмадзіны глядзелі на яго адтуль, нібы шкілеты, мёртвымі аконнымі праёмамі. У адным з гэтых дамоў, што стаяў злева, ён пакінуў сям'ю. Жыве там хто ці не? Пра гэта ён думаў усе гады разлукі, а зараз асабліва.

Раней яму здавалася, што паміж іхняй вуліцай і вакзалам месціцца досыць вялікая частка горада і што да вакзала не так блізка. Зараз жа пустка нібы скараціла адлегласць: вось перад ім і вуліца. Знішчаная і скалечаная, яна нібы не выстаяла на месцы, адпаўзла колькі магла ўперад, да вакзала.

«Значыць, туды ісці няма чаго»,— разважаў чалавек. Але, патупаўшы нейкі час па блізкіх вуліцах, ногі павялі яго ў той бок, куды яны хадзілі шмат гадоў.

Як жа ўсё змянілася!.. Ён стараўся прыгадаць знаёмыя мясціны, дзе стаялі знаёмыя будынкі і жылі знаёмыя людзі. Густыя агароды, абтыканыя шкілетамі спаленых ложкаў, зелянелі вакол на месцы былых кварталаў з драўлянымі будынкамі. І нават свой дом з бруднымі абшарпанымі сценамі, з пацямнелымі балконамі, на якіх яшчэ стаялі гліняныя гаршкі з-пад вазонаў, здаваўся чужым, незнаёмым.

Ён падышоў да пад'езда, дзе на другім паверсе была

яго кватэра. Спыніўся і доўга разглядваў балкон. На ім таксама стаялі два гаршкі. «Якія ж вазоны раслі тады ў іх?» Гэтага ён успомніць не мог. Вазоны садзіла жонка. Яна любіла кветкі і ўмела разбірацца ў іх і цаніць.

Потым ён нагнуўся і зазірнуў у ніжні паўпадвальны паверх. Сярод бітай цэглы і абгарэлага жалеза погляд яго затрымаўся на пакручаным шкілеце ложка з вострымі чатырохкантовымі наканечнікамі на версе ножак. Ён пазнаў гэты ложак, куплены ім у ГУМе на другі дзень пасля жаніцьбы. Некалі не раз лаяў ён сваю няўдалую пакупку ўсё праз гэтыя вострыя наканечнікі са срэбнай эмаллю... Цяпер жа гэты шкілет здаўся такім родным і мілым, што, уздыхнуўшы, чалавек прагаварыў уголас: «Можа, гэта ўсё, што засталося на памяць...»

Ён закурыў і выйшаў на двор, дзе калісьці расло некалькі дзікіх груш, а пад імі ўлетку гулялі дзеці, і яго дзеці — Мая і Вова. За грушамі няроўнаю падковаю стаялі павеці для дроў. Цяпер двор быў пусты, а там, дзе стаялі павеці, пачыналіся агароды. Яны цягнуліся далёка, аж да самай рэчкі.

Чалавек паставіў чамаданчык, прысеў на выступ фундамента. На агародзе перад ім корпаўся малы хлопчык. Ен, відаць, палоў грады, бо галава яго сяды-тады падымалася над бацвіннем. Адпачыўшы крыху, чалавек падышоў да град.

— Ты адкуль, хлопча? — запытаўся ён з надзеяй, што можа праз яго можна аб чым даведацца.

Хлопчык падняў галаву, з цікавасцю разглядаючы дзядзьку з чамаданам.

— Я тут жыву,— скупа адказаў ён.

— Дзе тут?

— На агародзе,— махнуў ён рукою ад сябе.

На агародзе ніякага жылля не было відаць. Хлопчык устаў і, выцершы нос рукавом лахмана, сказаў.

— Да вайны мы ў гэтым вялікім доме жылі.

— Гэта ж быў дом інжынераў,— сказаў чалавек, выпускаючы з рук чамадан.

— Ага,— упэўнена адказаў малы.— Мой тата інжынер.

Чалавек шпарка замаргаў вачыма. Некалькі рысак на худым бледным тварыку малога раптам праясніліся і выклікалі ў памяці чалавека знаёмыя рысы маленькага Вовы, таго, якога ён пакінуў на гэтай вуліцы больш трох год таму назад. І ён, як стаяў, рынуўся да хлопчыка.

— Цябе зваць Вова? — заікаючыся, затармашыў ён хлопчыка за плячо.

Хлопчык кіўнуў галавою.

— Вова, сынок!..

Хлопчык спалохана выставіў рукі, баронячыся ад абдымкаў незнаёмага дзядзькі.

Але чалавек ужо трымаў яго на руках, асыпаў пацалункамі. Хлопчык здзіўлена і недаверліва ўглядаўся ў твар чалавека.

— Не,— ківаў ён галавою,— мой тата не ты: ён малады і без вусоў. У нас картачка ёсць. Мама хавала ад немцаў.

— А дзе ж мама? — з трывогай запытаўся чалавек.

— На рабоце.

— А Мая?

Хлопчык панурыўся, апусціў вочы.

— Яна яшчэ тады, як вайна пачалася, забіта бомбаю...

Бацька выпусціў сына з абвялых рук. Яму зрабілася млосна. Прысеў на градцы. Потым, змахнуўшы слязу хусцячкаю, запытаўся:

— Дык дзе ж вы жывяце, сынку?

— Тут, у зямлянцы.

— Ну, вядзі ж мяне дадому,— сказаў ён, устаючы.

Хлопчык усё яшчэ недаверліва пазіраў на бацьку. У яго ўяўленні ён быў толькі такім, як на картачцы, і ён сказаў сур'ёзна:

— Калі мама цябе пазнае...

— Дык тады што? — журботна ўсміхнуўся бацька.

— Тады праўда.

І яны, абняўшыся, пайшлі паўз грады туды, куды вёў Вова.

*1945 г.*

# ЧАРНАВОЧКА

З настаўнікаў свайго класа дзеці найбольш любілі Івана Рыгоравіча. Мусіць, таму і далі яму другое простае і ласкавае імя — дзядзя Ваня. Іван Рыгоравіч быў класным кіраўніком, а дзядзя Ваня — лепшым сябрам. Іван Рыгоравіч выкладаў родную мову, а дзядзя Ваня часта, як роўны з роўнымі, любіў «зрэзацца» з заўзятымі класнымі шахматыстамі, наладжваў гульні, вадзіў на экскурсіі і, апрача ўсяго, цікава расказваў розныя гісторыі. Але найбольш любілі вучні слухаць яго расказы з партызанскага жыцця.

Аднойчы на ўроку англійскай мовы Коля, якога за круглыя пяцёркі па арыфметыцы сябры называлі «матэматыкам», узняў бунт супраць замежных моў. «Навошта,— кажа,— дарэмна толькі галаву ламаць. Хопіць мне і сваёй мовы. Я не збіраюся стаць настаўнікам замежных моў...»

Праўда, Коля меў падставы так абурацца: у той дзень ён схапіў двойку ў выкладчыцы англійскай мовы Ларысы Аляксееўны, да таго ж не першую ў годзе...

Даведаўшыся пра Колеў бунт, Іван Рыгоравіч затрымаў клас пасля ўрокаў.

— А кім ты сам хочаш быць? — запытаўся ён у Колі.

Гэтае пытанне не было для Колі нечаканым. Ён даўно ўжо марыць стаць настаўнікам, і абавязкова такім, як Іван Рыгоравіч, гэта значыць, ён будзе выкладаць родную мову і расказваць дзецям цікавыя гісторыі. Ён так шчыра і адказаў на пытанне настаўніка.

Іван Рыгоравіч усміхнуўся, здаволены адказам, потым зноў запытаўся:

— Дык навошта будучаму настаўніку роднай мовы вучыць арыфметыку?

Коля запнуўся. Пра гэта ён ніколі не думаў. Таму замест адказу ён толькі падняў вышэй плечы і ніжэй апусціў галаву. Дзеці зашумелі, а Іван Рыгоравіч сказаў з ноткай строгасці ў голасе:

— Усе гэтыя пытанні даўно вырашаны. Ты, Коля, не праў. Папрасі выбачэння ў Ларысы Аляксееўны і больш

так не рабі. Усё, што мы вучым у школе, патрэбна і настаўніку будучаму, і інжынеру, і афіцэру. А што гэта так, раскажу пра адзін выпадак. Сядай.

Коля сеў, надзьмуўшыся. У класе настала цішыня. Дзесяткі вачэй глядзелі на настаўніка, з цікаўнасцю чакаючы яго новага апавядання.

— Была ў нас сувязная Валя,— пачаў Іван Рыгоравіч.— Да вайны скончыла чацвёрты клас. Праўда, вучылася не ў маёй школе. І мне, прызнацца, шкада, што не ў маёй, бо я і цяпер зайздрошчу тым настаўнікам, якія вучылі яе... Была яна невысокая, танклявая, з чорнымі як смоль косамі і такімі ж чорнымі вачыма. І заўсёды прыходзіла да нас з кошыкам у руках. Немцы, вядома, і не здагадваліся, што не па ягады ці грыбы хадзіла ў лес гэтая маленькая дзяўчынка, а што на дне яе кошыка, у патайных сховах, ляжала шыфраваная запіска або нават рэвальвер ці тол... Усё гэта перасылала нам праз Валю гарадская падпольная арганізацыя. Валя маскіравала кошык зверху рознымі шпількамі, іголкамі і іншай драбязой. «На хлеб мяняць іду ў вёску»,— выстаўляла напаказ яна сваю «краму», калі хто з цікаўных пытаўся, куды ідзе. А памяць мела такую, што мы толькі дзіву даваліся: усё да макулінкі раскажа, дзе і што бачыла. І шчабятуха была, што і сарока не дакажа.

У атрадзе ўсе яе ведалі і любілі. «Чарнавочка» — так празвалі мы Валю, і гэтае імя ёй падыходзіла нават больш, чым уласнае. Жыла яна дома з маткай, а бацька быў у нас у атрадзе.

Іван Рыгоравіч зрабіў перапынак, паглядзеў на гадзіннік.

— Не буду доўга затрымліваць вас, раскажу аб галоўным,— вёў ён далей свой расказ.— Аднойчы прыйшла ў атрад сумная вестка: Чарнавочка трапіла ў гестапа...

Як потым высветлілася, здарылася гэта зусім нечакана. Раніцай яна збіралася ў атрад з чарговым кошыкам падарункаў для нас. І калі кошык быў ужо спакаваны і ўсё зроблена, як належала быць, у дзверы раптам пастукалі. Чарнавочка падумала, што гэта маці вярнулася з рынку. Але з асцярожнасці аклікнула: «Хто?» У адказ пачула нямецкую гаворку.

Ці то былі гестапаўцы, накіраваныя здраднікам, ці выпадковы абход — невядома. Чарнавочка, аднак, не вельмі напужалася. Яна заўсёды любіла гадаць аб розных пла-

нах на выпадак небяспекі, і таму пачала адразу рабіць так, як і належала рабіць на яе пляцу. Яна адчыніла акно і ўхапілася за вадасцёкавую трубу. Па гэтай трубе можна было спусціцца проста ў сад. Але ці то ад спешкі, ці то кошык перашкодзіў,— яна не ўтрымалася на гладкай трубе і ўпала з вышыні другога паверха... А калі ўстала, дык адчула пякучы боль у ступні правай нагі. З гарачкі яна яшчэ прабегла некалькі крокаў. Потым пачала паўзці праз сад да суседніх будынкаў. А тым часам немцы паспелі зламаць дзверы і заўважылі яе праз адчыненае акно...

Даведаўшыся аб бядзе, у якую трапіла Чарнавочка, мы ўсе дужа засмуткавалі. Цяжка было на сэрцы і ў камандзіра, і ў байцоў. Лішне і казаць, як перажываў такое гора родны бацька. Ён неяк раптам пастарэў, асунуўся. А праз нейкі час прыйшла ў атрад і маці. Ёй цяпер заставацца дома нельга было. І, гледзячы на пакуты бацькоў, мы яшчэ больш балюча адчувалі ўдар, які нанесла нам гестапа.

«Што рабіць?» — было ў кожнага ў думках. Мы будавалі розныя планы, як выратаваць нашу любіміцу, і ўсе яны здаваліся нам ненадзейнымі. Заставалася толькі зрабіць налёт на гарнізон ворага. Але сілы ў нас былі няроўныя, і пры няўдачы мы рызыкавалі шмат чым.

І колькі ні меркавалі, мы зноў і зноў вярталіся да першага пытання: што рабіць? Кожнаму з нас здавалася, што гэта яго родная дачка ў такой страшнай бядзе.

Нарэшце я падышоў да камандзіра.

— Дазволь,— кажу,— паспрабаваць шчасця...

Камандзір недаверліва глянуў мне ў вочы. А калі я расказаў яму, што прыдумаў, згадзіўся.

— Добра,— кажа.— Хоць і адчайны, і небяспечны твой план, ды мы — салдаты. Без рызыкі на вайне не бывае. А калі табе будзе цяжка, памятай — гэта ты робіш дзеля Чарнавочкі, нашай партызанскай дачкі!

* * *

Праз некалькі дзён, у форме нямецкага палкоўніка, я апынуўся ў канцылярыі каменданта гестапа. Камендант быў у чыне капітана і дрыжаў перада мною, як трусік. Ён нават не адважыўся праверыць мае дакументы, хоць яны былі ў поўнай спраўнасці. Наконт гэтага ў нас у атрадзе недахопаў не было. Як і належала быць, са мной знаходзіўся мой ад'ютант — лепшы ў атрадзе стралок — Саша,

які таксама сёе-тое кумекаў у нямецкай мове. І прыкацілі мы ў гарадок на самай лепшай трафейнай машыне.

Камендант аддаў мне рапарт, а я ў сваю чаргу задаў яму некалькі звычайных пытанняў: які настрой у салдат, ці няма дэзерціраў і гэтак далей. Нарэшце я запытаўся аб арыштаваных — ці ёсць сярод іх асабліва небяспечныя для германскай арміі. Гестапавец паслужліва паказаў мне спіс арыштаваных і пачаў даваць свае тлумачэнні.

У спісе значылася і прозвішча Чарнавочкі. Дрыжыкі прабеглі па маім твары, калі я вычытаў гэтае прозвішча. Я задушыў у сабе хваляванне і, паказваючы на год нараджэння, запытаў сур'ёзна:

— А гэта блазнота па якой справе?

Гестапавец ветліва растлумачыў. Пры гэтым ён са злосцю дадаў, што ад арыштаванай за ўвесь час не вырвалі ніводнага слова. Слухаючы, я стараўся рабіць выгляд, што абураны нахабствам малой злачынцы, і нават выказаў жаданне самому асабіста застрэліць гэтую... гэтую мілую Чарнавочку!

Камендант ахвотна дазволіў мне выканаць жаданне.

Прывялі дзяўчынку. Як яна змянілася! Збітая, скалечаная, уся ў сіняках, твар апух... Я ледзь стрымаў слёзы, убачыўшы яе. Беднае дзіця! А яна нават і не зірнула ў мой бок. Чорныя вачаняты былі апушчаны ўніз, і я не мог бачыць, што цяпер з імі сталася.

Я ўсхапіўся з крэсла, выняў з кабуры рэвальвер. Калі б гестапавец убачыў, як задрыжала мая рука, ён мог бы здагадацца, што нешта няладнае творыцца з панам палкоўнікам. Але ён у гэты час глядзеў на Чарнавочку, як каршун, чакаючы свежай крыві.

Чарнавочка раптам падняла свае вачаняты ды такой агідай зірнула на мяне, што я ледзь не самлеў. Канешне, яна не пазнавала мяне, ды каб і пазнала, не паверыла б вачам сваім, бо ў такім выглядзе і ў такім месцы сустрэцца са мной, вядома, не спадзявалася.

Я раптам апусціў рэвальвер.

— Ведаеце што,— кажу гестапаўцу.— Мне прыйшла ў галаву забаўная думка: навошта пляміць падлогу? Я ж магу зрабіць гэта на лоне прыроды, з дальняга прыцэлу. Тады атрымаю поўнае задаволенне.

— Гэта можна, пан палкоўнік,— адказаў гестапавец.— Толькі дазвольце ўзяць узвод аховы.

— Навошта?

— Небяспечна без аховы за горадам...

Бачу, справа дрэнь. Згадзіцца на ахову, гэта значыць рызыкаваць і Чарнавочкай, і сваім жыццём. Праўда, мой прыезд ужо быў рызыкай. Аднак пакуль што я сяк-так спраўляюся са сваёю роляй. І тут я вырашыў: лепш рызыкаваць у кабінеце каменданта, дзе, апрача нас, нікога няма, чым пры ўзводзе салдат.

Я глянуў на свайго ад'ютанта Сашу. Гэта быў умоўны сігнал.

— Добра,— адказаў я каменданту.— Возьмем ахову.

Гестапавец павесялеў.

— Калі загадаеце адправіцца?

— Праз пяць хвілін.

Ён казырнуў і адвярнуўся да тэлефоннай трубкі.

У гэты ж час камендант і асунуўся, як мяшок. Сашаў кінжал промаху не даў: трапіў якраз у такое месца, што абышлося без крыку...

— Пайшлі, Чарнавочка! — сказаў я сваім звычайным голасам.

Якое ўражанне зрабілі на яе мае словы, я не заўважыў, бо мы тут жа пакінулі кабінет.

Патруль, што стаяў на двары, узяў на каравул, прапускаючы важнага госця.

Машына наша была напагатове. Мы селі ў яе, і шафёр уключыў скорасць.

На гэтым Іван Рыгоравіч спыніў свой расказ. Абвёў вачыма клас: слухачы сядзелі не зварухнуўшыся.

Але тут раптам усе дружна загаманілі:

— Расказвайце, расказвайце далей, Іван Рыгоравіч!

Настаўнік махнуў рукою, сцішыў шум.

— Далей было тое, аб чым вы ўжо здагадваецеся. Толькі, можа, крыху не зусім так, як вам здаецца. За горадам мы зноў трапілі ў небяспеку: патруль даў сігнал спыніць машыну... «Можа, паспелі аддаць загады на каравульныя пасты аб нашым арышце?» — мільганула ў мяне думка. Звычайнай праверкі я не баяўся — з маімі дакументамі можна было ездзіць дзе хочаш. «Поўны ход!» — загадаў я шафёру. Не лёгка было мне аддаваць такі загад. Гэта значыла, што мы трапляем з агню ды ў полымя: у такім разе патруль мае права страляць. Ваяваць з ім не хацелася: наробіш лішняга шуму, а перад намі яшчэ вялікая дарога.

І калі мы праскочылі міма патруля, ён сапраўды адкрыў агонь. Потым я шкадаваў, што не знялі патруля адразу. А так... ад'ютанта майго Сашу мы дамчалі ў атрад з куляй у плячы... Але ўсё ж мы выратавалі любіміцу атрада. А чаму гэта мне ўдалося? На гэта пытанне адкажа нам Коля ў наступны раз.

*1947 г.*

# З ФРАНТАВЫХ ЗАПІСАЎ

## ЛЕЙТЭНАНТЫ

Прыфрантавая дарога расцёрта на парашок тысячамі ног, шын, колаў. Боты плюхаюцца ў гэтым перасушаным сонцам і вятрамі парашку, выбіваючы хмары пылу.

— Аляксей, не пылі! — жартуе з таварыша малады стройны лейтэнант Міхась Кавалёў.

Аляксей, прысадзісты таўстун, гадоў на дзесяць старэйшы за Міхася, нехаця перастулае расслабленымі ад гарачыні нагамі і, выціраючы рукою асмяглыя губы, бурчыць нездаволена:

— Пасмяяўся кацёл з чыгуна...

— Народжаны поўзаць...— хітра падміргвае Міхась, страсянуўшы пасівелай ад пылу чупрынай, якая рассыпалася над пілоткай.

Аляксей раптам спыняецца, энергічна робіць пагражальныя жэсты рукамі:

— Скажы яшчэ хоць адно слова...

— Дзівак, гэта ж пра мяне... Які нездагадлівы!

— То-та ж,— дабрадушна мармыча сабе пад нос пакрыўджаны ды ідзе далей.

Да самага апошняга дня Аляксею не верылася, што прыйдзецца ваяваць яму не на «Іле» або «Яку», а на сваіх «уласных хадулях», як кажа Міхась, што дадуць яму не «машынку першы гатунак», а самае што ні на ёсць пехацінскае падраздзяленне і скажуць: «Вось вашы, лейтэнант Дземяшкевіч, людзі — дзейнічайце!»

А зараз прыходзіцца верыць: у паперы, якую выдалі ў аддзеле кадраў арміі і якую ён нёс у палявой сумцы, надрукавана чорным па беламу: «...на пасаду камандзіра стралковай роты».

Каля паўгода таму назад здарылася гэтая перамена ў жыцці Аляксея Дземяшкевіча: ён, малодшы лейтэнант авіяцыі, прыехаў у горад Н. на курсы лейтэнантаў, дзе і быў залічаны ў стралковы батальён. «Жартуюць,— думаў Аляксей.— Павучуся, а там адклічуць у сваю лётную часць». Але міналі дні за днямі, а вестак ніякіх з часці не было. І Аляксей зразумеў, што гэта не жарт.

Калі б гаворка ішла не пра яго, а пра каго іншага, ён, пэўна, разважаў бы так: правільна зрабіў камандзір часці. Падумаць толькі: дзеля рызыкі з-за нейкай дзяўчыны знізіўся над гарадской вуліцай, зачапіўся за тапо- лю... Гарачая галава!..

Але думаць так пра сябе, вядома, рэч непрыемная, і крыўда не пакідала яго.

Міхасёў спадарожнік, лейтэнант Кавалёў, стаў пехацінцам з першых дзён вайны, шчыра палюбіў свой род войска і аддаваў яму перавагу перад усімі іншымі. І з першых жа дзён вайны ён душою і сэрцам ірваўся на фронт, лічачы, што толькі там можна быць карысным радзіме ў такі адказны час. Але яму не шанцавала: пасля курсаў ён трапіў у запасны полк. Ён падаваў рапарт за рапартам, а яму адказвалі: «Патрэбен будзеш, пашлюць».

Адказы яго не здавальнялі, і, узлаваўшыся, ён напісаў рапарт у Наркамат Абароны. І толькі пасля ліста з Наркамата на імя камандзіра палка яму ўдалося нарэшце на трэцім годзе вайны развітацца з тылам.

У дарозе ён блізка сышоўся з Аляксеем: у адным вагоне ехалі з далёкага тылу, трапілі ў адну армію.

І вось зараз сябры-спадарожнікі прабіраліся ў сваю франтавую часць. Яны ішлі тым шляхам, па якім толькі што пракацілася на захад у страшных грымотах і гарачых баях вайна. Падбітыя танкі з чырвонымі крыжамі на тоўстай брані, прысадзістыя «фердынанды» з доўгімі гарматнымі ствaламі, раскіданыя скрынкі, міны, снарады — скрозь сустракалі яны знямелых сведкаў вялікіх схватак з ворагам на гэтай зямлі.

Міхась падняў у прыдарожнай канаве трохлінейку. Ачысціў яе збольшага ад пылу, навёў ствол на святло.

— Ну і занядбана ж ты, даражэнькая! — спачувальна сказаў ён.— Відаць, што без гаспадара гібееш.

Ён уклаў у ствол патрон.

— Так і быць, прачысцім. А заадно і якасць тваю пехацінскую праверым,— дадаў ён, зірнуўшы на вераб'я, што спрытна прымайстраваўся на тэлеграфным дроце.

Аляксей спыніўся, з затоенай усмешкай буркнуў пад нос:

— Падзіўлюся, як верабей пажартуе з пехацінца.

Міхась моўчкі прысеў на калена. Верабей адвярнуўся, утаропіўся на лейтэнантаў і неспакойна зачырыкаў, матаючы хвосцікам.

— Не бойся, браток, не бойся, ты ўсё ж мой брат — авіятар,— падбадзёрваў Аляксей занепакоенага вераб'я.

— Храбры авіятар,— сказаў Міхась,— шкада. Ды... на злосць вам абодвум...

І ён плаўна спусціў курок.

— Снайпер! — усклікнуў Аляксей, разглядаючы безгаловае цельца ўскудлачанай птушкі.

— А ты думаў, пехацінец Міхась так сабе ідзе на фронт? Жартуеш. Жывыя людзі, гэта табе не «Ілы».

— Памаўчы лепш! Давай ламаку!

— Страляцца надумаўся, ці што?

Чарговага вераб'я зняў з дроту Аляксей.

«Добры таварыш і добры ваяка будзе, ды шкада — не ляжыць душа да пяхоты»,— думаў Міхась пра таварыша.

Затое як загараюцца Аляксеевы вочы, калі загудуць над галавой самалёты.

— «Ілы», брат, глядзі! На заданне ідуць. Ух, дадуць фашыстам пытлю! Машынка першы гатунак.

І ён у каторы ўжо раз з захапленнем расказвае Міхасю пра «Ілы», «Які», «Лавачкіны». Нават «кукурузнік» — і той мілы яго авіятарскаму сэрцу.

— А на якім гэта «Іле» ты на таполю сеў, я нешта забыўся? — касавурыць на яго свае вялікія блакітныя вочы Міхась.— Ты, мабыць, выпрабоўваў новы від аэрадрома і, у выпадку ўдачы, мог, чаго добрага, узнагароду атрымаць...

* * *

Было ўжо за поўдзень, калі лейтэнанты дайшлі да вёскі, дзе размяшчаўся штаб дывізіі. Але, апрача запыленых машын, якія цугам імчаліся па вуліцы, ніякіх адзнак блізкага фронту яны не заўважылі. На месцах многіх хат тарчалі печы, валяліся кучы цэглы, бярвенняў; на вуліцы трапляліся жыхары з вузламі за плячыма, некаторыя з іх везлі свае пажыткі на калясках або на тачках.

Штаба ў вёсцы не было: ён выехаў яшчэ раніцай бліжэй да перадавой. Куды, у якое месца выехаў,— адказаць на гэтае пытанне ніхто ім не мог.

— Пачынаюцца дні залатыя...— заключыў Аляксей.

— Што і казаць: на «Іле» яно зручней у дарозе,— пажартаваў Міхась.

Мінуў яшчэ адзін дзень у пошуках штаба, і нарэшце ў густым дубняку лейтэнанты апынуліся перад сталом аддзела кадраў дывізіі. Апрача іх тут атрымлівалі прызначэнні яшчэ некалькі камандзіраў.

Недзе спераду, за дубняком, грымела артылерыйская кананада; снарады прыляталі і ў дубняк. Яны дзіка свісталі над галавой, часам разрываліся побач, напаўняючы гай дымам і пылам.

— Генерал...— раптам пачуў Аляксей галасы.

Усе глядзелі на палатку, адкуль выходзіў ваенны ў чорным скураным паліто з генеральскімі пагонамі на плячах.

Генерал хутка і рухава накіраваўся да камандзіраў. Камандзіры замерлі па камандзе «смірна», прыклалі рукі да пілотак.

— Добры дзень, афіцэры! — энергічна, адрывіста прывітаўся генерал-маёр.

Афіцэры дружна адказалі на прывітанне. Генерал абвёў вачыма камандзіраў.

— Вось што, афіцэры. Мне зараз жа патрэбен смелы, сапраўдны камандзір для адной важнай аперацыі. Тлумачу: у апошнія дні наступленню дывізіі перашкаджаюць варожыя самалёты, якія базіруюцца недалёка за лініяй фронту. План аэрадрома ёсць, праваднік ёсць, людзей дадзім. Ясна?

— Ясна, таварыш генерал-маёр!

— Добраахвотнікі знойдуцца?

Наперад выйшлі ўсе камандзіры.

— Не, не, мне толькі адзін патрэбен,— замахаў генерал рукамі, падыходзячы да пярэдняга камандзіра з заліхвацкай чупрынай.

— Даўно ў арміі?

— Трэці год, таварыш генерал-маёр.

— На фронце быў?

— Не... Але...

— Гм... А вы? — звярнуўся ён да Аляксея, які стаяў побач з Міхасём.

— У арміі пяты год...

— І... лейтэнант? — здзіўлена паглядзеў генерал на Міхасёвы пагоны.

— Служыў у тылавой авіяцыі, таварыш генерал-маёр. Дазвольце...

Але генерал ужо гаварыў з чарговым. Чырвань за-

ліла Аляксееў твар. Павекі заторгаліся. Умольнымі вачыма сачыў ён за генералам.

Генерал пагутарыў з камандзірамі, потым дастаў з кішэні сярэбраны партсігар і закурыў.

— Ну, авіятар,— сказаў ён нарэшце да Аляксея,— табе і карты ў рукі. Праўда, аперацыя чыста наземная. Ды — дадзім памочніка.

— Аляксей...— зашаптаў усхваляваны Міхась.

Шчаслівы Аляксей казырнуў:

— Дазвольце, таварыш генерал-маёр, узяць у памочнікі лейтэнанта Кавалёва.

— Дазваляю. Адказваеце вы. Ясна?

— Ёсць, адказваю я! — адрапартаваў Аляксей, і вочы яго загарэліся тым асаблівым аганьком, якім яны гараць, калі ён глядзіць на самалёты.

* * *

Раніцай Аляксей дакладваў генерал-маёру:

— Ваш загад выканан. Дваццаць самалётаў знішчана, пяць выведзена са строю. Падпален склад гаручага. Ахова аэрадрома аказала супраціўленне. У схватках забіта і паранена да двух дзесяткаў гітлераўцаў. Нашы страты невялікія.

— Віншую! — адказаў генерал.— Не дрэнна для першага знаёмства. Сёння ж ваша аперацыя дасць вынікі, і, думаю, не толькі для нашай дывізіі... Вы разумееце...

Потым ён паглядзеў на Аляксея з хітраватай усмешкай і сказаў:

— Ну як, авіятар, спадабалася наземная, пехацінская аперацыя?

Аляксей прамаўчаў, паціскаючы плячыма. Пытанне гэта для яго было неспадзяваным. Захоплены планам аперацыі і самой аперацыяй, ён ні аб чым болей не думаў. Ён яшчэ знаходзіўся пад уражаннем таго смелага налёту на варожы аэрадром, які ён толькі што правёў. У баі ён апынуўся першы раз — хоць пра гэта і змаўчаў генералу.

І цяпер ён толькі думаў аб тым, што, можа, ён што прапусціў, не ўлічыў і, можа, чагосьці такога важнага не выканаў, і іменна таму, што гэта было яго першае баявое хрышчэнне.

Генерал па-сяброўску паціснуў Аляксею руку.

— А калі я пашлю вас, лейтэнант, у авіячасць? Напэўна, хочацца? Ведаю я вашага брата... Нашу матку-пяхоту вы не-асабліва паважаеце.

— Вашаму распараджэнню, таварыш генерал-маёр, я падначалюся... Але...

— Што?

— Калі гэта будзе ад мяне залежыць — дазвольце падумаць... перш чым згадзіцца.

А ў гэты час ён думаў: «Дваццаць пяць самалётаў за адну аперацыю яшчэ не знішчаў ні адзін найвыдатнейшы лётчык. Гэта магла зрабіць толькі пяхота — жывыя людзі, якія былі падначалены маёй камандзірскай волі».

— Ну добра,— адказаў генерал.— Надумаешся — прыходзь: жаданне задаволю. А за першую аперацыю — чыста пехацінскую — прадстаўлю да ўзнагароды. Прывітанне памочніку!

## ЯЗЫКОВЫ ДОЎГ

(Расказ разведчыка)

Усякія даўгі бываюць. Нямала і я меў даўгоў, і мне не раз завінавачваліся. А вось з языковым доўгам дык упершыню давялося мне ў разведцы пазнаёміцца.

На языкі, сказаць папраўдзе, мне адразу не пашанцавала. А разведчык без языка, што аўтамат без затвора. Чатыры разы ўзапар хадзіў я па языкі — і ўсё без толку. Два паходы халастым стрэлам былі. Адзін язык без'языкім аказаўся: фашыст дурны, як пень, папаўся — з эрзацаў. Другога языка залішне прыціснуў у акопе, і ён ад страху не толькі язык, а і душу свайму «готу» [1] аддаў.

Аднойчы выклікае мяне лейтэнант і такі загад дае:

— Таварыш яфрэйтар! Сёння без языка — і не дохлага! — папрашу назад не вяртацца. Справы, бач, важныя наспяваюць... І, урэшце, пара ўжо вам навучыцца на ўласных памылках. За вамі доўг... Ясна?

— Ясна, таварыш лейтэнант! — казыраю я.

Далікатны намёк на мой доўг закрануў мяне за жывое. Нядобра, калі чалавек у даўгу як у шаўку. А тут жа яшчэ які доўг, разумець трэба.

---

[1] Гот — бог *(ням.)*.

Сабраўся я пасля гэтае размовы і, як пацямнела, падаўся за пярэдні край.

Пярэдні край на нашай лініі па кустах ды хмызняках праходзіў. Спераду, на ўзгорку — немцы, ззаду, на ўзгорку — мы. А лагчына як бы нейтралка. Вось тут і вырашыў я вудачку закінуць на шчасце, каб з доўгам расквітацца: у такіх месцах звычайна выстаўляліся пасты і сакрэты.

Ноч выдалася зорная, цёплая. Мне пашанцавала: я хутка высачыў языка. І ўсё добра ішло, ды... камар пад дурнога хату падвёў. Проста ў горла ўляцеў, калі я ўжо траха не каля языка быў. Чорт жа даў яму ў горла ўляцець, а мне папярхнуцца... Як збянтэжыцца мой язык, як застрочыць з кулямёта. Бачу: дрэнь справа! Так можна і свой язык страціць. Узлаваўся я, прыцэліўся з аўтамата. Хацеў падстрэліць ды хоць паўжывога валачы. Ды з гарачкі няўдала падстрэліў.

Зноў асечка выйшла... Як жа цяпер назад варочацца? Узяў я кулямёт і паўзу назад, як мыла з'еўшы. Шукаць новага языка небяспечна — немцы стрэлы пачулі. А тут і ноч летняя — з вераб'ёў нос. Днець пачынае.

Паўзу я так, камара ў думках лаю і раптам чую — хтосьці храпе збоку. Звер не звер, чалавек не чалавек. Цікавасць узяла. Углядаюся. Якраз палянка невялічкая ў хмызняках. А на ёй — вачам не веру: цэлых пяць фашыстаў! І ўсе храпуць, як па літру шнапсу выжлукціўшы.

Ну, думаю, языкоў хоць адбаўляй — і кароткіх, і доўгіх. І тут мяне злосць падшыбла на гэтыя языкі. Наставіў я кулямёт трафейны ды як крыкну:

— Хальт!

Усхапіліся храпуны, вочы праціраюць, а на іх кулямёт глядзіць. Адзін за аўтамат хапіўся. Тут я — кароткую чаргу па ім. Ліха з ім, думаю, хопіць мне і рэшты. Астатнія тым часам паспакайнелі, рукі ўгору паднялі.

— Шагам марш! — камандую ім, наперад паказваючы.

Павярнуліся мае языкі і пайшлі: дарогу да нас яны добра ведаюць.

Так і прыгнаў іх, як бараноў.

Выходзіць з зямлянкі лейтэнант. Дзівіцца.

— Дазвольце,— кажу,— далажыць, таварыш лейтэнант. Я вам вінен чатыры языкі. Доўг аддаю з прыемнасцю. А ў прыдачу — МГ-34. Спраўны, выпрабаваны: пятага языка на месцы ўлажыў.

І падаў лейтэнанту кулямёт з гатоваю стужкай.

Як выявілася, языкі мае таксама па языка хадзілі. Ды збаяліся. Варочацца ў сваю часць уначы нязручна было, дык вырашылі перачакаць у кустах да дня. Паставілі вартавога, а самі храпака далі. Ну, вартавы не дурань носам кляваць, і сам захроп.

Тут я іх і прывітаў «з добрай раніцай».

## СУСЕД СПРАВА

Вартаўніком управы гарадка Н... служыў, кажучы канспіратыўнай мовай, партызан М. У жыцці гэта быў звычайны дзед Мікіта. (З прыемнасцю раскрываем зараз гэтае патаемнае «М» таму, што за гарадок і за яго слаўнага патрыёта дзеда Мікіту даўно адгрымелі дванаццаць урачыстых залпаў салюта ў сталіцы нашай Радзімы — Маскве.)

Нямала насаліў дзед за сваю службу пану бургамістру і яго паслугачам. Але тое, што здарылася напярэдадні штурму гарадка часцямі Чырвонай Арміі, варта асаблівай увагі.

Цёмнай ноччу, калі паліцэйскі з аховы соладка хроп ля сваёй будкі, Мікіта вывесіў на страсе ўправы чырвоны сцяг. Гэтае чарговае заданне падпольнай партызанскай арганізацыі ён выконваў з асаблівай ахвотай. Яму ж таксама шчыра хацелася прывітаць сваю доўгачаканую Чырвоную Армію такім баявым заклікаючым сігналам. Прывітаць і сказаць: «Жывы мы, таварышы дарагія, як ні лютуюць фашысты. Жывы і чакаем вас з нецярплівасцю». Толькі пра гэта думаў стары, спрытна ўзлазячы на вышкі і прымацоўваючы сцяг да закота чатырохпавярховага дома, што ўзвышаўся над усім горадам.

Калі на золку паліцэйскі прахапіўся і спалохана пачаў азірацца, ці не бачыў хто яго злоўжывання на пасту, ён раптам заўважыў чырвоны сцяг. Пад дзень павеяў вецер, і сцяг горда калыхаўся над горадам, цешачы сяброў і пагражаючы ворагам.

У паліцэйскага заторгаліся вусікі «а ля фюрэр» і разам з валасамі падскочыла ўверх шырокааколышная шапка казённага ўзору. «Акружаны»,— першае, што прыйшло яму ў сонныя мазгі.

Але ён быў па-сабачаму верны свайму пану шэфу і

не мог не ўспомніць аб ім у такі трагічны момант. «Можа, небарака спіць яшчэ і не ведае, што мы ў палоне засталіся»,— нутром заенчыў паліцэйскі.

Кватэра бургамістра была хоць і недалёка, ды бегчы туды паліцэйскі не адважыўся, а хапіўся за тэлефон.

— Ало!.. ало!.. — барабанячы зубамі, зашыпеў ён. — Кватэру пана бургамістра... Хто? Пан бургамістр дома? Дома?! Разбудзіце, паклічце...

Пакутная гэта была паўза для паліцэйскага.

— Пан бургамістр? Як жа... вы... як жа... я... Я — Кручкоўскі... Мы — акружаны. На ўправе чырвоны сцяг... Ноччу бальшавікі захапілі горад... Ало! ало!..

Паліцэйскі шпурнуў вобземлю трубку і, як зацкаваны, замітусіўся па будцы.

А ў гэты час ашалелы ад такой навіны пан бургамістр званіў каменданту. Выявілася, што і камендант таксама праспаў...

Па ўсім горадзе затрашчалі званкі са страшнай навіною.

Але вось у трэск званкоў уварваўся аглушальны грукат,— пачалася артпадрыхтоўка нашых часцей. Праз хвілін колькі вуліцы запоўніліся машынамі розных марак і размераў: важнае начальства ўцякала за горад, на заходняе шасэ. Вестка аб акружэнні з хуткасцю маланкі далятела і да варожай абароны, наганяючы смяротэльны жах на салдат і дэзарганізуючы абарону.

Пасля належнай артпадрыхтоўкі ў 8.00 нашы часці рынуліся на штурм важнага апорнага пункта абароны немцаў.

І калі пяхота паднялася на ўзгорак, усе ўбачылі: над горадам палымнеў чырвоны сцяг. Ад'ютант далажыў генералу.

Генерал пацiснуў плячыма.

— Відаць, сусед справа падкузьміў. Ён на гэта здатны...

— Але ж ніякай артпадрыхтоўкі сусед не вёў? — заўважыў ад'ютант.

Разганяючы перапалоханых гітлераўцаў, байцы ўскочылі ў горад.

На плошчы каля ўправы пахаджваў з мятлою ў руках дзед Мікіта. Ён рабіў сваю звычайную работу і дзіву даваўся, як шпарка ўцякло кудысьці за горад важнае начальства.

«Відаць, крута прыйшлося,— разважаў ён.— Нават сцяга не сарвалі».

Да Мікіты падышоў капітан з авангарднай роты.

— Дзядуля,— звярнуўся ён да старога,— хто заняў ваш горад?

Дзед паглядзеў на яго здзіўлена.

— Як хто? Вы.

Капітан задумаўся, разглядаючы чырвоны сцяг.

— А сцяг хто вывесіў?

— Гэты?

— Але.

— Я.

І тут толькі высветлілася, што суседам справа аказаўся не хто іншы, як дзед Мікіта.

## САЛЮТ У ГАІ

Перадавую я пакінуў познім адвячоркам.

За мною засталося расцягнутае як удаўжкі, так і ўшыркі ўкраінскае сяло Гаўрылаўка. Адна з яго крайніх вуліц праходзіла ля самай чыгункі. Там, на гэтай чыгунцы, і была апошні дзень перадавая.

Перада мною распасціраліся зялёныя паплавы, чарназёмныя палі з глыбокімі ярамі і густыя гаі.

Быў канец жніўня, і на палях яшчэ цямнелі сланечнікі і чырванелі пераспелыя памідоры. Малюнак тут здаваўся зусім мірным, звычайным. Але як ні ўглядаўся я ў гэты мірны малюнак,— ніводнага тутэйшага жыхара не заўважыў. Не відаць было іх і ў самым сяле, дзе бушавалі зараз пажары. «Напэўна,— падумаў я,— людзі пакінулі яго ды сышлі ў бліжэйшыя лясы і там, лічачы хвіліны, чакаюць канца гіганцкай бітвы на іхняй зямлі».

Недзе злева, за хмызняком, няспынна тарахцелі грузавыя машыны, грымелі цягачы, ляскаталі павозкі... Сядытады даносіліся адтуль глухія выбухі снарадаў.

Не цяжка было здагадацца, што там і ляжыць франтавы бальшак, які злучае перадавую з тылам.

Я падаўся ў той бок. Але не дайшоў. Неўзабаве на вочы трапілася вузенькая палявая дарожка. Яна пачыналася проста ад загуменняў і паплавамі бегла некуды ў сланечнае поле, дзе хутка і гублялася.

Дарожка мне спадабалася: такая яна здавалася ціхая, утульная і вядзе, як відаць, туды, куды я і вымушаны быў ісці. «Тым лепш,— вырашыў я сам сабе,— карацейшая па-

рога для мяне цяпер зусім не лішняя». Пастукваючы сукаватай частаколінай, якая мне замяняла мыліцу, я звярнуў на гэтую ціхую дарожку.

Страляніна за мной памалу радзела. Неба таксама паспакайнела: надыходзіла звычайнае на фронце начное зацішша.

Але чамусьці нешта рана сёння гэта зацішша настае. Яшчэ толькі-толькі села сонца, і лёгкія воблачкі яшчэ ярка гарэлі ў яго бляску.

Цяпер я меў час думаць і разважаць аб падзеях апошняга дня, такога для мяне нешчаслівага. Думаў аб баявых сябрах, якіх пакінуў там, за перадавой, у сутыку з варожымі часцямі. Дзе яны зараз, мае баявыя сябры? Занялі той саўгас на высокім узгорку, на які мы наступалі яшчэ ў гарачы поўдзень, ці адышлі ў гай, што служыў нашым апорным пунктам? З гэтага месца мы ўпершыню ўбачылі перад сабою высокія цагляныя трубы. Гэта быў Харкаў. Мы ведалі, што за яго ідуць зараз жорсткія баі. І адзін з гэтых баёў вялі мы, насядаючы на левы фланг ворага.

Да саўгаса я не дайшоў. Ранены ў нагу, я вымушаны быў развітацца з сябрамі і хмызнякамі прабірацца памалу назад.

Ужо добра сцямнела, і ўжо згусціліся на небе зоры, калі нарэшце дайшоў я да гаю, які відаць быў мне яшчэ з Гаўрылаўкі. Дарога, праўда, не павяла ў гай. Яна мінала яго бокам, метраў за сотню лявей.

Тым часам нага мая разбалелася не на жарты, і я адчуў, што далей ісці не магу. Цяпер я пакаяўся, што не паддаўся на бальшак, дзе мог пад'ехаць на падарожнай машыне.

Я прысеў на ўзбочыне. Абмацаў перавязку: яна зусім ссунулася з раны. Тады, доўга не думаючы, я ўжыў звычайны салдацкі спосаб: зняў кашулю, разарваў яе і пачаў рабіць перавязку.

Раптам у начной цішыні грымнула задорнае дружнае «ўра». Яно вырвалася з таго самага гаю, каля якога я зрабіў свой вымушаны перапынак.

«Чаго б гэта?» — падумаў я здзіўлены. Тут жа, амаль побач, перадавая, і без асабліва важнай прычыны наўрад каб камандзір часці дазволіў такое парушэнне цішыні ў прыфрантавой зоне?

А тым часам «ура» прагрымела некалькі разоў. Звонкае рэха далёка разнесла яго па насцярожанай ваколіцы.

І я ўсё ж не перамог сваёй цікавасці: перавязаўшы нагу, пакульгаў у гай.

— Каго гэта так віншавалі? — спытаўся ў першага сустрэчнага байца, які тупаў каля закрытай брызентам гарматы.

— А ты адкуль? — вытарашчыў ён на мяне вочы пры зорным святле.

— З Гаўрылаўкі,— паказаў я на сваю частаколіну.

Баец спачатку загледзеўся на яе, потым змераў падазроным поглядам мяне самога і зноў спытаўся:

— Ранены?

— Але,— падхапіў я, успомніўшы, што я зусім з іншай часці і трапіў сюды ў такі позні час, як лішні,— без пароля і без патрэбы...

— Дзівак! Ваяваў за Харкаў і не ведаеш, што ён ужо — наш! Гаўрылаўка ж усяго якіх кіламетраў дзевяць правей. І зараз там ніводнага немца і блізка няма. Драпае немец! — вясёлым голасам ні то дакараў мяне, ні то хваліўся сваёй асвядомленасцю артылерыст.

— Дзякую, браток, за навіну! — шчыра сказаў я і, насвістваючы матыў паходнага марша, рушыў назад, на дарогу.

Дзеля такой навіны варта было рабіць крук і кульгаць у гэты гай!

Я забыўся і на боль, і на крыўду за тое, што мне асабіста не пашанцавала сёння. Што ўсё гэта ў параўнанні з тым салютам, які праграмеў зараз і ў гэтым зялёным украінскім гаі, і на Чырвонай плошчы ў Маскве, і па ўсёй краіне?!

Рэшту дарогі да сваёй тылавой часці ісці было лягчэй. На душы было радасна, хоць я і даведаўся апошнім аб той вялікай падзеі сённяшняга дня, удзельнікам якой быў сам.

## У ШПІТАЛІ

Чакаючы эвакуацыі ў тыл, я ляжаў у палявым сарціровачным шпіталі. Шпіталь змяшчаўся ў даўжэзным калгасным свірне з дашчанымі перагародкамі. Кожная палата мела свой уваход і выхад.

У афіцэрскай палаце спрытны і гаваркі цырульнік займаўся абмалажэннем ляжачых кліентаў, і я з цікавасцю наглядаў за яго работаю, успамінаў малюнкі і эпізоды ўча-

рашніх баёў за горад Харкаў. Але ўвесь час з галавы не выходзіў выпадак з шафёрам. «Як шкада,— думаў я,— што так і не ўдалося даведацца, хто ён?..»

— Хворыя, падрыхтавацца! — пачуўся голас сястры з-за дзвярэй.

Я пачаў збірацца.

І раптам сястра моцна на ўвесь двор закрычала:

— Трымайце, трымайце яго!

Я глянуў у бок дзвярэй: з двара ў палату віхрам уляцеў высокі шыракаплечы баец у скураным шлеме. У момант прамільгнуў міма майго ложка, зачапіўся за цырульніка; на падлогу пасыпалася ўсё цырульнікава начынне... Баец знік за свірнам у густых лапухах.

— Ён! — ледзь не крыкнуў я на ўсю палату.

Сястра спынілася, разводзячы рукамі.

— Вы разумееце,— сказала яна з жалем,— не хоча эвакуіравацца ў тылавы шпіталь. Усё туды, у бок Харкава, паказвае. А куды ж яму на фронт: і глухі, і нямы пасля кантузіі. І што за чалавек!..

А я дык разумеў шафёра — гэта быў ён! Разумеў, таму што...

Гэта было на перадавой.

Машына з зенітнай установкай імчалася на ўсю скорасць. Яе заўважылі «месеры» і кінуліся за машынаю.

Шафёр спыніў машыну, ускочыў у кузаў і прыпаў да зенітнага кулямёта.

Вось адзін з «месераў» рынуўся ў піке проста на машыну. І раптам — гром скалануў паветра: збіты «месер» грымнуўся побач. Паветраная хваля сарвала шафёра з машыны і кінула ўбок...

Болей я яго не бачыў: мы пайшлі ў наступленне.

І вось давялося сустрэцца зноў.

Назад у шпіталь ён не вярнуўся: відаць, уцёк на перадавую.

## СУСТРЭЧА З ЗЕМЛЯКОМ

Пасля франтавога шпіталя я трапіў на далечванне ў Маскву.

Быў канец 1943 года. Масква жыла звычайным жыццём

ваеннага часу. Налёты на горад спыніліся, але даўжэзныя шары-цыгары ўсё яшчэ пільна вартавалі неба.

Папраўіўшыся, я пачаў асвойваць горад са шпітальнай палкай у руках.

Аднойчы ў тралейбус, у якім я ехаў, увайшоў невысокі хлопчык гадоў трынаццаці-чатырнаццаці. У ваеннай форме. На гімнасцёрцы яго ярка вылучалася вузкая жоўтая палоска — адзнака ранення. На пілотцы — чырвоная партызанская істужка.

Пасажыры заглядзеліся на юнага партызана. Пажылая жанчына з пярэдняй лаўкі жвава паднялася і паклікала яго да сябе:

— Садзіся, унучак.

Услед за ёю ўсхапілася і некалькі маладзейшых пасажыраў. Хлопчык спачатку аднекваўся, а потым сеў побач са мною.

— Далёка едзеш? — запытаўся я ў яго.

— У партызанскі штаб.

— Беларускі?

— Але.

— Дык ты, выходзіць, мой зямляк? Я — з Мінска.

Хлопчык глянуў на мае пагоны.

— А [redacted] якой вы, таварыш лейтэнант, вуліцы?

Я назваў сваю вуліцу.

— А я — з Магілёўскай,— адказаў ён.

Мы разгаварыліся. Пасажыры акружылі нас, заслухаліся. І Сцёпа — так звалі хлопчыка — коратка расказаў нам, як ён стаў партызанам.

Захапіўшы Мінск, немцы ўварваліся і ў іх домік на Магілёўскай вуліцы. Жыў ён там з хворай маткай і старэйшай сястрой студэнткай Галяй. Немцы шукалі мужчын і спярша дапытваліся, дзе гаспадар. Бацькі дома не было, ён у першы ж дзень вайны пайшоў у ваенкамат.

Не знайшоўшы гаспадара доміка, немцы пачалі заўзята ператрэсваць хатнія пажыткі. Выбіралі, што лепшае, і складвалі ў кучу. На Галі была новая шаўковая сукенка. «Скідай!» — загадалі ёй. Галя заплакала. Маці не сцярпела, закрычала: «Бандыты! Грабежнікі!» Адзін з бандытаў выхапіў з кабуры рэвальвер і стрэліў у яе. Потым схапіў змярцвелую ад жаху Галю за руку і пацягнуў на вуліцу ў машыну. Другі панёс за ім нарабаванае дабро.

Сцёпа астаўся адзін. Бадзяўся беспрытульным, як і многія дзеці ў тыя дні. Немцы лавілі беспрытульных, вы-

смоктвалі з іх астатнюю кроў для сваіх раненых, а потым расстрэльвалі.

Сцёпа ўцёк з горада. Жабраваў у прыгарадных вёсках. Там і сустрэўся з партызанамі. Навучыўся ў атрадзе страляць і стаў добрым разведчыкам.

— О,— з гонарам сказаў хлопчык-партызан,— я адпомсціў праклятым фашыстам за матку і Галю!

У адным з баёў Сцёпу раніла. Рана была цяжкая, і яго вывезлі самалётам у Маскву. Цяпер ён вылечыўся і хоча ляцець на захад у свой атрад. Таму і едзе зараз у штаб партызанскага руху.

Тралейбус мінуў некалькі астановак, але ніхто з пасажыраў не выходзіў: усе з увагаю слухалі расказ хлопчыка-партызана.

А я, гледзячы на яго, думаў: але, сапраўды ідзе на нашай зямлі народная свяшчэнная вайна, як у песні спяваецца. Б'юцца з праклятым ворагам і старыя і малыя. Б'юцца і на ўсіх франтах і ва ўсіх тылах.

І яшчэ большая вера ў скорую перамогу зацяплілася ў маім сэрцы. Тое ж, відаць, адчувалі і ўсе іншыя, хто ехаў з намі.

6 Зак. 2344

# ЗАЛАТЫЯ РУКІ

У штаб каманды прыбегла сувязная Галя. Спяшаючыся, коратка адрапартавала:

— Таварыш камандзір! Пры абходзе нашай вуліцы мною выяўлены адзін дзядуля. Яму патрэбна дапамога каманды.

Камандзір штаба, русагаловая Зіна з кароткімі запленымі косамі, такімі ж, як і ў сувязной, сядзела за сталом. Перад ёю ляжала раскрытая кніга з малюнкамі, па якіх можна было здагадацца, што кніга гэтая была звычайнай школьнай геаграфіяй. Зіна адсунула падручнік, адчыніла шуфляду і дастала сшытак.

— Прозвішча? — спытала яна, нарыхтаваўшыся пісаць у сшытку.

— Ясюкевіч Іван Пятровіч.

Зіна запісала гэтае новае прозвішча ўслед за папярэднім запісам.

— Адрас?

— 27, кватэра 3.

— Добра,— спакойна сказала Зіна, запісаўшы ўсё як след па форме,— а чаму ты думаеш, што яму патрэбна дапамога каманды?

— Ён стары і часта хварэе, у яго нікога з радні няма. Толькі сын адзін, але ён у Савецкай Арміі служыць.

— Ясна,— перапыніла Зіна сваю сувязную.— Каго ж мы пашлём шэфамі?

— Мяне, Зіначка! — падхапіла сувязная.— Ён нават прасіў, каб я часцей заходзіла. Ён мне ўсё-ўсё расказваў і такі добры-добры дзядулька. Я сказала, што прыйду яшчэ калі прыбраць яму пакой...

— Згодна! — махнула рукою Зіна, адгарнуўшы першую старонку сшытка, дзе былі запісаны ў слупок прозвішчы членаў каманды.— Памочніцай да цябе пойдзе Вера. Ты — старшая. А цяпер — вучыць урокі.

— Слухаю, таварыш камандзір! — усміхнуўшыся, адказала Галя і выйшла з дому.

* * *

У выхадны дзень Галя і Вера зранку пайшлі праведаць свайго падшэфнага. Дзядуля ляжаў на канапе, накрыўшыся старым кажушком: апошнія дні яму нездаровілася, і ён стараўся менш хадзіць. Убачыўшы знаёмую дзяўчынку Галю, ён сказаў ласкава:

— Калі ласка, міласці прашу.

Галя адрэкамендавала дзядулю сваю сяброўку Веру і расказала, для чаго яны цяпер прыйшлі ўдвюх.

Іван Пятровіч з увагаю слухаў вясёлае звонкае Галіна шчабятанне; цьмяныя вочы яго на маршчыністым твары жвава заміргалі, у горле запяршыла. Адкашляўшыся, ён сказаў:

— Вельмі рад. Дзякую, дзяўчаткі, за ўвагу да старога. Ніколі не чуў такіх ласкавых слоў ад чужых дзяцей...

— А мы не чужыя,— пакрыўдзілася Галя,— мы — цімураўкі!

Дзядуля задумаўся, з цікавасцю разглядаючы сваіх гасцей. Дзяўчаткі як дзяўчаткі, звычайныя: адна, Галя, крышку большая, чарнявая, з шустрымі вачыма і сама такая ж шустрая, другая — яе сяброўка — меншая, круглаватая, з кірпатым носікам. Яна, відаць, спакайнейшая, бо ўсё маўчыць.

— А як гэта разумець — цімураўкі? — запытаўся Іван Пятровіч.

Галя, як умела, растлумачыла, хто такія цімураўцы і цімураўкі, расказала пра іх каманды і работу.

— Ці бачыш! — ківаў галавою Іван Пятровіч.— Дык вы, значыцца, не простыя дзяўчаткі, а цімураўкі з каманды?

— Ага, з каманды,— пацвердзіла Вера і пры гэтым густа пачырванела.— У нас арганізацыя вялікая, на ўвесь горад,— развяла яна рукамі.

Пасля такой размовы цімураўкі заняліся дзядулевай гаспадаркай. Памылі падлогу, перачысцілі пасуду і нават згатавалі смачны абед.

— Ай малайцы! Залатыя рукі! — шчыра цешыўся з малых гаспадынь Іван Пятровіч.

Жыў стары ўжо некалькі гадоў адзінокім і ўсё чакаў сына з вайны. Вернецца сын, думаў ён, і адразу палепшае яму. Але вайна скончылася, а сын усё не вяртаўся, і, чакаючы яго, стары дужа сумаваў. Яшчэ калі здаровы быў —

весялей было: хадзіў часамі пасядзець да суседзяў або рабіў сякую-такую цяслярскую работу. Нідзе на службе ён цяпер не быў па старасці гадоў, а жыў з пенсіі.

Дзяўчаткі падружыліся з Іванам Пятровічам і хутка сталі не толькі памочніцамі яму, але і жаданымі гасцямі. І калі, бывала, дзень-другі ніхто не наведваў старога, ён непакоіўся і пільна прыслухоўваўся да кожнага шоргату за дзвярыма.

* * *

Аднойчы Іван Пятровіч сустрэў цімуравак радаснай весткай:

— Ад сына ліст! Хутка прыедзе.

І ён тут жа дастаў з шуфляды і паказаў сваім юным прыяцелькам акуратна складзены трохвугольнікам ліст.

— Вітаем, Іван Пятровіч! — запляскалі ў далоні Галя і Вера.— Цяпер вы не будзеце адзінокім.

— Але ж, але ж, дачушкі-сакатушкі, хоць я і так з вамі не сірата.

Дзяўчаткі, як звычайна, сталі наводзіць парадак у пакоі і заўважылі, што ў Івана Пятровіча нямытая бялізна.

— Мы памыем,— сказала Галя.

— А ці ж вы ўмееце?

— Умеем!

— Добра. А я вам памагу. Вось і кашулю новую не шкодзіла б пашыць к сынаваму прыезду...

Дзядуля адчыніў сундук і дастаў адтуль адрэз моцнага корту цёмнага колеру.

Галя шчыра пахваліла дзедаў корт.

— Добрая будзе кашуля.

— Але,— паківаў галавою стары.— Вось толькі дзе іх шыюць, не ведаю. Блізка майстэрні не чуваць, а ў цэнтр хадзіць для мяне далёка.

Дзяўчаткі пераглянуліся між сабою.

— Дайце нам, Іван Пятровіч, корт, мы знойдзем швачку,— прапанавала Галя.

— Ай, як добра было б! — узрадаваўся стары.— Пашукайце, дачушкі-сакатушкі. Вельмі хацелася б сына ў новай кашулі сустрэць.

— А мерку як зняць? — запыталася Вера.

— Якую там яшчэ мерку старому? Няхай шые на сорак восьмую, і добра будзе,— параіў Іван Пятровіч.

Дзяўчаткам здавалася, што знайці швачку справа зусім простая. Але мінула два дні, а швачкі яны так і не знайшлі. Тыя, да якіх звярталіся, згаджаліся ўзяць работу толькі на доўгі час. Заказчыкі з гэтым не маглі пагадзіцца, ім хацелася хутчэй узрадаваць дзядулю, ды і сын яго можа вось-вось прыехаць.

На трэці дзень з кортам у руках яны прыйшлі ў штаб каманды.

— Ясна,— сказала камандзір штаба Зіна, выслухаўшы сваіх падначаленых.— Правільна зрабілі.

— А цяпер што рабіць? — нясмела запыталася Галя.

— Пашыць.

— Дык ніхто не бярэцца, каб хутка...

— Пашыць самім,— растлумачыла Зіна.

Дзяўчаткі збянтэжана пераглянуліся.

— Мы не ўмеем...

— Цімураўкі так не адказваюць,— сур'ёзна глянула на іх камандзір Зіна.

Яна ачысціла свой стол і тут жа разгарнула на ім дзедаў корт.

— Сукенкі лялькам шылі?

— Шылі,— засмяяліся дзяўчаткі.

— Дык і кашулю пашыем. Я сабе сама ўсё шыю — і рукамі і на машыне.

Зіна ўзяла сантыметр і пачала мераць дзедаў корт. Галя і Вера глядзелі на яе са страхам.

— А калі сапсуём? — не сцярпела Галя.

Але Зіна ўжо знімала мерку і ўпэўнена рысавала крэйдай палоскі.

* * *

На гэты раз дзяўчаткі не ішлі да Івана Пятровіча, а беглі. Пад пахай у Галі шамацеў акуратна загорнуты ў газету пакунак. Ім не цярпелася хутчэй праверыць якасць сваёй работы. Праўда, самі яны не асмеліліся б рызыкаваць дзедавым кортам, каб не іхні рашучы камандзір Зіна.

Пераступіўшы парог, Галя адразу запытала:

— Не прыехаў яшчэ?

— Не,— кіўнуў галавою Іван Пятровіч, зразумеўшы, пра каго ідзе рэч.

— Паспелі! — узрадавалася Галя і падала дзядулю пакунак.

— Кашуля? — пацікавіўся стары, беручы пакунак.— Так скора!

— Памерайце, дзядуля.

— Ды ўжо ж, памераю,— жвава заварушыўся Іван Пятровіч.

І калі ён пераадзеўся, дзяўчаткі аж заскакалі вакол яго. Ніводнай хібы не кінулася ім у вочы. Кашуля сядзела роўна і гладка, нібы гэта была работа лепшых майстроў гэтай справы. Вядома, можа, яно толькі так здавалася ім, але, пасля таго як Іван Пятровіч, глянуўшы ў люстэрка, сказаў: «Вельмі добра», яны былі больш чым упэўнены, што яно сапраўды так і ёсць.

— Колькі ж хоць за работу ўзялі? — пацікавіўся Іван Пятровіч.— Мне ж з вамі разлічыцца трэба.

— Ніколькі,— адказала Галя.

— Гм... жартуеце...

— Без жартаў, Іван Пятровіч. Гэта мы самі пашылі.

— Самі? — не паверыў дзядуля.

— Але, самі,— пацвердзіла і Вера.— Мы і наш камандзір Зіна,— і цяпер яна пачырванела ўжо не ад сарамлівасці, а ад гонару.

— Ну, не казаў я — залатыя рукі! Гэта ж такі падарунак к сынаваму прыезду. Дзякую, дачушкі-сакатушкі.

Іван Пятровіч бадзёра тупаў у новаў кашулі па пакоі, а Галя і Вера не маглі нацешыцца з сваёй сапраўднай выдатнай работы.

*1947 г.*

# АВІЯТАРЫ

Гэтага дня лагерныя авіятары чакалі з хваляваннем. Адны непакоіліся за спраўнасць сваіх лятальных апаратаў, другіх, больш спрактыкаваных авіятараў, трывожыў стан пагоды. Бо якія ж могуць быць сур'ёзныя і важныя палёты, ды яшчэ на спаборніцтвах, без належнай лётнай пагоды!

У апошнія дні хлопцы нават часта лятал і (праўда, на сваіх шустрых нястомных нагах) да старшыні суседняга калгаса дзядзькі Рыгора цікавіцца, што думае сабе на гэты конт барометр. Але «баран», як называе свой барометр дзядзька Рыгор, відаць, нічога асаблівага не думаў: стрэлка яго не паказвала ні дажджу, ні пагоды. Адным словам, становішча на лётным гарызонце было няяснае, і заставалася адно: набрацца цярплівасці ды чакаць, пакуль гэты «баран» надумаецца зрушыць куды-небудзь са сваёй нейтральнай пазіцыі.

А тым часам у майстэрні кіпела работа. Хлопцы рэзалі, стругалі, клеілі, дзесяткі разоў правяралі разлікі вуглоў для пастаноўкі крыллеў... І ўсё гэта рабілася з такой ахвотай і такім шчырым захапленнем, што мог бы пазайздросціць любы авіяканструктар. Цікавым было ва ўсёй гэтай справе яшчэ і тое, што гурток іхні працаваў на пачатках поўнай самадзейнасці. І толькі сяды-тады звярталіся гурткоўцы за парадамі да заўзятага аматара авіямадэлізму і самага шустрага ва ўсім лагеры піянера Ігара. Яго нават называлі яны сваім інструктарам. Часам да авіятараў заходзіў і начальнік лагера Васіль Паўлавіч. Гадоў з пяць таму назад ён яшчэ сам захапляўся ўсімі гэтымі «стракозамі», планёрамі, гелікаптэрамі... Ён жа і параіў хлапцам наладзіць спаборніцтва сваіх «стракоз» у дзень авіяцыі.

І вось, калі гарніст падняў у гэты дзень на ногі лагер, дык усе перш-наперш убачылі вясёлае сонца на чыстым васільковага колеру небе. І не толькі сонца — вясёлаю была і рачулка, што булькатала побач, і зялёны, пасярэбраны свежаю расою лужок, і сінеючы лес, які роўнай падковай ахінаў лагер. А што да птушынага царства, дык яно такую музыку наладзіла ў гонар вясёлай раніцы, што заслухацца

можна было. Але весялейшымі ўсё ж у гэтым цудоўным кутку прыроды, вядома, былі Ігар і яго сябры.

— Ура! — звонкімі галасамі радасна крычалі яны, выбягаючы на зарадку.— Пагода лётная!

Пачынаўся дзень авіяцыі, таму скрозь — і над лагерам, які размяшчаўся недалёка ад аэрадрома, і над горадам, які святлеў воддаль на сонцы, і над усёй нашай крылатай краінай — неба гуло гудам.

* * *

Пасля снедання ўесь лагер высыпаў на ўзбярэжны лужок. Тут быў прызначаны старт.

На вока вызначылі, што дыстанцыя ад рэчкі да лесу, куды вырашылі пусціць «стракоз», складае не менш паўкіламетра.

— Ну як,— сказаў галоўны суддзя спаборніцтва Васіль Паўлавіч, звяртаючыся да авіятараў, якія з належнай урачыстасцю трымалі напагатове свае лётныя апараты,— хопіць дыстанцыі?

Хлопцы пераглянуліся, яшчэ раз акінулі вачыма дыстанцыю і аднадушна згадзіліся, што павінна хапіць, тым больш што і ранейшыя іх поспехі ў гэтай справе да ўвагі ФАІ [1] яшчэ не даходзілі.

— Пастроіцца! — падаў каманду Васіль Паўлавіч.

Каманда пастроілася. Ігар стаў правафланговым. Злева, на тры крокі адзін ад аднаго, стала ў строй яшчэ пяць авіятараў. Цяпер ужо хлопцы з затоенай трывогай паглядалі на сваіх «стракоз». Вядома, у іншы звычайны дзень гэта было б справай звычайнай; сёння ж нікому з іх не хацелася расчараваць ні сябе, ні шматлікіх гледачоў, якія сабраліся на старт.

У гэты час збоку, на небасхіле, паказалася эскадрылля самалётаў. Ішлі яны стройнымі звеннямі, беручы кірунак на лес.

— Давайце пусцім насустрач нашу эскадрыллю! — усміхнуўшыся, прапанаваў галоўны суддзя.— Слухай маю каманду!

Хлопцы ўзнялі над галовамі свае самалёты з туга нацягнутымі гумавымі маторамі. Шумлівыя гледачы прыціхлі, не спускаючы вачэй з авіятараў і іх самалётаў.

[1] ФАІ — Міжнародная авіяцыйная федэрацыя, якая рэгіструе рэкордныя палёты.

Васіль Паўлавіч трымаў у левай руцэ кішэнны гадзіннік, а дзяжурны па лагеры, піянер Барыс,— блакнот і аловак. І калі вялікая стрэлка вось-вось набліжалася да чарговай хвіліны, Васіль Паўлавіч махнуў правай рукой:

— Раз! Два!! Тры!!!

Выпушчаныя з рук прапелеры завярцеліся, «стракозы» рванулiся ўгору.

Хлопцы застылі ў нерухомасці, сочачы за палётам. Але кожны з іх у гэты момант сачыў толькі за сваёй мадэллю, не заўважаючы іншых. Гледачы ж хутка пераблыталі, якая мадэль каму належыць, і цяпер толькі любаваліся агульным відовішчам.

Спачатку мадэлі дружна набіралі вышыню. Потым, адна за адной, пачалі планіраваць на пасадку.

Але не ўсе. Адна з іх вырвалася наперад ужо з першых секунд, абагнала сваіх сяброўак і не пайшла ўслед за імі на пасадку, а падалася проста на лес насустрач эскадрыллі. І лётчыкі, відаць, заўважылі яе, бо ўсе гледачы выразна ўбачылі, як самалёты раптам замахалі крылямі... Няйначай салютавалі яны храбрай «стракaзе».

— Чыя? Чыя гэта? — зашумелі гледачы.

— Мая,— адвярнуўшыся на момант, адказаў Ігар.

А маленькая легкакрылая «страказа», на здзіўленне ўсіх, ляцела і ляцела, не думаючы апускацца.

Вось яна ўжо над самым лесам. Тут яна ўзнялася яшчэ вышэй. Але ў гэты час над яе кволымі серабрыстымі крыльцамі прашумелі магутныя крыллі вялікіх машын. Тады яна, нібы спужаўшыся нечуванага шуму і гуду ці, можа, залішняй вышыні, апусцілася ніжэй і паплыла над зялёным лясным абшарам.

Нейкі час яшчэ відаць была ледзь прыкметная кропка, але неўзабаве і яна знікла з вачэй.

І тады дружныя воплескі і дружнае «ўра» загрымелі і над ціхаю рэчкай, і над усім лагерам. «Ура» гэтае і воплескі прызначаліся хутчэй самой храбрай маленькай «стракaзе», чым яе гаспадару.

— Цудоўна! — з захапленнем падагульніў галоўны суддзя Васіль Паўлавіч, віншуючы разгубленага ад такой нечаканай удачы Ігара.

Заставалася сабраць удзельніц спаборніцтва і вызначыць дыстанцыі палётаў. Для першых пяці справа гэта была нескладанай: іх сабралі, і дзяжурны зрабіў у блакноце апошнія пра іх запісы.

Пераможцу пайшлі шукаць усёй камандай на чале з Васілём Паўлавічам.

Спачатку ўсе былі ўпэўнены, што яна ўпала дзе-небудзь недалёка ад ускраіны лесу. Але чым больш паглыблялася экспедыцыя ў лясны гушчар, тым больш траціла надзею на поспех. Ішлі рассыпным фронтам, навідавоку адзін у аднаго. Угледаліся ў густыя верхавіны елак і хвой, лазілі па маладых зарасніках, пужаючы зайцоў і птушак. І хутка ўсім стала ясна, што пошукі іх марныя. Яны прайшлі не менш кіламетра, а «страказы»-пераможцы і следу няма.

Страціў надзею нават і сам Васіль Паўлавіч. Ён сабраў экспедыцыю і сказаў з жалем:

— Відаць, лягчэй знайсці ў полі іголку, чым у лесе Ігараў самалёт.

Вядома, што не толькі Ігар,— уся каманда была ўстрывожана нечаканым здарэннем. Як жа можна, каб так сабе, бясслаўна загінула такая выдатная лятунка — гонар усёй лагернай авіяцыі!

— А ўсё ж я думаю,— дадаў Васіль Паўлавіч,— далей ісці не варта. Не магла ж яна заляцець за трыдзевяць зямель! Ды, урэшце, чаго яе так панесла? Дзіва! Ці не ў паветраную плынь трапіла? Такія рэчы бываюць.

Як бы там ні было, а цікавасць да загінуўшай «страказы» ад такога падагульнення, зробленага Васілём Паўлавічам, не зменшылася.

— Можа, мы проста абмінулі яе дзе?..— ледзь не заплакаў спахмурнелы Ігар, адчуваючы, як цяжка яму пагадзіцца з думкай аб беззваротнай страце.— Давайце, Васіль Паўлавіч, яшчэ раз абшукаем...

Зноў разышлася экспедыцыя ранейшым строем і рушыла назад, у бок лагера. Зноў аблазілі ўсе зараснікі і яшчэ пільней прыглядаліся да густога галля: яна ж магла проста дзе-небудзь завіснуць у гушчары. Але, апроч гнёздаў, пакінутых птушкамі, зноў нічога не заўважылі.

Праўда, калі экспедыцыя апынулася на полі, дык выявілася, што выйшлі з лесу ўсё ж значна правей таго месца, з якога ўваходзілі. Гэта крыху падбадзёрыла Ігара. Значыць, яны і сапраўды выпадкова маглі прайсці бокам, абмінуўшы яе. Сваю думку Ігар выказаў Васілю Паўлавічу. Але той паківаў галавой і адказаў нявесела:

— Калі б нават і так, дык у нас няма ніякай гарантыі, што і ў другі раз гэтага не здарыцца. Гэта ж лес. А ў лесе, як кажуць, і ў трох соснах заблудзіцца лёгка...

— Дык я адзін вярнуся,— рашуча сказаў Ігар, пачырванеўшы.

— Паважаю храбрасць,— усміхнуўся Васіль Паўлавіч,— але як начальнік дазволіць гэтага не магу: лес немалы, і не агледзішся, як заблудзішся...

Васіль Паўлавіч глянуў на гадзіннік.

— Тым часам пара на абед. Хадзем. Распарадак дня парушаць нельга.

Прыйшлося згадзіцца. Цяпер Ігара цешыла толькі думка, што ён усё ж не вытрымае і пабяжыць на пошукі адзін у час мёртвай гадзіны. Яшчэ раз удакладніць напрамак па тых вастраверхіх елках, якія ён добра запомніў, а каб сапраўды не заблудзіцца — вызначыць курс па сонцу. З гэтаю зманліваю думкаю вяртаўся ён у лагер.

Ля лагера экспедыцыю сустрэў дзяжурны.

— Васіль Паўлавіч,— далажыў ён,— вам толькі што званілі з аэрадрома.

— Па якой справе?

— Не ведаю. Я сказаў, што вы часова адлучыліся. Прасілі, як вернецеся, адразу пазваніць ім праз гарадскую станцыю.

Дзяжурны глянуў на заклапочанага Ігара.

— А дзе ж мадэль?

Ігар сумна кіўнуў галавою:

— Не знайшлі...

Вестка пра званок з аэрадрома зацікавіла Васіля Паўлавіча. На днях ён прасіў аэрадром, каб прыслалі на сёняшні касцёр свайго прадстаўніка. Магчыма, па гэтай справе і званілі...

Хлопцы пайшлі ў сталоўку, а Васіль Паўлавіч накіраваўся ў сваю канцылярыю. Тут ён зняў трубку, выклікаў горад і хутка злучыўся з дзяжурным аэрадрома.

— Начальнік піянерскага лагера вас слухае,— прагаварыў ён, пачуўшы голас дзяжурнага.

У трубцы раздаўся лёгкі трэск.

— Так, так,— адказаў Васіль Паўлавіч,— з нашага лагера... Спаборніцтва праводзілі. Вынікі? Не зусім. Звычайныя. Да пяцісот метраў... Ах, тая, што над лесам апусцілася? На жаль, не ведаю. Не знайшлі. Я толькі што вярнуўся з пошукаў. Хадзіў са сваімі авіятарамі... Што вы кажаце?! Вось гэта вы нас парадавалі! Дзякую. Але... у нас жа карты няма, каб знайсці па вашых каардынатах...

Васіль Паўлавіч нейкі час уважліва слухаў моўчкі, ківаючы галавой. Потым зноў выкрыкнуў на ўсю канцылярыю:

— Ды гэта ж выдатна! Вы ўяўляеце, як рады будуць мае хлопцы такой сапраўднай экспедыцыі на чале з сапраўдным авіятарам. Дзякую. Чакаем вас з нецярплівасцю.

Васіль Паўлавіч павесіў трубку, усміхнуўся сам сабе і крыкнуў у насцеж адчыненае акно:

— Дзяжурны!

— Вось што, брат,— сустрэў яго Васіль Паўлавіч,— пасля мёртвай гадзіны прышлі да мяне Ігара і ўсіх удзельнікаў спаборніцтва. А роўна ў восем, як умоўлена,— распаліць касцёр. Ясна?

— Ясна! — адказаў дзяжурны, збіраючыся выходзіць.

— Чакай, брат. Магу яшчэ сказаць табе навіну: мадэль Ігарава праляцела каля трох кіламетраў...

— Дык яе ж не знайшлі...

— Яе можна лічыць знойдзенай,— растлумачыў Васіль Паўлавіч.— Аказваецца, яе заўважылі з самалётаў. Больш таго: адзін з лётчыкаў-наглядальнікаў адзначыў на сваёй карце каардынаты прызямлення. Яны ж — народ спрактыкаваны і здагадлівы: ведалі, што ў лесе такой макулінкі не знойдзеш. Так яно і ёсць.

* * *

Роўна ў восем на сухім поплаве пры рэчцы цесным колам размясцілася ўсё насельніцтва лагера і госці з калгаса, якіх прывёў сюды сам дзядзька Рыгор.

Нізкае ружовае сонца залаціла ціхую плынь рачулкі, узбярэжныя кусты і пацямнелыя стагі на другім, сенажатным беразе.

Пагода ў гэты самы лётны ў годзе дзень усё яшчэ стаяла лётная. І ў павільгатнелым паветры яшчэ няспынна гулі матары, далёка разносячы магутны рокат.

Весела патрэскваў касцёр, і весела шугала полымя, рассыпаючы іскры. А недалёка ад кастра, на купіне, сядзеў плячысты капітан у лётніцкай форме і расказваў будучым авіятарам і авіятаркам пра свае баявыя справы і пра слаўную нашу авіяцыю.

З правага боку ад яго, абапёршыся на крыло, ляжала маленькая «страказа» і сядзеў шчаслівы яе канструктар і

гаспадар піянер Ігар. Няма чаго і казаць, што адчуваў ён сябе на гэтым зборы лепш не трэба: яго мадэлька сапраўды заслужыла ўсеагульную ўвагу і павагу. І сённяшні іх госць, грудзі якога густа ўквечаны баявымі ордэнамі і медалямі, абяцаў нават перадаць весткі аб ёй і яе канструктары ў ФАІ для залічэння новага рэкорда «малой авіяцыі» СССР.

*1948 г.*

# ТАЯМНІЧЫ СУНДУЧОК

Паходны збор быў прызначаны ля школы. І роўна ў дзевяць важаты Сеня падаў каманду строіцца.

Зашуршэў жарсцвяны пясок, зашоргалі дзесяткі чаравікаў, і ўвесь атрад у момант стаў у стройную калону.

Сеня дастаў са сваёй неразлучнай палявой сумкі сшытак, адгарнуў вокладку і пачаў выклікаць:

— Атрашкевіч?

— Я!

— Бірыла?

— Ёсць!

— Васілевіч?

Чытаў ён шпарка, адрывіста, па-вайсковаму. Гэтак жа, у тон важатаму, стараліся патрапляць з адказамі і яго юныя выхаванцы. Праўда, гэтыя юныя выхаванцы па ўзросту адсталі ад самога Сені ўсяго на гадоў два ці тры, а што да росту, дык былі сярод іх і такія, якія нават апярэдзілі яго. Вось чаму Сеня і сам яшчэ не менш захапляўся ўсім тым, чым захапляліся піянеры яго атрада.

Калі важаты скончыў праверку, дык выявілася, што не хапае Мішы і Грышы.

— Як згаварыліся! — нездаволена сказаў Сеня, пазіраючы на свой ручны гадзіннік.

— Каб яны ды не згаварыліся? — пачуўся смех у калоне.— Гэта ж вядомыя Міша-Грыша, Грыша-Міша!

— Але ж яны ў розных канцах жывуць,— пацісную плячыма Сеня.— Калі ж было згаварыцца, каб разам спазніцца? Нічога не разумею...

Міша і Грыша не толькі ўсімі лічыліся, але і сапраўды былі закадычнымі сябрамі. Сяброўства іхняе пачалося яшчэ з першага школьнага дня першага школьнага года. За шэсць школьных класаў адбылося нямала розных змен у іх характарах і росце, але ў шчырай, самаадданай дружбе іхняй нават самыя прыдзірлівыя крытыкі не заўважылі б ніякіх змен. І ўсе так прывыклі да гэтай дружбы, што цяпер цяжка было і ўявіць сабе Мішу без Грышы, а Грышу без Мішы. Можа, таму і празвалі іх адным здвоеным імем

Міша-Грыша або Грыша-Міша, гледзячы па тым, да каго звярталіся.

І вось зараз нейкім невядомым чынам умудрыліся яны разам спазніцца на гэты паходны збор. Гэта ўжо сапраўды было дзівам. Усім жа вядома, што Міша жыве на Камароўцы, а Грыша — на Старажоўцы. І што ні Мішу не па дарозе да Грышы, ні Грышу — да Мішы...

Тым часам важаты Сеня зноў нецярпліва глянуў на свой гадзіннік. Потым сказаў расчаравана, звяртаючыся да калоны:

— Што ж — сямёра аднаго не чакаюць. А ў нас жа не сямёра на аднаго прыпадае.

— Ур-ра! — раптам нібы ў адказ яму грымнула ледзь не ўся калона.

— Чаго вы ўсхадзіліся? — суцішыў піянераў Сеня.— Я ж нічога такога не сказаў, каб «ура» крычаць.

— Ды вунь і яны...

Сеня агледзеўся.

— А-а, Міша-Грыша! Добрай раніцы! — сагнуўшыся ў пояс, жартліва пакланіўся важаты.— Віншую, паважаныя сябры, са спазненнем роўна на цэлых,— ён выпрастаўся і паднёс да самых вачэй руку з гадзіннікам,— на цэлых... сем хвілін і трыццаць секунд!

Міша паставіў на зямлю невялічкі самаробны сундучок, які ён нёс у руках, і вінавата пазіраў на важатага. Грыша панура апусціў вочы ўніз.

— А гэта для чаго? — здзівіўся Сеня, паказваючы пальцам на сундучок.— Ты што — на Камчатку сабраўся? Ды яшчэ з замком нават...

Міша пачаў раскрываць рот, але ў гэты час піянеры дружна загаманілі:

— Ты, мусіць, повен сундук сухароў напакаваў у дарогу?

— А можа, кілбас накапціў?

Міша пачырванеў і сказаў з ноткай злосці ў голасе:

— Калі вы такія, дык нічога не скажу!..

Гэткі адказ ужо зусім прыкаваў усеагульную ўвагу да таямнічага сундучка ды яшчэ ў дадатак — з замком...

Неўзабаве ад жартаў хлопцы вымушаны былі перайсці да просьбы:

— Ды адкрый ты, Міша, урэшце таямніцу свайго сундука! Ды не муч ты ўвесь атрад!

Але ўпарты Міша маўчаў як вады ў рот набраўшы і

толькі хітра пасмейваўся, паглядаючы зверху на Грышу: быў ён за яго амаль на цэлую галаву вышэйшы.

Тым часам праз усю дарогу цікаўныя аж гарэлі ад нецярплівасці даведацца, што ж там сапраўды ў гэтым Міша-Грышавым сундуку? Не дарэмна ж яны, небаракі, цягнуць яго па чарзе ў такую гарачыню і нікому нават паднесці не давяраюць. І, вядома ж, не абед у ім, бо абеду ніхто з іх не браў: ідуць яны ў свой падшэфны калгас, і там бы пакрыўдзіліся, каб яны з сабой абед прынеслі.

Дарога была невялікая, і праз гадзіны паўтары атрад прыбыў, як кажуць, на месца прызначэння.

* * *

Самую спёку шэфы правялі на рэчцы разам з калгаснымі піянерамі. А адвячоркам сабраліся ў клубе. Быў выхадны дзень, і таму ў клуб прыйшлі не толькі малыя, але і шмат дарослых.

Па плану экскурсіі тут меў адбыцца паказ піянерскай самадзейнасці. Да гэтага паказу загадзя рыхтаваліся і ў горадзе і ў калгасе. Калі з месяц таму важаты запытаўся ў Мішы, з якім нумарам ён выступіць — будзе скакаць ці спяваць, дык Міша адказаў жартам:

— Лепш іграць.

— На чым?

— На патэфоне...

— Дзівак! — махнуў рукой важаты і запісаў яго ў фізкультурную групу.

Вось чаму, убачыўшы сёння Мішу з сундучком, важаты і ўспомніў тую, не зусім, праўда, сур'ёзную размову. Няўжо ён і сапраўды цягне патэфон і збіраецца выступаць? Спачатку ён хацеў быў нават адправіць Мішу дамоў, ды перадумаў: свая музыка не пашкодзіць!

Але былі ў гэтай музыцы нейкія такія дзівосы, якія важаты пачаў заўважаць яшчэ зранку: па-першае, яе чамусьці лёгка неслі ў дарозе, па чарзе, толькі Міша з Грышам, а, па-другое, сундучок быў не такі ўжо і вялікі, каб у ім мог змясціцца патэфон з пласцінкамі...

І толькі ўжо ў калгасе, ля рэчкі, Міша аднаму яму прызнаўся, што яны прынеслі ў сваім сундучку.

— Толькі нікому не кажы,— папрасіў ён.— А то даведаюцца — тады і не цікава будзе выступаць з такой самадзейнасцю...

— Дык вось які вы нумар падрыхтавалі! — сказаў задаволены важаты.— Хвалю, калі ўсё ў парадку.

— Усё ў парадку! — падхапіў Міша.— Ручаемся. Мы толькі ўчора ў адзінаццаць гадзін вечара скончылі і праверылі. Таму Грыша і заначаваў у нас.

— Але чаму ж вы нічога не сказалі раней?

— Ды я, ды мы...— запнуўся Міша.

У гэты час да Сені падбеглі піянеры, і размова на тым спынілася. Пасля гэтага ў праграму самадзейнасці важаты ахвотна ўключыў першымі Мішу і Грышу. І першымі іх выклікаў на сцэну.

— І тут яны згаварыліся! — засмяяліся піянеры.

На сцэну сябры выйшлі са сваім таямнічым сундучком. Грыша, укленчыўшы на калена, шпарка адамкнуў замок, а Міша тут жа, як фокуснік, дастаў з сундучка нейкую скрыначку незамыславатай канструкцыі і паставіў яе на накрыўку сундучка. Потым яны абодва з тонкімі драцінкамі ў руках чагосьці вельмі шустра замітусіліся ля гэтай скрыначкі, нешта пачалі ладаваць, і вось, замест незвычайнага фокуса, усе ўбачылі, як у Мішы на вушах раптам з'явіліся звычайныя навушнікі, а Грыша нейкім дроцікам пачаў шчупаць верх скрыначкі...

— Гатова! — сказаў Міша.— Ёсць кантакт!

У зале зашапталіся, зашумелі. Нічога ж цікавага хлопцы не паказваюць! Забаўляюцца сабе з нейкай цацкай, ды толькі... І не спяваюць, і не скачуць.

Але тут Міша зняў навушнікі і сказаў:

— Дарагія сябры з падшэфнага калгаса! Дазвольце ў першым нумары нашай самадзейнасці перадаць вам гэты невялікі падарунак. Карыстацца ім лёгка зможа кожны. Гэта звычайны дэтэктарны прыёмнік, які мы з Грышам змайстравалі самі. І калі ён вам спадабаецца, дык мы з ахвотай навучым і вас рабіць такія.

Зал загрымеў ад воплескаў. Цяжка было нават разабраць, хто найбольш узрадаваўся падарунку: шэфы ці падшэфныя? Але хутчэй, што аднолькава — і тыя і другія.

Толькі важаты Сеня ўсё ж застаўся нездаволены: як жа гэта Міша-Грыша да апошняга дня ўтаілі такі выдатны нумар сённяшняй іхняй праграмы?

А ў астатнім дык усё атрымалася, як кажуць, бліскуча.

*1948 г.*

# ВАСІЛЬКІ

## 1. ВЫМУШАНАЕ ПАДАРОЖЖА

Я — слабы здароўем. Так кажа мая мама. А якая ў мяне хвароба, я і не ведаю. Маме хочацца, каб я быў, як Мішка з нашага двара (ён тоўсты, і ўсе лічаць яго здаравякам), а я чамусьці ніяк не раблюся, як Мішка. Праўда, я кашляю, калі прастуджуся, але ж тата кажа, што кашаль — не хвароба. Значыць, выходзіць, мая хвароба — худоба. Я не згаджаюся з такой хваробай, але мама кажа, што я ў гэтых справах не маю права голасу. Я ўжо прывык да сваёй хваробы і нават маю праз яе сякія-такія выгоды.

— Можа б, ты, сынок, чаго з'еў? — часта задае мне мама адно і тое ж пытанне.

— Нешта не хочацца,— моршчуся я.

— А ты падумай.

— Падумаў.

— І што?

— Калі б чаго смачнага...

Пасля такой размовы мама не скупіцца на смачнае. Абы толькі я еў і даганяў Мішку!

Горш толькі, што мне, як слабаму здароўем, забараняюць бегаць з хлопцамі і раяць не вельмі налягаць на вучобу. Толькі сяду за кніжку, як маці ўжо глядзіць на гадзіннік: хаця каб не замарыўся я!

Ды не ў гэтым бяда. Бяда са мною здарылася на іспытах.

Выклікала мяне настаўніца наша і пытаецца, якія я ведаю пустазельныя расліны. Я назваў, якія ведаў.

— А васількі? — дапытваецца яна.

— Не,— упэўнена адказваю я.

— Чаму ты так думаеш?

Чаму я так думаю? Па-першае, ужо сама назва вельмі ж такая мяккая, далікатная. Гэта ж не які-небудзь асот ці свірэпа або нават крапіва... Па-другое, пра васількі і ў вершах пішацца. Не можа быць, каб паэты памыляліся і хвалілі пустазелле. Нарэшце, у кіно дзяўчаты з гэтых васількоў вянкі носяць...

Так я і адказаў.

Толькі ж настаўніца чамусьці не згадзілася са мною. Потым яна запытала ў мяне, які колер мае вадзяная лілея.

— Чырвоны,— адказаў я адразу.

А яна зноў:

— Чаму ты так думаеш?

Я зноў пачаў разважаць: лілея — прыгожая назва. Мне яна падабаецца. А я чуў, як мама аднойчы казала суседцы: «Што чырвана, то — хараша». Значыць, ясна, што лілея павінна быць чырвонай.

Настаўніца зноў не згадзілася са мною і паставіла мне за такія адказы двойку.

Ці варта казаць, які гэта быў для мяне сорам. Добра яшчэ, што мне дазволілі гэтую двойку замяніць лепшай адзнакай увосень.

Маці таксама была вельмі ўзрушана маім няшчасцем, але разважала так:

— Што ж, каб ты быў такі, як Мішка, дык з цябе і патрабаваць можна было б. А так — гора ты маё... Можа, хіба я адпачынак скора вазьму па рабоце, дык тады дапамагу табе вывучыць прыродазнаўства і хоць крыху дагледжу цябе...

Наконт дапамогі то я не вельмі ўзрадаваўся, бо мама мая — бухгалтар і ў пустазеллі разумее, мусіць, не больш за мяне. Ды і наконт догляду не вельмі спакусіла мяне яе прапанова: гэта значыць, давядзецца мне цэлы месяц яшчэ больш пакутаваць, даганяючы Мішку.

А тут якраз хлопцы з нашага класа ў падарожжа збіраюцца. Ім ужо шыюць маткі дарожную вопратку, рыхтуюць рукзакі, падбіраюць адмысловую пасуду. Хочацца і мне з імі паехаць ці пайсці ў падарожжа, ой як хочацца! Ды мама — нізашто не згаджаецца.

— Хто цябе пакорміць там без мяне? Ты ж,— кажа,— вернешся з гэтага падарожжа — скура ды косці. Потым цябе і за год не паправіш.

Але ж мне ад яе гэтай гаворкі не лягчэй. Праз дзень я — зноў за сваё. Нават плакаць спрабаваў, у абед забастоўкі наладжваў, не памагае!

Урэшце мама пайшла на пагадненне.

— У падарожжа,— кажа,— я цябе не пушчу, як ні прасіся. А вось да бабкі, у калгас,— калі ласка. Тым больш што я і сама туды хутка на адпачынак збіраюся.

Так прыйшлося мне накіравацца ў вымушанае падарожжа.

## 2. БАБКА І РЫГОРКА

Бабка мая, калі добра прыгледзецца, зусім падобная на маму, толькі маршчын на твары шмат ды апранута не так: яна носіць спадніцу і зверху сарочкі нейкую камізэльку, якую заве кабатам. А ходзіць зусім босая. Мяне гэта здзівіла, бо я ніколі не бачыў, каб мая мама хадзіла па двары босая, хоць яна і маладзейшая. Няўжо ў бабкі няма ў што абуцца? Каб я ведаў, дык прывёз бы маміны туфлі, а то ў нас дома, дзе ні ступіш,— усё за маміны туфлі зачэпішся. Я нават не ўтрымаўся і запытаўся ў бабкі, чаму яна босая.

— А навошта той абутак улетку? Босай здаравей,— адказала яна.

Дзіўна! Мама зусім не так разважае, калі я часам у хаце бегаю босы. Яна нават не разважае, а проста крычыць: «Віця, абуйся зараз жа, а то кашляць будзеш!»

— А ты, бабуля, хіба не кашляеш? — пацікавіўся я.

— Навошта мне, унучак, той кашаль? Няхай ён лепш на цёмны лес ідзе,— пагладзіла яна мяне па галаве.

— А ты ж босая ходзіш...

— Таму босая і хаджу, каб не кашляць.

Зноў загадка! Дзіўная нейкая бабка ў мяне. Я і не ведаў гэтага. Я толькі ведаў, што бабка не любіць горада. Неяк яна прыязджала да нас у госці. Пабыла дні два ды ўцякла. «Не магу, кажа, жыць у горадзе: тут шум і рабіць няма чаго. А ў мяне там і свінні, і парасяты, і авечкі...» А між іншым, гэтыя самыя свінні і парасяты, якіх бабка так любіць, зусім і не яе, а калгасныя, а сама бабка жыве ў Сідара, які даводзіцца мне дзядзькам,— так кажа мая мама.

Ды мяне цяпер не гэта цікавіць, а бабчына загадка наконт кашлю.

— Як жа гэта, бабуля, так выходзіць, каб босы ды не кашляў? — настойліва дапытваюся я. (За такія допыты мяне мама часта выганяе вон. «Не лезь, кажа, у вочы. Ідзі вон. Вельмі цікаўны!»)

Бабка, мусіць, вельмі добрая, бо яна не выгнала мяне, а расказала цэлы ўрок. Я даведаўся ад яе, што той, хто ходзіць улетку босы, здаравейшы за абутага, што зямля выцягвае з чалавека ўсякія хваробы, калі б яны нават і залезлі ў яго, і што, апроч таго, вельмі карысна бегаць басаму па расе.

Гэта была для мяне навіна! Навошта ж я гэтулькі ло-

таў цягаў на нагах лішні цяжар? Апрача таго — кашляў!

У той жа дзень я разуўся. Тым больш што такі ж самы другі бабчын унук, Рыгорка, таксама босы бегае. Чым я горшы за яго?

Але ўсё ж бабка не так зацікавіла мяне, як гэты самы Рыгорка. Раней я не ведаў яго, толькі паклоны перадавалі мне ад яго, а яму ад мяне, як лісты пісалі.

Рыгорка ростам з мяне, і гады ў нас адны, і вучымся ў адным класе. Толькі ён спачатку здаўся мне нейкім смешным: увесь абсыпаны рабаціннем, адны вочы блішчаць. Штаны ў яго доўгія, аж да пят. Галава стрыжаная, і на галаве шапка з блішчастым брылём. Але такі шустры, што на адным месцы не пастаіць.

Не паспеў я разгледзецца, як ён прапанаваў мне бегчы глядзець ластаўчына гняздо. Праўда, за мяне заступілася бабка, нарабіла крыку:

— Куды ты яго цягнеш? Ты і так з рабаціннем. Яшчэ хочаш, каб і вушы рабымі сталі...

Я нічога не разумеў. Пры чым тут ластаўчына гняздо да рабаціння?

І ўжо, калі мы пасля, крадком ад бабкі, пабеглі глядзець гняздо, я распытаўся ў Рыгоркі, чаму так бабка казала. Рыгорка расказаў мне вось што: бабка кажа, што той, хто спора ластаўчына гняздо, стане такім рабым, як ластаўчыны яечкі. Але, сказаў Рыгорка, гэта няпраўда, бабка толькі страшыць. А чаму няпраўда? Рыгорка і на гэта прыдумаў адказ. Па-першае, яго меншая сястрычка Волька ніводнага гнязда не спарола, а такая ж рабая ўлетку, як і ён. Па-другое, ён распытваў аб гэтым у настаўніка, і той сказаў, што гэта няпраўда, хоць гнёзды спорваць і забараніў, бо птушкі карысныя для нас і іх трэба берагчы. Канешне, тут бабчыны хітрыкі: ёй проста шкада ластавачак, дык яна і прыдумала такую байку.

Ластаўчына гняздо было ў самым гумне, на падстрэшнай перакладзіне. Яно было прылеплена знізу, і мне здалося дзіўным, чаму ластаўка такая дурная: зрабіла гняздо на віду, а не ў якім-небудзь цёмным куточку. Я запытаўся пра гэта ў Рыгоркі, але ён толькі пакруціў галавою.

— Хочаш паглядзець яечкі? — азіраючыся, сказаў ён.

Дзіва што! Сапраўдныя яечкі сапраўдных ластавак, каму гэта не захочацца паглядзець! Але як?

— Ты глядзі, як я палезу, потым сам злазіш туды,— параіў Рыгорка.

— Добра,— згадзіўся я.

Гняздо было недалёка ад сцяны, уздоўж якой стаяла плоскае дрэва з пазамі, куды былі ўстаўлены бярвенні. Рыгорка, як кот, скокнуў на гэтае дрэва і спрытна пабег па сцяне ўверх. Дабег да перакладзіны, ухапіўся за яе рукамі і павіс, разглядаючы гняздо. Мне аж страшна глядзець было на яго — вось-вось яшчэ возьме ды сарвецца... А тут траха не з-пад самага носа ў яго выпырхнула ластаўка. Яна жаласна зачырыкала і закружылася пад страхою.

— Ага,— радасна крычыць да мяне Рыгорка,— ластавачкі ўжо вывеліся!..

Мяне такая навіна аж калоціць.

Вось жа шчаслівы які Рыгорка! Ён зараз, у гэтую хвіліну, калі я стаю тут і млею ад цікаўнасці паглядзець хоць бы яечкі, разглядае жывых малюсенькіх ластавачак!

— Злазь,— прашуся я,— дай мне паглядзець.

Рыгорка злазіць яшчэ шпарчэй, чым узлазіў. Ён не лезе, а проста скача, як верабей.

Перамагаючы страх, я пачынаю карабкацца па сцяне. Але ногі мае коўзаюцца, рукі зрываюцца, і хутка я лячу ўніз. Рыгорка смяецца з майго спрыту.

— Пачакай,— кажу я,— дай злаўчыцца.

Зноў карабкаюся ўверх. Працую, аж упацеў, а ўсё коўзаюся на месцы. А ластавачка ўсё кружыцца каля нас і чырыкае. Шкада мне яе стала, і я адрокся ад свайго жадання.

Калі я выйшаў з гумна, дык убачыў, што рукі мае ў крыві і на іх шмат стрэмак... Я спужаўся і ледзь не расплакаўся.

— Глупства,— сказаў на гэта Рыгорка,— стрэмкі мы як бач падастаём, а драпіны цераз ноч зажывуць.

— А бабка хіба не будзе сварыцца? — хвалююся я.

— За стрэмкі? Пхі!..— гучна зарагатаў Рыгорка.— Што ж тут такога?

Ён збегаў дахаты і прынёс іголку. Мы ўселіся на траве ля гумна і пачалі даставаць мае стрэмкі.

### 3. Я ВЫВУЧАЮ ПУСТАЗЕЛЛЕ

Рыгорка казаў праўду: назаўтра ўсе драпіны амаль зажылі, хоць рукі яшчэ і шчымелі.

— Хадзем з намі ў поле,— сказаў мне Рыгорка раніцай.

— З кім гэта — з вамі? — перапытаўся я.
— Наша звяно пойдзе.
— Чаго?
— На работу.
І Рыгорка расказаў мне, што ён звеннявы ў атрадзе і што яго звяно будзе палоць жыта і пшаніцу.
— З ахвотай пайшоў бы, каб не прыродазнаўства...— адказаў я.
— Пры чым тут прыродазнаўства? — не разумее Рыгорка.
Прыйшлося прызнацца ва ўсім.
— Мы гэтыя твае васількі,— смяецца Рыгорка,— сёння вырываць будзем. Хадзем, і ты іх там не горш, чым па кніжцы, вывучыш. А лілеі будзем вывучаць увечары — пойдзем купацца на рэчку: там іх расце колькі хочаш.
Добра, калі так! Прыемнае з карысным, як кажа мая мама. Засталося толькі, каб бабка дазволіла: я не прывык рабіць нічога без дазволу.
Бабка дазволіла без ніякіх спрэчак. Цяпер я пераканаўся, што яна ўсё ж дабрэйшая за маму, хоць і падобная мама на бабку. З мамай была б цэлая вайна.
Шчасліва ўсё ўладзіўшы, я ўзяў падручнік і пайшоў з Рыгоркам. Да нас далучылася яшчэ некалькі піянераў. Я пазнаёміўся з імі. Адзін з іх быў большы за ўсіх, у белай кашулі і такіх жа белых штанах, з чорным ад загару тварам. Ён сказаў мне:
— А я ведаю, дзе ты жывеш.
— У бабкі,— кажу я.— Тут і ведаць няма чаго.
— Не: ты ў горадзе жывеш. Я быў там з бацькам.
І ён пачаў мне гаварыць пра мой горад: якія там вуліцы, будынкі і якая «хвацкая» сельтэрская вада...
Так ён усю дарогу і расказваў мне пра мой горад.
Хутка мы мінулі поле, на якім расла бульба, і апынуліся ля зялёнага жыта. Прызнацца, я тады не ведаў, што гэта жыта такое, гэта мне ўжо хлопцы растлумачылі. Бульбу дык я, заплюшчыўшы вочы, пазнаю: мы яе з мамай у сваім агародзе садзім.
Жыта было ўжо высакаватае і сіняе, як возера ў нашым горадзе. Здалёк цямнеў лес — хлопцы называлі яго борам. Але больш за ўсё мне спадабаліся жаваранкі. Яны вісяць высока ў небе, трапечуцца на сонцы і звонка спяваюць. Проста дармовы канцэрт. Мяне толькі здзівіла, што ні Ры-

горка, ні іншыя хлопцы нават увагі не звярнулі на гэты канцэрт.

Ля жыта Рыгорка закамандаваў хлопцам, каб хадзілі па полі асцярожна, а пустазелле каб выносілі ў канец і складалі ў кучы.

Потым ён сказаў мне:

— А ты, Віця, вывучай свае васількі. Ведаеш, якія яны?

— Бачыў на малюнку,— адказаў я.

Рыгорка адышоўся крыху ў жыта і пачаў ірваць там сінія кветкі на высокіх тонкіх сцяблінках. Нарваў цэлую жменю і прынёс мне.

— Калі хочаш, мы табе іх з усяго поля аддадзім,— сказаў ён.

Хлопцы пайшлі палоць пустазелле, а я прысеў на ўзмежку і пачаў разглядаць васількі. Прыгожыя кветкі! Не разумею, чаму іх з такой злосцю знішчае Рыгорка і яго звяно. Праўда, лічацца яны ўсё ж пустазеллем — гэта я цяпер запамятаў добра. Але ж яны зусім не пякуцца, як крапіва, і не колюцца, як асот.

Ва ўсякім разе, я сур'ёзна заняўся вывучэннем гэтых васількоў. Пералічыў нават усе лісцікі на кветках: некалькі кветак разарваў, каб разгледзець іх усярэдзіне. Потым я некалькі разоў перачытаў месца ў падручніку пра пустазелле.

Праз гадзіну якую мне ўжо здавалася, што я ўсё ведаю — што гэта за васілёк і які ён. Я нават нюхаў яго і жаваць спрабаваў: нясмачны, хоць і прыгожы! Нарэшце, адзін васілёк я вырашыў высушыць і забраць з сабой у горад.

Пасля гэтага я пачаў цікавіцца, якое яшчэ пустазелле тут расце. Хлопцы далі мне на вывучэнне цэлую калекцыю такіх «шкоднікаў», як яны кажуць, і расказалі, як яны называюцца.

Так прайшоў мой першы дзень у полі.

Назаўтра мне не захацелася больш вывучаць пустазелле, і я папрасіўся ў Рыгоркі, каб дазволіў мне палоць жыта.

Выявілася, што тут нічога складанага няма. Трэба вырываць усю лішнюю траву і не чапаць жыта. Такая навука мне здалася зусім простай: к канцу дня я працаваў нароўні з усімі, і Рыгорка мяне нават пахваліў.

— Ты,— кажа,— у нас стаханаўцам стаць можаш!

Мне спадабалася такая пахвала, бо ўсе хлопцы глядзелі цяпер на мяне як на роўнага, а не як на пустазелле.

Праз некалькі дзён раптам выклікаюць усіх нас у праўленне калгаса. «Чаго б гэта? — спрабуе здагадацца нават сам Рыгорка.— Мусіць, дрэнна палолі...»

Прыйшлі мы, прывіталіся да старшыні, ён адказаў нам.

— Вы, дзядзька, нас клікалі нечага? — спытаў Рыгорка.

— Але,— кажа дзядзька старшыня, усміхаючыся,— клікаў.

Ён адчыніў столік, дастаў адтуль некалькі кніжачак.

— Трэба вас аформіць: вы не дрэнна працуеце. Бачыў я вашу работу,— дадаў ён.

І пачаў нешта пісаць у адной кніжачцы, потым у другой...

— Ты як пішашся: па бацьку ці па матцы? — кіўнуў ён галавой у мой бок.

Я сказаў. Дзядзька старшыня запісаў нешта ў асобную кніжачку.

Потым ён пачаў выклікаць па прозвішчах і падаваць кожнаму кніжачку. Мне таксама даў.

Я прачытаў на вокладцы: «Працоўная кніжка...» А далей напісана маё імя і прозвішча. Перагарнуў лісток, а там, у слупку, пад загалоўкам «колькасць выпрацаваных працадзён» напісана чарнілам — 5.

— Ну вось,— кажа старшыня,— глядзіце, хлопцы, працуйце добра, і вам брыгадзір будзе запісваць у гэтыя кніжкі працадні, а ўвосень за работу атрымаеце ад калгаса збожжа і ўсё, што належыць.

Мы схапілі свае кніжкі і выбеглі з праўлення.

Гэта — не жартачкі! Нашу работу прызнала само праўленне! Апрача таго, мы — нібы сталыя калгаснікі, бо маем такія ж працоўныя кніжкі, як і ўсе дарослыя!

## 4. ВЫМУШАНЫ ЗВАРОТ ДАХАТЫ

Мы грэблі сена і спявалі на ўвесь луг.

Раптам бачу — ідзе бабка, а за ёю... мама! Як убачыў я маму, дык і кінуўся адразу да яе з крыкам. Ведама, цэлы месяц не бачыў і, прызнацца, крыху сумаваў без яе.

Мама абняла мяне, а потым заківала галавою, пазіраючы на мае босыя, чорныя ад загару ногі. Бабка стаіць як вінаватая.

— Мой ты сынок,— кажа маці, ледзь не плачучы,— я не пазнаю цябе... Ты ж учарнеў тут без мяне і апух, ці што...

І пачала, і пачала бедаваць.

— Ды кінь ты,— суцяшае яе бабка,— ён жа ў цябе зусім здаровы хлопец. За месяц я не чула, каб кашлянуў калі, і не бачыла, каб міскі не апаражніў. Не бачыш хіба, як ён папраўіўся.

Маці тут жа хацела мяне забраць з сенажаці, але я заўпарціўся:

— Скончым работу, тады і пойдзем.

— Якую яшчэ работу? І навошта ты гэтыя граблі ўзяў?

— А сена валкаваць — гэта не работа, скажаш? Мне за яе брыгадзір працадзень запіша.

Тут маці за галаву хапілася:

— Дык ты на работу ходзіш?

— У мяне ўжо дваццаць працадзён, мама,— кажу я.— Я іх бабцы пакіну, а ёй калгас увосень збожжа выдасць.

Гэта, відаць, было для яе так нечакана, што яна нават засмяялася.

— Які ты ў мяне,— кажа,— руплівы стаў і гаспадарлівы! Ну, добра, калі так. Давай памагу табе працадзень для бабкі зарабіць.

— Я цябе, калі хочаш, навучу валкаваць сена,— прапанаваў я маме сваю паслугу.

Яна зноў засмяялася:

— На гэтай сенажаці я валкавала сена яшчэ ў той час, калі была такой, як ты.

Так і не ўдалося мне навучыць маму валкаваць. Мы знайшлі ў брыгадзе лішнія граблі, і мая мама так спрытна пачала грэбці, што мы адразу ззаду паасталіся.

Назаўтра мама таксама пайшла з намі на сенажаць, і брыгадзір у маю кніжку запісаў яе працадзень. І так пайшло дзень за днём.

Мы і не апамяталіся, як мінуў мамін адпачынак. Маме трэба было ехаць назад, і яна рашыла забраць мяне. Мне вельмі хацелася застацца ў калгасе да самых заняткаў. Але — вы ж ведаеце маю маму: яна думае, што без яе я і прастуджуся, і змарнею, і немаведама што са мною станецца.

Прыйшлося мне ў другі раз гэтым летам накіроўвацца ў вымушанае падарожжа, толькі цяпер ужо з калгаса ў горад.

Яшчэ я хачу сказаць пра васількі і Мішку. Калі настаўніца пачала ў мяне пытацца па прыродазнаўству, дык я ёй адказаў і пра тое, чаго нават не было ў падручніку, але што я добра вывучыў у полі, у лесе, на рэчцы і на сенажаці. І яна мне цяпер паставіла вялікую пяцёрку.

А з Мішкам было вось што. Мы з ім нядаўна паспрачаліся, хто дужэйшы. Ён кажа: «Я!» А я кажу: «Я!» Тады, каб вырашыць спрэчку, мы схапіліся з ім накрыжкі, і я... пакаціў яго. Пра гэта ведаюць усе на нашым двары і нават мая мама. Цяпер яна не ставіць мне ў прыклад Мішку і нешта маўчыць аб маім слабым здароўі.

А засушаны васілёк я хаваю як непрыемную памяць аб двойцы і прыемную аб леце ў калгасе.

*1947 г.*

# ГРЫША

Навальніца ўсхадзілася неспадзявана.

Калі Дзіма з Колем збіраліся ў ягады, сонца пякло, як і належыць яму пячы ў гарачы летні дзень, а неба было такім чыстым, як старанна вымытае шкло.

Тое, што крыху прыпарвала, хлопцы не заўважалі, бо лес пачынаўся тут жа, за лагерам. А там — цень і халадок.

А таму што і Дзіма і яго дружака Коля былі ягаднікамі заўзятымі, дык яны не вельмі і спыняліся на ўскрайку. Якія ж тут ягады! Тут жа збіраюць, каму толькі ўздумаецца, нават тыя дзяўчаткі-першакласніцы, якія яшчэ зайцоў баяцца. Не такімі былі Дзіма і Коля. Яны лічылі сябе сталымі, дарослымі хлапцамі, бо толькі што перайшлі ў трэці клас і, апрача таго, мелі пры сабе ўласную зброю: у Дзімы вісеў пры боку, на тонкім раменьчыку, наган сістэмы «пугач», а ў Колі — кінжал. Праўда, кінжал Колеў не вызначаўся асаблівай вастрынёй і бліскучасцю, як і ўсе віды драўлянай зброі, але ўсё ж гэта быў кінжал, а не кій. Бо кій, вядома, які б ён ні быў, называецца кіем, а кінжал, які б ён ні быў,— кінжалам. Гэтая простая ісціна і цешыла Колю, які з усіх родаў войск перавагу аддаваў маракам. Таму ў знак сваёй прыхільнасці да мора і маракоў ён насіў матроскую цяльняшку і паважаў усялякія бесказыркі, хоць бы сабе нават і цюбецейкі. Быў ён хлапец прысадзісты і дужы. Дзіма ж, наадварот, быў шчуплы і шустры і паважаў толькі лётчыкаў. А лётчыку, як вядома, належыць насіць кашулю з кішэнямі і замест вінтоўкі — наган. Так ён і рабіў.

Захапіўшыся чарніцамі, сябры і не заўважылі, як лес раптам густа пацямнеў, а над галовамі моцна зашумелі елкі і сосны.

Коля глянуў уверх:

— Што гэта, Дзімка? Хіба ўжо вечар?

— Не можа быць,— адказаў Дзіма і таксама пачаў углядацца ў пацямнелае неба, заслоненае густымі галінамі дрэў.

Лес зашумеў мацней, захістаўся. Збоку бліснула яркая агністая паласа.

— Дождж будзе,— здагадаўся Дзіма.— Хадзем хутчэй назад.

Апошнія яго словы заглушыў пярун. Ён грымнуў такім страшэнным выбухам, што здавалася, над галовамі рассыпаліся тысячы снарадных асколкаў: трра-ах, ба-бба-аах!.. трра-ах, ба-бба-аах!.. І гэта азначала: «Сцеражыся! А то забіць магу... Я — наймагутнейшы ў свеце электрычны разрад, створаны самім сонцам і ветрам. Маці мая — цяжкая навальнічная хмара. Я жыву на свеце ўсяго толькі адзін момант — той, калі нараджаюся. Але, не зважаючы на гэта, жыццё маё яркае і прыгожае».

Рэха падхапіла гэтую таямнічую гутарку перуна і разнесла навокал, як радыёхвалі разносяць звычайны чалавечы голас.

Як бы там ні было, а слухаць перунову размову было нявесела. Але паколькі нашы героі былі хлопцы бравыя і, да таго ж, узброеныя, яны не пападалі на зямлю непрытомнымі, а толькі спалохана ўскрыкнулі. Дзіма ўскрыкнуў «ой», а Коля — нешта падобнае на «ай-яй»...

Потым яны кінуліся бегчы далей ад бяды, якую прарочыў пярун. Першым бег Дзіма; назіркам за ім — Коля, прытрымліваючы рукой свой ваяўнічы кінжал.

Як з вядра паліўся буйны дождж. Маланкі смалілі цяпер несціхана, рэжучы паветра вострымі вогненнымі стрэламі.

Лес стагнаў і трашчаў. Громы з перунамі вар'яцелі, зліваючыся ў адну суцэльную кананаду.

Колю, нарэшце, зрабілася страшна бегчы аднаму ззаду, тым больш што з-за густых маланак ён штохвіліны траціў з відавоку свайго таварыша; і ён закрычаў не сваім галасам, перасільваючы навальнічны шум:

— Дзіма! Пачакай!

Дзіма спыніўся. І толькі цяпер падумаў: куды ж ён бяжыць? У лагер ці ад лагера? Лес гэты быў яму добра вядомы, але зараз ён стаў нейкім чужым, незнаёмым і непрытульным. Знаёмы яму лес заўсёды вясёлы, гаманлівы, прыветны. У ім гняздзіцца безліч пярнатых насельнікаў, якія ад цямна да цямна ладзяць тут свае канцэрты і спеўкі. У ім бадай на кожнай сасне барабаняць стракатыя даўганосыя дзятлы і скачуць з галінкі на галінку вяртлявыя рыжахвостыя вавёрачкі. Куды ўсе яны падзеліся? Ніводнага жывога голасу навокал...

Хлопцы прабеглі яшчэ крыху разам. Але ніякага прасвету наперадзе не відаць. А пара б ужо яму быць...

Дзіма зноў спыніўся, углядаючыся наперад. Вецер, здавалася, цішэў, але грымоты яшчэ бушавалі над лесам.

І вось у гэты момант яны пачулі недалёка ад сябе жывы голас. Ён быў невыразны, і нам яго амаль немагчыма перадаць словамі ў гэтым апавяданні.

Можна толькі заўважыць, што побач з іншымі гукамі ў гэтым голасе чулася нешта надта падобнае на «кра-а, грр-а-а»...

— Хто гэта? — хапіўся за свой кінжал Коля.

— Цсс...— прасыкаў замест адказу Дзіма, прыклаўшы палец да губ.

Яны стаялі так, сцішыўшыся і чакаючы, ці не паўторыцца яшчэ раз гэты жывы дзіўны гук, у якім нават тугое на слых вуха магло ўлавіць нейкі трывожны заклік.

І гэты гук паўтарыўся. Цяпер ужо ясна было, што выходзіў ён з блізкага маладога зарасніку.

Хлопцы пераглянуліся і, зразумеўшы адзін аднаго без слоў, кінуліся да зарасніку. Асцярожна расхінулі куст і ўскрыкнулі ў адзін голас:

— Птушаня!..

— Бедненькае...— дадаў Дзіма, беручы яго ў рукі.— Мусіць, з гнязда вывалілася.

Птушаня разяўляла рот і жаласна папісквала, паўтараючы той характэрны гук, які ўласцівы ўсяму варанячаму роду. Яно было дужаватае, пакрытае пер'ем матава-чорнага колеру, з доўгай чорнай дзюбкай.

— Варонка,— сказаў Коля.

Дзіма пакруціў галавою:

— Якая табе варонка! Гэта — галчаня. Бачыш, чорненькае якое.

Хлопцы заспрачаліся. Яны забыліся і пра навальніцу, і пра тое, што даўно пара быць ім у лагеры.

Птушаня, аднак, відаць, не прызнавала той шчырай прыхільнасці, якую выявілі да яго людзі. Усё трывожней чуўся яго пісклявы галасок: «кра-гра-а...»

— Гэта цябе так зваць? — засмяяўся Дзіма.— Грыша, значыць.

Але тут ён раптам спахмурнеў, прыглядаючыся да правага крыльца птушаняці.

— Ды яно ж зламана ў яго!

— Што? — не зразумеў Коля.

— Крыльца... Глядзі...

Правае крыльца птушаняці, сапраўды, абвісла і не варушылася.

Тым часам шум над лесам аціх. Стала святлей; пачуліся птушыныя галасы. Гром грымеў глушэй і ўжо дзесьці здалёку, за лесам.

Мокрыя, хлопцы зноў успомнілі пра лагер.

Але як жа пакінуць пакалечанае, бездапаможнае птушаня?

— Давай, Коля, самі зробім яму гняздо,— прапанаваў Дзіма.— Можа, маці знойдзе яго...

Коля згадзіўся.

Гняздо атрымалася нязграбнае, але затое глыбокае, як кош, нават з абручом. Яны пасадзілі туды птушаня і падвесілі гняздо да сухой галінкі тоўстай густой елкі.

— А цяпер крычы, Грыша, мацней, каб маці пачула,— загадаў яму Дзіма.— Чуеш, як твае сваякі разгаманіліся. Кліч іх на дапамогу!

Зараз, пасля навальніцы, лес сапраўды зноў зазвінеў птушынымі галасамі. Асабліва стараліся гракі. Ва ўсіх гнёздах раслі малыя. Яны ўзнімалі такі піск, што хоць вушы затыкай. Бацькі заклапочана мітусіліся ля гнёздаў і таксама крычалі. Мабыць, сварыліся на малых. Бяда з імі! Колькі ні кармі — усё больш просяць.

— Крра-грра!.. Крра-грра!..— енчылі малыя. І гэта азначала на іхняй мове: «Дай, дай, мама, яшчэ аднаго хрушча! Ён жа такі смачны!»

— Карр-карр! — кароткім хрыплым басам адказвалі бацькі. І гэта азначала: «Ды пацярпіце вы, ненаедныя! Дзе нам набрацца харчоў? Мы тут увесь лес ачысцілі. Цяпер трэба ляцець далёка, у сады, аж за піянерскі лагер. А ў нас крыллі старыя баляць. Дайце адпачыць хвілінку!»

Але як ні крычалі гракі і грачаняты, а іх крык перасілілі піянерскія галасы:

— Дзі-ма-а!

— Коля-я!

— Ау-у!

Хлопцы пачулі галасы і, узрадаваныя, закрычалі ў адказ:

— Сюды! Сюды хадзіце!

Коля памкнуўся быў бегчы насустрач.

— Пачакай,— затрымаў яго Дзіма.— Няхай самі прыйдуць. Гняздо Грышава пакажам ім.

У Дзімы была думка, што гэтае гняздо і прыгода з Грышам, апрача ўсяго, могуць стаць апраўданнем іх затрымкі ў лесе.

Так бы яно, можа, і было.

Але калі неўзабаве прыйшлі піянеры з важатай і ўбачылі гняздо з птушанём, дык і забыліся ўшчуць хлапцоў.

— Грачанятка! — з захапленнем сказала важатая.— Маладзенькае яшчэ. Чаму яно ў такім страшным гняздзе?

Тут Дзіма і Коля не замарудзілі расказаць усё, што ведалі аб птушаняці, і нават тое, што назвалі яго Грышам.

Дзеці спачувалі Грышу. Славуты на ўвесь лагер рыбак Лёня жвава адшукаў дзесьці землянога чарвяка. Грачаня само не ўзяло яго. Тады важатая асцярожна разняла дзюбку, і Грыша сяк-так праглынуў спажыву.

— Ён не есць, бо крыло баліць,— аўтарытэтна заявіў Дзіма, які больш за ўсіх быў знаёмы з Грышам.

— Яго лячыць трэба,— дадаў Лёня.

Усе паглядзелі на Лёню падазрона. Жартуе ён, вядома. Лёня ж даводзіў сваё:

— Я чытаў, як адна бабка шпака ў ката адабрала. Кот яму нагу перакусіў. Дык бабка драўляную зрабіла і вылечыла шпака.

— Гэта ў «Дзяцінстве» Горкага напісана,— пацвердзіла важатая.

— Нага — не крыло,— не згадзіліся слухачы.

— А мы яго Веры Андрэеўне занясём — яна вылечыць. Яна ўсіх лечыць,— прапанаваў Коля.

Піянеры зашумелі:

— Вера Андрэеўна — не Айбаліт! Яна толькі людзей лечыць.

І ўсё ж Колева прапанова ўзяла верх, бо нікому не хацелася пакідаць на пагібель птушаня, якое так бязлітасна пакалечыла навальніца.

* * *

Выслухаўшы жаласную гісторыю хворага Грышы, Вера Андрэеўна надзела акуляры і занялася справай.

— Ну, вядома,— сказала яна зусім сур'ёзна, як звычайна,— яго трэба лячыць. І вы добра зрабілі, што прынеслі яго ў маю бальніцу...

Яна выраўняла грачаняці пераламанае крыло, выцерла ёдам рану і туга перавязала бінтам.

— Цяпер нясіце хворага на свежае паветра,— усміхнулася Вера Андрэеўна.— А лепш за ўсё зрабіце яму гняздо там жа, у лесе. Ватай засцяліце, каб мякка было.

І яна падала Дзіму шматок беласнежнай ваты.

— Мы ўжо зрабілі яму гняздо,— пахваліўся Дзіма.

* * *

Тыдняў праз два Вера Андрэеўна зняла бінт.

— Усё ў парадку! — сказала яна.— Хутка паляціць ваш Грыша.

Грачаня за гэтыя дні падрасло і яшчэ больш пачарнела. Хлопцы, вядома, не шкадавалі яму самых лепшых ласункаў. Пачуўшы голас сваіх прыяцеляў, яно весела на ўвесь лес крычала і жвава трапятала крыльцамі, спрабуючы ўзляцець.

Аднойчы хлопцы прынеслі Грышу чарговы багаты абед і шклянку свежай вады.

Але гняздо было пустым.

— Паляцеў...— з жалем сказаў Дзіма.

— Ага,— кіўнуў галавою Коля.

Сябры і радаваліся і сумавалі. Радаваліся, што іх выхаванец ужо стаў дарослым, самастойным гракам, што ён ужо сам здабывае сабе яду, ачышчаючы лясы і сады ад розных шкоднікаў. А сумавалі, бо моцна да яго прывыклі.

Яны доўга і пільна прыглядаліся да шумных мітуслівых гракоў, і ім здавалася, што ў бязладным птушыным крыку яны чуюць і знаёмы голас свайго Грышы.

*1949 г.*

7 Зак. 2344

## Я — ЮНЫ ПІЯНЕР

### I

Адвячоркам, пасля рыбалкі, Сцёпа заглянуў на канюшню. Хацелася праведаць, ці не вярнуўся з горада дзядзька Мікалай. Ён-то ўжо напэўна свежых навін цэлы воз прывёз! Бо дзядзька Мікалай не такі чалавек, каб дзе якую навіну недачуў ці недабачыў. Апрача таго, ездзіў ён у горад не так сабе, а па важнай справе — на злёт лепшых жывёлаводаў. А ў гэтым у Сцёпы з дзядзькам Мікалаем, можна сказаць, агульны інтэрас аж з самай вясны, дакладней кажучы,— з таго дня, калі з'явіўся на свет Каштан.

Праўда, спачатку ён не называўся так. Быў проста жарэбчык, малюсенькі, кволенькі, здаецца, мала большы за добрае ягня. Ляжаў ён каля ясляў на мяккай саламянай подсцілцы і здзіўлена разглядаў навакольны свет.

Здарылася так, што, як нарадзіўся гэты жарэбчык, Сцёпа праходзіў каля фермы. А конюху дзядзьку Мікалаю не было каму ў тую часіну пахваліцца і свежай навіной і жаданым прыбыткам на канюшні. Вось ён і паклікаў Сцёпу. І трэба сказаць — не памыліўся. Бо такога захаплення «новенькім» жарэбчыкам не выявіў бы, бадай, і сам брыгадзір Андрэй Пракопавіч, Сцёпаў бацька. Сцёпа і цешыўся з жарэбчыка, і пяшчотна гладзіў па лысінцы, і называў яго самымі ласкавымі словамі. А гэта дзядзьку Мікалаю, старому будзёнаўцу, надта падабалася. Пашчыпваючы свае залацістыя, з лёгкай сівізною вусы, ён гаварыў замілавана:

— Малеча... А які конь, брат, вырасце! Дай яму толькі на ногі стаць.

Сцёпа з цікавасцю слухаў развагі старога конюха наконт «малечы», а потым запытаўся:

— А як вы яго назавяце?

Дзядзька Мікалай паўглядаўся на жарэбчыка, падумаў і адказаў павольна:

— Гэта яшчэ пакумекаць трэба. Не ўсякая клічка тут, брат, падыходзіць. Вось, памятаю, у таварыша Будзённага быў конь — дык яго Казбекам звалі. Трэба думаць — не адразу ж такую гучную клічку даў яму Сямён Міхайлавіч.

— Правільна,— пацвердзіў Сцёпа, заківаўшы галавой.

Дзядзька Мікалай здзіўлена зачмыхаў:

— Што правільна?

— Ну, тое, што ў Будзённага быў конь Казбек.

— Гм... А ты адкуль ведаеш?

— У кніжцы чытаў...

— Ці бачыш! Пра Казбека ў кніжцы пішацца?

— Але,— ажыўлена пачаў расказваць Сцёпа.— Там усё напісана: які ён быў і як яго аднойчы цяжка паранілі ў галаву, а потым вылечылі, і таварыш Будзённы зноў гарцаваў на ім перад сваімі палкамі...

— Дык гэта ж усё пры мне было!..— перапыніў Сцёпу дзядзька Мікалай.— Бач ты! А я і не ведаў, што нават у кніжцы пра Казбека напісана. Ці не мог бы ты, хлопча, паказаць мне гэтую кніжку?

— Магу,— ахвотна адказаў Сцёпа.— Яна ў мяне ёсць.

— То прынясі, брат. Я хоць слабавата чытаю, але такую кніжку з прыемнасцю пагляджу. Эх, быў конь! Золата! Ды што я кажу: золата — глупства... Такога і за золата не дастаць.

Стары доўга і досыць складна гаварыў пра Казбека і слаўныя былыя паходы, аб якіх Сцёпу далёка не ўсё давозілася яшчэ і ў кніжках чытаць.

Сцёпа, вядома, не замарудзіў прынесці кніжку, чым яшчэ больш узрадаваў дзядзьку Мікалая.

— Вазьміце яе назусім,— шчыра прапанаваў ён, убачыўшы, як дзядзька Мікалай, надзеўшы акуляры, з увагаю і цёплай усмешкай на вуснах разглядае малюнак Казбека і яго славутага гаспадара ў шыракаполай вярблюджай бурцы.

Дзядзька Мікалай з ахвотаю прыняў падарунак. І гэта было пачаткам дружбы.

А жарэбчыку, з якога яны так цешыліся ў першы дзень, не пашанцавала. Быў ён надта слабенькі. Сам нават да матчынага малака не мог дацягнуцца. І ўсё найбольш ляжаў у куточку ля ясляў. Маці ж яго ўсё касавурылася на малога і трывожна ржала.

— Нічога, мусібыць, не выйдзе з яго,— сумна гаварыў стары.— Яму цяпер адмысловы догляд патрэбен. А мне няма калі. Вунь колькі на маіх руках — і старых і маладых... Ды і пасяўная поўным ходам ідзе. Кожны рабочы конь цяпер на першым плане...

— Дык я вам памагаць буду,— напрасіўся Сцёпа, хвалюючыся за лёс жарэбчыка.— Вы толькі кажыце, што рабіць. Я ўсё зраблю што трэба!

Прапанова гэтая была для дзядзькі Мікалая зусім нечаканай. Падумаўшы крыху, ён сказаў спаважна:

— А яно, бадай, і праўда. У такой справе мне без памочніка не абысціся. Але ж табе вучыцца трэба...

— Гэта зусім не пашкодзіць, дзядзька Мікалай,— падхапіў узрадаваны Сцёпа.— Я ж магу і раніцай забягаць сюды і пасля школы. А скора ж мы канчаем.

— Ты які гэта клас канчаеш? — запытаўся стары.

— Трэці.

— А такі ўжо вялікі,— падзівіўся ён.— Маладзец. У бацьку пайшоў. Ну, калі і ў рабоце будзеш такі ўвішны, як бацька, то можна даверыць,— згадзіўся нарэшце дзядзька Мікалай.— Толькі найперш пагавары з настаўніцай — ці дазволіць? Ва ўсякай справе, брат, дысцыпліна патрэбна.

З таго часу Сцёпа і стаў памочнікам у конюха Мікалая Ігнатавіча па догляду за жарэбчыкам, якому ён сам прыдумаў і даў клічку Каштан — па масці.

Каштан спачатку рос дрэнна і сапраўды мала падаваў надзеі. Але шчырыя Сцёпавы клопаты аб ім і старанны догляд не прапалі марна: з часам Каштан акрыяў, набраўся сілы і стаў нават весела падбрыкваць, бегаючы ў полі за маткай. А да канца лета ён зрабіўся такім гладкім і шустрым, што дзядзька Мікалай пашкадаваў нават, чаму не даў тады яму клічку больш гучную. Хто ведае — можа, ён не горшы вырасце за таго будзёнаўскага Казбека, аб якім нават у кніжцы напісана.

## II

Сцёпа застаў Мікалая Ігнатавіча ў канюшні. Папраўляючы паламаныя яслі ў стойле самага гарачага ва ўсёй ферме Ардальёна, стары неяк асабліва весела напяваў сёння сваю любімую песню пра конніцу Будзённага.

— А я, брат, так і ведаў, што ты сюды забяжыш,— радасна сустрэў ён свайго памочніка.— Спачатку думаў пашукаць цябе, а потым вырашыў: калі не прыйдзе сам, значыць, адпала ў хлопца ахвота да коней. Бо ты ж ведаеш, дзе я быў і па якой справе.

Дзядзька Мікалай пакінуў работу і, нічога не кажучы, рухава падаўся ў сваю каморку. Праз хвіліну вярнуўся адтуль, трымаючы ў руках досыць тоўстую кнігу з яркай расфарбаванай вокладкай.

— Вось табе, Сцяпан, у аддзяку за Казбека... ды і за Каштана!

Сцёпа ўзяў кнігу, падзякаваў і з цікавасцю пачаў яе гартаць. Дзядзька Мікалай тым часам, жмурачы вясёлыя вочы, углядаўся на яго збоку — якое ўражанне зробіць на хлопца падарунак? Потым не сцярпеў і запытаўся:

— Ну як?

— Добрая кніга,— пахваліў Сцёпа.— Але ж гэта піянерская...

— Вось жа, вось жа такую я і выбраў,— перапыніў яго стары.— Я ж сам выбіраў. А кніг там у магазіне! Не злічыць. Увесь магазін з адных кніг. Але гэтая мне спадабалася: тут, брат, адных малюнкаў на тыдзень разглядаць хопіць.

Потым дзядзька Мікалай доўга расказваў пра горад, у якім ён даўно не быў, а самае галоўнае — пра нараду, на якой так шмат цікавага і карыснага гаварылася пра жывёлагадоўлю ў калгасах.

— Сабе я таксама дастаў кніжак. І плакатаў прывёз. Хадзем, пакажу,— пахваліўся дзядзька Мікалай.

Ён завёў Сцёпу ў тую ж каморку, з якой вынес яму падарунак, і расклаў перад ім свае пакупкі. Кніжкі былі найбольш дробныя, пра гадоўлю коней, і не ўсе нават з малюнкамі. А вось плакаты дужа зацікавілі Сцёпу. На іх былі намаляваны каляровымі фарбамі коні розных парод і масцей. Знайшоў ён сярод іх і жарэбчыка, вельмі ж падобнага на Каштана,— усё роўна як хто змаляваў яго самога: і ногі такія доўгія з белымі шчыкалаткамі, і грыўка натапыраная, і лысінка на лбе, і вока быстрае, як жывое, і шэрсць аж блішчыць... Адным словам, выліты Каштан! Цікава — ці не падгледзеў які мастак іменна іхняга жарэбчыка?

Сцёпа доўга ўглядаўся на гэтага Каштанавага двайніка і рашыў нават перамаляваць яго ў павялічаным выглядзе ды павесіць у сябе дома на сцяне, побач з іншымі малюнкамі ўласнай работы.

— А дзе ж вы, дзядзька Мікалай, падзенеце гэтыя плакаты? Іх жа, мусіць, развесіць трэба, каб усе маглі бачыць? — спытаўся Сцёпа, калі ўсе пакупкі былі перагледжаны па некалькі разоў.

— Так і зробім,— адказаў конюх.— Частку ў праўленне занясём, частку можна школе даць. Як думаеш?

— Вядома, можна,— згадзіўся Сцёпа.— Хлопцы з ахвотаю будуць разглядаць.

Дзядзька Мікалай усміхнуўся:

— А дзяўчатам што — забаронім?

Сцёпа прамаўчаў, таксама ўсміхаючыся. А дзядзька Мікалай зазначыў:

— Няхай, брат, і дзяўчаты любуюцца! Хто ведае, можа, з іх каторая таксама захоча кавалерыстам стаць або хоць бы — конюхам. Скажу па шчырасці: важная гэта і пачэсная работа. Ну, а рэшту плакатаў — на ферме развесім. Будзем пазіраць на іх і дабівацца, каб і нашы жывыя конікі не горшымі былі.

І, зноў напяваючы пра конніцу, якая «рассыпалася па стэпе», стары ўзяўся ладаваць хамут.

III

Кніжка, якую падараваў дзядзька Мікалай Сцёпу, як выявілася, была сапраўды цікавай. Чаго толькі ў ёй не расказвалася! І ўсё пра піянерскія справы. На адной з першых яе старонак буйнымі чырвонымі літарамі было надрукавана, упрыгожанае малюнкамі, урачыстае абяцанне юнага піянера. Сцёпа ў першы ж дзень на памяць вывучыў яго і гэтым яшчэ больш растрывожыў сваю мару стаць піянерам...

Мара гэтая жыве з ім неразлучна даўно — яшчэ з першага школьнага года. Але збыцца ёй не ўдалося нават і ў трэцім класе: не хапіла гадоў... Праўда, цяпер, на парозе чацвёртага класа, гады ўжо адкрылі яму шлях у піянеры. Нават у запасе мае больш за два месяцы.

Сцёпа не вытрымаў і пабег да важатага звяна Лёні распытацца, калі адбудзецца збор атрада. А заадно — і пахваліцца падарункам дзядзькі Мікалая.

Аднак пазней яму прыйшлося пакаяцца ў сваёй пахвальбе.

Перагартаўшы кнігу, Лёня папрасіў Сцёпу, каб той даў яму на некалькі дзён пачытаць яе. Сцёпа не пярэчыў. А на другі дзень слава аб яго кнізе разнеслася на ўвесь атрад.

Кніга пайшла па руках. А калі Сцёпа хацеў перахапіць яе, дык яму звычайна адказвалі:

— Навошта яна табе? Ты ж не піянер...

Другія прасілі прадаць ім кнігу або памяняць на іншую. Але як жа было прадаць адну кнігу ўсяму атраду або памяняць з усім атрадам?

Потым пачаліся заняткі, і Сцёпа на нейкі час зусім згубіў таго апошняга, да каго па чарзе перайшла яго кніга. Ён ужо нават пагадзіўся быў са знікненнем яе, як раптам аднойчы пасля заняткаў у клас да іх зайшла важатая Маня з кнігай у руках, такой жа, як Сцёпава.

Сцёпа захваляваўся і хацеў быў запытацца ў важатай, ці не яго гэта кніга. Але важатая адразу ж павяла размову аб тым, што савет атрада вырашыў прыняць лепшых вучняў іхняга класа ў піянеры. Яна расказала аб піянерскай арганізацыі і яе задачах, аб парадку прыёму ў піянеры і, урэшце, прадыктавала з той жа кнігі тэкст урачыстага абяцання.

Калі ўсе перапісалі тэкст у свае сшыткі, Маня падышла да Сцёпы. Перадала яму кнігу і сказала:

— Мне гаварылі піянеры, што гэта твая. Праўда?

— Праўда,— адказаў узрадаваны знаходкай Сцёпа.— Мне яе дзядзька Мікалай з горада прывёз.

Даведаўшыся, што гэта — падарунак знатнага калгаснага конюха Мікалая Ігнатавіча, важатая пахваліла і Сцёпу і сам падарунак. Потым сказала між іншым:

— Мікалай Ігнатавіч, вядома, крыху памыліўся: кніга гэтая для важатых прызначана. Ну, ды памылка невялікая. А я вось шкадую, што мне не ўдалося дастаць яе для свайго атрада — усе ўжо распрададзены. Цяпер давядзецца чакаць, пакуль новыя надрукуюць.

— Дык вазьміце маю,— шчыра прапанаваў Сцёпа.

Важатая спачатку адмаўлялася:

— А што скажа дзядзька Мікалай, як даведаецца, што ты яго падарунак другім дорыш?

— Ён і ведаць не будзе...

— О не, так нядобра...

— Дык я пагавару з дзядзькам Мікалаем...

— Ну, тады іншая справа,— згадзілася важатая.

## IV

Кастрычніцкага свята ў гэтым годзе Сцёпа чакаў з нецярплівасцю. Яшчэ за тыдзень да свята яго разам з іншымі вучнямі прынялі ў піянеры. Але гэта быў дзелавы пры-

ём — на зборы атрада. Ні чырвонага гальштука, ні нагруднага значка насіць ён яшчэ не меў права і, самае галоўнае, не меў права аддаваць салют і адказваць на прывітанне: «Заўжды гатоў!»

Права гэтае, як растлумачыла Маня, навічкі набудуць толькі пасля ўрачыстага абяцання перад дружынай у дзень Кастрычніка.

Нарэшце гэты дзень настаў.

Выбегшы раніцай ■ дому, Сцёпа ўбачыў на ўсіх хатах чырвоныя сцягі, а ля школы і праўлення красаваліся святочныя плакаты, лозунгі, партрэты.

На вуліцы ўжо было шмат народу. І, як здалося Сцёпу, сёння ўсе людзі мелі нейкі асабліва радасны выгляд. Нават скупое асенняе сонца свяціла быццам весялей і цяплей.

Потым разам з усімі ён хадзіў да сельсавета, ля якога ■ песнямі, музыкай і танцамі калгаснікі святкавалі ўсенароднае свята.

І толькі пасля абеду пачаўся збор дружыны. На яго прыйшлі і госці — камсамольцы і сакратар партыйнай арганізацыі Сымон Якаўлевіч.

Сцёпа ўпершыню трапіў на такі ўрачысты піянерскі збор, і для яго было тут усё новым і цікавым.

Вось старшая важатая Ніна Пятроўна гучна і выразна падала каманду на пастраенне. Піянеры ў момант занялі свае месцы ў страі. Роўнай шарэнгай сталі перад дружынаю навічкі. Сцёпа, як вышэйшы ростам, заняў першае месца на правым флангу. Кожны з навічкоў трымаў у руках лісток з тэкстам урачыстага абяцання.

Па камандзе старшай важатай сцяганосцы Віця Шавель і Коля Адамовіч вынеслі сцяг дружыны. Потым месца старшай важатай заняў Сымон Якаўлевіч. Акінуўшы шчаслівымі вачыма навічкоў, ён вымавіў расцяжна, робячы націск на кожным слове:

— Я, юны піянер...

У адказ яму, нібы рэха, прагучаў дружны хор дзіцячых галасоў:

— Я, юны піянер...

Зрабіўшы невялікі перапынак, Сымон Якаўлевіч гаварыў далей. Чарговыя словы яго былі падхоплены яшчэ гучней і дружней.

І гэтая пераклічка прадстаўніка старэйшага пакалення бальшавікоў з самым юным пакаленнем гучала, як клятва. Яна хвалявала і радавала, уводзячы самых юных у новы

свет, узнімаючы іх на новую ступень грамадскага жыцця на карысць народу, Радзіме і той справе, аб якой гаварылася ў тэксце ўрачыстага абяцання.

Такое адчуванне важнасці і велічнасці гэтай справы было і ў Сцёпы, які першым паставіў свой подпіс пад урачыстым абяцаннем.

Важатая завязала яму новенькі чырвоны гальштук, а Сымон Якаўлевіч, ласкава ўсміхаючыся, сказаў:

— Мы, Сцяпан Андрэевіч, ужо даўно лічым цябе піянерам. Бо піянер — гэта той, хто заўсёды і ўсюды наперадзе і ў першых радах. А за Каштана, якога ты дапамог нам гадаваць,— шчырае дзякуй! Будзь гатоў!..

— Заўжды гатоў! — адказаў Сцёпа і ў першы раз у сваім жыцці аддаў піянерскі салют.

Дамоў Сцёпа ішоў, не чуючы пад сабою ног. Пад вечар заўзята браўся прымаразак, але Сцёпа і не думаў зашпільвацца: хацелася, каб усе бачылі і цешыліся разам з ім гэтым дарагім яму чырвоным піянерскім гальштукам; хацелася не толькі гаварыць, а і спяваць на поўны голас:

— Я — юны піянер!

*1950 г.*

# МАЛЫ

Петрык быў у сям'і самым меншым, і, можа, таму ўсе звалі яго: малы. Нават старэйшы ўсяго на якія два гады брат Сцёпа і той заўсёды лічыў сябе дарослым, а Петрыка малым... Праўда, ростам Петрык не вызначаўся, але затое быў ён хлопчык дзябёлы і жвавы.

З часам мянушка гэтая перакінулася і за межы сям'і, і суседзі часта забывалі яго сапраўднае імя. Толькі яны называлі яго не проста «малы», бо малыя былі ў іх і свае, а — «Сідараў малы»...

Нельга сказаць, каб Петрыку падабалася яго новае імя. Бо, як і кожнаму малому, яму, вядома, хацелася быць вялікім.

Мінаў год за годам. Петрык падрос і ўжо хадзіў у другі клас, а мянушка гэтая па-ранейшаму не адставала ад яго. І хто ведае, колькі б яшчэ гадоў быў ён «малым», каб не адзін выпадак.

Аднойчы позняй восенню, пасля заняткаў, у іхняй хаце сабралася піянерскае звяно пяцікласнікаў, якім кіраваў Сцёпа.

Петрык быў дома і такім чынам міжвольна апынуўся ўдзельнікам гэтага збору. Праўда, ні сам звеннявы, ні яго сябры не звярнулі на Петрыка асаблівай увагі, лічачы, што ён — малы і нічога яшчэ ў іхніх піянерскіх справах не разумее. А так хлапец ён не дураслівы і, вядома, перашкаджаць ім не будзе.

Але затое сам Петрык выявіў вельмі вялікую зацікаўленасць да таго, аб чым гаварылася на зборы.

А гаварыліся на ім важныя рэчы.

Спачатку Сцёпа прачытаў надрукаваны ў газеце артыкул пра азеляненне засушлівых раёнаў і абласцей. І тут Петрык упершыню ў сваім жыцці даведаўся, якую каштоўнасць маюць жалуды. Тыя жалуды, што бескарысна гніюць па лясах, а ядуць іх хіба адны толькі дзікія свінні... А яны ж, гэтыя звычайныя свіныя жалуды, аказваецца, вельмі патрэбны там, дзе няма лясоў і дзе бязлітасныя вятры-сухавеі высушваюць і засыпаюць пяскамі цэлыя раёны,— на Волзе і на Украіне. Цяпер там скрозь садзяць

лясы. Так рашыў урад. Ад лясоў, як даведаўся Петрык, і клімат робіцца мякчэйшым, і знікаюць засухі, што губяць пасевы. А каб насадзіць там шмат лясоў, патрэбна мець і шмат рознага ляснога насення. Але самым лепшым насеннем лічацца жалуды: з іх вырастуць густыя дубовыя гаі, здольныя ўтрымаць на сваім шляху любыя вятры.

Уразіла Петрыка і тое, што з аднаго кілаграма здаровых жалудоў можа вырасці да трохсот дубоў. А калі сабраць сто кілаграмаў, дык імі можна засадзіць аж цэлы гектар дубовага лесу!..

Вось аб чым даведаўся ён на гэтым зборы.

Потым піянеры пачалі раіцца між сабою, калі і куды накіравацца па жалуды. Лясоў у іх нямала: яны сінеюць амаль з усіх бакоў... Але ўсё гэта ў пераважнасці лясы бàравыя, і дубы там рэдка трапляюцца.

— Найбольш дубоў, мусіць, у Зарачанскім лесе,— з выглядам знаўцы гэтай справы сказаў Сцёпа.— Там ніжэй. Там трапляецца нават граб.

— І я так думаю,— падтрымаў яго белакуры, з віхрастым чубам Юрка.— Я нават прыпамінаю, дзе іх бачыў.

— Дык давайце туды і пойдзем! — сказаў піянер Валодзя.— Заўтра якраз выхадны.

— Добра,— згадзіўся звеннявы.— Толькі не пазніцца. Каб у дзевяць гадзін усе былі на месцы. Збор у нас.

Калі хлопцы разышліся, Петрык прыстаў да брата:

— І я з вамі пайду...

— Куды табе! — адмахнуўся Сцёпа.— Прыстанеш — тады што? На плячах цябе насіць?

— Не прыстану! — пакрыўдзіўся Петрык.— Чаго гэта мне приставаць. Я ж туды хадзіў улетку з мамай і не прыставаў...

— То гэта было ўлетку. А цяпер восень, холадна.

Сцёпа лічыў сябе чалавекам сур'ёзным і ніякіх свавольстваў не паважаў.

Гэта яшчэ больш пакрыўдзіла малога. Але Петрык па натуры быў хлопчык настойлівы, і не так лёгка было пераканаць яго ў тым, што ён сам лічыў няправільным. І ён цвёрда вырашыў дамагчыся свайго.

Назаўтра Петрык устаў раненька.

Маці ўжо тупала на кухні каля печы. Убачыўшы Петрыка, яна сказала:

— Сёння ж выхадны. Паспі яшчэ, пакуль бліны напякуцца.

Аднак ад сну ён чамусьці вельмі ж лёгка адмовіўся і з нецярплівасцю чакаў першага бліна.

— Дзе ж гэта ты так прагаладаўся? — засмяялася маці, убачыўшы, як малы на поўны рот коўтае гарачы блін.

Петрык прамаўчаў.

Услед за ім устаў і Сцёпа і таксама ўхапіўся за снеданне.

Неўзабаве на двары сабралася ўсё звяно.

Сцёпа апрануўся, узяў у рукі кошык і, сказаўшы маці, куды ідзе, падаўся за дзверы.

Петрык таксама сабраўся.

— І ты з імі? — запыніла яго маці.

— Ага,— упэўнена адказаў Петрык.— Мы разам пойдзем...

— Ну, глядзіце ж, толькі на абед не пазніцеся.

— Добра! — весела выгукнуў малы і кінуўся бягом за дзверы.

Сцёпа заўважыў яго ўжо на агародах.

— Ты куды гэта? — патрос ён кошыкам.

— Куды і ты,— смела адказаў Петрык і нават надзьмуў шчокі, паказваючы, што ён не такі ўжо блазнота, як думае брат.

Тады Сцёпа ўзлаваўся не на жарты.

— Ты нам перашкаджаць толькі будзеш. У нас важная справа, а не прагулка.

Петрык ледзь не заплакаў ад крыўды. Важная справа! А хіба ж ён так сабе хоча ісці? Ён жа таксама ведае ўсё пра гэтую важную справу.

Нехаця ён завярнуўся назад. Потым, патупаўшы па двары, вырашыў сам сабе: а што, калі схітрыць і пайсці за імі назіркам?.. А там — не праганяць... Балазе, за рэчкай адразу ж пачынаюцца кусты.

І калі звяно, мінуўшы кладкі, схавалася за першымі кустамі, Петрык хутка рушыў наўздагон.

Калі Петрык прыдумаў свой хітры план, у яго не ўзнікала і думкі, што ён можа не дагнаць хлапцоў. Не паспеюць яны дайсці і да першых дрэў, як ён апынецца ў іх за плячыма. «Пачакайце ж, я вас напалохаю там, калі вы такія»,— думаў ён, пасміхаючыся сам сабе.

Але вось канчаюцца кусты, і ўжо насоўваецца цёмная сцяна лесу, а хлапцоў нідзе і следу... Ці то яны таксама спяшаліся і паспелі ўжо дайсці да месца, ці то павярнулі ўбок ды падаліся па другой якой сцежцы... Як бы там ні

было, а Петрык апынуўся адзін на ўскрайку пахмурнага асенняга лесу.

Праўда, пакуль што ён не траціў надзеі знайсці звяно. Ён пачаў углядацца навокал і прыслухоўвацца. Так прастаяў ён даўгавата і — дарэмна. Нідзе нікога і не відаць, і не чуваць, апрача варон, якія сяды-тады пралятaлі над галавою, трымаючы кірунак у бок вёскі.

Нарэшце Петрык паклікаў:

— Хло-о-пцы, гэй!

Не паспеў ён скончыць, як з ляснога гушчару нехта зычна адгукнуўся.

Петрык павесялеў. Гукнуў яшчэ раз. І зноў той жа голас і з таго ж месца адказаў:

— О-ооцы-і... э-эй!..

Цяпер Петрык здагадаўся, што гэта былі яго ўласныя словы, адбітыя лясным рэхам. Такое рэха ён не раз чуў тут улетку.

Разгадаўшы, хто жартуе [redacted] яго, Петрык занепакоіўся: ці не вярнуцца лепш назад? І тут жа адкінуў гэтую думку. Выходзіць, што ён і сапраўды малы, калі адзін баіцца ў лес заглянуць. Тады Петрык пачаў падбадзёрваць сябе: «Ну і няхай сабе ідуць. Знайду дарогу і без іх...»

Прыняўшы ўрэшце такое цвёрдае рашэнне, ён засвістаў для смеласці і рушыў на знаёмую лясную сцежку.

У лесе было ціха. Чуваць было толькі, як глуха шамацела пад нагамі сухое лісце. Дзе-нідзе яно яшчэ вісела на голлях — то жоўта-залацістае, як на тым вунь старым клёне, то брудна-зялёнае, абвялае, як на алешынах.

Усяго гэтага лесу Петрык не ведаў. І таму рашыў далёка не адыходзіцца. Пачаў успамінаць, ці бачыў дзе тут зблізку дубы ўлетку, але ўспомніць не мог. Тады лес быў шмат гусцейшы: вяршыні яго зліваліся ў адзін суцэльны шацёр, з-за якога нават сонца не відаць было. Цяпер жа ўсё дзіўна змянілася. Высокія травы і зараснікі, праз якія ён ледзь прабіраўся ўлетку за маткай, палеглі і пацямнелі. Кусты агаліліся і зрабіліся непрыгожымі — адны дубцы тарчаць. Толькі сосны і елкі цешаць вока сваёй ранейшай красою: такія ж яны кучаравістыя і такія ж зялёныя.

Углядаючыся на адну гэткую прыгажуню елку, Петрык раптам заўважыў сярод галін вусатую мордачку нейкага звярка з утаропленымі на яго спалоханымі вочкамі.

Самога звярка не відаць было з-за ствала.

Зацікаўлены Петрык спыніўся і зычна свіснуў. У тую ж хвіліну мордачка знікла, а на яе месцы мільгануў пушысты хвост.

— А, рыжуха! — узрадаваўся малы, пазнаўшы звярка. І неяк адразу стала весялей: значыць, ён тут не адзін!

Петрык падышоў бліжэй да елкі. Але вавёркі на ёй ужо не было — ні на ствале, ні ў галлі. Куды ж яна падзелася? Ён азірнуўся: ці не пераскочыла яна на суседняе дрэва? І тут недалёка перад сабой убачыў ён самы сапраўдны дуб — каранасты, разгалісты, з рэдкім пажоўклым лісцем на магутнай кроне...

Петрык узрадаваўся дубу, як жаданаму сябру. У момант падскочыў да яго, абабег вакол і аж запляскаў рукамі, паставіўшы на зямлю кошык: жалудоў пад дубам было як усыпана! І ўсе такія ладныя, поўныя, спелыя... Паджарыстая шкарлупка на іх аж блішчала.

Цяпер ён ужо і не хацеў бы сустрэцца са Сцёпам і яго звяном.

Петрык так захапіўся работай, што і не думаў аб сваім адзіноцтве. Галоўнае — ніхто не перашкаджае. Ён тут гаспадар над усім гэтым багаццем. Хіба што адна толькі вавёрка, не разумеючы, у чым справа, лыпае здзіўленымі вочкамі з дупла. Яна нядаўна асачыла гэты дуб. Знайшла старое дзятлава гняздо на елцы, куды і сабралася перанесці жалуды для зімовых запасаў. А цяпер вось давядзецца скакаць далей, калі гэты маленькі камлюкаваты чалавечак не сыдзе дзе-небудзь у другое месца.

Але мінаў час, а маленькі чалавечак і не думаў сыходзіць. Наадварот, ён нават расшпіліў сваю ватовую куртачку і ссунуў на самую патыліцу шапку, каб не спаўзала на вочы. Відаць было, што рабіў ён сваю работу з нейкім асаблівым захапленнем, чаму пазайздросціла нават сама шустрая вавёрка.

Спачатку Петрык лічыў жалуды. Цікава было, колькі ўдасца сабраць іх, бо цяпер яны былі для яго не звычайнымі жалудамі: у кожным з іх ён бачыў жывое дрэва, такое, як вось гэты дуб-асілак. Выстраіўшыся ў шарэнгу (Петрык уяўляў, што пасадзяць іх абавязкова так, у адзін рад), яны заслоняць сабой ад злых вятроў не адзін гектар пасеваў.

Праз нейкі час ён збіўся з ліку і пачаў з трывогай паглядаць на кошык: ці ўмесціцца ў ім увесь ураджай дубаасілка?

Асенні дзень кароткі. Асабліва калі праходзіць гэты дзень за такой цікавай работай. З паўдня ў лесе пачало цямнець. І жалуды раптам пазнікалі: ці то ўжо ўсе былі пазбіраны, ці пахаваліся ў змроку пад лісцем...

Але каля Петрыка стаяў паўнюткі пузаты кошык, ды і ўсе кішэні адвісалі ўніз... Хаця б данесці!

Толькі пасля гэтага, яшчэ весялей насвістваючы, ён падаўся знаёмай сцежкай дахаты.

Траха што не следам за ім вярнуўся і Сцёпа са сваім звяном.

І як жа былі здзіўлены піянеры, калі даведаліся пра самастойны Петрыкаў паход у Зарачанскі лес! А яшчэ больш здзівіліся, як паглядзелі на яго кошык.

— Вось табе і малы...— вінаватым голасам сказаў брат.— Мы ганяліся па ўсім лесе, а ён пад адным дубам гэтулькі набраў.

— І не баяўся адзін?..— запытаў Юрка.

Петрык адказаў са сталай разважлівасцю:

— А чаго баяцца? Гэта толькі малыя баяцца.

Назаўтра хлопцы з ахвотай прынялі Петрыка ў сваю брыгаду. Цяпер ён — не малы!

*1950 г.*

# ПАД НОВЫ ГОД

(Незвычайная прыгода з Віцем Сінічкіным)

Віця Сінічкін вярнуўся з ёлкі, не дачакаўшыся Новага года.

«Не надта весела там...» — стараўся пераканаць ён сябе, каб апраўдаць прычыну таго, чаму ён вярнуўся дахаты.

Яно і праўда! Усіх яго сяброў пахвалілі, выдатнікам паднеслі самыя лепшыя навагоднія падарункі, а Віцю нават і не ўспомнілі. Быццам яго і на свеце няма. І ўсё праз гэтыя няшчасныя тройкі...

Вядома, вясёлага ва ўсім гэтым мала. І з гэтым, бадай, трэба згадзіцца.

Бацька і маці пайшлі ў госці, а Віця застаўся дома.

Пакруціўшыся нейкі час па кватэры, ён не знайшоў сабе цікавых заняткаў і залез пад цёплую коўдру. Гэта было самае лепшае, што можна прыдумаць у такім незайздросным становішчы.

...Неўзабаве пачуўся стук у дзверы. Уставаць не хацелася, і Віця толькі павярнуўся на другі бок ды захроп яшчэ саладзей. Але стук паўтарыўся зноў — на гэты раз ужо моцны і настойлівы.

— Хто там? — нехаця запытаўся Віця.

— Адчыні! — адказаў жаночы голас.

«Мусіць, маці вярнулася,— падумаў ён.— Трэба ўставаць».

Калі Віця адчыніў дзверы, перад ім раптам замест маці апынуліся тры незнаёмыя жанчыны: адна старая, бабуля на выгляд, другая сярэдніх гадоў, круглая, як школьны глобус, і трэцяя — маладая, высокая... І хоць адзеты яны былі па-рознаму і гады мелі не роўныя, аднак з твару выглядалі, як родныя сёстры.

Віця крыху збянтэжыўся.

— Хто вы такія і што вам трэба? — запытаўся ён нясмела.

— А хіба ж ты нас не пазнаеш? — тонкім трымцячым галаском прашапялявіла бабуля ў доўгай цёмнай сукенцы, густа ўсыпанай узорамі з ромбаў, кубаў, трапецый і кружочкаў...

— Не... — паківаў віхрастым чубам Віця.— Не пазнаю... Вы, напэўна, да мамы прыйшлі? Дык яе няма дома — яна з татам у гасцях...

— Шкада, што ты не пазнаеш нас! — на поўныя грудзі ўздыхнула жанчына, падобная на глобус. Сукенка яе, здавалася, аж гарэла незвычайна яркімі колерамі — зялёным, сінім, чырвоным...

— Вельмі шкада! — звонкім, але прыемным голасам прагаварыла высокая маладая жанчына ў блакітнай шаўковай сукенцы, з ручкай-самапіскай у бакавой кішэньцы. Пад пахай яна трымала нейкую доўгую кнігу, падобную на класны журнал.— А мы цябе добра ведаем. Вельмі добра.

Віця пачырванеў ад няёмкасці і далікатна прапанаваў:

— Дык, калі ласка, праходзьце далей...

Жанчыны спаважна ўвайшлі ў пакой.

Віця замітусіўся, сабраў крэслы і запрасіў гасцей сесці. Сам ён таксама сеў насупраць, крадком разглядаючы жанчын.

«Не, дзіўныя нейкія, незнаёмыя!» — парашыў ён.

— Цябе зваць Віця Сінічкін? — раптам спыталася самая старэйшая і строга зірнула на яго сваімі круглымі вачыма, падобнымі на нулі.

— Ага,— матнуў галавою здзіўлены Віця.

— Ты вучышся ў пятым «Б»?

Віця зноў матнуў галавою.

— І ты зарабіў за першае паўгоддзе па майму прадмету двойку? — усё гэтак жа строга дапытвалася яна.

— Не,— адказаў Віця.— У мяне двойкі толькі па арыфметыцы і геаграфіі. Але ж вы не выкладаеце ніводнага з гэтых прадметаў...

— Я не магу выкладаць,—сярдзіта перапыніла яго старая,— бо я сама і ёсць прадмет!

Пры гэтым яна падняла ўгору свой сухі ўказальны палец, падобны на адзінку, і дадала:

— Мяне зваць — Матэматыка!

Віця ўвагнуў плечы і скурчыўся: ён толькі цяпер пазнаў, што перад ім была самая сапраўдная Матэматыка — строгая, дакладная, патрабавальная.

— Выбачайце,— замармытаў ён не сваім голасам.— Я не пазнаў вас...

— Не пазнаў! Бач ты яго! — пакрыўджана пастукала палкай аб падлогу старая.— Каб ты лепш ведаў мяне, дык нябось адразу б пазнаў.

— Ну, цяпер нам вядома, чаму ён і нас не пазнаў! — траха не ў адзін голас шпарка загаманілі дзве другія жанчыны.

— Тады будзем знаёмы! — працягнула яму руку тая з іх, што была падобнай на глобус.— Я — Геаграфія!

— А я — Гісторыя! — адрэкамендавала сябе яе маладая сяброўка.— Праўда, па майму прадмету ты маеш тройку. Але хіба ж гэта адзнака! Я моцна пакрыўджана.

«Вось дык сапраўдная гісторыя»,— падумаў збянтэжаны Віця і шумна заёрзаў на крэсле. А потым, каб задобрыць хоць чым-небудзь сярдзітых госцяў, прапанаваў:

— Можа, вам чаю нагрэць? Вы ж, напэўна, з вялікай дарогі...

— Дзякую,— адказала Матэматыка.— У госці да цябе мы прыйдзем калі-небудзь іншым разам. У прыватнасці, мне страшэнна непрыемна, што ты зусім не паважаеш мяне, старую...

— Ды і нас таксама не паважаеш! — падхапілі дзве другія жанчыны — Гісторыя і Геаграфія.— Гэта вельмі і вельмі непрыемная рэч.

— Я, напрыклад,— працягвала бабуля,— дачулася, што ты марыш стаць лётчыкам. Скажу табе горкую аксіёму: без мяне не быць табе лётчыкам!

— Чаму? — спалохаўся Віця.

— А вельмі проста: уся лётная справа — гэта чыстая матэматыка. Гэта ўжо як двойчы два — чатыры. Вер маім сівым валасам,— і яна прыўзняла капялюш, які нагадваў конус правільнай геаметрычнай формы.

— А без мяне,— дадала Геаграфія,— ты і кроку не ступіш. А табе ж давядзецца лятаць за тысячы кіламетраў — у іншыя шыроты і даўготы, у новыя гарады, якія пабудуюць за той час, пакуль ты вырасцеш і станеш лётчыкам. Не ведаючы мяне, ты заблудзішся на першым жа кіламетры ад свайго горада.

— Тое ж самае скажу і я,— перапыніла яе Гісторыя.— Без мяне ты не станеш лётчыкам ужо хоць бы таму, што не будзеш ведаць гісторыі лётнай справы. А такіх лётчыкаў, скажу табе па шчырасці, я не сустракала яшчэ ва ўсёй нашай краіне. І я не хацела б запісаць на свае старонкі такога непрыемнага, больш таго, я сказала б нават — абураючага гістарычнага факта.

Віця круціўся на крэсле, як уюн на гарачай патэльні.

Ад сораму ён не ведаў, дзе падзець вочы. На лбе выступіў буйны пот.

«Хоць бы ўцячы як-небудзь ад іх»,— падумаў ён. Але гэта было нялёгка: жанчыны ўсё больш і больш дапякалі яго сваімі пытаннямі і размовамі.

Нарэшце Віця парашыў схітрыць.

— Я на хвілінку,— сказаў ён і выйшаў з пакоя.

Схапіўшы на вешалцы шапку, ён рынуўся да дзвярэй.

Але толькі адчыніў іх, як на парозе перад ім з'явіўся чырванашчокі хлапец у абсыпаным снегам пушыстым футры і яркім піянерскім гальштуку.

— Чакай,— спыніў яго хлапец.— Ты куды?

— Ды я... ды... — адводзячы вочы ўбок, ледзь не заенчыў Віця.

— Чакай,— зноў паўтарыў хлапец.— Ты — Віця Сінічкін?

— Я... я... — прастагнаў Віця, спрабуючы праслізнуць у дзверы.

— Ну дык будзем знаёмы: я — Новы год!

— О-о! — раптам павесялеў Віця, глянуўшы на госця.— Вельмі рад! У цябе такі ж гальштук, як і ў мяне.

— Але. Давай будзем дружыць.

І Новы год працягнуў яму руку на дружбу.

— Давай! — ахвотна згадзіўся Віця, моцна паціскаючы руку свайму новаму сябру.— Я, брат, таксама геройскі, як і ты. І храбры. Ты толькі не слухай вунь тых жанчын, што сядзяць у пакоі. Яны могуць нагаварыць пра мяне шмат чаго благога. Не слухай, брат...

— А я і без іх усё ведаю,— хітра ўсміхнуўся Новы год.

— Адкуль? — ледзь не ўпаў Віця ад такой неспадзяванкі.

— Ды мне, брат, пра цябе ўсё Стары год расказаў. Але я такі чалавек — хачу ўсё сам убачыць і праверыць.

— І добра робіш! — аж закрычаў Віця ад радасці.— Ты хутка ўбачыш, што ў мяне няма ніводнай двойкі...

Тут Віця прахапіўся ад уласнага крыку і адразу ж пачуў, як нехта моцна забарабаніў у дзверы.

— Зараз, зараз! — адказаў ён, праціраючы вочы.

Праз хвіліну ў пакой увайшлі бацька і маці.

— З Новым годам! — павіншавалі яны Віцю.— З новым шчасцем!

*1950 г.*

# БАЛОТЦА

## 1. КАЦЁЛКА

Як толькі зашумелі пад сонцам першыя вясновыя ручайкі, мы з Валодзем пачалі пільна прыглядацца на нашу вуліцу. Прыглядаліся на яе і зранку, калі ішлі ў школу, і адвячоркам, калі варочаліся дахаты.

Валодзя звычайна корпаў нагамі вільготны пясок і гаварыў з жалем:

— Сырая яшчэ, брат. І гразі поўна...

— Але,— з не меншым жалем згаджаўся і я.

Чаму ж гэтак цікавіла і турбавала нас вуліца?

Справа ў тым, што мы з Валодзем любім кацёлку. А хто ведае, што такое «кацёлка», дык напэўна згодзіцца з намі, што качаць яе па гразі ніяк нельга. Для гэтага трэба, каб вуліца была сухой і нават добра ўтрамбаванай. Тады любая кацёлка проста аж гудзе па ёй!

Мы ўжо даўно прызапасілі ёмкія кляновыя дручкі, нарэзалі гладкіх дубовых кацёлак і падрыхтаваліся сустрэць вясновы кацёлачны сезон у поўным, як кажуць, узбраенні.

А тым часам вясна не стаяла на месцы. З кожным днём усё гарачэй грэла сонца, зганяючы апошнія пачарнелыя снягі з зацененых закуткаў, і з кожным днём весялей спявалі пеўні, узбіраючыся на платы, а вераб'і наладжвалі цэлыя войны з-за старых гнёздаў і ўтульных мясцін пад стрэхамі. Дзе-нідзе ўжо выскачыла першая зялёная траўка.

І вось нарэшце настаў час, калі мы выйшлі на вуліцу з кацёлкай.

Гэта быў прыгожы і вясёлы, сапраўдны вясновы дзень. Вуліцы нашай цяпер не пазнаць: яна і высахла, і ўтрамбавалася, як ток, пешаходамі і калёсамі. Паабапал яе ўжо зелянелі сады і палісаднікі.

Ці трэба казаць, у якім мы былі настроі!

Шустры і гарачы Валодзя падскокваў, як малады баранчык, першы раз выпушчаны на пашу, і спяваў вясёлую песеньку пра вясну па матыў марша:

Вясна сушыць развесіла
Сваё мыццё.
Мы дружна ўсе і весела
Ідзём,
ідзём,
ідзём!

Пры гэтым ён надзімаў свае шчокі і размахваў рукамі, важна дырыжыруючы сам сабе. Я таксама падпяваў яму. Але ў мяне, прызнаюся, не выходзіла гэтак удала, як у яго, бо Валодзя наогул — вядомы ва ўсім нашым класе мастак на розныя выдумкі і штукарствы. Днямі ён пайшоў з хлопцамі ў заклад, што пераскочыць школьны плот. Што яму прыйшло ў галаву — хто яго ведае, бо плот у нас не такі ўжо і нізкі, і я ніколі б не дадумаўся да такой рызыкі. І пераскочыў-такі! Ды не зусім: зачапіўся за шчыкеціну калашыной і распароў яе.

Хлопцы ў рогат, а ён, небарака, вымушаны быў кінуць урокі ды бегчы дамоў у такім незайздросным становішчы... Вядома, што маці яго таксама па галаве за гэта не пагладзіла.

Мы разышліся на крокаў сто, правялі дручкамі рыскі-граніцы. Кацёлка была ў мяне. Я паставіў яе рубам, напляваў на рукі, узяў дручок і смальнуў па ёй, з прыемнасцю гакнуўшы на поўныя грудзі:

— Лаві!

Кацёлка спачатку падскокнула ўгору, напужаўшы рыжага пеўня, які з дзікім крыкам каменем зваліўся з плота, потым апусцілася на дол і з гудам роўна пайшла проста на Валодзю. На яго аж смешна было глядзець у гэты час: ён увесь натапырыўся, як ястраб, ссунуўшы на патыліцу шапку і цікуючы за ходам кацёлкі.

І ўсё ж прапусціў...

Я ўзрадаваўся, а Валодзя пачаў вінавата апраўдвацца:

— Пачакай, дай злаўчыцца. Даўно не гуляў. Тады я цябе, Сцяпан Сцяпанавіч, у казіны рог заганю. Тады ты ў мяне набегаешся за ёю, як цюцік.

І праўда, хутка Валодзя так налаўчыўся, што мы і не агледзеліся, як здарылася бяда: ад аднаго з яго лоўкіх удараў кацёлка трапіла ў самую хату нашага суседа Апанаса, вядома, ушчэнт разбіўшы пры гэтым шыбу... Мы сарваныліся ўцякаць, але напярэймы нам выскачыў сам сусед з усёй сваёй немаленькай сям'ёю.

І такі падняўся тут крык, што мы не ведалі, куды падзецца. Добра яшчэ, што дзядзька Апанас не надаваў

нам грымакоў. Можа б, яно так і было, ды, балазе, на крык выйшаў з хаты мой бацька. Ён сказаў суседу, што наб'е мяне сам, а шыбу яму ўставіць. Вядома, пра тое, што шыбу выбіў не я, а Валодзя, давялося змаўчаць: ніякага ні апраўдання, ні палёгкі гэта мне не давала...

Аднак дзядзька Апанас доўга яшчэ не мог супакоіцца. І чым больш ён крычаў, тым больш збіралася сюды народу. Выявілася, што праз гэтую кацёлку дзядзька Апанас і ўся яго шматлікая сям'я, апрача ўсяго іншага, засталіся без абеду. Бо, як на ліха, якраз у гэты самы час цётка Наста вымала з печы гаршчок капусты і з перапалоху разбіла яго... Значыцца, давядзецца нам цяпер адкупляць і той гаршчок. А ён жа, як даводзіла цётка Наста, надта ўдалым быў: цэлы год варыў і не пакалоўся нават. Дзе ж нам цяпер знайсці такі ўдалы гаршчок?

Адным словам, вясёлага ва ўсёй гэтай прыгодзе было мала.

А тут яшчэ, убачыўшы такі незвычайны сход сярод вуліцы, з праўлення выйшаў наш калгасны старшыня, усімі паважаны дзядзька Адам Язэпавіч.

— Што тут такое? — сур'ёзна спытаў ён, прабіраючыся ў самую гушчу гэтага суда над намі.— Што за шум у вас?

Калі яму расказаў наш раззлаваны сусед, што тут за шум, старшыня дабрадушна ўсміхнуўся ў свае густыя пасівелыя вусы і патрос на нас пальцам:

— Нашкодзілі, жэўжыкі!..

Мы маўчалі, апусціўшы галовы. Вядома, нашкодзілі. І як толькі гэта здарылася? Мы ж і летась тут качалі кацёлку, а такой бяды не мелі.

— А чаму б вам, кацёльшчыкі, не выбраць другога, больш зручнага месца? — раптам запытаўся ў нас Адам Язэпавіч, хітра жмурачы з-пад акуляраў свае вясёлыя вочы.

Бачачы, што старшыня нам спачувае, мы таксама павесялелі і набраліся смеласці адказаць яму пытаннем:

— Якога, дзядзька Адам, другога?

— Ну, такога, дзе няма вокнаў,— тым жа спачувальным тонам адказаў старшыня.— Вунь за кузняй, каля балотца, цэлых паўгектара пустуе...

Мы палічылі гэта за жарт. За кузняй сапраўды дзірванела пустэча. Але ж там не тое што кацёлку — бервяна не пакоціш... Яма на яме і адно каменне з жарствою.

Там нават трава людская не расце. Адзін сівец з быльняком толькі раскашуюцца ўлетку.

Сумныя пайшлі мы дахаты. Што ж, давядзецца развітацца з кацёлкай: цяпер мы і самі не адважымся паказацца з ёю на вуліцы...

## 2. НА ПУСТЭЧЫ

Пра пустэчу за кузняй, аб якой жартам сказаў Адам Язэпавіч, мы ўслед жа і забыліся.

Успомнілі пра яе толькі праз некалькі дзён, калі пайшлі з Валодзем у балотца набраць жабінай ікры для кутка жывой прыроды: такое заданне дала нам, юннатам, настаўніца батанікі і заалогіі Ніна Трахімаўна.

Балотца наша — нешта сярэдняе паміж балотам і сажалкай: вясною яно ператвараецца ў сапраўдную сажалку, а ў летнюю спёку — у сапраўднае камарынае балота, на якім толькі дзе-нідзе застаюцца азёрцы, куды збіраюцца на жыхарства ўсе навакольныя жабы. Але не толькі ад спёкі ператвараецца наша балотца ў бруднае і гразкае балота — яно мае яшчэ і свой натуральны сцёк па вузкім ручайку, што бяжыць адсюль на захад.

Мы прыйшлі на балотца якраз у тую шчаслівую пару, калі яно было ладнай, да краёў запоўненай вясновымі водамі, сажалкай. Жабы ўжо ажылі і спраўлялі тут свае вясёлыя канцэрты. Гэтыя канцэрты чуваць цяпер на ўвесь калгас, асабліва ў ціхія вечары. Ад іх проста спакою няма. Хоць вушы затыкай.

У мелкіх затоках мы хутка набралі поўную бляшанку жабінай ікры, або, як у нас кажуць, жабурыння, разам з травой і ілам. У школе мы будзем назіраць, як з гэтага жабурыння вырастуць жывыя апалонікі.

І вось, калі мы варочаліся назад цераз пустэчу, Валодзя раптам спыніўся і пачаў угледацца навокал.

— Што ты згубіў тут? — кажу я яму.

— Нічога,— заклапочана буркнуў Валодзя і рушыў за мной.

Але неўзабаве зноў спыніўся і зноў пачаў пільна разглядаць пустэчу.

— А ведаеш што,— загаварыў ён, павярнуўшыся да мяне: — Тут жа сапраўды нядрэннае месца для кацёлкі...

Я засмяяўся.

— Што за смех! — папракнуў мяне Валодзя.— Глядзі: на гэтым узгорку можна зрабіць гладкую дарогу. Вядома, калі папрацаваць з рыдлёўкамі і пранікамі...

І Валодзя адным духам выклаў мне ўвесь свой праект пабудовы кацёлачнай трасы.

Разабраўшыся як след, я згадзіўся з ім: сапраўды гэта можна зрабіць! Праект Валодзеў мне спадабаўся і захапіў мяне таксама.

Мы хутка занеслі бляшанку з жабурыннем у школу, запісалі ў дзённік першыя звесткі аб ім і адразу ж рашылі ўзяцца за работу. Балазе, яшчэ да цямна заставалася гадзіны дзве часу.

І хоць мы нікому не сказалі пра сваю задуму, аднак ужо назаўтра ж пра гэта ведалі ўсе дзеці. Адны хвалілі нашу работу, другія жартавалі. Асабліва дапякаў нас зайздросны да ўсяго, што ні ўбачыць, Толя Міхейчык. Ён нават празваў нас жукамі.

Я замахнуўся быў на яго за гэта рыдлёўкай, але Валодзя перашкодзіў.

— Ат, не слухай ты яго балбатні,— сказаў ён, засланяючы Толю ад маёй рыдлёўкі.

Толя аж падскочыў ад злосці, а хлопцы дружна зарагаталі.

Аднак, атрымаўшы здачы, Толя не супакоіўся. Ён нагаварыў пра нас важатай Валі Навіцкай, і тая сама прыйшла на пустэчу пацікавіцца, што мы такое мудруем.

Мы нават крыху спужаліся: думалі, што яна прагоніць нас з пустэчы. Але яна толькі спыталася, ці вывучылі мы ўрокі на заўтра.

— А як жа,— упэўнена заявілі мы.— Хоць цяпер адкажам.

— Ну, слухаць вашы адказы, можа, і не мая справа,— засмяялася Валя,— але глядзіце, каб часам двоек не зарабілі на такой рабоце... Тады ўжо будзеце адказваць не толькі мне, але і ўсяму атраду.

— А хіба мы іх зараблялі калі-небудзь? — пакрыўдзіліся мы.

— Пакуль што не... — згадзілася важатая.— А месца гэтае мне падабаецца. Вось каб такое пры школе было!.. Ёсць дзе разгарнуцца! Ну, працуйце! Жадаю поспеху!

І яна пайшла, а мы яшчэ ахвотней ухапіліся за работу.

І якое ж было наша здзіўленне, калі неўзабаве пасля гэтага пра пустэчу загаварыла ўся школа.

Вінавата ў гэтым была Валя. Яна надумалася пабудаваць тут летнюю спартыўную пляцоўку!

— Прапала наша кацёлка... — з жалем сказаў Валодзя.

— Вядома, прапала,— згадзіўся я, уздыхаючы.

Шум і гоман напоўніў пустэчу ў выхадны дзень, заглушыўшы жабіны хор. Работа, як кажуць, закіпела. Усюды мільгалі рыдлёўкі, граблі, насілкі.

Мы таксама далучыліся да сваіх сяброў-школьнікаў, бо яны зараз рабілі тое ж самае, што і мы раней, толькі на ўсёй пустэчы: засыпалі ямы, выдзіралі сівец, ачышчалі і раўнавалі зямлю.

Працаваць гуртам было весялей, і хутка мы забылі сваю асабістую крыўду. Ужо за адзін першы дзень пустэча так змянілася, што на яе аж глядзець весела было. Потым мы прыходзілі сюды вечарамі — пасля абеду. А праз тыдзень тут не толькі кацёлцы — хоць самому качацца можна было: такой роўнай і чыстай зрабілася наша пустэча!

Але Валя павярнула справу ў іншы бок: яна распланавала гладкую пляцоўку на асобныя квадраты і вызначыла месцы для розных спартыўных гульняў: валейбола, гарадкоў, качэляў і каруселяў...

Хутка выкапалі з правага боку ямы, устанавілі слупы і нацягнулі на іх новенькую сетку, якую купіў для нас Адам Язэпавіч.

Цяпер мы з Валодзем з ахвотаю памянялі сваю кацёлку на мяч. А потым, калі з'явіліся і гарадкі, і качэлі, і барабанная круцёлка, і шмат чаго іншага, дык мы проста не ведалі, чаму аддаць перавагу.

Наша школьная майстэрня ўсе дні рыхтавала штонебудзь новае для пляцоўкі: то крэсла-качалку для малых, то планкі для пераскоквання, то проста звычайныя лаўкі для адпачынку.

Аднойчы да нас прыйшла Ніна Трахімаўна. Пахадзіла, паглядзела, нават на каруселях пакаталася. Усё ёй тут спадабалася. «Адно,— кажа,— дрэнна: пуста ў вас...»

— Як гэта пуста, Ніна Трахімаўна! — пакрыўдзіліся мы.— Глядзіце, колькі абсталявання... А гэта ж не ўсё яшчэ...

— Абсталявання то шмат,— адказала яна.— Гэта добра. А вось калі б вакол зелянелі дрэўцы, кусты... Хіба не весялейшай стала б ваша пляцоўка?

— Ну пэўна ж весялейшай! — згадзіліся мы.

— А цяпер жа самая пара і заняцца азеляненнем,— падказала нам Ніна Трахімаўна.

Пасля такой размовы ўсе юннаты нашага гуртка кінуліся расшукваць саджанцы і кусты кветак.

Я ўспомніў, што найбольш кветак расце ў агародзе нашага суседа дзядзькі Апанаса, якому мы з Валодзем нарабілі гэтулькі шкоды...

Я сказаў пра гэта Валодзю.

— Не дасць,— пакруціў ён галавою.— Ён злосны на нас.

— Дык, можа, важатай сказаць: няхай яна папросіць.

— Гэта можна,— адказаў Валодзя.

Мы пабеглі да важатай.

— Паспрабуем,— згадзілася яна.

Разам з важатай мы накіраваліся да дзядзькі Апанаса. Сустрэў ён нас сапраўды няласкава. Але Валя хутка разгаварылася з ім.

— Гэтыя хлопцы, дзядзька Апанас,— сказала яна з усмешкай,— абяцаюць больш не разбіваць вам шыбаў, калі вы дапаможаце нам у адной справе...

— Якой гэта справе? — насцеражыўся дзядзька Апанас.

— У вас на агародзе расце многа прыгожых кветак. А ў нас на пляцоўцы — пуста...

Дзядзька Апанас выняў з зубоў сваю неразлучную піпку, пастукаў ёю аб пазногаць вялікага пальца і адказаў больш лагодна:

— Ах, вось якая ў вас справа.— І, падумаўшы, дадаў: — Ну, дзеля гэтага не пашкадую. Абы мне больш кацёлак у хату не шпурлялі.

І ён сам накапаў нам цэлую кучу розных кустоў і доўга расказваў, як іх садзіць і даглядаць, каб прыняліся.

— Ну, вось бачыш, які добры чалавек наш сусед,— сказаў я Валодзю, калі мы неслі ўвесь гэты скарб на пляцоўку.— А ты кажаш — злосны. Зусім ты яго і не ведаеш...

Хутка нашу пляцоўку акружылі бярозкі, клёны, акацыі і кусты розных кветак.

Цяпер мы кожны дзень насілі з балотца ваду паліваць маладыя саджанцы і з нецярплівасцю чакалі, калі яны прымуцца.

### 3. АПАЛОНІКІ

Здавалася, што лепшага прытулку для нашых забаў і прыдумаць нельга.

Але неўзабаве Валодзя вымудраваў новую штуку. На гэты раз прычынай былі апалонікі.

Паміж іншых спраў мы, вядома, не забывалі сваіх назіранняў над жабурыннем.

Мінаў час, а ніякіх асаблівых змен у нашым акварыуме не наглядалася: хіба толькі што ікрынкі крыху пабольшалі і набухлі. Аднак ніякіх адзнак апалонікаў у іх мы не заўважалі.

— Можа, яны дохлыя якія? — выказаў думку Валодзя.

— Хто іх ведае,— пацiснуў я плячыма.

Тады Валодзя прапанаваў:

— Давай збегаем у балотца і паглядзім: калі і там няма апалонікаў, значыць, яшчэ рана ім выводзіцца.

— Давай,— падтрымаў я Валодзеву прапанову.

Мы абхадзілі ўвесь бераг, але колькі ні прыглядаліся, апалонікаў нідзе не ўбачылі. Толькі вады ўжо намнога паменшала ды берагі густа зазелянелі асакой і аерам.

— Яшчэ з месяц,— кажа Валодзя з засмучэннем,— і дно пакажацца.

Нам чамусьці шкада стала гэтага балотца: няхай бы яно тут усё лета блішчала пад сонцам! Праўда, карысці ад яго аніякай, бо яно мяльчэе і высыхае якраз тады, калі прыходзіць пара купацца, і мы бегаем за блізкі свет на рэчку, аж у другі калгас.

— А што... калі б затрымаць тут ваду? — раптам пачаў разважаць Валодзя.

— Як жа ты яе затрымаеш? — здзівіўся я.— Гэта ж табе не кацёлка! Ды і тую ты не затрымаў...

Валодзя нездаволена замахаў рукамі:

— Сам ты — кацёлка!

Я нават крыху пакрыўдзіўся, бо Валодзя тут быццам намякаў на маю фігуру. Я пачаў прыдумваць, чым бы яго таксама дапячы, але ён ужо гаварыў далей:

— А затрымаць яе можна...

Мяне гэта яшчэ больш здзівіла.

— Бачыш,— кажа ён,— спадзіну, па якой раўчук цячэ?

— Бачу,— адказаў я.

— Дык вось, калі б перагарадзіць яе... тады б уся вада і засталася на месцы.

— Ого,— засмяяўся я.— Хто ж гэта перагародзіць? Гэта ж табе не дарожка для кацёлкі...

Валодзя зноў нездаволена буркнуў:

— Адчапіся ты з сваёй кацёлкай...

Гэта сапраўды было нешта надта мудронае. Але думка Валодзева цяпер не пакідала нас. Мы расказалі пра гэта сваім сябрам-піянерам. А потым дайшло нават да таго, што Толя Міхейчык, з якім мы даўно памірыліся, падняў гэта пытанне на зборы атрада. З атрада пытанне пра балотца перайшло на педагагічны савет, а потым — на праўленне калгаса. Наша важатая раптам так захапілася балотцам, што не давала цяпер нікому спакою: яна, бачыце, вырашыла далучыць гэтае балотца да нашай спартыўнай пляцоўкі, ператварыўшы яго ў сапраўдны водны басейн!

Праўленне з ахвотаю перадало нам балотца ў вечнае карыстанне, толькі з умовай, што мы павыганяем адтуль усіх жаб і камароў.

Пасля ўсяго гэтага мы з асаблівай нецярплівасцю пачалі чакаць летняй спёкі...

Справа ў тым, што наша неўгамонная важатая прыдумала цудоўны план ператварэння балотца ў сажалку. Як і кожны выдатны план, ён быў вельмі просты: ачысціць дно высушанага балотца ад ілу і перагарадзіць гэтым ілам нізіну з раўчуком. І лёгка і зручна! Ці ж няпраўда?

Цяпер мы кожны дзень бегалі да балотца глядзець, на колькі апала вада. Зараз мы не шкадавалі яе — хутчэй бы яна высыхала! Хутчэй бы зачарнелася дно!

Была ўжо другая палавіна мая. І ўжо вялікія змены адбыліся на нашай пляцоўцы: цяпер яна густа запоўнілася рознымі фізкультурнымі прыладамі, а вакол яе весела зелянелі маладыя дрэўцы і кусты, зацвіталі кветкі. Апрача нас сюды ўсё часцей заглядвалі камсамольцы і нават пажылыя дзядзькі. На валейбольным полі цяжка было ўключыцца ў каманду, бо ахвотнікаў да мяча стала хоць адбаўляй. Да таго ж, пачаліся летнія канікулы ў першых класах. А вы ж ведаеце, якія яны шустрыя, гэтыя першакласнікі! Ужо два разы прыйшлося папраўляць качэлі. А круцёлачны барабан гэтак абкоўзалі, што ён блішчыць, як лакіраваны. Да самага цямна не выганіш іх адсюль.

Наш юннатаўскі дзённік таксама папоўніўся. Праўда, развіваліся ікрынкі надта марудна. Першыя тыдні, як я ўжо казаў, мы ніякіх змен не заўважалі. А потым ікрынкі сталі мяняць сваю форму — выцягвацца ў даўжыню; ясней пачалі вызначацца патоўшчаныя верхнія канцавіны і завостраныя ніжнія. І нарэшце настаў такі дзень, калі мы ясна ўбачылі жывы рух у сваім акварыуме: гэта заварушыліся першыя апалонікі! Якія яны былі смешныя! Нібы малюсенькія чорныя мышкі з доўгімі хвастамі. Толькі без галавы і без ног. Адно тулаўца з кволенькімі жаберцамі з абодвух бакоў шыі, падобнымі на тоненькія касцічкі, і хвосцік...

Мы паклікалі Ніну Трахімаўну і з радасцю паказалі ёй свой першы вывадак.

— Цудоўна,— пахваліла яна ні то нас, ні то гэтыя дзіўныя стварэнні.

— А калі з іх жабкі выйдуць? — запыталіся мы.

— Ну, гэта яшчэ не так хутка,— адказала Ніна Трахімаўна.— Для гэтага, відаць, спатрэбіцца часу не менш, чым для ператварэння ікрынак у апалонікаў. Жабы наогул растуць вельмі марудна: толькі на трэці год яны становяцца дарослымі.

— Няўжо? — спужаліся мы.— Тры гады мы іх гадаваць не збіраемся.

— Тры і не патрэбна,— супакоіла нас настаўніца.— Самае цікавае з імі будзе адбывацца яшчэ з месяц, калі апалонікі пачнуць ператварацца ў жабянят. Вось тады і можна лічыць закончанымі вашы назіранні. Тады і паставім ваш даклад на гуртку.

— Дык мы ж, Ніна Трахімаўна, раней свой клас закончым, чым дачакаемся іх.

— Нічога,— адказала настаўніца,— гурток наш будзе займацца і ўлетку.

### 4. КАНЕЦ БАЛОТЦУ!

Спёка, якую мы так чакалі, нарэшце такі настала.

Гэта адбылося ўжо тады, калі мы закончылі заняткі ў школе і зрабілі свой даклад на гуртку. Дарэчы, на гуртку выступалі не адны мы, а і другія юннаты. Асабліва спадабаўся мне даклад Жэні Куцянковай: яна гадуе зайчанятка, якое злавіў яе брат. Зайчанятка так прывыкла да Жэні, што зрабілася проста ручным: Жэня выпускае яго

з клеткі, і яно бегае за ёй, як кошка. Слухаючы Жэнін расказ, я нават пашкадаваў, што выбраў сабе такую невясёлую тэму...

Праўда, цяпер аб ператварэннях у жывой прыродзе мы з Валодзем ведаем шмат цікавых рэчаў, бо з-за гэтых апалонікаў нам прыйшлося вывучаць як след і матылёў, і жукоў... Як ні дзіўна, гэтыя паветраныя, крылатыя стварэнні маюць падабенства ў сваім развіцці да звычайных земнаводных жаб!

Я нават зрабіў для сябе неспадзяванае адкрыццё, што гэтая частка навукі аб жывой прыродзе самая цікавая і захапляючая. Уявіце сабе, напрыклад, звычайнага хрушча. Таго хрушча, што гэтак заўзята гудзе на ліпах у цёплыя майскія вечары. Цэлых чатыры гады яму патрэбна, каб на свет нарадзіцца! А жыве ўсяго некалькі тыдняў... А якую сілу мае гэты шкодны жучок! Лічынкі яго здольны зваліць з кораня не толькі маладое дрэўца, а і старую яблыню. Вам, напэўна, даводзілася бачыць у лесе пажоўклыя сасёнкі. Дакраніся да такой сасёнкі, і яна лёгка вываліцца з зямлі. Гэта — ахвяра пражорлівай лічынкі хрушча: яна начыста абгрызла ўсе карэнні маладога дрэўца...

У чэрвені балотца наша так высахла, што іл аж парэпаўся. Толькі сям-там, на глыбейшых мясцінах, блішчалі яшчэ невялікія лужынкі. Старыя казалі, што ў гэтых месцах сочацца крыніцы. Ручаёк знік таксама, нібы яго тут ніколі і не было.

І вось аднойчы прыбягае да мяне Валодзя. Ён загарэў, як асмалак. Адны зубы блішчаць. Усе дні мы цяпер на полі і ўжо зарабілі па першаму дзесятку працадзён.

— Чуў? — кажа Валодзя.

— Што?

— Заўтра пачынаем наступленне на балотца!

— Хто сказаў?

— Валя!

Ну, калі Валя сказала, тады і перапытваць няма чаго. І мы пачалі збірацца.

Назаўтра я ўстаў яшчэ да сонца. Хацеў прыйсці першым. Ды дзе там! Знайшліся такія разумнікі і без мяне. А сярод іх — і сама Валя.

Балотца ажыло.

Апрача рыдлёвак мы нанеслі сюды насілак, навезлі дзіцячых калясак, прыцягнулі дошкі для пракладкі рэй-

кавых дарожак. Адным словам, усё выглядала, як на сапраўдным будаўніцтве.

Я з Валодзем працаваў на пару. Мы насыпалі мяккі, рыхлы іл у каляску і адвозілі па дошках да таго месца, дзе балотца злучалася з руслом раўчука. Тут павінна была вырасці высокая і моцная грэбля, якая адгародзіць балотца ад раўчука. Тады ўся вада — і дажджавая, і грунтавая, і крынічная — застанецца на месцы. Адно сонца ўсю яе не высушыць.

Але толькі мы разышліся ў рабоце, як да нас заявіўся Адам Язэпавіч. Нічога нікому не кажучы, ён прайшоўся па балотцу ўдоўж і ўпоперак, пільна ўглядаючыся ў дно. Часамі ён спыняўся, браў у руку камяк ілу, расціраў яго пальцамі, дзьмухаў на яго, як дзьмухаюць на пшаніцу з-пад веялкі, каб пераканацца, ці чыста адвеяна мякіна. Вусы яго паторгваліся, маршчыны на лбе збягаліся ў гармонік. Відаць было, што старшыня наш нечым заклапочаны.

Потым ён паклікаў да сябе Валю, нешта пагаварыў з ёю, размахваючы рукамі, і неўзабаве яна падала каманду... спыніць работу.

Гэта было так нечакана, што мы спачатку не паверылі сваім вушам, а потым зашумелі, як патрывожаны вулей:

— Як гэта спыніць? Чаму спыніць?

Тады Валя сабрала ўсю брыгаду і сказала:

— Справа, сябры, такая: мы псуём на грэблю вельмі каштоўны скарб. Іл гэты пойдзе на ўгнаенне пясчаных узгоркаў. Так вырашыла праўленне.

Вядома, нас гэта не ўзрадавала, і мы загаманілі яшчэ мацней:

— А як жа з водным басейнам?

— А з чаго ж мы грэблю зробім?

— З каменняў! — сказала важатая.

— Якіх?

— Збяром на пустэчах і папарах. А заадно і палі ачысцім. Адам Язэпавіч абяцае дапамагчы: дасць падводы і машыну для падвозкі.

Ну, гэта ўжо іншая справа! З такімі зменамі ў выдатным Валіным плане мы ахвотна згадзіліся.

Неўзабаве на балотца прыйшоў увесь калгас. Мы аддалі бацькам рыдлёўкі і ўвесь свой інвентар, а самі пабралі кашы і рушылі на папары ў паход па каменне.

* * *

Праз тыдні два балотца ператварылася ў глыбокую сажалку з тугім глiнiстым дном, якое павольна запаўнялася падземнымі і крынічнымі водамі. На месцы раўчука ўзвышалася моцная, абкладзеная глінаю і зялёным дзёрнам грэбля з маленькім тунельчыкам для заставак.

Цяпер мы часта паглядалі на неба, чакаючы дажджу. Бо ад яго залежаў наш водны басейн: адных крыніц, вядома, мала, каб напоўніць яго, ды гарачае летняе сонца забірае немалую даніну.

Старыя казалі, што чакаць дажджу ўжо нядоўга.

— Ён жа не ідзе, як просяць, а як косяць... — адказаў нам старшыня прыказкай.

Між іншым, з некаторага часу мы пачалі заўважаць, што ён і сам чамусьці вельмі цікавіцца нашай сажалкай. А паштальён Міша Карчэўскі расказваў, што Адам Язэпавіч загадаў яму дастаць усе кнігі пра сажалкі і рыб...

— Ці не думае наш старшыня карпаў разводзіць тут? — зацікавіліся мы.

Прыказка спраўдзілася: не паспелі скасіць першыя гектары, як неба пачало хмурыцца і, нарэшце, у адзін прыгожы дзень дождж лінуў як з вядра.

Старыя злаваліся, а мы, наадварот, радаваліся: сажалка наша пухла і расла як на дражджах. Нават асака і ракітнік, што аплаталі яе вянком, павесялелі.

І калі выдаўся першы сонечны дзянёк, мы адкрылі ў ёй свой купальны сезон.

Вы не ўяўляеце, як прыемна ныраць у сваім водным басейне! Цяпер не трэба бегаць за блізкі свет на рэчку,— рэчка ў нас дома, пад бокам. Можна з турніка проста ў яе скокнуць! Любата! Прыйдзеш увечары з сенажаці — плюхайся сабе хоць да самай ночы.

А наконт старшынёвай цікаўнасці мы не памыліліся: хутка ён сапраўды прывёз аднекуль на машыне цэлую кадушку малькоў і запусціў іх у сажалку...

Мы захваляваліся. Гэта ж яўны замах на наш басейн!

Але потым памірыліся з карпамі: адгарадзілі сабе асобную купальню і жывём з імі ў дружбе.

*1951 г.*

# ПЕРШЫ ПРАЦАДЗЕНЬ

I

Нарэшце такі Міхасю пашанцавала...

Учора адвячоркам запыніў яго ля школы брыгадзір Адам Гаўрылавіч.

— Ну, як справы, звеннявы? — запытаўся ён.

— А так сабе, нішто,— адказаў Міхась.— Ідуць памаленьку.

— Шмат напалолі?

— Не мералі, Адам Гаўрылавіч.

— Дарэмна,— папракнуў брыгадзір.— Трэба мерць. Як жа я вам працадні запішу?

Міхась пачырванеў.

— Якія там працадні! Каб гэта была сапраўдная работа...

— Гм... — чмыхнуў брыгадзір, напускаючы на сябе сур'ёзны выгляд і шчыплючы правы вус.— Хочаш сапраўднай?

— Вядома. Я ж вам казаў.

— Тады паедзеш заўтра бульбу абганяць.

Міхась не паверыў сваім вушам. Ці не жартуе дзядзька Адам?

Але дзядзька Адам казаў усё гэта нібы зусім сур'ёзна, нават не ўсміхаўся, як звычайна, калі жартаваў з малых.

— Свірэпцы дадуць рады і дзяўчаты,— весялей загаварыў дзядзька Адам, перайшоўшы раптам на рыфму, да якой ён быў мастак.— А ў мяне, брат, пачынаецца касавіца, ды бульба лапушыцца.

Уся гэтая размова, як здавалася Міхасю, была вельмі падобнай на праўду.

— Добра,— ахвотна адказаў ён.— Паеду. Куды?

— У Зарэчча. Работа гэта немудроная, і адрываць на яе сталага касца не варта,— разважаў брыгадзір.

— Вядома, не варта! — падхапіў Міхась.

Абганяць бульбу! Ого, гэта ж такая работа, якой пазайздросціць не адзін яго дружака. Гэта не тое што свірэпка. З гэтай свірэпкай ды рознымі там бярозкамі, званцамі, малачаямі сапраўды няхай ваюць дзяўчаткі з першых класаў.

Міхась ужо не раз прасіўся ў брыгадзіра, каб паставіў яго на сталую, «мужчынскую» работу. «Пачакай, брат,— адказваў брыгадзір,— вось касавіца пачнецца — тады на капнаванне пойдзеш...» Капнаванне, вядома, не раўня свірэпцы. А тут раптам такая неспадзяваная ўдача: абганяць бульбу! Самая што ні на ёсць работа — з плужком-абганянкай, з жывым канём, з пугай... Адным словам, лепшага і не прыдумаеш!

— Дык вось, брат, заяўляйся заўтра раней на канюшню,— па-сяброўску дадаў брыгадзір.— Я сам пад'еду з табою — пакажу і раскажу, што і як рабіць. Валодзю з Максімам пасылаю пад барок. Рэшту хлопцаў бяру на сенажаць. А з табою паедзе Сымонаў Віця.

— Навошта? — занепакоіўся Міхась.— Я і адзін спраўлюся.

— А каня вадзіць? А не — дык аваднёў адганяць будзе,— растлумачыў Адам Гаўрылавіч.

— А-а... Я і забыўся, што аднаму нязручна,— сумеўся Міхась.

— То-та ж, мальцы-падшывальцы,— паківаў брыгадзір галавою і падаўся ў праўленне.

Назаўтра Міхась усхапіўся да сонца.

— Рана яшчэ, сынок,— сказала маці, накладваючы ў печ дровы.— Паснедаеш, тады пойдзеш.

Але Міхась не згадзіўся чакаць снедання, сам спакаваў сабе торбачку і пабег на канюшню.

Ля канюшні сапраўды яшчэ нікога не было. Адзін толькі вартаўнік, кульгавы дзед Антось, сядзеў на шырокай дубовай калодцы і зябка пазяхаў. Відаць, старыя косці слаба грэў нават яго доўгі, да пят, кажух.

— Ты чаго гэта, хлопча, бродзіш поначы? — сустрэў яго дзед Антось.

— Па каня прыйшоў,— прывітаўшыся, адказаў Міхась.

— Якога каня? — здзівіўся стары, праціраючы вочы.

— Брыгадзір сказаў.

— Брыгадзір? Тады іншая справа. Але ж яны яшчэ толькі з начлегу вярнуліся. Яшчэ і конюха нават няма.

— Дык я пачакаю,— адказаў Міхась.

— Пачакай сабе,— згадзіўся стары.— Мне весялей будзе. А навошта табе конь спатрэбіўся?

— На работу паеду,— упэўнена адказаў Міхась.

— Бач ты! — жвава заварушыўся стары на калодцы.—

— На якую ж гэта работу цябе ставяць?

— Бульбу абганяць...

Дзед яшчэ раз працёр свае старэчыя вочы і ўважліва паглядзеў на субяседніка. Потым пакашляў і сказаў:

— Ну, гэта, бадай, правільна брыгадзір робіць. Я некалі, памятаю, у твае гады ўжо не тое што за плугам хадзіў, а і касіў сам. Бацька, памятаю, усё ў заработкі бегаў — ён крыху цясляры́ў, а мяне, як толькі перастаў я пад стол пяшком хадзіць, на змену сабе да гаспадаркі прывучаць пачаў...

Дзед Антось рад быў выпадку пагаманіць з жывым чалавекам, каб адагнаць ад сябе сон, які адольваў яго асабліва ў такі ранні час, і доўга расказваў Міхасю пра свае маладыя гады.

## II

На канюшню пачалі збірацца калгаснікі. Яны складалі на павозкі розныя прылады, запрагалі коней і раз'язджаліся ў розныя бакі: араць папары, вазіць лес для новага кароўніка, на сенажаці. Бегалі тут ужо сярод мужчын і Валодзя з Максімам і Міхасёў напарнік Віця, шчуплы хлапчына і самы меншы піянер з іхняга атрада.

Адправіўшы старэйшых, брыгадзір падышоў да хлопцаў.

— Гатовы?

— Заўжды гатовы! — жартам адказаў Валодзя.

— Тады будзем запрагаць. Самі ўмееце?

— Дзіва што! — адказалі хлопцы і кінуліся ў канюшню.

— Падавай нам, Рыгор, сваіх астатніх стаеннікаў,— звярнуўся брыгадзір да конюха, пажылога калгасніка з чорнымі як смоль вусамі, апушчанымі ўніз.

Рыгор пачаў выводзіць з стойлаў коней. Міхасю ён падвёў невялікага камлюкаватага буланчыка, самага рахманага ва ўсёй ферме.

— Глядзі толькі, не крыўдзі яго,— паківаў пальцам конюх.— Удзень папасі з гадзіну, а потым напаі ў рэчцы.

Услед за гэтым ён вынес з кладоўкі хамут, падсядзёлак і лейцы.

— Плуг і пастронкі на возе. Там жа і пута. Запрагай і сып. Шчаслівай дарогі!

Не памятаючы сябе ад радасці, Міхась, спяшаючыся, пачаў надзяваць хамут. Віця тым часам, стаўшы на дыбкі, ладзіў падсядзёлак.

Брыгадзір назіраў збоку. Калі конь быў запрэжаны, ён праверыў, ці добра ляжыць збруя, і, не знайшоўшы асаблівых заганаў, пахваліў маладых гаспадароў.

— Толькі канцы аглабель не зусім роўныя,— зрабіў ён заўвагу Міхасю.— Гэтак буланы можа зацягнуць цябе ў роў — каб ты быў здароў і не кашляў... Ну, ды на першы пачатак не такі ўжо і вялікі непаладак. Едзь. Я неўзабаве буду там. Трэба яшчэ ў праўленне забегчы.

Міхась ускочыў на павозку, на якой ужо сядзеў яго памагаты, і моцна, каб усе чулі, зацмокаў на буланчыка.

## III

Брыгадзір забавіўся, а Міхасю не цярпелася пусціць у ход плужок. Праўда, сам ён яшчэ не абганяў бульбы, але ж не раз бачыў, як гэта робіцца, ды і каня даводзілася вадзіць у баразне яшчэ летась і нават пазалетась.

— Пачнём самі,— няўпэўнена сказаў ён да Віці.

Віця не пярэчыў. Гэта падбадзёрыла адказнага плугара. Ён запрог каня ў плужок, Віцю загадаў весці яго роўна пасярод баразны, а сам узяўся за ручкі.

— Но-о! — пацягнуў Віця за аброць.

Паскрыпваючы гужамі, буланчык спаважна пераставіў ногі. Плужок задрыгаў, але Міхась ужо моцна трымаў яго ў руках, накіроўваючы на самую сярэдзіну. Сашнік лёгка шчоўкнуў у мяккі грунт, пераплецены паўзучай бярозкай і хвашчом, падобным на маладыя елачкі.

— Паехалі! — усміхнуўся сам сабе Міхась і нават шчыра ўзрадаваўся таму простаму факту, што гэты тупарылы сашнік так лёгка разразаў сухую і крохкую скарынку, з-пад якой імкліва сыпаўся мяккі вільготны перагной.

Баючыся, каб сашнік не зрушыў убок або не выскачыў наверх, Міхась увесь час патузваў рукамі, залішне гарачыўся і стараўся. Апрача таго, ён толькі зараз пачаў думаць, ці добра вядзе разору: належнай яна глыбіні ці не? Яму хацелася адвярнуцца назад, каб параўнаць на вока сваю разору з тымі, якія даводзілася бачыць. Але на хаду зрабіць гэтага нельга: плужок можа пстрыкнуць убок і папсаваць градку...

Палоса была доўгая. Міхась ледзь дачакаўся канца яе. На павароце ён моцна тпрукнуў, і Віця адразу спыніў буланчыка ды заняўся аваднямі, якія ўжо ўчулі спажыву і наляцелі сюды з недалёкага ляска.

— Пачакай,— сказаў Міхась да памагатага, а сам, ссунуўшы шапку з чуба на патыліцу і абмахнуўшы рукавом лоб, пачаў узірацца на след сваёй работы.

Разора, на першы погляд, здавалася звычайнай: роўная і акуратная, нават не мелкая, за што асабліва хваляваўся малады плугар. Усё было як і належыць.

— Брыгадзір ідзе,— аклікнуў яго Віця.

Міхась адвярнуўся, паглядзеў у бок мастка.

— Ага... — пацвердзіў ён.

А што, калі брыгадзір знойдзе брак і замест рыфмаў аблае яго самай звычайнай прозай? — занепакоіўся плугар. Для таго ж ён зусім самавольна развярнуў гэтую першую баразну... Брыгадзір жа сказаў пачакаць.

Міхась пачаў поркацца каля хамута: выцягнуў з-пад яго касмыль грывы і роўна расчасаў пальцамі, памацаў супоню, ці добра завязана, заадно прыбіў авадня і пагладзіў буланчыка па спіне. Усё гэта ён рабіў, быццам сталы, спрактыкаваны гаспадар, якому адразу кідаецца ў вочы самы нязначны недахоп у такой справе.

Тым часам падышоў і брыгадзір. Міхась нясмела зірнуў на яго, стараючыся ўгадаць яго настрой. Аднак, як заўважыў Міхась. брыгадзір быў спакойны, а вочы яго нават былі вясёлымі.

— Ого,— усклікнуў брыгадзір,— дык вы ўжо і пачатак зрабілі!

Хлопцы прамаўчалі, цікуючы за паводзінамі брыгадзіра.

— Ну і як яно?

— Я думаў, што вы не прыйдзеце,— пачаў апраўдвацца Міхась.

— Гм... дык жа добра! Выходзіць, я дарэмна прыйшоў.

Брыгадзір дастаў з кішэні кісет, амаль такой велічыні, як торба пастуха Данілы, закурыў і сказаў:

— А ну, пакажы, як ты вядзеш плужок.

Віця ў момант падскочыў да каня, а Міхась стаў на сваё месца.

Брыгадзір моўчкі пайшоў побач. Лёгкія воблачкі дыму завіхрыліся над яго галавою.

— Добра,— паўтараў брыгадзір.— Толькі не старайся

-так моцна сціскаць ручкі. Трымай вальней. Плужок спраўны, ён сам пойдзе. Вось глядзі.

Брыгадзір на хаду перахапіў плужок і павёў яго сам. Міхась пільна сачыў за кожным яго рухам: але, брыгадзір сапраўды вядзе плужок лёгка і вольна, нібы забаўляецца ім! У душы ён аж пазайздросціў такому спрыту. Міхась успомніў, як ён упершыню выйшаў з канькамі на лёд. О, гэта была нялёгкая работа! Ён так нападаўся тады і замарыўся, што назаўтра ледзьве з пасцелі ўзняўся. А потым усё пайшло як па маслу. Відаць, яно так і з усялякай работай.

Перадаўшы плужок Міхасю, брыгадзір яшчэ нейкі час прайшоў з ім, а потым, пераканаўшыся, што малады араты зусім някепска аваладаў сваёй справай, сказаў:

— Глядзі ж, не забудзься каня папасвіць, а то Рыгор загрызе нас з табою,— і сам тут жа падаўся назад.

## IV

Дзень прамінуў для Міхася неўзаметку, хоць і нахадзіўся ён, і напрацаваўся за добры іншы тыдзень. Можа, гэта таму, што работа яго не стамляла, а цешыла. Аднак познім адвячоркам ён пачаў заўважаць, што буланчык стаў часцей кволіцца і пахіствацца ў баразне. Бакі яго апалі, і ён выглядаў цяпер не такім камлюкаватым, як пасля начлегу. «Трэба, мусіць, папасвіць яшчэ раз перад ад'ездам, а то дзядзька Рыгор сапраўды «загрызе», як кажа брыгадзір».

Давёўшы разору да прырэчнага паплаўца, ён гукнуў да Віці:

— Хопіць на сёння. Лепш папасом крыху каня.

Віця з радасцю згадзіўся, бо яму такі надакучыла тупаць цэлы дзень, ды тузаць за аброць буланчыка, ды яшчэ і з назойлівымі аваднямі ваяваць. Праўда, Міхась разы два даваў яму плужок, але тут жа і адбіраў: баяўся, што Віця папсуе баразну, і тады яму адказваць давядзецца перад брыгадзірам. Віця не крыўдзіўся, бо Міхась і старэйшы за яго, і, апрача таго,— яму ж, а не Віцю даручаны і плужок, і конь.

Хлопцы спуталі буланчыка, а самі падаліся да рэчкі купацца.

— Хадзем на гарляк,— прапанаваў Міхась,— там глыбей.

— Затое ісці далей,— нехаця адказаў Віця.

«Гарляком» хлопцы называлі тое месца, дзе рэчка крута абгінала невялікі вузкі мысок, зарослы кустамі. Тут бераг быў высокі, і плынь, няспынна ўдараючыся ў мысок, пракапала досыць глыбокія яміны, у якія можна ныраць проста з самага берага. Вось чаму і вабіў да сябе гэты «гарляк» такога аматара да заліхвацкага нырца, якім быў Міхась.

Хлопцы ўжо набліжаліся да мыска, як раптам заўважылі ў кустах нейкае сабачаня з дзіўнай вялізнай галавою. Сабачаня ўтаропілася на іх і выскалілася.

— Дык гэта ж ваўчаня! — усклікнуў Міхась, падыходзячы бліжэй.— Туйга! — закрычаў ён, шукаючы пад нагамі, чым бы шпурнуць у звярка.

— Не чапай,— падбег да яго Віця.— Яшчэ ўкусіць.

Ваўчаня тым часам стаяла на месцы, разглядаючы незнаёмых яму дзіўных стварэнняў. І толькі калі Міхась шпурнуў у яго камяком адарванай купіны, яно злосна заляскала клыкамі ды адскочыла крыху ўбок. Відаць, яно сапраўды бачыла чалавека ўпершыню. Праўда, яно ўжо не раз бывала на гэтым беразе, куды старая ваўчыца вадзіла на вадапой свой вывадак. З учарашняга дня ваўчыца не вярнулася ў бярлогу, і галодныя ваўчаняты распаўзліся па кустах.

— Давай зловім яго! — сказаў Міхась і тут жа, доўга не думаючы, скокнуў да звярка.

Ваўчаня, відаць, зразумела, што з ім не жартуюць. Яно смешна загыркала, цэлячыся ўхапіць Міхася зубамі за рукі.

— Бач ты, малы, а ўжо які паганы! — накрычаў на яго Міхась.— Не быў бы то воўк. Пачакай жа!

Ён у момант сарваў з сябе верхнюю кашулю і, злаўчыўшыся, накінуў яе на галаву раззлаванаму звярку. Ашаломленае і прыціснутае да зямлі, ваўчаня супакоілася. Але, калі Міхась паспрабаваў падняць яго, яно так затрапятала і задрапала кіпцюрамі, што ледзь не вырвалася з рук.

— Памагай! — крыкнуў Міхась збянтэжанаму Віцю, які адбегся ўбок і спалохана назіраў за паядынкам свайго звеннявога з ваўчанём.

— Пусці, а то ўкусіць! — заенчыў Віця не сваім голасам.

— Не ўкусіць! — рашуча адказаў Міхась, прыціскаючы звярка да зямлі.— Давай папружку!

Віця расшпіліў папружку.

— Зрабі пятлю! — цвёрда загадаў Міхась.— Не бойся!

Віця зрабіў пятлю і асцярожна падышоў бліжэй.

— Нацягвай на галаву! — камандаваў Міхась.

Убачыўшы, як адважна змагаецца з ваўчанём яго таварыш, Віця пасмялеў. Адным махам ён спрытна зашмаргнуў пятлю на шыі звярка — паўзверх Міхасёвай кашулі.

— Цяпер не ўкусіць,— ужо спакойна прагаварыў Міхась, устаючы на ногі.— Пацягнем на воз.

Ваўчаня ўпіралася, чаплялася лапамі за траву і ўсё намагалася скінуць з галавы кашулю, якая закрывала яму вочы. Але хлопцы хутка давалаклі яго да месца, усхнулі на павозку, моцна прывязалі канец папружкі за ніжнюю білу і спешна, азіраючыся па баках (каб хаця ваўчыца не наляцела!), пачалі запрагаць буланчыка.

Буланчык навастрыў вушы, чуючы блізкае суседства драпежніка. Міхась пагладзіў яго па храпе, супакоіў:

— Ціха, ціха, дурненькі. Лепш ты пракаці яго цяпер на возе, чым потым на горле.

Але аж да самага калгаса буланчык усё яшчэ недаверліва касавурыўся і трывожна стрыг вушамі.

Пры звароце з грэблі на вуліцу раптам аднекуль выскачыў Міронаў Келма. І такі справіў лямант, што Міхасю прыйшлося адганяць яго пугай. Хутка на Келмаў сігнал адгукнуліся суседнія сабакі. І неўзабаве цэлая псярня іх акружыла воз. Яны кідаліся пад колы і на колы, гаўкалі на буланчыка, круцячыся ў яго пад нагамі, хапалі зубамі за пугу...

— Вось чэрці! — ледзь адбіваўся ад іх Міхась.— Воўчы дух чуюць. І адкуль іх толькі набралася?

На шалёны сабачы брэх выбягалі з двароў дзеці і дарослыя, і ўсе дзівіліся, чаго гэта сабакі ўчынілі на хлопцаў такі арганізаваны напад. Здаецца ж, і не хуліганы якія, гэтыя хлопцы, каб з сабакамі дражніцца... Дзіва, ды годзе!

— Ваўка вязём! — з гонарам адказваў Міхась.

Аднак ніхто яму не верыў. А падступіцца да павозкі паглядзець нельга было: яшчэ рване каторы з сабак за нагу! Старыя адставалі, а меншыя цэлай гурбою праводзілі воз да самай канюшні.

На канюшні хлопцаў сустрэў дзядзька Рыгор.

— Што гэта вы з такой музыкай? — спытаўся ён зда-

лёку, убачыўшы псярню сабак, за якімі ішла цэлая гурба малых.

Міхась засмяяўся.

— З музыкай весялей, дзядзька Рыгор!

— А ўсё ж, што за кірмаш? — ужо больш строга паўтарыў конюх.

Хлопцы саскочылі з воза, паразганялі сабак і пачалі распрагаць буланчыка. Конюх тым часам падышоў да павозкі знімаць плужок, які ляжаў побач з ваўчанём. Але толькі ён нагнуўся, як ваўчаня злосна забурчала і затрапяталася. Напалоханы дзядзька Рыгор адскочыў ад воза.

— Цьфу ты! — сплюнуў ён.— Ды тут няйначай звер які!

— Самы сапраўдны,— зарагатаў Міхась.— Воўк!

— Ого! — толькі і вымавіў здзіўлены дзядзька Рыгор.

Пагалоска пра злоўленае ваўчаня хутка абляцела ўвесь калгас. Нават сам старшыня Лявон Архіпавіч прыйшоў паглядзець на такое дзіва.

— Трэба ў раённы саюз паляўнічых пазваніць,— сказаў ён.— Гэта ж мае хлопцы вялікую справу зрабілі. Малайцы! — І ён шчыра пацiснуў хлопцам рукі. Віця пачырванеў пры гэтым, ды ўсё абышлося добра.

Назаўтра сапраўды прыехаў прадстаўнік саюза паляўнічых — сажнёвага росту дзядзька, у высокіх, за калені, ботах, з двухстволкай за плячыма. Ён агледзеў ваўчаня і абвясціў з важным выглядам знаўцы:

— Самка. Нішто здабыча. На прэмію вас выстаўляць буду,— дадаў ён і таксама павіншаваў іх з удалым паляваннем.

Але самай лепшай прэміяй для Міхася была працоўная кніжка, якую паднёс яму брыгадзір Адам Гаўрылавіч і ў якой на першай старонцы красаваўся яго першы сапраўдны працоўны дзень.

*1951 г.*

# МАНІНА ГРАДКА

## 1. ДАСЦІПНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

Аднойчы, напрадвесні, вярнуўшыся са школы, Маня раптам праявіла незвычайную цікавасць да сталярнай справы. Перш-наперш яна вельмі ж актыўна перакапала шуфляду, дзе хаваўся бацькаў хатні інструмент. Выбрала сабе з усяго гэтага багацця ладную жменю цвікоў, малаток, долата, абцугі... Потым пайшла ў дрывотнік, доўга грукала-стукала там розным ламаччам, нарэшце назбірала кучу тонкіх старых дошак і разам з пілою прывалакла іх у хату.

— На распалку ж у нас трэсак хапае,— сказала здзіўленая маці.— Навошта ты гэта прыцягнула?

— Скрынкі рабіць буду! — бойка адказала дачка. Маці яшчэ больш здзівілася.

— Якія скрынкі?

— Ну, такія, дашчаныя...

— Навошта?

— Бульбу садзіць!

Тут ужо маці зусім збянтэжылася. У адказах дачкі была пэўная недарэчнасць. Ды ніколі ж раней яна малатка і ў рукі не брала... А то раптам — скрынкі рабіць! Ды бульбу ў іх садзіць...

— Ці ў сваім ты розуме, дачушка? Хто ж гэта садзіць бульбу ў скрынках? Гэта ж не расада якая...

— Вось, вось мне якраз і патрэбна расада! — жвава падхапіла Маня.— Вы ўсё садзіце бульбу толькі клубнямі, а я хачу паспрабаваць расадай.

Але матцы ўсё гэта было незразумела. Бульба ж не капуста... Там рэч іншая — не пасадзіш жа галоўку капусты ў граду!

Маня як магла растлумачыла матцы, што яна надумалася зрабіць.

Пачалося ўсё з таго, што і яна сама гэтак жа здзівілася, калі пачула пра такія справы ад настаўніцы батанікі Веры Паўлаўны.

— Усё гэта вельмі проста і цікава,— з захапленнем тлумачыла Маня.— А я ж — юннатка, мама! Я да ўсяго павінна даходзіць сама — на практыцы! Вось пасаджу адну бульбіну, як раіла Вера Паўлаўна, і буду весці назіранні.

— Хто яго ведае...— сказала маці.— Сама я так не садзіла.

Праўда, хутка выявілася, што зрабіць скрынку не такая лёгкая справа. Тут таксама практыка патрэбна. Папершае, трэба вызначыць памеры будучай пабудовы, потым напілаваць дошак, потым роўна збіць іх цвікамі...

Толькі пасля ўсяго гэтага можа атрымацца сапраўдная скрынка.

Убачыўшы, што дачка сапраўды настойліва і сур'ёзна ўхапілася за работу, маці параіла:

— Пачакай, бацька вернецца з работы, ён зробіць табе скрынкі.

Але Маня і слухаць не хацела.

— Тады гэта будзе не мой дослед, а бацькаў! Не, я ўжо лепш сама. Ты мне, мама, дапамажы толькі напілаваць дошак.

Маці замілавана паківала галавою:

— Упартая ты ў мяне, дачка. І дасціпная!

І ўзялася за пілу.

Вярнуўшыся з работы познім адвячоркам, бацька ўбачыў цікавы малюнак: уся хата была ператворана ў сталярную майстэрню...

На падлозе валялася ўсё яго начынне, кавалкі дошак, з якіх меншыя дзеці будавалі домікі, а збоку стаялі дзве гатовыя скрынкі нязграбнай работы. Трэцюю Маня ўparта збівала цвікамі. Левая рука яе была забінтавана марляю...

## 2. «КВАКТУХА»

Назаўтра Маня ўзяла старое вядро, рыдлёўку і падалася на агарод.

Зямля была яшчэ мёрзлая. Пастукала рыдлёўкай — не лезе ў грунт. Толькі верхнюю скарынку сяк-так знімае.

Маня кінула рыдлёўку і прынесла з дрывотні калун. Калун быў вялікі і цяжкі, а Маня малая і шчуплая. Але нічога: справа пайшла спарней.

— Ці не вазоны ты перасаджваць сабралася? — пацікавілася суседка, убачыўшы, як Маня заўзята працуе на агародзе.

— Ага,— засмяялася Маня.

— Дык жа рана яшчэ гэтым займацца, і зямля, бачыш, мёрзлая яшчэ,— зрабіла яна заўвагу.

Неўзабаве Маня прынесла ў хату поўнае вядро мёрзлых кавалкаў зямлі і высыпала ў адну са скрынак.

Праз ноч зямля адтала, зрабілася мяккай.

— Цяпер можна пачынаць пасяўную! — з радасцю сказала Маня матцы.

— У добры час! — адказала маці.— Як кажуць: чым бы дзіця ні цешылася...— дадала яна, хітра паглядаючы на даччыну работу.

Маня спусцілася ў склеп. Доўга ўзіралася ў бурт, перабірала бульбіны рукамі, лічыла вочкі і ўсё ніяк не магла спыніць свой выбар. Якая ж самая ўрадлівая і самая шчаслівая?

Нарэшце прыглянулася адна ружовенькая скараспелка — крамяная, здаровая, з буйнымі вочкамі.

— Ну, глядзі ж, не падвядзі! — пагразіла Маня пальцам.

Асцярожна ўзяла сваю абранніцу, паплявала на яе — дзеля шчасця, як рыбакі плююць на прынаду,— і прынесла ў хату.

Потым узрыхліла зямлю, падсыпаўшы ў яе попелу, пракапала неглыбокую яму і пасадзіла туды сваю скараспелку. Пры гэтым яшчэ раз пагразіла ёй:

— Не будзеш расці — выкіну свінням...

Скрынку з насенніцай паставіла на палок, у святлейшае месца.

— Ну, вось цяпер мне і квактуху садзіць няма патрэбы! — засмяялася маці.— Ты за мяне пасадзіла. Пабачым, што яна нам выведзе...

— Пабачым! — задорна адказала Маня, страсянуўшы каштанавымі кучарамі.

Пасля гэтага кожны дзень з руплівай цікаўнасцю яна сачыла за сваёй «квактухай». А «квактуха» тым часам спакойна адсыпалася ў мяккім гняздзе, засыпаная тонкім пластом тлустага перагною.

Маці таксама сяды-тады пазіраела на скрынку. Відаць было, што і яна патроху пачынала захапляцца Маніным доследам.

Доўга адлежвалася «квактуха», не выяўляючы ніякіх адзнакаў жыцця.

— Ну, і прэй сабе там! — злавалася на яе нават і маці.— Балазе, карміць цябе не трэба.

Але неўзабаве яна пераканалася, што зусім не дарэмна назвала скараспелку «квактухай». Тая трымала сябе так, як і належыць жывой квактусе: толькі дзён праз дваццаць паказаліся з зямлі яе першыя «кураняткі» — беленькія кволенькія парасткі.

Маня як убачыла іх, дык аж закрычала і запляскала рукамі:

— Мама, глядзі: «квактуха» «куранят» вывела! — і ў голасе яе чулася такая радасць, нібы кволенькія парасткі сапраўды былі жывымі стварэннямі.

### 3. САПРАЎДНАЯ АГАРОДНІЦА

Як толькі парасткі крыху падняліся, Маня асцярожна адрэзала іх вострым нажом і перасадзіла ў другую скрынку. Там яны прыняліся і пачалі жыць самастойна. Праз нейкі час спяблінкі адраслі зноў. Маня і іх сашчыпнула гэтак жа нажом і перасадзіла ў новую скрынку.

Цяпер «квактуха» працавала на поўную сілу: яна няспынна выганяла з свайго гнязда на паверхню парастак за парасткам, нібы адчуваючы, што кожны з іх сустракаўся малой гаспадыняй з самым шчырым захапленнем.

У сярэдзіне мая маці пасадзіла на рэшата сапраўдную квактуху Чубатку.

— А тваю, відаць, пара з седала выкідаць,— сказала яна да Мані.

— Не выкідаць, а пераводзіць на свежае паветра! — папраўіла Маня.— Разам з вывадкам!

За гэты час яна ўжо выгадавала аж трыццаць тры каліўцы густой сакавітай расады. Была тут і ранняя, і позняя, але ўся яна добра прынялася і цешыла малую гаспадыню.

І вось калі нарэшце першая чарга доследу слаўна ўдалася і дайшла справа да другой, дык тут раптам узнікла немалая перашкода: маці рашуча запярэчыла вылучыць Мані градку на сваім агародзе...

— Ты мне толькі дарэмна зямлю сапсуеш. Не дам!

— Але ж мне многа не трэба,— даводзіла Маня, ледзь не плачучы.— Адну маленькую градку.

Задача была нялёгкая. Маці лічыла, што лепш усё ж пасадзіць на гэтай зямлі сапраўдную насенную бульбу, якая вырасце напэўна. А з расады ці будзе яшчэ які толк? Навошта непатрэбная рызыка? Пазабаўлялася — і хопіць.

Тут ужо давялося ўмяшацца ў Манін дослед і бацьку.

— Ну, што ж,— разважліва сказаў ён,— няхай практыкуецца. Без практыкі не навучышся. А зямлі для агарода хопіць нам і без гэтай градкі.

Цвёрдае бацькава слова мела поспех: маці махнула рукой і змоўкла.

Затое як зарадавалася Маня! У той жа дзень яна ўскапала градку, угноіла яе, разбіла, пад шнур, на роўныя квадрацікі і пасадзіла ўсю расаду і нават самую «квактуху», разрэзаўшы яе напалам.

Цяпер Маня стала сапраўднай агародніцай, бо ўсе ў сям'і так і празвалі яе градку «Манінай градкай».

### 4. ПЕРШЫ ЎРАДЖАЙ

На другі дзень, калі шчодра прыпякло гарачае веснавое сонейка, расада раптам пачала вянуць... Кволыя зялёныя лісточкі ўвачавідкі абвісалі і заміралі.

Маня напалохалася. Прапала ўся яе работа!

Паглядзець градку прыйшла маці, падышлі і суседкі... Адны меркавалі, што нічога з такой расады, мусібыць, не выйдзе; другія казалі, што гэта яшчэ не бяда,— так і з усялякай расадай бывае: першыя дні яна вяне, а потым акрыяе. Трэція проста спачувалі заклапочанай Мані, не ведаючы, чым дапамагчы ёй, бо ніколі такога дзіва не бачылі.

Як бы там ні было, а Маня сапраўды моцна занепакоілася.

— Можа, трэба з аграномам параіцца,— сказала маці.

Але Маня ўсё ж не адважылася зрабіць гэта: ёй хацелася да ўсяго дайсці самой, сваім вопытам. «Дзе ж тут і ў чым памылка?» — гадала яна. Расада была, здаецца, здаровая, крамяная. Падкопвала яна яе асцярожна, змочаную вадой. Пасадзіла адвячоркам, а раніцай праверыла: усё было лепш не трэба. А тут — на табе! А можа, попелу зашмат падсыпала? Можа, гэта праз яго так моцна

захварэлі кволыя маладыя раслінкі? Чым жа іх цяпер ратаваць? Якімі лекамі паіць? Можа, сапраўды паслухаць матчынай парады ды збегаць да агранома?

Агранома Маня дома не застала і яшчэ больш сумная вярнулася назад. Тады яна рашуча ўзялася лячыць сваіх выхаванцаў сама.

Мінуў яшчэ дзень, і раптам познім адвячоркам, на захадзе сонца, раслінкі пачалі ажываць: лісточкі акрамянелі і натапырыліся. Расада прынялася!

Маня павесялела.

Нават самыя недаверлівыя суседкі дзівіліся, разводзячы рукамі:

— Бач ты: расце! Мы яшчэ толькі садзіць збіраемся, а ў яе ўжо града зелянее.

Цяпер іх цікавіла толькі адно: вырасце пад такімі кустамі, без насення, што-небудзь людскае ці не?

Пра гэта ж употай думала і Маня, даглядаючы сваю градку.

А расада тым часам густа кусцілася і аж бушавала ад бурнага росту.

У канцы чэрвеня градка пышна зацвіла чырвонафіялетавым колерам і здавалася прыгожым кветнікам. Чыстым кветнікам, без ніводнай смяцінкі. Тры разы за гэты час малая гаспадыня клапатліва рыхліла зямлю, часта паіла сваю градку вадою і карміла ўсялякімі спажыўнымі харчамі.

І, удзячная за такія клопаты, градка расла не па днях, а па гадзінах.

Хутка слава пра Маніну градку пашырылася далёка за межы ўласнага агарода. Дачуўся пра яе і сам участковы аграном Іван Навумавіч.

І вось аднойчы, ужо сярод лета, на Манін агарод прыйшла цэлая экскурсія: старшыня калгаса, брыгадзіры і Іван Навумавіч.

Мужчыны пацікавіліся градкай, пагаварылі з гаспадыняй. І Мані давялося зрабіць поўную справаздачу аб сваім самастойным доследзе.

— А як клубні? — спытаўся аграном, праціраючы ўспацелыя акуляры.— Буйныя?

— Не ведаю...— адказала Маня.— Не капала яшчэ.

— Мяркуючы па кустах, тут нешта сур'ёзнае,— выказаў здагадку Іван Навумавіч.— Варта паглядзець. Бульба даспявае. Дазволь, гаспадыня?

— Калі ласка,— нерашуча згадзілася Маня. Ёй і самой даўно ўжо хацелася паглядзець, што там расце пад гэтымі лапушыстымі кустамі. Але боязна было папсаваць куст: які ж тады атрымаецца дослед!

Іван Навумавіч падняў каля плота трэску, асцярожна падкапаў ёю збоку сушэйшы куст.

І тут усе ўбачылі густое гняздо буйных светла-ружовых клубняў...

— Ого! — усклікнуў старшыня калгаса дзядзька Язэп.— Глядзі, што робіцца!

— Нішто сабе! — пацвердзіў і аграном.— Ураджай багаты.

І ён зноў акуратна засыпаў аголенае гняздо.

— Праз які тыдзень выбіраць можна,— сказаў аграном.— Гэта, здаецца, першы новы сёлетні ўраджай у вашым калгасе,— усміхнуўся ён да старшыні.

— Але,— з такой жа ўсмешкай адказаў старшыня.— Перагнала ўсіх маіх брыгадзіраў...

## 5. МАНІНЫ ГОСЦІ

Іван Навумавіч не памыліўся: ураджай сапраўды ўдаўся незвычайны. Цэлы мех бульбы насыпала Маня з сваёй градкі.

— Трэба, мусіць, узважыць,— сказала ўзрадаваная Маня да бацькі.— Гэта ж дослед!

— Ды што тут важыць,— адказаў бацька. За паўцэнтнера і так магу ручацца. Вось табе і дзіцячая забава! — зірнуў ён на матку, хітра жмурачы вясёлыя вочы.

Маці, вядома, зразумела, у чый агарод ён закідае камень.

— Дзіва, ды годзе! — разводзіла яна рукамі.— Ніколі б не паверыла, каб сама не ўбачыла.

— То-та ж,— зазначыў бацька.— Я ж казаў: без практыкі не навучышся! На ўсё, брат, навука патрэбна. Ну і практыка, я ж кажу,— таксама.

— Дзе ж мы яго хоць падзенем, твой ураджай, дачушка? — запыталася маці.— Можа, яго на насенне пакінуць? Такія ж хвацкія бульбіны. Адна ў адну.

Бацька засмяяўся:

— Ну, гэтым насеннем можна бадай увесь калгас асеманіць, калі садзіць Маніным спосабам.

— Якая ж яна хоць на смак? — схамянулася маці.— Трэба хоць паспрабаваць.

— Давай,— згадзіўся бацька, паціраючы рукі.

Маці з Маняй наскрэблі бульбы, расклалі на камінку агонь і паставілі чыгунок на трыножак.

Хутка чыгунок гарэзна забулькатаў, пускаючы пару.

— Можа, хоць па піва схадзіць дзеля такога важнага абеду? — жартаваў бацька.

Нарэшце маці адцадзіла чыгунок і высыпала бульбу ў міску. Калі густая пара над міскай развеялася, бацька сказаў:

— З выгляду нішто: сопкая!

Потым паспытаў і дадаў:

— І смачная! Сапраўды.

Услед за ім Маніну бульбу пахваліла і маці. Толькі сама Маня ўстрымалася: няёмка ўсё ж неяк хваліць сваю бульбу. Малыя таксама елі з прыемнасцю Маніну бульбу, запіваючы салодкім малаком. Адзін толькі кот не выявіў асаблівай да яе прыхільнасці: «Мяса ўсё ж смачнейшае»,— вырашыў ён, вяла аблізваючыся. Затое Чубатка дык была ў захапленні ад пачастунку. Спярша яна паспытала сама, потым натапырылася, залапатала крыллем, заквокала, і ў тую ж хвіліну да яе пасыпаліся шустрыя кураняты, якіх яна яшчэ вадзіла. Як згледзець вокам ўрастрыбушылі яны некалькі бульбін і, адбіраючы адно ў аднаго, разнеслі іх па ўсяму двару.

— Бачыш! — цешыўся бацька.— Я ж кажу, што смачная. Хоць ты гасцей склікай.

Але неўзабаве госці прыйшлі і самі: чутка пра незвычайны ўраджай [illegible] аднае бульбіны ў той жа вечар абегла ўвесь калгас, і шмат хто, не паверыўшы гэтаму, прыйшоў паглядзець сваімі вачыма.

Цяпер ужо маці з Маняй наскрэблі вялікі чыгун свежай бульбы, а бацька з ахвотаю прынёс з магазіна цэлы гляк свежага піва.

— Гэта ж Маніны госці,— тлумачыў ён суседзям.— А гасцей, як вядома, трэба частаваць. Такі ўжо ў нас звычай. Не будзем яго парушаць.

Да позняга вечара ішла тут жвавая сяброўская бяседа. І ўсе засталіся вельмі задаволенымі гэтай бяседай: і госці, і самі гаспадары.

*1952 г.*

# МАЛАДЫ РОЙ

## I

Гудзе і звініць пасека. Колькі тут руху, колькі гамонкі ў гэты цёплы сонечны дзень!

Міхалка спаважна расхаджвае па садзе між казачнага пчалінага гарадка з markdown рознакаляровымі домікамі, чутка прыслухоўваецца да пчалінай і птушынай музыкі, з цікавасцю да ўсяго прыглядаецца.

Сёння ён тут — поўны гаспадар! Дзед яшчэ з усходам сонца паехаў у раённы пасёлак па новыя вуллі. А яго пакінуў сваім намеснікам.

Міхалку гэта, вядома, немалы гонар. І яму нават карціць пахваліцца каму сваёй радасцю. Але нікога блізка няма: хлопцы, яго равеснікі, пайшлі ў поле палоць лён, а вартаўнік пасекі і саду, дзядзька Тамаш, прыходзіць сюды яшчэ толькі на начную варту.

А які гэта сад! Цэлы гай, раскінуты наводшыбе ад калгаса на сонечным схіле касагора, што збягае да зялёнага лугу... Яго пасадзілі ў той год, калі Міхалка першы раз пайшоў у школу. Потым, на другое ўжо лета, дзед перавёз сюды пасеку. Тады было ўсяго шэсць вулляў, уцалелых ад вайны. А зараз, калі Міхалка скончыў пяты клас, тут ужо красуецца аж пяцьдзесят дзевяць. І дзед лічыць, што гэта яшчэ зусім мала. Ён хоча, каб пасека штогод не падвойвалася, а патройвалася, бо, як кажа дзед, пчала — гэта не толькі фабрыка мёду, а і добрая прыбаўка ўраджаю: там, дзе яна садзіцца на кветку, не бывае пустацвету,— і яблык вырасце буйнейшы, і грэчка, дагледжаная пчоламі, не «сядзе макам», і канюшына, і люцэрна... Адным словам, выходзіць, што пчала — самая надзейная памочніца калгасніка.

Цяпер Міхалка ўсё гэта добра і сам ведае — і не толькі з дзедавых расказаў, а і з «Батанікі», і з тых кніжак, якія роўнымі радкамі стаяць на этажэрцы ў дзедавай пасечнай хатцы. Міхалка любіць чытаць іх: ён шчыра захапляецца пчалярствам. Гэта падабаецца дзеду, і дзед ахвотна прывучае малога да работы на пасецы.

«Мядовы сёння дзень»,— думае Міхалка, пазіраючы на лятох вулля.

І сапраўды: праца на лятку аж кіпіць. Не лятак, а цэлы аэрадром з жывымі самалёцікамі! Адны з гэтых самалёцікаў лёгка ўзнімаюцца ўвысь ды з вясёлым звонам ляцяць знаёмай трасай да аблюбаваных кветак, другія — прызямляюцца, цяжка нагружаныя свежым нектарам і пылком. Зрабіўшы пасадку, яны нейкі час махаюць крыльцамі, нібы адсопваючыся, потым шустра бягуць у шчыліну лятка. А іншыя дык нават і ў домік свой не забягаюць,— перадаюць здабычу насільшчыкам, што стаяць тут напагатове, а самі спяшаюцца назад: вельмі ж салодкі, відаць, мёд на тых кветках, адкуль яны прыляцелі!

Жмурачыся ад слепячага сонца, Міхалка махае ім рукой: «Шчаслівай дарогі!»

«Колькі ж яны зробяць вылетаў за дзень! — думае ён.— Колькі кветак апыляць, колькі мёду пазносяць у соты!»

Дзед кажа: каб сабраць грам мёду, пчала робіць не менш сотні вылетаў.

«Нялёгкая праца,— разважае Міхалка.— Аднак жа працуюць яны з такой ахвотай, што кожны пазайдросціць...»

І Міхалка ідзе далей, весела пасвістваючы. Ён сёння шчаслівы, як гэтыя працавітыя жыхары казачнага гарадка.

Зараз ён загляне на пчаліную вадапойку — трэба праверыць, ці ёсць яшчэ вада ў бочцы, потым пераверне на другі бок карчы для гнілушак, каб лепш сохлі, а тады зноў у абход падасца...

## II

Недалёка ад вадапойкі Міхалкаву ўвагу раптам спыніў вулей, пафарбаваны ў цёмна-зялёны колер. Штосьці нядобрае творыцца каля яго: пчолы так і сыплюцца, як гарох, з пакатага лятка...

«Ці не шкоднік які залез да іх?» — падумаў Міхалка, спыняючыся. Ён не раз чуў ад дзеда, што ў вуллі любяць забягаць мышы... Асабліва зімою, калі вуллі стаяць у імшаніку. Дзед тады цэлую вайну абвяшчае няпрошаным гасцям. І ваюе да таго часу, пакуль ворагі не здадуцца і поўнасцю не ачысцяць чужой тэрыторыі.

Між тым, пчолы, што валам валілі з вулля, не разля-

таліся, як звычайна, калі яны спяшаюцца за ўзяткам, а з трывожным гудам кружыліся над домікам. Да іх далучаліся ўсё новыя і новыя папаўненні.

Пакуль Міхалка стаяў разгублены і дзівіўся, над домікам сабралася ўжо цэлая пчаліная хмара. Потым хмара ўвачавідкі пачала згушчацца ў камяк.

Патанцаваўшы крыху над родным вуллем, камяк раптам шугануў угору, адляцеў крокаў дзесяць убок і павіс на густой яблыневай галінцы. Нібы велізарная груша вырасла, толькі жывая — варушыцца і гайдае галінку...

— Рой! — аж ускрыкнуў Міхалка на ўвесь голас.

Тое, што гэта быў рой, цяпер ён не сумняваўся. Аднойчы яму давялося бачыць, як дзед абіраў вось такі ж самы рой.

Міхалка захваляваўся. З дзедавых расказаў ён ведаў, што рой доўга не сядзіць на месцы, што матка, высылаеўшы з вулля сваю маладую сям'ю, толькі чакае выведчыкаў, якія паляцелі шукаць новае месца для рою. Цяпер усё залежыць ад таго, калі гэтыя разведчыкі вернуцца з бліжэйшага лесу і паведамяць аб знойдзеным пустым дупле, куды можна перасяляцца...

І дзеда няма ў такі адказны час! І ні жывой душы нідзе блізка... Адны вераб'і, дзе ні глянь, скачуць па галінках дрэў, ды вароны, пралятаючы, шумяць над садам.

Спачатку Міхалка вырашыў бегчы ў калгас, але ж гэта не так блізка, ды і ці знойдзеш там у такі час каго, хто б замяніў пчаляра...

Аж горача стала ад такіх невясёлых думак.

Прападзе рой! Што скажа тады дзед?! А як ён будзе вохкаць і стагнаць... Міхалка ўявіў сабе дзеда ў той момант, калі ён вернецца і дачуецца аб такім здарэнні на пасецы, і яму страшна зрабілася.

А рой гайдаецца сабе на галінцы і не адчувае той бяды, у якую трапіў малады пчаляр. І нават здаецца такім спакойным, ціхамірным, нібы чакае, калі да яго з'явіцца гаспадар і атрасе ў рэшата або ў іншую якую пасудзіну...

«Як жа гэта абіраў тады рой дзед?» — сіліцца ўспомніць Міхалка. Гэта было летась. Ён якраз прынёс тады дзеду полудзень.

— Няма часу палуднаваць,— сказаў дзед.— Трэба пільпаваць вулей — шуміць нешта вельмі...

Ён узяў шырокі бачок-раёўню, вядро з вадою, на-

стольніцу, сетку і мяккі венік з бярозавага венця. І яны разам сядзелі каля шумлівага вулля, пакуль не вылецеў рой.

Успомніўшы ўсё гэта, Міхалка кулём кінуўся ў хатку.

«Паспрабую сам так зрабіць...— цвёрда парашыў ён.— Дзеда ж тады ніводная пчала не ўкусіла. Можа, і мяне не зачэпяць...»

У хатцы ён знайшоў усё, што патрэбна было. Не было толькі мяккага веніка. «Зраблю сам»,— падумаў Міхалка. Каля хаткі ён нарваў жмут высокага быльнягу, спехам перавязаў яго абрыўкам вяровачкі, і атрымаўся ніштаваты венік.

Узброіўшыся, як належыць сапраўднаму пчаляру, з затоеным дыханнем рушыў да рою.

Рой усё яшчэ вісеў на галінцы, і гэта ўзрадавала Міхалку: значыць, ён не спяшаецца адлятаць, чакае яго! У момант ён надзеў на галаву сетку, абмакнуў венік у ваду і пакрапіў рой. Рой прыціх, быццам ашаломлены ад нечаканага душа. Гэта яшчэ больш падбадзёрыла Міхалку.

Пасля такой першай аперацыі ён падставіў бачок пад галінку і злёгку патрос яе.

І — дзіва! Клубок адарваўся, як перасплелая груша, ды ўпаў проста ў бачок.

Міхалка тут жа прыкрыў яго настольніцай, разагнуўся і засмяяўся сам сабе: так усё аказалася нечакана простым!

— Эх вы, казюлькі кусачыя, напалохалі толькі мяне!.. — сказаў ён, прыслухоўваючыся да бачка.

«Вось дзед узрадуецца!» — падумаў ён.

## III

Дзед сапраўды ўзрадаваўся выратаванаму рою не менш за Міхалку.

Праўда, спачатку ён нейкі час вохкаў і бурчаў на самога сябе: як жа гэта ён загадзя не ўгадаў, што ў зялёным вуллі рыхтуецца да вылету рой?

— Стары ўжо стаў, ці што? — з жалем ківаў ён галавою.— Чую слаба... Я ж учора тупаў каля гэтага вулля. Думаў адчыніць нават стрэшку, праверыць, ці няма там якіх навін. Але ніякіх такіх прыкмет не заўважыў...

У раёне дзеду пашанцавала: ён прывёз аж цэлых дзесяць новых вулляў для перасадкі ў іх «адводкаў» з дужых сем'яў.

— Ну, што ж,— звярнуўся ён да ўнука,— адзін вулей давядзецца адпусціць на твой малады рой.

Дзед тут жа ўстанавіў новы вулей, паднёс да яго бачок з роем і сказаў да Міхалкі:

— Давай, ты злавіў яго, ты яго сам і перасаджвай. Няхай гадуецца з тваёй лёгкай рукі.

— Як гэта сам, дзед? — перапытаў збянтэжаны Міхалка.— Я не ўмею...

Дзед адказаў дабрадушна:

— А рой ты хіба ўмееў абіраць? Аднак жа абабраў, і нават удала. Бачыў, як я рабіў гэта?

— Бачыў,— нясмела адказаў Міхалка.

— Ну, дык так і рабі.

Міхалка зразумеў, што дзед не жартуе, а сапраўды дае сваю згоду на тое, каб ён сам і пасадзіў свой рой у новы вулей.

— Паспрабую,— сказаў ён нарэшце.— Толькі каб не ўцяклі...

Дзед весела засмяяўся:

— Тады і лавіць сам будзеш. Па адной пчале...

— Ого! — усміхнуўся і Міхалка з дзедавага жарту.— Тут жа не адна тысяча...

— Вядома, не адна,— згадзіўся дзед.— Давядзецца табе, брат, усё лета лавіць іх, ды і то ці пераловіш.

Аднак, падбадзёраны першым поспехам, Міхалка жвава ўхапіўся за новую не менш важную ў пчалярскай справе работу. Адчыніў стрэшку вулля, рассунуў рамкі, каб быў вольны праход пчолам, насыпаў у дымар сухіх гнілушак і падпаліў іх, надзеў сетку. Пасля асцярожна прыўзняў край настольніцы і заглянуў у бачок: увесь рой, шчыльна збіўшыся ў кучу, вісеў на настольніцы... Міхалка захваляваўся, пазіраючы на дзеда: страшна адкрываць далей...

Дзед тым часам, таксама з сеткай на твары, стаяў збоку і моўчкі з цікавасцю назіраў за кожным рухам унука. Але, калі Міхалка запыніўся ў рабоце, ён упэўнена замахаў рукамі:

— Смялей, смялей!

Міхалка пасмялеў, падняў настольніцу за ражкі і вытрас пчол у адкрыты вулей.

— Цяпер дымку ім паддай, каб не разбушаваліся надта па новым месцы,— скамандаваў дзед.

Міхалка схапіў распалены дымар і пусціў дым у самую сярэдзіну пчалінага клубка. І ў тую ж хвіліну закрыў стрэшку.

— Лято́к таксама закрый,— параіў дзед,— а то нізам пойдуць.

Міхалка закрыў і лято́к.

— Ну, вось і ўсё,— сказаў дзед, знімаючы з галавы сетку.— Цяпер ім тут жыць-пажываць ды дабра людзям нажываць. А ты кажаш — не ўмею. Умельства, брат, штука такая: гатовым само ў рукі не даецца.

Дзед нагнуўся, прыклаў вуха да вулля. Міхалка таксама пачаў прыслухоўвацца — з другога боку.

Рой яшчэ нейкі час пагуў з перапуду, ды і аціх.

— Нічога,— сказаў спакойным голасам дзед,— усё ў парадку: заўтра можна будзе лято́к адкрываць, на працу твой малады рой выпускаць. Бачыш,— пяшчотна пагладзіў ён рукою новы вулей,— шэсцьдзесят ужо! Роўны лік. І роўна ў дзесяць разоў павялічылася за гэтыя гады наша пасека. Вось які сёння ў нас дзень!

Шчаслівы Міхалка радасна ўсміхаўся.

*1952 г.*

# СЛАБАЯ ВОЛЯ

## I

З вучнем 4 «А» класа Мішам Яцэвічам здарылася няшчасце — у яго раптам аслабла воля. Так заявіў ён сам. А каму ж, як не самому, відней, што ў цябе баліць?..

Выявіўся гэты недахоп у яго выпадкова, на зборы звяна, калі сябры ўзялі Мішу ў работу за чарговую двойку па арыфметыцы. Бо які ж гонар звяну мець двоечніка! Таму і размова была надта гарачая. Міша і чырванеў, і бялеў ад такой размовы, і чмыхаў носам, а потым, калі ўжо вельмі стала нясцерпна, ледзь не расплакаўся.

— У мяне, мусіць, зусім слабая воля,— растлумачыў ён сябрам,— хачу рабіць адно, а робіцца другое... Вось і нядаўна было. Толькі сеў рашаць задачы, а Пецька з нашага двара прыбег і кажа: «Мішка, давай сіло рабіць!» Мне няма часу, кажу. Мне трэба задачы рашаць. Я — двоечнік... «Э,— кажа Пецька,— задачы рашаць усё роўна нецікава двоечніку ці пяцёрачніку. Давай лепш снегіроў лавіць. Я ўжо і валасню дастаў». Дзе дастаў? — пытаюся. «На рынак,— кажа,— бегаў, там у аднаго каня з хваста наскуб. Ледзь не ўбрыкнуў ён мяне, нават з аглабель выскачыў. А дзядзька, як убачыў, дык хацеў пугай аперазаць. Але я ўцёк...» Паслухаў я Пецьку і згадзіўся рабіць з ім сіло...

Пасля такіх Мішавых тлумачэнняў піянеры неяк адразу прыціхлі і паспакайнелі. Што ж, можа, і праўда ў іх таварыша слабая воля. Гэта бывае. А важаты Юра Гулейчык аж спахмурнеў, пачуўшы пра бяду, якая напаткала піянера яго звяна Мішу Яцэвіча.

— Калі так,— паспачуваў ён Мішу,— дык табе самому, вядома, цяжка будзе выправіцца. Слабая воля — гэта вялікае няшчасце для чалавека. Але ж і звяну заставацца з двойкамі таксама ганьба...

Юра перадыхнуў і ўнёс прапанову:

— Я думаю, нам трэба каго прымацаваць да Мішы.— Ён абвёў вачыма сваё звяно: — Можа, Толю Кругліка? Ён — пяцёрачнік па ўсіх прадметах. Праўда, Толя?

— Праўда! — адказалі за Толю яго сябры.— Ён як бачыш выведзе Мішу ў перадавыя.

Толя не пярэчыў.

Таму так і рашылі: прымацаваць да слабавольнага двоечніка Мішы Яцэвіча пяцёрачніка з моцнаю воляю Толю Кругліка і даць ім заданне: не пазней як праз тыдзень вытурыць праклятую двойку з Мішавага дзённіка і гэтым выратаваць гонар звяна.

Трэба сказаць, што выбар Толі ў памочнікі Мішу быў вельмі ўдалы. Апрача таго, што Толя добра вучыўся, ён вызначаўся спакойным характарам і акуратнасцю ў рабоце, а Міша — зусім наадварот. Гэта, відаць, і меў на ўвазе важаты звяна, называючы Толеву кандыдатуру для дапамогі Мішу.

Ідучы са школы, Толя спытаўся ў свайго падшэфнага:

— Дзе будзем займацца — у вас ці ў нас?

Міша паморшчыўся пры ўспаміне аб занятках і адказаў:

— У нас кватэра вялікая. Можам хоць цэлы дзень у сталовай сядзець.

Толя згадзіўся, бо дома ў іх сапраўды не так раскошна, як у Мішы.

— А калі прыходзіць? — спытаўся ён.

Міша зноў паморшчыўся.

— Лепш пазней. Спачатку я падрыхтую заданні па мове і геаграфіі, а потым зоймемся задачамі.

— А можа, лепш наадварот? — параіў Толя.

— Не, я прывык ужо да свайго распарадку,— не згадзіўся Міша.

— Ну, няхай будзе па-твойму. У сем гадзін прыйду.

— Прыходзь! — гукнуў Міша і тут жа павярнуў на другую вуліцу — зусім не па дарозе дахаты...

— Куды ж ты? — паклікаў яго Толя.

— На Нямігу... Я скора вярнуся...

## II

Роўна ў сем гадзін Толя пастукаўся да Мішы. Міша сустрэў яго радасна і адразу павёў у сталовую.

— Каб ты ведаў, Толік, якія я сёння плёнкі дастаў!..

— Навошта? — спытаўся Толя.

— Як — навошта! У мяне ж — ты і не ведаеш — сваё кіно!

Міша кулём кінуўся да камоды, на якой стаяла высо-

кая прадаўгаватая каробка з надпісам «Фільмаскоп Ф-49», дастаў з каробкі невялікі металічны апарат, пафарбаваны ў чорны колер, і паказаў сябру.

— Вось! У мяне ўжо дваццаць пяць новых плёнак. Сёння, пасля школы, забягаю ў магазін, а там — «Бялее парус...», «Браты Лю», «Ілья Мурамец»... Цэлых пяць штук купіў! Я ледзь дачакаўся цямна і ўжо разоў па пяць перакруціў іх (Мішу, відаць, падабалася ўсё лічыць пяцёркамі). Хочаш — пакажу!

Толя паглядзеў на яго спалоханымі вачыма:

— А займацца калі?

— Паспеем! — замітусіўся Міша.— Мы толькі пяць штук перакруцім. Гэта нядоўга.

Цікаўнасць узяла верх, і Толя з захапленнем пачаў разглядаць хатні кінаапарат.

— Дзе ты дастаў яго? — пытаўся ён.

— Там жа, на Нямізе. Але яны рэдка бываюць. Іх як бачыш раскупляюць. Я ўбачыў і — кулём дахаты. Так і так, кажу маме: дай грошай! «А з якой гэта ласкі?» — пытаецца мама. А з такой, кажу, што праз тыдзень мне будзе адзінаццаць гадоў, і ты мне ўсё роўна будзеш купляць падарунак. Адным словам, сяк-так угаварыў маму, і вось ужо тыдзень да імянін і тыдзень пасля імянін кручу сваё кіно. Не толькі сам гляджу, а і рабятам з усяго двара паказваю. Я не такі, як другія. Я — не скупы. Няхай глядзяць. Вось і сёння,— я і забыўся табе сказаць,— яны зараз тут будуць. Я пахваліўся, што новыя плёнкі купіў. Можа, пачакаем іх?

І сапраўды, неўзабаве пачалі збірацца дзеці з Мішавага двара — і меншыя, і большыя. Найшло цэлы пакой, як зачыніць. Прыйшоў і Пецька, які спакусіў Мішу лавіць снегіроў. Гэта быў шчуплы і нейкі ўвесь натапыраны, як зімовы верабей, хлапчук гадоў дванаццаці. Ён адчуваў сябе тут як дома, бо адразу ж ухапіўся сцягваць у сталовую з усёй кватэры крэслы. Меншых сяк-так рассадзілі на крэслах, а большыя пасталі ззаду. Міша ўключыў свой апарат у сець, уставіў плёнку і загадаў Пецю патушыць святло.

Хутка на экране, асветленым лямпачкай фільмаскопа, з'явіўся першы малюнак, і большыя з гледачоў — школьнікі — прачыталі ўголас:

— Браты Лю, кітайская народная казка.

Міша пакруціў ручку — на экране паказаўся новы ма-

люнак: на стракатым дыване сядзелі пяць братоў Лю, да таго падобных адзін да аднаго, што нават родная маці часта блытала іх між сабой. Але гэта былі не простыя браты: кожны з іх чым-небудзь вызначаўся, што і спатрэбілася ім у бядзе, у якую трапіў адзін з братоў.

Гледачы з захапленнем сачылі за прыгодамі братоў Лю, а Міша з такім жа захапленнем добрасумленна выконваў ролю кінамеханіка. Пасля «Братоў Лю» пайшоў «Ілья Мурамец», потым «Бялее парус...», а потым яшчэ і яшчэ...

А калі Міша нарэшце запытаўся ў гледачоў, ці не змарыліся яны, дык усе дружна загаманілі, што гатовы глядзець хоць да раніцы.

У гадзін дзевяць вярнуліся з прагулкі Мішавы бацькі і паклікалі яго на кухню піць чай. Дзеці разышліся. А Толя заняўся арыфметыкай адзін — ён жа таксама не рашыў сёння ніводнай задачы! Але пасля Мішавага кіно перад вачыма ўсё мітусіліся розныя малюнкі, і сухія лічбы аб тым, на колькі кіламетраў адзін поезд абагнаў другі, ніяк не хацелі лезці ў галаву. «Прыйдзецца, мусіць, лепш заўтра раней устаць...» — падумаў Толя. Ён узяў на этажэрцы «Прыгоды Бураціна», пачаў разглядаць малюнкі.

Нарэшце Міша павячэраў і прыйшоў на заняткі. Але ў гэты час насценны гадзіннік прабаваніў палавіну дзесятай...

Толя захваляваўся:

— Я сказаў маме, што хутка вярнуся...

І ён пачаў збірацца.

— А як жа з арыфметыкай? — здзівіўся Міша.

— Займіся сам. А калі не зможаш рашыць, прыходзь заўтра раней у школу, мы да званка ўсё зробім.

Толя развітаўся і пабег дахаты.

## III

Назаўтра Толя праспаў і ледзь паспеў разам са званком ускочыць у клас. Ды гэта толькі першая непрыемнасць. Здарылася так, што яго якраз у гэты дзень выклікала Людміла Паўлаўна па арыфметыцы.

Людміла Паўлаўна ведае Толю з першага года яго вучобы і даўно прывыкла да яго акуратнасці. Вось чаму яна не паверыла вушам сваім: у Толі не былі зроблены зада-

чы! Але ж Толя не мог жартаваць. На пытанне, што з ім здарылася, Толя прамаўчаў, апусціўшы галаву. Тады Людміла Паўлаўна прадыктавала яму адну з зададзеных на дом задач і прапанавала рашыць яе каля дошкі.

Толя запісаў умову задачы, падумаў і пачаў рашаць. І хоць не хутка, а ўсё ж сяк-так справіўся з ёю. Людміла Паўлаўна крыху супакоілася і ніякай ацэнкі ў дзённіку не паставіла. Аднак яна сапраўды была моцна ўражана тым, што Толя аказаўся такім няўважлівым да арыфметыкі, якую ён любіць, здаецца, больш за іншыя прадметы.

Мішу ў гэты дзень па арыфметыцы не выклікалі, і таму ён, як заўсёды, быў у добрым настроі і ўжо марыў аб чарговых забавах.

Аднак Толя ўлічыў сваю памылку і вырашыў стаць хітрэйшым: на гэты раз ён прапанаваў свайму падшэфнаму заняцца арыфметыкай адразу пасля абеду.

— Давай,— згадзіўся Міша,— паспрабуем увесці новы распарадак. А потым кожны будзе займацца хто чым захоча.

Вось чаму на другі дзень хітры Толя прыйшоў у пяць гадзін вечара. Але Мішы дома не было. Маці сказала, што ён прасіў Толю пачакаць. Толя прысеў на канапе і заняўся разглядам апошніх нумароў «Огонька». А там было гэтулькі малюнкаў, што іх і за дзень не перагледзіш!

Уж добра сцямнела, калі нарэшце вярнуўся Міша. Ён так расчырванеўся на марозе і быў такі вясёлы, што Толя аж пазайздросціў яму. Мала гэтага — ён тут жа раскруціў перад Толем нейкі газетны скрутак і, як фокуснік, спрытна выхапіў з яго... бацінкі з канькамі. Але што гэта былі за канькі. Самыя сапраўдныя хакеі! Мара ўсіх паважаючых сябе юных канькабежцаў!

— Гэта мне дзядзька, татаў брат, у дзень імянін падарыў. Я аддаваў іх у майстэрню, каб прымацавалі да бацінак, і вось толькі што забраў,— растлумачыў Міша, адкуль у яго такія канькі завяліся.

Ну, як было не пакатацца на новых хакеях! Але ж дзеля гэтага прыйшлося паехаць на самы сапраўдны каток, бо не будзе ж паважаючы сябе канькабежац катацца дзе-небудзь на звычайным двары.

Праўда, Толя спачатку завагаўся быў: трэба ж задачы рашаць! Ды шустры Міша ўгаварыў яго, што яны доўга не забавяцца, а калі нават і забавяцца, дык не будзе ж

Людміла Паўлаўна раз за разам выклікаць Толю па арыфметыцы!

Але Міша памыліўся. Людміла Паўлаўна разважала па-свойму: з Толем нешта здарылася, і за ім трэба пільна сачыць. Вось чаму яна і не дала яму перадышкі, а зноў выклікала на другі дзень.

І Толя зарабіў двойку... Першую двойку па любімай арыфметыцы.

Піянеры захваляваліся, і важаты Юра вымушаны быў склікаць пасля ўрокаў збор звяна.

Засмучаны Толя расказаў, як усё было, а Міша пацвердзіў, што ўсё было так, як сказаў Толя, што ён нічога не схлусіў. Спачатку ўсе разгубіліся: каго вінаваціць за новую двойку — шэфа ці падшэфнага? А потым усё гучней пачалі раздавацца галасы, што вінаваты ўсё ж Міша: ён проста знарок спакусіў Толю сваімі фільмаскопам і канькамі! Міша ж кляўся чэсным піянерскім, што зрабілася ўсё гэта ненарокам, што ніякай крыўды на Толю ён не меў і не мае.

— Ну вось, бачыце,— сказаў важаты.— Мы тады паверылі Мішу, што ў яго слабая воля. А цяпер што вы скажаце? У каго слабая воля?

— У Толі! — дружна засмяяліся піянеры.

— Вядома, што ў Толі! У Мішы, наадварот, такая моцная воля, што ён за два дні адвучыў Толю ад арыфметыкі. І цяпер я прапаную адмацаваць, пакуль не позна, Толю ад Мішы, каб не мець у звяне лішняга двоечніка.

— А як жа з Мішавай двойкай? — запытаўся Толя.

— Няхай ён сам і выпраўляе яе,— цвёрда сказаў важаты Юра.— Цяпер мы ведаем: у яго не слабая воля, а моцнае гультайства да вучобы... Праўда, Міша?

— Праўда...— вінавата адказаў Міша і апусціў вочы.

*1953 г.*

# ЦЯЖКАЯ ХВАРОБА

## I

Маці ўстала, як заўсёды, рана. Накінуўшы на плечы стракаты халат і мякка ступаючы тапкамі, каб не пабудзіць без пары дзяцей, выйшла са спальні.

Неўзабаве на кухні зашумеў прымус. Да работы заставалася гадзіны дзве. За гэты час трэба згатаваць снеданне, выправіць у школу Віцю, прыбраць у пакоях, завесці ў дзіцячы сад Соню... Паспявай толькі спраўляцца. Ды і на гадзіннік не забывайся паглядваць.

Калі чайнік закіпеў, маці пачала будзіць Віцю.

Але пабудзіць яго не так лёгка. Звычайна гэтым займаецца бацька. У бацькі больш строгі і цвёрды голас, і Віця, хоць нехаця, а падымаецца за другім або трэцім напамінкам. Апошнія дні бацькі дома няма: ён у камандзіроўцы, і Віця адчувае сябе поўным гаспадаром. Маці так не ўмее будзіць, як бацька. Голас у яе мяккі, ласкавы. Такім голасам можна толькі ўпрошваць, а не загадваць.

Віця нават не варушыцца і ад другога, і ад трэцяга напамінку. Дзе яго дабудзішся!

Маці з надзеяй глядзіць на стары насценны гадзіннік: яшчэ не позна, няхай паспіць. Набегаўся ж учора за дзень, небарака... А раніцай самы сон.

Паснедаўшы, яна будзіць Соню. Тая ўстае ахвотна, праціrae пухлымі кулачкамі вочы і пачынае сама адзявацца. Соня руплівая, старанная дзяўчынка, прывучаная да парадку ў дзіцячым садзе, куды яна ходзіць ужо трэці год. А Віця гультай і хітрун. За ім так і сачы: сілаю яго трэба падымаць з пасцелі, сілаю прымушаць рабіць урокі, нават кнігі і сшыткі і то сам лянуецца скласці ў партфель! «І ў каго ён такі ўдаўся? — часта ўздыхае маці.— Але, можа, падрасце, паразумнее...»

Гадзіннік тым часам цікае поўным ходам. Трэба спяшацца, і маці павышае голас, наколькі гэта ёй удаецца:

— Віця, уставай! У школу спознішся.

Віця нарэшце расплюшчвае вочы, пацягваецца, пазяхае і тут жа ўспамінае, што ніводнага ўрока на сёння ён не падрыхтаваў і што яго могуць выклікаць і па арыфметыцы, і па мове... Гэта ж пэўныя двойкі! А іх у Віці і так

ужо дзве — па гісторыі і прыродазнаўству. Не хапала, каб яшчэ дзве зарабіць! Дзе ж іх тады выправіш? Да канца заняткаў засталося ўсяго дзён дзесяць. Перад маткай ён як-небудзь апраўдаецца, а перад бацькам? Бацька строгі. Ён і за тыя першыя двойкі знімаў папругу...

«Можа, лепш зусім не ісці ў школу?» — думае Віця. Але як гэта зрабіць? Можа, прыкінуцца хворым?.. Маці страшэнна баіцца любой яго хваробы, яна не пусціць яго хворага ў школу.

Віця крывіцца, хістаецца і хапаецца за галаву:

— Ой, як трашчыць галава... Такі шум нейкі...

Маці глядзіць на яго спалохана:

— Чаго ж яна трашчыць? Не выспаўся, ці што?

— Не ведаю...

— Можа, у цябе тэмпература?

Яна дакранаецца рукою да Віцевага лба. Лоб цёплы, як звычайна, аднак матцы пачынае здавацца, што ён і сапраўды гарачы.

— Дзе градуснік?

Цяпер палохаецца ўжо Віця. Але раптам твар яго святлее.

— Сонька разбіла: учора з акна скінула,— адказвае ён.

— Чаму ж вы мне не сказалі? Я новы купіла б. А то як жа без градусніка?

— Я незнарок, мама,— вінавата апраўдваецца Соня.— Я не хацела яго скінуць, а ён узяў ды скінуўся...

— Што ж мне рабіць з табою? — хвалюецца маці.— Можа, хіба пабудзь сёння дома?

— Добра,— прастагнаў Віця.— Ты мне толькі заўтра запіску дасі, што ў мяне галава балела...

— А можа, доктара паклікаць?..

Віця неспакойна міргае вачыма. Але адчуўшы ў голасе маткі няўпэўненасць — можа, паклікаць, а можа, не? — рашуча пярэчыць:

— Навошта? І так пройдзе...

— Ну, глядзі,— кажа маці.

Спяшаючыся, яна ставіць на стол чай, булку, масла, робіць Віцю патрэбныя настаўленні і выходзіць з Соняй за дзверы.

II

Як толькі зачыніліся за імі дзверы, Віця адзеўся і весела заскакаў. Выдумка ўдалася. Цяпер у яго вольны дзень: можна і ўрокі вывучыць і нагулядца. Вось што значыць хітрасць! Дурны так зрабіць не здагадаўся б!

Ён напіўся чаю, пасланяўся па кватэры, і яму стала сумна аднаму. Паглядзеўся ў трумо: перад ім сапраўды стаяў сумны бялявы хлапчук з віхрастым чубам і густым рабаціннем, асабліва на носе. Віцю не спадабаўся яго двайнік. Ён падражніўся з ім, нават паказаў яму язык. Потым паспрабаваў рашаць задачы. Але яны не развесялілі яго: задачы трапіліся цяжкія, нудныя. У адной расказвалася пра два магазіны, якія прадавалі сукно, трэба было даведацца, каторы з іх прадаў больш і на колькі. У другой — пра цялят, ягнят і парасят. Уся гэтая жыўнасць была змешана ў кучу, і Віця павінен быў разабрацца, колькі чаго было на фермах калгаса «Новы шлях». Над задачкамі трэба было паламаць галаву, а ламаць галавы Віцю не хацелася: можа, лепш пайсці куды пагуляць, а потым сесці за ўрокі? Такая думка спакусіла яго. Ён сабраўся, замкнуў дзверы запасным ключом і пайшоў на вуліцу.

На вуліцы кампаніі не знайшлося. Віця пашпацыраваў па тратуарах, пацягаўся ў парку, а весялей не стала. Толькі ногі забалелі. Тады ён вырашыў паездзіць на трамваі. Сеў у трамвай, памацаў у кішэнях — грошай ні капейкі. Усе свае запасы ён учора страціў на «Залаты ключык».

Народу ў трамваі поўна. Віця цішком спыніўся у кутку пляцоўкі і цікаваў, ці не відаць блізка кантралёра. Ездзіць зайцам, вядома, трэба ўмець.

На астаноўках выходзяць і ўваходзяць пасажыры. Віцю то выштурхоўваюць да дзвярэй, то зноў заціскаюць у куток. Ён мучыцца, небарака, але едзе ў самы канец горада, быццам яму канечне трэба паспець туды па важнай справе.

Раптам недалёка ад яго пачуўся трывожны мужчынскі голас:

— Кандуктар! У мяне кашалёк выцягнулі...

Пасажыры замітусіліся. Усім было непрыемна чуць такую навіну, бо няма горшага, калі ў калектыў чэсных людзей трапіць нягоднік, які робіць свае благія ўчынкі спадцішка.

— Такіх здарэнняў у маім вагоне даўно не было,— ска-

заў кандуктар.— Можа, вы самі згубілі яго. Пашукайце на падлозе.

Усе пасажыры, як па камандзе, пачалі ўглядацца пад ногі.

— Ды вось ён! — закрычала адна жанчына з кошыкам свежай гародніны. Яна стаяла на пляцоўцы амаль побач з Віцем.

Пацярпеўшы высокі грамадзянін у акулярах і ў зялёным капелюшы жвава падаўся наперад і падняў пад нагамі Віці стары пацёрты кашалёк. Ён тут жа разгарнуў яго і павесялеў:

— Дакументы цэлыя, а грошы сплылі...

Жанчына з кошыкам гародніны ўтаропілася на Віцю. Віця густа пачырванеў.

— Дык, можа, гэты хлапчук і выцягнуў? — сказала яна.— Трэба абшукаць яго.

Падышоў кандуктар з катушкай білетаў напагатове.

— Ваш білет? — спытаўся ён у збянтэжанага Віці.

Віця маўчаў, уцягнуўшы галаву ў плечы: дзе ж у яго той білет!

Трамвай якраз спыніўся на чарговай астаноўцы. Штурхаючы пасажыраў, безбілетны Віця рвануўся да выхада.

— Гэта кішэнны злодзей! — закрычалі і іншыя пасажыры, якіх Віця штурхаў пад бакі.— Трымайце яго!

Грамадзянін у зялёным капелюшы цяпер быў упэўнены, што грошы яго сапраўды ў Віці — бо чаго ж бы ён даваў драла на астаноўцы? Ён праціснуўся наперад, працягнуў доўгую руку з-за плячэй пасажыраў, схапіў Віцю за каўнер і вывеў з вагона.

Паклікалі паставога міліцыянера. Пацярпеўшы грамадзянін растлумачыў яму, што вось гэты зброддлівы хлапчук выцягнуў у яго з кішэні кашалёк, які потым падкінуў пад ногі без грошай.

Міліцыянер спакойна выслухаў пацярпеўшага і ўзяў пад казырок:

— Пойдзем у аддзяленне,— там разбяруцца.

Віця азірнуўся вакол, усе глядзелі на яго з пагардай і здзіўленнем: такі малы, а бач, чым займаецца!

— Ніякага кашалька я не браў...— шчыра заплакаў Віця.— І грошай у мяне няма. Вось глядзіце.

Ён вывернуў усе свае кішэні. З іх упалі на тратуар дзве рызінкі, штук пяць патронаў ад дробнакаліберкі і металічны танк у поўнай баявой гатоўнасці — з вежай і пушкай.

Сёй-той заўсміхаўся, а міліцыянер строга сказаў:

— Такія фокусы мы ведаем: з табою магла быць кампанія. Вось у аддзяленні ты і раскажаш, з кім краў і каму аддаў грошы.

Ён узяў Віцю за руку і павёў. За ім пайшлі грамадзянін у зялёным капелюшы і жанчына з кашом свежай гародніны як сведка.

У аддзяленні Віцем заняўся пажылы светлавусы капітан. Віця не раз сустракаў яго на вуліцы. Тады ён здаваўся яму самым лагодным чалавекам з вясёлай смяшынкай у шэрых вачах. Цяпер жа перад ім сядзеў нейкі надта сур'ёзны дзядзька.

— Што, на кражы папаўся? — спытаўся ён у паставога міліцыянера.

Паставы далажыў аб здарэнні. Капітан слухаў уважліва, сяды-тады пазіраючы на Віцю.

— Прыйдзецца, брат, пратакол скласці,— звярнуўся ён да Віці, калі паставы скончыў даклад.— Учынак ганебны, што і казаць. Нават слухаць непрыемна.

Капітан адпусціў паставога, а сам пачаў пісаць пратакол.

— Прозвішча? — спытаў ён у Віці.

— Бегунок,— слабым голасам адказаў Віця.

Запісаўшы прозвішча, імя і імя па бацьку, капітан нечакана для Віці спытаўся:

— У якой школе вучышся?

Прыйшлося сказаць і пра школу.

— Колькі двоек маеш?

— Дзве...— нехаця прызнаўся Віця.

— А чаму не пайшоў на заняткі, а ездзіш у трамваі ды яшчэ зайцам?

Тут ужо Віця зусім разгубіўся: як жа адказаць на такое пытанне? Прызнацца, што ён падмануў матку? Дык тады хто дасць веры, што ён не мае дачынення да кашалька і гаворыць праўду?

Віця панурыўся і цяжка засоп.

— Ну вось бачыш,— сказаў капітан.— Ты не пайшоў у школу. А чаму? Ясна: звязаўся, відаць, з благой кампаніяй і заняўся нячыстай справай. Дрэнна, малады чалавек, вельмі дрэнна.

— Я ехаў адзін,— зарумзаў Віця, выціраючы кулаком нос.— Усе хлопцы з маёй кампаніі ў школе. Чэснае піянерскае...

Капітан скупа ўсміхнуўся:

— Не відаць, каб ты быў піянер. Які ж ты піянер? Маеш дзве двойкі і бесклапотна ў вучэбны час раз'язджаеш у трамваях. Не, бацейка, не паверу, што ты піянер.

— Чэснае піянерскае! — сур'ёзна заспрачаўся Віця з капітанам.— Спытайце ў любога з нашага 4 «Б» — усе скажуць.

— Добра,— ахвотна згадзіўся капітан.— Я так і зраблю: прыйду ў клас і распытаюся ў тваіх сяброў, што ты за чалавек. А цяпер, таварыш Бегунок, можаш ісці гуляць, калі лянуешся вучыцца.

Усхліпваючы, Віця выйшаў з аддзялення. За ім пайшоў пацярпеўшы грамадзянін і жанчына-сведка.

На вуліцы яны разышліся ў розныя бакі.

Грамадзянін у зялёным капелюшы падаўся да трамвайнай астаноўкі. Па дарозе яму захацелася закурыць. Ён выняў з верхняй кішэні пінжака каробку «Казбека» і апусціў руку ў кішэню штаноў па запалкі. Разам з запалкамі ён дастаў цэлую кучу рублёвак. І тут ён успомніў...

Грамадзянін гэты быў чалавек рассеяны. Разлічыўшыся ў трамваі з кандуктарам, здачу ён паклаў у кішэню штаноў, а кашалёк сунуў за бакавую кішэню пінжака. Потым пасажыры совалі кашалёк нагамі, пакуль ён не апынуўся ў кутку, дзе стаяў безбілетны Віця.

Схапіўшыся за галаву, грамадзянін пабег назад у аддзяленне міліцыі.

### III

Сонца ўжо звярнула з паўдня, і Віця баяўся трапіць дамоў пазней за матку.

Падыходзячы да сваёй вуліцы, ён раптам убачыў здалёку дзве вельмі знаёмыя фігуры. Так і ёсць — гэта ж яго аднакласнікі Валодзя і Міхась! Сустрэча з імі нічога прыемнага яму не абяцала: яны ж пачнуць дапытвацца, чаму ён не быў у школе... Што ім сказаць?

Віця гатоў быў праваліцца скрозь зямлю.

Але на гэты раз скрозь зямлю яму правальвацца не прыйшлося. Ён убачыў збоку нейкі двор, абгароджаны густымі шчыкетамі, і, доўга не разважаючы, махнуў туды, каб схавацца за плотам.

«Вот пашанцавала!» — падумаў ён сам сабе, калі апынуўся за густымі шчыкетамі. А то, чаго добрага, мог зноў

у бяду трапіць, бо матку лягчэй было падмануць, чым Валодзю і Міхася.

Каб Віця быў у лепшым настроі, ён бы зараз хіхікаў у кулак ад задавальнення: лоўка выкруціўся! Але, вядома, такога настрою ў яго не было, і таму ён стаяў цішком ды паглядаў праз шчылінку на вуліцу.

— Гррр...— раптам пачуў ён побач.

Віця азірнуўся: перад ім, шчэрачы зубы, стаяў вялікі руды сабака з абвіслымі вушамі. Сабака, праўда, яшчэ не нападаў на яго, а толькі разглядаў падазрона — свой ён ці чужы? А можа, разважаў, за якую нагу лепш ухапіць няпрошанага госця. Хто яго ведае, што ён думаў і якія былі ў яго намеры.

Віця аж умлеў ад страху. Можна было б яшчэ ўцячы ад сабакі на вуліцу. Але ж там Валодзя і Міхась... Яны, відаць, падыходзяць ужо да гэтага двара. Трапіш з агню ды ў полымя!

І Віця замітусіўся па двары. Сабака вырашыў, што гэта сапраўды нейкі благі чалавек, і з брэхам кінуўся за ім. Так ён загнаў яго ў закутак, да дрывотнікаў, адгароджаных ад суседняга двара такімі ж густымі шчыкетамі.

Што было рабіць? Здацца на міласць рудога сабакі з абвіслымі вушамі ці паспрабаваць шукаць якога ратунку?

На другім канцы двара стаяў высокі чатырохпавярховы дом. Але ні дворніка, ні жыхароў нідзе не відаць было. Можа, закрычаць аб дапамозе?

І Віця, як кот, скокнуў на шчыкеты, пераваліўся цераз іх і... плюхнуўся ў бочку з вадою.

— А-я-яй! — заенчыў ён ад неспадзяванага халоднага душу.

— Гаў! Гаў! — басам адказаў яму сабака за плотам.

Віця сяк-так выкарабкаўся з бочкі, працёр вочы і ўбачыў, што ён апынуўся ў агародзе. Бочку з вадою, відаць, трымалі тут запаслівыя гаспадары для паліўкі град, на якіх ужо зелянела цыбуля, морква і ўсялякая іншая пятрушка. За агародам, з другога боку, відаць быў драўляны домік са шкляною верандаю.

Віця ніколі не быў агароднікам. Таму ён не вельмі разбіраўся, дзе разора, а дзе града, і шыбануў нацянькі да доміка, спадзеючыся знайсці там выхад на вуліцу. Аднак такое невуцтва яму моцна пашкодзіла. Не паспеў ён зрабіць і некалькі крокаў, як напярэймы яму з доміка выскачыла старая цётка з палкаю ў руках.

— Ты што гэта, хуліган, грады мне топчаш? — закрычала яна на ўвесь голас.— Я ж табе пакажу!

Збянтэжаны Віця павярнуў назад да бочкі. Заставалася хіба зноў скакаць цераз плот... Але ж там чакае яго руды сабака...

Выратавала Віцю тое, што ён быў спрытнейшы за цётку. Праз нейкі час яму ўсё ж удалося праравацца да доміка са шкляною верандаю, а там ён знайшоў фортку і выскачыў у вузкі зялёны завулак.

Мокры, змораны, з пабітымі аб бочку бакамі вярнуўся Віця дахаты.

Маткі дома не было. У Віці адлягло ад сэрца: хоць раз пашанцавала яму за сённяшні дзень!

Ён хутка пераадзеўся ў сухое, з'еў спехам кавалак хлеба, які здаўся смачным, і сеў за стол рашаць задачы.

Займацца ўрокамі было нялёгка. Цяпер Віця адчуваў сябе сапраўды хворым. Але ён не зважаў на хваробу і, пакуль вярнулася маці з Соняй, рашыў усе задачы ды ўзяўся за граматыку.

— Ну як твая галава? — спыталася маці, як толькі ўвайшла ў пакой.— Я ўвесь дзень так каялася, што паслухала цябе і не выпісала доктара.

— Нічога, перастала...— не адрываючы вачэй ад кніжкі, прамармытаў Віця. Ён ледзь стрымліваў сябе, каб не расплакацца. Яму хацелася кінуцца да маткі ў абдымкі і расказаць пра ўсё. Але расказ гэты быў бы для яе такі невясёлы, што лепш не гаварыць.

— Ну добра, што ўсё шчасліва абышлося,— парадавалася маці і пайшла на кухню гатаваць абед.

Да позняга вечара Віця не вылазіў з-за стала. Маці замілавана глядзела на яго і дзівілася: што з ім сталася? То, бывала, сілаю не прымусіш сесці за кніжкі, а то раптам гэтак прыліп да іх!..

— Ідзі ўжо спаць,— ганяла яна яго.— Заўтра зноў цябе не дабудзішся.

— Дабудзішся,— упэўнена адказаў Віця.— Ты толькі пабудзі мяне раней.

Назаўтра ён усхапіўся з пасцелі ад першага напамінку, чым зноў нямала здзівіў матку.

Паснедаўшы, Віця Бегунок не пайшоў, а пабег у школу.

*1953 г.*

# БЯРОЗКІ

## ХТО ПАЛАМАЎ БЯРОЗКІ?

Раніцай, перад пачаткам урокаў, Клава заглянула ў школьны сад: як там маюцца яе бярозкі? Цяпер яна не прапускае ніводнага дня, каб не наведаць іх.

Увосень бярозкі, вядома, не растуць. Яны толькі прывыкаюць да новага месца, а Клава тым часам прывыкае да іх. І Клава, і бярозкі чакаюць вясны.

«Якімі ж яны вырастуць, калі я скончу дзесяцігодку?— марыць Клава, любуючыся на маленькія бязлістыя хварасцінкі.— Напэўна, роўныя з садам, а можа нават і большыя...»

Побач з яе дзвюма бярозкамі тарчаць уздоўж плота яшчэ чатыры такія ж дубчыкі. Іх пасадзілі Клавіны сяброўкі Соня і Вера.

Гэта было з тыдзень таму назад. У калгасе пачаліся асеннія пасадкі новых садоў. Клаве таксама захацелася пасадзіць якое-небудзь новае дрэўца ў сваім садку. Вясною яна садзіла з маткаю кветкі ў агародчыку.

Клава сказала пра гэта бацьку.

— Сад наш і так загушчаны,— адказаў бацька.— Хопіць нам і гэтых дрэў.

Клава нахмурылася. Бацькаў адказ засмуціў яе.

— Можа, у школьным садзе месца знойдзецца,— параіў тады бацька.— Ён жа, здаецца, не вельмі густы ў вас. Ды і не канешне ж садзіць толькі пладовыя саджанцы. Пасадзі кусты або бярозкі. І гадуй іх сабе, калі маеш ахвоту. А дзе садзіць, гэта няважна: і тут наша зямля, і там наша. Дзе вырасце новае дрэва, там і добра. Важна, каб яно расло.

Клава так і зрабіла. Ды яшчэ падгаварыла і сваіх сяброўак. Разам яны збегалі ў гай, выкапалі па дзве невялічкія бярозкі і пасадзілі іх у школьным садзе. Вядома, ніхто ім не пярэчыў, а класная кіраўніца Людміла Сяргееўна, наадварот, нават пахваліла дзяўчатак:

— Добрую справу зрабілі. Малайцы!

...Клава падышла да плота, дзе былі пасаджаны бярозкі. Але што ж гэта? Ад яе бярозак не засталося і следу. І Сонінай адной бярозкі таксама не відаць.

Клава аж заплакала з жалю, быццам раптам страціла штосьці вельмі для яе дарагое.

Заплаканай прыбегла яна ў клас. Вера і Соня сядзелі ўжо за партамі, хоць званка на ўрок яшчэ не было. Клава расказала ім пра здарэнне з бярозкамі.

— Хто ж гэта мог зрабіць? — гадала Соня.

— Мусіць, нехта злосць на вас мае,— сказала Вера, бярозкі якой засталіся цэлымі.— Успомніце, з кім вы сварыліся...

— Я, здаецца, ні з кім не сварылася,— паціснула плячыма Клава.

— І я таксама,— адказала Соня.— Гэта хуліганства. Трэба Людміле Сяргееўне сказаць.

Людміла Сяргееўна паспачувала дзяўчаткам і прыняла самы шчыры ўдзел у пошуках невядомага злачынцы. Аднак знайсці вінаватага так і не ўдалося.

## ШКОДНІК ЗНОЙДЗЕНЫ

З усіх школьнікаў пятага класа, у якім вучылася Клава і яе сяброўкі, найбольш блізка прыняў да сэрца здарэнне з бярозкамі Вова Хмялеўскі. Ён бачыў, як дзяўчаткі садзілі бярозкі, як бегалі любавацца імі, і, праўду кажучы, нават зайздросціў ім. Ён і сам быў не супроць таго, каб далучыцца да юных садаводак. Але сказаць аб гэтым неяк пасаромеўся.

І вось цяпер Вову хацелася зрабіць нешта такое, каб паправіць справу і суцешыць дзяўчатак. І ён рашыў тайком ад іх пасадзіць новыя дрэўцы на месцы знішчаных.

Дачакаўшыся вечара, Вова збегаў у недалёкі гай, выкапаў там тры бярозкі і прынёс у сад. Ужо прыцемкам пачаў ён капаць ямкі. Зямля была мяккая, і Вова хутка справіўся з гэтай работай. Потым ён пасадзіў адну бярозку, другую... Паглядзеў на іх — і яны здаліся яму такімі ж самымі, як і тыя, што былі тут раней. Вова нават хітра ўсміхнуўся сам сабе, падумаўшы, як зарадуюцца дзяўчаткі, калі ўбачаць свае бярозкі на месцы. Гэта ж вельмі цікава: бярозкі зноў растуць! Вось будуць, мусіць, дзівіцца!..

І ён узяў у рукі трэцюю бярозку.

Але ў гэты час яго заўважыла школьная старожка цётка Палашка. Яна ведала аб паламаных бярозках і нават адчувала сваю віну за недагляд саду. А тут — на табе! Нейкі хуліган зноў арудуе ў садзе!

Цётка Палашка нарабіла крыку і, не разабраўшыся, чым займаецца Вова, прагнала яго прэч.

— Я ж табе пакажу, шкоднік ты! — раскрычалася яна на ўвесь сад.— Бач ты яго!..

Цётка Палашка была старожкай строгай, не патурала свавольнікам. Вова гэта ведаў і таму кінуўся наўцёкі без аглядкі.

А назаўтра цётка Палашка пахвалілася ўсім, што ёй, нарэшце, удалося злавіць шкодніка... Паводле яе слоў выходзіла, што Вова не толькі ламаў астатнія бярозкі, а нават выкопваў іх з карэннем... (Упоцемку яна не магла бачыць, што там рабіў Вова.)

Ці трэба казаць, як накінуліся на Вову Клава і яе сяброўкі. Ды і не толькі яны.

Вова паспрабаваў быў заікнуцца, што гэта было зусім не так. Але ніхто яму не паверыў.

— Дык схадзіце паглядзіце,— са злосцю сказаў Вова.— Ніводнай бярозкі я не зламаў...

Дзяўчаткі пабеглі ў сад. Паглядзелі — і сапраўды ўбачылі дзве новыя пасаджаныя бярозкі. Трэцяя ляжала збоку каля свежай ямкі...

Дзіва! Значыць, Вова гаворыць праўду. Але чаму ж тады ён садзіў гэтыя бярозкі, ды яшчэ тайком, нічога нікому не сказаўшы?!

— Бо ён, напэўна, сам і паламаў нашы бярозкі,— пачала здагадвацца Клава.— Гэта яго работа!

— Вядома яго! — сказалі Соня з Верай.

Цяпер яны не сумняваліся, што іменна Вова, а не хто іншы паламаў іх бярозкі.

Праўда, Вова не лічыўся ў класе благім вучнем, і ніхто не мог сказаць пра яго нічога кепскага. Але ж тут справа ясная. Чаго ж бы яму прыйшло ў галаву так сабе, без дай прычыны, садзіць новыя бярозкі на месцы паламаных? Відаць, пакаяўся ў сваім учынку...

І нават сама важатая атрада Валя Галенчык бездапаможна развяла рукамі, калі пачала разбіраць гэтую справу.

— Нічога не разумею,— дзівілася яна.— А ўрэшце, можа, і праўда, што зрабіў гэта Вова...

Памірыла ўсіх Людміла Сяргееўна.

— Вова зразумеў сваю памылку,— сказала настаўніца,— і мы яму павінны даравадь. Вядома, лепш было б, каб і Вова, і ўсе піянеры па прыкладу Клавы, Соні і Веры таксама пасадзілі дрэўцы і даглядалі іх. Сад у нас вялікі. І можна было б скрозь вакол яго пасадзіць маладыя бярозкі. З часам яны выраслі б і засланілі сабою пладовыя дрэвы ад ветроў. А ўявіце, які быў бы прыгожы наш сад — у вянку белых бяроз!.. Апрача таго, я думаю, што кожны, хто сам пасадзіць у гэтым вянку хоць адно дрэўца, не адважыцца ламаць іх.

Словы Людмілы Сяргееўны ўсхвалявалі вучняў. Сапраўды, чаму б не пасадзіць кожнаму адно дрэўца — прыгожую белую бярозку!

Важатая таксама задумалася над тым, што сказала Людміла Сяргееўна.

— А яшчэ не позна садзіць бярозкі? — раптам запыталася яна ў Людмілы Сяргееўны.

— Думаю, што не позна,— адказала настаўніца.— Вядома, лепш спытацца ў дзядзькі Карнея. Ён больш ведае садоўніцкую справу.

## У ПАХОД ПА БЯРОЗКІ

У выхадны дзень Валя павяла ўвесь свой атрад у гай: калгасны садавод дзядзька Карней запэўніў, што асеннімі пасадкамі займацца яшчэ не позна.

Дзень выдаўся сухі, пагодлівы. І хоць нізкае асенняе сонца не вельмі грэла, але з ім было ўсё ж весялей. Крамяны паўночны ветрык дзьмуў у твар, асвяжаў і бадзёрыў.

Абапал дарогі зелянела маладая густая рунь. Над ёй, высока ў небе, працяжна курлыкаючы, ляцеў журавліны вырай.

Атрад спыніўся, разглядаючы жураўліны ключ з старым павадыром наперадзе.

— Відаць, з поўначы ідуць,— сказала важатая.— Нашы ўжо даўно дзе-небудзь на поўдні Украіны папаску робяць. Першы жураўліны вырай я ўжо бачыла тыдні два таму.

Жураўлі нібы плылі ў небе, выцягнуўшы тонкія ногі і доўгія шыі, і толькі сяды-тады ўзмахвалі крылямі. Іхняе курлыканне нагадвала нейкую аднастайную і сумную песню. Відаць, гэта была песня развітання з роднымі мясцінамі, якія яны пакідалі да новай вясны.

— А куды яны ляцяць? — запыталася Соня.

— Туды,— махнула важатая рукой супроць сонца.— На поўдзень — у Афрыку.

— Дык гэта ж вельмі далёка ляцець ім,— паспачувалі піянеры.

— Нічога,— адказала важатая.— Жураўлі птушкі дужыя, і ляцяць яны досыць шпарка.

Узнікалі ўсё новыя і новыя пытанні, і важатая ўсю дарогу расказвала піянерам пра жураўлёў — што сама ведала пра іх і што чула ад старых людзей.

Гай сустрэў дзяцей непрыветна. Парадзеў ён за апошні час — асыпаўся, агаліўся. Толькі дзе-нідзе яшчэ зелянелі нізкарослыя кусты ды маладыя алешыны. Лісце ўжо адслужыла сваю службу, назапасіла ўдосыць за лета дрэвам сонечнай энергіі, падрыхтавала іх да халоднай зімоўкі. Цяпер яму рабіць няма чаго. Вось яно і сыплецца на дол, усцілаючы гай густым рознакаляровым дываном.

І шчэбету птушынага больш не чуваць у гаі. Ды і саміх птушак не відаць. Дзятлы тут не водзяцца, а ўсе іншыя дробныя птушкі, што глушылі гай сваімі песнямі ўлетку, паляцелі ў вырай. Вароны і галкі падаліся бліжэй да зжатых палеткаў, да жылля.

У гаі раслі розныя лісцяныя дрэвы, і сярод іх траплялася шмат бярозак — і малых, і вялікіх. А адна мясцінка на ўзгорку проста аж бялелася ад бярэзніку. Сюды і прыйшоў атрад.

Важатая расказала, як трэба выкопваць бярозкі, каб яны потым добра прыняліся.

— Галоўнае,— тлумачыла яна,— старайцеся не псаваць карэньчыкаў. Лепш, калі на іх застануцца камячкі зямлі. З сваёю зямлёю добра прыжываецца на новым месцы любое дрэва.

— Мы так і рабілі,— пахвалілася Клава.— Я гэта ведаю. Мяне мама вучыла, як садзіць кветкі. А гэта ж усё роўна.

Важатая засмяялася.

— Ну, вось у нас і свой вопытны садавод ёсць. А цяпер за работу! — падала яна каманду.— Глядзіце ж, гэта вашы бярозкі. Кожны потым будзе даглядаць іх і адказваць за іх перад школай і атрадам.

Атрад рассыпаўся па бярэзніку. Усім хацелася выбраць самыя лепшыя саджанцы. Але бярозак было шмат, і ўсе

яны здаваліся роўнымі. Як жа выбраць з іх самую лепшую?

— Клавачка! — чуліся галасы дзяўчатак.— Глянь сюды. Гэта — добрая?

— Добрая,— упэўнена адказвала Клава, якую усе — і дзяўчаткі, і хлопчыкі — лічылі цяпер за аўтарытэт у садоўніцкай справе.— Усе добрыя. Капайце.

## БЯРОЗАВЫ ВЯНОК

Шчаслівыя і задаволеныя вярталіся назад уладары маладых бярозак. Вецер цяпер дзьмуў ім у плечы. Ісці было лёгка, і важатая заспявала пра вясёлае турысцкае звяно. Усе дружна падхапілі песню. Потым пайшлі другія песні — паходныя, бадзёрыя, як сам гэты малады атрад, што крочыў між зеленеючых палеткаў маладой руні з маладымі бярозкамі ў руках.

Гэтак з песнямі дайшлі і да школы.

Пачуўшы песню, насустрач атраду выбеглі малыя. Яны ўбачылі ў піянераў бярозкі і закрычалі наперабой:

— Дайце нам па адной!

Атрад спыніўся. Важатая падышла да малых:

— Навошта вам бярозкі?

— Гуляць...

Важатая падумала крыху, нібы штосьці ўспамінаючы, потым нечакана запыталася ў іх:

— Дык гэта, напэўна, вы паламалі тыя бярозкі, што Клава пасадзіла?

— Не,— заківаў галавою самы бойкі з малышоў, кавалёў сын Петрык.— Мы не ламалі.

— А хто ж ламаў? — дапытвалася важатая, здагадваючыся, што паламаныя бярозкі, відаць, справа вось гэтых дашкольнікаў.

— Піліпка з Юзікам...— адказаў Петрык і спалохана зірнуў на сваіх сяброў: ці добра ён зрабіў, што сказаў так? Але ні Піліпкі, ні Юзіка сярод іх не было.

— Чый Піліпка?

— Цёткі Жэні.

— А Юзік чый?

— Максімаў.

— Навошта ж яны ламалі?

— Гуляць у коні,— бойка растлумачыў Петрык.— Я ў іх прасіў, каб мне далі адзін дубчык, дык яны не далі.

Піянеры спачувальна паглядзелі на Вову Хмялеўскага, а важатая сказала трывожным голасам:

— А ведаеце — гэта сур'ёзная небяспека. Малыя зноў могуць ператварыць нашы бярозкі ў конікі... Фантазія ў іх багатая.

— Дык што ж рабіць? Няўжо праз іх нельга і сады садзіць? — пачалі абурацца піянеры.

— Ну, у садах яны, бадай, такой шкоды не наробяць,— адказала важатая.— Там садзяць рослымі саджанцамі. Для гульні ў конікі яны нязручныя. А нашы бярозкі якраз падыдуць...

Піянеры прыціхлі.

— А мы вось што зробім,— сказала Валя.— Памятаеце, што гаварыла Людміла Сяргееўна: у таго, хто пасадзіў дрэўца сам, не падымецца рука знішчыць яго...

— Памятаем! — адгукнуўся за ўсіх Вова.— І мы зусім не збіраемся знішчаць свае дрэўцы.

— Я пра вас гэтага і не думаю,— замахала рукамі Валя.— Я і тады не верыла, што гэта ты зрабіў... Я думаю зараз пра гэтых вось дашкольнікаў. Чаму б нам не ўцягнуць і іх у нашу работу? Няхай садзяць і даглядаюць разам з намі. Згодны?

— Згодны! Згодны! — дружна адказалі піянеры.

— Бяжыце, малыя, клічце сваіх сяброў! — загадала Валя.— Будзем сад садзіць.

Малыя рассыпаліся як гарох і неўзабаве прывялі сюды цэлы атрад дашкольнікаў. Знайшлі і Юзіка з Піліпкам.

Спачатку важатая крыху пажурыла малых шкоднікаў, а потым сказала, для чаго іх паклікалі.

І Юзік з Піліпкам узяліся дапамагаць піянерам.

Кожны з малых запамінаў, якое дрэўца ён садзіў, і, здаецца, кожны пачынаў разумець, якую важную работу ён робіць.

Увечары, калі скончылі пасадку бярозак, Клава падышла да Вовы.

— Ты не злуешся на мяне? — голасам вінаватай запыталася яна.

Вова весела ўсміхнуўся:

— Зусім не. Я нават вельмі рады, што ўсё так здарылася, цяпер у нас сапраўды вырасце цэлы бярозавы вянок вакол саду.

*1953 г.*

# НА РЫБАЛЦЫ

(Расказ юнага рыбалова)

Мой таварыш Сяргей вельмі ж вялікі ахвотнік да рыбалкі. Уцягнуў ён у гэтую справу і мяне. Ды так уцягнуў — па самыя вушы! Недарма ж кажуць: «З кім павядзешся, ад таго і набярэшся».

Так яно і ёсць.

Аднойчы прыходзіць ён познім адвячоркам да мяне.

— Хадзем, Юзік, рыбачыць,— кажа.

— Ці не ўночы ты збіраешся рыбачыць?..— засмяяўся я.

— А што ж? Уночы яшчэ лепш.

І ён расказаў мне, што ўсе вядомыя рыбакі так і робяць. Павудзяць крыху звечара, потым звараць юшку, пасядзяць гадзіны дзве каля агню — колькі тае ночы ўлетку! — і чуць дзень за работу.

— На захадзе сонца і перад усходам лепш рыба бярэцца,— растлумачыў Сяргей.— А калі ты баішся, дык я другога каго падгавару.

— Хто баіцца? — пакрыўдзіўся я.— Можа, сам баішся? Хадзем!

Узялі мы вуды — і на чарвяка, і на жыўца, кацялок для юшкі, сачок (на ўсякі выпадак) і рушылі на рыбалку.

Было ў нас на рэчцы адно аблюбаванае і абжытае месцейка — сухі высокі бераг, з абрывамі, з густымі вербамі. Добра там: ад ветру зацішна, ад сонца і ад дажджу затульна. Пра гэтае месца мы нікому з рыбакоў не хваліліся, бо, апрача ўсяго, там лепш чым дзе бярэцца рыба. Можа, гэта таму, што мы не шкадуем ёй самай смачнай прынады.

Прыйшлі мы на свой бераг, накапалі чарвей, налавілі на водмелі печкуроў для жыўца. Іх мы пусцілі ў бляшанку з вадою. Атрымаўся ў нас быццам свой рыбацкі акварыум.

Тым часам сонца ўжо кацілася за лес. На другім беразе, дзе густа рос алешнік і балотная лаза, пачуўся ражок пастуха, зарыкалі каровы.

— Бачыш, Мікіта ўжо дадому падганяе,— сказаў Сяргей.— Цяпер самая лоўля пачнецца.

Мікіта — наш калгасны пастух. Стары ён ужо чалавек

і ў апошнія гады дрэнна стаў бачыць. Але з статкам разлучацца не хоча. Кажуць, што ён пасе жывёлу з малых гадоў. Усе мы любім Мікіту. Ніхто лепш за яго не ўмее рабіць розныя дудачкі і свісцёлкі. І ўсе гэтыя дудачкі і свісцёлкі ён аддае малым.

Неўзабаве ражок пачаў цішэць.

Мы насадзілі жыўцоў на кручкі і закінулі вуды ў глыбокай затоцы. Самі паселі пад вербамі, стаіліся, чакаем.

Не мінула і хвіліны, як паплавок маёй вуды з сілаю даў нырца. Толькі кругі ад яго пабеглі па чыстай люстранай вадзе. У мяне аж ёкнула ўсярэдзіне. Відаць, нейкая дужая рыбіна. Ці не сом? Тут яны водзяцца, і мы іх лавілі ўжо, але траплялiся ўсё невялікія. А гэты тузануў, як пудовы.

Апамятаўшыся, я пацягнуў за вудзільна. Ды дзе там! Валасяная лёска напялася, як струна, а само вудзільна сагнулася ў дугу...

— Сяргей,— шапчу я,— бяжы сюды!

Сяргей маўчыць, не зводзячы вачэй з свайго паплаўка, толькі рукой махнуў — не перашкаджай!

Я яшчэ раз патузаў — і дзіва: вудзільна раптам выпрасталася, а паплавок з лёскай выскачылі наверх...

Выцягнуў вуду, а яна пустая — без печкура і без кручка!

Збянтэжаны, я гляджу на Сяргея: чаму ён не прыйшоў на дапамогу! Аж бачу, ён таксама тузаецца з вудай.

Я падбег да яго. Сяргей падцягнуў ужо лёску амаль да самага берага.

— Бяры сачок! — загадаў ён мне.

Я схапіў сачок, ускочыў у ваду (ля самага берага тут неглыбока: па калені, не больш) і ўбачыў побач з сабою доўгую цёмную спіну шчупака. Шчупак ужо, відаць, змарыўся і не кідаўся ў бакі. Злаўчыўшыся, я падхапіў яго сачком і павёў па вадзе разам з лёскай да берага.

Хутка шчупак ляжаў на траве. Сяргей так радаваўся сваёй удачы, што аж танцаваў вакол яго.

— Ну, не казаў я, што цяпер лепш рыба бярэцца? — хваліўся ён.

Я расказаў пра сваю няўдачу.

— Правільна,— заківаў галавою Сяргей, разглядаючы маю вуду.

— Што правільна?

— Шчупак перагрыз валасню. А на маёй вудзе канец лёскі драцяны — яго ні адна рыба не адкусіць.

Я пашкадаваў, што так здарылася, і пачаў прывязваць да лёскі другі, запасны, кручок.

У гэты час я пачуў на другім беразе ракі нейкі гук. Прыслухаўся — быццам карова рыкае. Я сказаў Сяргею. Ён таксама пачаў прыслухоўвацца.

— Канешне, карова,— згадзіўся Сяргей.— Мусіць, забыў яе Мікіта.

— Дык чаму ж яна дадому не ідзе?

— А і праўда! — кажа Сяргей.— Што яна — дурная: дарогі не ведае?

— А можа, якая зайздросная — дня не хапіла, дык надумалася на начлег застацца, як мы з табою...— засмяяўся я.

Карова парыкала і сціхла.

Зара на захадзе патухла. Зрабілася цёмна. Толькі рака блішчыць, як шкло. У ёй закалыхаліся першыя зоры. На ўсходзе пачаў праясняцца малады месяц. Ціхата навокал такая, аж вусцішна. Але мы ўдвух, і нам не страшна.

Больш нічога мы не злавілі і ўзяліся наладжваць начлег. Расклалі касцёр з сухіх карчажын і галля, абскрэблі шчупака ды пачалі варыць юшку.

За рэчкай зноў ціха зарыкала карова.

— Што за ліха? — кажу я.— Яна на тым жа самым месцы...

Сяргей моўчкі паварушыў палкай сухую карчажыну на вогнішчы. З-пад яе з трэскам вырваўся сноп іскраў. Я адскочыў убок.

— Асцярожней, у кацялок насыплецца...

— Нічога, смачней будзе,— усміхнуўся ён. Потым сказаў, кіўнуўшы галавою ў бок рэчкі: — Ці не ўгразла яна? Там ёсць глыбокія стругі [1]. Мікіта мог не заўважыць. Пойдзем паглядзім.

Пакінуўшы касцёр, мы падаліся да кладак і там перайшлі рэчку.

Неўзабаве па гуку мы сапраўды знайшлі карову. Праўда, не старую, а цялушку — маю былую падшэфную, Лысуху! Яна ляжала ў струзе, толькі галава і спіна тарчалі на паверхні.

— Лысачка, Лысуха! — азваўся я.— І як жа гэта цябе так загнала сюды?

Лысуха ў адказ жаласна зарыкала, выцягваючы галаву.

---

[1] Струга — бездань, прорва.

Лысуху я ведаю з першых дзён яе жыцця. Я тады вучыўся ў пятым класе. Старэйшыя нашы хлопцы бегалі на фермы даглядаць маладняк. Мне таксама хацелася далучыцца да іх. Праўда, я марыў узяць шэфства над жарэбчыкам. Але ўсіх жарэбчыкаў расхапалі сабе шасцікласнікі і сямікласнікі. Важатая параіла мне схадзіць на малочную ферму да дзядзькі Васіля. Я пайшоў. Здарылася якраз так, што за дзень да гэтага ў лепшай на ферме каровы Лысухі нарадзілася цялятка — таксама з лысінкай на лбе. Я і стаў шэфам гэтага цяляці. Цяпер Лысуха вырасла і ходзіць у агульнай чарадзе, а я даглядаю новага падшэфнага — пярэстага бычка.

І вось гэтая самая мая падшэфная Лысуха апынулася зараз у такой бядзе.

Мы паспрабавалі падысці да яе бліжэй, але не змаглі: травяністы грунт прарываецца і ногі грузнуць у дрыгву.

— Трэба галля наламаць,— параіў Сяргей.— Бо так мы да яе і не дaступімся.

Наламалі мы ахапкаў са тры алешніку. Паслалі яго, зрабілі грэбельку. А далей што?

— Пацягнем за рогі,— кажу я.

Сяргей круціць галавою:

— Вельмі ж глыбока засела...

— Можа, хоць на галлё выцягнем,— разважаю я.— Яна ж застудзіцца тут. Ужо з гадзіну, мусіць, сядзіць. І ніхто не шукае...

Ухапіліся мы за кароткія вострыя рожкі, пачалі цягнуць. Краклі, краклі, а Лысуха ні з месца. Цяжкая ўсё ж.

Нарэшце страцілі ўсялякую надзею.

— Прыйдзецца дамоў бегчы, паклікаць каго,— кажа Сяргей.— Нам самім усё роўна не вырваць яе з гразі. А калі нават і вырвем, дык да сухога не дацягнем. Па галлі ж яна не пойдзе — зноў угрузне. Тут вяроўкі патрэбны.

— Ну што ж. Калі няма іншай рады — трэба бегчы.

Але толькі адышліся мы ад стругі, як Лысуха пачала жаласна рыкаць і рвацца. Відаць, не хацела, каб яе пакідалі людзі ў бядзе.

Шкада нам стала яе. Мы вярнуліся.

— Ну, чаго равеш? — пачаў я ўгаварваць Лысуху.— Мы толькі дадому збегаем. Для цябе ж стараемся.

— Му-у-у,— адказала мне Лысуха і павяла ў бакі вострымі рожкамі.

Вось бяда!

— Бяжы хіба адзін,— кажу я да Сяргея.— Я тут пабуду. Яна пры мне і не рыкне.

— А не баішся адзін?

— Вот яшчэ! — падхрабрыўся я.— Можа, ты баішся адзін бегчы? Тады іншая справа.

Я хацеў дапячы яму за ранейшае: вось цяпер і ўбачым, хто баіцца!

Сяргей нічога не адказаў і пабег.

Але як толькі перасталі шамацець у кустах яго крокі, храбрасць пачала пакідаць мяне. Лёгка было сказаць — не баюся!

Адчуўшы сябе адзінокім, я пачаў насцярожана прыслухоўвацца і ўглядацца ў цёмныя кусты. Каго я баяўся — хто яго ведае. Ноч, цішыня, толькі недзе ў вёсцы брэшуць сабакі... Агонь наш на тым беразе даўно патух, юшка, відаць, зварылася і цяпер стыне. Я адчуваю, што і мне робіцца холадна. Світка мая засталася ля кастра. Можа, збегаць па яе? Але ж Лысуха не пусціць. Яна пры мне сапраўды спакойная. Я падыходжу да яе, гладжу рукою шыю, чухаю за вушамі, як раней, калі даглядаў яе на ферме. Лысуха адказвае на маю ласку ціхім спакойным рыканнем.

— Нічога, нічога, Лысуха, усё будзе добра. Не трэба баяцца.

Апошнія словы я гавару больш да сябе, чым да Лысухі.

Потым я нарваў каля стругі жменьку травы. Якая там была трава — добрая ці дрэнная? — напацёмку не разбярэш. Але Лысуха пачала жаваць. Хутчэй за ўсё, рабіла гэта, каб не пакрыўдзіць мяне.

Раптам яна перастала жаваць, моцна затузалася і трывожна зараўла...

Я аж напужаўся.

— Што з табою, Лысуха?

Я пачаў чухаць яе за вухам, а яна ўся калоціцца і ўсё глядзіць у адзін бок.

— Што ты там убачыла?

Зірнуў і я ў той бок. І... чуць сам не зароў: крокаў за дваццаць ад нас з кустоў свяціліся два агеньчыкі, быццам светлячкі. Ды я ведаю — не светлячкі гэта... Я ніколі яшчэ не бачыў жывога ваўка, але не раз чуў, як гаварылі, што воўчыя вочы ўночы свецяцца. Вось і засвяцілі яны мне! Аж цёмна ўваччу ад іх стала.

Я хацеў крычаць, клікаць на дапамогу. Ды не мог адважыцца. Думаю, нараблю крыку, а ён на мяне кінецца. Стаю здранцвелы і пазіраю на два вугольчыкі ў цёмных кустах.

Воўк таксама стаіць на тым жа месцы. Можа, мне здаецца ўсё гэта? Праціраю вочы. Не, не здаецца. Але чаму ж ён стаіць? Ага, думаю, відаць, я перашкаджаю яму кінуцца на Лысуху.

Тут я ўспомніў, што ў мяне ў кішэні ляжыць складаны нож. Я дастаў яго, расшчапіў і неяк адразу пасмялеў. Стаю з нажом і думаю: «Не аддам яму Лысухі, хоць бы што!»

Потым я ўспомніў, што ваўкі агню баяцца. Запалкі былі пры мне. Я выняў іх, чыркнуў адну. Гляджу, вугольчыкі зніклі. Эге, вось дзе для цябе страх!

Але зарадаваўся я рана. Праз хвіліну вугольчыкі зноў засвяціліся, толькі ўжо з другога боку. Тыя ці не тыя? А што, калі іх тут цэлая зграя?

Я зноў чыркнуў запалку. Вугольчыкі і на гэты раз прапалі.

І гэтак я чыркаў запалкі, пакуль не спаліў усе. А воўк усё круціцца вакол стругі. Вельмі ж, відаць, яму не хацелася ад цялушкі адракацца.

Не ведаю, чым бы ўсё скончылася, каб не набеглі нашы — Сяргей, дзядзька Васіль, стары Мікіта.

Лысуху хутка выцягнулі. Яна крыху паляжала, а потым устала ды пайшла, хістаючыся, знаёмай дарогай у калгас. Дзядзька Васіль і пастух Мікіта падзякавалі нам і падаліся ўслед за цялушкай, а мы з Сяргеем рушылі на свой бераг.

Па дарозе я пачаў расказваць Сяргею пра ваўка, а ён смяецца:

— Гэта табе ад страху здалося! Я ж казаў, што адзін будзеш баяцца.

Так і не паверыў.

Касцёр наш патух. Пакаштавалі юшку, а яна сырая.

— Давай запалкі,— кажа Сяргей,— трэба новы касцёр распаліць.

Я падаў яму пусты карабок. Сяргей пашкрэбаўся ў ім:

— А дзе ж запалкі?

— Няма,— кажу,— усе спаліў, як ваўка адганяў.

Так і не давялося нам паспрабаваць сваёй першай у жыцці юшкі на начной рыбалцы.

Была ўжо поўнач. На небе ззялі густыя зоры, сярод

якіх мы лёгка знайшлі знаёмых нам Мядзведзіц. Месяц стаяў над галавой. Навокал панавалі ноч і цішыня. Усё жывое спала. Нават брэху сабак не чуваць было.

Мы наламалі галля, паслалі пасцель і пaляглі, накрыўшыся світкамі.

Але заснуць не маглі. Я ўсё расказваў пра ваўка. Праўда, цяпер я яго зусім не баяўся: удвух мы б далі яму рады! Апрача таго, Сяргей, відаць, усё ж смялейшы за мяне, бо ўсё жартаваў з маёй прыгоды. А можа, гэта таму, што ён сам не бачыў тых жывых вугольчыкаў?

*1953 г.*

# НАВІЧОК

## I

Ну вось, нарэшце, і настаў першы дзень новага школьнага года!

Ужо з тыдзень, як Міша пачаў рыхтавацца да гэтага дня. Бо, што ні кажы, дзень гэты ў яго жыцці не зусім звычайны: ён ідзе ў пяты клас! А там і новыя настаўнікі, і новыя прадметы...

Цяпер ён ужо, можна сказаць, сапраўдны сталы вучань. Гэта адчувае не толькі сам Міша, а і яго бацькі. Маці пашыла яму новы шарсцяны касцюм, а бацька даў грошай і выправіў яго аднаго ў магазін купляць сабе падручнікі.

Дзіва што: ён жа ўжо не якая блазнота, і яму смела можна даручыць такую важную справу!

Маці кажа, што Міша вельмі вырас за апошняе лета: усе старыя касцюмы яму ўжо цесныя, а калашыны дык падняліся аж вышэй шчыкалатак, хутка да каленяў дапаўзуць...

І бацька так кажа. Можа, гэта таму ім так здаецца, што Міша ўсё лета не быў дома: першыя дзве змены ён правёў у лагеры, а потым гасцяваў на вёсцы ў дзеда і бабы. І вырас, і нагуляўся як мае быць.

Сёння Міша ўстаў раней, хоць спяшацца са зборамі не было патрэбы: усё было сабрана яшчэ ўчора. Ён толькі нецярпліва паглядаў на гадзіннік і, калі прыйшоў час, падаўся ў школу.

Горад ужо даўно абудзіўся. Весела званілі трамваі, з шумам імчаліся па вуліцах машыны, людзі спяшаліся на работу. На рыштаваннях новых дамоў у руках муляраў мільгалі кельні са свежым растворам. Стрэлы высачэзных пад'ёмных кранаў узнімалі ўгору цэлыя пляцоўкі, нагружаныя цэглай.

Углядаючыся ў новыя пабудовы, Міша дзівіўся, як выраслі яны за лета: там, дзе вясною яшчэ толькі закладвалі фундамент, цяпер узводзяцца чацвёртыя і пятыя паверхі, а там, дзе высіліся гатовыя сцены, стаяць атынкаваныя дамы з прыгожымі балконамі, і ў шырокіх свет-

лых вокнах прасвечваюцца ўзорыстыя цюлевыя фіранкі. Значыць, тут ужо людзі жывуць.

Міша дайшоў да трамвайнай астаноўкі. Адгэтуль школа, у якой ён вучыўся, была ўжо не так і далёка. Можна дайсці і пехатою, але сёння хацелася быць там хутчэй, і ён сеў у трамвай.

У вагоне, як звычайна ў такі час, было цеснавата. Міша хутка прабраўся наперад і спыніўся недалёка ад выхада.

На пярэдняй лаўцы, справа, побач са старымі бабулямі, сядзеў незнаёмы яму хлапец з віхрастым бялявым чубам і з школьнай сумкаю за плячыма. З-пад каўняра расшпіленага зверху пінжака відаць быў піянерскі гальштук. Міша звярнуў на хлапца ўвагу таму, што той вельмі ж заўзята лузгаў семечкі, сплёўваючы іх проста пад ногі, на падлогу. Спачатку Міша падумаў, што гэта, напэўна, унук адной з бабуль, але потым, мяркуючы па тым, як бабулі скоса паглядвалі на хлапца з семечкамі і незадаволена круцілі галовамі, ён вырашыў, што школьнік гэты, відаць, едзе адзін і ніякага дачынення да старых не мае.

«Ну і піянер...» — паморшчыўся Міша.

А калі нарэшце бялявы хлапец запстрыкаў семечкамі яму пад ногі, Міша не стрымаўся:

— Перастань пляваццa! — сказаў ён яму строгім голасам.— Знайшоў месца для семечак...

Бялявы хлапец ганарыста бліснуў вачыма, шмаргануў носам і, нічога не сказаўшы, адвярнуўся да акна. Бабулькі, што сядзелі побач, таксама неспакойна заварушыліся.

— А яшчэ школьнік! — сярдзіта паківала галавою адна з іх.— Расселся, як у сябе дома, і смеціць. Гэта цябе так у школе вучаць?

— Трэба кандуктара паклікаць — няхай выганіць яго! — сказала другая бабуля.

— У школе гэтаму не вучаць,— заступіўся Міша за гонар школы.— Там за гэта яго не пахваляць.

Бялявы хлапец нарэшце здаўся — перастаў грызці семечкі.

На чарговым прыпынку ўвайшлі новыя пасажыры. Побач з Мішам спыніўся старэнькі дзядок з палкаю ў руках. Відаць, ішоў ён да прыпынку здалёку, бо змарыўся і цяжка дыхаў, шукаючы вачыма вольнага месца.

Адна з бабуль скоса паглядзела на бялявага хлапца і сказала:

— Малады чалавек, саступі месца старому.

«Малады чалавек» моўчкі панурыў галаву і пазіраў на падлогу.

— Ну вось бачыш, якія яны — школьнікі! — зноў са злосцю сказала другая бабуля ўжо да Мішы.— А ты кажаш — у школе гэтаму не вучаць...

Яна тут жа паднялася з сваёю кашолкаю:

— Садзіся, стары, я пастаю, мне ўжо недалёка...

Дзядок рашуча замахаў рукою:

— Нічога, нічога, не турбуйцеся! Няхай яму сорамна будзе.

Услед за бабуляй пачалі ўставаць і іншыя, хто сядзеў блізка да пярэдніх лавак. Кожны прапанаваў дзеду сваё месца. Але той усім дзякаваў і ўсё стаяў каля ўпартага бялявага хлапца.

Міша ўзгарэўся, крануў хлапца за плячо.

— Ды ўстань жа ты, цябе ж просяць...

— А табе якая справа? — агрызнуўся той, неахвотна ўстаючы з лаўкі.

Дзед сеў. Паселі і ўсе іншыя. Бабулі супакоіліся. Толькі Міша пасля ўсяго, што адбылося, ніяк не мог супакоіцца. Яму хацелася нешта зрабіць, каб дапячы гэтаму невядомаму яму грубіяну.

— Ты ж — піянер,— паціху сказаў Міша, які апынуўся цяпер побач з бялявым хлапцом.

— Калі ты будзеш маім важатым, тады і выгаварвай...— злосна адказаў хлапец.

— З якой ты школы?

— З якой трэба...

— Ну, добра,— адвярнуўся Міша.— Я даведаюся. І... скажу важатаму!

Гэтыя словы вырваліся ў Мішы так сабе, з гарачкі: проста нешта падобнае ён мусіў сказаць, каб супакоіць сябе. Бо адкуль жа яму даведацца, хто гэты грубіян і дзе ён вучыцца? Школ у горадзе нямала, а піянерскіх атрадаў яшчэ больш.

Але, як гэта часта бывае, здарылася так, што на трэцяй астаноўцы бялявы хлапец, выставіўшы Мішу язык на развітанне, выйшаў з вагона трамвая. Мішу таксама трэба было выходзіць на гэтай астаноўцы. «Тым лепш,— выра-

шыў ён,— значыць, яго школа, відаць, недзе тут блізка, можа нават побач з нашай...»

І Міша крадком падаўся за ім.

Бялявы хлапец падняўся на ўзгорак, потым раптам павярнуў направа, у двор... Мішавай школы.

II

Можна сабе ўявіць, як здзівіўся Міша, калі яго незнаёмы спадарожнік па трамваі зайшоў у пяты «Г» (Мішаў!) клас і сеў на вольнае месца на задняй парце!.. Значыць, яго і шукаць не трэба. Але адкуль жа ён такі ўзяўся?

Неўзабаве ўвайшла класная кіраўніца Вера Сямёнаўна. Яна павіншавала вучняў з новым навучальным годам, пажадала ім добрых поспехаў і нарэшце зрабіла пераклічку па спісу.

Выявілася, што ў класе было некалькі новенькіх — з іншых школ, і сярод іх знаёмы ўжо Мішу Валодзя Дудзік.

Пачаліся заняткі. Валодзя трымаў сябе так, нібы ніколі да гэтага і не сустракаўся з Мішам. Ды і сам Міша перастаў думаць аб прыкрым здарэнні ў трамваі: можа, гэта проста так сабе ён дурасліваў? Ці варта гаварыць аб гэтым з важатай?

Але назаўтра Мішу зноў давялося пасварыцца з Валодзем Дудзікам. На вялікім перапынку Валодзя нахабна пазаціраў «класы» дзяўчатак-першакласніц. Малыя нарабілі крыку, а Валодзя падскочыў да адной дзяўчынкі, што бегла па двары, і падставіў ёй «ножку»... Дзяўчынка паваліліся. Валодзя зарагатаў ад удалага штукарства і памчаўся ў школу.

Міша ўсё гэта бачыў з ганка. Дык вось які наш навічок! Злосць, яшчэ большая, чым у трамваі, ахапіла Мішу. Ён пераняў Валодзю каля дзвярэй і схапіў яго за руку.

— Чаму ты гэта зрабіў? — зачырванеўшыся, крыкнуў Міша.

Валодзя сумеўся, натапырыўся, як вожык, затузаўся.

— Я цябе не чапаю! — піскнуў ён праразлівым тонкім галаскам.— Пусці!

— Дык я цябе хачу зачапіць,— сур'ёзна сказаў Міша.— Я цябе ўжо добра ведаю...

— А я дам здачы, калі зачэпіш,— яшчэ больш натапырыўся Валодзя, хоць сам увесь час і пaглядаў на дзверы.— Ты думаеш, што я новенькі, дык мяне можна крыўдзіць...

— Крыўдзіць я цябе не збіраюся,— сказаў Міша, выпускаючы яго руку.— А тое, што ты новенькі, дык гэта не адгаворка.

Валодзя злосна чмыхнуў і пабег у школу.

III

Раніцай, да пачатку ўрокаў, вучні сабраліся на калідоры каля свежай насценгазеты. Адны чыталі заметкі, другія цікавіліся малюнкамі. Асабліва ўдалыя былі змешчаны малюнкі на Валодзю Дудзіка. Хлопцы аж не маглі ўстрымацца ад смеху, разглядаючы іх.

Неўзабаве на калідоры паказаўся і сам Валодзя.

— Глядзі, глядзі, як цябе размалявалі! — пацягнуў Валодзю да газеты Сеня, з якім ён сядзіць за адной партай.

— Дзе? — спалохана зачмыхаў Валодзя, утаропіўшыся ў газету.

— Ды вунь, аслеп ты, ці што — сябе не бачыш! — ткнуў пальцам Сеня на верхні малюнак.

Валодзя ўбачыў каляровы малюнак: у трамвайным вагоне сядзіць нейкі неахайны хлапчук з віхрастым чубам (шмат большым, як у Валодзі) і грызе семечкі, а каля яго стаіць старэнькі дзядок з палачкаю... Пад малюнкам роўным разборлівым почыркам напісана: *«Валодзя Дудзік у трамваі...»* Ніжэй быў новы малюнак: той жа віхрасты хлапчук падстаўляе «ножку» малой дзяўчынцы і подпіс: *«Валодзя Дудзік у школе...»* А яшчэ ніжэй прыпіска: *«Замалёўкі з натуры Мішы Вярбіцкага»*.

Валодзя густа пачырванеў, а хлопцы справілі дружны рогат.

— Пазнаеш сябе? — тармасіў яго за плячо Сеня.— Герой — нічога не скажаш! А яшчэ са мною за адну парту сеў...

— А як дакладна ты, Міша, адмаляваў яго! — хвалілі хлопцы Мішавы мастацкія здольнасці.— Як выліты.

Вядома, гэта было далёка не так, але ўсім здавалася, што Валодзеў партрэт у насценгазеце вельмі падобны на арыгінал.

Валодзя спачатку разгубіўся, потым задзірыстым пеўнем падскочыў да Мішы:

— Я на цябе таксама напішу і намалюю!..

— Ну і напішы сабе,— спакойна адказаў Міша.— Я не пакрыўджуся.

— Напішу, што ты... што ты...

Валодзя запнуўся, шукаючы ў вучняў спачування.

— А я напішу,— перапыніў яго Сеня,— што ты і на ўроках круцішся, як круцёлка, сам не слухаеш і мне перашкаджаеш. І папрашу Веру Сямёнаўну, каб перасадзіла мяне на другую парту.

Злосць агарнула Валодзю. «Вось што значыць трапіць у новую школу, дзе ўсе свае і адзін за другога заступаюцца»,— думаў ён. А, бывала, у ранейшай школе ён вырабляў, што хацеў, і ніхто не выстаўляў яго на пасмешышча. Аднойчы нават шыбу разбіў у класе, і то сябры змаўчалі. А тут — выходзіць, ён, быццам чужы... Няма яму ні падтрымкі, ні спачування. Эх, каб гэта тут з ім былі Валік і Юра! Яны хутчэй усім насы паразбівалі б, а ў крыўду яго не далі б...

А ўсяму віною новая кватэра, якую бацька атрымаў сёлета ў новым раёне горада. Праз яе і прыйшлося Валодзю пакінуць старую школу і верных закадычных сяброў.

Панурыўшы галаву, Валодзя пайшоў у клас. Увесь дзень сядзеў ён на ўроках і ўсё думаў, як адпомсціць Мішу. Можа, сапраўды напісаць і пра яго ў газету! Але што? Семечкаў у трамваі ён не грызе, меншых не крыўдзіць, на ўроках сядзіць спакойна... Апрача таго, піянеры зноў выбралі яго важатым першага звяна. «Добра, што не нашага»,— радаваўся Валодзя.

І як Валодзя ні вышукваў, за што б можна было зачапіцца,— нічога вартага ўвагі знайсці не мог. А злосць ніяк не сунімалася. Тады ён вырашыў проста набіць яго. «Я яго так размалюю,— фантазіраваў Валодзя,— што ён дзесятаму закажа, як са мною займацца... Добра ж! Я яго падпільную дзе-небудзь далей ад школы і там нашпіляю, колькі ўлезе... Будзе ён ведаць!»

Пасля заняткаў, сціскаючы кулакі ад злосці, Валодзя назіркам пайшоў за Мішам. «Дзе ж яго лепш дагнаць і паваліць?» — думаў Валодзя. Усюды неяк нязручна: то школьнікі прабягаюць міма, то дарослыя.

Міша ў трамвай не сеў. Валодзя ўзрадаваўся. Ну, час яшчэ ёсць! І ён пачаў рыхтавацца да нападу. Але калі

дайшло да справы, у яго раптам мільганула думка: а што, як ён не здужае Мішы? Толькі цяпер Валодзя пачаў пільней прыглядацца да свайго суперніка: ён жа не меншы за яго, а ў плячах нават шырэйшы... Хто яго ведае, што ў яго за сіла? Нападзеш, а ён табе нос расквасіць... Тады яшчэ горш засмяюць у школе!

Патроху Валодзя пачаў мякчэць і здавацца. Нерашучасць брала верх над злосцю.

Так ён давёў Мішу аж да самага дому.

## IV

Назаўтра пасля ўрокаў быў склікан чарговы збор атрада. На зборы Міша ўнёс прапанову пагаварыць аб дысцыпліне. І больш таго — даручыць выступіць з дакладам аб дысцыпліне... Валодзю Дудзіку!

— Ён у нас навічок,— абгрунтаваў Міша сваю прапанову,— і ніякіх піянерскіх заданняў яшчэ не мае.

Усе чамусьці вельмі ахвотна згадзіліся з Мішавай прапановай, так што Валодзя і азірнуцца не паспеў, як атрымаў піянерскую нагрузку... Ніхто не ўспомніў і пра насценную газету, у якой красаваліся Валодзевы партрэты з натуры.

— Калі табе будзе што незразумела,— сказала важатая атрада Маня Сачок,— я табе дапамагу. Падрыхтуйся і раскажы ўсім, як піянер павінен трымаць сябе ў школе, дома, на вуліцы. Вывучы «Правілы для вучняў». Падбяры цікавыя прыклады — якія сам ведаеш або з прачытаных кніг ці газет. Вось і ўсё.

Пасля слоў важатай Валодзю такая «нагрузка» нават спадабалася. «Добра ж,— хітра падумаў ён пра Мішу,— я дакажу табе... Я знайду прыклады і пра цябе!»

І Валодзя старанна ўхапіўся за работу.

Але пакуль ён рыхтаваўся да даклада і шукаў прыклады пра Мішу, вучні пачалі заўважаць, што з Валодзем творыцца нешта незвычайнае. Ён вельмі ж прыдзірлівым стаў да розных недахопаў, часамі нават самых дробных. Калі аднойчы дзяжурны па класу Слава Папоў забыўся падрыхтаваць крэйду да ўрока, дык першы на перапынку абурыўся на яго... Валодзя!

— Які ж ты дзяжурны! — напаў ён на Славу.— Увесь клас чакаў, пакуль ты бегаў у канцылярыю і шукаў крэйду.

Слава нічога не мог яму адказаць. А ўсе вучні падтрымалі Валодзю.

У другі раз ён заўважыў, як Гена Шыдлоўскі ў час урока фізікі скруціў з паперы галку і закінуў за каўнер Аліку Рагачэўскаму. І Валодзя не дараваў Геню за свавольства.

— Я пра цябе ў дакладзе скажу! — раскрычаўся ён пасля ўрока на Геню.— Ты зусім дысцыпліны не ведаеш. Ты, мусіць, і «Правіл» не чытаў.

— У «Правілах» пра папяровыя галкі не напісана...— паспрабаваў апраўдвацца Геня.— Я ж табе не перашкаджаў.

— Ты перашкаджаў слухаць урок сабе і Аліку,— адказаў яму Валодзя.

І ўсе зноў згадзіліся, што Валодзя кажа праўду.

Геню прыйшлося стушавацца.

* * *

Дзён праз некалькі пасля гэтага, спяшаючыся ў школу, Міша сеў у трамвай. Купіў білет і, як звычайна, падаўся бліжэй да выхада. Раптам чуе спераду знаёмы голас:

— Устань, кажу табе! Дай месца старэйшаму.

Міша праціснуўся бліжэй. Э, ды гэта ж Валодзя Дудзік! Ён упарта зганяў з пярэдняй лаўкі нейкага хлапчука з школьнай сумкай.

Хлапчук падняўся, а на яго месца села пажылая жанчына з поўнай кашолкай прадуктаў.

— Дзякую,— ласкава сказала яна Валодзю.— Ты, сынок, сапраўдны піянер. А гэты...— жанчына скрывілася і змоўкла.

Валодзя пачмыхаў носам і расплыўся ад прыемнай усмешкі.

Міша адступіўся крыху назад. «Няхай лепш не ведае,— падумаў ён,— што я тут бачыў яго. Я раскажу пра гэты выпадак пасля яго даклада. Малайчына наш навічок!..»

Неўзабаве Валодзя выйшаў з трамвая. Услед за ім выйшаў і Міша. Назіркам за Валодзем, як і пры першай сустрэчы, з вясёлым настроем ён рушыў у школу.

*1954 г.*

# ЗА АДНОЙ ПАРТАЙ

Усё пачалося з таго, што Валодзю выбралі старастам класа.

І ў гэтым вінаваты я сам. У той час мы з Валодзем жылі, як кажуць, душа ў душу. Сядзелі за адной партай, думалі адны думкі і, калі трэба, дзяліліся апошнім. Я нават падарыў яму свой самы лепшы складаны ножык. А Валодзя кожны дзень даваў мне спісваць рэшаныя ім задачы, добрасумленна падказваў на ўроках, рыхтаваў мне розныя шпаргалкі. Нават калі выклікалі мяне да дошкі, дык і тут ён умудраўся дапамагчы: шаптаў мацней за іншых, тлумачыў умоўнымі знакамі...

Адным словам, Валодзя быў самым блізкім маім таварышам. Сябруючы з ім, я не меў ніякага гора. І калі зарабляў часам двойкі, дык толькі па вусных адказах. Затое ўсе пісьмовыя работы я спісваў у яго.

Так працягвалася наша моцная дружба да таго дня, у які мяне, відаць, сам чорт тузануў за язык... На класным сходзе я прапанаваў выбраць Валодзю старастам і ледзь не пасварыўся праз гэта з Колем — важатым нашага звяна. Коля выступіў супраць Валодзі.

— Ён,— кажа,— добра вучыцца, але недысцыплінаваны. Ён разбэсціў Мішу — гэта мяне! — дазваляе яму спісваць задачы.

Я нарабіў крыку:

— Дакажы!

Коля насмешліва глянуў на мяне спадылба:

— Тут і даказваць няма чаго. Гэта ўсе ведаюць.

Усе ведаюць! Вось дык навіна... Адкуль жа яны ведаюць? Я ж, здаецца, нікому пра гэта не хваліўся. А можа, сам Валодзя яму прызнаўся? І тут у мяне закралася нядобрая думка. Я ўжо нават хацеў зняць сваю прапанову наконт таго, каб выбраць Валодзю старастам, ды ў гэты час пачуліся галасы:

— Нічога. Калі Валодзя стане старастам — падцягнецца. Гэта не прычына, каб яго не выбіраць!

Коля паспакайнеў. Толькі буркнуў сам сабе пад нос:

— Паглядзім.

Я прыкусіў язык.

І вось мой лепшы сябар аднагалосна быў выбраны старастам. І з таго ж дня стаў... здраднікам! Так, так, гэта не памылка!

Увечары, як звычайна, я прыйшоў да Валодзі. Ён быў на двары — карміў свіней.

— Ты рашыў задачы? — пытаюся я ў яго.

— Рашыў.

— Дай мне свой сшытак.

Валодзя раптам пачырванеў і неяк нерашуча заморгаў вачыма.

— А ты сам — не рашыў? — заікаючыся, запытаўся ён у мяне.

— Ды я і не рашаў...

Дзіўна, думаю: чаму гэта яму раптам прыйшло ў галаву такое недарэчнае пытанне? Што, я першы раз бяру ў яго сшытак?

Валодзя памыкаў трошкі і кажа:

— А ты паспрабуй сам рашыць. Задачы не цяжкія. Калі не зможаш, я табе дапамагу... А спісваць не дам.

Я аж вочы вылупіў. Так і сказаў: «Не дам!»

— Ты што,— кажу,— заганарыўся? Старастам стаў...

— Чуў жа, што хлопцы казалі,— вінавата апраўдваўся Валодзя.

— Валодзя! — ледзь не закрычаў я ад злосці.— Я не пазнаю цябе: сябар ты мне ці не?

— Сябар...

— Дык ты другім можаш не даваць спісваць, а мне...

— Гэта ўсё роўна, Міша. Ідзі рашай сам.

І ён нават адвярнуўся: відаць, каб я не бачыў яго здрадлівых вачэй.

Я надзьмуўся.

— Ну,— кажу,— калі так, дык мая і нага больш у цябе не будзе.

Валодзя спалохана паглядзеў на мяне:

— Чаму? Прыходзь, Міша...

— Не прыйду! Ты мне больш не сябар, а вораг — навек!

Я моцна стукнуў брамкай і пайшоў дахаты.

Дома цэлую гадзіну рашаў задачы.

Не выходзяць!

Тады яшчэ большая злосць ахапіла мяне на Валодзю. Гэта ўсё праз яго! І навошта я выскачыў са сваёю прапа-

новаю? Каб не выбралі яго старастам, усё было б добра. А так трэба шукаць другога сябра.

Пайшоў да Віці — няма дома. Пайшоў да Гені — сам не рашыў, кажа. А можа, схлусіў? Геня на гэта здатны, я яго ведаю.

Назаўтра пайшоў я ў школу, поўны злосці. Школа наша — у раённым цэнтры, недалёка ад калгаса. Мы ходзім туды ў пяты клас. Кожны дзень я забягаў па дарозе да Валодзі, потым разам заходзілі па Віцю і Геню. А сёння я і іх не паклікаў. Такая ў мяне злосць была на ўсіх!

Каля моста, за вёскай, я азірнуўся — хлопцы яшчэ толькі з вуліцы паказваюцца. Добра, думаю, чакаць вас не буду. Ведайце, што я таксама гонар маю. І прыбавіў кроку.

У школе я нават не прывітаўся з Валодзем. Сеў за другую парту, ляснуў накрыўкай, надзьмуўся і ўсё думаю пра Валодзю: вораг ён мне! Праз яго я задачы не рашыў.

Добра, што ў той дзень мяне не выклікалі да дошкі. Але ж гэта здарылася праз два дні...

На перапынку Валодзя загаварыў да мяне:

— Міша, перасаджвайся на сваю парту. Нядобра так...

Я ўспыхнуў і адвярнуўся, гэтак жа, як і ён тады на двары. Ого, сяду я цяпер з табою за адну парту! Нізавошта!

Так я парваў з Валодзем усялякую дружбу. Ідзём са школы, хлопцы гавораць з ім, а я маўчу: абыдуся, думаю, без цябе.

Сяджу дома, рашаю задачы і злуюся на Валодзю. Чым бы такім дапячы яму?

А тут здарылася — Валодзеў бацька злавіў вавёрку. Усе хлопцы цяпер бегаюць да Валодзі глядзець яе. Усе гавораць пра вавёрку. А я не магу нават зірнуць на яе. Як жа можна пасля такога пайсці да Валодзі? Я ж дакляраваў яму, што маёй і нагі ў яго не будзе. Ага, падумаў я, у Валодзі вавёрка, а ў мяне будзе... Рудзька! Тады ўсе хлопцы пабягуць да мяне. А Валодзя няхай зайздросціць!

Рудзька — гэта наш руды сабака. Добры, рахманы, толькі страшэнны гультай, нават брахаць лянуецца.

Дык вось пачаў я вучыць гультая Рудзьку на задніх лапах хадзіць. Чаго толькі не рабіў — біў яго, за вушы цягаў, пярэднія лапы падымаў — не вучыцца Рудзька, хоць плач. Раней я ведаў яго толькі як гультая, а высветлілася, што ён яшчэ і дурны як бот.

Цяпер я больш злаваў на Рудзьку, чым на Валодзю.

Убачыў мае няўдалыя практыкаванні з Рудзькам наш сусед Янка — заўзяты рыбак і паляўнічы.

— Дзівак ты,— кажа ён мне,— хіба ж так жывёлу вучаць? Гэта ж не навука, а мука. Да жывёлы трэба ласку мець, ласункамі заахвочваць.

Узяў я кавалак хлеба і пачаў вадзіць перад Рудзькавым носам. Гультай Рудзька адразу ажывіўся — завіляў хвастом і пацягнуўся да хлеба. Тады я падняў руку ўгору. Рудзька выцягнуў шыю, а далей не ведае, што рабіць. Глядзіць мне ў вочы, просіцца: апусці руку! Не, думаю, патанцуй, тады дам.

Круціўся, круціўся Рудзька вакол мяне і, нарэшце,— гэльц! — падскочыў! Але не дастаў. Ага, узрадаваўся я: першы крок зроблены — Рудзька падняўся на заднія лапы!

Адпачыўшы, Рудзька зноў пачаў падскокваць да хлеба. А я тым часам вышэй падымаю руку і адводжу яе ўбок.

— Патанцуй! — крычу яму.— Тады дам.

Рудзьку гэта не падабаецца. Ён пачынае скавытаць, ляскаць зубамі, сярдзіта махаць хвастом.

З гадзіну так мучыў я сябе і Рудзьку. Нарэшце дабіўся свайго: Рудзька затанцаваў вакол мяне на дзвюх лапах. Ад радасці я і сам пачаў танцаваць разам з ім.

Ды тут здарылася тое, на што я зусім не спадзяваўся: Рудзьку, відаць, надакучылі танцы, ён падскочыў з усёй сілы і так глымануў хлеб, што разам з ім і ўся мая рука апынулася ў яго чорнай зубастай пашчы...

Я ўскрыкнуў ад болю. Збянтэжаны Рудзька выпусціў маю руку.

З плачам я пабег у хату, дзе спалоханая маці спачатку перавязала мне руку, а потым добра такі адлупцавала скарачом...

Назаўтра пайшоў я ў школу з забінтаванай правай рукой. І яшчэ большая злосць апанавала мяне на Валодзю. Гэта ж праз яго я трапіў у такую бяду. Каб не пасварыўся з ім, дык мне ніколі і ў галаву не прыйшло б дрэсіраваць дурнога Рудзьку.

Але затое цяпер я ўжо сапраўды не мог сам рашаць задачы. Бо як жа іх рашаць параненай рукою?

Хлопцы мне спачувалі. А Валодзя некалькі разоў спрабаваў загаварыць. Я ж маўчаў, сцяўшы зубы,— і ад злосці, і ад болю.

Пасля заняткаў мы ішлі дахаты ўсе разам. Дайшлі да моста. І тут мне стукнула ў галаву думка: прамаршыраваць па балясіне моста. Няхай падзівіцца Валодзя, які я смелы і рашучы! Няхай пашкадуе, што страціў такога сябра, як я!

Варта было мне толькі так падумаць, як нехта быццам падхапіў мяне і ўскінуў на балясіну.

Балансуючы, як цыркавы артыст на дроце, я пачаў асцярожна перастаўляць ногі. Хлопцы аж ахнулі ад дзіва. А мне толькі гэтага і трэба было.

І ўсё ішло добра, пакуль я глядзеў пад ногі. Але раптам мне захацелася зірнуць на Валодзю — як я ўразіў яго сваім геройствам? Я павярнуўся, а потым неяк захістаўся і паляцеў проста ў рэчку...

Да берага было недалёка, і я сам мог бы выплысці. Але ад страху так разгубіўся ў халоднай асенняй вадзе, што не толькі берага — свету белага не бачу.

— Ратуйце! — закрычаў я немым голасам.

І амаль у той жа момант каля мяне апынуўся... Валодзя. Ён падхапіў мой мокры партфель і крыкнуў:

— Не бойся! Выплывем!

Я адразу пасмялеў і паплыў за ім, фыркаючы. Валодзя ў адной руцэ трымаў мой партфель, а другой шпарка гроб ваду.

Мокрыя як цюцькі, вылезлі мы на бераг.

— А цяпер — бягом! — крыкнуў Валодзя і памчаўся на ўвесь дух.

Калоцячыся ад холаду, я кінуўся за ім.

Валодзева хата была першая па дарозе, і ён без усякіх слоў пацягнуў мяне ў сваю хату.

Бядуючы і вохкаючы, Валодзева маці хутка пераадзела нас у сухое, перавязала маю руку, потым нагрэла чаю з ліпавым цветам, напаіла нас, нацерла шкіпінарам і пацягнула на печ грэцца.

Мы ляглі з Валодзем разам, накрыліся адным кажухом. І так мне стала прыемна, што і сказаць нельга.

Неўзабаве прыбегла і мая ўстрывожаная маці: ёй расказалі пра мяне Геня і Віця. А як паглядзела, што мы вясёлыя і здаровыя, на цёплай печы грэемся, узрадавалася і кажа:

— Дык няхай мо ў вас і пачуе мой сабакар? А заўтра відней будзе, што з ім рабіць: скарачом лупцаваць ці ў бальніцу везці.

— Няхай начуе,— згаджаецца Валодзева маці.— Удвух ім ахвотней будзе.

Так я астаўся ў Валодзі начаваць. Прызнацца, мне і самому не хацелася разлучацца з маім лепшым сябрам. Цяпер я нарэшце пераканаўся, што дарэмна лічыў яго здраднікам. Які ж ён здраднік, калі не пабаяўся ўслед за мною кінуцца ў халодную рэчку? Ні Віця, ні Геня так не зрабілі...

Я бліжэй прыціснуўся да Валодзі і зашаптаў яму на вуха:

— Мір навек!

— Мір навек! — горача дыхнуў на мяне шкіпінаравым духам Валодзя і моцна сціснуў маю левую руку.

Я зноў адчуваў сябе, як і тады, калі сядзеў з Валодзем за адной партай.

Назаўтра мы ўсталі зусім здаровыя. Праўда, у мяне трошкі заклала нос, а Валодзю нават і гэта абмінула. Але ў школу нас усё ж не пусцілі: пакінулі на вытрымку.

— Калі да вечара гарачка не падскочыць,— сказала Валодзева маці,— то заўтра пойдуць.

Мы правялі ўвесь дзень у Валодзі дома: рашалі задачы, кармілі арэхамі яго пацешную рыжую вавёрку і чыталі цікавую кнігу пра Рабінзона.

Гарачка не падскочыла, і назаўтра мы вясёлыя пабеглі ў школу.

З таго часу мы зноў сядзім за адной партай. Мінуў цэлы навучальны год, а мы яшчэ ні разу не пасварыліся, хоць Валодзя і цяпер не дае мне спісваць задачы. Такі стаў упарты. Але я не прашу ў яго сшыткаў, бо навучыўся сам і задачы рашаць, і дыктанты пісаць.

*1956 г.*

10 Зак. 2344

# ЯК ВІЦЯ ЗАБЛУДЗІЎСЯ

Віця з мамай жылі на дачы. Гэта была прыгожая мясціна. Кругом лес. А ў ім невялічкая прагаліна — палянка. І стаялі на той палянцы ўсяго чатыры домікі — з садкамі, з агародамі, за якімі раслі густыя кусты алешніку. А калі пабегчы сцежкаю праз гэтыя кусты, дык трапіш проста да рэчкі. За рэчкаю зноў зелянеў алешнік, а за ім, на ўзгорку, шумеў сасновы бор.

Віця часта бегаў на рэчку лавіць печкуроў. І адзін, і з сябрамі — такімі ж дачнікамі, як і ён сам.

Недалёка ад дачных домікаў быў піянерскі лагер. Яго Віця таксама не абмінаў. Там піянеры палілі кастры, спявалі песні, гулялі ў розныя гульні.

А калі паспелі ягады, Віця і ад печкуроў адрокся. Ягады, вядома, раслі скрозь, нават каля самых домікаў. Ды Віцю здавалася, што зблізку іх не так многа, як у глыбіні лесу, куды аднаго яго маці не пускала.

Аднойчы пасля снедання Віця падаўся ў ягады. Мінуў узгорак з рэдкім ягаднікам і трапіў у лагчыну. А там, у лагчыне, гэтулькі чарніц нарасло, што аж вочы разбягаюцца — не ведаеш, якую першую браць. І ўсе буйныя, спелыя.

Віця доўга ласаваўся ягадамі, а потым падумаў: «Пайду прывяду сюды маму з кашом. Вось назбіраем чарніц! Усе дзівіцца будуць».

І вясёлы рушыў дахаты.

Ішоў ён, ішоў, аж надакучыла, а дачы ўсё не відаць. Потым бачыць — лес пасвятлеў. Віця зарадаваўся: гэта ўжо, напэўна, дачная палянка! Выйшаў з лесу, а перад ім — не палянка, а цэлае поле. І на полі, як згледзець вокам, расце жыта. Густое, нібы чарот. Спелыя каласы ўніз пазвісалі.

Віця напалохаўся. Поле гэтае для яго было невядомым і незнаёмым. Ён хацеў ужо заплакаць, як раптам пачуў нейкі шум і гул.

Шумела і гуло недалёка. Віця пачаў углядацца. Бачыць — проста да яго едзе па жыце нейкі дом, з высокім комінам. З коміна дым валіць. На доме чырвоны сцяг ка-

лышацца. Побач са сцягам, на маленькім ганку высокі пажылы дзядзька стаіць, у цёмным камбінезоне паўзверх светлай кашулі, правай рукою за кола трымаецца.

Ды гэта ж камбайн! — здагадаўся Віця. Такі ж, як на малюнку ў яго кніжцы. У гэтым годзе Віця збіраўся ісці ў школу, і маці загадзя купіла яму і буквар і кніжку для чытання.

Забыўшыся аб тым, што ён заблудзіўся, Віця бягом кінуўся да камбайна. Дзядзька ў цёмным камбінезоне прыветліва ўсміхнуўся і памахаў яму левай рукою, Віця таксама ўсміхнуўся і памахаў дзядзьку рукою — толькі праваю. І сам смела пайшоў побач, разглядаючы дзіўную машыну.

З правага боку камбайна стракатала шырокая жняярка. Яна падхоплівала зрэзанае сцябло і тут жа перакідвала яго ўсярэдзіну машыны. Што там далей рабілася з жытам, Віця не мог бачыць. Але калі ён крышку адстаў ад камбайна, дык заўважыў ззаду нейкую вялізную клетку. Раптам клетка сама адчынілася, і з яе вывалілася цэлая капа саломы.

Дык вось што зрабіла гэтая машына з жытам! Дзіва!

Хутка да камбайна пад'ехала грузавая машына. Камбайн спыніўся. І не паспеў Віця агледзецца, як проста ў кузаў грузавіка пасыпаліся з бакавой трубы чыстыя зярняты...

Напоўнілася машына, і камбайн зноў рушыў далей. А шафёр грузавіка адчыніў кабінку, гукнуў да Віці:

— Садзіся, малы, падвязу!

Віця з радасцю ўскочыў у кабінку, сеў побач з шафёрам — маладым дзядзькам з вясёлым тварам. Грузавік загуў і памчаўся па ржэўніку ў бок дарогі.

— Гуляеш? — запытаўся шафёр у Віці.

— Гуляю...— няпэўна адказаў Віця.

— А чаму адзін, без дружбакоў?

Віця прамаўчаў. Прызнацца шафёру, што заблудзіўся, Віцю не хацелася. Ён жа тады прагоніць яго з машыны. А сам малады дзядзька — шафёр з МТС — аб гэтым, відома, не мог здагадацца. Ён палічыў Віцю за тутэйшага калгаснага хлапчука.

Неўзабаве палявая дарога павярнула ў вёску. І машына прыехала на калгасны ток.

— Ну, Віця, бывай здароў! — сказаў шафёр.— Бяжы дахаты.

Віця вылез з машыны. Куды ж яму бегчы? Ён жа нават і не ведае, як называецца тая мясціна, дзе яго хата. Маці кажа, што жывуць яны ў Замосці. Але ж ён сам бачыў, што Замосце знаходзіцца зусім у іншым месцы — пры станцыі. Там цэлы вялікі пасёлак, а не чатыры домікі.

Пакуль Віця разважаў, шафёр некуды знік. На грузавіку былі ўжо дзве дзяўчыны. Яны ссыпалі шуфлямі на ток прывезенае шафёрам жыта.

Віця выбег на шырокі двор, каб пашукаць знаёмага шафёра — можа, ён ведае, дзе яго дом? Але замест шафёра ўбачыў на двары двух хлопчыкаў, такіх жа малых, як і ён сам.

Хлопчыкі гулялі ў мяч. Віця падышоў да іх. У гэты час адзін з хлопчыкаў кінуў яму проста пад ногі стары пацёрты футбольны мяч.

— Адбівай! — моцна гукнуў ён да Віці.

Віця ўмеў адбіваць мячы. І гульня ўтрох пайшла як належыць.

— Эй, хлопцы! — раптам пачуўся голас збоку.— На Галае балота машыну прывезлі. Сама канаву капаць будзе! Бяжэм!

Футбалісты адракліся і ад мяча ды рванулі за белагаловым хлопчыкам, які іх паклікаў. Віця таксама пабег за імі. Чаму ж не паглядзець такой машыны, якая сама будзе канаву капаць?

Калі малыя прыбеглі на Галае балота, там і сапраўды тварылася цуда. Па балоце ішоў трактар на шырокіх гусеніцах і цягнуў за сабою велізарны плуг на жалезных колах, з дзвюма акладнямі. Плуг выварочваў шырокую і глыбокую разорыну. Гэта і была канава. Роўная, з гладка адшліфаванымі бакамі. На дне яе блішчала першая балотная вада.

Машына-канавакапальнік падыходзіла ўжо да рэчкі. А там рыбакі цягнулі на бераг невад. Белагаловы хлопчык зноў закрычаў да сяброў:

— Глядзіце, вунь рыбу невадам ловяць!

І ўсе як па камандзе кінуліся да рэчкі.

Рыбакі выцягнулі невад. А ў ім і шчупакі, і акуні, і плоткі... Ну як жа было не дапамагчы рыбакам выбраць з невада рыбу!

Толькі адвячоркам вярнуўся Віця з новымі сваімі сябрамі ў калгас. І тут ён адчуў, як моцна яму захацелася

есці. А потым успомніў пра маму. Успомніў і пачаў усхліпваць.

— Ты чаго? — здзівіліся яго сябры.

— Дадому хачу...

— А адкуль жа ты?

— З дачы...

— Гэта — дзе піянерскі лагер?

— Ага,— павесялеў Віця, успомніўшы самую верную прыкмету іх дачы.

— Ты што, сам дарогі туды не ведаеш?

— Не... Я заблудзіўся...

Даведаўшыся пра Віцеву бяду, сябры разам з ім пабеглі ў лес.

Дома Віця доўга расказваў маме, дзе ён быў і што бачыў. І вельмі дзівіўся, што маці не радуецца яго расказу і што ў яе заплаканыя вочы.

А сам Віця дык наадварот — вельмі рад быў, што заблудзіўся.

*1957 г.*

# ЗАЙЦАЎ ПАЦАЛУНАК

(Паляўнічая гісторыя)

У вагоне прыгараднага цягніка народу хапала, як і заўсёды, нават не зважаючы на тое, што стаяла позняя восень.

Сяк-так адшукаўшы вольнае месца, я пачаў прыглядацца да пасажыраў: цікава, з якою здабычаю едуць сёння з мора мінскія рыбакі? Паляўнічыя мяне не цікавілі. Колькі ні ездзіў я гэтаю дарогаю, ні разу не бачыў у іх нічога, апрача пустых рукзакоў.

І раптам у недалёкім купэ я ўбачыў... зайца! Ён вісеў на сцяне, вытыркнуўшы доўгія вушы з рукзака. Гаспадар гэтага незвычайнага трафея, шыракаплечы чырванашчокі дзядзька ў брызентавай куртцы і гумавых ботах за калені, з гонарам нешта расказваў пасажырам, а тыя з зайздрасцю пазіралі на паляўнічага і яго здабычу.

— Дзіва! — не ўстрымаўся я.— Хоць аднаму пашанцавала!

Я глянуў на свайго суседа па купэ, чалавека сярэдніх гадоў, з пакалечаным тварам.

— А можа — трус? Купіў, відаць, на заслаўскім рынку...

Сусед скупа ўсміхнуўся, і шрамы на яго твары распаўзліся яшчэ выразней.

— З паляўнічых жартуюць, гэта праўда,— сказаў ён.— Што б ні расказвалі яны пра свае паходы ды прыгоды — ніхто не верыць. А дарэмна.

— Чаму?

— Бо і мне не вераць...

— А вы што — таксама паляўнічы?

— Былы...— з жалем адказаў сусед і пагладзіў рукою свае непрывабныя шрамы на шчоках.— Вось памяць ад майго паляўніцтва.

Я і іншыя пасажыры з купэ здзіўлена паглядзелі яшчэ раз на яго сапраўды памятныя шрамы.

— Родная жонка не паверыла...— уздыхнуў былы паляўнічы.

— А вы нам раскажыце, калі не сакрэт,— папрасіў адзін з маладзейшых пасажыраў,— можа, мы паверым.

Былы паляўнічы глянуў на свой ручны гадзіннік.

— Ну што ж, ехаць яшчэ хвілін пятнаццаць. Слухайце. Паляўнічым я быў, можна сказаць, заядлым. Ніводнага выхаднога, бывала, не прапускаў у час паляўнічых сезонаў. Аднаго толькі бракавала ў мяне — сабакі... Жыву я на чацвёртым паверсе, трымаць там сабаку нязручна. Да таго ж і жонка мая не вялікая да іх прыхільніца. Кошак хоць дзесятак збярэцца ў кватэры — не выганіць ніводнай. А сабак цярпець не можа. «Псінай смярдзяць»,— кажа. Ды яна, прызнацца, і паляўніцтва маё не надта паважала. Дзічыны я бадай што не прыносіў, як і ўсе паляўнічыя. А лішніх расходаў меў нямала, не кажучы ўжо пра стаптаны абутак і патрачаны час.

Былы паляўнічы абвёў вачыма вагон.

— Кураць тут ці не?

— Кураць,— адказаў маладзейшы пасажыр.— Вунь у тым баку дымяць.

— То закуру і я, калі вы не пярэчыце.

— Калі ласка!

Паляўнічы дастаў кісет, вышыты блакітнымі васількамі па чорным, і закурыў.

— Дык вось,— гаварыў ён далей, зацягнуўшыся махоркаю.— Як лягла зіма таго года, сабраўся і я на зайцоў. Раніцай якраз выпаў свежы снег. Я ўзяў лыжы і паехаў за горад. Доўга блукаў па кустах і сенажацях, нарэшце прызйшоў у лес. Змарыўся і, выбраўшы зручны пянчук, прысеў адпачыць. Побач з пенчуком расла густая елачка, а каля яе дужаватая гурба снегу навеяна. Я загледзеўся на гурбу. У адным месцы гурбы нейкая быццам норка відаць. Мыш там ці крот? Я дастаў кісет. І ўсё гляджу на норку. Трэба будзе, думаю, праверыць, што там. Адарваў лісток паперы. Раскрыў кісет. А ён выслізнуў з рук і рассеяў усю маю махорку каля гэтай самай гурбы...

— А, чорт! — моцна ўскрыкнуў я і нагнуўся ратаваць махорку. І толькі дакрануўся пальцамі да яе, як раптам...

Але што было далей, я і цяпер не магу расказаць спакойна. Цэлая хмара снежнага пылу разанула мне ў твар. Пачуўся страшэнны крык. Як вострымі цвікамі, нешта шарганула мяне па шчоках. І ўсё сціхла. А калі я расплюшчыў вочы, дык убачыў толькі куртаты заячы хвост...

Шчокі мае гарэлі ад болю. Я правёў па іх рукамі і жахнуўся: рукі былі ў крыві. Гляджу: кроў і на грудзіну курткі капае... Я дастаў з кішэні хустачку, зняў кашнэ. Сяк-

так перавязаў твар, стаў на лыжы і рынуўся, не разбіраючы дарогі, у бліжэйшую раённую бальніцу.

Мясцовы хірург зняў з твару маю самаробную павязку і, зрабіўшы круглыя вочы, свіснуў праз зубы:

— Псс... Як гэта вам удалося?

Я расказаў.

— Зайцаў пацалунак,— зноў свіснуў хірург, усміхнуўшыся.

А потым дадаў:

— Вам яшчэ пашанцавала: раны пачынаюцца на паўсантыметра ад вачэй...

А што было дома?

— Усё гэта ты лжэш ад пачатку да канца! — рашуча заявіла жонка, выслухаўшы маё тлумачэнне наконт забінтаванай галавы.— Усе паляўнічыя лгуць! Відаць, напіўся ды ўчыніў разбой...

Як і чым я мог даказаць ёй, што гэта ўсяго толькі выпадковы зайцаў пацалунак, як сказаў хірург? Цяпер для мяне ясна было, як гэта магло здарыцца. Заяц ноччу карміўся ў бліжэйшым зарасніку. Пад раніцу ён залёг пад елачкай адпачыць. Яго замяло з галавою, і ён спаў у цяпле мацней чым трэба. Адна толькі норка-аддушына вылучалася ў тым месцы гурбы. Відаць, заяц нават і не чуў, як я прысеў на пенчуку. Прачнуўся ён ад майго голасу. Потым, ратуючыся ад блізкай і нечаканай небяспекі, ён і драпануў мяне заднімі нагамі з усяе сілы. А заднія ногі ў зайцоў, трэба сказаць, не слабенькія.

Але так лёгка было разважаць мне самому. Для жонкі ж гэта былі пустыя словы.

— Больш на паляванне я цябе не пушчу! — зрабіла яна з усёй гэтай гісторыі свой вывад.— Хопіць!

Адным словам, непрыемнасць за непрыемнасцю. Я кляўся і бажыўся, што і ні гарэлкі не піў у той дзень, і ні з кім нават не сустракаўся, апрача таго шалёнага зайца. Але жонка так і да сённяшняга дня не верыць майму паляўнічаму слову.

Ды што я вам расказваю — усё роўна і вы не паверыце.

Мы дружна засмяяліся.

— А да палявання пасля таго я і сам чамусьці страціў ахвоту,— дадаў ён і палез у кішэню па кісет.

Паравоз падаў сігнал. Мы рушылі да выхада.

*1960 г.*

# ХІТРЫ ВОЎК

(Расказ былога пастушка)

Пра ваўкоў расказваюць рознае. Звычайна ў такіх расказах усе яны — дурні. Бо хіба ж няпраўда? Ачэпяць паляўнічыя чырвонымі сцяжкамі месца аблавы — ваўкі і мітусяцца ў аблозе як апантаныя, пакуль не трапяць пад кулі. Здагадацца, што шпагаціна са сцяжком нават для мышы не перашкода, яны не могуць. Мы ўжо не гаворым тут аб тых ваўках-дурнях, якімі запоўнены нашы казкі.

Але, відаць, не ўсе ваўкі — дурні. Ёсць і разумныя. Аднаго такога я бачыў сам на свае вочы.

Было гэта так.

Мой бацька пасвіў калгасных авечак. А я сяды-тады бегаў у поле, падмяняў яго.

Аднаго разу бацька прыхварнуў. Давялося мне аднаму гнаць чараду.

Дзень быў цёплы, сонечны, авечкі пасвіліся спакойна, а я плёў кош з лазы. Усё ішло як мае быць.

Адвячоркам чарада падышла да лесу. Там, на папары, шмат пустазельнай бярозкі расло. Я прысеў на грудку, пазіраючы на сонца. Апусціцца яно, думаю, за лес, тады і пагано дахаты.

Раптам бачу — авечкі шуганулі ад лесу, збіліся ў кучу. Што ж гэта напалохала іх?

Гляджу, аж там воўк. Вушы тырчком, хвост падагнуты. Сам жывога ваўка я не сустракаў. Але бачыў, калі іх паляўнічыя прывозілі ў калгас пасля ўдалай аблавы.

Я так і ўмлеў ад страху.

Тым часам воўк павярнуўся назад і — скок-скок, як авечка, у бок лесу. Скокне разы два-тры, азірнецца і зноў далей.

Што ён вытварае, нягоднік? — думаю. А можа, гэта не воўк?

Гляджу, авечкі асмялелі. Мэкаюць. Аб нечым быццам раяцца паміж сабою.

Потым бачу — адна замэкала прызыўна і патрухалася да лесу. За ёй другая, трэцяя. А там і ўся чарада.

Ці не здурнелі яны?

А воўк усё скача гэтак, падахвочваючы авечак. Калі ж

авечкі падбеглі бліжэй да лесу, ён адвярнуўся і сігануў да чарады...

Я закрычаў:

— Туйга! Туйга!..

Але было ўжо позна. Воўк схапіў самую першую авечку, закінуў яе на спіну і — толькі яго і бачылі. Чарада зноў шарахнулася назад. Цяпер-то, відаць, авечкі разабраліся, хто іх вабіў бліжэй да лесу.

Увечары бацька спачатку пасварыўся на мяне: як гэта я, разявака, загледзеўся на воўчыя хітрыкі і не прагнаў яго з поля! А потым, як адышла ў яго злосць, расказаў, што такімі хітрыкамі ваўкі не раз спрабавалі ашукаць авечак і раней. Яны, бач, ведаюць, што авечкі не баяцца таго ваўка, які ўцякае ад іх. А калі ж яшчэ гэты воўк і танцуе перад імі, як свая родная сястра, дык уцякаць ад яго тым больш няма рахубы. А можа, яны проста бягуць за ваўком, каб лепш разгледзець, хто іх напужаў? Хто іх ведае.

Даўно гэта было, а я і цяпер часта ўспамінаю той выпадак, калі чытаю або слухаю апавяданні і казкі пра дурных ваўкоў.

*1960 г.*

# ЦАНА ХРАБРАСЦІ

Па дарозе ў вёску Стары Млын я дагнаў хлапчука гадоў дванаццаці. Ён ішоў, моцна кульгаючы, апіраючыся на палку. За плячыма ў яго быў школьны ранец.

Яго кульганне я заўважыў здалёк. І за час, пакуль даганяў, рабіў усялякія здагадкі: што ў хлопчыка з праваю нагою? Тое, што кульгаў ён на правую нагу, добра было відаць, бо ён увесь час прыпадаў на правы бок. Потым жа, прыгледзеўшыся бліжэй, я заўважыў, што і чаравік на правай назе ў яго быў нейкі адмысловы: такія чаравікі робяць для карацейшых ног.

«Няшчасны хлопчык»,— шчыра пашкадаваў я малога падарожніка. А ён жа, напэўна, як і ўсе яго равеснікі, любіць зімою канькі, лыжы, а ўлетку марыць аб паходах і прыгодах...

Параўняўшыся, я не стрымаўся, каб не загаварыць да малога:

— Са школы? Ці ў школу?

— Са школы,— адказаў ён, прыглядаючыся да незнаёмага дзядзькі.

— А што, у вашай вёсцы няма сваёй?

— У нас толькі чатыры класы. А я хаджу на станцыю, у шосты.

— Далёка ж табе хадзіць...— паспачуваў я.

— Не, я прывык.

— А нага — не баліць?

— Яе ў мяне няма...

— Тым больш.

Мы разгаварыліся. Хлопчыка звалі Віцем. Ён расказаў мне пра сваю новую школу, пра сяброў.

— А чаму ж ты адзін ідзеш? Хіба больш ніхто ад вас не вучыцца ў сямігодцы? — запытаўся я.

— Чаму не, вучацца.

— Дык што? Кінулі цябе аднаго ў дарозе?

— Не, пайшлі на экскурсію на цагельню.

— А ты чаму не пайшоў?

— Мяне не ўзялі... Туды далёка.

У апошніх словах хлопчыка чуліся жаль і крыўда.

— Ды і правільна, што не ўзялі,— суцяшаў ён сам сябе.— Мне дахаты і то хапае дарогі.

— А што з тваёю нагою? — запытаўся я нарэшце.— Як гэта здарылася?

Віця недаверліва паглядзеў на мяне: відаць, думаў, ці варта расказваць пра сваю бяду нейкаму незнаёмаму чалавеку.

А потым усё ж адказаў скупа:

— Сам вінаваты...

Я адчуў, што ён не зусім ахвотна сказаў гэтыя словы. Але мне ўсё ж хацелася даведацца больш, чым ён сказаў.

— Не хацеў жа ты сабе такой бяды? — пачаў я зноў праз нейкі час.

— Вядома, не хацеў...

— Дык, значыць, і невінаваты!

— Не, дзядзя, вінаваты,— запярэчыў Віця.— Але гэта я потым прызнаў.

— А тады што было?

— Мы расклалі агонь пры лесе, вунь там,— махнуў ён палкаю ў бок невялічкай палянкі, якая падковаю ўразалася ў малады хвойнік.

— Хто гэта — мы?

— Я, Алёшка, Сцёпа і Юра. Яны выхваляліся сваёю смеласцю. А з мяне жартавалі, бо я ў той дзень зайца напужаўся. Але я не баязлівец, не думайце, дзядзя. Гэта здарылася знячэўку. Я траха не наступіў на зайца. А ён як ірванецца ў мяне з-пад ног... Ну, я і спужаўся, закрычаў...— прызнаўся Віця і пачырванеў.

— Я сам бы спужаўся,— гэтак жа шчыра прызнаўся і я Віцю.— Ну, можа, не закрычаў бы, але хто яго ведае...

Віцю маё прызнанне, відаць, спадабалася. А можа, ён проста палічыў яго справядлівым: так можа здарыцца і з кожным, нават з пажылым чалавекам. А мяне яго расказ пра касцёр і пра зайца крыху здзівіў: якая ж тут сувязь з яго нагою?

Але Віця расказваў далей.

— Мяне аж злосць узяла на хлопцаў. Добра,— сказаў я,— паглядзім, хто з нас смялейшы. Вось гарыць агонь. Хто больш пратрымае на прыску руку або нагу?

Хлопцы прыціхлі.

— Ага! — кажу.— Спужаліся?

— Хто спужаўся? — першы загаварыў Сцёпа.— Давай!

— Давай! — не адступіўся я ад сваіх слоў.— Стаў нагу на прысак, а вы лічыце! — загадаў я Алёшку і Юру.

Сцёпа паглядзеў туды-сюды, паціснуў плячыма, але ўсё ж паставіў сваю босую нагу на гарачы прысак. Я таксама паставіў з другога боку агню.

— Раз, два, тры...— пачалі лічыць Алёша і Юра.

Але не паспелі яны сказаць «тры», як Сцёпа ўскрыкнуў і выхапіў нагу з прыску. Відаць, даняло да жывога. Мяне таксама даняло. Але здавацца так рана я не хацеў.

— Эх, ты,— кажу я.— Смяляка! Лічыце далей!

— Чатыры, пяць, шэсць...— не спяшаючыся, лічылі хлопцы. А я цярпеў.

Налічылі роўна пятнаццаць, і толькі тады я зняў нагу з прыску.

Хлопцы закрычалі «ўра» — я перамог! А сам я не ведаў, дзе падзецца ад болю...

А потым мяне доўга лячылі. Каб не гангрэна, дык, можа б, і вылечылі нагу. А так, калі ступня пачала чарнець, яе адрэзалі...

Я развітаўся з Віцем і пайшоў далей сваёю дарогаю, моцна задумаўшыся. Цяжкі выпадак, што і казаць. Мне яшчэ больш стала шкада свайго малога спадарожніка. Храбрасць сваю ён, небарака, даказаў, гэта прызналі ўсе яго сябры. Але якою цаною!

*1961 г.*

# АСІНАЕ ГНЯЗДО

## I

У самую касавіцу выдалася добрае надвор'е, што рэдка бывае, бо звычайна дождж ідзе не тады, як просяць, а як косяць. Гэта ўсім вядома. І таму брыгадзір паляводчай брыгады калгаса «Ленінскі шлях» Сымон Лаўрэнавіч паслаў на касьбу, можна сказаць, усё насельніцтва сваёй брыгады — ад старога да малога.

Усім знайшлася работа!

І праўда: ні на якую іншую работу не паставіш побач дзецюка-асілка са старым дзядулем або хлапчуком-падлеткам. А тут, на сенажаці, усе яны — работнікі: адзін касою свішча на ўсю сілу, а другі гуляючы варушыць лёгкім грабільнам пракосы або падграбае сухое сена.

І, мусіць, няма лепшай пары ў калгасе, як касавіца ў сонечныя дні. Паглядзіце вунь на луг, які чамусьці называецца Гнілым бродам, хоць асушылі яго яшчэ да Айчыннай вайны. З ранку да вечара, не сціхаючы, гамоняць тут касілкі; там, дзе трава меншая і цвярдзейшая, роўнымі радамі вядуць пракосы касцы. Старыя дзяды — з барадамі і без барадаў — майструюць адзёнкі для стагоў, а жанчыны з дзяўчатамі падносяць на насілках да адзёнкаў гатовыя копы сухога сена. Разбівае, валкуе, нават складае ў копы гатовае сена самая маладая калгасная брыгада — піянеры і школьнікі. Усе загарэлі, паружавелі пад цёплым летнім сонцам не горш, чым курортнікі на беразе Чорнага мора.

Гарачая, ды затое і вясёлая цяпер пара на лузе!

Брыгадзір, пажылы дзядзька гадоў шасцідзесяці, не трымаецца пэўнага месца. Яго высокую, крыху згорбленую постаць можна бачыць усюды. Ён то да касцоў падыдзе, пацікавіцца, ці добра рэжуць косы сівец, ці не трэба каму паправіць або накляпаць касу (на гэта брыгадзір — першы майстар), то разам са старымі ладзіць адзёнкі або складае з жанчынамі копы. Толькі за граблі не бярэцца.

— З імі,— кажа,— справяцца і малыя.

А малыя і праўда дапамогі не прасілі. Яны нават крыўдзіліся, калі хто з старэйшых спачуваў ім: «Змарыліся, небаракі... Адпачніце...»

— А вы хіба не змарыліся? — адказвалі малыя.— Прыйдзе абед — адпачнём!

Але вось раптам адзін з малых спалохана закрычаў:

— Хлопцы, восы!

І тут усе ўбачылі, як з-пад ракітніку джгае без аглядкі, махаючы рукамі над галавою, Валодзя Дубцоў.

Восы — не авадні, і хлопцы, замест таго каб ратаваць Валодзю, ірвануліся разам з ім далей ад бяды.

Тым часам восы адагналі малых ад сваіх уладанняў і зніклі.

— Уджалілі? — абступілі сябры Валодзю.

— Ага,— ледзь не плакаў Валодзя, паціраючы лоб, на якім увачавідкі раслі два добрыя гузакі.

На шум і крык падышоў Сымон Лаўрэнавіч.

— Ну, брат, і размалявалі ж яны цябе! — усміхнуўся ён, глянуўшы на Валодзю.— Трэба прымочку зрабіць.

Недалёка стаялі вазы з харчамі і снасцямі. Брыгадзір знайшоў на адным возе ручнік з махрамі, абліў яго вадою з дубовай бочкі і спрытна перавязаў Валодзю лоб, захапіўшы і правае вока, на якое расплывалася пухліна.

— Ну нічога, пакуль жаніцца — загаіцца,— жартаваў брыгадзір.— У мяне некалі горш было з гэтымі восамі. І то прайшло.

— А што ў вас было? — пацікавіўся Валодзя, пабліскваючы адным вокам.

— Гэта, брат, доўгая песня. Вось хіба ў абед раскажу, калі будзеце слухаць.

— Будзем! Будзем! — загаманілі малыя.

— То чакайце.

## II

Сымон Лаўрэнавіч не забыўся пра абяцанне. Паабедаўшы, ён падсеў да брыгады малых.

— Хто з вас ведае, хто такі поп? — раптам ні з таго ні з сяго запытаўся брыгадзір.

Малыя засмяяліся:

— Усе ведаем! Гэта такі калматы дзядзька з крыжам на грудзях.

— Адкуль жа вы яго ведаеце?

— У кнігах пра яго пішуць!

— У кіно яго паказваюць!

Знайшліся нават такія, што і жывога папа бачылі.

— Ну вось, а нам некалі гэты калматы дзядзька, які называўся папом Васілём, кожны дзень мазоліў вочы,— сказаў брыгадзір.— А дзе поп, там і царква. Яна ў нас стаяла недалёка ад сяла, там, дзе цяпер малочная ферма.

— Сымон Лаўрэнавіч,— перапыніў брыгадзіра Валодзя.— Вы ж абяцалі пра восаў расказаць...

— Праўда,— згадзіўся брыгадзір.— Але восы тыя былі не лугавыя, не такія, што цябе пакусалі, а царкоўныя.

— Як гэта царкоўныя? — здзівіліся слухачы.— Хіба ж бываюць такія восы?

— Былі,— зусім сур'ёзна адказаў брыгадзір.— Яны звілі сваё гняздо каля самай царквы. Таму я іх і назваў царкоўнымі. Дык вось. Скупы і строгі быў наш поп Васіль. Зямлі меў цэлы абшар, парабкаў трымаў. А ўсё яму мала было. Беднякоў як ліпку абдзіраў: то за радзіны, то за хрысціны, то за хаўтуры — за ўсё лупіў, як хацеў. І ўсе баяліся папа. Дагаджалі яму, як скуле ў горле. Ведама, дзе ні ступіш, на папоўшчыну трапіш. А з папом было яшчэ горш, як з панам. Затое ўсе і не любілі яго. Бывала, нас, малых, так і цягнула залезці ў папоўскі сад, падражніцца з папоўскімі сабакамі, пабіць на возеры папоўскіх качак... Старыя страшылі, што так рабіць няможна, бо гэта вялікі грэх, а поп знаецца з самім богам, але мы не надта да іх прыслухоўваліся. І ўсё ж аднаго разу, памятаю, я зрабіў сапраўдны грэх. Было гэта ў апошні дзень вялікага посту...

Брыгадзір спыніўся, пачухаў патыліцу.

— Гм...— усміхнуўся ён.— Цяпер жа вы, бязбожнікі, пэўна, і не ведаеце, што такое пост.

— Не, не ведаем,— заматалі галовамі слухачы.

— Вось бачыце. А мы пасцілі кожную сераду і пятніцу. Апрача таго, быў асенні пост тыдняў на шэсць і вялікі вясновы пост тыдняў на сем. Вясновы пост канчаўся святам, якое называлася «вялікдзень». У пост строга забаранялася есці скаромнае...

Брыгадзір зрабіў паўзу.

— Гм...— зноў усміхнуўся ён.— Ды вы ж, відаць, слова «скаромнае» таксама не ведаеце?

— Не ведаем, дзядзька Сымон...

— Ну вось бачыце, як мне нялёгка расказаць вам пра тыя восы. Няхай іх качкі стопчуць.

— Што такое восы, то мы ведаем! — выгукнуў Валодзя Дубцоў.

— Не зусім,— хітра глянуў на Валодзю брыгадзір.— Асіныя гнёзды розныя бываюць. Вось слухайце. Але, дык пра што я казаў?

— Пра нейкае скаромнае...— падказалі малыя.

— Так, так, пра скаромнае, каб яму горка было. Скаромнае — гэта ўсё тое, што смачнае: сала, яйкі, малако... Траха не палавіну года (я вам не пра ўсе пасты расказаў) забаранялася есці скаромнае. Чаму? Так устанавілі папы, царква. Лічылася, што з'есці кавалак сала ў пост — гэта грэх. Бог можа пакараць цябе за гэта. Як пакараць? Ну, можа зрабіць так, што ў цябе паздыхаюць свінні або сам захварэеш. Можа, урэшце, не пусціць цябе ў рай пасля смерці, а пашле ў пекла... Гм...— махнуў рукою брыгадзір.— Нагаварыў: бог, рай, пекла... А ці ж вы ведаеце, што гэта такое, з чым яго ядуць, як кажуць. Не, дрэнны я, небажаты, расказчык.

— Бог — гэта сівы дзядок, які жыве на небе,— сказаў Валодзя.— Я ў кніжцы бачыў яго. Ён сядзеў на воблаку.

Дзеці засмяяліся:

— Як жа ён там трымаецца на воблаку?

— А што ён там есць?

— Ну, добра,— сказаў брыгадзір.— Пакінем бога. Няхай сабе сядзіць на сваім воблаку. А рай? А пекла?

— Мая бабуля ведае казку пра рай і пекла,— адказала піянерка Волька.— Яна мне расказвала. Рай, казала яна, гэта прыгожы сад — там смачныя яблыкі растуць і там жывуць святыя людзі.

— А дзе той сад? — перапынілі Вольку слухачы.

— На небе, казала бабуля.

Малыя зашумелі: сад можа расці толькі на зямлі! Для саду зямля патрэбна!

— Ну, а пекла,— растлумачыў брыгадзір,— дык тое, як кажуць папы, схавана недзе пад зямлёю. Адным словам, у гэтай грамаце чорт нагу зломіць... Гм...— зноў спыніўся брыгадзір.— А хто такі чорт?

— Ну, гэтага мы добра ведаем,— адказалі слухачы.— Яго і цяпер кожны дзень нядобрым словам успамінаюць. І ў казках пра яго расказваецца. Ён смешны такі, з рагамі, як казёл.

— Правільна,— згадзіўся брыгадзір.— Чорт у нас больш вядомы, чым бог. Гэты рагаты казёл, кажуць папы, загадвае пеклам і шкодзіць богу — загадчыку раю. Ну, ды

ліха з імі. Адно за адно чапляецца. Гэтак я і да тых восаў не дабяруся.

Брыгадзір задумаўся.

— Гм... На чым жа я спыніўся?

Слухачы маўчалі. Сапраўды: на чым спыніўся брыгадзір?

— Ага,— раптам успомніў ён,— на скаромным. Быў тады такі закон: у апошні дзень або ў апошнюю ноч вялікага посту поп свянціў скаромнае, і тады ўжо можна было разгаўляцца... Ну вось, зноў намалоў: свянціць, разгаўляцца... Бачыце, як цяжка гаварыць чалавеку старога веку з маладымі. У нас цяпер не толькі жыццё — сама гаворка змянілася. І праўда: каму з вас у галаву прыйдуць гэтыя словы. А я тады добра іх ведаў. «Загаўляліся» мы перад пачаткам вялікага посту. А «разгаўляліся» толькі ў першы дзень вялікадня тым скаромным харчам, які поп пасвенціць — гэта значыць, пакрапіць свянцонаю вадою. Гм... Зноў загнуў слаўцо. Адкуль жа вам ведаць, што гэта за свянцоная вада? Недарэмна ж кажуць: далей у лес — болей дроў. Ніяк не выблытацца з гэтага туману. Дык вось, напакавалі бацькі мае цэлую сявеньку скаромніны і збіраліся ўвечары ісці ў царкву свянціць гэтае дабро. Ах, якія там былі прывабныя стравы! Пафарбаваныя ў чырвоны колер яйкі, свежая свіная каўбаса, сала, масла...

Брыгадзір дастаў з кішэні пачак папярос і закурыў.

— Ух,— выдыхнуў ён густы струмень дыму,— усё роўна як гектар сенажаці скасіў...

Потым глянуў на сонца.

— Эге, пара за работу брацца...

І ўстаў.

— А пра восы вы забыліся?

— А няхай іх, з восамі! — адмахнуўся брыгадзір.— Пакуль да іх дабярэшся, дык і сонца зойдзе. Лепш адложым на заўтра. Добра?

Хоць і нехаця, але прыйшлося слухачам з гэтым згадзіцца.

## III

Брыгадзір не забыўся пра сваё абяцанне. На другі дзень, пасля абеду, замест таго каб прылегчы дзе-небудзь у цяньку, ён падсеў да малых.

— Вы, мусіць, думалі, я падвяду вас? — пачаў брыга-

дзір.— Не. Узяўся за гуж, не кажы, што не дуж. Ну, ды сёння роля мая лягчэйшая: застаецца расказаць самае важнае.

Ён знайшоў у сене светлую саломінку і пачаў чысціць зубы.

— Мяса набілася, гаварыць не дае.

— Сёння ж пост! — засмяяліся слухачы.— Пятніца.

— Ага,— згадзіўся брыгадзір,— пятніца — посны дзень. І самы строгі посны дзень. Бывала, у сераду яшчэ маглі даць хвораму дзіцяці шклянку малака. А ў пятніцу — паміраць будзеш, а малака і кроплі не дадуць.

— А куды ж дзявалі малако? — пацікавіліся слухачы.— Свіней карміді, ці што?

— З малака рабілі сыр, масла. А гэтыя прадукты таму ж папу аддавалі: папы і паны дурнямі не былі — і ў пост елі скаромнае. Даставалася, вядома, сёе-тое і свінням — сыроватка, маслёнка. Свінні — яны ж у бога не верылі, ім пасціць не было патрэбы.

Слухачы весела рассмяяліся.

— А я не пасціў бы,— сказаў Рыгорка Клінок.— Дурні былі тыя, хто пасціў.

— Не,— сказаў брыгадзір.— Не дурні, а сляпыя. Як краты, што пад зямлёю жывуць. Гэта цяпер усе вы пісьменныя, ведаеце, што і да чаго. А што ведалі мы? Школ жа для нас тады не будавалі. Так што лёгка цяпер табе гаварыць. Але я таксама не хацеў быць дурнем. Глянуў на тую сявеньку са скаромным, пра якую я вам ужо казаў, дык у мяне аж у галаве памутнела: так захацелася паспытаць чырвонае яечка! І не дзіва: сем тыдняў на адной бульбе ды капусце сядзелі. Я ўжо ледзьве ногі валок ад галадухі. А колькі слабых — малых і старых — паміраля ў такія пасты!

— А што гэта, дзядзька Сымон, сявенька? — запытаўся Рыгорка Клінок.

— Сявенька? Каробка такая,— адказаў брыгадзір.— Чым мы цяпер сеем збожжа?

— Сеялкамі.

— А некалі сеялак не было. Збожжа насыпалі ў лубяную каробку-сявеньку, вешалі гэтую сявеньку на шыю і выходзілі на загон сеяць. Вось так: мах, мах!

— А зярняты хіба роўна сеяліся? — запытаўся Валодзя.

— Не так, вядома, як з сеялкі. Але нішто. Я нават

прыказку помню: «Прыйшоў Мікола, не пытай ні ў кога, бяры сявеньку ды сей памаленьку».

— А хто такі Мікола?

— А бадай цябе,— прыцмокнуў брыгадзір.— Я ж казаў: «Далей у лес — болей дроў». Мікола — было такое асенняе свята. Пасля яго звычайна пачыналі сеяць жыта. Гэта цяпер у нас зямельныя аддзелы ды аграномы ўсюды. Тады ж галоўным вясновым аграномам быў Юрай, а асеннім — Мікола. Ага, дык пра што я хацеў вам сказаць?

— Пра папоўскія восы!

— А перад Міколам пра што гаварыў?

— Пра сявеньку...

— Ага, успомніў! У сявеньцы ляжалі пафарбаваныя яйкі. Як яны тады спакушалі мяне! Забраўся я ў камору, дзе стаяла тая сявенька, ды ўзяў адно яйка. Думаў, маці не пазнае. З'еў яго — смачнае, каб на яго ліха! Зноў цягне мяне да сявенькі. Што магнітам якім. Узяў яшчэ адно. А потым падумаў: не шкодзіла б і сала ці каўбасы паспытаць. Адзін грэх... Адным словам, пакуль не ад'еўся за ўсе сем тыдняў галадухі — не адстаў ад сявенькі. Тым часам увечары бацька з маткаю сабраліся ў царкву. Паглядзелі, а ў сявеньцы траха паловы скаромнага не хапае... Ай, што было! Паспрабаваў быў я на ката спіхнуць. Ды кот жа яек са шкарлупінамі не есць. Паклёп гэты на ката адпаў адразу. А тут, як на бяду, мяне схапіў жывот — і ўсё стала ясна...

Брыгадзір змоўк, з непрыемнасцю ўспамінаючы тое здарэнне.

— Ну і што было далей? — не цярпелася слухачам.

— Перш за ўсё бацька добра адлупцаваў мяне папругай. А потым успомнілі, што гэта ж я зрабіў страшэнны грэх: еў скаромніну ў апошні дзень вялікага посту! Бог можа разгневацца і наслаць бяду не толькі на мяне, але і на ўвесь наш род і плод, як кажуць. Што ён мог зрабіць? Пагнуць рукі, якімі я дакранаўся да скаромнага. Гэта раз. Наслаць мор на курэй і свіней. Два... Ды ці мала ён можа прыдумаць штукаў, качаючыся там на мяккіх воблаках? Насылаць на людзей усялякія напасці — на гэта бог мастак. Бацькі так напалохаліся самі і напужалі мяне божымі карамі, што я не ведаў, куды падзецца. Я нават падумаў, ці не налажыць на сябе рукі. Пабег быў ужо нават на рэчку тапіцца. Ды перадумаў: вада надта халодная — была яшчэ ранняя вясна. А тым часам мінуў дзень —

я жыву, рукі мае не гнуцца, куры і свінні не здыхаюць. Мінуў другі — нічагусенькі. Тыдзень праходзіць, месяц — парадак! Вось тады і пахіснулася ў мяне вера ў бога. Значыць, не такі ўжо ён магутны, як поп расказвае. Значыць, можна нарабіць граху, а ён і голасу не падасць. Эге! Добра, калі так. Гэта было вялікае праясненне для маіх слабых мазгоў. З таго часу я зажыў, не баючыся бога. І, што таіцца, сяды-тады крадком у посныя дні і да малака дабіраўся, і да сала. Бацькі, калі і бачылі гэты мой грэх, маўчалі. Відаць, і яны ў душы згадзіліся, што дарэмна людзі мораць сябе постам.

Брыгадзір захваляваўся, паглядзеў на сонца.

— Пара, здаецца, за работу брацца.

— А восы? — зашумелі слухачы. Ім зусім не хацелася чакаць да наступнага дня.

— Ну, гэта ўжо самы кароткі расказ,— супакоіў іх брыгадзір.— На закуску, як кажуць. Гэй,— гукнуў ён да касцоў, якія адпачывалі недалёка ў цяньку.— Падымайся!

Касцы пачалі падымацца.

— А мы,— сказаў брыгадзір да сваіх слухачоў,— пасядзім яшчэ мінут пяць. З восамі была такая справа. Навокал царквы стаяў высокі моцны паркан. А каля яго раслі густыя кусты, ліпы і бярозы. Мы, малыя, часта гулялі там. Аднаго разу я лазіў па кустах, шукаў парэчак. Раптам адкуль ні вазьміся з-пад самых ног у мяне ўзвілася аса. Не паспеў я адскочыць убок, як яна — жых! — і пеканула мяне ў лоб, вось так, як Валодзю ўчора. А бадай цябе ліха! Злосць узяла мяне на тую асу. «Відаць, тут недзе асінае гняздо»,— падумаў я. Пашукаў — і праўда: у кустах было асінае гняздо. Чапаць яго, вядома, рызыкоўна — восы могуць так скусаць, што потым не ачухаешся. Што ж рабіць? Спаліць асінае гняздо — вось што з імі зрабіць! Я збегаў дахаты, узяў запалкі. Потым назбіраў ламачча і падпаліў яго на асіным гняздзе. Дзень быў ветраны, агонь зашугаў весела, і неўзабаве ўспыхнуў сухі паркан. Эге, бяда будзе! Я адрокся ад восаў і пабег да папоўскага возера. Сеў у кустах і цікую, што будзе далей. Аж бачу — ужо і царква гарыць... Яна была драўляная. Відаць, вецер данёс да яе іскры ад паркана. Што ж цяпер мне будзе? Падпаліць царкву — гэта ўжо быў самы найгоршы грэх. Ну, што ж, думаю, калі бог усё можа, то няхай патушыць пажар. Тады я ў яго зноў паверу. Але вось ужо ўся сцяна запалала, а бог і не думае тушыць. Мне нават весела стала. Ну і паскача

поп Васіль! Так яму, скнару калдунаватаму, і трэба. Пажар неўзабаве ўбачылі папоўскія парабкі. Кінуліся тушыць. Ды дзе там! Прыбеглі і нашы селавыя з вёдрамі, з бусакамі, але і яны рады не далі. Вецер ад пажару ўсхадзіўся такі, што царква гарэла, як куча сухога буралому. Поп дык аж валасы на сабе рваў. Ды і не дзіва: гэта ж яго самы лепшы прыбытак з дымам да неба шугае! Паспрабуй цяпер пабудаваць новую царкву! І трэба сказаць, што ён заўзята ўзяўся збіраць з веруючых грошы на новую царкву. Аблажыў усіх самым высокім царкоўным падаткам. Ды не пашанцавала скурадзёру: прыйшла рэвалюцыя... На свеце пачалося такое, што не да царквы было. Ды і народ перастаў папа баяцца. Зямлю адабралі спачатку ў пана, а потым і да папа пайшлі. «Хочаш, сказалі яму, жыць, як усе людзі, пакінем табе дзесяцін пяць. Толькі каб сам араў, касіў і ніякіх парабкаў не трымаў. А не хочаш — не крыўдуй...» Ну, поп Васіль пакруціўся сюды-туды ды з'ехаў недзе назусім. Сам працаваць не захацеў, а без царквы яму прыбыткаў няма. Так удалося мне адным захадам выкурыць яшчэ адно асінае гняздо. Якое? — раптам запытаўся Сымон Лаўрэнавіч.

— Папоўскае! — дружна адказалі слухачы.

— То-та ж. А цяпер — за работу.

Сымон Лаўрэнавіч жвава, па-маладому ўсхапіўся на ногі, а за ім паднялася і ўся яго самая маладзейшая брыгада.

*1961 г.*

# ТУМАННЫЯ КАРЦІНЫ

(Старая быль)

Раней вясковыя людзі звычайна жылі асела: гэта значыць, трымаліся свайго роднага гнязда. І так трымаліся, што, бывала, чалавек за ўсё жыццё далей кірмашу ў валасным мястэчку нідзе і не бываў. Мужчыны яшчэ маглі парушыць гэтую аселасць — ішлі ў салдаты, часамі адлучаліся ў заработкі. А жанчыны — тыя, апрача сваёй сядзібы, больш свету і не бачылі. Ды не толькі свету — сябе ў твар не бачылі: хіба што ў лужыне якой, бо пра люстэркі мала хто і чуў.

Дык вось расказваюць пра такі выпадак з таго часу.

Жылі ў адной вёсцы на Палессі дзве сястры: Луцэя і Кацярына. Падобныя былі, як дзве кроплі вады: у аднае доўгія русыя косы і ў другой. У аднае вялікія блакітныя вочы і ў другой. У аднае светлы румяны твар і ў другой такі ж. Адным словам, толькі родная маці і магла дакладна сказаць, хто з іх Луцэя, а хто Кацярына.

Як прыйшла пара, Луцэя выйшла замуж у роднай вёсцы. Трапіўся ёй хоць і бедны, але добры хлопец Андрэй. А малодшай сястры выпала іншая доля: сасватаў яе вандроўны карабейнік з-пад Смаленска. Не хацелі бацькі разлучацца з дачкою, аддаваць за блізкі свет, ды што зробіш: дужа спадабаўся Кацярыне малады карабейнік.

Ішлі гады. Паўміралі старыя бацькі. А сёстры так з таго часу і не бачыліся.

Часта ўспамінала Луцэя сваю малодшую сястру: як яна там, небарака, жыве на чужой далёкай старане? Часамі сніла яе і ўжо тады, у сне, давала волю і слязам, і гаворцы.

А потым прыйшла вайна, а за ёю рэвалюцыя. І строгая рыса вясковай аселасці пачала рушыцца. Парушыла яе аднаго разу і Луцэя. Яна адважылася зрабіць з мужыком падарожжа ў акруговы горад, каб паглядзець туманныя карціны. Андрэй за апошнія гады нямала пабачыў свету — ваяваў з немцамі, потым з белапалякамі. Ён ужо добра ведаў і свой акруговы горад і часта расказваў жонцы пра яго. Асабліва спадабаліся яму туманныя карціны, якія паказваюць там у кіно. Луцэя ніяк не магла ўцяміць, што

гэта за туманныя карціны, а мужык ніяк не мог талкова растлумачыць пра іх. «Ходзяць людзі проста перад табою,— расказваў ён,— нешта, праўда, нячутна гавораць, часам смяюцца або плачуць. Але гэта толькі туман: сапраўдных людзей, дамоў і ўсяго, што паказваюць, там і няма... Адным словам, гэта трэба паглядзець самой».

І вось нарэшце Луцэя першы раз у жыцці трапіла ў вялікі горад. Чаго толькі не ўбачыла яна тут! Велізарныя гмахі дамоў, рамізнікі, машыны-самаходы на вуліцах, людзей на вакзале і на тратуарах, як на кірмашы... І пакуль дайшла ад вакзала да кіно, галава яе ўжо добра шумела і ад незвычайнага гарадскога тлуму, і ад незвычайных уражанняў.

Купіўшы білеты, Андрэй з жонкаю падняліся па ўсходках наверх і апынуліся ў фае кіно. Гэта была досыць прасторная зала з высокай столлю і люстранымі сценамі, каля якіх у вялікіх скрынках раслі даўгалістыя фікусы. Народу яшчэ было няшмат: відаць, чарговы сеанс пачынаўся не скора.

Луцэя здзівілася, што людзі гуляюць тут, як на вуліцы. Пайшла і яна з Андрэем па зале. І раптам глядзіць — проста насустрач ёй ідзе вельмі ж знаёмая кабета. Дзе яна яе бачыла? Такі блізкі, родны твар? Луцэя так і ўліпла ў яго вачыма. «Ды гэта ж сястра Кацярына!» — успомніла яна. Пастарэла, небарака, маршчыны пад вачыма распаўзліся, нос, здаецца, трошкі выцягнуўся, шчокі ўпалі... Але Луцэя і такую адразу пазнала яе. За колькі гадоў вайны і рэвалюцыі так ні разу і не прыехала яна ў госці са сваёй Смаленшчыны. Толькі пісьмы сяды-тады прыходзілі раней. А цяпер і пісем не піша. Але затое, відаць, ужо сама сюды бліжэй да роднага дому пераехала. Цэлае жыццё прамільгнула перад вачыма Луцэі за першы момант гэтай нечаканай сустрэчы. А ў другі момант яна ўжо бегла насустрач сястры, шырока растапырыўшы рукі.

— Кацярынка! Сястрыца!

Сястра Кацярына таксама растапырыла рукі і таксама бегла да Луцэі. І нешта, відаць, крычала ёй, але слоў яе Луцэя не чула.

Разгублены Андрэй кінуўся ўслед за жонкаю.

— Чакай, чакай! — клікаў ён.— Там сцяна...

Публіка таксама зацікавілася здарэннем з вясковаю бабаю. Адны адразу зразумелі яе памылку і весела ўсміхалі-

ся. Іншыя падумалі — яна і сапраўды ўбачыла тут сваю знаёмую і так горача вітае яе.

Луцэя падбегла да сястры і хацела чмокнуць яе ў шчаку. Але замест цёплай чалавечай шчакі губы яе ўперліся ў нейкую халодную гладкую сцяну — перашкоду. «Што ж гэта? — падумала Луцэя.— Хто тут не пускае яе да роднай сястры? А можа, гэта таксама той туман, пра які расказваў Андрэй?»

Яна адступілася крыху далей і, не зважаючы на крыкі мужыка, рынулася з усяе сілы, каб разарваць гэты праклятый туман. Але на гэты раз моцна ўдарылася лбом у нешта цвёрдае і адкінулася на падлогу.

Збянтэжаны Андрэй падняў яе.

— Луцэя, што з табою?

Жонка паглядзела на яго непрытомнымі вачыма.

— Дзе сястра мая Кацярына? Яна ж толькі што была тут!

Луцэя глянула перад сабою і зноў убачыла сястру, на гэты раз ужо з добрым гузаком на лбе.

— Ды вось жа яна! Кацярынка! Гэта я, Луцэя!

І зноў памкнулася наперад. Андрэй сілаю адвёў яе ад сцяны: цяпер яму ўсё стала ясна.

— Люстра гэта! — доўга даводзіў ён потым жонцы.— Вялікае, на ўсю сцяну, люстра. Разумееш? А ў ім ты ўбачыла сябе. І табе здалося, што гэта Кацярына...

Луцэя раней і малога люстэрка не бачыла, і ёй, ашаломленай такім здарэннем, не лёгка было разабрацца, што тут і да чаго.

Потым, седзячы ў кіно, яна ўсё шкадавала, што нейкае недарэчнае люстра перашкодзіла ёй пагаварыць з роднаю сястрою. Відаць, яно, гэтае люстра, пускае ў вочы такі ж туман, як і тая карціна, якую паказвалі на экране.

*1961 г.*

# П'ЯНЫ ВОЎК

Якіх толькі прыгод не бывае на свеце. Гэтую траха што не фантастычную гісторыю расказаў мне адзін паляўнічы. Паляўнічыя апавяданні, праўда, не лічацца за сур'ёзныя. Але гэтае можна лічыць ісціннай праўдай. Чаму? Па-першае, апавядальнік мой добры знаёмы, і не будзе ж ён мне хлусіць, а па-другое, наўрад ці можна прыдумаць такое з галавы, хоць бы ты быў нават і паляўнічым.

Дык вось. Жыла ў пасёлку Ч. цётка Параска. Не будзем апісваць яе знешняга выгляду, характару,— скажам толькі, што была яна заядлая самагоншчыца. Нямала цётка Параска дабра сапсавала, цэлы мяшок грошай нагандлявала. І ўсё ёй сыходзіла з рук. Бо гнала яна самагонку не дома, а ў лесе. І забіралася са сваім самаробным броварам у такія воўчыя логавы, што яе там не толькі міліцыя,— камары не маглі знайсці.

Але кажуць жа: да пары збан ваду носіць. Гэтак здарылася і з цёткай Параскай.

У той дзень, аб якім мы тут расказваем, прывезла яна на свой спіртагарэлачны завод самую адмысловую брагу. Ні адзін самагоншчык ва ўсёй ваколіцы не мог бы даць ганьбы такой бразе. Тут была і мука, і бульба, і дрожджы, і хмель, і солад — адным словам, усё, што магла прыдумаць багатая фантазія цёткі Параскі. А пах ад брагі ішоў такі, што мо за кіламетр чулыя насы пачыналі чмыхаць і чхаць.

Загрузіла цётка Параска першы чыгун брагі і паставіла яго на пячурку, падключыўшы броварны апарат.

Чыгун нагрэўся, і неўзабаве цётка Параска каштавала з падстаўленай пасудзіны самы першы гатунак свайго вырабу. «Слаўны крапчак»,— кракнула яна, выціраючы губы. Давядзецца цану накінуць. Не прадаваць жа яго як звычайную гаркоту!

Брага ў дзяжы лагодна папыхквала, і цётка Параска прыкідвала, колькі можна выцадзіць з яе паўлітраў. Задаволеная сваімі падлікамі, яна падкінула ў пячурку ахапак свежых дроў і падалася шукаць новыя запасы паліва.

Паблізу ўсё сухое было падабрана. Прыйшлося ісці на

Цімохаў груд: там, бачыла яна, нехта добрых карчоў нарыхтаваў.

Набрала цётка Параска на Цімохавым грудзе цэлае бярэмя сухіх смалістых карчоў і рушыла назад да свайго бровара. Бачыць здалёк — нехта варушыцца ў гушчары, і якраз там, дзе яе апарат папыхквае...

Цётка спынілася. Сэрца ў яе ледзь не абарвалася. Няўжо хто высачыў? Не можа быць! Не першы ж год яна тут працуе. Прыгледзелася лепш, аж бачыць: воўк арудуе на яе бровары! Худы, шэры, узлахмачаны. Завіхаецца каля дзяжы, як галодны вяпрук.

— Ай! — крыкнула збянтэжаная цётка Параска, і карчы вываліліся ў яе з рук.

Воўк тым часам смачна аблізнуўся і, не надта спяшаючыся, пакуляўся далей сваёй дарогаю.

Падбегла цётка Параска да апарата, бачыць — брагі ў дзяжы добрай палавіны не хапае, а першака ў пасудзіне — ні кроплі...

— А каб ты здох, а каб ты апруцянеў, а каб цябе зямля не насіла!..— загаласіла цётка Параска, але так, каб ніхто яе не пачуў. Была яна жанчына скупая, і такі ўрон у гаспадарцы перажыць ёй было не лёгка.

Але — што зробіш? Пагаласіла, пабедавала ды зноў ухапілася за работу — трэба было ратаваць хоць рэшту дабра.

Тым часам воўк не здох і не апруцянеў ад кленічаў цёткі Парасні. Наадварот: павесялеў і пасмялеў. І хоць выжлукціў ён траха не паўдзяжы адмысловай брагі, голад усё яшчэ мучыў яго. Ён успомніў, што ў бліжэйшым пасёлку бегаюць па вуліцах і панадворках смачныя парасяты, якіх не раз даводзілася яму красці. Ну, што ж: п'янаму, як кажуць, і мора па калена. Надумаўся воўк і патрусіў, хістаючыся, у пасёлак.

Ён бег полем так смела сярод белага дня, што ніхто і не падумаў, што гэта воўк.

Каля пасёлка воўк спыніўся. І хоць хмель усё больш разбіраў яго, ён успомніў, што ў хлеўчуку на першым двары нядаўна пішчалі парасяты. Ён пераскочыў цераз невысокі плот. Але тут нешта вельмі ж замуцілася ў яго воўчай галаве, і ён пластом выцягнуўся пасярод двара. Спрабаваў устаць, але і ногі і галава больш не слухаліся яго.

Неўзабаве з дому выйшаў гаспадар дзед Мірон. Убачыў ваўка пасярод двара і здзівіўся: адкуль тут гэтая

аўчарка? Ён не чуў, каб хто з суседзяў трымаў аўчарак. Потым успомніў, што аўчарку ён бачыў у міліцыі.

Дзед Мірон свіснуў. Воўк выскаліў зубы. Але не падняўся.

«Захварэла аўчарка, ці што? — падумаў слабы на вочы дзед Мірон.— Трэба ў міліцыю заявіць. Няхай забяруць».

Дзед Мірон зачыніў за сабою калітку і пашыбаваў у міліцыю.

Выявілася, што міліцэйская аўчарка дома, і яна, як прыгледзеўся дзед Мірон, зусім нават і не падобна на тую, што разлеглася на яго двары.

У міліцыі таксама зацікавіліся новай аўчаркай. Хутка на месца здарэння разам з дзедам Міронам прыбыў старшы сяржант міліцыі Максім Ярмак. Наконт аўчарак ён быў чалавекам спрактыкаваным, бо скончыў спецыяльныя курсы і меў справу са службовымі сабакамі. Глянуўшы на незнаёмую аўчарку, старшы сяржант замахаў рукою на дзеда Мірона:

— Не падыходзь!

А сам пачаў даставаць з кабуры рэвальвер...

Калі старшы сяржант падышоў бліжэй да забітага воўка, дык пачуў, што ад яго вельмі ж патыхае самагонкаю... Вось дык гісторыя! З такімі парушальнікамі грамадскага парадку старшаму сяржанту яшчэ не прыходзілася мець справы.

«Адкуль жа воўк дастаў самагонку? — задумаўся старшы сяржант.— Трэба зараз жа выехаць на месца дазнання...»

Неўзабаве ўся міліцыя разам з сапраўднай аўчаркай рушыла да месцапражывання п'янага воўка.

І там, у воўчым логаве, лёгка знайшлі таго, хто спаіў героя нашага апавядання.

Так была нарэшце выкрыта самая заядлая ў пасёлку Ч. самагоншчыца цётка Параска.

*1962 г.*

# ЖЫВЫ НЯБОЖЧЫК

Стары калгаснік Раман Страхапуд ехаў з раённага цэнтра дахаты. Дзень быў асенні. Дождж не сціхаў усю дарогу. У твар дзьмуў моцны мокры вецер. Раман курчыўся на возе, адхінаўся ад ветру, сцярушваў ваду з шапкі і каўняра.

Адным словам, дарога выпала не з вясёлых. Але самая горшая пакута была з люлькаю. Ні распаліць яе, ні курыць у такую непагадзь нельга.

Пасля няўдалых спробаў Раман плюнуў са злосці і цвёрда вырашыў не браць люлькі ў рукі аж да самага дома.

Але для такога курца, як Раман, лягчэй даць слова не курыць, чым яго спраўдзіць. Думкі пра курыва не выходзілі з галавы. І праз нейкі час яны прывялі Рамана да могілак.

Могілкі якраз па дарозе. А там — капліца: старая, крытая гонтамі будка. «Зайду,— вырашыў Раман,— у капліцу і спакойна выкуру люльку, а то і дзве». Цяпер ужо ехаць было весялей. Аднак Раману здавалася, што каняка яго перабірае нагамі ўсё ж марудна, і ён часцей нокаў і махаў пугаю.

Потым думкі Раманавы перакінуліся на лектара, які нядаўна ў калгасным клубе гладка расказваў пра багоў, чарцей і розныя забабоны. Калі верыць лектару, дык усё, выходзіць, пачалося не ад бога і нячыстай сілы, а ад саміх людзей. Не бог стварыў чалавека, а чалавек — бога. А разам з богам і чорта і ўсю іхнюю хеўру. І стварыў на сваю ж галаву. Мінуў час — і не маленькі, чалавек паразумнеў, разгадаў нямала таямніц прыроды, а адчапіцца назусім ад розных забабонаў не можа. Прысталі яны да яго як смала.

Сам Раман таксама ўсё яшчэ вагаецца. У царкву, праўда, не ходзіць: брыдка перад дзецьмі і ўнукамі. Яны ж усе — бязбожнікі. Смяюцца з яго забабонаў. Затое пацеры сяды-тады шэпча — цішком, сам сабе. І знахарам верыць. І заломаў пужаецца. І чорнай кошкі, якая перабягае дарогу, баіцца...

Каля могілак Раман спыніў каня, закінуў лейцы за прыдарожны камень і траха не подбегам падаўся да капліцы.

Замка на каплічных дзвярах не было. Ды цяпер яе ніхто і не замыкае. Даўно ўжо як хаваюць нябожчыкаў без папа. Але Раман усё ж прыпыніўся, перш чым адчыніць дзверы. Нешта ўнутры варухнулася і напомніла пра страх. Што б там лектар ні гаварыў, а страх ёсць страх. Вецер з дажджом шумелі ў вершалінах старых хвояў, наганяючы маркотны настрой.

Раман глянуў на стрэшку і падумаў: «Пакуру лепш збоку». Стаў пад капеж побач з акенцам, якога даўно ўжо ніхто не шкліў. Дастаў тытунь, люльку. Рабіў усё гэта, завіхаючыся, хацелася хутчэй зацягнуцца. Чыркнуў запалку і паднёс да люлькі.

— Чакай, не тушы,— раптам пачуўся голас з каплі-цы.— Дай прыкурыць!

Раман так і ўшэрх. Спачатку падумаў, што, можа, гэта яму здалося. Падняў вочы да акенца, бачыць — сунецца адтуль худая, калматая рука...

Як ускрыкне Раман, як кінецца з могілак прэч! Люлька выпала з зубоў, запалкі — з рук.

Схапіў ён на бягу лейцы, ускочыў на воз і давай смаліць каня па хвасце.

Нейкі час ён чуў яшчэ той жа голас:

— Чакай, чакай, не ўцякай!

Але Раман ні разу нават не азірнуўся. «Гэта,— думаў ён,— было б самае горшае: сустрэцца твар у твар з жывым нябожчыкам! Ці вытрымала б сэрца ад страху?»

Прымчаўся Раман дахаты ні жывы ні мёртвы. Зубамі ляскае, гаварыць не можа: адняло ў чалавека мову!

Дзеці і ўнукі напалохаліся, паслалі па доктара.

А тым часам заходзіць неўзабаве ў хату высокі хударлявы калгаснік з суседняй вёскі. І падае Раману яго люльку.

Убачыў Раман сваю люльку, і адразу вярнулася да яго мова.

— Цьфу! — плюнуў ён.— Бадай ты згарэў! Трэба ж так напужаць! І чаго цябе нячысцік загнаў туды?

— Таго, чаго і цябе,— праз смех адказаў калгаснік.— Ад дажджу хаваўся.

Раней з Рамана Страхапуда смяяліся калі-нікалі свае дзеці і ўнукі. А цяпер — уся вёска.

І няхай смяюцца: смех, як вядома, карысны чалавеку.

*1963 г.*

# ПРА БАБУЛЮ СОНЮ, УНУЧКУ ТОНЮ І КОШКУ РОНЮ

(Не казка, а быль)

Жыла-была бабуля Соня. І была ў яе ўнучка-пястушка Тоня. Чаго ўнучка ні пажадае — бабуля ўсё зробіць.

Пажадала аднойчы ўнучка мець кошку. Бабуля ўсіх суседзяў абхадзіла, усе двары абшукала, а кошку дастала.

Кошка была не маладая і не старая — так сабе, сярэдніх кашэчых гадоў. Поўсць яна мела шэрую. А хвост і нос белыя. Звалі кошку Роня або Ронька. І так яны з першага дня пасябравалі — бабуля Соня, унучка Тоня і кошка Роня,— што і вадою не разліеш.

Мінуў дзень, другі — і кошка Роня зусім распесцілася. Ці з прычыны натуры сваёй кашэчай, ці ад занадта шчырага сяброўства. Хто яе ведае. Ды спаць цяпер яна клалася не іначай як з унучкай Тоняй — у адну пасцель, на адну падушку. Мышы ў кватэры бабулі Соні не жылі, дык кошка цэлымі днямі толькі і ведала, што на мяккай канапе адлежвалася. І так разляжалася, што на двор нават па сваёй кашэчай патрэбе выходзіць ленавалася.

Бабуля, вядома, кошку даглядала, цёмныя кашэчыя куткі падмятала ды вымывала. Аднак з работаю сваёю ўсё ж не ўпраўлялася. Бо, трэба сказаць, была яна бабуля не зусім старая і таму кожны дзень на работу хадзіла, у важнай установе грошы лічыла, бухгалтарам працавала. А ўнучка была ўжо дужаватая, у школу ў першы клас бегала, урокі вучыла.

Адзін Тонін дзед Фадзей дома сядзеў, абедыварыў, гаспадарку даглядаў. А зарплату дзядоўскую, якая пенсіяй называецца, яму паштальён у канверце прыносіў.

Доўга яны так жылі ці нядоўга, ды аднойчы пачаў стары дзядуля маладой бабулі на кошку Роньку скардзіцца. «Жыцця ад яе няма,— кажа.— Усё, што на стол трапляе, кошка паспытае. Нічога ад яе не ўпільнуеш. Шкодніца несусветная. І паветра ад кошкі цяжкае. Бранхіт мой не вытрымлівае кашэчага паветра».

А бабуля і слухаць дзеда Фадзея не хоча.

— Што табе,— кажа,— стары, прыснілася. Ронька наша добрая.

Баба на дзеда накрычала ды яшчэ лепш даглядаць Роньку загадала.

Пакутуе дзед і ўсё адну думку думае: як кошку Роньку перавучыць, каб яна культурнаю стала. Ды навука ёй ніяк у галаву не ішла. Няздольная, бач, да навукі была. Павая-ваў дзед Фадзей з кошкаю Ронькаю ды надумаўся зрабіць так, як усе людзі з благімі кошкамі робяць. Паклаў у мяшок і завёз на трамваі нумар адзін аж на другі канец горада. «Лепш,— думае,— няхай баба з унучкай лішні разок паравуць, чым такую пакуту ад кошкі мець. Ды і ўнучку шкада. Мала якія хваробы ад кошак да малых прыстаюць». Дзед Фадзей, бач, пісьменны быў, часопіс «Здоровье» чытаў, за медыцынскаю навукаю сачыў.

Ды дужа памыліўся дзед Фадзей.

Як даведалася баба Соня, што прапала яе любімая кошка Роня, дык ледзь на нагах устаяла. І ўнучка Тоня загаласіла: вядома, ёй і кошку шкада, а яшчэ больш бабулю заплаканую.

Папала дзеду ад бабы. Яшчэ і як...

— Ты, стары, такі ды сякі, дома сядзеў, кошкі не дагледзеў! Ты яе не карміў, не паіў, дык не дзіва, што яна збегла. Ад цябе і мы з унучкаю скора збяжым.

Дзед, вядома, маўчаў, што кошку сам з дому звёз.

Дзень мінуў — не вярнулася кошка. І на другі няма, і на трэці. А бабуля жыць без яе не можа. З ног збілася, усе двары абхадзіла, усе памыйніцы абшукала, а кошка любімая як у ваду ўпала... Ды бабуля, як мы казалі, была незвычайнаю бабуляю. Яна ведала, што рабіць, калі прапажа здараецца. Села яна за стол абедзенны і напісала такую аб'яву: «Увага! Увага! Знікла з дому кошка па імені Ронька. Колер — шэры, хвосцік і носік белыя. Хто яе знойдзе і законнаму гаспадару верне, будзе мець ўзнагароду».

Тут бабуля спыніла сваё пяро красамоўнае, падумала: якую ж цану за кошку даць? На рынку кошкі не прадаваліся, і цаны на іх баба Соня не ведала. Але яна лічыла сваю кошку самай лепшай на свеце. І прыпісала цану такую, за якую можна было цэлую авечку купіць — з мясам і воўнаю.

Размножыла баба Соня сваю аб'яву на машынцы пішучай ды расклеіла на ўсіх платах каля дома і за домам. «Заўтра,— думае,— кошка знойдзецца». А дзед маўчыць, як вады ў рот набраўшы. «Шукай,— думае,— ветру ў полі».

Назаўтра, толькі баба Соня на работу сабралася, чуе: стук у дзверы! Адчыняе, а перад ёю хлапчук-падлетак з шэраю кошкаю ў руках.

— Вось ваша кошка,— кажа і пускае яе на падлогу.

— Ронька, Ронька! — узрадавалася баба Соня.— Кошачка мая любімая! Дзе ж ты, дуронніца, прападала?

Хацела баба кошку за вухам пачухаць, а кошка як зафыркае, як драпане бабу за руку!

— Ой! — нема закрычала баба Соня.— Яна шалёная!

Прыбегла ўнучка. Паглядзела.

— Гэта не наша Ронька,— кажа.

Ачухалася баба ад болю, прыгледзелася, і праўда: у кошкі нос чорны!

— Я яе на памыйніцы злавіў,— апраўдваецца хлапчук.— Яна там нос забрудзіла.

Не паспела баба Соня растлумачыць хлапчуку, што ён памыліўся, бачыць, другі ідзе, шэрую кошку пад пахай нясе. Пакуль з другім спрачалася — трэці надышоў. За ім чацвёрты, пяты...

Баба Соня і пра сваю работу забылася. Да паўдня ёй язык ад кашэчых спрэчак апух. А тым часам кошкі ўсё сыпаліся ды сыпаліся пад ногі бабы Соні. І не толькі кошкі, а і каты. Бо хто іх там у спешцы разбярэ: каторая кошка, а каторы кот. Закідалі хлапчукі катамі ды кошкамі бабіну кватэру трохпакаёвую. А тут кашэчае войска такую бойку ўзняло, толькі поўсць ляціць. Сяк-так дзед Фадзей піскілівых ваякаў папругай за дзверы павыганяў. Там яны хто куды разбегліся, па глухіх закутках хаваліся, па лесвіцах на вышкі забіраліся. Адным словам: двор засялялі ды абжывалі.

Пад вечар яшчэ адна кошка да бабы Соні завітала. Прынёс яе хлапчук-першакласнік.

— Ды яна ж чорная,— сказала яму баба Соня сваім языком апухлым.— Наша кошка шэрая была.

— Дык шэрых ужо нідзе не відаць,— адказаў хлапчук.— Вазьміце, бабуля, чорную. Вам жа ўсё роўна. А мне на кіно грошы патрэбны.

Баба Соня малога першакласніка ўсё ж ні з чым з кватэры адправіла. Затое дзед Фадзей ніводнага хлапчука так не выпускаў. Кожнага за дзверы выводзіў, на білет у кіно грошы даваў. «Яны ж стараліся,— разважаў дзед.— Іх крыўдзіць не трэба».

У бабы Соні галава разбалелася. А тут раптам дворні-

чыха з суседняга двара прыходзіць, шэрую кошку прыносіць. Ды ні баба Соня, ні ўнучка Тоня новай кошкі таксама не прызнаюць, хоць у яе і хвост і нос белыя. А дворнічыха — цётка ўпартая. Не адступаецца. Слова за слова, ледзьве да бойкі не даходзіць.

— Не маеш права,— крычыць упартая дворнічыха на бабу Соню,— сумленных людзей у зман уводзіць. Кошка твая — і ўся тут гаворка. Давай узнагароду!

Выгнала сяк-так баба Соня дворнічыху з кватэры, дык яна міліцыянера паклікала.

Міліцыянер пратакол склаў і дворнічысе аддаў.

— На суд,— кажа,— падавай. Справу тваю толькі суд вырашыць можа.

Тут баба Соня зусім абамлела. Ледзь жывая на ложак упала. Ляжыць і стогне. А дзед вытурыў на двор новую кошку — і маўчок. Бяда!

Не паспела баба Соня ад сутычкі з упартаю дворнічыхаю апамятацца, як раптам суседзі ў кватэру заяўляюцца.

— Забірай, Соня Іванаўна, з двара сваіх галодных катоў і кошак,— кажуць.— Жыві з імі ў сваёй кватэры — на здароўечка! А нам яны не патрэбны. Мы цяпер не можам ні дзвярэй, ні фортак адчыніць. Яны ж, як саранча, нас атакавалі...

— Гэта не мае кошкі,— стогне баба Соня.

— А чые ж? Па тваіх аб'явах яны сюды сабраліся.

Баба Соня цяпер на катоў ды кошак і глядзець не магла. Давай яна дзеда Фадзея прасіць:

— Ратуй мяне, дзеду, ад катоў і кошак!

— Добра,— усміхаецца дзед Фадзей у сваю дзядоўскую бараду.— Выратую. Толькі дагавор...

— Які там яшчэ дагавор?

— Каб я болей кошак у сваёй кватэры не бачыў.

Пастагнала баба, апошнюю слязу ўраніла, а рабіць няма чаго — згадзілася.

Паклікаў тады дзед Фадзей знаёмых хлапчукоў ды павыганяў з імі ўсё кашэчае войска з двара.

І калі ўся кашэчая справа скончылася, баба Соня, унучка-пястушка Тоня і дзед Фадзей зноў сталі шчасліва жыць-пажываць ды дабра нажываць.

*1964 г.*

# ПРЫГОДЫ ХЛОПЧЫКА ІЛАРЫКА

## ІЛАРЫК ЕДЗЕ Ў ДОМ АДПАЧЫНКУ

Іларыку споўнілася восем гадоў. Ён ужо скончыў першы клас. А ўсё яшчэ ніяк не мог са сваімі дзіцячымі хваробамі расстацца. То адна, то другая чапляецца. Праступда ж, дык тая і з дому, як кажуць, не вылазіць.

— Вы яго занадта песціце,— казалі дактары Іларыкавай маме Веры Паўлаўне.— Хлопца загартоўваць трэба. Вязіце яго ў вёску, дзе лес, рэчка, поле. Дайце яму волю і прастор. Няхай пабегае босым па сырой зямлі і роснай траве.

— Дык ён жа прастудзіцца!..— палохалася маці.— Ён у мяне кволы.

— Не бойцеся. Улетку не прастудзіцца.

Маці ўсё ж паслухала дактароў і пачала збірацца на летні адпачынак. Лепш, вядома, вырашыла яна, паехаць не ў вёску, а ў дом адпачынку. Там і дактары на месцы, і бібліятэка, і кіно, і галоўнае — самой варыць не трэба.

У прафсаюзе, дзе Вера Паўлаўна брала пуцёўкі, ёй сказалі:

— Сумна будзе вашаму Іларыку ў доме для дарослых. Можа, яго лепш у піянерскі лагер паслаць?

— Але ж я хачу сама з ім паехаць. А ў піянерскі лагер мяне не прымуць.

— Ну глядзіце, воля ваша.

— Нічога,— сказала маці.— Іларык мой спакойны, паслухмяны хлопец. Што я ні скажу — слухаецца.

— Гэта вельмі добра,— пахвалілі Іларыка ў маміным прафсаюзе.— Такі сынок для бацькоў — скарб. Усе хлопчыкі звычайна шустрыя, дураслівыя, а ваш — спакойны. Не ўсім бацькам такое шчасце трапляецца. Калі пажадаеце прадоўжыць адпачынак яшчэ на месяц, напішыце, і мы прадоўжым. Трэба ж вам нарэшце паставіць сынка на ногі.

Маці падзякавала цёткам з прафсаюза за добрыя словы, а яны пажадалі ёй шчаслівай дарогі.

## ЯК ІЛАРЫК НА КАНЯ САДЗІЎСЯ

Дырэктар дома адпачынку Сяргей Антонавіч сустрэў Іларыка не вельмі прыхільна.

— У нас жа дом не дзіцячы,— сказаў ён.— У нас для малых нават звычайнага мячыка не знойдзецца...

— У мяне свой мяч,— пахваліўся Іларык.

Дырэктар памякчэў.

— Добра, калі так,— усміхнуўся ён.— Адпачывайце на здароўе.

І ён вызначыў Іларыку і яго маме самы лепшы, сонечны пакой.

Цяпер заставалася толькі паслухаць дактароў — даць Іларыку волю і прастор.

Маці так і зрабіла. Сама засела за прыгодніцкія раманы, а Іларыку сказала:

— Ідзі гуляй. Толькі глядзі, сам без мяне не купайся.

Гуляць тут было дзе. Прастору хоць адбаўляй. Не тое, што ў горадзе. Там крок ступіш і ўжо глядзіш, каб на каго не наступіць або самому не трапіць каму пад ногі.

У першы ж дзень Іларыка зацікавіла падсобная гаспадарка дома адпачынку. Яна знаходзілася на прыгожай лясной паляне. Там рос зялёны сад, а паміж дрэвамі — капуста, буракі, морква. З боку палянкі, пры самым лесе, стаялі гаспадарчыя будынкі, скляпы, цяпліцы. І тут жа, на густой мураве, пасвіўся конь каштанавай масці.

Конь зацікавіў Іларыка больш за ўсё іншае. У горадзе ён і не памятае ўжо, ці бачыў калі жывога каня. А тут конь — побач.

Іларык нарваў жменю травы. Конь падпусціў яго зусім блізка да сябе і асцярожна ўзяў траву з рукі сваімі мяккімі губамі. З'еў, чмыхнуў, нібы падзякаваў хлопцу, і, сагнаўшы хвастом мух, зноў пачаў скубці траву.

Іларык нарваў яшчэ большую жменю травы. Конь ахвотна прыняў і гэты пачастунак. «Вось каб праехаць на ім вярхом!» — падумаў Іларык.

Ён ужо мерыўся як-небудзь ускочыць каню на спіну. Але тут падышоў конюх дзядзька Рыгор.

— Не лезь да каня,— строга сказаў ён.— Яшчэ ўбрыкне.

— Не ўбрыкне,— не паверыў Іларык конюху.— Ён спакойны, траву з рук бярэ.

— Не ўбрыкне, дык зубамі хопіць. А мне тады адказвай за цябе. Ідзі лепш адсюль. Гуляй там каля дому.

Іларык адышоўся ад каня. Але ён быў не такі хлопчык, які можа лёгка адмовіцца ад таго, чаго моцна захоча. Ён толькі чакаў зручнага выпадку.

Чакаць прыйшлося не доўга. Неўзабаве конюх завёў каня ў хлеў і прывязаў да кармушкі з аўсом. А сам пайшоў дахаты.

Іларык заглянуў у хлеў. Цяпер яму ніхто не перашкаджаў. Але як жа ўзлезці на каня? З зямлі на яго не ўскочыш. Хлеў быў пусты і прасторны. Нідзе ніводнай перагародкі. Толькі зверху, на вышках, ляжала сена.

«А што, калі ўзлезці на вышкі, а адтуль — на каня! — падумаў Іларык.— Не ўдалося праехаць, дык хоць пасяджу на ім».

Ён так і зрабіў. Узлез па сцяне на вышкі, рассунуў дошкі насупраць каня і скокнуў яму на спіну.

Конь не чакаў такога нападу на яго зверху. Ён захроп, узвіўся на дыбы. Павады трэснулі, і конь загойсаў па канюшні, як ашалелы. Іларык зваліўся з яго ў першы ж момант і вывіхнуў нагу.

Убачыў конь Іларыка пад нагамі і пачаў супакойвацца. Дык вось хто яго так напужаў. А ён ужо думаў — рысь ці сам воўк скокнуў яму на спіну. Бо з людзей яшчэ ніхто ніколі так на яго не садзіўся.

Іларык адпоўз у цёмны куток і заплакаў ад болю і крыўды, што так няўдала ўсё скончылася. Нага пачала апухаць і моцна балела. Ісці дадому ён не мог.

Пасля абеду вярнуўся конюх дзядзька Рыгор. Бачыць — стаіць конь з адарванымі павадамі, вушамі стрыжэ.

— Што з табою, Каштан? — здзівіўся конюх.— Гэта ж такія павады абарваць! Ці не напужаў цябе хто?

Іларык стаіўся і не дыхае. Пойдзе дзядзька Рыгор, думае, тады можна будзе як-небудзь выпаўзці з хлява...

Але конюх так гэтай справы не пакінуў. Ён ведаў — конь недарэмна парваў павады. Расчыніўшы насцеж дзверы, дзядзька Рыгор абвёў вачыма хлеў. І адразу ўбачыў Іларыка.

— Гэта ты напужаў каня? — запытаўся ён.

Іларык апусціў вочы.

— Ідзі абедаць,— строга сказаў конюх.— Цябе там, відаць, маці шукае. Ды больш, глядзі, не рабі гэтага.

Іларык падняўся і паскакаў на адной назе.

— Што ў цябе з нагою? — запыніў яго дзядзька Рыгор.— Конь наступіў?

— Не, вывіхнуў, мусіць,— прапішчаў Іларык.

— Як жа гэта табе ўдалося? Каня напужаў і нагу вывіхнуў?

Прыйшлося Іларыку расказаць, як ён няўдала праехаў на кані вярхом.

— Ну і ўпарты ты хлопец! — з дакорам сказаў конюх.— Каб я гэта ведаў, то сам бы пасадзіў цябе на каня.

Ён падняў Іларыка і панёс у дом адпачынку.

## ЯК ІЛАРЫК У ТРУБЕ ПАДАРОЖНІЧАЎ

Іларык, як казала маці, быў хлопчык ціхі, паслухмяны. Гэта праўда. Калі маці накрычала на яго, ён сказаў сваім тоненькім вінаватым галаском:

— Ніколі больш з вышак на каня садзіцца не буду. Чэснае акцябрацкае...

Маці паверыла і зноў занялася сваімі раманамі.

Недалёка будаваўся новы корпус дома адпачынку. Там ляжалі горы цэглы, бярвенняў, дошак і розных труб. Лепшага месца для Іларыкавых забаў і не прыдумаеш! І калі нага перастала балець, ён рушыў на будаўніцтва.

Перш-наперш Іларык зацікавіўся трубамі. Сярод іх былі не трубы, а сапраўдныя бярвенні. Кінеш у такую трубу мяч, а ён і выскачыць з другога канца. «А што, калі б і самому пралезці праз такую трубу?» — мільганула спакуслівая думка. І толькі Іларык так падумаў, як нейкая невядомая сіла давай яго шчыкатаць ды падганяць бліжэй да трубы.

Спачатку Іларык засунуў у трубу толькі рукі. Яны свабодна ляглі там. Тады ён прасунуў галаву. І галаве знайшлося месца. Вось ужо і плечы паплылі за галавою, як падмазаныя. Цяпер ён і сам не апамятаўся, як апынуўся ў трубе ўвесь — і галавою і нагамі.

Што ж рабіць далей? Спалохацца і паўзці назад ці смела рушыць наперад?

Іларык быў не з палахлівага дзесятка. І, вядома, не спалохаўся. Ён ясна бачыў перад сабою святло з другога канца трубы. «Ура! — закрычаў Іларык сам сабе.— Наперад!» І папоўз, жвава перабіраючы рукамі і нагамі.

Іларык аж спацеў, пакуль нарэшце выплыў з трубы.

— Ух! — радасна ўсклікнуў ён.— Ну і здорава! — Такога незвычайнага падарожжа яшчэ не рабіў ніхто з яго сяброў. Вось будуць яны зайздросціць, калі даведаюцца.

Шчаслівы падарожнік вярнуўся дадому. Маці як убачыла яго, так і ахнула:

— Сынок, што з табою?

— А што? — здзівіўся Іларык.

— Дзе ты быў?

— Нідзе. Гуляў на будоўлі.

— Які ў цябе касцюм! Ты бачыў? А галава?

Іларык толькі цяпер глянуў на свой касцюм. І не пазнаў. Замест новага светлага на ім быў нейкі стары, брудны рыжы касцюм...

Паглядзеў у люстэрка — і праўда: перад ім быў не Іларык, а нейкі незнаёмы хлопчык. Брудная ржа з трубы расфарбавала яго твар і валасы гэтак жа, як і касцюм.

Маці так бедавала па Іларыкавым касцюме, што яму стала шкада яе. І ён сказаў шчыра і з запалам:

— Даю табе, мама, чэснае акцябрацкае, што больш у касцюме я ў трубу не палезу...

— І навошта толькі я паслухала дактароў,— ледзь не плакала маці.— Дома быў хлопчык як хлопчык. Я ўсім хвалілася, што ты добры, ціхі. А тут — нібы хто падмяніў яго!

Іларык не парушыў свайго слова, хоць яму і вельмі хацелася яшчэ раз паспрабаваць такога шчасця — пралезці праз трубу. Цяпер ён толькі ганяў праз трубы свой мяч.

І раптам здарылася так, што мяч не выкаціўся з трубы. Іларык прыгнуўся, паглядзеў — мяч спыніўся на сярэдзіне трубы. Як жа яго дастаць? Доўгай палкі нідзе на будоўлі не відаць. А без мяча гуляць, вядома, сумна. Тым больш аднаму, без сяброў. Ды і маці не пахваліць за мяч. Яна і так злуецца на яго за касцюм.

Доўга думаў Іларык, як дастаць мяч. І нічога лепшага не мог прыдумаць, як лезці па яго самому. Маці дакарала Іларыка за новы касцюм. Гэта праўда. Дык ён палезе без касцюма! Слова свайго ён не парушыць. Але ж труба ўсярэдзіне няроўная, калючая. У адной саколцы ды ў трусах у яе, відаць, лезці нязручна.

Іларык пакруціўся кругом і ўбачыў бялізну, якая сушылася на вяроўцы недалёка ад жылога доміка. «А што,

калі ўзяць прасціну ды захінуцца? — падумаў Іларык.— Ніхто і не ўбачыць».

Так ён і зрабіў. Касцюм свой скінуў, а сам абхінуўся прасцінаю і нырнуў у трубу.

Ён спяшаўся, хутка перабіраў рукамі і нагамі. І ўжо дапоўз траха не да самага мяча, як раптам адчуў, што прасціна не пускае яго далей. Іларык зусім заблытаўся ў ёй. Прасціна спутала яму рукі і ногі. Ні наперад няма ходу, ні назад.

Патузаўся Іларык у сваім мяшку і прыціх. Што ж рабіць? Паклікаць на дапамогу? Але ж ён і раней гэтага не рабіў, калі трапляў у бяду. Ды і прасціна на ім чужая...

Іларык ляжаў у трубе і думаў сваю невясёлую думку.

А час ішоў. Адвячоркам маці ўспомніла пра Іларыка. Дзе ж ён запрапаў? Паклікала. Не адгукаецца. Пахадзіла па двары, прыглядаючыся,— нідзе не відаць.

«Вось і дай яму волю,— злавалася маці.— Яго ж яшчэ трэба за руку вадзіць».

А калі пачало цямнець, маці зусім устрывожылася. Пабегла на рэчку. Але і там Іларыка не было. І ніхто нідзе яго не бачыў.

Перапалоханая маці пайшла да дырэктара.

— Сышоў куды-небудзь,— сказаў дырэктар,— ды заблудзіўся. Трэба шукаць.

Дырэктар падаў сігнал трывогі. І ўсе жыхары дома адпачынку выйшлі на пошукі Іларыка. Адны кінуліся ў лес, другія — да ракі.

— Іларык! Іларык! — чулася з усіх бакоў.

Выкрыкі гэтыя даляталі і да самога Іларыка. Ён нават спрабаваў адклікнуцца, ды ніхто яго не пачуў. Рабочыя даўно ўжо скончылі работу, і на будоўлі цяпер нікога не было.

Прасветы ў трубе, перагароджанай мячом, усё цямнелі і цямнелі. І нарэшце зусім пачарнелі. Іларык страціў усялякую надзею вырвацца са свайго палону. «Цяпер,— думаў ён,— трэба чакаць раніцы». Прыйдуць рабочыя, і тады ён пакліча іх на дапамогу. Труба нагрэлася за дзень на сонцы, у ёй было цёпла, як у печы. У Іларыка пачалі зліпацца вочы.

У гэты час каля будоўлі праходзіў начны вартаўнік Мірон Іванавіч са сваім неразлучным сябрам — рыжым сабачкам Званком. Званок бегаў узад і ўперад, усё вынюхваў, усім цікавіўся. Ён добра ведаў сваю сабачую службу: як

толькі што здавалася яму невядомым ці падазроным, адразу ж узнімаў трывогу і кідаўся да гаспадара: «Глянь, моў, што там такое!» Вартаўнік ішоў у той бок, адкуль Званок падаваў голас, і правяраў, што там яго здзівіла ці ўразіла. Здаралася, гэта была звычайная жаба, мыш або нават хрушч над галавою.

— Дурашка! — дасць у такім разе вартаўнік пстрычку ў нос свайму памочніку ды ідзе далей сваёю дарогаю.

На гэты раз Званок вельмі ж нешта заскуголіў каля трубы.

«Ці не на вожыка напаў?» — падумаў вартаўнік.

Званок усадзіў морду ў дзірку і скуголіў, віляючы хвастом.

— Хадзем, Званок! — паклікаў вартаўнік.— Не чапай вожыка.

Але Званок не слухаў яго. Наадварот, іраваўся ўперад, скакаў у дзірку і назад, падымаў галаву да гаспадара і нібы прасіў: «Паглядзі сам».

— Хадзем, хадзем! — яшчэ раз паклікаў яго вартаўнік.

Раптам ён пачуў слабы дзіцячы плач.

— Хто тут? — запытаўся збянтэжаны вартаўнік.

Іларыку ўсё яшчэ страшна было прызнацца, што гэта ён, небарака, сядзіць у трубе, а не вожык.

— Дзе ты? — паўтарыў вартаўнік, углядаючыся пад ногі.— Пад зямлёю, ці што?

«Дзіва,— падумаў вартаўнік.— Можа, гэта Іларык, якога вунь усё яшчэ шукае ўвесь дом адпачынку».

— Ты — Іларык? — перапытаў ён.

Цяпер Іларыку нічога не заставалася, як прызнацца.

— Ага,— пачуўся яго плаксівы галасок з трубы.— Я — Іларык.

— Цябе вунь увесь дом адпачынку шукае. А ты хаваешся.

— Я не хаваюся...

Вартаўнік падышоў бліжэй да таго месца, адкуль чуўся Іларыкаў голас.

— Дзе ты тут? — дапытваўся ён.— Ці не ў трубе?

— Ага, у трубе,— адказаў Іларык.

— Дык вылазь! Чаго ты залез туды?

— Не магу...

Калі дзядзька Мірон разабраўся, чаму Іларык не можа сам вылезці з трубы, ён сказаў заклапочана:

— Пачакай, хлопча, я зараз людзей паклічу. А тады

будзем думаць, як цябе дастаць адтуль. Не палохайся толькі.

Ён падняў дубальтоўку ўгору і бабахнуў раз за разам з абодвух ствалоў.

Стрэлы пачулі ўсе, бо ніхто яшчэ не спаў.

Хутка да трубы пачалі збірацца людзі.

## ЯК ІЛАРЫК НА ПАРАШУЦЕ ЛЯТАЎ

Прыйшлося Іларыку даваць маме чэснае слова, што больш у трубу ён не палезе ні ў касцюме, ні без касцюма.

— Ты мяне загубіш,— плакала маці.

Іларыку было шкада маму, і пасля гэтага ён дзён тры нікуды ад дому не адлучаўся. Маці дазволіла яму хадзіць толькі ў сталовую і ў клуб — глядзець кіно.

Ды памяць у Іларыка была кароткая. Хутка ён забыўся пра свае прыгоды ў трубе. А жыць на свеце без заняткаў, вядома, сумна. Тым больш Іларыку. Вакол жа гэтулькі прастору і работы для яго рук і ног!

Аднойчы ў кіно паказвалі парашутыстаў. Іларык і раней не раз бачыў іх — у тым жа кіно. Але толькі цяпер парашутысты чамусьці моцна запалі яму ў памяць. «Вырасту, абавязкова стану парашутыстам»,— цвёрда вырашыў для сябе Іларык.

Ды калі яшчэ тое будзе! Іларыку хацелася скокнуць з парашутам цяпер, не адкладваючы на доўгія часы. Толькі вось дзе ўзяць парашут? І хто цябе падыме на самалёце?

Але ж не канечне скакаць з парашутам! З парашутам скачуць дарослыя. А ён — малы. Яму хопіць і мамінага парасона.

Парашут ёсць! Не хапала толькі самалёта. Тут Іларыку таксама доўга гадаць не прыйшлося. Вакол раслі высокія елкі і хвоі. Можна на любую ўзлесці і скокнуць. Няхай сабе вышыня і не такая, як з самалёта. Затое і парашут у яго не такі важнецкі. Адным словам, якая вышыня, такі і парашут. Тое на тое сыдзе.

Трэба сказаць, што думкі ў Іларыка не разыходзіліся са справаю. Калі толькі яму прыходзіла ў галаву добрая думка, ён адразу ж браўся за работу.

Цішком ад мамы Іларык вынес парасон і пабег у лес. Выбраў высокую гонкую хвою. Абышоў навакол, паглядзеў. Нічога, падумаў, узлесці на яе не так і цяжка. Дзе-

нідзе на камлі тарчалі пенчукі ад зламаных сукоў. Па іх можна як па драбінах ісці.

Раз, раз, і пайшоў Іларык па хвоі далей і далей. Далез да густога галля, глянуў уніз. Ух, як тут добра! Ён траха не роўны з домам.

Іларык распусціў парасон, прыцэліўся і кінуўся ўніз. Праляцеў крыху ды раптам адчуў, як нешта ззаду падхапіла яго кашулю. Спіна моцна забалела, нібы яе хто паласнуў вострымі цвікамі.

У тую ж хвіліну Іларык зразумеў, што здарылася: кашуля яго зачапілася за сук, і ён павіс паміж небам і зямлёю.

Іларык не спужаўся, як гэта зрабіў бы другі. Не, ён толькі скрывіўся ад болю і пачаў думаць, што рабіць далей. Сарвацца з сука ён не мог. Для гэтага трэба было зняць кашулю. Але як яе знімеш! Ён нават павярнуцца не мог. Заставалася хіба клікаць на дапамогу. Але ж тады аб яго няўдалым палёце даведаецца маці. Іларыку зусім не хацелася, каб маці зноў крычала на яго ды хвалявалася. Як мы не раз ужо казалі, Іларык быў добры, паслухмяны хлопчык. Яму толькі проста не шанцавала. Да гэтага ўсё жыццё яму шанцавала. А цяпер — не шанцуе.

Іларык вісеў да таго часу, пакуль не ўбачыў яго конюх дзядзька Рыгор.

— Гэта ты, Іларык? — запытаўся ён, задраўшы галаву.

— Я...— прапішчаў Іларык жаласліва.

— Чаго ж цябе загнала на сук?

Іларык прамаўчаў. Увесь няважны выгляд яго, здавалася, гаварыў: «Ат, лепш не пытайся!»

— Ну і шанцуе ж табе, малы!

Паскробшы патыліцу, конюх абышоў навакол дрэва і сказаў, прыцмокнуўшы языком:

— Засеў ты, браток, моцна. Нічога не скажаш. Трэба ісці па драбіны.

— Вы толькі маме не кажыце,— прасіўся Іларык.

— Добра,— паабяцаў дзядзька Рыгор.— Абыдземся без мамы. Сядзі там моўчкі, чакай мяне.

Праз хвілін колькі конюх прынёс з будоўлі доўгія драбіны. Прыставіў да дрэва. Бачыць — не даходзяць драбіны да Іларыка.

— Ну і бяда,— бурчаў конюх.— Хоць ты пажарнікаў выклікай.

Ён вярнуўся назад на будоўлю і хутка прыцягнуў дзве доўгія жэрдкі і сякеру. Палажыў драбіны на зямлю, цвікамі прыбіў да аднаго канца жэрдкі і зноў прыставіў сваё збудаванне да хвоі. На гэты раз драбіны сяк-так дацягнуліся да Іларыкавых ног.

## ІЛАРЫК НАД РЭЧКАЮ ГАЙДАЎСЯ

Пра Іларыкаў палёт з парасонам маці дазналася адразу ж, як толькі ўбачыла парваную яго кашулю і падрапаную спіну.

— Зараз жа паедзем дадому,— цвёрда сказала яна.— Больш жыць тут з табою я не магу.

Іларыку зусім не хацелася варочацца дадому. Што ён будзе там рабіць? У піянерскі лагер аднаго яго маці не пусціць. А сябры, відаць, раз'ехаліся хто куды.

Іларык гатоў быў даць на гэты раз хоць дзесяць чэсных слоў, што больш парасона ён і ў рукі не возьме. Ды маці ўжо не хацела і слухаць яго абяцанак.

— І што толькі з табою сталася? — дзівілася яна.— Дня не пражыве, каб не нарабіць шкоды...

Іларык зноў прыціх. Што зробіш. Не разумее яго маці. Думае, быццам ён усё знарок робіць...

За домам адпачынку цякла рэчка. Не вялікая і не маленькая. На берагах яе заўсёды можна было ўбачыць рыбакоў з вудамі. Тут жа быў і пляж для купання з тапчанамі, лаўкамі і прывязанымі да берага лодкамі. Побач з пляжам расла нахіленая над ракою старая вярба. З яе часта скакалі ў ваду аматары вострага нырца. Залезе такі аматар на самую верхавіну крывой вярбы і — боўць у ваду, як камень. Месца пад вярбою было глыбокае. Плыўцы хаваліся з галавою і выныралі потым далёка ад вярбы.

Іларык не раз зайздросціў плыўцам-шчасліўцам. І цяпер, калі маці вось-вось збіралася пакінуць дом адпачынку, нейкая невядомая сіла пацягнула яго да вярбы. Ды так пацягнула, што Іларык нават забыўся пра тое, што яму не шанцуе на кожным кроку. Вядома, ён не збіраўся скакаць з вярбы ў глыбокую яму. Але ж можна хоць пасядзець на ёй, пагайдацца над рачнымі хвалямі. Такой забавы ў горадзе не знойдзеш.

Спачатку Іларык ступіў на вярбу толькі адной нагою.

Кара на ёй была шурпатая, парэпаная. Па такой кары не толькі хадзіць — бегаць можна.

За першым крокам Іларык зрабіў другі. Потым трэці. Ды так і не заўважыў, як дабраўся да верхавіны. Цяпер у густым лісці яго ніхто не ўбачыць. Ён прылёг на дрэва і пачаў гайдацца паціху, углядаючыся ў дно ракі. А там было гэтулькі цікавага! На самым дне калыхалася высокая, як на лузе, трава, мітусіліся ўзад і ўперад акуні і плоткі. Вось бы вуду закінуць! Іларык пачаў ужо марыць пра новы занятак — палавіць рыбу проста з вярбы. Гэта ж, думаў ён, ніводзін рыбак не здагадаецца зрабіць так.

Быў адвячорак. Цёплы, сонечны. У лісцях шумеў слабы ветрык. На беразе насупраць прысеў нейкі рыбак і закінуў вуды. Іларык пачаў сачыць за паплаўкамі.

Тым часам маці агледзелася — няма Іларыка. Пашукала яго каля дому ды выйшла на бераг ракі.

— Іларык! — пачуўся яе голас за пляжам.

Іларык шпарка павярнуўся на знаёмы голас. І тут жа сарваўся з дрэва. Аднак на ляту паспеў схапіцца рукамі за галіну. Галіна сагнулася, і ён загайдаўся на ёй над самаю вадою. Падняцца ўверх на вярбу Іларык не змог, ды так і вісеў на выцягнутых руках.

— Папаўся! — пажартаваў з яго рыбак.— Плаваць умееш?

— Не...— прашаптаў Іларык. Ён баяўся, каб яго не пачула маці.

Але маці паклікала і вярнулася назад.

Рыбак занепакоіўся, скінуў з сябе штаны і кашулю.

— Трымайся! — гукнуў ён да Іларыка і паплыў на сярэдзіну ракі.

Рыбак быў яшчэ не стары і плыў лёгка і вольна, высока ўзмахваючы рукамі.

— А цяпер кідайся на мяне,— сказаў ён, апынуўшыся пад Іларыкам.

Іларык разняў рукі, якія ўжо ледзь трымалі галіну, і плюхнуўся рыбаку на спіну. Рыбак спачатку апусціўся ўніз. Але тут жа зноў вынырнуў наверх. Так што Іларык не паспеў акунуцца ў ваду з галавою.

— Трымайся за шыю! — загадаў рыбак Іларыку.

Іларык аберуч ухапіўся за моцную, жылістую рыбакову шыю і паплыў на ім, як на лодцы, на бераг.

Вядома, мокры з ног да галавы Іларык і цяпер не мог утаіць ад мамы сваёй чарговай прыгоды.

Маці сказала, што больш яна не застанецца ў доме адпачынку ніводнай гадзіны. І тут жа пабегла ў канцылярыю па дакументы. Там з плачам расказала дырэктару пра Іларыка.

— Шкада,— паспачуваў ёй дырэктар,— што вам не ўдалося дабыць да канца.

— Такой бяды,— махнула рукою засмучаная маці.— Мне ўжо не да адпачынку.

— А вы, Вера Паўлаўна, паспрабуйце не выпускаць яго з рук,— параіў дырэктар.— Няхай гуляе толькі з вамі або пры вас.

— Хто яго ведае,— пачала супакойвацца маці.— Паспрабую. Усё роўна сёння ўжо ехаць позна. Пачакаю да заўтра.

## ЯК ІЛАРЫК ПАЖАРНІКАМ СТАЎ

Цяпер маці не спускала з Іларыка вачэй. У сталовую вадзіла яго за руку. Гуляць выходзіла толькі з ім разам. І замест прыгодніцкіх раманаў чытала Іларыку дзіцячыя кнігі. Іларык любіў кнігі і ўжо добра чытаў сам. Але не так шыбка, як маці.

Аднойчы маці прачытала Іларыку кніжку пра пажарнікаў. Іларыку кніжка спадабалася. Спадабаліся і каляровыя малюнкі смелых вусатых пажарнікаў у бліпічастых металічных касках. Яны так шпарка імчаліся на вялікай чырвонай машыне і так дружна арудавалі на пажары шлангамі і бусакамі, што Іларык шчыра пашкадаваў, чаму яго не было разам з імі. Яму страшэнна захацелася пагуляць у пажарнікаў. Але ж гуляць не было з кім. Адзін пажарнік вялікага пажару не патушыць. Да таго ж у яго не было ні пажарнага шланга, ні пажарнага бусака, ні пажарнай каскі. Ён бегаў па двары, надзімаў шчокі, размахваў рукамі і кідаўся да сцен будынкаў, уяўляючы, што перад ім дом, ахоплены полымем.

Але ўсё гэта было далёкае ад сапраўднага пажарніка і пажару. Таму Іларык пачаў думаць, дзе знайсці якую-небудзь зручную жардзіну, якая б замяніла яму пажарны бусак. Жардзіну можна было знайсці на будоўлі. Але туды маці яго не пускала. Прыйшлося пакуль што тушыць пажары голымі рукамі.

Назаўтра раніцай Іларык выбег на двор.

— Ты ж глядзі, нікуды ад дому не адыходзься,— напомніла яму маці.— Я прыбяру пакой, ды пойдзем снедаць.

— Добра,— сказаў Іларык.— Я буду гуляць каля сталовай.

Каля сталовай на высокай частаколіне Іларык убачыў алюмініевы чыгунок, перакулены ўверх дном. «Якраз як пажарнік у касцы»,— падумаў багаты на выдумкі Іларык. А што, калі і самому прымераць гэтую каску? Ён зняў чыгунок і надзеў на галаву. Чыгунок шчыльна абхапіў лоб і асеў траха не да вушэй.

— Ура! — закрычаў Іларык і кінуўся да кухні, размахваючы рукамі. Цяпер ён — сапраўдны пажарнік! Давай яму любы пажар — патушыць! Аднак пажару нідзе не відаць было. Іларык пабегаў туды-сюды і вырашыў зняць сваю каску. Тузануў, але яна як быццам прыліпла да галавы. Іларык пачаў круціць чыгунок, а ён ні з месца. Узлезці на галаву — узлез, а злазіць не хоча. Ну і ўпарты чыгунок! Чым больш яго тузаеш, тым шчыльней ён абціскае галаву.

Смелы Іларык на гэты раз напалохаўся не на жарты і кінуўся на кухню. Там, думаў ён, кухары, яны знімуць свой чыгунок з яго галавы.

Як толькі збянтэжаны Іларык паказаўся на кухні, адтуль грымнуў дружны рогат. Рагаталі ўсе — і кухары, і кухаркі.

— Глядзіце, глядзіце, Аляксандр Неўскі ў шлеме!

Няшчасныя невукі, падумаў Іларык, яны нават не ведаюць, што ён пажарнік у жалезнай касцы, а не Аляксандр Неўскі ў шлеме.

Краем незакрытага вока Іларык убачыў галоўнага кухара дзядзьку Адама. Падышоў да яго і прагаварыў скрывіўшыся:

— Я не магу сам зняць...

— Ах, вось яно што,— узяўшыся ў бокі, рагатаў тоўсты дзядзька Адам.— Ты, значыць, папаўся, як тая лісіца ў збан. Ведаеш казку пра збанок і лісіцу?

— Не,— адказаў Іларык. Цяпер яму было не да казак.

Пад няспынны смех і жарты дзядзька Адам узяўся здымаць свой чыгунок. Але — дзіва! Чыгунок не паслухаўся і самога галоўнага кухара. Падышлі іншыя рагатуны. Паспрабавалі — і таксама не далі рады ўпартаму чыгунку.

Кухары перасталі смяяцца. Дзядзька Адам падмазаў беражкі чыгунка маслам. І гэта не памагло. Наадварот, чы-

гунчык апусціўся яшчэ ніжэй і зусім закрыў Іларыку вочы.

— Трэба доктара паклікаць,— сказалі кухаркі.— Мы нічога не зробім.

— А што зробіць доктар? — развёў рукамі галоўны кухар.

Але доктара ўсё ж паклікалі. Разам з доктарам прыбегла на кухню і Іларыкава маці.

— Ну,— сказала яна са злосцю ў голасе,— ты мяне да рэшты даканаеш. Падумаць толькі: на хвілінку выбег з дому адзін і — на́ табе! Не, не, галубок, больш я тут не застануся...

Доктар пакруціў чыгунок туды-сюды, потым паківаў галавою і сказаў:

— Тут, бацейка ты мой, патрэбен хірург. Чыгун давядзецца разразаць... Вось так. А для гэтага трэба ехаць у Мінск. І зараз жа.

У Іларыкавай мамы замерла сэрца. Ёй зрабілася млосна. Але траціць прытомнасць не было калі. Яна схапіла Іларыка за руку і пабегла з ім на аўтобусны прыпынак.

Калі нарэшце ўсё шчасліва скончылася, Іларык даў маме яшчэ адно цвёрдае акцябрацкае слова ніколі не надзяваць на галаву чыгуноў замест касак. А маці дала яму сваё цвёрдае слова ніколі не браць яго з сабою ў дом адпачынку для дарослых, а пасылаць толькі ў піянерскі лагер.

*1964 г.*

# ВУСАТЫ ВАДЗЯНІК

Калгасны вартаўнік Панцялей Маргунок праз усё лета больш жыў на рэчцы, чым дома. Яго, як кажуць, хлебам не кармі, а дай парыбачыць. Рыба, праўда, не вельмі бярэцца, але Панцялей на яе не ў крыўдзе: важна чалавеку не рыба, а само рыбацтва. Ён месяцамі мог не стрыгчыся і не галіцца. Усё не было калі. Вернецца з варты — на рэчку спяшаецца. Вернецца з рэчкі — на ложак валіцца. Зарос небарака, як лес дрымучы.

Жонка Панцялеева, цётка Мар'яна, даўно ўжо махнула на яго рукою:

— Ат, няхай забаўляецца. Яго ўжо не перавучыш.

І праўда такі цяжка было перавучыць Панцялея. Ён яшчэ верыў ва ўсе старасвецкія забабоны і баяўся не толькі бога і чорта, а і ўсялякіх дамавікоў, лесавікоў, вадзянікоў...

Такі ўжо быў чалавек Панцялей Маргунок.

Аднойчы раніцай закінуў Панцялей шнур на шчупака. Перад гэтым яму ўдалося вывудзіць ніштаватага печкура для жыўца. Панцялей напляваў на яго тройчы, як гэта і належыць рабіць сапраўдным рыбакам, і пусціў у глыбокую яміну — тоню: «Ідзі, маўляў, ды, глядзі, без шчупака не варочайся!»

Пайшоў тлусты пячкур у шчупачыную тоню гуляць, а Панцялей прысеў на сухой купіне ды пачаў патроху носам кляваць. Так і цягне старога на сон. Ведама, нядаўна толькі з варты вярнуўся, а тут сонейка ўзышло, прыгравае, птушкі пяюць, закалыхваюць. Са́ма што паспаць бы гадзіну-другую. Ды не будзе ж шчупак чакаць, пакуль ты выспішся: снедае ён раней за рыбакоў.

Недалёка прымасціліся два знаёмыя Панцялею хлапчукі — Сцяпан і Пятрок. Яны ловяць на мелкім — акунькоў ды верхаводак.

І вось калі разmoраны дрымотаю Панцялей збіраўся клюнуць чарговы раз носам, рагуліна ад шнура ў яго руках раптам заварушылася, як жывая. Панцялей мацней сціснуў яе і пацягнуў шнур да сябе. Шнур падаўся нялёгка.

«Ого,— захваляваўся стары рыбак,— цяжкі шчупачышча... Каб хаця не сарваўся...»

І тут Панцялей убачыў перад сабою такое, ад чаго не толькі сон — ледзь апошні дух не пакінуў яго: з вады замест шчупака вынырнула галава з рыжымі вусамі... Круглыя здзіўленыя вочы злосна ўтаропіліся на Панцялея. Яшчэ хвіліна, і вось-вось падскочыць над вадою само страшыдла ды кінецца на таго, хто патрывожыў яго спакой у падводным царстве.

— Ай-ай! — залямантаваў Панцялей не сваім голасам.— Вадзянік! Ратуйце!

Адрокшыся ад вуды, ён наўгалоп ірвануўся ў кусты. Але не паспеў зрабіць і дзесяці крокаў, як зачапіўся за нейкую патарчаку і грымнуўся носам вобземлю. Панцялею здалося, што гэта страшны калматы вадзянік дагнаў і збіў яго з ног. Цяпер ён закрычаў такім голасам, што яго пачулі траха не ва ўсім калгасе. І тыя, хто жыў бліжэй да ракі, кінуліся ратаваць няшчаснага Панцялея.

Тым часам Сцяпан і Пятрок першыя апынуліся на месцы здарэння. Але пакуль яны дабеглі, Панцялей галасіў ужо недзе за кустамі, а сухая арэхавая рагуліна ад яго шнура шпарка мчалася ўздоўж ракі сама сваім ходам...

— Ці не сом павалок яе? — здагадваўся Сцяпан.

Але думаць, хто запрогся ў Панцялееву вуду — сом ці шчупак,— не было калі, і хлопцы, паскідаўшы на бягу штаны і сарочкі, адзін за адным паскакалі ў рэчку. Падхапілі рагуліну і пацягнулі на бераг. Шчупак (а можа, і сам вусаты сом) упіраўся як мог, але хлопцы не зважалі на яго выбрыкі: пабушуе ды супакоіцца.

А калі яны, на беразе ўжо, адвярнуліся, каб паглядзець, што валакуць за сабою на шнуры, дык чуць не закрычалі, як сам Панцялей: над вадою тарчала вусатая галава нейкага цёмна-бурага страшыдлы...

Пятрок толькі войкнуў і адным духам махнуў у кусты ўслед за Панцялеем.

Сцяпан жа быў хлапец не з палахлівых. Прыгледзеўшыся лепш да дзіўнага страшыдлы, ён весела ўсклікнуў:

— Ды гэта ж выдра! Далібог! Шукай, Пятрок, палку! Хутчэй!

Пятрок пасмялеў. Азірнуўся вакол сябе і лёгка знайшоў у кустах кавалак сухой алешыны.

— А цяпер лезь у раку,— загадаў яму Сцяпан,— глушы яе!..

— Баюся,— скалануўся Пятрок.— Яшчэ ўкусіць...

— Не ўкусіць,— адказаў Сцяпан.— Ей цяпер не да кусання. Яна, бачыш, шчупачыны крук праглынула. На, трымай шнур, я сам...

Адным словам, пакуль вярнуўся Панцялей з людзьмі на бераг, там ужо ляжала куртатая выдра з доўгім хвастом, а каля яе тупалі маладыя рыбакі. Сцяпан аглушыў драпежніцу так шчыра, што яна ўжо і не дыхала.

— Ну і заглынула ж яна твайго жыўца, дзядзька Панцялей,— дзівіўся вядомы ў калгасе паляўнічы Рыгор Бараноўскі.— Відаць, галодная была.

— От гэта шчупачок! — ківалі галовамі мужчыны.— З паўпуда пацягне.

Разабраўшыся нарэшце, што здарылася, Панцялей аж заскакаў ад радасці:

— Браткі! Дык гэта ж я выдру замест шчупака злавіў! За яе ж кучу грошай дадуць...

— Не,— перапыніў яго паляўнічы Рыгор,— за яе могуць толькі штраф даць. І не маленькі...

— Як — штраф? Чаму — штраф? — напалохаўся Панцялей.— Не можа быць!

— Паляваць на выдру ў нас забаронена законам,— растлумачыў Рыгор.— Ну, а калі ўжо так здарылася, цягніце яе, хлопцы, у школу на чучала. Добра?

— Добра, добра, дзядзька Рыгор! — зарадаваліся хлопцы.— Настаўнік заалогіі Сяргей Антонавіч такое чучала з яе зробіць — як жывая будзе.

— Не, не,— захваляваўся Панцялей.— Гэта мая выдра! Я не ўпаляваў яе. Яна сама на маю вуду злавілася...

Мужчыны дружна зарагаталі:

— На тваю, Панцялей, вуду трапіў вадзянік! А выдру злавілі хлопцы. Так што, выходзіць, ты тут — лішні.

— Вадзянік... вадзянік...— збянтэжана замаргаў Панцялей вачыма, потым плюнуў са злосці і пашыбаваў дадому.

— Ды ён і сам, як той вадзянік...— усміхнуўся наўздагон яму Рыгор.

— Але ж, як вадзянік,— падхапілі мужчыны Рыгоравы словы.— Праўду кажаш!..

І хоць больш на рэчцы з таго часу Панцялея ніхто не бачыў,— прозвішча «вадзянік» за ім так і засталося.

*1966 г.*

# СТРАШНАЯ ЗВЯРЫНА

(Старая быль)

У кожнага, як вядома, свой густ. Нават на грыбы, не тое што на іншыя якія прысмакі. Адны любяць падасінавікі, другія — падбярозавікі, не кажучы пра белыя грыбы — баравікі, якім усе ахвотна кланяюцца. А цётка Мар'яна аддавала перавагу падзялёнкам. Простым, нічым не выдатным светла-шэрым грыбкам са злёгку падзялёненай знізу шапачкай. За што яна іх любіла? Можа, за тое, што яны самыя познія грыбы і іх даўжэй можна збіраць. Даўно ўжо звядуцца нават казлякі, а падзялёнкі ды іх сёстры сапраўдныя зялёнкі — тыя да самай зімы не здаюцца.

Аднойчы, збіраючы свае любімыя падзялёнкі, цётка Мар'яна натрапіла ў глухім гушчары на ласіныя рогі. Спачатку нават спужалася сваёй знаходкі: а што, калі тут дзе сам гаспадар гэтых рагоў круціцца? А потым асмелілася і выцягнула іх з кустоў на прагаліну. Рогі былі цяжкія. Шыраня — як рукамі абхапіць! Прыгажун-лось, відаць, насіў іх на сваёй доўгай гарбаносай галаве. Сам ён скінуў іх ці які злы чалавек схаваў тут сляды сваёй чорнай работы...

Было ўжо не рана. Ды і дзень выдаўся пахмуры, пара і дахаты.

Цётка Мар'яна перавязала кош з грыбамі лёгкай шэрай посцілкай і закінула яго за плечы. «А як жа рогі? — падумала яна.— Не пакідаць жа такую рэдкую знаходку. Забяру іх з сабою. Старому пакажу ды і яшчэ каму. Гэта ж не рогі, а ражышчы!» І ўзяла іх у рукі.

Пранесла трохі, аж рукі млеюць: рогі то не з лёгкіх! Цётка Мар'яна зняла з сябе посцілку і прыладзіла рогі да каша — за плячыма яны пэўна ж палягчэюць, як і ўсякая іншая ноша.

Так яно і было.

Выйшла цётка Мар'яна з лесу, бачыць — недалёка бабы бульбу капаюць. «Вось жа якія заядлыя да работы,— падумала яна.— Дня ім мала. Пайду паклічу іх дахаты».

Раптам адна баба разагнула спіну, пільна ўглядаючыся ў бок лесу. Потым замахала рукамі, загаманіла са страхам у голасе:

— Бабачкі, гляньце: нейкая звярына да нас сунецца... А вой-вой... Ці не сам чорт гэта?

Іншыя таксама пачалі ўглядацца праз туман туды, куды паказвала першая баба.

— У чорта рогі не такія...— сказала другая баба.— У яго кароткія, а гэта ж вунь якія...

— Можа, зубр або лось...— гаварыла трэцяя.

— Рогі і праўда як ласіныя...

— І гарбішча ззаду тарчыць...

І бабы адна за адною з крыкам і зыкам кінуліся з поля.

«Чаго б гэта яны?» — здзівілася цётка Мар'яна.— Азірнулася — нідзе ніякага страху не відаць. Але калі бабы так дружна паджгалі з поля, то нешта ж, мусіць, іх напужала. І, доўга не думаючы, сама драпанула ўслед за імі — высокая, згорбленая, з кашом на спіне, над якім узвышаліся грозныя ласіныя ражышчы... Ражкі чорнай хусткі яе матляліся спераду, як ласіная ці зубрыная барада.

Калі перапалоханыя бабы яшчэ разы са два адвярнуліся, каб паглядзець, ці даганяе іх тая страшная звярына, то да рэшты пераканаліся, што так яно і ёсць: яна, нячыстая сіла, смаліць за імі як ашалелая. Толькі барадою трасе ды ражышчамі круціць то ў адзін, то ў другі бок.

Дабеглі бабы да вёскі і зноў залямантавалі ўсе разам. Адна крычала, што чорт з балота за імі гоніцца, другая, што зубр з Белавежскай пушчы збег, трэцяя, што шалёны лось па палях разгульвае...

Незвычайная гэтая навіна маланкай паляцела ад двара да двара. Некаторыя недачулі ці не разабраліся што да чаго і перадавалі яе далей са сваімі дадаткамі: быццам не адзін шалёны лось ляціць у вёску, а цэлая чарада. А з тае прычыны, што шалёнымі бываюць не ласі, а ваўкі, то хутка навіна набыла зусім іншы змест: чарада шалёных ваўкоў напала на чараду ласёў і гоніць іх проста ў вёску...

Не дагнаўшы баб, цётка Мар'яна задыхалася і пайшла пяшком з сваёю нялёгкаю ношаю. Але таксама ўсё трывожна азіралася назад, ці не даганяе яе які злы дух. Калі б яна магла паглядзець на сябе збоку, то пэўна ж убачыла б тую страшную звярыну, якой так напужаліся бабы, на сабе самой. Але зрабіць гэтага яна не магла, і таму здарэнне з бабамі на полі заставалася для яе цёмнай загадкай.

Адным словам, пакуль цётка Мар'яна дабрыла да вёскі, там ужо ўсе ведалі пра незвычайную навіну. Больш па-

лахлівыя хаваліся дзе хто мог, а смялейшыя хапалі сахары і сякеры, збіраючыся даць бой варожай сіле, якой бы яна ні была.

Каля першых жа хат на цётку Мар'яну напалі сабакі. Такі брэх узнялі, што хоць вушы затыкай. На плечы скачуць, зубамі спадніцу рвуць...

— А каб вас ваўкі з'елі! — замахала на іх рукамі цётка Мар'яна і кінулася наўцёкі.

Добра, што хата яе была блізка, дык яна паспела забегчы на свой двор раней, чым стала ахвяраю ашалелых сабак.

Тут і ўбачыў сваю бабу дзядзька Аўдзей.

— Цьфу ты! — зарагатаў ён, хапаючыся за жывот.— Ну і звярына заморская! Ну і страшыдла! Не дзіва, што бабы цябе напужаліся.

Збянтэжаная ад такой сустрэчы, цётка Мар'яна зняла з плеч посцілку, паглядзела на сваю рагатую ношу — і тут ёй усё стала ясна... Цяпер яна і сама ледзь не падала со смеху.

Сабакі перасталі брахаць і разбегліся па сваіх дварах. Суседзі ж пакідалі свае схованкі ды збіраліся на Мар'янін двор глядзець дзіва.

Калі ўсе добра нарагаталіся з гэтай прыгоды, дзядзька Аўдзей павесіў прыгожыя ласіныя рогі на сцяне ў сваёй хаце.

— Такой здабычы,— сказаў ён,— пазайздросціць кожны паляўнічы.

І цяпер яшчэ ўсе ў той вёсцы з жартамі ўспамінаюць, як цётка Мар'яна пабывала і ласём, і зубрам, і нават чортам...

*1972 г.*

# СМЕЛЫ ВАСЬКА

(Быль)

Цёплы летні дзянёк. На небе, як кажуць, ні хмурынкі. Цішыня. Нават лёгкі ветрык-сухавей дыхне сяды-тады ды зноў надоўга задрэмле ў бліжэйшым гаі.

На зялёнай лугавіне каля дачнага доміка пасецца чародка белых курэй бабкі Ганны. Яны спакойна шпацыруюць узад і ўперад, вышукваючы розных кузурак ды толькі ім адным вядомую смачную траву. Іх ніхто не пасе. Хіба што кот Васька: ён круціцца тут недалёка, каля гаю, вынюхваючы мышыныя норкі.

Бабка Ганна корпаецца на агародзе. Дзед яшчэ зранку сышоў рыбачыць.

Раптам, адкуль ні ўзяўшыся, каменем зваліўся на лугавіну чорны каршун. Схапіў белую чубатку, што першая трапіла ў кіпцюры, і рвануўся ўгору. Астатнія куры з трывожным крыкам шуснулі да доміка.

«Гвалт, ратуйце!» — лёгка разабрала бабка Ганна курыную мову. «Ці не каршун на іх напаў?» — глянула яна ў неба. Палічыла курэй: адной не хапае! Ды самай жа лепшай нясушкі. Яна ж і сёння з яйцом... Яшчэ не знеслася.

Не першы раз каршун жывіцца тут каля яе дачы. Нядаўна апошніх дзедавых галубоў са свету звёў.

І бабка кінулася шукаць курыцу.

Тым часам каршун разняў у паветры кіпцюры — курыца пляснулася вобземлю і разбілася. Каршун нырнуў за ёю, адцягнуў у зараснік і сабраўся ўжо баляваць, як бачыць — перад ім рыжы кот Васька.

Кот Васька, як і ўсе яго сваякі, вядома ж, палюе не толькі на мышэй. Любая птушка для яго таксама нядрэнны ласунак. Не цікавілі яго з пярнатага царства хіба адны бабчыны куры. Прывык ён да іх і лічыў іх за лепшых сваіх прыяцельніц. Дружба ў іх была моцная і непарушная. Ну, а каршун — справа іншая. І ў ката Ваські адразу ж загарэліся вочы і выскачылі з лап вострыя кіпцюры. Каршун падумаў, што кот збіраецца адабраць у яго здабычу. Э, не, галубок! Не на таго нарваўся! Ён пакінуў курыцу і схапіўся з катом. З гарачкі нават падняў яго над кустамі. Ды не ўтрымаў: кот быў цяжкі.

Бойка пайшла не па жыццё, а на смерць. Каршун усё сіліўся яшчэ раз падняць свайго ворага ў паветра і шпурнуць з вышыні, каб забіць. А кот Васька ўпарта дабіраўся да каршуновага гарляка...

Калі бабка Ганна прыбегла да месца адчайнай бойкі, Васька ўжо даў рады чорнаму каршуну: той ляжаў распластаўшыся і ледзь варушыў крыллямі.

Глядзіць бабка Ганна і не ведае, што рабіць: смуткаваць па курыцы ці радавацца за Ваську.

— Ну і малайчына ж ты, Васька! — перш-наперш усё ж пахваліла яна свайго рыжага ката.— Які смелы. Так яму, разбойніку, і трэба!

Пасля гэтага бабка падняла разбітую курыцу і, клянучы каршуна-разбойніка, панесла яе скубці, пакуль цёплая.

А Васька і ўвагі не звярнуў на бабчыну пахвалу. Падумаеш — смелы! Для яго каршун — той жа верабей, толькі большы. Затое і наедак з яго не тое што з вераб'я.

# ЧОРНЫЯ ЛЕБЕДЗІ

(Расказ бабы Веры)

У піянерскім лагеры «Ясная паляна» прыбіральшчыца баба Вера ўжо з першых дзён першай змены стала любіміцай піянерак. З піянерамі-хлапчукамі ў яе справы не ладзіліся так гладка. Ні ў касмічных палётах, ні ў рыбацкіх паходах, чым найбольш цікавіліся хлапчукі, баба Вера так не разбіралася, як у рукадзельнай або кухоннай справе, чым, вядома, больш захапляліся дзяўчаткі. Нават казкі, якіх баба Вера ведала нямала, ці звычайныя былі пра сваё жыццё яна ахвотней расказвала дзяўчаткам, бо слухалі яны яе, як заварожаныя, не прапускаючы ніводнага слова. У хлапчукоў такой цярплівасці слухаць бабу Веру не было: яны то шчыпалі адзін аднаго, то шапталіся, згаворваючыся, куды пабегчы на рыбалку.

А старая пенсіянерка баба Вера мела што расказаць. Яна нямала і сама перажыла, і свету пабачыла. Маленства не песціла яе, як піянерак-слухачак. Пачыналася яно на Гродзеншчыне перад царскай вайною. Потым было страшнае бежанства — ратаваліся ад вайны. Потым яшчэ страшнейшы голад на Паволжы. Потым цяжкая, трывожная дарога без грошай і без хлеба з галоднага краю на бацькаўшчыну, якую к гэтаму часу ўжо захапілі белапалякі-пілсудчыкі. Як ні горка было, а давялося сям'і асталявацца на жыццё далёка ад сваёй вёскі на мілай Гродзеншчыне.

— Пра што ж вам расказаць сёння, мае ўнучкі? — запыталася баба Вера ў сваіх слухачак, калі яны цесным колам акружылі яе на светлай сонечнай палянцы сярод маладога сасонніку. Баба Вера хадзіла з імі ў свой вольны час у ягады і, натупаўшыся, прысела на сухі пянчук адпачыць.— Можа, хіба пра чорных лебедзяў? Будзеце слухаць, ці пойдзем ужо ў лагер?

— Будзем, будзем, баба Вера, расказвайце! — загамапілі дзяўчаткі.— Вячэра яшчэ не скора.

— Але па чым жа вам прысесці?

— Нічога. Мы пастаім.

— Стаячы горш слухаць,— запярэчыла баба Вера.— Зямля-то яна не халодная, але лепш будзе, калі выналожыце лапак або назграбаеце сухога моху і падсцелеце.

Дзяўчаткі ахвотна зрабілі так, як параіла баба Вера.

— Чорныя лебедзі,— пачала яна,— птушкі рэдкія. А тыя, пра якіх я хачу расказаць, дык і зусім былі асаблівымі: яны памаглі нашым байцам-чырвонаармейцам злавіць самага крывавага атамана бандытаў на Случчыне. Калі і як гэта было,— паслухайце.

Я ўжо расказвала вам пра сваё нялёгкае бежанства. Дык вось пасля гэтага бежанства сабралася нарэшце наша сям'я ў Слуцку. А сям'я была не маленькая: два браты ды шэсць сясцёр. Я была самая меншая. Мне ішоў яшчэ толькі адзінаццаты год. Браты ўжо былі жанатыя, жылі асобна са сваімі сем'ямі. Старэйшы служыў у самім Слуцку, а малодшы Мікалай, або Коля, як усе звалі яго, знайшоў работу за дваццаць вёрст ад горада, у саўгасе Пагост. Быў ён, як кажуць, майстрам на ўсе рукі. Але найбольш любіў слясарку. Вось там і стаў ён рабіць слесарам на вінакурным заводзе.

Вясною — гэта быў 1922 год — бацькі паслалі мяне да Колі — памагаць яго жонцы ў хатняй гаспадарцы: даглядаць малых і пасвіць гусей.

Я ахвотна паехала да брата, бо ў нас было і цеснавата, і з харчамі нястача.

Пагост, у які я трапіла, мне спадабаўся. Праз яго працякала рэчка Случ з заліўнымі лугамі, поўнымі кветак, за імі зелянелі засеяныя палі, а яшчэ далей сінелі густыя бары і дубровы.

Помню, з першых жа дзён братавая загаварыла пра чорных лебедзяў. Яны вадзіліся на недалёкім хутары, у сажалцы. Братавая аднойчы ўбачыла іх там, і ёй вельмі захацелася мець і сваіх такіх жа. Яна нават пагаварыла з гаспадыняю лебедзяў, хутаранкай Сямёніхай, і тая згадзілася прадаць некалькі яек чорнай лебядзіцы. Сказала, калі па іх прыйсці.

Як настаў гэты час, братавая ўзяла мяне, і мы пайшлі на хутар. Там я першы раз убачыла чорных лебедзяў. І залюбавалася імі не менш, чым братавая. Стройныя, магутныя, з доўгімі выгінастымі шыямі, з ярка-чырвонымі вачамі і дзюбамі, яны важна плавалі між зараснікаў сажалкі, сяды-тады ныралі ўглыб, каб знайсці або злавіць там здабычу, ці пакрыквалі, як гусі, узмахваючы крыламі.

Хутаранка — поўная, немаладая жанчына — звалі яе Мальвінай, а прозвішча Сямёніха яна мела ад свайго мужыка Сямёна — вынесла з хаты паўдзесятка яек, зусім падобных на курыныя, хіба што крыху большыя, і загадала за іх такую цану, што братавая аж за галаву хапілася. Паспрабавала патаргавацца, але скупая хутаранка і гаварыць не далася.

— Не хочаш, кабеціна, не трэба,— сказала яна.— У мяне купцоў хапае.

Прыйшлося заплаціць, што яна захацела.

Шчаслівыя прынеслі мы яйкі чорных лебедзяў, палажылі ў рэшата на сена і пасадзілі на іх рыжую курыцу-квактуху, якая к гэтаму часу моцна заквахтала і ўсё шукала месца для седала.

Сядзіць рыжая курыца, грэе лебядзіныя яйкі, а мы з нецярплівасцю чакаем сваіх лебедзянят. Работы ў мяне хоць адбаўляй, як кажуць: я і гусей пасу, і дзяцей забаўляю, і ў хаце, што трэба, раблю. І ўсё пра чорных лебедзяў думаю. Як мне хацелася скарэй убачыць іх у сябе на нашай рэчцы!

Доўга сядзела рыжая курыца на рэшаце — аж цэлы месяц, хоць на сваіх курыных яйках яна, небарака, мучыцца ўсяго якіх тры тыдні. І нарэшце выйшлі з тых лебядзіных яек не чорныя лебедзяняты, а... звычайныя шэрыя гусяняты... Падманула нас хутаранка Сямёніха! Братавая рвалася бегчы да яе, адабраць грошы. Але брат не дазволіў гэтага рабіць.

— Нядобрыя, відаць, гэта людзі,— сказаў ён,— і лепш з імі не звязвацца. Ліха з імі, няхай лепш наша прападае.

Брат мой Коля быў чалавек добрай натуры, спакойны, разважлівы. Усе там любілі яго. І дырэктар завода паважаў яго, як лепшага свайго работніка-камуніста.

Мы сцярпелі гэтую крыўду. Гусяняты падраслі і праз колькі дзён ужо далучыліся да старых гусей — цяпер у маёй чарадзе было іх цэлы дзесятак.

Не скажу, каб прыемна было іх пасвіць. Стой цэлы дзень, хадзі і ўсё пазірай, дзе твае гусі. Я ахвотней рабіла сваю работу дома.

Але мне пашанцавала. Разам са мною пасвіў сваіх гусей адзін хлопчык — Багдан. Мой аднагодак. Худы, шчуплы, чарнявы з твару. Яго бацька, як і мой брат, таксама рабіў на заводзе. І таксама быў камуністам-бальшавіком.

Мы неяк з першых жа дзён пасябравалі, і нам весялей было каратаць доўгія летнія дні.

Аднаго разу Багдан сказаў мне:

— Хочаш мець сапраўдныя пацеркі?

— А што? — здзівілася я.— У цябе яны ёсцека?

Я любіла пацеркі і рабіла іх сама з бурбалак, што раслі ў рэчцы. Адзета я была зусім бедна: на мне была старэнькая паркалёвая сукеначка ў гарошкі і такая ж хустка. Ногі, вядома, босыя, як і ва ўсіх вясковых дзяцей. Так што пра сапраўдныя пацеркі я магла толькі марыць.

— У мяне іх няма,— сказаў Багдан.— Але я ведаю, дзе і як іх купіць.

— Купіць? За якія грошы? Ні ў мяне, ні ў цябе іх няма. А прасіць у брата я не адважуся.

— І не трэба грошай,— упэўнена сказаў Багдан.— Давай назбіраем шчаўя, занясём за рэчку да гандляркі Ханы, і яна дасць табе пацеркі.

— А адкуль ты гэта ведаеш?

— Мая сястра Марыля так зрабіла.

Я загарэлася гэтаю думкаю. А і праўда: шчаўя ў нас тут, на лузе, колькі хочаш. Вось толькі як дабрацца да Ханы. Яна жыве за мостам, а мост нядаўна спалілі бандыты. Яны тут яшчэ не перавяліся. То там, то сям нападаюць на людзей, паляць, грабяць. Злавіць іх ніхто не можа: яны налятаюць на конях і знікаюць немаведама куды.

— Цераз мост,— сказаў Багдан,— можна перайсці па бэльках-перакладзінах: яны не згарэлі.

Добра. Мы назбіралі поўную маю хустку шчаўя, звязалі яе ражкамі, і Багдан панёс нашу здабычу за рэчку, да гандляркі Ханы, а я асталася пасвіць гусей.

Праз гадзіну ён вярнуўся, падаў мне хустку і... пацеркі. Сапраўдныя пацеркі! Светлыя, шкляныя, на шнурку з суровай ніткі.

Я адзела іх і была, як кажуць, на сёмым небе. Багдан таксама пахваліў мае пацеркі. Мне хацелася нават пацалаваць яго за іх, але я пасаромелася.

Цяпер жыць на свеце мне стала весялей.

Так ішлі дні за днямі.

І вось у адзін з такіх дзён на сцяне нашай кватэры ў дашчаным бараку нехта прыклеіў уночы запіску. Раніцай брат убачыў яе. У запісцы былі словы: «Ідзі туды, адкуль прыйшоў». А ў канцы стаяў вялікі крыж.

Што б гэта значыла? Можа, хто з хлапчукоў пажартаваў?

— Не,— сказаў брат,— тут нешта больш сур'ёзнае. Ці не бандыцкая гэта рука да мяне дабіраецца?

І праўда: такія запіскі з крыжамі знайшлі на сваіх сценах і варотах яшчэ некалькі рабочых завода. Сярод іх быў і дырэктар. Значыць, не хуліганскія гэта жарты.

Брат затрывожыўся. Бандыты могуць наляцець, вядома, уночы, думаў ён. Але калі? Сёння-заўтра-паслязаўтра?

Першыя дзве ночы ён не начаваў дома — спаў у кустах каля рэчкі. Потым зрабіў так: у кладоўцы, што выходзіла на луг, адарваў адну самую шырокую дошку і прыставіў яе зноў, прыбіўшы слабым цвічком. Калі наляцяць бандыты, ён здолее выскачыць праз дзірку на луг і схавацца там у кустах або і ў самой рэчцы.

Бандыты наляцелі на чацвёртую ноч. Загрукалі ў дзверы. Брат, не апранаючыся, выскачыў праз свой лаз за барак. Братавая адчыніла дзверы.

— Дзе твой камуніст? — пачуўся грозны голас.

— Які камуніст? — ледзь прагаварыла перапалоханая братавая.

— Не прытварайся! Дзе мужык?

— Няма яго...

— А дзе ён?

— Паехаў у Слуцк... Яшчэ не вярнуўся...— здагадалася яна схлусіць бандытам.

— Ну, глядзі, калі салгала. Зараз праверым.

Яны ўляцелі ў кватэру.Ператрэслі ўсё, што можна. Забралі братавы боты, кажух, лепшыя посцілкі, нават самую большую падушку з гусінага пер'я. Накрычалі на нас і выскачылі з лаянкай.

— Нічога. Нашых рук твой камуніст не міне,— пагразілі, адыходзячы.

Брат дадому не вярнуўся. А тым часам недалёка зашугаў пажар. Гарэў завод. Малыя заснулі пасля налёту бандытаў, а мы з братавай усю ноч дрыжалі, чакаючы Колю і паглядаючы на пажар, полымя якога рвалася да самых хмар.

Раніцай мы даведаліся, што дырэктара завода, Багданавага бацьку і яшчэ трох рабочых бандыты ў гэтую ноч забілі. Можа, дзе нарваўся на іх і наш Коля? — галасілі мы.

Але неўзабаве ўсё высветлілася. У Пагост прымчаўся

са Слуцка атрад па барацьбе з бандытамі. Камандзір атрада адразу ж зайшоў да нас і сказаў, што Коля ў Слуцку ў бальніцы. Ён пераплыў рэчку і потым бег усе дваццаць вёрст у горад, каб сказаць пра налёт бандытаў.

— Я паслаў яго ў бальніцу,— сказаў камандзір.— Ён мог прастудзіцца. На ім жа апрача мокрай кашулі і мокрых нагавіц нічога з адзення не было.

Так яно і было: брат праляжаў у бальніцы тыдні два з запаленнем лёгкіх.

Калі Багдан прыгнаў пасля пахавання бацькі сваіх гусей на луг, яго не пазнаць было: ён аж учарнеў ад гора. Вочы яго былі чырвоныя ад слёз. Ён усё цёр іх кулаком і часта ўздрыгваў усім целам.

Я спачувала яму як магла.

— Ты, Багдан, ідзі лепш дадому,— прасіла я яго.— Я сама папасу і тваіх гусей.

Я думала, што дома яму будзе лягчэй перажываць сваё гора.

Першы дзень Багдан маўчаў. Я разумела яго і старалася таксама маўчаць. А назаўтра ён загаварыў:

— Я ведаю, дзе шукаць бандытаў...

— Адкуль жа ты ведаеш? — падхапіла я такую навіну.

Іх жа шукае вунь цэлы ваенны атрад і не знаходзіць, а Багдан ведае, дзе яны, і маўчыць...

— Усе гавораць, што іх трэба шукаць на хутарах.

Вось дык навіна! Пра гэта пэўна ж усе ведаюць. У хутаранцаў абразаюць зямлю для бедната, і яны цяпер злыя, як ваўкі. Але ж, кажуць, не злоўлены — не злодзей. А можа, бандыты налятаюць з-за мяжы? Паны-пілсудчыкі нам таксама дабра не жадаюць.

— Мая маці казала, што бачыла нейкіх незнаёмых людзей каля хутара Сямёніхі,— сказаў Багдан.— А з хаты там чуліся п'яныя песні. Хто ж другі можа збірацца ў Сямёніхі, калі не яны — бандыты...

— Ну,— сказала я,— гэта яшчэ не значыць, што тыя людзі — бандыты. Можа, там якая звычайная гулянка была.

— Бацька, я чуў, таксама гаварыў, што Сямёніхін сын Іван чалавек падазроны. Сям'ю сваю трымае ў Слуцку, а сам найбольш аціраецца на хутары.

Сямёніху я не любіла за яе падман з лебядзінымі яйкамі. І гаворка гэтая з Багданам мне запомнілася.

— Ты б пайшоў да камандзіра атрада таварыша Ляшчынскага і сказаў яму тое, што мне,— параіла я Багдану.

— Баюся...— скалануўся Багдан.— Бандыты, як даведаюцца, хто данёс, заб'юць...

— А чаму яны даведаюцца? Камандзір жа ім не скажа.

— Ну,— няпэўна сказаў Багдан.— У іх усюды свае вушы.

Я разумела: Багдан быў так перапалоханы, што нават думаць пра бандытаў баяўся. Ды, відаць, і іншыя, хто што ведаў пра іх, баяліся сказаць.

Пасля гэтай гаворкі з Багданам я не магла супакоіцца. Як жа так, усе ведаюць, што бандыты налятаюць з хутароў, і маўчаць. А ці ведае ж хоць пра гэта камандзір атрада? Мне чамусьці здавалася, што ён не ведае, бо ўжо каторы дзень нікога з бандытаў не злавілі.

І мне вельмі ж захацелася падказаць яму, куды вядуць бандыцкія сляды. Асабліва напомніць пра Сямёніху і яе сына Івана.

Прыгнаўшы гусей, я пайшла да школы, дзе спыніўся атрад. Патупала, але зайсці ў школу ўсё я не адважылася. Вартавы заўважыў, што я доўга разглядаю школьны будынак, і замахаў рукою, каб я ішла далей.

Сумная вярнулася я дадому. А з галавы не выходзіла гаворка з Багданам. Уночы нават снілася тоўстая Сямёніха і яе чорныя лебедзі. Сына яе Івана я не бачыла. І хто яшчэ жыве ў тым доме, таксама не ведала.

Назаўтра я яшчэ раз пагаварыла з Багданам пра Сямёніху.

— Ідзі, Багдан, у атрад,— не сказала, а загадала я яму,— і раскажы пра Сямёніхін хутар.

Багдан чуць не расплакаўся ад майго загаду. Не, ён не можа рызыкаваць сваім жыццём. Маці сказала, што прадасць гусей, а яму трэба наймацца дзе за пастушка, памагаць сям'і. Бацькі-кармільца ўжо не вернеш.

Я разумела яго. А сама? — упікала я сябе. Я ж таксама не адважылася зайсці ў школу да камандзіра атрада. Я злавала на сябе не менш, чым на тых, хто з-за баязлівасці не памагае шукаць бандытаў.

Увечары я зноў пайшла да школы. На гэты раз адважылася: ступіла на ганак. Вартавы затрымаў мяне.

— Ты куды, малая?

— Да камандзіра,— адказала я.

— Чаго?

— Я толькі яму скажу...

— Ну,— памякчэў вартавы,— калі ў цябе якія сакрэты да самога камандзіра, то давай валяй. Ён якраз тут, у пакоі направа.

Я ўвайшла ў калідорчык, потым адчыніла першыя дзверы справа і ўбачыла там у пакоі маладога хударлявага дзядзьку, падобнага на нашага Колю. Ён сядзеў за сталом і нешта пісаў. Убачыў мяне, запытаўся:

— Ты каго, дзяўчынка, шукаеш?

— Вас,— адказала я, стараючыся быць смялей. Страх жа свой я пакінула там, за ганкам. Тым больш што камандзіра атрада я ўжо бачыла, як ён заходзіў да нас казаць пра Колю. Праўда, тады ён быў у доўгім шэрым шынялі і ў ваеннай шапцы на галаве. Цяпер сядзеў у гімнасцёрцы, без шапкі.

Калі я расказала яму, што чула ад Багдана, камандзір запытаўся:

— А ты гаварыла каму пра размову з Багданам?

— Толькі сваёй братавай.

— І не гавары. Ясна табе, дзяўчынка? — ласкава ўсміхнуўся ён.— Умееш хаваць сакрэты?

— Не ведаю.

— Пастарайся.

— Добра, пастараюся.

— Нават Багдану не гавары, што была ў мяне.

Позна ўвечары таго дня да нас зайшоў баец з атрада і паклікаў братавую да камандзіра. Калі яна вярнулася, я, вядома, пацікавілася, чаго яе клікалі. Яна сказала:

— Заўтра, Верачка, на досвітку ты пойдзеш на хутар да Сямёніхі...

— Чаго? Купляць лебядзіныя яйкі?

— Не. Ты дойдзеш да сажалкі і пачнеш дражніць лебедзяў.

— Як дражніць?

— Ну, возьмеш якую хварасцінку і махай на іх, ганяй, каб яны ўбачылі цябе і раскрычаліся.

— І ўсё?

— Усё.

— А калі ўбачыць Сямёніха і наб'е мяне...

— Не наб'е. За табою следам, а можа, перад табою, пойдуць два чырвонаармейцы з атрада. Яны схаваюцца ў кустах каля сажалкі. Так што ідзі смела. У цябе будзе абарона.

— А навошта ўсё гэта?

— Не ведаю. Так сказаў камандзір.

Задача мая была не цяжкая. Падражніць лебедзяў — хто з нас, малых, гэтага не здолее. А тоўстая Сямёніха мяне не дагоніць, каб і хацела. Я была дзяўчынка шустрая і магла бегаць навыперадкі з кім хочаш.

Назаўтра братавая пабудзіла мяне чуць свет, пакарміла на скорую руку і паслала на хутар дражніць чорных лебедзяў.

Дарогу туды я добра ведала. Яна ўвесь час ішла папла-вамі паўз рэчку. Трэба было прайсці вярсты чатыры, не больш.

Дзе былі мае праважатыя? Я іх не бачыла, але ведала, што яны недзе тут, блізка, і адчувала сябе смялей. Убачыла я іх між кустоў ужо бадай каля самай сажалкі. Яны не падышлі да мяне. Вінтоўкі трымалі ў руках, апушчаныя ўніз.

Па дарозе я падабрала некалькі хварасцінак і смела рушыла да сажалкі. Лебедзі былі на месцы. І плавалі якраз з таго берага, да якога я падышла. Я закрычала на іх і замахала хварасцінай. Адзін з лебедзяў узняў галаву, нешта забалбатаў па-свойму. Іншыя змаўчалі. Тады я шпурнула ў іх хварасціну. Лебедзі ўстрывожыліся, закрычалі і кінуліся ў бок дому. Наўздагон я шпурнула ў іх яшчэ адну хварасціну.

І ў гэты ж час пачула сярдзіты голас Сямёніхі. Яна выскачыла з хаты, кінулася да мяне з крыкам:

— Ах ты, нягодніца! Я ж табе пакажу пужаць маіх лебедзяў!

Яна была далекавата ад мяне, і я не вельмі яе збаялася. Стаю і радуюся, што хоць так адплаціла ёй за фальшывыя яйкі чорных лебедзяў. Бачу, на ганак выйшаў высокі плячысты мужык у белай кашулі.

— Што там, маці? — гукнуў ён да Сямёніхі.

Я рашыла ўцякаць, але паспела яшчэ згледзець, як да мужыка з-за вугла хаты, што стаяла пры лузе з густымі кустамі, выскачыла некалькі байцоў з вінтоўкамі ў руках. Сямёніха не бачыла гэтага і ўсё яшчэ бегла да мяне. Але тут сустрэлі яе мае ахоўнікі.

— Чакай, цётка, куды разагналася?

Сямёніха спынілася, аслупянелая ад такой нечаканай сустрэчы. Ну, цяпер мне і ўцякаць не было патрэбы.

На хутары зрабілі вобыск. Чаго толькі там не знайшлі!

12 Зак. 2344

і зброю розную, і безліч нарабаванага ў людзей і накрадзенага дабра. А Іван, Сямёніхін сын, як потым казалі, быў не толькі адным з бандытаў, якія помсціў Савецкай уладзе і савецкім людзям за абрэзаны хутар, а і сам кіраваў цэлай шайкаю. Яго і старую Сямёніху цішком завезлі ў Слуцк, у турму. А на хутары зрабілі тайную засаду.

Праз некалькі дзён пасля гэтага трапілі ў рукі атрада і астатнія бандыты з Іванавай шайкі. Яны прыязджалі і прыходзілі да свайго важака, не ведаючы, што ён ужо злоўлены, і самі траплялі ў хітрую пастку камандзіра атрада таварыша Ляпічынскага.

Пасля гэтага брат пераехаў жыць у Слуцк. Завода ўжо не было, і рабіць тут яму не было чаго.

— А што сталася з чорнымі лебедзямі? — запыталіся дзяўчынкі, якія слухалі бабу Веру, не зводзячы з яе вачэй.

— Гэтага, дзеткі, я не ведаю. Мусіць, так і засталіся ў той сажалцы. Бандыцкі хутар Савецкая ўлада рэквізавала і перадала бедным сялянам.

— А навошта ж было дражніць чорных лебедзяў? — запыталася адна са слухачак.

— Гэтага спачатку і я не ведала,— адказала баба Вера.— Потым ужо мне братавая расказала. Так надумаўся зрабіць камандзір атрада. Яму трэба было неяк выклікаць на двор Сямёніху і без яе ўскочыць у адчыненую хату. А так, як бачыце, усё абышлося лепш не трэба: бандыт Іван сам голенькі, без зброі, выйшаў на ганак пацікавіцца, чаго там раскрычалася яго маці. Тут яго, гада, і скруцілі — ціха, без лішняга шуму. Для гэтага мне і загадалі падражніць чорных лебедзяў, а заадно і іх гаспадыню.

Баба Вера паднялася са свайго пенчука.

— Ну, унучкі, пара ўжо нам і ў лагер. Скора гарніст на вячэру голас падасць. А як я жыла потым, раскажу другім разам.

*1978 г.*

# З НАРОДНЫХ АПАВЯДАННЯЎ[1]

## УСЕ БЫЛО ПАНСКІМ

Бацька мой жыў яшчэ ў час прыгону. Ніяк ён не мог цярпець панскіх здзекаў з людзей. Некалькі разоў уцякаў ад свайго пана. Яго знойдуць, пакараюць бізунамі ды розгамі, а ён зноў уцякае.

Потым ярмо панскае з мужыкоў знялі, а зямлі пакінулі зусім мала, дзе ні ступіш — усё панскае. Кароў у лесе ці на выгане не пасвіць, грыбоў і ягад не збіраць — пан не дазваляе. А сваёй пашы, свайго лесу няма. Вось тут і жыві!

Помню, пайшоў я з сябрукамі на возера Азерскае. Налавілі вудачкамі крыху акунькоў ды збіраліся ўжо дахаты. А тут — тыц панскі аканом са стрэльбаю.

— Стой! — крычыць ён.— Хто вам дазволіў на панскім возеры рыбу лавіць?

Мы спалохаліся, дрыжым.

Ён падышоў, забраў нашых акунькоў.

— Вы што, не ведаеце, што лавіць тут рыбу забаронена?

Мы кажам:

— Не ведаем.

Заплакалі і пайшлі дахаты без рыбы. А ён стаіць і толькі выскаляецца: рад, што адабраў у нас рыбу.

Другі раз пайшоў я з сястрою на панскі выган свінні травы нарваць. Убачыла нас пані.

— Хто вы такія? — пытаецца.

Мы сказалі. Не думалі, што гэта такая вялікая бяда нарваць мяшок травы на пустым панскім выгане.

Аж не. Прыйшлося потым матцы два дні адрабляць за тую панскую траву.

---

[1] Літаратурная апрацоўка.

## ПРАКЛЯТЫЯ ПАНЫ

Вы пытаецеся, як я жыла раней. Ай, лепш і не пытайцеся. Нацярпелася гора і бяды і ў бацькоў, і тады, калі выйшла замуж.

Жылі мы са сваім мужыком на палянцы сярод лесу. А кругом былі землі пана Альшынскага. Вось ён і надумаўся прагнаць нас з панскага хутара. Паны былі прагныя, усё ім мала было. Што толькі не рабіў пан Альшынскі, як толькі не здзекаваўся з нас, гад, а мы ўсё трымаемся за свой хутар. Бо куды ж было дзецца? Ісці да яго ў парабкі не хацелася.

Але яшчэ горш нам стала, як Альшынскі прадаў маёнтак пану Брадовічу. Той дык аж два разы паліў нас. Усё пагарэла, ледзьве дзяцей ўратавала. Мужык мой нешта недалікатнае сказаў пану, дык станавы прыстаў загнаў яго за гэта ў астрог.

Жывёла чуць выйдзе за хутар, панскія стражнікі яе так і гоняць у двор. Ідзі потым, кланяйся пану, адрабляй яму за патраву, якой і не было.

Аднаго разу панскі аканом Кавалеўскі заняў гэтак маю карову ў лесе і гоніць у двор. Я ўбачыла гэта. Кінулася ратаваць. А ён, душагуб, нацэліўся і стрэліў у мяне. Добра, што я паспела адскочыць убок.

Дзяцей маіх білі ўсе панскія лёкаі і стражнікі. Пан іх так навучаў. Гэта, каб мы скарэй адракліся ад свайго хутара.

Я і ў Мазыр ездзіла, і ў Мінск скардзіцца на лютага пана. Ды ніхто са мною і гаварыць не хацеў.

Нарэшце мы пакінулі свой хутар. Выжыў-такі нас пракляты пан Брадовіч.

Нейкі час пасля гэтага мы арандавалі зямлю, а потым дачакаліся рэвалюцыі. Яна нам дала і волю і зямлю.

## КУРНЫЯ ХАТЫ

Цяпер дзяўчаты ходзяць на работу, як даўней у царкву. Прыбяруцца, адзенуцца — люба паглядзець. Усе вясёлыя ды шчаслівыя.

Не тое было ў мае маладыя гады. Я, пакуль замуж не пайшла,— усё ў лапцях хадзіла. Потым ужо неяк нажыла

чаравікі. Насіла іх толькі ў святочныя дні. Пра крамныя сукенкі і думаць не магла. Пралі і ткалі мы самі сабе.

Зямлю тады аралі сохамі. У іх усё драўлянае, адзін сашнік жалезны. Гэта не тое што цяперашні трактар!

Хлеба свайго ў нас не хапала і на палавіну зімы. Дык мы жыта мяшалі з мякінаю, жалудамі, карою,— так малолі і пяклі хлеб. А які той хлеб быў! Адно гора. Але галодны чалавек рад быў і такому.

Падлогу ў хатах рабілі з гліны. Гэта быў такі ж ток, як і ў гумне, дзе малацілі цапамі. У хаце разам з намі жылі куры, а часам і цяляты ды парасяты.

Спала сям'я на палку. Гэта такія дашчаныя палаці ад печы да акенца. Пасцелем на іх саломы і спім усе ўпокат.

А дыму, дыму было ў хаце! Вядома, хаты нашы былі курныя — без каміноў. Чаму іх не рабілі? Хто яго ведае. Так жылі нашы дзяды і прадзеды, так і мы жылі. Запаліць маці ў печы, а дым так і зашугае па хаце — шукае выхаду. Мы прачыняем дзверы ў сенцы — ён і цягне туды патрошку. З сенцаў прабіваецца на двор. Наплачашся, бывала, ад дыму, пакуль выпаліцца ў печы. Іншыя дык проста слеплі: дым выядаў вочы. Не дзіва, што некалі было многа сляпых старцоў.

Цяпер і запалак у нас хапае, і газы. Ды траха не ўсюды на іх ужо і не глядзяць. Бо электрычнае святло завялі. Даўней жа мы ведалі толькі крэсіва ды лучыну. Ставілі пасярод хаты калоду-светаш і ўтыкалі лучыну. Збяруцца бабы на попрадкі і смычуць увесь доўгі зімовы вечар кудзелю пры такім святле.

Гэта я ўсё добра памятаю сама. А маці мая расказвала, як яна за паншчынаю жыла. Ёй было яшчэ горш.

Каля нас быў панскі маёнтак Куклішкі. Туды і хадзіла мая маці на паншчыну. Калыску на плечы — ды ідзе жаць на цэлы дзень. Рабілі людзі, не разгінаючы спіны. Дзіця заходзіцца з плачу ў калысцы, а падысці да яго, суцешыць панскі прыганяты не дазваляў. Гад быў такі ж, як сам пан.

Што хацеў пан, тое мог зрабіць з прыгонным чалавекам. Возьме дзеля пацехі ды ажэніць старога дзеда з маладой дзяўчынай або маладога хлопца са старой кабетай. І нічога яму не скажаш. А то засячэ бізунамі на стайні або аддасць хлопца ў салдаты на муштру на дваццаць гадоў.

Няхай яго, дзеткі, ліха возьме, тое старое жыццё. Аж успамінаць страшна.

## НАЙМІЧКА

Бацькоў сваіх я не помню. З малых год служыла ў багатых людзей за наймічку.

Здзекаваліся з мяне гаспадары як хацелі. Вядома, ніхто за сірату не заступіцца. Бывала, рэшткі ад абеду кінуць у ражку для свіней, а мне не дадуць. Скупыя былі страшэнна. Часта я клалася спаць галодная. Іншы раз, калі ўсе заснуць, устану паціхеньку, адрэжу хлеба ды з'ем са слязамі.

Будзілі мяне ранюсенька. Улетку пасвіла свіней, зімою прала кудзелю. Гулянак ніякіх і не ведала.

З першых год я навучылася шмат што рабіць. Толькі кросны ткаць яшчэ не ўмела. Гаспадыня не падпускала мяне да кроснаў.

Аднойчы, калі яе не было дома, я сама села за кросны. Паткала крыху ды нейк незнарок зламала пласцінку ў бёрдах. Урон гэта не вялікі. Яе лёгка выстругаць з лучынкі новую. Але злосная гаспадыня траха не забіла мяне за тую пласцінку. А потым зняла з мяне сарочку і выгнала вон.

Я апранула сваю старую світачку і пайшла шукаць прытулку ў іншых людзей. А дзень быў такі марозны, што, помню, у мяне нават слёзы на вачах замярзалі.

Так і гадавалася я ў чужых людзей.

## ЯК Я ВУЧЫЎСЯ

Некалі настаўнікам плацілі вельмі мала, і людзі, чые дзеці вучыліся, самі кармілі настаўніка: запрашалі на абед і вячэру.

Калі мне споўнілася гадоў восем ці дзевяць, пайшоў вучыцца і я.

Спачатку ўсё ішло добра. Я ўжо навучыўся чытаць у буквары першыя кароткія словы. І вельмі рад быў гэтаму. Настаўнік хваліў, што я стараюся вучыцца.

Але вось прыйшла чарга настаўніку абедаць у нас. Я сказаў пра гэта мачысе. Яна скрывілася:

— У мяне няма чым карміць і цябе, не толькі твайго настаўніка.

Трэба сказаць, жылі мы небагата: з хлеба на квас пе-

рабіваліся, як кажуць. Але для госця людзі, як вядома, стараюцца даць усё лепшае.

Адным словам, прывёў я настаўніка пасля заняткаў на абед. Прывітаўся ён і сеў за стол.

Мачыха коса паглядзела на настаўніка, але затупала каля печы. Дастала гаршчок капусты з апенькамі і падала госцю. Потым адкроіла лусту чорнага хлеба з мякінаю.

Настаўнік толькі вачыма міргае. Зачэрпаў лыжак колькі ніштымнай капусты, пакрахтаў, паморшчыўся і адсунуў міску ўбок.

Вядома, другія яго кармілі не гэтак: пяклі бліны, смажылі яечню з салам. Ён усё ж чалавек далікатны, не такі, як просты мужык.

Пасля капусты мачыха дастала з печы бульбу з лушпінамі. Адсыпала трохі ў міску і падала настаўніку.

— Калі ласка.

Настаўнік пакруціў галавою, адзеў шапку і сказаў:

— Дзякую, гаспадыня. Наеўся...

— Не забудзьцеся ж на вячэру, пан настаўнік! — запрасіла мачыха.

Але настаўнік нічога не сказаў і чуць не выбег з хаты.

А назаўтра ён першы раз не пахваліў мяне, а паставіў на калені, хоць я і адказаў яму на ўсе яго пытанні.

Так і пайшло. Тых, чые бацькі добра кармілі настаўніка, ён, трэба ці не трэба, хваліў. А мяне і такіх, як я, ставіў на калені або даваў «лапы».

Болей абедаць да нас ён не прыйшоў, хоць я і запрашаў яго.

## БАГАРОДЗІЦА ПАДВЯЛА

Даўно гэта было, за царом яшчэ. Мне гадоў дванаццаць было, калі ў суседняй вёсцы адкрылася царкоўнапрыходская школа.

Бацька і кажа:

— Ідзі, сынок, вучыцца. Можа, табе, пісьменнаму, лягчэй будзе жыць, чым мне.

Жылі мы і праўда вельмі бедна. Вузкая палоска пясчанай зямлі не магла пракарміць нашу немалую сям'ю.

Пагаварылі так дома, параіліся, і я пачаў збірацца ў школу. Абуў новыя лапці, набраў варанай бульбы ў кішэню і пайшоў.

Поп, ён жа быў і настаўнікам, запісаў нас у свой школьны журнал. А потым пачаў пытацца, хто якія ведае пацеры. Ну, адзін кажа, што ведае «Ойча наш», другі — «Дзесяць запаведзяў» або «Верую». А я сказаў:

— «Багародзіцу», бацюшка, ведаю.

— Добра,— пахваліў мяне поп.— Раскажы нам.

Поп сеў на крэсла — тоўсты, з доўгімі косамі, у доўгай пажоўклай світцы.

Я зашчабятаў:

— Багародзіца, дзева, радуйся...

Прашчабятаў трохі ды збіўся. Пыкаў, мыкаў і нарэшце ўсё пераблытаў: адно слова скажу з пачатку, другое — з канца.

Поп слухаў-слухаў, потым дастаў з шафы добрую лазіну і давай хвастаць мяне па чым папала.

— Такі вісус вырас, а «Багародзіцы» не ведаеш! — крычаў ён, расчырванеўшыся ад злосці.

Я паспрабаваў крычаць ад болю. Але так спалохаўся, што страціў голас. Выскачыў тады я са школы — і дахаты. Прыбег заплаканы і кажу бацьку:

— Што хочаш рабі, а больш у школу не пайду!

Бацька ўбачыў крывавыя сінякі на мне і сказаў:

— Але, сынок, згарыць яна няхай такая школа!

Так і застаўся я непісьменным.

## СТАРЫ ВОЎК І ЦЁЛКА

Ішоў я аднаго разу ў Багушова. Чую — нешта стогне ў кустах. Сышоў з дарогі, гляджу: ляжыць за кустом дужаватая рыжая цёлка, стогне і хвастом махае. А каля яе вялізны шэры воўк стаіць.

У руках у мяне была палка. Я замахаў ёю на ваўка. Ён адбегся крыху ды глядзіць на мяне.

— Ах ты разбойнік! — крыкнуў я на яго.— Я ж табе дам!

Воўк знік за кустамі.

Я падняў цёлку на ногі. А яна — брык! — і паваліліся: стаяць не можа. Гляджу, а ў яе ўся шыя пажавана.

Тут я аб усім здагадаўся. Значыць, воўк, якога я адагнаў ад цёлкі, стары, бяззубы. Вось ён і не змог адразу зарэзаць яе.

Я пастаяў крыху, думаючы: што ж рабіць? Пастухоў блізка не відаць. Калі пакінуць цёлку адну, стары разбойнік вернецца і дагрызе яе. Ён, відаць, недзе тут блізка круціцца.

— Ну,— кажу я цёлцы,— хочаш жыць — падымайся!

Я зноў паставіў яе на ногі. Яна пастаяла крыху, акрыяла і пайшла.

Я загнаў яе ў чараду. Знайшоў пастуха і пытаюся:

— Чыя гэта цёлка?

Ён сказаў.

— А што з ёю?

— Ды вот,— кажу,— ад ваўка адабраў.

Пастух падзякаваў мне.

Праз некалькі дзён я сустрэў гаспадара цёлкі.

— Ну, як — жыве твая цёлка? — пытаюся.

— Жыве, брат. Падбрыквае вунь.

І ён таксама падзякаваў мне за сваю цёлку.

## ПРЫГОДА З КАТОМ

Вось якая прыгода была ў нас з катом.

Раніцай надрала я на тарцы бульбы на аладкі. Памыла тарку і прыставіла яе да пабітай шыбы у сенцах: няхай сохне.

А быў у нашага суседа кот. Такі шкоднік, што бяда з ім. Нагледзеў ён дзірку ў акенцы ды скок у сенцы. Думаў, пажывіцца чым. Але галавою трапіў у ручку таркі.

Тарка як забразджыць! Кот спужаўся ды загайсаў, як шалёны, з таркаю на шыі.

Я выбегла ў сенцы і давай яго лавіць. Хацела адчыніць дзверы, але думаю: ён жа як выскачыць такі, дык людзей напужае.

Я прачыніла дзверы ў хату. Клічу сваіх на дапамогу. А кот мне пад ногі ды і загайсаў па хаце. Бразгоча таркаю. Мы ўсе крычым, бегаем за ім. Дзіця малое прачнулася, плача.

Лятаў, лятаў кот па хаце, а потым скок на акно. Разбіў шыбу і — ходу. Я за ім. Трэба ж хоць тарку як-небудзь адабраць у яго.

Забег кот у сад. Спыніўся каля куста, глядзіць на мяне і мяўкае жаласліва.

— Коця, коця! — паклікала я.— Пачакай, дурань.

Падышла я да яго блізка, а сама баюся: яшчэ кінецца на мяне ды пакусае. А потым неяк злаўчылася і схапіла рукою за тарку. Кот вырваўся з яе ды на дрэва. Сядзіць там, фыркае з перапалоху. Цяпер будзе ведаць, як у чужыя хаты скакаць.

## ЧУЖОЕ ЯЙЦО

Служыў я некалі ў пана за парабка. Двор панскі быў вялікі, а наўкол яго раслі старыя разгалістыя бярозы. На іх вадзіліся буслы.

Неяк вясною адзін з парабкаў паклаў у буслінае гняздо яйцо ад індычкі. Хацеў паглядзець: пазнаюць буслы чужое яйцо ці не?

Буслы не заўважылі падману: падкінутае яйцо было такое ж, як і свае. А калі вывеліся птушаняты, старыя буслы затрывожыліся. Лятаюць над бярозаю, клякочуць, хвалююцца.

Мы стаім, глядзім, што будзе.

Неўзабаве зляцеліся сюды і іншыя буслы. Кружацца над гняздом, углядаюцца, што за дзіўнае бусляня вывелі іх суседзі: усё нейкае чорнае, з чырвоным чарвяком замест дзюбы... Вырадак, ды і годзе!

А маці-бусліха проста месца сабе не знаходзіць.

Цэлы дзень так, небарака, трывожылася, потым паднялася высока-высока ў неба, згарнула крылы і каменем грымнулася вобземлю.

Калі мы падбеглі да яе, яна была ўжо мёртвай.

Усе мы вельмі шкадавалі старую бусліху. А разам з намі шкадаваў і парабак, які падлажыў ёй у гняздо чужое яйцо.

## ЧАЛАВЕК ПАД СНЕГАМ

Стары селянін Пілін паехаў зімою ў лес па дровы. Пакуль насек дроў, цямнець пачало.

Выехаў ён з лесу, а тут раптам мяцеліца ўсхадзілася. Дарогу як бач замяло. Конь ледзьве цягне воз.

Праехаў так Пілін з вярсту, і здалося яму, што збіўся

з дарогі, не туды едзе, куды трэба. А завіруха так і круціць, свету не відаць.

Пакінуў Піліп каня і пайшоў шукаць дарогу. Хадзіў, хадзіў па снезе, а цвёрдай дарогі нідзе не намацаў.

Вярнуўся назад, глядзіць — няма ні каня, ні воза.

Піліп туды, сюды — нідзе ніякіх слядоў! Змарыўся ён, прысеў адпачыць і не апамятаўся, як заснуў моцным сном.

Тым часам, пакуль гаспадар шукаў дарогу, конь рушыў дахаты адзін. Прывёз дровы да варот і заржаў. «Адчыніце, маўляў, хутчэй пускайце ў цёплы хлеў!»

Выйшла Піліпава жонка з хаты і гукае гаспадара:

— Ты што, стары, замёрз: сам вароты адчыніць не можаш?

Аж паглядзела яна, а на возе нікога няма.

Дзе ж гаспадар?

Пабегла Піліпава жонка да суседзяў. Тыя кінуліся шукаць Піліпа. Шукалі, гукалі, ды дзе яго знойдзеш у такой завірусе! Так і вярнуліся ні з чым.

Назаўтра па той жа дарозе ехаў другі селянін, Тодар, з сабакам.

Раптам сабака збег з дарогі і пачаў лапамі снег разграбаць. Тодар спыніўся. Цікава, што там сабака шукае.

Разгроб сабака снег, і Тодар убачыў пад снегам чалавека. «Ды гэта ж Піліп!» — здагадаўся ён.

Піліп не варушыўся. Жывы ён ці не — невядома.

Тодар асцярожна палажыў яго на сані і прывёз у вёску. Паклікалі доктара і пачалі расціраць Піліпа халодным снегам.

Хутка ён прачнуўся і расказаў, што з ім здарылася.

## ВОЎК У СТУДНІ

Адзін чалавек ехаў зімою дахаты. Мароз быў страшэнны. Птушкі на ляту замярзалі.

Раптам ён убачыў пры дарозе нежывога ваўка.

«Эге,— падумаў чалавек,— замёрз шэры злодзей. Забяру яго і дома шкуру здзяру».

Ён так і зрабіў. Прывёз ваўка дахаты і кінуў пад лаву — няхай адаграваецца.

Уночы воўк падняўся і давай выць. Гаспадар прачнуўся, запаліў лямпу і кінуўся з качаргою на ваўка.

Воўк у акно, выскачыў на двор. А там сабака залямантаваў. Воўк кінуўся да сабакі, хацеў схапіць яго. Сабака пераскочыў цераз студню ды ў агарод. Воўк за ім, але не разлічыў папацёмку ды — бабух! — у студню.

Студня была глыбокая, дык ён там і захлынуўся.

Давялося гаспадару і ваўка са студні выцягваць і студню ад воўчага духу ачышчаць.

Не рад быў ён, што і звязаўся з ім: няхай бы лепш дамярзаў у полі.

## КОТ-СКАРАХОД

— Вы пытаецеся, як маё прозвішча? Ат, смешна сказаць: Кот!

— Што ж тут смешнага? — кажу я.— Розныя бываюць прозвішчы. Ну, скажам, чым лепшае прозвішча Верабей? Або Сарока?

— Так-то так. Але ў мяне аж два прозвішчы: адно Кот, а другое — Скараход.

— Чаму два? Што — вам аднаго мала?

— Як бачыце — мала. Ды яно ў нас, у вёсцы, бадай у кожнага два прозвішчы: адно законнае, а другое — вулічнае. Некалі, расказваў мой дзед, законных прозвішчаў зусім не было. Былі толькі вулічныя. Як прадражняць, так і звалі. Бацьку майго дзеда дражнілі Катом.

— Чаму — Катом, а не Сабакам?

— Казалі, быў ён у маладыя гады гультаяваты. Усё наравіў дзе-небудзь схавацца і паспаць. Бацька, бывала, знойдзе яго ў гумне на сене або ў хляве на вышках і кажа: «Чаго ты тут хаваешся, як кот у каноплях?» От з таго часу і празвалі яго Катом. А потым, калі пачалі даваць усім законныя прозвішчы, то пан — было гэта яшчэ за прыгонам — і запісаў яму прозвішча Кот.

— Добра. А адкуль жа пайшло другое прозвішча — Скараход? — цікаўлюся я.

— Той жа пан даў. Толькі ўжо не бацьку майго дзеда, а яму самому — гэта значыць майму дзеду.

— Як жа гэта было?

— Пан любіў, каб яго загады зараз жа і спаўняліся.

Тут скажа, тут і зрабі. А мой дзед хлопчыкам служыў у пана на пабягушках. І бывала, пан не паспее сказаць, куды збегаць, як ён ужо і там.

От ён аднаго разу і сказаў яму:

— Які ж ты Кот, ты — Скараход.

Ну, гэтае прозвішча так і прыліпла да дзеда. Ды не толькі да яго самога, а і да ўсяго яго роду. Дзед быў Скараходам, сын яго, значыцца, бацька мой, Скараходам і я — Скараход. А цяпер і мае сыны — Скараходы. Катом мяне бадай ніхто ў вёсцы не заве: хіба толькі адзін старшыня сельсавета.

## СВЯНЦОНАЯ ВАДА

Захварэла Андрэйкава бабка. У грудзях, кажа, цяжка, дыхаць нельга, усе костачкі ломіць.

Ляжыць яна на печы ды вохкае.

— Трэба, бабка, да доктара ехаць,— раіць унучак.— Гэта ў цябе прастуда — ён парашкі дасць.

— Ат,— махае рукамі бабка,— навошта той доктар! Усё, унучак, ад бога. Калі бог не захоча, ніякі доктар не паможа.

Унучак не верыць бабцы. Але спрачацца з ёю не будзеш: яна старая і яе трэба слухаць.

Паляжала гэтак бабка дзён тры ды кажа ўнуку:

— Вазьмі, Андрэйка, рабую курку ды збегай да бацюшкі Парфірыя. Папрасі ў яго свянцонай вады. Я нап'юся і ачуняю.

— За свянцоную ваду тваю курку аддаваць?! — здзівіўся Андрэйка.— Я вам лепш вунь са студні прынясу вады дарэмнай.

— Ну, ну,— пагразіла бабка,— пагавары ты ў мяне, бязбожнік! Вазьмі яшчэ і дзесятак яечак у прыдачу.

Нічога не зробіш з упартаю бабкаю. Узяў Андрэйка рабую курыцу, дзесятак яек і пустую бутэльку ды пайшоў да папа Парфірыя. Дайшоў да знаёмага Копцевага раўчука. А ён разліўся так, што без чаўна на другі бераг і не трапіш: было гэта якраз ранняю вясною.

«Што ж рабіць? — думае Андрэйка.— Як хворай бабцы свянцонай вады здабыць? Не варочацца ж назад з пустою бутэлькаю!»

А тут вады навакол — цэлае возера.

Нагнуўся Андрэйка ды начэрпаў з раўка поўную бутэльку вады. «Бабка,— думае,— не пазнае, а лекі з вады адны — свянцоная яна ці звычайная».

Вярнуўся ўнук дахаты. Курыцу выпусціў у падстрэшак на седала, яйкі паклаў у гаршчок на паліцу, а ваду аддаў бабцы.

— Бацюшка Парфірый казаў згатаваць яе ў печы на чарэні, запарыць ліпавым цветам і піць,— растлумачыў Андрэйка бабцы. А сам не можа ад смеху стрымацца. Вада-то, думае, з раўчука, а не са студні, сырую яе піць няможна.

Зрабіла бабка ўсё як след, напілася гарачага настою з ліпавага цвету і адразу павесялела. Вядома — свянцоная вада! Верыць бабка ў яе сілу.

А назаўтра яна і зусім ачуняла.

— Ну, вось,— кажа ўнучку,— памагла свянцоная вадзіца. А ты кажаш — доктара трэба. Малы ты яшчэ, неразумны. Ніякі доктар не паможа, калі бог не захоча.

А тут якраз рабая курыца забегла ў хату. Сакоча, шпацыруе па хаце. Угледзелася на курыцу бабка і захрысцілася:

— Свят, свят... Ці не здаецца мне? Ты ж яе, унучак, бацюшку занёс. За свянцоную вадзіцу...

Прыйшлося Андрэйку расказаць бабцы ўсю праўду.

— Бач ты,— здзівілася бабка,— выходзіць, вада з Копцевага раўка гэткую ж сілу мае, як і свянцоная!

— І не толькі, бабка, табе памагла,— смяецца ўнучак,— а і нашай рабцы. Замест таго каб трапіць папу на стол, яна вунь як весела сакоча! Відаць, яйка знесла. Схаджу пагляджу.

## ПАРТЫЗАНСКІ ДОКТАР

Заехаў неяк да нас у вёску адзін партызан. А конь у яго так і кволіцца на правую пярэднюю нагу.

Спыніўся ён каля нашай хаты, пра немцаў пытаецца.

— Няма,— кажу,— у нас гэтай нечысці.

Пагаварылі так, я і пытаюся:

— А чаго гэта ў цябе, хлопец, конь кульгае?

— Хто яго ведае,— кажа.— Можа, цвік у капыт залез.

А можа, якая другая прычына. Апіўся ці аб'еўся. Віцінара ж у нас у атрадзе няма.

Гм, што ж рабіць? Я ўспомніла пра нашу суседку бабку Мар'яну. Яна ў нас усіх лечыць шэптамі — і людзей, і жывёлу. Кажу пра яе партызану. А ён смяецца.

— Давай,— кажа,— кліч сваю шаптуху.

Паклікала я бабку Мар'яну. Яна і давай шаптаць над конскаю нагою. А партызан слухаў, слухаў, а потым падышоў да тэлеграфнага слупа, пастукаў па ім палкаю і крычыць:

— Ало, ало! Масква? Чуеце мяне? Ага — чуюць. Прысылайце сюды самалёт. Тут я добрага віцінара знайшоў. Трэба яго ў конніцу Будзённага забраць. Ён там будзе коней лячыць.

Ну, бабка Мар'яна так і ўмлела.

— А галубок, а саколік,— просіцца,— які ж я віцінар! Пастукай ім, каб не слалі самалёта.

— Не, не, бабка Мар'яна,— рагоча партызан.— Ты яшчэ паслужыш нашай Чырвонай конніцы.

Парагатаў, сеў і паехаў на кульгавым кані далей.

А бабка Мар'яна доўга яшчэ пужалася самалётнага гуду: думала, гэта Масква па яе самалёт шле.

### ЗДАГАДЛІВЫ ГАСПАДАР

Нашу вёску немцы спалілі. Дык мы перабраліся ў суседнюю. Цяснота была страшэнная. У адной хаце нас чалавек сорак жыло з малымі дзецьмі. Спалі ўпокат на саломе.

Неяк адвячоркам чуем — сабака забрахаў. Глядзім — на двары нікога не відаць.

Выйшла я на двор, прыслухалася. Здалося, нешта на агародзе ў кустах зашастала. А сабака аж з ланцуга рвецца.

Падышла я бліжэй, бачу — з кустоў салдат нейкі падымаецца. Я так і прысела, спалохаўшыся. А ён: «Не пужайся, цётка, свае...» Гаворыць па-нашаму. Ды і голас нейкі знаёмы. Толькі, дзе чула, не ўспомню.

Прыгледзелася лепш, аж гэта гаспадароў сын Міхась. Тут і сабака перастаў брахаць, пазнаў яго па голасу.

— Ці стаяць у нас немцы? — пытаецца ён у мяне.

— Не,— кажу,— не чуваць.

Толькі ён зайшоў на двор, аж тут і немцы наскочылі. Чалавек з дзесяць. Усе на конях.

Уцякаць Міхасю ўжо няма калі — за агародам чыстае поле. Дык ён у хлеў ускочыў і па драбінах — на вышкі з сенам.

Немцы заехалі на двор. Перакладчык сказаў гаспадару:

— Пакармі коней сенам.

Гаспадар збялеў, маўчыць.

Потым узлез па драбінах на вышкі ў хляве, дзе было сена, і пачаў скідаць яго далоў. А немцы падганяюць:

— Шнель, шнель!

І адзін ужо мерыцца лезці памагаць гаспадару.

— Падкідай мне,— шэпча бацька сыну.

Ну, той і давай падкідаць неўзаметку бацьку сена, а бацька ахапкамі на немца шпурляе. Немец адышоўся ўбок.

— Гут, гут! — хваляць немцы гаспадара, не паспяваючы насіць сена коням.

Я стаю і толькі дзіўлюся, як гэта гаспадар адзін так спраўляецца на вышках. А потым здагадалася: гэта ж яму сын-партызан памагае!

А што было б, каб гаспадар разгубіўся ды замарудзіў з работаю. Палез бы той немец на вышкі памагаць яму. Загінуў бы і сам гаспадар, і яго сын. Ды і наш прытулак спалілі б праклятыя фашысты.

## ДЗЕДАВА АДПЛАТА

Падышлі аднаго разу партызаны да нашай вёскі. А тут якраз немцы з паліцаямі наляцелі: лавілі курэй, свіней, хапалі што пад рукі трапляла.

Набралі так усялякага дабра на вазы і ўжо ехаць у свой гарнізон сабраліся, як іх сустрэлі партызаны. Ну, яны гер-гер, за аўтаматы і давай страляць. Бачу — адзін сцягнуў з воза кулямёт на ножках, паставіў на маім склепе.

Тут мяне злосць апанавала: гад, думаю, з майго склепа ў добрых людзей страляць збіраецца. Агледзеўся, іншых немцаў не відаць, недзе туляюцца па завуголлі. Схапіў я рыдлёўку, падкраўся праз каноплі да склепа ды трах кулямётчыка з усяе сілы па карку лязом... Дарма, што стары

ўжо, а зрабіў усё як трэба. І сам — назад, у хлеў. Ніхто мяне і не згледзеў.

Немцы з паліцаямі тым часам пастралялі, пастралялі ды ходу хто куды. І ад нашага дабра адракліся. Хто ўцёк, а хто тут жа і ногі выпруціў.

Партызаны потым шчыра падзякавалі мне за дапамогу і за кулямёт.

# ЧАЛАВЕК-НЕВІДЗІМКА

(Камедыя ў адным акце)

Дзеючыя асобы:

Анцік — піянер.
Люся — важатая атрада.
Міця, Галя, Маня — важатыя звенняў.
Даміцэля — бабка.
Палагея — дворнічыха.
Дзядзя Ваня — паштальён.

Дзея адбываецца ў піянерскім пакоі пры школе. Сцэна разгароджана шырмай на дзве палавіны. Большую палавіну, справа, займае піянерскі пакой. Пасярод яго стаяць стол і крэслы, на сцяне вісяць насценная газета «Піянерскі горн», партрэты, плакаты. У кутку — піянерскі сцяг.

Злева, за шырмай,— пакойчык драмгуртка, злучаны дзвярыма з піянерскім пакоем. У ім стаіць шафа і параскіданы некаторыя рэчы з бутафорыі.

За сцэнай чуваць злосны сабачы брэх і крык: «Ай-яй! Мірон, каб цябе ваўкі ўхапілі! Пайшоў вон!» Услед за гэтым на сцэну ўбягае смешны маленькі дзядзька з доўгімі рыжымі вусамі, у парваных на лытках штанах. У руках у яго драўляная шашка, за поясам — пугач-наган.

Анцік *(ён жа дзядзька)*. Ай-яй! *(Трэ рукою лытку з парванаю калашынаю.)* Які паганы! Каб не забег сюды, загрыз бы. Недарэмна ў яго рот чорны, як вугаль. *(Бегае па сцэне, размахвае шашкаю.)* Я гэта толькі сеў на яго і хацеў прамаршыраваць па вуліцы, пасячы сваёю шашкаю белякоў. Вось так: сячы направа, сячы налева! Страляй з нагана! А ён, звяруга, як забурчыць!.. А потым як выскаліць свае паганыя іклы, як драпане!.. Скінуў мяне з сядла і траха не загрыз. Ну і ваўкарэзіна! *(Дастае наган з-за пояса.)* Застрэлю! На месцы ўлажу, як ворага! *(Смела ідзе да дзвярэй, адчыняе, адтуль чуваць: «Грр, гаў, гаў!»)* Ён тут! Як жа мне адгэтуль выбрацца?.. Захапіў мяне Мірон у палон. Гм, што ж прыдумаць? *(Ходзіць па сцэне, убачыў насценгазету.)* Новая насценгазета! А гэта, хто такі з доўгімі рыжымі вусамі і з маёю шашкаю тарчыць тут? *(Чытае.)* «Зрыўшчык вучобы». Цікава, які такі зрыўшчык вучобы завёўся ў нас? Пачытаем пра яго: «У нашым пятым «Б» класе ёсць вучань Анцік Лыткін...» *(Да залы.)* Анцік

Лыткін? Дык гэта я і ёсць Анцік Лыткін! Правільна. А хто ў нас зрыўшчык вучобы? Не я ж, вядома! Апрача яблыкаў і груш, я, чэснае піянерскае, ніколі нічога не зрываю. А-а, гэта, мусіць, далей будзе пра майго суседа па парце Пецю! Нядаўна ён і праўда сарваў урок. З ахвотаю прачытаю пра гэтага зрыўшчыка. А яшчэ — выдатнік! *(Чытае.)* «Дык вось гэты самы Анцік Лыткін пераапранаецца пасля школы ў дзеда ці бабу, палохае дзяцей або ганяецца за катамі і сабакамі, а ўрокі не вучыць і ўжо зарабіў дзве двойкі і адну тройку...» Ух, гэта такі пра мяне, а не пра Пецю. *(Чытае.)* «Мы просім піянерскі атрад выключыць такога піянера з атрада, бо ён ганьбіць нас». *(Спахмурнеў, чухае патыліцу.)* Ды мяне ж цяпер нават куры засмяюць! Што ж рабіць? Ага... *(Зрывае заметку і кладзе яе ў кішэню.)* Вось так... А цяпер напішам замест гэтай другую: «Я, Анцік Лыткін, даю чэснае піянерскае... *(Стук за дзвярыма.)* Ой, нехта ідзе!.. Могуць агледзецца, што я сарваў заметку... *(Бегае па сцэне.)* Куды ж мне дзецца? *(Лезе пад стол.)* Не, тут убачаць... *(Вылазіць з-пад стала, глядзіць на дзверы, што вядуць у пакой драмгуртка.)* Забягу лепш туды. *(Бяжыць за шырму.)*

Уваходзяць важатая атрада Л ю с я і важатыя звенняў М і ц я, Г а л я і М а н я.

В а ж а т а я *(на хаду)*. Сёння, сябры мае, у нас на савеце атрада толькі адно пытанне: аб паспяховасці пятых класаў. Паступілі сур'ёзныя сігналы... Прашу садзіцца.

Усе садзяцца вакол стала.

В а ж а т а я *(паказвае на насценгазету)*. Гэтаму пытанню прысвечаны і апошні нумар нашай газеты. Там ёсць сігналы, што некаторыя піянеры атрымалі двойкі...

Г а л я. А я яшчэ і не бачыла свежай газеты. *(Падыходзіць да сцяны. Разглядвае газету.)*

В а ж а т а я. Галя, пачытаеш потым. Ідзі садзіся!

Г а л я *(паказвае на пустое месца ў газеце.)* А тут чаму нічога няма?

В а ж а т а я. На самай сярэдзіне самы сур'ёзны сігнал — пра двоечніка з вашага 5 «Б» класа Анціка Лыткіна. *(Глядзіць здзіўлена.)* А і праўда... *(Падыходзіць да сцяны. Міця і Маня ідуць за ёю.)*

М і ц я. Ніякай заметкі я на гэтым месцы не бачу...

М а н я. Можа, тут і не было нічога?

В а ж а т а я. Я сама чытала...

А н ц і к *(спалохана, за дзвярыма.)* Ну і ўліп жа!..

В а ж а т а я. Дзіва! Хто б мог яе сарваць? Я ж толькі на хвіліну адлучылася — хадзіла па вас. Шукайце, сябры, шукайце зрыўшчыка! Ён недзе тут.

А н ц і к. Прапаў я цяпер...

Важатая і звеннявыя пачынаюць энергічна шукаць пад сталом, пад крэсламі, у кутках...

В а ж а т а я. Дзе ж ён дзеўся? Зірні, Галечка, у пакой драмгуртка.

А н ц і к. Сюды ідуць... *(Глядзіць на шафу.)* Схаваюся хоць у шафу. *(Адчыняе шафу і хаваецца.)*

Галя ідзе ў пакой драмгуртка, астатнія ўсё яшчэ шукаюць.

Г а л я *(разглядае пакой)*. Не відаць нікога. Можа, гэта чалавек-невідзімка? *(Бегае, ловіць рукамі паветра.)* Няма... А можа, які злодзей у шафу залез? *(Нясмела падыходзіць да шафы, спрабуе адчыніць. Шафа не адчыняецца: Анцік трымае дзверы з сярэдзіны.)* Замкнёна. Значыць, сюды ніхто не мог залезці. *(Ідзе назад у піянерскі пакой.)*

В а ж а т а я. Няма нікога?

Г а л я. Нікога. Гэта, напэўна, чалавек-невідзімка. Я баюся...

В а ж а т а я. А я думаю, ці не сам двоечнік тут пагаспадарыў. Або хто з яго прыяцеляў... І мы зараз павінны пагаварыць пра яго сур'ёзна. Гэта таксама сігнал для нас. Сядайце, сябры! *(Усе садзяцца.)* Дакладвай, Галя, як у вашым пятым «Б» вучацца піянеры.

Г а л я *(увесь час аглядаецца)*. Усе піянеры ў нашым класе вучацца на чацвёркі і пяцёркі. Але...

З двара, стукаючы палкаю, уваходзіць старая згорбленая б а б к а.

Б а б к а. Дзе тут, дзеткі, піянерскі атрад?

В а ж а т а я. Тут, бабка, тут.

Б а б к а. І што гэта вы, дзеткі, сабе думаеце?

В а ж а т а я. Мы, бабка, думаем пра вучобу пятых класаў.

Б а б к а *(стукае палкаю, са злосцю)*. Вучобу-то вучобу... Думайце сабе на здароўе. Але падумайце вы, дзеткі, і пра гэтага фулюгана...

А н ц і к *(вылазіць з шафы)*. Голас бабкі Даміцэлі з су-

седняга двара... Пра якога гэта фулюгана яна гаворыць? *(Падслухоўвае з-за дзвярэй.)*

Важатая. Сядайце, бабка, не хвалюйцеся. Расказвайце спакойна.

Бабка. Не магу я супакоіцца. У мяне і цяпер яшчэ ўсё ўсярэдзіне калоціцца. Падумаць толькі, якія шуткі выраблае гэты фулюган!

Важатая. Які «фулюган», бабка?

Бабка. Які, які? Сама павінна ведаць — які!

Галя. Ды вы, бабка Даміцэля, супакойцеся. Сядайце.

Бабка. Не магу я супакоіцца. *(Садзіцца.)* Пайшла гэта я нядаўна на рынак. Купіла там сёе-тое на патрэбу — малака збаночак, цыбулькі, бурачкоў ды іду сабе дахаты. Іду гэта памаленьку, пад ногі ўглядаюся. Вядома, старая, дзеткі, баюся, каб за што нагамі не зачапіцца...

Важатая. Так, так... А пры чым жа тут хуліган?

Бабка. Ды пры тым, дзеткі, што праз яго я цэлы збанок малака на зямлю выплюхнула і так перапалохалася, што і цяпер дрыжу...

Анцік *(спалохана)*. Ну, зараз усё раскажа... Яшчэ бяда...

Бабка. Дайшла я гэта траха не да сваіх варот — вось тут недалёчка я жыву,— як проста на мяне ляціць нейкі ваяка на вялізным сабаку. Прыгледзелася — аж гэта Анцік з суседняга двара, толькі з доўгімі вусамі. Ды я пазнаю яго і з вусамі, і без вусоў. Наляцеў на мяне ды і стукнуўся аб збанок. Ну, той і вырваўся з рук... Добра яшчэ, што хоць не разбіўся.

Важатая. Анцік Лыткін?

Бабка. Ага, ага, Лыткін. Каб яму сабака хоць адну лытку разарваў, можа, тады б ён не фулюганіў.

Анцік. А ён такі і разарваў мне калі не лытку, то калашыну...

Галя. Ну і Анцік! Гэта ж думаць...

Важатая. Вось што, бабка Даміцэля, мы паклічам гэтага Анціка Лыткіна на савет атрада і пагаворым з ім сур'ёзна.

Бабка. А што ён на двары выраблае! Я даўно збіралася да вас у атрад — пагаварыць. Шкада ўсё ж, такі жвавы хлапец, а нічым разумным не займаецца. *(Выходзіць.)*

Анцік. Ці ж я хацеў выліць бабчына малако? Гэта ўсё ён, шалёны Мірон, нарабіў! Не, не магу я болей слухаць такія рэчы пра сябе. Уцяку. Але як уцячы? Ага...

*(Ідзе да шафы, зрывае вусы і пачынае прымяраць сабе жаночае адзенне: хустку і паліто.)*

Важатая *(заклапочана)*. Гэтулькі сігналаў пра Анціка Лыткіна!.. Я і не думала.

З мятлою ў руках на сцэну ўбягае дворнічыха Палагея.

Палагея *(з крыкам, грозна)*. Дзе гэты Анцік? Я яго мятлою так адлупцую! Дзе ён?

Важатая. Зноў Анцік?.. Яго няма тут, цётка Палагея.

Палагея. А дзе ж ён? Казалі — сюды пабег. Вы не хавайце яго. Я пакажу яму.

Важатая. Што ён яшчэ нарабіў?

Палагея. Што нарабіў? Хто-хто, а ты павінна ведаць, што ён нарабіў!

Важатая. Нічога не ведаю...

Палагея. Ён з маіх гусей усё пер'е выскуб. Мяне гэта дома не было. А ён злавіў дзвюх маіх гусак, залез з імі на страху хлява і скокнуў адтуль...

Анцік *(пераапранаецца)*. Якое пер'е? Што яна выдумляе! Ніводнай пярынкі з яе гусей не ўпала. Чэснае піянерскае! Я толькі на гусях са страхі спускаўся... Як на парашуце. І то няўдала. Бакі пабіў. Ды і гусі нос пашчыпалі.

Важатая. Бяда за бядою. Праўду людзі кажуць: адна бяда не ідзе — другую за сабой вядзе. Добра, цётка Палагея, мы з ім пагаворым.

Палагея. Я з ім і сама пагавару вось гэтаю мятлою! Я знайду яго! *(Выбягае.)*

Важатая *(уздыхае)*. Ну, гавары, Галя, далей.

Галя. Вось я і хацела сказаць пра Анціка Лыткіна. Але шмат чаго замест мяне ўжо сказалі бабка Даміцэля і дворнічыха Палагея. У школе ён не лепшы. Мае і двойкі, і тройкі. Калі Анцік не выправіць іх да Першага мая, дык увесь клас пацерпіць з-за яго аднаго.

Анцік *(разважае)*. Як жа ён пацерпіць? Ну, бабка Даміцэля пацярпела ўбытак на малацэ, дворнічыха — на пер'ях, а клас на чым? Першы раз чую такія невясёлыя рэчы...

Маня. У якім ён гуртку ў нас у атрадзе?

Галя. Ні ў якім. Усё просіцца ў драмгурток. Але ж ён недысцыплінаваны і можа сарваць работу...

Анцік (*пераапрануты бабуляй*). Чулі вы што-небудзь падобнае? Гэта я магу сарваць работу драмгуртка? (*Гарачыцца.*) Ды я... ды я ім дакажу!

Важатая. Ну што ж, давайце, сябры, прапановы.

Галя. Пытанне, мне здаецца, яснае. Анцік не мае ў атрадзе ніякай нагрузкі. Стаў дрэнна вучыцца. Хуліганіць. Прапаную выключыць яго з піянераў.

Анцік (*аж прысядае ад такой неспадзяванай прапановы*). Мяне — выключыць з піянераў! Ды я ж магу свае няшчасныя двойкі за тыдзень выправіць! А хуліганіць — ды я зусім і не хуліганю. Чэснае піянерскае!

Важатая. А ты, Маня?

Маня. Я — за. Але нам не шкодзіла б раней паклікаць яго на савет атрада і пагаварыць.

Міця. Анцік лічыцца піянерам. Але толькі лічыцца. З атрадам ён не звязаны і атрад з ім таксама. Чаму Галя думае, што Анцік не мог бы выступаць у драмгуртку?

Анцік (*павесялеў*). От малайчына Міця! Вядома, хлопец. Ён разумее свайго брата. А дзяўчаты толькі на мяне валяць...

Міця. Вось я і прапаную: сёння гэтага пытання не рашаць.

Важатая. Пытанне, сябры, сур'ёзнае. Паступіла нямала сігналаў...

У пакой уваходзіць паштальён — пажылы чалавек з сумкаю на плячы.

Паштальён (*весела*). Добры дзень, піянеры!

Важатая. Пісьмо? Ад каго ж?

Паштальён (*падае важатай пісьмо, з усмешкаю*). А вы народ пісьменны, самі прачытаеце. Я толькі старэнькім дзядулям ды бабулям цяпер чытаю, і то рэдка. Вы ведаеце, якое нядаўна ў мяне здарэнне было?

Важатая (*убок*). Ну і ён, мусіць, пра Анціка...

Анцік (*да залы*). Хаця б зноў не пра мяне...

Паштальён. Тут недалёка, у нумары 48, кватэра 2, жыве адна старая. Ёй часта прыходзяць пісьмы ад сына-лётчыка з Далёкага Усходу. А сама непісьменная. Два гады я чытаў ёй пісьмы. Вы разумееце, якая гэта была прыемнасць для мяне дапамагчы чалавеку! І вось нядаўна прыношу ёй пісьмо і збіраюся чытаць. А яна мне: «Дзякуй, кажа, даражэнькі, я сама паспрабую прачытаць». Надзявае акуляры і бярэ ў мяне з рук пісьмо. Тут у мяне і вочы

на лоб палезлі. «Дык вы, кажу, пісьменная? Што ж вы мне раней не сказалі?» А яна ў адказ: «Трохі навучылася, сакалік».— «Хто ж вас навучыў?» — «А мяне,— кажа,— Анцік Лыткін, піянер з нашага двара, навучыў. Ён мне пісьмы да сына пісаў. Ён вельмі любіць лётчыкаў. Сам хоча лётчыкам стаць. І ён мяне патрошку-патрошку — і навучыў...» Ну, як вам гэта падабаецца?

Важатая і звеннявыя разгублена пераглядаюцца паміж сабою.

Анцік *(ківае галавою).* І паштальён пра мяне гаварыў! Не разбяру толькі — добрае ці дрэннае. Усе на мяне. Цяпер-то ўжо напэўна выключаць з піянераў...

Паштальён. Ну, бывайце, піянерыя! Спяшаюся. Яшчэ вунь цэлая сумка пісем у мяне. *(Выходзіць.)*

Галя. Ад каго ж нам пісьмо?

Важатая *(чытае канверт).* З Харкава. Ад 5 «Б» класа школы імя Франко. Табе, Галя.

Галя. Гэта, мусіць, адказ на наша апошняе пісьмо. Мы ім і пра Анціка пісалі.

Анцік. Пра мяне аж у Харкаў напісалі!

Важатая *(разрывае канверт, дастае два лісткі).* Гэта класу «Б». А гэта каму ж? *(Чытае.)* «Добры дзень, Анцік Лыткін!»

Галя. Анціку пісьмо! Ад каго ж?

Важатая *(чытае).* «Піша табе Жора Ахрыменка з 5 «Б» класа школы імя Франко...»

Анцік *(паціскае плячыма).* Я такога не ведаю...

Важатая. «Апошняе пісьмо вашага класа мы чыталі на перапынку. Там было напісана, што ты дрэнна вучышся... Усе нашы піянеры шмат пра цябе гаварылі. І пра мяне таксама...»

Анцік. Ці не таварыш па няшчасцю?

Важатая *(чытае далей).* «І ў мяне, брат, не ўсё гладка... Ёсць і двойкі, і тройкі... І я моцна задумаўся пасля вашага пісьма. Нядобрая, Анцік, пра нас з табою слава... А ў пісьме сказана, што ты здольны і мог бы быць першым у класе...»

Галя *(радасна).* Якое цудоўнае пісьмо! Мы яго павінны зараз жа перадаць Анціку!

Міця. Не перапыняй, Галя!

Важатая. «Я, Анцік, даў атраду чэснае піянерскае выправіць да Першага мая ўсе двойкі і тройкі... А як ты на

гэта глядзіш? Чакаю адказу. Піянер 5 «Б» класа Жора Ахрыменка».

Анцік. Вось уліп, дык уліп! Што ж мне яму адказаць?

Галя. Бяжым хутчэй шукаць Анціка!

Важатая. Малайчына Жора Ахрыменка! Ён, здаецца, добры прыклад нам падае. Хадзем, сябры!

Міця. Анцік, напэўна, ваюе дзе-небудзь. Я ведаю яго!

Анцік *(сумна)*. Ваюе! У палоне сяджу...

Усе выходзяць.

Анцік *(заходзіць у піянерскі пакой)*. Пайшлі шукаць мяне. *(Задумаўся.)* Ну і задачу ж ты задаў мне, Жора! Аднак ты, Жора, усё ж добры прыяцель, калі другім спачуваеш і аб другіх клапоцішся. А каб ты ведаў, брат Жора, як цяжка і сорамна было мне слухаць тваё пісьмо!.. І яшчэ ў такі час, калі ўсе няшчасці і ўсе напасці на мяне сыплюцца, як той гарох. *(Пачынае ўсхліпваць.)* І сабака мне штаны парваў, і бабка Даміцэля за мною з палкаю ганяецца, і дворнічыха з мятлою, і паштальён нешта, мусіць, нядобрае на мяне нагаварыў. І Галя на мяне, і важатая на мяне. Адзін толькі ты мне шчыра спачуваеш. Чакай, Жора, я зараз жа адкажу табе. *(Садзіцца за стол і піша.)*

Праз нейкі час чуваць стук за дзвярыма. Анцік спалохана ўсхопліваецца.

Анцік. Можа, дворнічыха з мятлою вярнулася? *(Забыўся на пісьмо, бяжыць у пакой драмгуртка.)*

Заходзяць важатая і звенявыя.

Міця. Казаў жа, што ён недзе ваюе...

Важатая. Ну нічога. Мы яго заўтра ў класе знойдзем. *(Падыходзіць да стала. Убачыла запіску. Чытае.)* «Добры дзень, Жора Ахрыменка!» *(Глядзіць на звенявых.)* Хто гэта пісаў?

Анцік. Ой, пісьмо забыўся!..

Міця. А што там далей?

Важатая. «Ты пішаш, Жора, што вы ў класе чыталі пра мяне. Я і сам, Жора, не ведаў, якой бяды нарабіў і сабе, і нават усяму класу. Сёння першы раз я чую, як усе мяне дакараюць...» *(Важатая змоўкла, разводзіць рукамі.)*

Галя. Усё?

Важатая. Пісьмо не скончана. Хто гэта пажартаваў? Ты, Міця?

Міця. Я ж з вамі хадзіў.

Галя. Казала вам: у нас чалавек-невідзімка...

Важатая. Нічога не разумею! Давайце замкнём пакой і пойдзем дахаты. Няхай гэты невідзімка сядзіць тут адзін. *(Ідзе да дзвярэй драмгуртка і замыкае іх.)*

Анцік. А я? На ўсю ноч аднаму заставацца? А тут жа, напэўна, пацукі... Я іх баюся...

Важатая. Ну, хадзем. Савет атрада закончым заўтра.

Анцік *(замітусіўся, стукае ў дзверы)*. Адчыніце!..

Усе спыняюцца, са здзіўленнем глядзяць на дзверы.

Галя. Ну, не казала вам? Гэта — чалавек-невідзімка...

Маня. Але, Галечка, гэта ён! *(Цісну́цца адна да адной.)*

Важатая. Міця, за мною! *(Ідзе да дзвярэй драмгуртка і адмыкае іх. З пакоя выходзіць старая бабуля.)*

Важатая *(здзіўлена)*. Бабуля, што вы тут робіце? Адкуль вы?

Галя. Гэта ён — чалавек-невідзімка! Уцякайма!

Маня. Ды не — гэта ж нейкая бабка...

Анцік *(змяніў голас)*. Я, дзеткі мае, да вас прыйшла, ды заблудзілася. Мусіць, не ў той пакой трапіла...

Важатая. І вы, можа, скардзіцца на Анціка Лыткіна? Што ён яшчэ натварыў?

Анцік. Ён... Гм... Ён майго ката ў пастку злавіў. Вы яму ўсыпце за гэта розаг. *(Ідзе да выхада.)*

Важатая. Чакайце, бабка. Куды ж вы спяшаецеся? Раскажыце нам, як гэта было. А мы тут жа, пры вас, і разбяром справу. Сябры, сядайце! Будзем працягваць савет!

Галя і Маня асцярожна абыходзяць бабулю, садзяцца каля стала.

Важатая *(хітра паглядае на Анціка)*. Дык вось такая справа. Што мы ведаем пра Анціка? Па-першае, у яго пяць двоек... *(Загінае палец.)*

Анцік *(жыва)*. Не пяць, унучка, а толькі дзве і адна тройка...

Звеннявыя з цікавасцю глядзяць на бабулю.

Важатая *(усміхаецца)*. Адкуль жа вы, бабка, ведаеце?

Анцік. А ён, унучка, сам мне казаў... Далібог праўда. Пабажыцца магу.

Важатая. Ну, не будзем займацца дробязямі. Няхай не пяць, а менш. Усё ж піянеру гэта не да твару. Праўда, бабка?

Анцік *(ківае галавою)*. Не да твару, унучка, не да твару...

Важатая. Па-другое *(загінае другі палец)*, гэты самы Анцік паваліў на тратуары бабку Даміцэлю з малаком...

Анцік. Не, не, унучка! Няпраўда! Я гэта добра ведаю. Далібог. Паклёп на хлопца не ўзводзьце...

Важатая. Па-трэцяе, ён пакусаў дворнічыхіных гусей...

Анцік. Не, не, унучка! Няпраўда! Гэта гусі мяне... Гэта гусі яго пакусалі... Я ж добра ведаю. Ён мне скардзіўся на гусей.

Важатая. Ну, розніца невялікая: ён гусей пакусаў ці гусі яго.

Анцік. Як гэта — невялікая, унучка! Яшчэ і цяпер на носе ў яго драпіны не загаіліся...

Важатая *(прыглядаючыся да бабчынага носа)*. Такія, мусіць, як у вас, бабка?

Анцік. Ага, ага, такія... І цяпер баляць яшчэ. *(Хапаецца за нос, чухае.)*

Важатая. І вось за ўсё гэта я прапаную выключыць Анціка Лыткіна з піянераў, калі ён не выправіцца да Першага мая.

Анцік. Не трэба выключаць, унучка! Ён выправіцца. Даю чэснае піянерскае...

Галя. Бабка, дык вы — піянерка?

Анцік *(разгублена)*. Ага... Не, не... Гэта я так сказаў... Сказала...

Важатая. То, можа, і гальштук вы носіце? Пакажыце! *(Расшпільвае паліто, і ўсе бачаць Анціка з пугачом за поясам.)*

Маня. Анцік!

Галя. Вось дык піянерка!

Міця. Чалавек-невідзімка!

Усе весела смяюцца, распранаюць Анціка і знімаюць з яго галавы хустку.

Важатая. А я і не ведала, Анцік, што ты такі здоль-

ны артыст! Ды ты ж так разыграў бабку, што я сама спачатку паверыла была. Дарэмна, Галя, мы яго ў драмгурток не прынялі!

Г а л я. Анцік, табе пісьмо прыйшло ад Жоры Ахрыменкі з Харкава. Мы шукалі цябе.

А н ц і к *(сканфужана)*. Ведаю... Вы мне не далі адказ дапісаць.

В а ж а т а я *(падае яму пісьмо)*. Адказ ты, Анцік, усё ж дапішы. А выключаць цябе з піянераў ці не — гэта будзе відаць потым. Згодзен?

А н ц і к. Згодзен!

В а ж а т а я *(бярэ яго за руку)*. Ну дык вось, чалавек-невідзімка, гэта наш з табою дагавор. Парушаць яго не будзем?

А н ц і к. Не будзем, таварыш важатая Люся!

*1939 г.*

# ПЕРШАЕ ЯЕЧКА

Хадзіў дзед на паляванне. Паляваў ад ранку да змяркання. Зморыцца, аж слова не прамовіць, а звярыны не зловіць. Ідзе дахаты, ледзьве не плача.

Вось дык няўдача!

Баба дзеда лае, што дарма гуляе, топча лапці, рве аборы.

Ну і гора!

Слухаць дзеду горка бабіну гаворку.

— Ты, баба, мяне не лай. Злаўлю табе звера: чакай!

Цэлы дзень дзед хадзіў, курку рабку злавіў.

Рада баба, скача, а курка кудахча: «Куд-куды, куд-куды! Дайце грэчкі і вады!»

Баба курку накарміла, вадою напаіла. Села курка на вечка ды знесла яечка.

Бегла мышка пад скрынку, цягнула скарынку, хвастом вільнула, яечка скранула.

Яечка скацілася, трах! — і разбілася...

Убачыла баба, загаласіла ды з жалю ўсе гаршкі пабіла. Паламала і вечка, што не дагледзела яечка. Сама сярод хаты села і — абамлела...

Тут дзед стрэльбу схапіў, порахам набіў. Кінуўся да мышкі, а мышка — на вышкі.

Дзед за ёю:

— Лжэш! Ад мяне не ўцячэш!

За парог зачапіўся, плясь! — і паваліўся.

Набіў дзед гузак з добры кулак. Ляжыць, уздыхае, мышку лае.

Ішлі бабы па ваду, пабачылі тую бяду, пачалі рукамі махаць, людзей на дапамогу склікаць.

Прыбеглі старыя, за старымі — малыя. Дзеда паднялі, бабу вадой адлілі. Крычаць, бядуюць, яечка шкадуюць. Ну, вядома, і дзеда з бабай шкада.

Вось дык бяда!

А пакуль там крычалі ды бедавалі, курка села ў падпечку ды знесла другое яечка. Круглае, белае, моцнае, спелае. Яшчэ лепшае за першае!

Рада баба, рад і дзед: будзе яечня на абед!

Баба патэльню ўзяла, яечню спякла. Паклікала гасцей — старых і дзяцей.

Усе елі, колькі хацелі. З-за стала ўсталі, песні заспявалі. Узяліся ў бокі, пусціліся ў скокі.

Скакалі, скакалі ды годзе сказалі.

Вось вам і казка. Чытайце, калі ласка!

# КАЗКА
# ПРА СМЕЛАГА ВОЖЫКА

Сядзіць Зайка Шарачок пад зялёнай елачкай і горка плача. Лапкамі буйныя слёзы выцірае. А слёзы так і сыплюцца, як град, так і сыплюцца. Моцна, відаць, ужаліўся Зайка.

— Як жа мне цяпер жыць на белым свеце?..— скардзіцца ён на сваю заячую долю.— У-у-у-у-у... Калі так, дык і верабей скора верх над табою возьме... Эх, пабегчы хіба ды ўтапіцца з гора...

Прыбег на рэчку. І толькі намерыўся боўтнуць з высокага берага ў ваду, як чуе:

— Гэй, касавокі, не бачыш, куды разагнаўся?! Дрэнна ўсё ж, скажу табе па шчырасці, мець косыя вочы. Так і ўтапіцца можна...

— Вось гэта ж мне і трэба, сястрыца Лісанька,— кажа Зайка Шарачок.— Толькі ў ваду, толькі ўтапіцца...

— Што ты, браток, надумаўся?! Апамятайся! Навошта табе тапіцца?

— Як гэта навошта? І ты б не лепш зрабіла, каб цябе так набіў і пакрыўдзіў... У-у-у!..— Зайка захліпнуўся і не мог далей гаварыць.

— Хто набіў? Хто пакрыўдзіў?

— Ды крываногі таўкач гэты — Вожык. І каб хто людскі! — Пры апошніх словах Зайка выцер лапкай самую буйную слязу.

— Ай, ай,— заайкала Лісіца Хітрыца,— Вожык цябе пабіў! Не спадзявалася, браток, чуць такія навіны. Як жа гэта хаця здарылася?

Зайка прысеў на заднія лапкі і пачаў расказваць.

— Пайшоў гэта я,— кажа,— нядаўна пад Бярозавую горку салодкай канюшынкі пашчыпаць. А тут і Вожык прыпёрся — паўзун гэты клышаногі — і давай па канюшыне качацца. Так і мне яе, так і топча. Хіба ж магло стрымаць маё заячае сэрца гэтакі здзек? Гэта ж маю канюшыну ён топча! Набраўся я храбрасці ды як закрычу на яго... А ён, замест таго каб уцякаць, падбег да мяне ды давай дубасіць, давай іголкамі калоць,— я ледзь жывы вырабіўся. У-у-у...— зноў расплакаўся Зайка Шарачок.

І ён не на жарты намерыўся скокнуць у ваду.

Шкада стала Лісіцы Хітрыцы Зайку. Як-ніяк, свой брат. І калі кожная там казюлька пачне яго крыўдзіць, тады і праўда лепш утапіцца.

— Пачакай,— кажа Лісіца,— не тапіся, браток. Я за цябе заступлюся. Ужо я пакажу яму, паўзуну гэтаму нячаснаму! Як толькі ўбачу, адразу зглыну яго... Будзе ён ведаць! Будзе ён век мяне помніць!

— Заступіся, сястрыца, заступіся...

Зайка зарадаваўся і перастаў плакаць.

* * *

Прыбегла Лісіца Хітрыца да Бярозавай гары, стала ў лагчынцы і выглядае, дзе той Вожык, які так бязлітасна пакрыўдзіў яе прыяцеля Зайку Шарачка.

Раптам нейкі цяжкі калючы клубок каменем упаў на яе спіну.

— Фф-р-р-р! пы-ы-х! — зафыркала і запыхкала над самаю яе галавою.— Фф-р-р-р! пы-ы-х!

Тут Лісіца калі скокне, калі драпане: па пнях ды па карчах, па кустах ды па зарасніках... Толькі хвост пушысты мільгае.

Вожык перад гэтым варочаўся дахаты з Бярозавай гары і, як звычайна, каб скараціць дарогу, каціўся клубком,— дзе скокам, дзе бокам. Ён, небарака, і не агледзеўся, як апынуўся на Лісіцынай спіне: Лісіца стаяла якраз пад самаю гарою.

Напалохаўся Вожык, уплёўся лапамі ў густую шэрсць ды толькі фыркае, толькі пыхкае. І адарвацца баіцца, каб аб дрэва ці пень які не забіцца, і на Лісіцы ехаць страшна.

Лісіца ж тым часам думала, што ўжо смерць яе прыйшла. Прымчалася да сваёй горкі і — у нару. Нара была вузкая, толькі як самой пралезці, і Вожык сарваўся з яе спіны. Зарадаваўшыся гэтаму, ён без аглядкі пакаціўся назад.

Сядзіць Лісіца Хітрыца ў цёмнай нары і не дыхае. «Вось гэта дык звер!..— думае.— Ну і адчайны! Не паспела аглянуцца, а ён ужо — і на спіну, і душыць, і коле. Не, век не буду сама з ім заводзіцца. За вярсту абыду, калі дзе стрэну».

Сядзіць Лісіца, а вылезці баіцца. «Нябось,— думае,—

прытаіўся недзе, чакае. Ды не дачакацца ж табе, хітрун няшчасны: памру, а не вылезу...»

Сядзіць яна так дзень, сядзіць другі. На трэці чуе знаёмы голас:

— Гэй, кумка-галубка, ці жыва-здарова ты? Што гэта не відаць цябе нешта? Я ўжо, прызнацца, засумаваў без цябе...

Зарадавалася Лісіца Воўку Зубастаму і вылезла з нары. Вылезла і расплакалася.

— Што з табою, кумка-галубка? — пытаецца воўк.— Якое такое гора ў цябе?

— Як жа мне не плакаць,— кажа яна,— як не гараваць? Не толькі плакаць, а пайсці хіба ды ў ваду кінуцца. Усё роўна — смерць. Ён жа мяне другі раз жывую не выпусціць.

І яна расказала куму, як ледзь не задушыў яе Вожык. Каб яшчэ чуць-чуць, дык канцы б ёй былі.

Тут Воўк давай рагатаць, давай сосмеху качацца. Смешна яму, каб Вожык Лісіцу задушыў.

— Дарэмна, кум, выскаляешся,— матае галавою Лісіца.— Ён і цябе можа задушыць.

Кажа яна так, а сама сабе і думае: «Вось падбухтору Воўка, пакажа ён таму крываногаму паўзуну... Ужо ад яго і духу не застанецца. Будзе ён ведаць».

— Добра, кумка,— кажа нарэшце Воўк Зубасты,— я за цябе заступлюся.

— Заступіся, кумок, заступіся! — просіцца Лісіца.

— Я яго адным духам разарву! — хваліцца Воўк.

* * *

Сказаў ён так і пабег шукаць Вожыка.

Бяжыць Воўк, бяжыць, аж галлё пад нагамі трашчыць. Зубамі загадзя ляскае, Вожыка смакуе.

Прыбягае да Бярозавай гары. Бачыць — нейкая капіца травы насустрач едзе: без каня і без воза — сама едзе. Разгледзеўся Воўк — аж гэта і ёсць Вожык: начапляў на сябе лісця і вязе ў сваю нару.

— Гэй, Вожык, ты што ж гэта маю куму крыўдзіш?! — завыў Воўк Зубасты і злосна ляснуў зубамі.

— Я... я...— хацеў нешта адказаць Вожык, ды з перапалоху язык заблытаўся.

Воўк быў галодны і не мог больш трываць; ён падскочыў да Вожыка і цапнуў яго ў сваю шырокую ляпу.

Але тут здарылася такое, ад чаго ў Воўка аж іскры пасыпаліся з вачэй. Выплюнуў ён Вожыка ды ходу далей ад бяды. Бяжыць, а за ім услед сцежка ад крыві: вядома, увесь рот скалоў яму Вожык.

Прыбег Воўк да сваёй хаты сярдзіты, сядзіць і крывёю плюецца. Ідзе неўзабаве да яго Мядзведзь. Убачыў ён, што Воўк крывёю плюецца.

— Што гэта,— кажа,— суседзе, з табою: ці не ў зубнога быў?

— Ай, Міхайла Іванавіч,— стогне Воўк,— горш...

І ён расказаў суседу пра сваю бяду: як Вожык калоў яго вострымі іголкамі.

— Хоць ты ў лесе цяпер не жыві, хоць ты тапіцца ідзі...

— Нічога, брат,— суцешыў яго Міхайла Іванавіч.— Я, брат, за цябе заступлюся. Як стрэну яго — заб'ю. Ужо я не дапушчуся, каб ён мяне іголкамі калоў. Лапай як стукну, дык і канцы яму будуць. Бач, які спрытны: іголкамі коле! Пачакай жа, я табе пакажу!

І Міхайла Іванавіч давай тупаць ды гарачыцца. Так разгарачыўся, што гатоў хоць зараз ісці Вожыка біць. Але ўспомніў, што выбраўся рыбу лавіць, бо вельмі прагаладаўся за доўгі дзень.

— Бывай, брат,— развітаўся ён з Воўкам Зубастым,— не турбуйся. Усё будзе, як я сказаў.

* * *

Прыйшоў Міхайла Іванавіч на рэчку, сеў на беражку і заняўся рыбацтвам. Убачыць з берага рыбу, схопіць лапаю ды выкіне за куст. Або засадзіць лапу пад корч ці ў нару і выцягне вусатага рака.

Лавіў ён так, лавіў, а нарэшце парашыў і павячэраць. «Мабыць, шмат ужо рыбкі набралася,— думае.— Ну і наемся ўдосыць!»

І ў Міхайлы Іванавіча загадзя пацяклі слінкі.

Прыйшоў ён за куст, а там — аніводнай рыбкі і ніводнага рака таксама!

«Што за праява,— бурчыць Міхайла Іванавіч,— куды ж падзелася рыба? Ці не скрозь зямлю яна правалілася...»

Бачыць — недалёка Лісіца Хітрыца круціцца.

— Гэй, рыжуха,— злосна гукнуў да яе Міхайла Іванавіч,— як табе не брыдка? Ды я... ды я ж цябе самую зараз праглыну за такія штучкі!

— Што ты, Міхайла Іванавіч! Хіба ж можна, каб я ды тваю рыбку з'ела?..

— А хто ж? — зароў Міхайла Іванавіч.

— Ведаю хто,— шэпча яму здалёк Лісіца,— ды толькі сказаць баюся. Хіба на вушка, каб хаця не пачуў ён. А то не жыць мне тады.

Падышла Лісіца блізка да Міхайлы Іванавіча і шапнула яму на вуха:

— Вожык, каб я так жыла, сама бачыла...

Яшчэ горш усхадзіўся Міхайла Іванавіч, яшчэ больш на Вожыка ўзлаваўся. Аж на месцы не ўстаіць. Так і гараць ад злосці яго кіпцюры.

— Дзе ён, Лісічка, пакажы мне,— просіць Міхайла Іванавіч.

А Лісіцы толькі гэтага і трэба было: Міхайла Іванавіч ужо напэўна за ўсіх Вожыку адпомсціць!

Вожык толькі што вярнуўся з палявання і цяпер соладка драмаў на мяккай пасцелі. Яму сёння добра пашанцавала: ён злавіў дзесятак жаб і мышэй, нарэшце натрапіў на птушыныя яечкі, ды і запіў імі свой багаты абед. Вось чаму зараз ён быў у добрым настроі і, дрэмлючы, думаў пра нядаўнія прыгоды з Лісіцай і Воўкам. Пасля гэтых прыгод ён не на жарты пачаў баяцца жыць на свеце. Але, мяркуючы па ўсім,— не толькі ён, Вожык, збаяўся Лісіцы і Воўка, наадварот,— хутчэй яны збаяліся яго. Бо калі б не так, дык чаго ж паўцякалі ад яго і Лісіца і Воўк, не кажучы ўжо пра Зайку. Гэта апошняе наводзіла Вожыка на думку, што, мабыць, ён і ёсць самы дужы і грозны ў лесе звер. Ад гэтай думкі яму рабілася весела і прыемна. Аднак тут ён успомніў, што жыве яшчэ ў іхнім лесе мядзведзь Міхайла Іванавіч,— не раўня ні Лісіцы, ні Воўку, а пра Зайку ўжо і гаворкі няма. Гэты ўспамін крышку астудзіў геройскі настрой ваяўнічага Вожыка.

Але, як кажуць, пра воўка памоўка, а ён тут. Так было на гэты раз і з Мядзведзем. Толькі Вожык падумаў пра яго, а ён тыц сюды, і не адзін нават.

Як убачыў Вожык Лісіцу з Мядзведзем, дык і скамянеў ад страху. Згарнуў у клубочак свае калючкі і падрыхтаваўся да смерці.

Падышоў Міхайла Іванавіч бліжэй да Вожыка, паглядзеў, паглядзеў, а пасля як зараве на ўвесь лес:

— Ах ты, абжора ненаедны, сам з клапа, а бач колькі рыбы маёй з'еў! Я ж цэлы адвячорак лавіў. І як толькі цябе, абжора, не разарвала!..

Лісіца ж тым часам аж душыцца са смеху: вядома, рыбку-то яна сама з'ела.

Лаяў Міхайла Іванавіч Вожыка, лаяў, а ён хоць бы што. Нават не зварухнецца. Тут Міхайла Іванавіч яшчэ горш усхадзіўся: ён жа ў сваім лесе звер над усімі звярамі, і кожны павінен не толькі слухацца яго, а і дрыжаць перад ім! А Вожык не лічыць патрэбным нават глянуць на яго грозную асобу: паеў усю яго рыбу і не лыс.

Хацеў Міхайла Іванавіч схапіць Вожыка ды разарваць, але ўспомніў горкую воўчую практыку. Тады ён з усяго маху стукнуў яго лапаю. Вожык адкаціўся ўбок і злосна запыхкаў. А Мядзведзь так і заскакаў на трох нагах: уся лапа яго была ўтыкана іголкамі. Заенчыў ён ад болю ды ходу на трох нагах далей ад бяды.

Выцягнуў Вожык галаву з калючак на свет, бачыць: Міхайла Іванавіч дае драла на трох нагах, і Лісіца Хітрыца за ім ледзь паспявае. Тут ён расхрабрыўся ўжо як мае быць:

— Пых! Пых! Трымайце іх, трымайце разбойнікаў!

Мядзведзю здалося, што Вожык даганяе яго. Ён апусціўся на ўсе чатыры лапы і, не зважаючы на боль, так памчаўся, толькі лес трашчыць.

Прыбег Міхайла Іванавіч да Ваўка і Зайкі.

— Ну як, задушыў Вожыка? — пытаецца Воўк.

— Задушыў, задушыў...— перадражніў яго злосны Міхайла Іванавіч.— Бачыш, як ён мяне пакалечыў.— І Мядзведзь выставіў наперад сваю скрываўленую лапу.— Так пекануў,— кажа,— мяне па лапе гэты звяруга, што я ледзь не памёр ад болю. Ах, Зайка, вазьмі абцужкі, павыцягвай з лапы іголкі. Цярпець не магу.

Узяў Зайка абцужкі, павыцягваў з лапы іголкі і перавязаў яе бінтом.

Вось паселі звяры ў рад і пачалі думу думаць, як Вожыка перамагчы. Але што ні прыдумаюць, усё не так. Нарэшце Лісіца і кажа:

— Хадзем хіба да яго гуртам. Быць не можа, каб рады не далі.

Парада Лісіцына была самая разумная, і ўсе ахвотна з ёю згадзіліся.

Выстраіліся звяры адзін за адным і пайшлі. Спераду — Міхайла Іванавіч. За ім — Воўк Зубасты. За Воўкам — Лісіца Хітрыца. А за Лісіцаю — Зайка Шарачок. Ідуць і разважаюць пацiху, як ім Вожыка перамагчы.

Лісіца кажа:

— Лепш за ўсё разарваць яго на кавалкі. Ты, Міхайла Іванавіч, як самы дужы, будзеш цягнуць за галаву, ты, куме Воўк, і ты, Зайка Шарачок, за хвост,— вось у вас і роўная сіла будзе. А я буду каманду падаваць. Як крыкну — раз, два, тры — дзяры! — дык вы і рвіце яго.

Усе зноў згадзіліся з Лісіцынай парадай. І праўда, лепш за яе не прыдумаеш, хоць бы размудрыўся.

Прыйшлі да Бярозавай гары, глядзяць і вачам не вераць: на палянцы пад гарою Вожык душыць страшную атрутную змяю. І гэтак смела распраўляецца з ёю... Зайка тут жа і самлеў ад страху. Лісіцу з перапалоху схапіў жывот. У Воўка Зубастага забарабанілі зубы. Нават у Міхайлы Іванавіча закалаціліся паджылкі.

— Не,— кажа Міхайла Іванавіч,— з такім зверам жарты кароткія. Ён нават атрутнай змяі не баіцца, не то што нас.

Завярнуўся ён ды наўцёкі, а за ім і яго сябры.

З таго часу ўсе яны баяцца Вожыка і не чапаюць яго. Толькі адна Лісіца Хітрыца прыдумала спосаб, каб Вожыка перамагчы, але нікому пра яго не сказала. Ды і самой ёй не заўсёды гэты спосаб удаецца.

# БРАТЫ ЛАЗОЎСКІЯ

Чаго толькі не было на вышках старой клеці, куды гаспадары выкідалі розныя непатрэбныя спажыткі!

Шмат ужо гадоў тут адлежвала бакі дубовая ступа з таўкачамі; па суседству каля яе валяліся жорны; на жорнах прымасцілася прасніца з калаўротам; крыху ў баку ад іх стаяла на сваіх тоўстых нагах кляновая церніца...

А пад самаю страхою на ржавым цвіку віселі два лапці — два родныя браты-блізняты. Аднаго брата звалі Праўшун, другога — Ляўшун.

Праўшун быў крыху старэйшы за Леўшуна — яго спляліпершым, і таму ён лічыў сябе больш сталым і больш мудрым у жыццёвых справах. Але, нягледзячы на гэта, жылі браты ў добрай згодзе і мелі адно гучнае прозвішча — Лазоўскія, якім нямала ганарыліся.

Нягоднік-павук наставіў на братах Лазоўскіх безліч густых сетак і займаўся тут паляваннем на мух, якія сядытады заляталі на вышкі.

Нельга сказаць, каб братам Лазоўскім гэта вельмі падабалася, ды што зробіш. Прыходзілася цярпець.

Колькі часу яны цярпелі, ніхто з іх ужо і не памятае. Але вось аднаго разу, калі на вышкі заглянуў вясёлы прамень сонца, Ляўшун раптам пацягнуўся, адкашляўся ад пылу і загаварыў:

— Братка Праўшун, ты яшчэ жывы?

— Жывы,— слабым голасам адказаў старэйшы брат і таксама пацягнуўся, ды так, што аж хруснулі ўсе яго перасушаныя вушкі.

— І дакуль нам тут вісець, на гэтым іржавым цвіку? — паскардзіўся Ляўшун брату.— Дзе наш гаспадар? Чаму ён не ідзе па нас?

Праўшун змахнуў з сябе густую павучыную сетку, азірнуўся навакол і прастагнаў:

— Не ведаю, братка... Забыўся, відаць, што мы на свеце жывём. А мы ж яшчэ і не такія стаптаныя лапці, каб дажываць свой век у пыле ды павуцінні... Эх!..— цяжка ўздыхнуў ён.— А памятаеш; як мы некалі ў маладосці красаваліся!

— Дзіва што памятаю! — захваляваўся Ляўшун ад прыемных успамінаў.— Гаспадар, бывала, ніколі з намі не разлучаўся. Мы ж з ім не толькі гора гаравалі, а і на ігрышчах «казака» скакалі...

— А полькі, а кадрылі! Забыўся?

— Ну, каб я ды забыўся!

— А і праўда,— згадзіўся Праўшун.— Ты ж асабліва любіў гэтыя ігрышчы! Мне, старэйшаму, не так яны ў галаве былі. Бывала, натупаешся за дзень і ўжо на печ цягне. А табе хоць бы што!.. Адзін толькі раз гаспадар здрадзіў нам...

— Гэта як жаніўся?.. Памятаю. Мы тады на яго моцна пакрыўдзіліся. Гэта ж падумаць — паехаў да вянца з Марыляй, а нас не ўзяў. Пазычыў боты ў багатага засцянкоўца. А потым мы тры дні хадзілі з ім адрабляць за тыя боты. І што цяпер сталася з нашым гаспадаром? Ці жывы хоць ён?

Праўшун падумаў крыху. Парыпаў сухімі вушкамі і даў разумную параду:

— А ведаеш, братка, ці не пайсці нам пашукаць яго?

— Хадзем! — ахвотна згадзіўся Ляўшун.— Эх, як хочацца яшчэ хоць раз тупнуць на ігрышчы!

Сказаўшы гэта, ён гарэзна штурхнуў брата ў бок, саскочыў з іржавага цвіка на памост і, танцуючы, заспяваў песеньку, якую некалі не раз чуў на вечарынках і якая яму вельмі падабалася:

Без музыкі, без дуды
Ходзяць ногі не туды;
А як дудку пачуюць,
Самі ногі танцуюць...

Убачыўшы, як малодшы брат па-заліхвацку адбіваў на памосце полечку, Праўшун таксама не ўцярпеў, саскочыў уніз і пайшоў кружыцца, прыпяваючы:

Іграй, іграй, ігрячу,
А я табе заплачу:
Сваю хату прадам,
Табе плату аддам!
Ух, ух, не магу,
Пацягніце за нагу!

Скакалі, скакалі браты Лазоўскія і даскакалі да краю вышак. А там стаялі драбіны. Убачылі яны драбіны і закрычалі ў адзін голас:

— Пойдзем гаспадара шукаць!

Спусціліся па драбінах, знайшлі знаёмыя дзверцы ды выбеглі на двор.

На дварэ свяціла такое яснае летняе сонейка, што браты адразу аж зажмурыліся: вельмі ж ужо светла было тут пасля цёмных вышак! Потым, крыху асвойтаўшыся, расплюшчылі вочы і пачалі азірацца (добра, што гаспадар сплёў іх некалі не сляпымі лапцямі, а відушчымі).

Каля будкі, побач з клеццю, ляжаў на ланцугу незнаёмы калматы сабака. Ён ляніва ляскаў зубамі, ловячы мух.

Браты Лазоўскія шустра адбегліся ад будкі: яны ўспомнілі, што некалі незнаёмыя сабакі часта хапалі іх за пяты...

Пры вуліцы стаяў новы прыгожы дом, ашаляваны тонкімі сасновымі дошкамі.

Браты загледзеліся на дом. Глядзелі і так і гэтак, падыходзілі бліжэй і адыходзілі далей. Нарэшце Праўшун спыніўся і, сумна ківаючы галавою, сказаў:

— Не, братка, не наша гэта хатка...

— Але,— згадзіўся Ляўшун.— Я ж добра памятаю нашу хатку: старэнькая, нізенькая, акенца — у адну шыбку, страха не ў прызбу ўпіралася: страха саламяная, замшэлая, а на мху ў скрынках раслі нейкія зялёныя ягады,— іх, здаецца, скочкамі звалі.

— Праўда,— сказаў старэйшы брат,— ты не забыўся: на страсе раслі скочкі. Бабка Акуліна яшчэ лячылася гэтымі ягадамі. Памятаеш старую Акуліну — матку нашага гаспадара?

— Дзіва што! Мы ж разам з ёю часценька на печы грэліся. Хоць больш правільна сказаць — яна грэлася, а мы сушыліся пасля работы.

Праўшун зноў адышоўся ўбок і зноў пачаў разглядаць незнаёмы дом. Па канцах страхі тарчалі дзве высокія жэрдкі, а паміж імі блішчаў нацягнуты медны дрот.

— Ці не папоўскі гэта дом? — сказаў Праўшун да брата.— Ён на такім жа высокім фундаменце стаяў, з такімі ж вялікімі светлымі вокнамі, і страха яго, як і гэтая, была пакрыта гонтамі. Толькі жэрдак на страсе не было...

У гэты час з дома пачулася знаёмая братам песня «Выйду я на рэчаньку».

Ляўшун прыслухаўся.

— Так і ёсць! — усклікнуў ён.— Гэта папоўскі дом! У сяле ж ні ў кога больш грамафонаў не было!

І, забыўшыся на ўсё, Ляўшун звонка падхапіў:

Выйду я на рэчаньку,
Пагляджу па быструю...

Але Праўшун спыніў яго:

— Сціхні ты! Мы ж не на сваім двары... Уцякайма лепш, пакуль паповы парабкі нас тут сабакамі не зацкавалі...

Ён падхапіў брата, і яны жвава паскакалі за вароты. На вуліцы, апроч малых, нікога не было. Але дзеці займаліся сваімі справамі і не звярталі ўвагі на братоў Лазоўскіх. Тым больш што ішлі яны цішком, па вузкай сцежцы між агародчыкамі і тратуарам, каля якога стаялі драўляныя слупы з нацягнутымі на іх у некалькі радоў дратамі.

Праўшун першы заўважыў слупы і тратуар.

— Цікава,— шапнуў ён брату,— некалі я такія дошкі на вуліцы бачыў толькі ў мястэчку...

— Значыць, мы трапілі ў мястэчка! — здзівіўся Ляўшун.— Якім жа чынам?

— Але ж у мястэчку не было такіх слупоў з дратамі,— адказаў брат.— Значыць, гэта не мястэчка...

— Ці не перабраўся наш гаспадар куды ў горад? — пачаў хвалявацца нецярплівы Ляўшун.

— Куды яму перабірацца! — супакоіў яго Праўшун.— Ты ж памятаеш, як раней гаварылі людзі: беднаму ўсюды адно ліха. А гаспадар наш быў бедным чалавекам. Каб не бульба ды не мякіна — не выжыць бы яму. Я, брат, ведаю — горкі быў яго хлеб.

Так ішлі сабе браты Лазоўскія, гутарачы паціху паміж сабою. І раптам убачылі дом, якога нават і ў пана некалі не было... Новы, двухпавярховы, з чарапічным дахам; ганак з высокімі каменнымі слупамі... І ўвесь аж свеціцца на сонцы. На сцяне, каля ганка, цёмная шыльда блішчыць, і на ёй чырвонымі літарамі напісана: «Сярэдняя школа».

Браты аж ахнулі ад здзіўлення.

— Вось гэта дык дом! — усклікнуў Ляўшун.— Відаць, нейкі багаты пан сюды перабраўся... Прачытай, братка, што там напісана.

Праўшун пацiснуў плячыма:

— Ці ж ты не ведаеш, што я непісьменны? Гаспадар жа наш граматы не ведаў. Бывала, калі ўжо вельмі трэба было дзе-небудзь распісацца, ставіў на паперы крыжык... Школы ж у нас не было!

Падзівіліся браты на прыгожы дом і рушылі далей, моцна ўражаныя.

Дайшлі да канца вуліцы.

— Не відаць нашай хаты,— з жалем сказаў спахмурнелы Ляўшун.— Што будзем рабіць?

— Пачакай,— перапыніў яго Праўшун, углядаючыся ў бок рэчкі.— А там што за будыніна?

Ляўшун таксама паглядзеў у той бок.

— Ці не панская абора? — адказаў ён.— Хадзем, можа, там дзе наш гаспадар за парабка служыць?

Звярнулі браты з вуліцы і падаліся выганам да рэчкі. Падышлі да загароды. Бачаць — выходзіць з будыніны чарада цялят, а за імі — жанчына ў белым як снег халаце...

— Нічога не разумею,— паціснуў плячыма Праўшун.— Цётка-доктар гоніць цялят пасвіць... Ці не схавацца нам дзе, браце? А то гэтая цётка-доктар яшчэ і нас зойме ды разам з цялятамі пагоніць. Яна ж, відаць, у пастухоўскіх справах не вельмі кумекае: ёй усё роўна, што мы, што цяляты...

Адбегліся браты Лазоўскія ад загароды, прытаіліся ў кустах. Пачалі раіцца, што рабіць далей.

Праўшун кажа:

— Можа, наш гаспадар дзе ў полі працуе — арэ ці барануе? Палоска яго, памятаеш, каля барка была. Пойдзем туды.

Браты подбегам памчаліся ў поле. Мінулі выган і апынуліся перад шырокаю сцяною жыта. Жыта было такое густое, што браты ніяк не маглі праз яго прабрацца, каб трапіць да знаёмага барка.

— Трэба мяжу шукаць,— параіў мудры Праўшун.

Пайшлі ўскрай сцяны шукаць мяжу. Шукалі, шукалі — нідзе ніводнай мяжы няма!

— Дзіва, дый годзе! — кажа Праўшун.— Куды гэта мы трапілі? Бывала, на гэтым полі крок-другі ступіш — і мяжа! Ды яшчэ якая: з палыном, з быльнягом, проста гай, а не мяжа! А колькі сварак ды боек бачылі мы на тых межах! Аж успомніць страшна. Памятаеш, аднойчы наш гаспадар прыараў быў крышку мяжы — на вяршок ці два,— а сусед заўважыў... Ой, што тады рабілася! Я думаў, яны пазабіваюцца...

— Так бы яно і было, каб людзі не разбаранілі,— дадаў Ляўшун.

Траха не да канца жытняй сцяны дайшлі браты, а мяжы ўсё не было.

Аж раптам чуюць — недалёка за жытам гудзе штосьці. Быццам вадзяны млын шуміць.

Падышлі бліжэй, глядзяць — паўзе па полі нейкая дзіўная жывёліна з трубою на галаве. Ногі жывёліны, як змеі, звіваюцца. З трубы дымок пыхкае,— відаць, жывёліна люльку курыць. А ззаду за ёю пяць плугоў бягуць, зямлюаруць. Шырокія скібы так і валяцца цераз лемяшы.

Плугі браты Лазоўскія адразу пазналі: нямала яны некалі пахадзілі за плугам з гаспадаром. Але ж там быў не плуг, а плужок, і цягнуў яго конь, а гэтыя самі за дзіўнай жывёлінай бягуць!

Братоў ахапіў жах.

— Пра такія дзівосы бабка Акуліна нават і ў казках не расказвала,— заікаючыся, прамовіў старэйшы брат.— А ўжо яна-то ўмела казкі казаць! Памятаеш, пра Свінку — залатую шчацінку, якая лычам арэ, нагамі баранue... Але ж тое было ў зачараванай краіне!

— І тая свінка была з адным лычам,— адказаў Ляўшун, калоцячыся ад страху.— А тут — цэлых пяць!

І браты Лазоўскія кінуліся наўцёкі з зачараванага поля куды вочы глядзяць.

Доўга яны беглі ці коратка, нарэшце змарыліся і пападалі на зямлю.

Паляжалі крыху ды пачалі аглядацца, куды яны трапілі. Бачаць — побач дарога ідзе, а ў канцы дарогі знаёмы барок зелянее.

— Ну, цяпер мы знойдзем гаспадара! — узрадаваліся браты.

Усхапіліся і, павесялелыя, рушылі палявой дарогай да зялёнага барка.

А ў полі так хораша! З аднаго боку дарогі бульба розным цветам цвіце, а з другога — кукуруза, як гай, расце.

Бульбу браты Лазоўскія добра ведалі. Ляўшун нават не ўтрымаўся і заспяваў:

Гарні, гарні бульбу з печы
У торбачку ды на плечы...
З бульбы булён, з бульбы каша;
Прападзі ты, доля наша!

Праўшун падхапіў:

Адзін лапаць, другі бот,
А я шляхціц, далібог!

А на кукурузу браты доўга ўглядаліся, а потым нават заспрачаліся:

— Гэта чарот! — даводзіў Ляўшун.

— Чарот на полі не расце! — не згаджаўся Праўшун.— Гэта аер такі!

— Дык жа і аер на полі не расце! Гэта чарот,— кажу табе!

Доўга яны спрачаліся ці не, аж раптам бачаць — імчыць па дарозе чорная, як жук, павозка. Ды так смаліць, што аж пыл курыць. Нават колаў не згледзіш. І ніхто яе не вязе — сама едзе.

Браты ледзьве паспелі саскочыць з дарогі ў канаву. Зашыліся ў траву і не дыхаюць.

Жывая павозка прашумела каля іх і спынілася.

— Ну,— кажа Ляўшун,— папаліся мы, як мышы ў пастку...

— Маўчы,— адказаў брат,— можа, нас не ўбачаць...

Тым часам у павозцы адчыніліся дзверцы, і з іх паказаліся нечыя ногі ў новых хромавых ботах. Услед за нагамі, згінаючыся, вылез пажылы мужчына ў светлым шарсцяным гарнітуры.

Мужчына падышоў да кукурузы, выняў з кішэні круглую каробачку, пакруціў яе, і раптам адтуль выбегла тонкая бліскучая палоска. Гэтай палоскай мужчына пачаў мераць сцябло кукурузы.

Неўзабаве з другога боку павозкі выйшаў яшчэ адзін мужчына, маладзейшы, у чорным гарнітуры і ў чаравіках.

— Ну як, таварыш старшыня,— гукнуў ён да першага,— расце?

Пажылы мужчына павярнуўся і з добрай усмешкай адказаў:

— Расце! Пара ўжо на сілас касіць. Прыйдзецца пасля выхаднога камбайн пускаць. Эх, і насіласуем жа мы сёлета кукурузных кармоў! На ўсе фермы хопіць.

Пачуўшы гаворку пажылога мужчыны, Ляўшун аж скалануўся:

— Ды гэта ж голас нашага гаспадара! — збянтэжана зашаптаў ён да брата.— Сам змяніўся — не пазнаць, а голас — яго! Толькі гаворыць нешта незразумелае: сілас, камбайн, кукурузныя кармы, фермы... Ніколі не чуў такіх слоў!

— Але,— адказаў Праўшун,— гэта ён!

— Дык бяжым да яго!

І ўзрадаваны Ляўшун ірвануўся з канавы. Але брат схапіў яго за пяту, пацягнуў назад:

— Чакай!

— Чаго чакаць? — затрапятаўся Ляўшун.— Гэта ж наш гаспадар!

— Наш-то наш,— адказаў Праўшун,— ды паглядзі, у чым ён цяпер ходзіць!

— Дык гэта ж ён, напэўна, пазычыў у каго-небудзь боты, як і ў той раз?

— Наўрад,— уздыхнуў Праўшун.— Тут нешта, бачу я, усё не так робіцца: багатыя паны ў вёсках камяніцы будуюць, дактары цялят даглядаюць, па полі дзіўныя жывёліны разгульваюць, плугі самі зямлю аруць, павозкі без коней па дарогах бегаюць... А гаспадар наш Янка ў хромавых ботах ходзіць, нейкія новыя словы гаворыць. Ды і завецца ён ужо не Янка, а таварыш старшыня! Не, гэтага нават і маёй галаве не зразумець...

Заплакалі браты Лазоўскія з гора ды патупалі памаленьку назад, на свае вышкі — дажываць веку.

# ЛЯНОТА

## I

Жыў на свеце хлопчык Алік. Не вялікі і не маленькі. Так сабе, сярэдненькі. З кірпатым носікам, абсыпаным рабаціннем, з упартым чубам, які не хацеў прычэсвацца, са смяшынкамі ў хітрых вачах.

Любіў той хлопчык ездзіць на трамваях і аўтобусах — з білетам і без білета... Любіў кіно — добрае і дрэннае. Любіў цукеркі і марожанае. Любіў свае самаробныя шаблі, кінжалы і пісталеты.

Вось, здаецца, і ўсё, што ён любіў.

А чаго не любіў? Усяго іншага. Нават памыцца і прычасацца як след ленаваўся. Так нямытым ды лахматым і хадзіў у свой чацвёрты «Б» клас.

Маці і крычала на яго, і грэзіла, і прасіла:

— Сядзь ты, Алік, за кніжку. У цябе ж адны двойкі ды тройкі.

— Ат, не хочацца.

— Падмяці, Алік, пакой. Глядзі вунь, як насмяціў, майструючы свае пісталеты.

— Ат, не хочацца.

— Схадзі, Алік, у магазін па хлеб.

— Ат, не хочацца.

— Ах ты, лянота мая горкая! — уздыхала маці і сама падмятала пакой, хадзіла па хлеб і рабіла ўсё, што трэба рабіць дома.

Настаўніца Аліка дакарала, кожны дзень пра яго ў дзённіку скаргі пісала. Важатая на зборах атрада сарамаціла. А яму хоць бы што. Толькі большая злосць на ўсіх разбірала.

Аднойчы Алік позна варочаўся дахаты — загуляўся з сябрамі ў вайну. Чуе — нехта енчыць у цёмным закутку двара.

Алік спыніўся.

— Хто там? — пытаецца.

— Я — Лянота,— пачуўся тонкі пісклявы галасок.

— А што ты тут робіш?

— Нічога. Мяне выкінулі.

— Хто?

— Валерка з дзесятай школы. Не хоча больш дружыць са мною. Вазьмі ты мяне.

— А дзе я цябе падзену? Маці мне не дазваляе цягаць у кватэру рознае ламачча.

— Я — не ламачча! — пакрыўдзілася Лянота.— Я табе памагаць буду.

— Якая ад цябе помач?

— А якую хочаш?

— Вучыцца за мяне будзеш?

— Не. Вучыцца не хачу. Я — Лянота.

— Пасцелі засцілаць, пакой падмятаць?

— Не,— запішчала Лянота.— Я не люблю ніякай работы.

Усміхнуўся Алік і кажа:

— Выходзіць, ты — мая сястра. Мама мяне таксама лянотай заве.

— Але ж, твая сястра,— падхапіла сапраўдная Лянота.— Толькі я — не простая сястра, а — чароўная! Не пакідай мяне ў бядзе, брат мой! Я буду дружыць з табою. На ўсіх тваіх ворагаў дрымоту ды ляноту наганяць буду.

— О, гэта добра! — згадзіўся Алік.— А дзе ж я цябе трымаць буду?

— Дзе хочаш. Я — маленькая. Шмат месца не займу. Пасадзі мяне ў якую-небудзь скрыначку, хоць у пенал, і я там буду жыць. Карміць і паіць мяне не трэба. А калі табе спатрэбіцца мая дапамога, вазьмі скрыначку ў рукі і скажы: «Лянота, Лянота, нагані на таго і таго дрымоту». І ўсё будзе зроблена. Толькі, глядзі, не адкрывай скрыначкі: я не люблю святла.

Схапіў узрадаваны Алік сваю новую сяброўку, прынёс дахаты і сунуў у пенал.

## II

Назаўтра Алік зарабіў чарговую двойку па мове. На пераменцы сябры напалі на яго:

— Дакуль гэта будзе, Алік? Ты ганьбіш нас!

Узлаваўся Алік на сяброў. Узяў з партфеля пенал, зайшоў у цёмны куток калідора ды прашаптаў:

— Лянота, Лянота, нагані на чацвёрты «Б» клас дрымоту.

— Добра. Будзе зроблена, як ты пажадаў,— прапішчаў знаёмы галасок з пенала.

Празвінеў званок.

Алік вярнуўся ў клас. Бачыць — усе яго сябры сядзяць за партамі і пазяхаюць. Ды так, што аж сківіцы трашчаць. А іншыя ўжо спяць.

Алік сеў за сваю парту і цікуе, што будзе далей.

У клас увайшла настаўніца Ганна Іванаўна.

— Што гэта? — здзівілася яна.— Чаму вы пазяхаеце?

— Спаць хочацца,— адказалі тыя, хто яшчэ не заснуў.

— А што ж вы ўночы рабілі?

— Спалі...

Пакуль настаўніца распытвалася, заснулі і ўсе астатнія вучні чацвёртага «Б» класа.

Настаўніца прысела за сталом, дастала класны журнал.

Але тут на яе напала такая дрымота, што яна адразу асунулася на спінку крэсла і соладка захрапла.

Алік узрадаваўся: «Малайчына Лянота! Цяпер урока не будзе і новай двойкі я не зараблю». Ён дастаў з партфеля кніжку «Прыгоды Мюнхгаўзена», усміхнуўся сам сабе і пачаў чытаць.

Кончыўся ўрок. На калідоры зазвінеў званок. І клас заварушыўся.

Першай прачнулася настаўніца Ганна Іванаўна. «Ай-яй,— спалохалася яна.— Гэта ж, мусіць, я незнарок задрамала на ўроку». І, моцна засаромеўшыся, выйшла з класа.

Услед за ёю пабеглі і вучні.

## III

Прыйшоў Алік дадому. Маці глянула ў дзённік і ахнула:

— Зноў двойка!

І давай крычаць на Аліка:

— Гультаіна ты! Абібок! Вось скажу бацьку — няхай зніме на цябе папругу.

Пад вечар бацька вярнуўся з работы. Маці сказала яму пра новую Алікаву двойку.

— Хоць бы раз ты насварыўся на яго, стары! — крычала маці.— Што ў цябе, папругі няма?

Бацька быў у той дзень невясёлы — нешта не ладзілася

ў яго на рабоце. І ён сапраўды зняў папругу ды злёгку хвасянуў Аліка ніжэй спіны.

Алік заенчыў на ўвесь дом.

— Глядзі ў мяне! — сказаў бацька.— Калі яшчэ раз прынясеш двойку, то зароблш не такой папругі.

Крыўда агарнула Аліка — свет няміл яму зрабіўся. Дастаў ён цішком пенал з партфеля і паклікаў сваю сяброўку:

— Лянота, Лянота!

— Што з табою, братка? — азваўся голас Ляноты.— Ты, здаецца, плачаш?

— Ага,— адказаў Алік, выціраючы кулаком вочы.

— Чаго ж ты, братка, плачаш? Чаму горкія слёзы ліеш?

— Як жа мне не плакаць? Як горкіх слёз не ліць? Усе на мяне крычаць, усе крыўдзяць. Увесь свет супроць мяне выступіў.

— Добра,— сказала Лянота.— З гэтай мінуты ты будзеш жыць спакойна: свет цябе крыўдзіць не будзе.

Толькі сказала так Лянота, як тут жа ў кватэры патухла святло.

Алік пачакаў крыху — думаў, бацька паправіць пробкі. Ды бацька чамусьці сядзіць у крэсле і не варушыцца. Маці таксама дрэмле на другім крэсле са швом у руках.

Алік выйшаў на двор. Хацеў з сябрамі пагуляць. Ды на цёмным двары нікога нідзе не відаць.

Куды ж падзеліся яго сябры? Алік, вядома, не думаў, што Лянота іх пакарала разам з усім светам.

Выйшаў Алік на вуліцу. А там — адна цемень. Ні людзей, ні машын. Дзіва!

Вярнуўся Алік дадому. Знайшоў агарак свечкі. Запаліў. Успомніў, што даўно ўжо есці хочацца. Адчыніў буфет. А ў ім — хлеба ні крошкі. Толькі масла ляжыць у сподачку. Паспрабаваў — нясмачнае масла без хлеба!

«Можа, схадзіць у магазін?» — падумаў галодны Алік. Падышоў да крэсла, на якім драмала маці.

— Мама, дай грошы. Я па хлеб збегаю.

Маці толькі прамармытала нешта і зноў заснула. Алік яшчэ раз пабудзіў яе.

— Ат,— пакруціла галавою маці,— адчапіся. Мне не хочацца ўставаць, шукаць сумку.

Будзіць бацьку Алік не адважыўся, каб зноў папругі не зарабіць. Знайшоў сам матчыну сумку, а ў ёй — не-

калькі медзякоў. Пералічыў: хопіць па малы батон, яшчэ і застанецца! Апрануўся і кулём кінуўся на двор.

Прыбег у магазін, глядзіць — замок на дзвярах...

«Што за ліха? — падумаў Алік.— Цяпер не больш васьмі. Гэты ж магазін зачыняецца ў адзінаццаць. Ну, што ж. Трэба садзіцца на тралейбус ды ехаць на другую вуліцу. Можа, там магазін яшчэ не зачынены.

Алік выбег на тралейбусны прыпынак. Пастаяў хвілін дзесяць — ніводзін тралейбус не паказаўся.

Тут толькі Алік успомніў, што на вуліцы няма святла. А калі няма святла, то не пойдзе і тралейбус. Прыйшлося цягнуцца пехатою ў другі хлебны магазін. Дайшоў сяк-так па цёмнай бязлюднай вуліцы. Глядзіць — і гэты зачынены. Алік кінуўся ў трэці. І трэці — зачынены. Хадзіў, хадзіў цэлы вечар ды ні з чым і дадому вярнуўся. Змарыўся так, што і на голад забыўся. Зваліўся на ложак, як сноп, ды моцна заснуў.

## IV

Спаў Алік доўга. Ніхто яго не будзіў. А калі прачнуўся ды глянуў на гадзіннік, дык аж за галаву хапіўся: цэлую лішнюю гадзіну праспаў!

Выбег Алік на кухню, бачыць — там маці сядзіць з бульбінай у руках і дрэмле.

— Ты чаму мяне не пабудзіла? — напаў на яе Алік.— Праз цябе я ў школу спазніўся!

— Я хацела цябе пабудзіць,— адказала маці.— Але такая на мяне лянота напала, што я нават устаць з табурэткі не магу. Пачала бульбу чысціць, дык яна ў мяне з рук валіцца.

— Ай-яй-яй! — замітусіўся Алік.— Будзе мне ад Ганны Іванаўны. Напішы хіба запіску, што ў мяне жывот балеў...

Алік прынёс маме кавалак паперы і карандаш. Маці ўзяла паперу, але яна тут жа выпала ў яе з рук.

— Што ты — бязрукая? — са злосцю сказаў Алік.

Ён падняў паперу і зноў падаў маме. Але на гэты раз маці нават рукамі не паварушыла.

— Не магу пісаць,— прагаварыла яна лянівым голасам.

— Чаму?

— Не хочацца. Нічога не хочацца рабіць.

— А снеданне ты таксама не згатавала?

— Не.

— Што ж мне есці?

— Не ведаю. Хлеба няма. Бульбы насмажыць не магу. Смаж сам, калі хочаш.

Алік за ўсё сваё жыццё не ачысціў яшчэ ніводнай бульбіны. Не ўзяў бы ён у рукі нажа і цяпер, каб не голад. Але толькі пачаў чысціць бульбу, як востры нож — шах! — і парэзаў яму палец. Алік страшэнна баяўся крыві. І ён так зароў, што маці аж вочы адплюшчыла. Паглядзела на парэзаны Алікаў палец, паківала галавою ды зноў задрамала.

— Не буду чысціць гэтай праклятай бульбы! Лепш не еўшы пайду ў школу,— раскрычаўся Алік, завязваючы бінтам палец.

Сабраўся ён і без запіскі пабег у школу.

На школьным двары нікога не было. У калідоры — таксама. Адчыніў Алік свой чацвёрты «Б» клас — і там ні жывой душы. «Відаць, урокі скончыліся, ці што? — падумаў Алік.— А дзе ж тады другая змена?»

Пахадзіў ён па пустых вуліцах і зноў вярнуўся дадому. Бачыць — маці, як і раней, дрэмле на табурэтцы. Бацька сядзіць у сталовай з газетай у руках, хоць відаць было, што ён зусім яе не чытае, а толькі сяды-тады маргае соннымі вачамі. «Чаму бацька на работу не пайшоў? — падумаў здзіўлены Алік.— Сёння ж не выхадны».

Сумна стала Аліку. Ні есці няма чаго, ні пагуляць няма з кім. Пайшоў ён зноў у магазіны хлеба шукаць. Хадзіў, хадзіў, а яны ўсе зачынены. Трамваі і тралейбусы стаяць. Людзей і машын нідзе не відаць.

Тым часам і вечар настаў. У галаву Алікаву розныя невясёлыя думкі прыйшлі. Што сталася з бацькамі? Чаму яны не могуць нават з месца скрануцца? Чаму апусцела школа? Дзе падзеліся сябры? Чаму замёр увесь горад?

І Алік так засумаваў, што аж заплакаў.

## V

Можа б, Алік плакаў і да гэтага часу, каб не ўспомніў пра сваю сястрыцу Ляноту. Заняты розным іншым клопатам, ён пра яе зусім забыўся.

«Ці не дапаможа яна мне?» — падумаў Алік.
Выняў ён з партфеля пенал і паклікаў:
— Лянота, Лянота!
— Чаго хочаш ад мяне, брат мой?
— Ці не ведаеш ты, чаму не займалася сёння школа?
— Ведаю. Ты сам так захацеў.
— Як гэта я? Што ты вярзеш глупства? — узлаваўся Алік.
— Ніякае не глупства! — пакрыўдзілася Лянота.— Скардзіўся ж ты мне на ўвесь свет?
— Ага,— успомніў Алік,— скардзіўся.
— А што такое свет?
— Свет...— Алік запнуўся.— Ну, гэта так гаворыцца. Прыказка такая: яму свету мала. Або: свет няміл... А бацькі мае, а школа — хіба гэта свет?
— Вядома, свет! — цвёрда сказала Лянота.— Усё свет! Нават магазіны і машыны. Я так думаю.
Алік пачаў здагадвацца, што здарылася няшчасце: дурная Лянота не зразумела яго і напусціла дрымоту на ўвесь свет.
— Што ж цяпер будзе? — напалохаўся Алік.
— Нічога!
— Як гэта нічога?
— А так,— адказала Лянота.— Мне падабаецца, што ўвесь свет нічога не робіць.
— Табе падабаецца. А мне што рабіць?
— Спі, гуляй.
— А есці мне трэба ці не?
— Еш, хто табе не дае.
— Што есці? — горка ўсміхнуўся галодны Алік.— Ні снедання, ні абеду маці не наварыла. Сам я гатаваць не ўмею. Магазіны зачынены. Зрабі, Лянота, так, каб усё зноў было, як раней. Я не хачу караць ні бацькоў, ні свету.
— Ха-ха-ха! — зарагатала Лянота.— Калі я зніму са свету чары, то мне сумна будзе жыць. Зараз — усе мае сябры. А тады нават ты ад мяне адрачэшся. Ці ж няпраўда?
— Вядома, адракуся. Цяпер я бачу, што дарэмна тваім сябрам стаў,— пакаяўся Алік.
— Ну вось. А ты хочаш, каб я чары зняла. Не, даражэнькі, такога глупства я не зраблю.
— Дык я прымушу цябе! — ускрыкнуў Алік.
— Паспрабуй!
Алік успомніў, як скавытала Лянота ў пустым закут-

ку іх дома. Відаць, ёй там не соладка жылося. «Выкіну яе зноў туды,— рашыў Алік.— Нябось, паваляецца пад плотам, дык памякчэе». І ён, доўга не думаючы, занёс Ляноту ў закутак ды шпурнуў пад плот.

І толькі ён зрабіў гэта, як бачыць — усе вокны іхняга дома засвяціліся. На вуліцах зашумелі машыны.

## VI

Убег Алік у сваю кватэру, бачыць — у пакоях святло гарыць, маці на кухні бульбу чысціць. Дрымоты ў яе як і не было.

— Дзе ты гуляеш? — пытаецца яна ў Аліка.— Ты ж, мусіць, есці хочаш?

— Ага,— адказаў Алік, глытаючы сліну.

— Пачакай, скора бульбянога супу навару.

— А я,— сказаў Алік,— па хлеб збегаю.

Бацька прачыніў дзверы са сталовай, сказаў да Аліка:

— Купі там у кіёску мне свежую газету.

— Добра,— адказаў Алік і бягом кінуўся ў хлебны магазін.

Бацька ўсміхнуўся.

— Нешта з Алікам сёння сталася. Сам ахвотна па хлеб пабег.

— Расце хлопец,— сказала маці,— разумнее.

— І праўда,— згадзіўся бацька.— Але нешта мне вельмі ж есці захацелася. Давай памагу бульбу чысціць.

Пакуль Алік вярнуўся з хлебам, на газавай пліце ўжо булькатала немаленькая каструля свежага бульбянога супу, а ў алюмініевай патэльні з шумам смажылася цыбуля на масле. Ад яе ішоў такі пах, што Алік ледзь не расчыхаўся.

— Давай, мама,— сказаў ён,— памагу пасуду мыць, стол накрываць. Скарэй будзе.

— Добра, сынок. Памагай.

І яны ўдваіх пачалі рыхтавацца да вячэры.

А пра сваю сястрыцу Ляноту Алік так і не сказаў бацькам ні слова.

## БАЙКА ПРА КАЗЛА

У бабулькі у Агаты
Жыў стары казёл рагаты,

Гэткі сівенькі,
Сівагрывенькі.

І разумны ж быў:
Сам ваду насіў,

Сам у печы паліў,
Сам і кашу варыў,
Бабу з дзедам карміў,

Барадой матаў —
Хату падмятаў.

Шмат казёл рабіў і шкоды —
Лазіў часта ў агароды,

Пасвіўся у полі —
У аўсе найболей.

А за полем быў лясок,—
Ён відаць казлу здалёк.

Вось казёл у лес ідзе:
— Што там смачнае расце?

Можа, у лесе густа
Вырасла капуста?

Ходзіць ён па ельніку,
Бродзіць па бярэзніку,—

Ні капусты, ні салаты
Не знаходзіць барадаты.

Раптам нехта штурх у бок:
— А, папаўся, галубок!

Я даўно цябе чакаю,
Ўсё на поле паглядаю...

Тупнуў наш казёл нагой:
— Хто ты, гэтакі герой?
Будзем дужацца з табой!

— Няма часу! — кажа воўк
І схапіў казла за бок.

— Бэ-э,— казёл тут забляяў
І, як сноп, на мох упаў...

Баба палку узяла
Ды пайшла шукаць казла.

Пахадзіла па палях,
Па балотах, па лугах,

Заглянула і ў лясок.
Бачыць: спіць пад елкай воўк.

— Гэй,— спытала у ваўка,—
Ці не бачыў казялка?

Прахапіўся сонны воўк:
— А які твой казялок?

— Козлік сівенькі,
Сівагрывенькі,

Барадаценькі
Ды рагаценькі...

Шэры воўк зарагатаў:
— Як жа, як жа — спатыкаў:

Ля дарогі
Бачыў рогі,

Ля маста —
Шматок хваста...

Баба ўголас: — О-ё-ёй!
А казельчык жа ты мой!

Хто ж цябе са свету збыў?
Каб яго пярун забіў!

Села баба на клапа,
Паехала да папа.

— Ах ты, бацюхна-папок,
Дам табе я піражок,

Што сама яго спякла:
Памяні майго казла,

Казла сівага,
Сівагрывага,

Барадатага
Ды рагатага!

— Ой ты, баба дурная,
Хто ж казлоў памінае?

Людзі рэжуць казлоў,
Як цялят ці бараноў,

З шкуры шыюць боты...
— Што ты, бацька, што ты?

Мой казёл не просты быў:
Па ваду ён сам хадзіў,

Сам у печы ён паліў,
Сам і кашуварыў,
Мяне з дзедам карміў,

Барадою матаў —
Хату падмятаў.

Дам яшчэ рубля. Прашу,
Памяні яго душу!

— Мала, баба, мала:
Прыбаў трохі сала.

Баба сала дала,
Памянуў поп казла.

## ВЕРАБ'ЁВЫ ГОСЦІ

Збудаваў верабей
На сметніку хатку.
Палажыў у дзвярах
Дубовую кладку.

Учыніў верабей
Каля хаткі жніва,
Наварыў бочак пяць
Пшанічнага піва.

Ўсё, што трэба, зрабіў
Дома і за домам
Ды лісты разаслаў
Родным і знаёмым:

— Нізка б'ю вам чалом,
Мае ягамосці,
Прыязджайце хутчэй
Да мяне у госці!

Апрануўся як след
Ды стаў ля парога.
Бачыць: едзе гасцей
Многа, многа, многа!..

Едзе сам журавель
З жонкай жураўліхай,
Едзе бусел-клекатун
З жонкаю busліхай.

Едзе і чачотка —
Вераб'ёва цётка,
Едзе і сініца —
Родная сястрыца.

Гуска з гусянятамі,
Качка з качанятамі,

І сарокі, і дзятлы,
І вароны, і шчыглы...

Прыляцеў і удод
Ды усеўся на плот.

Рады шэры верабей —
Шмат наехала гасцей!

Сабраліся госці.
Чым жа частаваць?
Узяліся разам
Абед гатаваць.

Жуpавель з чачоткай
Грэчку малацілі,
Курапатка з гускай
Да млына насілі.

Бусел жорны круціць,
Качка засыпае,
А сінічка-невялічка
Муку абірае.

Намалолі мукі
На бліны, праснакі.

Напяклі пірагоў
Цэлых сем карабоў.

Ды злавілі камара
Каля падваротні,
Нарабілі каўбас
Пэўна аж паўсотні.

Сталі есці, сталі піць,
Вераб'я таго хваліць.

Елі мяса, каўбасу,
Елі верашчаку.
Як пад'елі, вераб'ю
Ўсе сказалі: «Дзякуй!»

Тут музыкі, як адзін,
Весела зайгралі,
Госці ўпрысядкі пайшлі,
Песні заспявалі.

Вось сарока-белабока
Скача, глянуць люба.
А удод навокал ходзіць,
Патрасае чубам:

— Я стракаты удод,
Я — чубаты Фядот.
Дзюба ў мяне — спіца.
Мяне сам майскі жук
Як агню баіцца!

Дзяцел голас падаў:
— Знайшоў чым хваліцца!
Ты б жука з-пад кары
Выдзеўб гэтай спіцай!

— Глупства! — бусел сказаў.—
Глупства, ды і толькі:
Паспрабуйце сыграць
Дзюбаю вы польку!

І пайшоў танцаваць,
Сам сабе падпяваць:
— Скача жаба па балоце,
Скача па чароце.
Ты скачы ці не скачы —
Ад мяне не ўцячы!

Усміхнуўся журавель:
— А я што — калека?
Паглядзіце на мяне,
Які я умека!

— Ух-ух! Ух-ха-ха! —
Распусціў ён крыллі,
Жураўліху падхапіў
Ды ўрэзаў кадрылю.

Тупнуў сам верабей,
Узяўшыся ў бокі.
А за ім і дзятлы
Пусціліся ў скокі.

За дзятламі — шчыглы,
Гуска, курапатка...
Дружна скачуць, пяюць,
Аж трасецца хатка:
— Дылі-дылі, гуль-гуль!
— Дылі-дылі, буль-буль!

Так ішла тут гульня
Аж да белага дня.
Ўсе стаміліся,
Замарыліся.

Наступіў журавель
На нагу сініцы.
А сініца — у крык:
— Ёлапень, дурніца!

І давай жураўля
Біць па чым папала.
Жураўліха мужыка
Ледзьве ўратавала.

— Б'юць сястру!
Б'юць сястру! —
Закрычала сойка.
І вароны, і дзятлы
Кінуліся ў бойку.

Хто напаў на каго —
Цяжка разабрацца.
Толькі пер'е ды пух
Сцелецца па хатцы.

Бусел дзюбай даўгой
Б'е ўсіх па парадку.
На бяду вераб'ю
Развалілі хатку...

І цяпер верабей
З гэтае прычыны
На задворках жыве
Без сваёй хаціны.

Я ў гасцях таксама быў,
Вераб'ёва піва піў.
Хоць па вусах і цякло,
А у роце не было.

# КАВАЛЬ ВЕРНІДУБ

I

Не далёка, і не блізка,
Там, дзе сонца ходзіць нізка
Ды гамоняць між сабой
Неба сіняе з зямлёй,—
Адным словам, за марамі,
За лясамі, за гарамі
Жыў ды быў найлюты цар,
Той краіны уладар.
Ў залатой сваёй кароне
Ён сядзеў сабе на троне,
Ад зары і да зары
Люльку срэбную курыў
І другой не ведаў працы.

А навокала палацаў,
Праліваўшы горкі пот,
Знемагаў яго народ:
Дні і ночы без спачыну
У няволі гнуў ён спіну,
Пад крывавым бізуном,
На цара
І на паноў.

Так жылі ды пажывалі,—
Гаравалі ды ўміралі...
Праміпаў за годам год.
Але вось —
Настаў няўрод...
Як агнём, шугае сонца,
Жарам дыхае бясконца,
Перасохла ўся зямля,—
Пуста, гола, дзе ні глянь:
Ні збажынкі,
Ані кветкі —
Зачарнеліся палеткі,

З дрэў апалі ўсе лісты,
Агаліліся кусты.
І ад лютай галадухі
Гінуць людзі, нібы мухі.

Напужаўся люты цар,
Выклікае ён баяр.
І такую рэч вядзе ён:
«Што рабіць нам, дабрадзеі...
Ўсіх нявольнікаў ад нас
Забірае смерць не ў час.
Страшна мне, баяры-слугі:
Каб праз гэту галадуху
Не прыйшлося нам самім
Працаваць гарбом сваім?..
Чуць хачу ад вас параду:
Што рабіць, якую раду,
Мае другі і браты,
Прыгадаць нам ад бяды?»
Апусціўшы ў зямлю твары,
Доўга думалі баяры,
Барадамі трасучы,
Як бядзе дапамагчы
Так, каб царскія каморы
Былі поўнымі, як горы,
І сваіх засекаў збожжа
Каб ніхто не патрывожыў...
«Што ж рабіць?» — пытае цар.
І ў адказ адзін з баяр
Бараду ўверх задзірае
Ды спаважна пачынае:
«Ты паслухай мяне, цар,
Найслаўнейшы гасудар,
Знаю спосаб я нядрэнны,
Самы просты, але верны:
Загадай знішчаць малых...
Што табе карысці з іх!
І яды будзе даволі...»

«Дзякуй, дзякуй, лепш ніколі
Не прыдумаў з вас ніхто б!»
Стукнуў пальцам цар у лоб.

Пасля гэтакіх парадаў
Ён склікае сваіх катаў.
І для дзетак-малышоў
Час жахлівы надышоў...

II

А жыла-была ў тым краі,
Нібы ў лузе кветка-краска,
Прыгажуня маладая
Чарнабровая Параска,
Што, як смерці страшнай цень,
Катаў царскіх з дня на дзень,
Засмучоная, чакала.
Як жа быць ёй? — разважала.
Аддаць катам на пацеху
Сваю радасць і уцеху —
Сына слаўнага свайго
І не бачыць больш яго?..
Ці ж здалее сэрца маці
Смерць любімага дзіцяці
Перанесці, перажыць?
Што ж парадзіць?
Як жа быць?

Доўга думала Параска,
Сохла, вяла, нібы краска
У асеннія часы
Без цяпла і без расы.
Доўга думала, гадала,
Рэчкай слёзы пралівала,
Горку долю праклінала:

«Ой ты, доля ты мая,
Лепш не знала б цябе я!»
І наважыла Параска
Не здавацца катам царскім,
А, пакуль яшчэ ільга,
Ратавацца як мага.

Пазбіраўшы ўсе манаткі,
Яна ў пушчу, без аглядкі,
Паляцела, як страла,
З свайго роднага сяла.
Тут гадзіну і другую

14 Зак. 2344

Завіхаецца, будуе,
Так, на скорую руку,
Хатку з моху, лазняку.
Збудавала,
Паглядзела —
Ўся ад шчасця пасвятлела:
Згінуў сум і згінуў страх,—
Радасць свеціцца ў вачах.
І бяглянка маладая
Ружай-кветкай расцвітае:
Стала пушча ёй мілей
За сяло і за людзей.

Недалёка ля дупла
Тут мядзведзіца жыла.
Вось назаўтра, на світанні,
Звер сышоў на паляванне,
Каб дзе ежы раздабыць,
Медзвянятак накарміць.
А Параска-маладзіца
Гэтым часам да крыніцы
Па студзёную ваду
Падалася. На хаду
Песні голасна спявае,
Ўся ад шчасця сонцам ззяе.
Раптам чуе, хтось вурчыць,
Дзікім голасам крычыць.
Азірнулася — што б гэта? —
Бачыць воўка-дармаеда.
Хвост прыціснуўшы да ног,
Разбурае ён бярлог;
Натапыраны, надзьмуты,
Вые люта,
Ходзіць крута
І намерыўся, відаць,
Медзвянятак пазнішчаць.
Тут Параска з-за лаўжка
Нечакана на ваўка
Калі крыкне,
Калі гукне
Ды нагамі калі тупне —
Воўк драпежны аж умлеў,
З перапуду скамянеў...

А тым часам поўным ходам
Мчыць мядзведзіца з паходу
Па імхах, па верасах
З зайцам шэрым у зубах.
Як убачыла Параску,
Прывітала яе ласкай
І падзякавала ёй,
Як сяброўцы дарагой.
«Што дзяцей адратавала
Ад зубастага нахала,
Не забуду век цябе,
Памагу ў бядзе й табе,
Калі толькі давядзецца
У час такі з табою стрэцца».
«Калі ласка,
Калі ласка!..» —
Адказала ёй Параска
Ды хутчэй да шалаша,
Да хлапчыны-малыша
Па сцяжынцы лесавой
Мчыцца подбегам з вадой.
Доўга песціць, забаўляе,
І цалуе, й абнімае
Там сынка яна свайго,
Не нацешыцца з яго.

III

І на славу рос хлапчына,
Не па днях,
А па гадзінах.
Ды такі стаў удалец,
Ды такі стаў маладзец,
Што ні ў казцы расказаць,
Ні пяром не апісаць.
Увесь праменіцца, іскрыцца,—
На яго не надзівіцца!
На чале бялявым хлопца
Зіхаціцца само сонца.
Ну, а сіла, сіла тая,
Што ні дзень, то прыбывае.
Цераз месяц, як грыбы,
Вываротваў ён дубы.

І Параска з той часіны
Вернідубам свайго сына
Стала клікаць-называць,
Яшчэ болей шанаваць.
Проста воч не зводзіць маці
З дарагога ёй дзіцяці.

Дружна, ў згодзе з той пары
Зажылі ўсе, як сябры,—
І мядзведзіца старая,
І Параска маладая,
Медзвяняткі і Вернідубам,—
Проста глянуць на іх люба!
З дуплаў, з пасечных калод
Залацісты свежы мёд
Ім мядзведзіца прыносіць,
Да стала ўсіх шчыра просіць.
Суравежкі і суніцы
Зарадзілі ля крыніцы.
Іх Параска падбірала,
Ўсю сямейку частавала.
Аж аблізавалі рот,
Калі елі з грыбам мёд,
Такі свежы і душысты,
Такі чысты,
Залацісты;
Сам у роце раставаў,
Без віна ён ап'яняў,
Не хапала толькі хлеба,
Круп ды солі на патрэбу.
Але ж гэта паўбяды
Для дружацкае яды.

І вяселіцца бяглянка
Да вячэрніх зор ад ранку,
Песні звонкія свае
Вольнай птушкаю пяе:
«Чаму ж мне не пець,
Чаму ж не гудзець,
Калі ў нашай пушчы
Парадак ідзець...»

Ей мядзведзіца старая
Часам басам падпявае:
«Смачны заяц,
Смачны кот,
Ды смачней
Пчаліны мёд —
Такі свежы
І душысты,
Такі чысты,
Залацісты...»

Вернідуб жа на дудзе
Як зайграе-загудзе,
Ажно пушча затрасецца,
Ўсё вяселіцца, смяецца.
Ад цудоўнае ігры
Моўкнуць птушкі і звяры,
І падлеткі-медзвяняткі
Яму пляскаюць у ладкі.

## IV

Гэтак лета пражылося,
А за ім, глядзіш, і восень
Ўсё хутчэй
Ды ўсё хутчэй
Павуцінне сваё тчэ.
Памярцвела ўся прырода,
Гразь і холад,
Непагода...
Дождж ліецца як з вядра —
Невясёлая пара...
У заморскія краіны
Гаманлівы рой птушыны
Адляцеў, і лес густы
Стаў маўклівы і пусты.

Мішукам дык мала гора —
Ім бы мёд у вуллях спорыў
Ды вялася дзічына —
Для абедаў свежына.
І завея снегавая

Іх таксама не спужае:
У бярлозе да вясны
Перасняць зіму яны.
Замест мёду сваю лапу
Будзе Мішка касалапы
Ссаць і марыць аб вясне
У салодкім, як мёд, сне.

А Параску з Вернідубам
Восень мачыхай нялюбай
Сустракае ў шалашы.
Сумна стала на душы.
Пушча хмурая, пустая
Жалем сэрца працінае...
Холад, голад гоніць іх
Прэч адгэтуль, як чужых.

І рашылі ўсёй нарадай,
Што не знойдзеш іншай рады —
Хоць бы што там ні было,—
Як вярнуцца у сяло.
Тут Параска-маладзіца
На мядзведзіцу садзіцца,
А сынок медзведзянят
Строем выстраіў у рад,
Ды за маткай наўздагон
Паімчаўся з імі ён.

Вось і вёска.
Што за жахі?!
Людзі валяцца ад страху.
Праўда гэта, а ці сны
Сняць у ясны дзень яны:
На мядзведзіцы жанчына?!
Што за дзіва, за прычына?
І ад страху ды бяды
Уцякаюць —
Хто куды.
Ледзь Параска іх спыніла,
Ледзьве іх угаманіла,
Ды, падзякаваўшы ўсім
Дружбакам сваім лясным,

Адпраўляецца яна
Ў хатку родную адна.
На канцы на самым вёскі,
Побач з белаю бярозкай,
Побач з кузняю старой,
Спарахнелай і гнілой,—
Там стаяла гэта хатка,
А ля хаткі —
Плоцік, градкі.
Трохі ўбок відаць здалёк
І палетак, і лясок.

Тут Параска прала пражу,
А сынок у кузні пляжыў.
І магутны той каваль
Як ніхто каваў.
Калі зробіць далато —
Не паломіш нізашто.
А як выкуе тапор
Ці нарог альбо сахор —
Не нацешацца дзядзькі:
Вось каваль у нас які!
Свет прайдзі —
Няма другога
Каваля такога!
Пагалоска бегла ўдаль:
Цуда-дзіва — не каваль!

Ды аднойчы, напрадвесні,
Чуе ён благія весці:
Пра яго дазнаўся цар,
Той краіны уладар,
І на цэлую сталіцу
Ён ад гневу кіпяціцца
Ды раве на ўсіх, як звер...
Зажадаў ён хоць цяпер
Учыніці згубу —
Знішчыць Вернідуба.
Бо куды ж той варт закон,
Што не выкананы ён?
Цар збірае сваё войска,
Каб паслаць яго у вёску
Каваля таго знайсці,

У сталіцу прывясці
І ля царскага двара
Як злачынцу пакараць,
А Параску-маладзіцу
Кінуць ў цёмную цямніцу.

Чарней хмар
І цяжэй гор
Стала маці з гэтых пор;
Жальбай горкаю заныла —
Жыць нявесела, няміла,
Слёзы рэчкамі цякуць
На завяўшую шчаку.
І яна загаласіла:
«Родны сынку,
Сынку мілы,
Чуе сэрцайка магілу,
Чуе чорную тугу...
Ой, куды ж я пабягу,
Каму выплачу душу
І пра гора раскажу,
Як не стануць твае вочы
Мне свяціць і ўдзень і ўночы?..»

Вернідуб нахмурыў бровы
Ды адказвае сурова:
«Няма сілы такой,
Каб скарыўся я ёй!
А жыццё ў барацьбе
Я здабуду сабе.
Лепш у чэсным баю
Галаву я сваю,
Ведай, маці, складу,
Чым на ганьбу пайду!»

Так сказаў і паляцеў
Ён разгневаны, як леў,
Проста ў кузню
У старую,
Спарахнелую, гнілую.
На царову галаву
Стаў каваць ён булаву.

Як маланкі з перунамі,
Несціхана дні за днямі
Гром ваколіцу трасе,
Іскры скачуць па страсе;
І за мілі чутна — глуха
Свішча мех, як завіруха.
Так каваў каваль, пакуль
Не скаваў жалезны куль
Сарака пудоў вагою,
З ручкай гладкаю, прамою.
А зрабіўшы ўсё як трэба,
Ён шпурнуў яго у неба...
Нібы водгулле гарматы,
Загудзела булава так,
Загрымела, быццам гром,
Скаланула ўсё кругом —
Ў небе хмары,
Ў лузе кветкі,
Пушчу цёмную,
Палеткі;
Вышай лесу,
Вышай гор
Прашумела, як віхор.

Вось назад яна нясецца.
Ў каваля заныла сэрца,
Бо рашыў каваль напэўна
Сустракаць яе каленам,
Каб дазнацца, што за гарт
І чаго мацунак варт.

Не пярун з-пад цёмных хмараў
У магутны дуб ударыў,—
То цяжкая, як зямля,
На калена каваля
Булава яго упала...
«Добра зроблена, удала! —
Пахваліў яе каваль.—
Загартованая сталь,
Не пагнулася нідзе.
Паслужы ты мне ў бядзе!»

А як скончыў гэту працу,
Стаў да коней прыглядацца,—

Не ісці ж яму пяшком,
Нібы старцу з хатулём!
Але колькі бачыў коней,
Усе гнуцца пад далоняй,
Пад магутнаю рукой
Выгінаюцца дугой.
Ці то коні слабаваты,
Ці то рукі вінаваты?
І задумаўся хлапчына,
Зажурыўся малайчына.
Як развеяць тут яму
Сваю сумную думу?
Вось аднойчы бачыць гэта:
На кабылцы цёмна-гнедай,
Без паўшораў, без атос,
Перакупшчык цэлы воз
Па сялеануч правёз.
Пра кабылку скажам проста:
Як той бубен, ад каросты
Паліняў худы жывот;
Тры валоссі — яе хвост.
Як ражон, ўзнялася спіна,
Уваліліся пахвіны.
І без жадных без надзей
Да яе каваль ідзе.
На рабрыны, як драбіны,
На ражоністую спіну
Жартам ён далонь кладзе.
А кабылка — ані з месца.
«Ці то праўда, ці здаецца?
Гэта ж проста дзіва з дзіў!» —
Вернідуб загаманіў.
І асілак ледзь не скача:
«Гэта шчасце мне, няйначай:
Я такой яшчэ не бачыў!
Ды, відаць, тут не памылка...»
Заплаціўшы за кабылку,
На яе каваль садзіцца
І ў дарогу едзе-мчыцца —
За плячыма з булавой
Ды з чароўнаю мятлой
Над бялявай галавой.

Рысяком яна сігае
Міма лесу,
Міма гаю,
Цераз поле
і кусты,
Цераз межы
і платы.
І нідзе не аддыхае...
Толькі ногі падгінае
Наш асілак у каленях,
Каб не стукаць аб камені.

V

Ехаў шмат ён дзён ці мала,
Ды бяда яго спаткала:
Нібы ў госці, на паклон,—
К Салаўю прыехаў ён.
Той разбойнік Салавей
У лясным шатры жыве
На дванаццаці дубах
Ды на тысячы суках.
Год за сотню таму болей
Тут ніхто яшчэ ніколі
Ні праехаў, ні прайшоў
Ля тых волатаў-дубоў.
Палыном ды дзікім мохам
Зарасла гэта дарога:
Бо як свісне Салавей —
Не стрывае чалавек,
І, аглушаны такою
Песняй дзікай, грамавою,
Ён назад ляціць стралою;
А як крыллямі ўзмахне —
Усю пушчу скалане,
Панагоніць вецер-буру
І шалёную віруху.
Лес трашчыць тады, галосіць,
Усяму жывому грозіць...
Тут каваль наш палахліва
Паглядзеў на цуда-дзіва
І падаўся нацянькі
Пад дубовыя сукі.

Ґром ды буры з перунамі
Загрымелі над дубамі,—
Салавей то засвістаў,
І магутнымі крыламі
Грозна ён залапатаў:
«Я люблю прастору
І сваё ўладарства.
Не сцярплю нікога
На маіх дарогах!
Завярніся, вораг,
Гэта — маё царства!
А не хочаш —
Плахай
На траве шаўковай,
На лістах дубовых
Ляжаш ты, бадзяга!
Не страчаў, мой мілы,
Я такой шчэ сілы,
Каб ёй пакарыўся.
Вораг, завярніся!»

І пачуў ён у адказ
Гэткі сказ:

«Ай ты, волат лясны,
Ай ты, буй-Салавей!
Страшны ты, грозны ты,
Для людзей — ліхадзей.
Ты дарогу закрыў
Да зладзея-цара
І на варце стаіш
А ці дзень, ці зара.
На магутных дубах
Ты, разбойнік, асеў,
І табе, як гразе,
Пакараліся ўсе.
Толькі ж я, ліхадзей,
Не скаруся табе:
На смяротэльны на бой
Выклікаю цябе!»

А за гэткім сказам,
За такім адказам

Вернідуб-асілак
Распраўляе сілу,
Булаву кладзе,
Да дубоў ідзе.

То не гром грымеў
І не град шумеў,—
То сілач каваль
Дуб за дубам рваў;
Дуб за дубам рваў,
Салаўя знімаў...

Вось і блізка перамога,
Ўжо апошні дуб павіс...
І, збянтэжаны, ў спалоху
Салавей ляціць уніз.

Распасцёршы свае крылы,
Распусціўшы кіпцюры,
Ён, здавалася, без сілы
Проста валіцца з гары.

Але вось зладзей раптоўна
Страпянуўся, нібы леў,
І з налётнага разгону
Кавалю на шыю сеў.

І дзяўбе, як ашалелы,
Вернідуба Салавей...
З кавалёвай шыі белай
Кроў струменямі плыве.

А навокала — нікога,
Ні адной жывой душы,
Безнадзейнай дапамога
Тут здавалася ў глушы.

Раптам чуе:
Ў край ад краю
Зашумела ўсё кругом —
То Мядзведзіца старая
Падбягае да яго...
Напалохаўся драпежнік,

Кіпцюры свае разняў,
Ды з бяды — ў густы алешнік,
Ратавацца сам пачаў.

Але позна: следам ззаду
Загудзела булава тут,
І, ударыўшы, як гром,
Скаланула ўсё кругом —
Ў небе хмары,
Ў лузе кветкі,
Пушчу цёмную,
Палеткі...

Нават свіснуць не паспеўшы,
Змоўк навекі Салавей.
Акрываўлены, самлеўшы,
Уздыхнуў каваль вальней:
«Спі, разбойнік
Неспакойны,
На зямлі сырой!
На касцях тваіх
Шлях вольны
Пракладу я свой.
Гэтым шляхам
Пойдуць людзі
У шырокі свет,
Сонца й месяц
Слаць ім будуць
Ласку і прывет.
Будуць смела
Крок за крокам
Як адзін шагаць.
Пойдуць людзі
Ў свет шырокі
Волю здабываць!..»

VI

Атрымаўшы перамогу,
Зноў збіраецца ў дарогу
У далёкую асілак.
Кліча шуструю кабылу:

«Кось-кось-кось!»
Яе — няма...
Ён туды, сюды — дарма!
Ён за лес бяжыць, імчыцца
Да высокае гары.
Раптам бачыць:
Кабыліцу
Спанавалі там звяры...
Адбіваецца кабылка
Капытамі ад ваўкоў...
Ахапіла злосць асілка,
Закіпела яго кроў.
Булаву тады знімае
Ён з шырокіх плеч сваіх,
Рукі ўгору падымае,
Размахнуўся — і уміг,
Нібы водгулле гарматы,
Загудзела булава так,
Загрымела, быццам гром,
Скаланула ўсё кругом —
Ў небе хмары,
Ў лузе кветкі,
Пушчу цёмную,
Палеткі
І разбіла, як пярун,
Напалам тую гару.
А драпежнікі-звяругі,
Колькі сілы,
Колькі духу,
З перапуду —
хто куды
Уцякаюць ад бяды.

Вось каваль сабе спаважна
Разглядзеў усё і важна
Зашагаў да той гары,
Да той шчыліны-дзіры.
Пад гарой жа той крутою
Бачыць ён перад сабою
Вузкі доўгі калідор,
Што вядзе ў глыбіні гор,
У сярэдзіну глухую,
Неразгадную, нямую.

«Што за дзівы там, цікава,
І якія там праявы?» —
Сам з сабой ён разважае,
Далей вобмацкам ступае.
Там жа — цемень, нібы ўночы,
Хоць ты выкаль сабе вочы.
Што ж рабіць? Ды на хаду
Тут павязку Вернідуб
З галавы хутчэй знімае —
І у цемры сонца ззяе...
Залатыя ўсё палацы,
Дзе ні глянеш, мігацяцца.
А ў палацах —
Ні цароў,
Ні баяраў,
Ні паноў...
Дзе ж падзеліся яны —
І баяры, і паны?

Вернідуб далей ступае
І палацы разглядае.
Захапіўся дзівам-цудам —
Дзівам-горадам без люду.
Вось глядзіць ён на памост,
Бачыць: мышкі шэрай хвост
Пад нагамі каваля
Шустра-жвава завіляў.
«Э, дык вось хто тут гуляе,
Хто палацамі ўладае!» —
І на хвост машыны той
Наступае ён нагой:
«Пачакай жа, свет-сястрыца,
На цябе дай падзівіцца!»
Мышка дробна задрыжала,
Ледзь ад страху не сканала,
Ды, сабраўшы рэшту сілы,
Яна так загаварыла:
«Адпусці мяне, мой любы,
Што табе з мышынай згубы?
Адпусці, мой дабрадзей,
Паслужу й табе ў бядзе,
Калі толькі давядзецца
Ў час такі з табою стрэцца...»

«Ха-ха-ха! Ото ж пацеха! —
Задрыжаў каваль ад смеху.—
Дзе ж то відна, сястрыца,
Каб прыйшлося мне прасіцца
Дапамогі у мышэй?!»
«Эх, каваль,
Цішэй, цішэй...
Чуеш голас ты трывожны
Вунь на лузе на марожным?
То без жалю воўк драпежны
Там кабылку тваю рэжа,
На зялёнай мураве
На шматочкі яе рве...»

Спахмурнеў каваль тым часам,
Павярнуўся і адразу
На трывожны голас той
Паляцеў хутчэй стралой.
Ды, прабегшы з паўгадзіны,
У палацах заблудзіў ён.
«Што ж рабіць?
Куды падацца?» —
Стаў навокал угледацца.

«Не журыся, мой нябога,
Усе сцежкі і дарогі
Мне знаёмы і вядомы
Ў гэтым горадзе, як дома.
Толькі знай —
Не адставай
Ды за мною патрапляй!» —
Раптам зноў ля каваля
Хвосцік мышкі завіляў.

І за мышкай па сляду
Мчыцца ён на ўсю хаду
Па завулках незнаёмых,
Ля палацаў залачоных.
Вось і выхад засвяціўся.
Глянуў ён і зажурыўся:
Перад самымі вачамі
Ўвесь аголены ваўкамі
І аб'едзены як след

Ля гары ляжаў шкілет
Кавалёвай кабыліцы.

«Ах, кабылка,
Ах, сястрыца,
Ах, мая ты небарака...» —
Не сцярпеў каваль — заплакаў
І гарачаю слязой,
Як жывіцаю-расой,
Акрапіў шкілет той белы
Кабыліцы амярцвелай.
Потым з мышкай развітаўся
І маркотны зноў падаўся
У дарогу — шлях далёкі —
Без кабылкі, адзінокі,
З неразлучнаю сваёй
Гартаванай булавой
Ды мятлой
Над галавой.

## VII

Там ідзе сабе, шагае
Каля лесу, каля гаю,
Цераз поле і кусты,
Цераз межы і платы.
Раптам чуе — недзе збоку,
Ад дарогі недалёка,
Голас жаласны звініць.
Адвярнуўся ён — глядзіць:
Хто там? Што за дзіўны гук?
Бачыць — пчолку ссе павук:
Крыжавік, драпежнік люты,
Крывапіўца разадзьмуты,
Быццам шар,
Ад крыві сваіх ахвяр.

«Эх, пузаты ты страшыдла! —
Закрычаў каваль штосілы.—
Проста бі па галаве! —
Загадаў ён булаве.—
Ў пух і прах яго рассей,

Не шкадуючы касцей,
Каб не ўбачыў болей сонца
Гэты злодзей і забойца».

І паслушная загаду,
Загудзела булава тут,
Загрымела, быццам гром,
Скаланула ўсё кругом —
Ў небе хмары,
Ў лузе кветкі,
Пушчу цёмную,
Палеткі,
І ад злога павука
Не пакінула й шматка.

«За ратунак, чалавеча,
Буду помніць цябе вечна.
Дзум-дзум-дзум! — Пчала запела.—
Што ты хочаш — кажы смела:
Паслужыць, браток, табе
Я гатова, як сабе».

«Пчолка, родная сястрыца,
Мне жывая трэ вадзіца.
Там, за лесам, пры мяжы,
Воўк кабылку задушыў.
Без кабылкі ж мне, нябога,
Невясёлая дарога.
Ты ж па свеце, моў, нямала,
Дарагая, палятала,
Многа бачыла краін,
Многа ведаеш навін:
Ці не чула ты, сястрыца,
Дзе жывая ёсць вадзіца?
Калі гэта ў тваёй сіле,—
Памажы мне смерць асіліць».

«Добра! Знаю я такую
Ад смярцей ваду жывую,—
У адказ яму пчала
Зажужжала, загула.—
На мае сядай ты крыллі,
І адсюль за сотні міляў

Паляцім у хмарны круг
На высокую гару.
Там б'е шумная крыніца
Ажыўляючай вадзіцы».

«Згодзен, пчолка, я. Ляці!
Ды глядзі не падвядзі!»
Пчолка крыллямі ўзмахнула,
Раптам вырасла з арліцу
І у неба шуганула,
Як маланка-бліскавіца.
Дзень ляціць, і два, і тры,—
Даляцелі да гары,
Да крутой гары высокай,
Што ўзнялася за аблокі.
Там, начэрпаўшы вадзіцы
З ажыўляючай крыніцы,
Пчолка крыллямі ўзмахнула
І на зямлю шуганула.
Дзень ляціць, і два, і тры,—
Апусцілася з гары,
Села-пала без памылкі
Ля задушанай кабылкі.

«Ух, бяды набраўся колькі!» —
Праказаў каваль да пчолкі,
І на той шкілет худы
Узлівае ён вады.
Раптам: праўда то ці сніцца?
Паднялася кабыліца...
Мігам мясам абрасла
І — такая ж, як была:
Ржэ, хвастом цярэбіць мух.
Акрыяў кабыльчын дух!
«Ото ж дзіва — ад вады
Я пазбавіўся бяды!
Дзякуй, пчолка,
Шчыра дзякуй!» —
Шле каваль пчале падзяку
І, сабраўшы з бочку духу,
Загрымеў па ўсяму лугу:
«Гэй, выходзь цяпер, ваўкі,—
Паламлю усім бакі!»

VIII

Падкарміўшы кабыліцу,
Адпачыўшы ад прыгод,
У далёкую сталіцу
Ён кіруе свой паход.

Пералескамі, лясамі,
Цераз поле, міма гор
Мчыцца рыссю дні за днямі
Кабыліца, як віхор.

Вось аднойчы па змярканні,
Як кругом сцямнела даль,
Сярод лесу, на паляне,
Адпачыць прылёг каваль.

Раптам чуе ён спрасонку
Ні то лямант, ні то плач...
«Што за дзіўная гамонка?
Чалавек там ці пугач?»

Вось ізноў... І голас ясны:
«Ах, за што?.. за што?.. чаму?..»
Хто ж такі гэты няшчасны
І што трэба тут яму?

Ўстаў каваль, працёршы вочы,
Пацягнуўся раз-другі
І ў густую цемень ночы
Накіроўвае шагі.

Ён ідзе і вострым слухам
Ловіць кожны шолах-гук:
Празвініць у сецях муха
Або хрусне побач сук,

Ці запыхкаецца вожык
Над зямлёю у кустах,
Дробных птушак патрывожыць,
Наганяючы ім страх...
Ён ідзе і пільным вокам
Аглядае ўсё навокал.

Дзе ж падзеўся той няшчасны?
Голас змоўк яго цяпер.
Мо сканаў ён гэтым часам?
Ці дакончыў яго звер?

Ён спыніўся на хвіліну,
Прыслухоўвацца пачаў.
Раптам, нібы замагільны,
Той жа голас прагучаў.

І па голасу, налева
Углядаецца каваль:
Перад ім таўстое дрэва,
А ля дрэва галава,
Звяўшы, звешана на грудзі,
Рукі скручаны назад...
«Хто ж такі, скажы, ты будзеш?
Што з табою, мой ты брат?»

Да яго каваль з прамовай
Зварачаецца такой.
І ў адказ ён чуе словы:
«Дарагі збавіцель мой!
Ой, ратуй хутчэй, мне цяжка...
Не магу я больш цярпець.
Распраклятыя мурашкі
Загрызуць мяне насмерць...»

«Ты — ў мурашніку?! О, дзіва!
У смяртэльнай ты бядзе...
Гэткай лютасці жахлівай
Я не чуў яшчэ нідзе.

І, падскочыўшы, у момант
Ён вяроўку адшукаў,
Нібы каліва саломы,
На кавалкі разарваў,

Ды, як хлопчыка малога,
Маладога дзецюка
Ён з мурашніка страшнога,
Падхапіўшы, на руках

Вымчаў. Сам дрыжыць ад гневу:
«Хто ж адважыўся пасмець
У мурашніку пад дрэвам
Для цябе прыдумаць смерць?

Люты ён, а ці шалёны?
Хто такі той ліхадзей?
І хто даў яму законы
Гэтак здзеквацца з людзей?»

«Не шалёны ён, а люты,
Ліхадзей, дык гэта так»,—
Слабым голасам пакутным
Адказаў яму бядак.

«Ён — мой пан, а я — нявольнік,
Мошка я — не чалавек...
Ды няма ўжо сілы болей
Нам цярпець нялюдскі здзек!»

«А за што ж, скажы, саколе,
Пан цябе так пакараў?»
«За ката свайго»,— нявольнік
З болем ў сэрцы адказаў.

«За ката свайго? Нічога
Не вазьму я да ладу:
Што ж зрабіць ты мог такога
Таму панскаму кату?»

«Я даглядчыкам кашачым
Быў служыў. Глядзеў як мог.
Ды бяда прыйшла няйначай:
Лепшы кот у пана здох...

А пасля — табе ўсё ясна:
Люты панскі быў прысуд...
Смерці я чакаў, няшчасны,
У мурашніку вось тут.

Ды не час, відаць, памерці:
Ты, збавіцель родны мой,
Мяне выбавіў ад смерці
Ад пакутнай, нелюдской.

Хто ж ты будзеш, малайчына?
Чым аддзякаваць магу,
Дабрадзей, за твой учынак,—
Чым табе дапамагу?»

«Ты нявольнік, я — таксама,
З аднае сям'і.
Нас адна чакала яма,
З аднае зямлі.
Ды за здзек з людзей, пакуты,
Брат і дружа мой,
Нам адкажа пан твой люты
Галавой сваёй!»

IX

Па расправе ж з лютым панам —
Людаедам тым паганым —
Зноў пускаецца каваль
У нязведаную даль.

Ехаў шмат ён дзён ці мала,
Ды бяда яго спаткала:
Як раптоўны з неба гром,
Войска царскае кругом
Незлічонай грознай сілай
Вернідуба акружыла,
Крумкачамі аблягло,
Шлях-дарогу заняло.
Уся зброя іх стальная,
Ўся адзежа блешчаная,
Ўсе вяльможныя паны —
Проста рыцары адны.
А наперадзе сам цар,
Той краіны уладар,
З барадою па калені,
Росту з сажань ён — не меней.
Ўсе ваякі, хоць куды,
Нібы родныя браты.
Стаў каваль. Арлiным вокам
Аглядае іх навокал:
Як тут справіцца яму
З гэткім войскам аднаму?

«Ай куды ты, ай куды ты? —
Раскрычаўся цар сярдзіты.—
Мы ўсе едзем па цябе —
Галаву знімаць табе!»
І ад злосці барадою
Ён трасе, нібы мятлою,
Ды грыміць на ўсе лады:
«Гэй, падаць яго сюды!»

Тут па царскаму загаду
Ўсе ваякі рад за радам —
Ўсе стральцы
І ўсе баяры
Грозна рушылі, як хмары,
Шаблі ўгору узнялі,
Загукалі, зараўлі
І ляцяць да каваля,
Аж гудом гудзе зямля...

«Будзь што будзе!» — вырашае
Сам сабе каваль.
Булаву з плячэй знімае,
Аглядае даль.

Развітаўся з светам белым,
З буйнай галавой
І віхром імчыцца смела
На смяртэльны бой.

Як махнуў ён булавою
Раз і два разы —
Галава за галавою,
Быццам гарбузы,
З плеч баярскіх паляцелі
На усе бакі,
Па каменнях затрупцелі
Проста як гаршкі.
Вось ізноў, ізноў заносіць
Булаву каваль...
Ды — рука спачынку просіць,
Звісла булава...

Больш не хоча узнімацца,
Стала, як гара,
Адмаўляецца змагацца
З войскамі цара.

Відаць, сілы ён не змераў
Маладой сваёй,
Булаву, відаць, не ў меру
Выкаваў цяжкой...

А баяры, нібы мухі,
Разгудзеліся над вухам:
«Ай і грозны ж ты, хлапчына,
Ай якія дзівы чыніш!..

Ды, малойчык, мы з табой
Зараз справімся, пастой!»
І сам цар да іх пад'ехаў,
Заліваецца ад смеху,
Аж калоцяцца бакі:
«Ух, ваяка ты які!
Замарыўся з булавою?
А цяпер, брат, галавою
Ты расплацішся сваёю!
Ты расплацішся — ха-ха!
Не сілач ты, а блыха...»

Ускіпеў каваль ад злосці,
Грозна глянуў на цара.
«Паміраць мне, ягамосцю,
Не прыйшла яшчэ пара!
Яшчэ рана, цар-страшыдла,
Смерць суліць мне ці палон!»
І, сабраўшы рэшту сілы,
За мятлу ўхапіўся ён.

Цар, і войкнуць не паспеўшы,
З ног зваліўся самы першы.
Паслухмяная мятла
Чыста-гладка памяла.
Нібы востраю касою,
Стаў касіць каваль мятлою.
І баяры, як клубкі,

Котам
        коцяцца
                ў бакі,
Крок за крокам так патроху
Ачышчаючы дарогу,
Дзе чароўная мятла
Прашумела, прагула.

І налева і направа
Косіць наш каваль на славу!..
Так да вечара мяла
Паслухмяная мятла,
Незлічоную ўсю сілу
Войска царскага злажыла.
Спяць ваяк на ваяку,
Як снапы на таку.

Ўзмах мятлы каваль спыняе,
Поле бітвы аглядае.
Вочы радасцю іскрацца:
Скончыў цяжкую ён працу
І на царскіх на касцях
Пралажыў да волі шлях!

X

Атрымаўшы перамогу,
Зноў пускаецца ў дарогу:
Да самой сталіцы
Ён цяпер імчыцца.

Едзе ён, ці ноч, ці дзень,
Не спыняецца нідзе.
Раптам бачыць:
Пры гасцінцы,
Недалёка ад сталіцы,
Падарожныя сядзяць,
Сумна-жаласна глядзяць,
Апусціўшы ў зямлю вочы.
Твары ж іх
Чарней ад ночы...

«Што, малойцы, спахмурнелі? —
Запытаў у іх каваль.—
Не пілі вы
Ці не елі,
Скуль ваш гэты
Смутак-жаль?
Ці няшчасце вас якое
Стрэла лютае, ліхое?
Ці пакрыўдзіў лёс благі
Вашых родных, дарагіх?
Адкажыце мне, братове,
Вас паслухаць я гатовы».
Тут падняўся самы першы,
З падарожнікаў старэйшы,
Па празванню
Круцікамень,
Ды, махаючы рукамі,
Нібы крылямі вятрак,
Пачынае мову так:
«Мы, наш добры чалавеча,
Каб сказаць табе дарэчы,
Без хлусні і без прыкрас,
Ўсе — асілкі.
Кожны нас
Добра знае ў гэтым царстве,
Ў гэтым царстве-гасударстве.
Вось бягун наш —
Буйны Вецер:
За яго ніхто на свеце
Не лятаў яшчэ хутчэй.
Ну, а той —
Граза Марэй,
Што ўзнімае ураганы
Над шырокім акіянам
І усю ваду да дна,
Як захоча,
Будзе гнаць
На зямлю ён на сухую,—
Мае сілу, бач, такую!
А вось гэты —
Наш Гарошак;
Сто пудоў падняць ён можа
Правым мезенцам сваім,—

Што усе мы перад ім?!
Самы ж крайні —
То Мікіта,
Не так дужы,
Як сярдзіты.
Хлопчык — будзе яму сын.
Росту — з шапкаю аршын.
Толькі ж сілы ён, саколе,
Мае з пуд,
Калі не болей.
Сум наш, добры чалавеча,
Каб сказаць табе дарэчы,
Не з бяды якой
Ці здрады,
А ад царскага загаду:
Нам ці галавы складаць,
Ці царэўну адшукаць,
Цара родную сястру...
Заўтра ў гэтую пару
Як не знойдзем той царэўны,
Дык загінем мы напэўна.
Свет цалюткі азванілі,
Горы-долы абхадзілі,
Ані чутак, ані слуху
Пра яе нідзе — ні духу.
Кажуць, што мядзведзь Бурэй
Заўладаў царэўнай тэй,
І яна цяпер, саколе,
У чарнюсенькай няволі:
За жалезнымі дзвярамі,
За сталёвымі замкамі,
А на варце ля дзвярэй
Сам мядзведзь стаіць Бурэй.
Кажуць, нават
Нельга, дружа,
Адалець яго аружжам.
Толькі ж дзе ён,
Той мядзведзь,—
Цяжка гэта зразумець...
Свет цалюткі азванілі,
Горы-долы абхадзілі,
Дзе мы толькі не былі,—
Ды царэўны не знайшлі...»

Злез каваль з сваёй кабылкі,
Булаву знімае з плеч;
Пакланіўся тым асілкам
І такую кажа рэч:

«Бачыць вас, сябры, я рады.
Рад сардэчна вас вітаць!
Кіньце ж гэты сум праклятa,—
Не пара вам паміраць!
Вы ж краса свайго народа,
Сіла вы, а не — ніщто...
Слабым розумам прырода
Надарыла вас, ці што?
Цар з баярамі прад вамі —
Машкара!
Хіба не так?
Іх адзін ваш Круцікамень
Перацёр бы ўсіх на мак.
А калі яшчэ й Гарошак
Правым мезенцам паможа
Ды дыхне з сваіх грудзей
Хоць разок Граза Марэй,—
Дык ураз,
Як глянуць вокам,
Пазнішчалі б, нібы мух,
Вы цара свайго і слуг
Яго блізкіх і далёкіх.
Вось мая якая рада,
Хоць яна і пазнавата...»

І каваль ім па парадку
Расказаў усё спачатку —
Хто ён сам,
Адкуль ён едзе,
Як пазбавіўся ад смерці.
Як спаткаў цара й баяр,
Як загінуў люты цар
Разам з слугамі сваімі,
Ліхадзеймі нелюдскімі,—
Словам, як яго мятла
Войска царскае змяла
Са шляху, бы смецце тое
Непатрэбнае, благое.

Як пачулі гэта слова
Тыя сілачы,
Узнялі вышэй галовы:
«Хлопцы, гэй, скачы!»
Ўсе рукамі замахалі,
Закрычалі, загукалі
І, узяўшыся у бокі,
Дружна з радасці такой
Завярцеліся у скоках,
Закружылі талакой,
Толькі пыл віхрыць навокал,
Аж каваль наш не стрываў
Ды таксама ўзяўся ў бокі —
Разам з імі заскакаў.

## XI

А размяўшы косці
Шчырай весялосцю,
Разам з сілачамі —
Вольнымі арламі —
Па гасцінцы бітым,
Па бялюткім свеце
На кабылцы гнедай
Едзе каваль, едзе,
Ўсюды праязджае,
Перашкод не знае,
Нібы вольны вецер,
Нібы птушка тая.

І паны-баяры,
І стральцы-гусары —
Царская ўся сіла —
Дрыжыць, як асіна,
Ад аднаго слова
Пра яго суровы
Гнеў на людаедаў
За бацькоў і дзедаў,
Імі рабаваных,
Гнаных, катаваных.
Па шляху-дарозе
Не было слупоў,

На якіх не вешаў
Панскіх ён галоў;
На шляху-дарозе
Не мінаў нідзе
Гнаных, катаваных,
Скрыўджаных людзей.
Скрыўджаным, нявольным,
Як братам сваім,
Вернідуб гатоў быў
Памагаць усім.

Дзень за днём ён едзе,
Ноч за ноччу едзе,
Сонца яго грэе,
Месяц яму свеціць,
А вадою пояць
Чыстыя крыніцы.
Гэтак даязджае
Да самой сталіцы.
А ля той сталіцы
Мора мітусіцца
Ад галоў народу —
Цэлага паходу...
Спераду манахі
Ў чорных апранахах,
Як жукі, [illegible] папамі
Цягнуцца радамі,—
Па цару, баярах
Памінкі спраўляюць,
Тысячы кадзілаў
Хмарамі ўздыхаюць.
А за імі следам
У паходзе гэтым
Нехаця, павольна
Люд брыдзе нявольны,
Абшарпаны, голы,
Ды такі вясёлы,
Сэрцы шчасцем поўны,
Сэрцы ўсіх гавораць:
«Хто такі ваяка,
Хто такі сіляка,
Што забіў іх гора,—
Цара-людаеда,

Жалю хто не ведаў
Спакон веку-роду
Да свайго народу».

Тут асілак пад'язджае
І паход той прыпыняе,
На ўсе светлыя староны
Б'е ён нізкія паклоны
Ды такое слова кажа:
«Люд нявольны,
Воля ваша:
А ці жыць мне,
Ці памерці —
Я віноўнік
Царскай смерці...»

І каваль ім па парадку
Расказаў усё спачатку —
Хто ён сам,
Адкуль ён едзе,
Як пазбавіўся ад смерці,
Як спаткаў цара й баяр,
Як загінуў люты цар,—
Словам, як яго мятла
Войска царскае змяла
Са шляху, бы смецце тое
Непатрэбнае, благое.
«А цяпер ўсяму народу
Абвяшчаю я свабоду!
Будзем самі,
Будзем самі
Над сабой
Гаспадарамі!»

Пасля гэтакай навіны
Усе людзі той краіны
Пазляталіся, як птушкі,
Вернідуба сталі гушкаць,
За геройскі яго ўчынак
Велічаюць малайчынам.
Гонар, слава кавалю
На ўсю вольную зямлю!
І, паклікаўшы музыкаў,

Баль наладзілі вялікі.
Пілі, елі, што хацелі,
І скакалі, як умелі.
Вернідуба частавалі,
Весяліліся, спявалі,
Як ніколі, ўсе уволю,
Аж грымелі лес і поле
Ды палацаў камяніцы
Калаціліся ў сталіцы.
Адназгодна сюды з ласкай
Запрасілі і Параску,
Мышку шуструю,
Кабылку,
Пчолку слаўную, двухкрылку,
І мядзведзіцу з бярлогу,—
Весяліцца хай памогуць!

Ну, вядома, быў і я там,
«Казака» скакаў заўзята,
Мёд, віно і піва піў,
Толькі вусы памачыў.

*1929—1935 гг.*

# МУДРЫ АСІЛАК

(З народных казак)

Было гэта не даўным-даўно. І не за высокімі горамі, не за сінімі морамі,— было яно ў краіне адной... Ну, ды самі здагадвайцеся якой.

Дык вось. Нарадзіўся ў той краіне хлопчык. Хлопчык як хлопчык — бялявы, кучаравы, з яснымі разумнымі вачамі. Расце ён, у сілу ўбіраецца, да людскога жыцця прыглядаецца.

А жыццё ў людзей было — і казаць страшна. Не жылі, а пакутавалі. Дзень і ноч працавалі, пот пралівалі, усё паноў ды буржуяў узбагачалі. А тыя толькі таўсцеюць ды ад гультайства шалеюць. Выдумляюць, якія яшчэ пакуты наслаць на людзей.

Бачыць усё гэта хлопчык, і сэрца яго крывёю абліваецца. «Што зрабіць, як бедным людзям волю здабыць?» — думае.

Падрос хлопчык і пачаў мудрыя кнігі чытаць, праўду пазнаваць: як бедным людзям дапамагчы, каб паноў і буржуяў перамагчы.

А як вырас вялікі, пачаў ён па белым свеце хадзіць, людзей склікаць, разумныя словы казаць:

— Гартуйце, людзі добрыя, стрэлы, тачыце тапары, вастрыце косы і сахары. Трэба ўсім у вялікую сям'ю гуртавацца, на спрадвечных сваіх ворагаў у бой збірацца.

Слухаюць яго людзі, розуму набіраюцца.

І пайшла слава пра добрага чалавека ад краю да краю — па ўсяму царству.

— Гэта не просты чалавек — гэта асілак,— казалі пра яго людзі бедныя, паднявольныя.— Хіба ж просты чалавек адважыцца супроць панска-буржуйскай сілы выступаць!

Так і пачалі называць таго чалавека Асілкам.

Сабраў Асілак раць бядняцкую — рабочую ды сялянскую.

— Пойдзем,— кажа,— вайною на сваіх крыўдзіцеляў, бо самі яны волі нам не дадуць.

Пачулі пра гэта паны ды буржуі. І паслалі супроць Асілка войска вялікае, незлічонае.

Сустрэліся дзве раці — рать панска-буржуйская ды рать Асілкава. Біліся год, біліся два... Перамагла рать панска-буржуйская.

Зноў насунулася на тое царства ноч чорная. Зноў забедавалі людзі гаротныя. А смелы Асілак хоць і журыцца, ды выгляду не паказвае, бо моцна верыць ён у справу сваю вялікую.

— Відаць,— кажа ён людзям,— малую яшчэ сілу мы сабралі. Ну, ды нічога, рана ці позна, а праўда возьме верх.

Зноў пачаў ён людзей склікаць, да новых бітваў рыхтаваць.

А тут якраз паны ды буржуі — свае і замежныя — вайну ўзнялі. Ды не самі б'юцца, а бедных людзей у бой пасылаюць.

Біліся, біліся бедныя людзі ды кажуць:

— Дакуль жа мы будзем за паноў кроў праліваць? Няхай яны самі ваююць. Пойдзем да сваіх дзетак, да сваіх жонак.

Пачуў іх словы Асілак і адказвае:

— Гэта добра, браты мае родныя, што вы так загаварылі. Значыць, час наспеў зноў у паход на паноў збірацца.

Разаслаў Асілак сваіх памочнікаў-спадарожнікаў па ўсяму царству — і ў акопы халодныя, і ў гарады каменныя, і ў вёскі саламяныя.

— Збірайце,— кажа ім,— людзей і прыслухоўвайцеся. Як толькі я пачну — выступайце!

І вось, калі прыйшоў час, выкаціў Асілак гармату вялікую на плошчу шырокую ды як вухнуў у палац царскі — аж зямля ўздрыганулася, мора скаланулася.

Ва ўсім царстве пачулі стрэл Асілкаў. І пайшла рать яго новая, незлічоная паноў латашыць, буржуяў крышыць. Свішчуць стрэлы вострыя, бухаюць гарматы грозныя, стукаюць капыты конскія. Паны з буржуямі не здаюцца, і Асілкава рать не адступае. Не на жыццё — на смерць бой ідзе.

Магутны Асілак разам з усімі ваюе, людзей навучае:

— Не здавайцеся, браты мае родныя, сокалы крылатыя! Дабівайце паноў ды буржуяў, каб іх і духу не засталося.

Скончылася бітва вялікая. Развеяліся хмары чорныя, светла стала на зямлі, крывёю палітаю.

Пачалі вольныя людзі па-новаму жыць, мудрага Асілка слухаючы. Жылі, як браты родныя. Ды раптам цяжкае гора на іх звалілася. Не змаглі Асілка паны з буржуямі,— падарвала сілу яго змяя чорная, гадзіна падкалодная. Абвялі рукі яго магутныя, патухлі вочы ясныя, пагас розум светлы. Чалавек-асілак сканаў.

Папрыходзілі людзі з чатырох бакоў, з сямі дарог у горад вялікі, каб апошні раз паглядзець на дарагога чалавека, мудрага Асілка. Плакалі па ім малыя, рыдалі старыя. Сумна зашумелі бары зялёныя, затуманіліся горы высокія, захваляваліся моры шырокія.

І парашылі людзі зрабіць вялікаму чалавеку, мудраму Асілку, такую дамавіну, каб ён ляжаў у ёй, як жывы, каб усе маглі яго бачыць праз цэлыя вякі.

Нанеслі на плошчу Чырвоную граніту моцнага і змуравалі дамавіну вечную.

Узялі музыкі трубы медныя і зайгралі песню жалобную. Іграюць, а ў саміх слёзы з вачэй ліюцца.

Паднялі тады труну з Асілкам на свае плечы магутныя яго спадарожнікі верныя і панеслі да самай дамавіны гранітнай. Паставілі труну ў дамавіне вечнай і напісалі залатымі літарамі на ёй адно кароткае слова: ЛЕНІН.

Праходзяць людзі каля труны вялікага чалавека, глядзяць на ясны твар Асілка. А ён ляжыць, як жывы, і быццам гаворыць людзям:

— Не здавайцеся, сыны мае родныя, сокалы крылатыя. Моцна адзін аднаго трымайцеся, адзін за аднаго заступайцеся. Ніякая сіла тады вас не пераможа!

# КАЗКА-ПРАЎДА

Жыў на свеце бедны чалавек Янка. Праўда, быў у яго і кол, быў і двор. Ды кол гнілы, а двор пусты. Быў і конік гняды, ды такі лядашчы, што ад ветру валіцца. Была і зямля, ды на лысай гары, а світку паложыш, дык усю яе і закрыеш. Як ні працуе Янка, а ўсё сам галодны і дзеці просяць есці. Толькі тое і меў, што калі-нікалі ў кулакоў-багацеяў мазалём зарабляў.

Пайшоў Янка да папа.

— Бацюшка,— плюснуў яму ў руку,— парай, што рабіць: як на свеце жыць?

— Усё ад бога, Яначка, усё ад яго... Маліся! — адказаў поп набожным голасам і перахрысціў Янку сярэбраным крыжам.

Маліўся Янка і дагэтуль кожную раніцу і кожны вечар. А цяпер яшчэ больш стараецца. Ніводнай імшы не прапускае, усім святым паклоны адбівае. Аж спіна ные, калені баляць, а бог не дапамагае. Усіх малітвы чуе — і паповы, і дзяковы, і паноў, і багатых мужыкоў,— усім добра дапамагае. А Янку — не.

Зноў пытаецца Янка ў папа:

— Што, бацюшка, рабіць, як з богам гаманіць, каб пачуў мяне?

Махнуў поп кудламі і кажа:

— Дрэнна молішся, Яначка, свечак не ставіш. Бог ахвяры патрабуе...

— Дык жа няма, бацюшка, грошай на свечкі. І прадаць няма чаго...

— Няма грошай — ёсць рукі. Прыходзь да мяне на работу два дні на тыдзень — будзеш мець на свечкі.

Пачаў Янка ў папа працаваць, грошы на свечкі зарабляць. Ставіць свечкі не толькі богу, а і ўсім яго святым. А жыць стала яшчэ горш.

Суседзі раяць:

— Кінь ты, Янка, маліцца. Насячы лепш дроў, завязі ў горад, можа, што за іх купіш...

Паслухаў Янка добрых людзей, сабраў возік дроў, за-

прог свайго коніка-недабойка і паехаў у горад. Цягне гняды воз, у бакі хістаецца, кожнай выбоіне кланяецца. А Янка толькі нокае, галёкае, аж асіп. Даганяе яго пан у карэце. Паглядзеў на худога Янкавага каняку і смяецца ў вусы:

— Ну як, вазачок, паедзем разам у горад? Давай навыперадкі.

— Добра табе, пане, жартаваць,— уздыхнуў Янка.— А мне з такім канём адно гора.

— Дык трэба лепшага набыць,— раіць пан.

— За што?

— Прыходзь да мяне, паробіш лета — дам грошай на каня.

Узрадаваўся Янка, пайшоў да пана служыць, грошы на каня зарабляць. «Вось,— думае,— шчасце якое трапілася: куплю добрага каня ды буду ў горад дровы вазіць, прадаваць, а за гэта хлеб дзецям купляць».

Цалюткае лета пёкся Янка на панскім полі, на панскіх сенажацях, увосень прыйшоў па разлік.

Паглядзеў пан на Янку грозна і кажа:

— Бач ты яго! Ён у мяне ўсё лета жыў, мой хлеб еў, маю ваду піў ды яшчэ нейкай платы дамагаецца. Прэч з вачэй, брудны мужык!

Шкада Янку так справу пакідаць, пайшоў ён да суддзі. Выслухаў яго суддзя, затупаў нагамі.

— Як ты асмеліўся,— крычыць,— на пана скардзіцца? Хто табе паверыць? Дзе твае сведкі? Хто чуў, што пан табе за работу плаціць збіраўся?

— Сведак няма,— кажа Янка,— гэта праўда. Але ж усе бачылі, што я на пана працаваў...

— Дык вось,— зрабіў прысуд суддзя,— ідзі ты, чалавеча, лепш дахаты і сядзі ціха, пакуль у турму не трапіў.

«Няма праўды на свеце»,— падумаў Янка, заплакаў з гора і пайшоў дахаты без капейкі ў кішэні. А дома тым часам і лядашчы конік без гаспадарскага догляду здох. «Што рабіць? Бог не дапамог,— думае Янка,— пан пакрыўдзіў, суддзя пана абараніў... Напішу хіба самому цару, можа, ён мне ў бядзе дапаможа, можа, ён за беднага чалавека заступіцца».

Ну, як надумаўся, так і зрабіў. Усё ў лісце апісаў — Янка, бач, крыху грамату знаў,— і што зямлі ў яго мала, і што конік здох, і што пан бязлітасна пакрыўдзіў, а суддзя за пана заступіўся... Напісаў і паслаў цару. «Цар —

ён разбярэцца,— думае,— ён справядлівы, не тое што суддзя!»

Скора казка баецца, ды не скора лісты да цара даходзяць. Але ўсяму, як кажуць, бывае канец.

Аднойчы, ужо ў самую зіму, прыязджае да Янкі ўраднік з воласці. І не адзін, а са стражнікамі. Адчыніў Янка ўрадніку вароты і стаіць збянтэжаны. «Ураднік — не госць,— думае.— Гэты так сабе да бедных людзей не ездзіць, напэўна, у халодную забярэ...»

— Ну, чаго дарогу загарадзіў! — крыкнуў ураднік.— Што я — не маю гонару ў хату да цябе зайсці?

— Ды калі ласка...— збочыў Янка.— Заходзьце, заходзьце...

Патрос ураднік нейкім пакетам з сургучнымі пячаткамі перад Янкавым носам і кажа, усміхаючыся:

— Не ведаеш, дурань , якое шчасце да цябе прываліла!

Увайшлі ў хату. Ураднік падаў Янку кнігу з чыстымі старонкамі і сказаў, дзе яму распісацца.

— А цяпер,— кажа,— слухай, што табе, мужыку-галадранцу, сам яго імператарская вялікасць цар-бацюшка піша. Гэта яго пісьмо!

Раскрыў ураднік пакет, выняў аркуш тоўстай, гладкай, як шкло, паперы і пачаў чытаць:

— «Майму вернападданаму Янку Гаротнаму. Ты просіш у мяне дапамогі. Але ж вас такіх многа. А я — адзін. Дзе ж мне набрацца вам дапамогі? Працуй, маліся, няхай табе бог дапаможа...»

Прачытаў ураднік царскую паперу і перадаў Янку. «Няўжо толькі гэтыя нікчэмныя словы напісаў мне цар? — думае Янка.— А дзе ж пра пана, пра суддзю? Не, не царская гэта папера: відаць, сам ураднік накрэмзаў такое...» Узлаваўся Янка, кінуў паперу пад ногі і патаптаўся па ёй лапцямі.

Як убачыў гэта ўраднік, дык ледзь не самлеў.

— У турму яго! — крычыць на Янку.— Біць, катаваць! Гэта ж папера самога цара-бацюшкі!

Схапілі стражнікі Янку, звязалі рукі і павялі, як разбойніка, у турму.

Вось там, у турме, і пазнаў Янка, дзе яму ўправы на пана ды на царскага суддзю шукаць. З адным добрым чалавекам пасябраваў ён.

— Што цар? — кажа той чалавек.— Такі ж пан, толь-

кі багацейшы. Ніхто не дасць табе дапамогі. Трэба самому рады шукаць.

Тым часам вайна пачалася. Выпусцілі Янку з турмы ды пагналі на вайну.

Тры гады ваявалі. А за што? За цара-бацюшку. Але ж Янка цяпер і сам добра ведаў, чаго варты гэты цар-бацюшка, і другім пра яго расказаў. Тыя — далей Янкавы словы перадавалі.

А пакуль ішла вайна, рабочым ды сялянам-беднякам яшчэ горш жыць стала. Не вытрымалі яны, узняліся, як адзін: «Далоў вайну! Далоў цара!» За імі і Янка са сваімі сябрамі-салдатамі пайшоў.

Скончыўся бой з царом ды з яго слугамі — панамі, генераламі. Вярнуўся Янка дахаты. Зямлю атрымаў, каня без панскай ласкі ды без папоўскіх малітваў набыў, пановаму стаў жыць-пажываць і дабро нажываць.

# ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА

Калі гэта было, у якіх краях, пры якіх царах,— не будзем казаць. Той, хто казку паслухае,— сам даведаецца.

Ну, дык слухайце.

Жыў на свеце адзін чалавек. Ніхто не зваў яго ні па імені, ні па прозвішчу, а звалі ўсе па становішчу: Цярпігора. І праўда: шмат ён гора цярпеў, шмат бяды меў. З гаспадаркі ўсяго і было ў таго чалавека, што лапіна зямлі на ўзгорку, хатка гнілая ды кабылка сляпая.

А самым большым багаццем яго былі тры сыны: Сымон, Рыгор і Клім. Такіх, як кажуць, пашукаць — не знойдзеш: і розумам, і красою, і спрытам — малайцы як на падбор.

Гадаваў бацька сыноў і цешыўся: вось, думае, падмога на старасць будзе. З імі любую бяду перамагу.

Толькі не давялося бацьку дачакацца шчаслівага жыцця. Падкасіла яго хвароба ліхая, адабрала сілу жытуха цяжкая.

Ляжыць стары на печы і думае — відаць, смерць не за гарамі. Паклікаў ён сыноў і кажа ім:

— Вось што, дзеці мае ненаглядныя, хачу вам даць сваё благаславенне ды параду бацькоўскую. Цяжка мне было жыць на белым свеце, нялёгка і вам будзе, калі не будзеце трымацца адзін аднаго, дапамагаць адзін аднаму...

Уздыхнуў стары бацька, благаславіў сыноў і выняў з-за пазухі вузельчык. Развязаў, а ў ім — чырвоная зорка блішчыць.

— Нічога,— кажа бацька сынам,— з багацця я вам у спадчыну не пакідаю, бо нічога сам не маю. Даю вам толькі адну гэтую чырвоную зорку. Вялікую сілу яна мае. Але тады яна пакажа сілу сваю, калі вы тры ісціны пазнаеце. Першая ісціна — у чым зло людское, другая ісціна — у чым сіла народная, а трэцяя ісціна — у чым шчасце чалавечае...

Хацеў стары і яшчэ нешта сказаць, ды мову адняло — ён і сканаў.

Пахавалі сыны бацьку і пачалі жыць адны. Жылі добра, у згодзе, як бацька навучаў.

Ды вось неўзабаве давялося братам разлучыцца. Малодшаму, Кліму, павестку ад цара прыслалі, каб у салдаты служыць ішоў. Ну, цару пярэчыць не будзеш. Пабедавалі старэйшыя браты ды выправілі Кліма ў далёкую дарогу. А каб не сумаваў ён на чужой старане, далі яму з сабою бацькаў дар — чырвоную зорку.

— Насі яе,— кажуць,— пры сабе, можа, цябе бяда міне, можа, табе шчасце будзе. А мы ўжо дома як-небудзь пражывём.

Узяў Клім чырвоную зорку, падзякаваў братам ды рушыў у дарогу.

А праз які год і сярэдні брат, Рыгор, бацькаву хату пакінуў.

— Хлеба,— кажа,— на бацькавай зямлі і аднаму мала, лепш пайду ў свет свайго шчасця шукаць.

— Што ж,— адказаў старэйшы брат,— ідзі, калі такая твая воля. Буду я адзін на бацькавай зямлі разжывацца.

Сабраўся Рыгор і пайшоў куды вочы глядзяць. Доўга хадзіў па свету, а шчасця так нідзе і няма. Дзе толькі не працаваў — і ў купцоў, і ў паноў, і на фабрыках-заводах усялякіх. Ды ўсюды адно: робіць да знямогі, ночы недасыпае, а разлік прыйдзе — атрымлівае грош шчарбаты.

Не стрымаўся аднаго разу Рыгор ды як стукне кулаком па стале перад самым носам гаспадара-заводчыка:

— Дакуль жа вы, крывасмокі, кроў нашу піць будзеце!

Гаспадар нарабіў крыку, паклікаў гарадавых. Тыя як бач закруцілі Рыгору рукі назад, звязалі вяроўкамі і кінулі ў турму.

І вось у турме сустрэўся Рыгор з адным чалавекам, які яму вочы на ўсё адкрыў.

— Я,— кажа той чалавек,— не разбойнік і не душагуб. Я — бальшавік, пасланец Леніна. Праўду рабочаму люду тлумачу. За гэта і ў турму трапіў. Дык ведай, браце: не відаць ні табе, ні такім, як ты, беднякам дабра да таго часу, пакуль цар і багацеі ўсім будуць уладаць і ў сваіх руках уладу трымаць. Адабраць у іх багацце і ўладу не так і цяжка. Трэба толькі рабочаму люду разам сабрацца ды разам змагацца. На кожнага пана і фабрыканта нас тысячы прыходзіцца. Вось і разваж цяпер, хто дужэйшы.

Сядзіць Рыгор у турме і думае пра словы бальшавіка, ленінскага пасланца. І так прыкіне, і гэтак разважыць — і выходзіць: праўду кажа бальшавік!

Выйшаў Рыгор з турмы ды зноў на завод падаўся. Дзе-

ля выгляду на заводзе старанна працуе, а сам цішком бальшавіцкую праўду таварышам расказвае. І стаў ён з таго часу ў рабочых за важака.

Не лепшым было жыццё і ў старэйшага брата, Сымона. Ажаніўся ён, сям'я вялікая. Але як ні б'ецца ён на бацькавай палосцы — усё без хлеба, усё ў нястачы жыць даводзіцца. А тут і сляпая кабылка здохла. Што рабіць? Пайшоў Сымон да пана.

— Памажы, панок, каня нажыць. Пазыч грошай...

— Добра,— кажа пан,— памагу табе каня нажыць. Але раней папрацуй на мяне з год.

Што ж, прыйшлося Сымону згадзіцца. Папрацаваў ён у пана год. Прыйшоў па разлік. Пан кажа:

— Зараз разлічуся...

Выняў з кішэні нейкую кніжачку і пачаў чытаць:

— На полі працаваў кепска, многа еў, у маім доме жыў, маю вопратку насіў, па маёй зямлі хадзіў... Лыжкі мае, міскі мае... За ўсё гэта трэба грошы плаціць. Так што табе нічога не застаецца. Яшчэ ты мне вінен...

— Несправядліва пан лічыць,— запярэчыў Сымон.— Не можа таго быць, каб за год цяжкай працы я нічога не зарабіў!

— Ах, дык ты яшчэ вучыць мяне хочаш! — закрычаў пан.— Гэй, лёкаі, дайце гэтаму мужыку бізуноў!

Схапілі панскія лёкаі Сымона, збілі бізунамі і паслалі сена вазіць — пану доўг адрабляць.

Вязе Сымон панскае сена і думае пра сваё горкае жыццё. Аж бачыць — бяжыць да яго чалавек нейкі. Бяжыць — з сілы выбіваецца. Падбег да воза і просіцца:

— Ратуй мяне, добры чалавек. Схавай ад пагоні. За мной урадніік з жандарамі гоніцца.

Узяў Сымон і схаваў таго чалавека ў сена. А жандары з урадніікам тут як тут.

— Ці не бачыў ты,— пытаюцца ў Сымона,— чалавека аднаго?

— Не,— адказвае Сымон,— нікога не бачыў...

— Як гэта не бачыў, такі-сякі!..— закрычаў урадніік.— Нікуды ён падзецца не мог! Звальвай сена!

Напалохаўся Сымон, бачыць — справа дрэнная.

— Сена гэтае,— кажа ён,— не маё, а панскае. Скажыце мне, як вас зваць-велічаць, дык я перадам пану, хто яго воз затрымаў, хто загадаў яго сена па дарозе растрасаць.

Пабаяўся ўраднік панскай няміласці. Узяў толькі вы-

няў шашку і пачаў ёю сена пароць. Парне, паглядзіць на шашку, ці няма крыві, і ў другім месцы пора. Трапіў гэтак і ў руку схаванаму чалавеку. Хоць і забалела таму, але ён голасу не падаў, абцёр толькі рукавом кроў з шашкі.

Папароў ураднік сена ды так ні з чым і пайшоў.

Выцягнуў тады Сымон чалавека з сена, руку яму перавязаў.

— Хто ты такі? — пытаецца ў яго.

— Я, братка,— адказвае чалавек,— не разбойнік і не душагуб, я — бальшавік, пасланец Леніна. Супраць несправядлівасці змагаюся. За гэта і ганяюцца за мною царскія жандары. Вось падумай сам: паны не працуюць, а дабра ў іх усялякага — цераз край, а вы, сяляне, гаруеце і дзень і ноч, а што маеце? Адбярыце ў паноў зямлю, і ніякай сілы яны мець не будуць. Толькі рабіць трэба гэта гуртам, усім разам...

Бачыць Сымон — праўду кажа бальшавік! З таго часу ён і сам пачаў бальшавіцкую праўду ўсім пераказваць. І ўсе парабкі ды сяляне-беднякі любілі яго за гэта. Сымон у іх важаком стаў.

Нялёгкае жыццё выпала і на долю малодшага брата Кліма. Дзень і ноч — усё на нагах. Адною муштрой замучылі. А тут неўзабаве і вайна з немцамі пачалася. Колькі голаду ды холаду нацярпеліся салдаты, колькі народу палягло,— сказаць нельга. Але ў гэты час і пазнаў Клім ісціны, пра якія ім некалі бацька казаў.

Служыў у іхнім палку салдат адзін. Бывалы, відаць, чалавек ён быў. Як пачне расказваць пра сябе, пра жыццё людзей, дык усе слухаюць яго, не наслухаюцца. І скакаць, і жартаваць умеў. За ўсё гэта моцна любілі яго салдаты.

Ды вось здарылася з гэтым салдатам бяда. Даведаліся начальнікі, што ён супраць вайны выступае, цара ды багацеяў лае. Схапілі яны яго і перад усім палком на расстрэл паставілі: нямецкі шпіён, кажуць. Адапхнуў ён ад сябе афіцэраў і крыкнуў на ўвесь голас да салдат:

— Не верце ім, браткі! Не шпіён я, не здраднік, а бальшавік — пасланец Леніна. За што мы ваюем? Каму патрэбна гэтая вайна? Царам ды багацеям. А нам, беднаце, завaюй хоць увесь свет — і пядзі лішняй зямлі не дадуць. Чым дарэмна галовы лажыць, жонак з дзецьмі жабракамі па свету пускаць, давайце лепш пакончым з царом і багацеямі.

Пераглянуліся салдаты паміж сабою і думаюць: праў-

ду кажа бальшавік! Апусцілі яны стрэльбы, топчуцца на месцы.

Тут наперад выйшаў Клім і кажа да сяброў:

— Не бальшавік наш вораг, а яны,— паказаў ён на афіцэраў,— служкі царскія! Яны нас за людзей не лічаць, пад кулі гоняць...

— Правільна! — загаманілі салдаты.

Накінуліся яны на сваіх ворагаў — павязалі іх.

Развітаўся салдат-бальшавік са сваімі сябрамі і пайшоў у другія палкі. А Кліма салдаты сваім камандзірам паставілі.

І толькі здарылася гэта, як успомніў Клім бацькавы словы пра тры ісціны. «Цяпер я іх ведаю!» — радасна сказаў ён сам сабе. Дастаў чырвоную зорку, прышпіліў да шапкі, каб усе яе бачылі, і павёў сваё войска ў вялікі паход — на цара ды на паноў-буржуяў. Глядзіць, а тут і брат яго, Рыгор, ідзе, рабочую раць вядзе, а за Рыгорам — Сымон ідзе, сялянскую раць вядзе...

Вялікая была бітва, ды працоўны народ перамог у гэтай бітве. Перамог таму, што ён за ленінскай праўдай пад чырвонай зоркай ішоў, таму, што пазнаў ён тры ісціны: зло людское — у багацеях, сіла народная — у згодзе рабочых, сялян і салдат, а шчасце чалавечае — у працы для ўсіх працоўных.

# АЎТАБІЯГРАФІЯ

## ПЕРШЫ ГАРМОНІК

*З самых ранніх гадоў помню:*

*Бацька прывёз мне з мястэчка губны гармонік. Я быў старэйшы з сыноў і, здаецца, больш любімы. Інача не мець бы мне такой цацкі і яшчэ гадоў дзесяць. Дастаткаў у сям'і не было. На чацвертаку[1] не вельмі разбагацееш. Дзеці ішлі адно за адным. І ўжо тады руплівы бацька пачынаў збіраць грошы на прыкуп зямлі. Як жа іначай: сыны вунь растуць, а чацвяртак рэдка хто дзеліць.*

*Колькі каштаваў мой першы гармонік, не помню. Але ў маіх руках яму цаны не было! З ім я быў багацейшы за купца Залмана, што гандляваў лесам, за князя Радзівіла, адзін з маёнткаў якога межаваў з нашаю вёскаю.*

*Я пабег да сяброў пахваліцца гармонікам. Усе мы ігралі на ім з такім натхненнем, якому пазайздросціў бы не адзін музыка на свеце.*

*Але чалавечаму шчасцю няма мяжы. У гэтым я пераканаўся ў той жа вечар. Мне хацелася, каб усе ведалі пра мой скарб. Недалёка ад нашага дома на вялікай кучы бярвенняў сядзелі хлопцы-дзецюкі. Я пабег да іх, пілікаючы. Хлопцы зацікавіліся маім гармонікам. Гармонік пайшоў па руках. Ад шчасця я быў на сёмым небе. Нарэшце гармонік вярнуўся да мяне. Але здарылася так, што ён выслізнуў з маіх рук і ўпаў у шчыліну паміж бярвенняў... Шчыліна была вузкая і глыбокая. Дастаць з яе гармонік ніхто не мог. Для гэтага прыйшлося б раскаціць усю кучу бярвенняў.*

*Бацька мяне не біў за такую страту. Толькі сказаў, што цяпер будзем чакаць, пакуль Гальяш (гаспадар бярвенняў) пачне будаваць хату. Я чакаў гады два. І калі нарэшце гармонік зноў вярнуўся да мяне, ён ужо не іграў: іржа папсавала яго...*

*Другога гармоніка ў сваім жыцці я не помню.*

*Вось, здаецца, і ўсё, што найбольш уразіла мяне ў дашкольныя гады. Іншыя факты і падзеі больш дробныя.*

---

[1] Чацвяртак — надзел зямлі з 3,5 дзесяцін.

## ШКОЛЬНЫЯ ГАДЫ

*Вёска мая, Чурылава*[1]*, славілася не толькі беднасцю, а і адсталасцю. Першым грамацеем у ёй быў мой дзед па бацьку Захара. Дзе ён навучыўся чытаць і пісаць, не ведаю. Адзін час, па расказах бацькі, дзед нават вучыў дзяцей у сябе дома. Ад яго сёе-тое пераняў і бацька: умеў распісацца і прачытаць збольшага друкаванае. А вось другі дзедаў сын, Тодар, так і пражыў свой век непісьменным.*

*Дзеда я не помню: памёр ён у 1904 годзе, калі я нарадзіўся (17 студзеня). Але гаспадар з яго, відаць, быў не надта здатны, бо бацька часта пакрыкваў на мяне: «Захара ты!» Гэта значыла: маруда, недарэка і г. д. Сам бацька быў чалавек руплівы і падкі да работы. Невысокага росту, шчуплы, ён быў вечна ў руху, у клопаце. Да жаніцьбы, казаў бацька, ён не хадзіў пяшком, а бегаў. Спаў ён толькі да першых пеўняў. Ды і то больш кашляў. З маладых гадоў хварэў «расшырэннем лёгкіх». Сам рабіў да ўпаду і нас падганяў. Калі слова не памагала — хапаўся за папругу, за дубец... Гарачы быў чалавек.*

*Першую ў гісторыі вёскі школу будавалі, калі мне было гадоў восем. Будавалі яе за нашай Слабодкай. Так называўся канец вёскі, дзе я жыў. Мы былі слабаджане. Людзі з другога канца вёскі называліся канчане. А сярэдзіна, упадзістая, гразкая, ніяк не называлася. Там, сярод балота, стаяла адна хатка, і жыў у той хатцы «чаркес» — стары, чорны, як цыган, дзядзька. У нас звычайна гаварылі: «Хадзіў да чаркеса» або «пад чаркеса» — гэта значыць, на сярэдзіну вёскі, досыць вялікай, двароў каля двухсот.*

*У той год я быў самы пастушок. Ды і дома — памочнік. Але нам, малым, вельмі цікава было гуляць каля школы. Там былі кучы трэсак, стружак, горы бярвення, дошак. У высокім падмурку былі прадушыны для вентыляцыі. Калі наслалі падлогу, мы лазілі ў гэтыя прадушыны, хаваліся.*

*Увосень прыехаў настаўнік, і я пайшоў у школу.*

*Вучыўся я, відаць, нядрэнна. Настаўнік рэдка калі біў мяне лапаю або ставіў на калені на жарству, што зараблялі дураслійцы траха не кожны дзень. Праз гадоў два я ўжо лепш чытаў і пісаў за бацьку. І гэта яго вельмі дзівіла. Ён хваліўся мною дзе толькі мог: «Мой Алесь,— казаў,— піша так шыбка, як Скварцоў». Скварцоў — гэта валасны пісар.*

---

[1] Уздзенскі раён Мінскай вобласці.

*Настаўнік раіў бацьку аддаць мяне ў настаўніцкую семінарыю, як скончу сваю земскую школу, а поп — настаўнік закона божага — матаў галавой: «Не, толькі ў духоўную семінарыю...» Бацьку ж хацелася, каб я стаў пісарам, бо вучыць у семінарыях — грошы патрэбны.*

*Тым часам пачалася вайна, і ўсё змянілася. Хутка настаўнік недзе выехаў, школа апусцела.*

*На другі год забралі на вайну і бацьку. Маці засталася адна з шасцярыма дзецьмі. Я — старэйшы з мужчын. Прыйшлося за касу ды за плуг брацца.*

*Пад канец вайны ў школе з'явілася новая настаўніца — папова дачка Аксеня. У яе я і давучваўся да выпуску. Выпускнікоў засталося чалавек пяць ці шэсць. Рэшта адсыпаліся.*

*Можа «адсыпаўся б» і я. Ды мне проста брыдка было не давучыцца. У вёсцы лічылі мяне вунь якім грамацеем! Праз усю вайну я чытаў салдацкія пісьмы і адпісваў салдатам ад імя іх жонак і бацькоў. Калі хто з мужчын прывозіў часамі з далёкага горада газету, то ішоў да мяне. Я чытаў тыя артыкулы, дзе апісвалася геройства рускіх салдат. Асабліва падабаўся ўсім казак Кручкоў. Чаго толькі ён не выробляў сваёю пікаю! Нанізваў на яе немцаў, як грыбы. Аднойчы селянін Паўлюк прывёз з Мінска нават кніжку — тоўстую, у цвёрдым пераплёце. Ён вазіў муку архірэю. Скідаў мяшкі ў склеп, дзе валялася куча кніг. Вось ён адну і прыхапіў... Я прачытаў на вокладцы: Ф. М. Дастаеўскі «Бедныя людзі». Паўлюку, вядома, карцела ведаць, што ж напісана ў гэтай кнізе. Я доўга чытаў яе. Але нічога цікавага ні для сябе, ні для Паўлюка не вычытаў. Вельмі далёкае ад нас жыццё апісвалася ў аповесці Дастаеўскага. Да гэтага я перачытаў усе кнігі са сваёй школьнай бібліятэкі. І лічыў сябе чалавекам начытаным. А кніг было там дзесяткі два, і ўсё пра святых. «Жыція святых» — так называлася серыя тонкіх брашурак, якія складалі аснову нашай бібліятэкі. Помню, трапілася мне толькі адна сапраўдная кніжка, якая захапіла мяне, гэта — «Бава-каралевіч», вершаваная казка. О, гэта была кніжка! Яе можна было чытаць і перачытваць хоць кожны дзень. Змяшчалася бібліятэка ў адной шафе разам са сшыткамі, чарніліцамі, глобусам, картамі, дубоваю ці кляноваю лінейкаю, жарсцвою для каленак і іншаю школьнаю гаспадаркаю на ўсе аддзяленні. Аддзяленні гэтыя, дарэчы, былі ў адным пакоі.*

*За вайну многія нашы чурылаўцы згалелі ўшчэнт. Раней*

*мы мелі сякія-такія прыбыткі ад заработкаў — рэзалі лес, вазілі калоды, ганялі плыты. Я вельмі рана пазнаўся з гэтаю работаю. Бацька часта адрываў мяне ад вучобы і браў з сабою ў лес або на рум. Цяпер зарабляць маглі толькі тыя, каго абмінала вайна. Да таго ж праз год вайна падышла да нас блізка, і мы збіраліся ў бежанскую дарогу. Але, на наша шчасце, фронт затрымаўся недзе каля Баранавіч, і мы засталіся дома.*

*У той час мне ўпершыню ўдалося дастаць булку салдацкага хлеба. Які ён быў смачны! Маці хлеб пякла напалам з бульбаю або з мякінаю. Ён чарсцвеў у першы ж дзень. А тут быў іржаны хлеб, спечаны па ўсіх правілах ды яшчэ з соллю! Соль у вайну — цэлае багацце. Яе мы берaглі толькі для важных патрэб: саліць агуркі, капусту або сала, калі ўдавалася выгадаваць якое свінчо.*

*Пасля Лютаўскай рэвалюцыі да нас, у вёску, усё часцей пачалі трапляць лістоўкі розных партый. Я чытаў іх сялянам. Кожная партыя хваліла сябе і ганіла іншыя, асабліва — партыю бальшавікаў. А нам наадварот: бальшавікі падабаліся. Бальшавікі — значыць, партыя, за якою ідзе большасць народу, думалі мы. А калі так, то і нам з імі па дарозе.*

*Сталася так, як нам хацелася: у кастрычніку перамаглі бальшавікі. Мы скінулі з пасады сельскага старасту і выбралі сваю савецкую ўладу. Новую ўладу ўзначаліў дзядзька Сцяпан — непісьменны бядняк. Я пачаў яму памагаць, хоць мне ішоў толькі чатырнаццаты год. Фактычна я вёў сакратарскія справы. Мы раскулачылі багатага фальваркоўца пана Крэпскага — забралі ўсё, што знайшлося ў яго маёнтку. Пачалі рыхтавацца да падзелу зямлі і сенажацей маёнтка «Уздзянка», які належаў князю Радзівілу, дапамагалі беднаце, збіралі харчовую развёрстку, адным словам, рабілі ўсё, што і трэба было рабіць савецкай уладзе ў вёсцы.*

*Бацька вярнуўся з вайны і ўзяў на сябе ўсе гаспадарчыя клопаты. Шмат гадоў ён збіраў грошы на зямлю. Сабраў рублёў дзвесце. І каб не ўкралі, трымаў іх у банку. Прыйшла рэвалюцыя, банк лопнуў, і зямля бацькава ляснула. Але цяпер выявілася, што зямлю купляць не трэба: савецкая ўлада дае яе без грошай. Нам проста не верылася. А потым далейболей, і мы зусім здружыліся з новай савецкай уладаю.*

*Ды радасць наша была не доўгаю. Пад вясну, калі мы збіраліся дзяліць панскія землі, прыйшлі немцы і разагналі нашу ўладу. Пану Крэпскаму вярнулі ўсё яго дабро.*

*На другі год прыйшлі белапалякі... Сяляне проста стагна-*

*лі ад акупантаў. Кожны дзень толькі і гаворкі было, што аб чарговых рэквізіцыях.*

*Я ў гэтыя неспакойныя гады вучыўся ў Вышэйшым пачатковым вучылішчы ў мястэчку Узда. Разам са мною вучыліся Паўлюк Трус і Пятро Глебка. Апрача патрэбных прадметаў мы вучылі нямецкую і польскую мовы. Толькі пра сваю беларускую ніхто нічога нам не казаў. Настаўнікі нашы былі з багатых сем'яў, канчалі інстытуты і семінарыі. Дырэктар школы і яго жонка ўцяклі потым у Польшчу разам з панамі-акупантамі.*

*Улетку я наймаўся пасвіць свіней. Гэта быў дагавор з бацькам. Ён не хацеў, каб я вучыўся. Пры акупацыях за навучанне мы плацілі. Ды і карміць мяне трэба было. Я паабяцаў, што буду сам на сябе зарабляць. І зарабляў. Усё лета харчаваўся ў людзей па чарзе. А ўвосень збіраў ссыпшчыну: гарцы збожжа за работу. Нудная гэта была работа для падлетка. Дзень здаваўся годам. Сто разоў, бывала, мераеш цень, пакуль дачакаешся вечара. Ні ў кога, мусіць, не бывае такіх доўгіх дзён, як у свінапаса!*

*Улетку 1921 года пры вучылішчы былі арганізаваны двухмесячныя настаўніцкія курсы. Я пакінуў свіней і паступіў на курсы. Выкладалі на іх беларускія настаўнікі з Мінска. З гарачым сэрцам рабілі яны сваю справу. Іхні энтузіязм і запал захапілі і мяне. Я адчуў сябе новым чалавекам. А колькі цярпеў я і мае сябры па школе — пачатковай і вышэйшапачатковай — за «дзеравеншчыну». Значыць, не дзеравеншчына жыла ў нас так моцна, а родная мова і свае нацыянальныя звычкі! Настаўнік па беларускай літаратуры Мялешка так хораша і цікава расказваў нам пра Францішка Багушэвіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, так артыстычна чытаў іх творы, што мы толькі раты разяўлялі, дзівячыся.*

*Такія цудоўныя скарбы мае наша літаратура, і іх ад нас хавалі...*

*Увосень таго года я пакінуў родныя мясціны і падаўся ў Мінск у белпедтэхнікум.*

## РЭДАКТАР-МАЛАДНЯКОВЕЦ

*Вучыўся я ў педтэхнікуе не на поўную сілу. Іншыя клопаты агарнулі мяне. І адзін з іх — паэзія. Яшчэ ў сямігодцы я спрабаваў пісаць вершы, вядома, на рускай мове. Тое, што спяваюць песні на нашай простай мове, я ведаў. А што мож-*

*на пісаць на гэтай мове вершы, я не чуў. Помню, мы спаборнічалі з Паўлюком Трусам — хто лепш складзе верш на выбраную тэму. Тэмы былі розныя, але найбольш нас цікавіла прырода. Чыталі мы свае вершы адзін аднаму, бо хлопцы не вельмі прыхільна ставіліся да самадзейных вершаплётаў. Праўда, Пятро Глебка помніць, што я аднойчы чытаў свой верш і яму.*

*Цяпер жа я трапіў у такую школу, дзе і паэзія і проза былі ў вялікай пашане. Выкладаў у нас сам Якуб Колас. Не было таго ўрока, каб мы не выпрасілі ў яго што-небудзь пачытаць або расказаць, апрача законнага прадмета — методыкі роднай мовы. Гэта былі самыя жаданыя ўрокі. Да нас прыходзіў Міхась Чарот. А мой аднакурснік Андрэй Александровіч ужо друкаваў свае вершы ў газетах. Ды траха што і ўсе выкладчыкі мелі дачыненне да друку — былі аўтарамі першых беларускіх падручнікаў. Любіў мастацкае слова і наш дырэктар — добры стары інтэлігент дзядзька Васілевіч. Помню, адзін з паступаючых напісаў заяву аб прыёме ў тэхнікум вершамі. Дырэктар быў у захапленні і потым доўга ўспамінаў, як пекна была напісана гэтая заява.*

*Я шмат чытаў беларускіх кніг, даганяючы прапушчанае, пісаў вершы для сваіх школьных газет, прымаў удзел у літаратурных дыспутах. Усё часцей друкаваліся мае допісы ў газетах. Першы свой твор я паслаў у газету «Савецкая Беларусь». Гэта была вершаваная казка пра тое, як у адной вёсцы папа выбіралі: цягнулі лапаць з аборaю... Казка была доўгая, напісана, відаць, не гладка і ў друк не трапіла. Другі верш — ужо кароткі — я перадаў у першы нумар часопіса «Маладняк». Верш надрукавалі. З яго і пачалася мая праца ў літаратуры. Я быў прыняты ў літаратурную арганізацыю «Маладняк» адным з першых — пасля ініцыятыўнай групы. Арганізацыя расла не па днях, як кажуць, а па гадзінах. І нам, «старэйшым па стажу», работы хапала.*

*Увосень 1924 года я даведаўся, што ЦК камсамола і Народны камісарыят асветы збіраюцца выдаваць штомесячны часопіс для піянераў і школьнікаў. Больш таго, мяне запрасілі на работу ў рэдакцыю гэтага часопіса.*

*Але ж я яшчэ не скончыў тэхнікума... Ды і выдавецкай справы не ведаў. Які ж з мяне сакратар рэдакцыі?*

*Аднак у тыя гады з гэтым не лічыліся. Падрыхтаваных кадраў у нас было мала. Ні універсітэт, ні педтэхнікум, якія адкрыліся толькі ў 1921 годзе, выпускаў яшчэ не зрабілі.*

*Так што маіх пярэчанняў ніхто не хацеў і слухаць. Камсамолец, маладняковец — табе і карты ў рукі.*

*Ды ўрэшце я і сам усё гэта добра разумеў: працаваў жа з няпоўных чатырнаццаці гадоў сакратаром сельсавета! Рэвалюцыя патрабавала, і мы, дзеці і юнакі, станавіліся ў шарэнгі дарослых, так, як Аркадзь Гайдар — пятнаццацігадовы камандзір Чырвонай Арміі.*

*Мне, аднак, яшчэ пашанцавала: рэдактарам часопіса прызначылі паэта Уладзіміра Дубоўку. Ён быў трохі старэйшы за мяне і к гэтаму часу ўжо скончыў у Маскве Літаратурны інстытут. Больш штатных работнікаў нам не далі.*

*Сабраліся мы з рэдактарам і задумаліся: з чаго пачынаць? Піянерская арганізацыя з першых сваіх дзён актыўна ўключылася ў грамадскае жыццё краіны. І часопіс павінен гэта ўлічваць. Аднымі коцікамі ды пеўнікамі піянерскага чытача не задаволіш. Трэба ствараць для яго новую літаратуру.*

*І ўсё ж праз нейкі час мы сабралі матэрыял, які лічылі патрэбным для першага нумара. Добрае апавяданне напісаў для часопіса Міхась Зарэцкі — вядомы ўжо ў той час празаік. Падрыхтаваў сваё першае апавяданне для дзяцей і я. Даў яго пачытаць рэдактару і Зарэцкаму. Яны ўхвалілі. Гэта мяне падбадзёрыла. Тэкст для песні напісаў рэдактар сам. Ён жа напісаў і некалькі рэкламных частушак.*

*І вось нарэшце ў пачатку снежня піянерскі часопіс «Беларускі піянер» убачыў свет! Ці трэба казаць, якая гэта была радасць і для нас, арганізатараў і выдаўцоў новага часопіса, і для нашых чытачоў. Прыхільна сустрэў першы нумар часопіса і ўсебеларускі наш стараста Алесь Чарвякоў — былы настаўнік. Дарэчы, ён і назву даў часопісу. У Маскве ў той час ужо выдаваўся часопіс «Пионер». «А ў нас няхай будзе свой «Беларускі піянер»,— сказаў Алесь Рыгоравіч. З ім усе мы і згадзіліся.*

*Захапіўшыся рэдакцыйнаю работаю, я пачаў адставаць у вучобе. Аднак спадзяваўся нагнаць, калі справы ў рэдакцыі наладзяцца. Ды тут ужо мне не пашанцавала: рэдактара неўзабаве адклікалі для работы ў Маскву. Замены яму не знайшлі і са штатных работнікаў у рэдакцыі застаўся я адзін. Памагалі мне толькі члены рэдкалегіі — работнікі Цэнтральнага бюро піянераў Міхась Лабадаеў і Пятро Хейфец, такія ж юнакі, як і я.*

*Працаваць без належнай падрыхтоўкі і вопыту пэўна ж было не лёгка. Помню, як я чытаў карэктуру першага нумара. Прачытаў гранкі набору і знайшоў з дзесятак памылак.*

*Прачытаў Дубоўка і прыбавіў да іх яшчэ з дзесятак. А калі прачытаў пасля нас карэктар друкарні Савіч, дык знайшоў у разоў тры больш, чым мы. «У чым жа справа? — запытаўся я ў яго.— Ты ж не канчаў ні тэхнікумаў, ні інстытутаў, а па часці граматы закасаваў нас абодвух». Аказалася, што карэктарская справа не ў высокай граматце, а ў навыках бачыць усе літары ў слове.*

*Не ладзілася ў нас спачатку справа і з вокладкамі. На вокладцы першага нумара піянер на фоне карты Беларусі аддае салют: «Будзь гатоў!» Карту мы далі ўсяе Беларусі — і Савецкай і Заходняй, якая была заняволена белапольскімі акупантамі. І піянер салютуе якраз у бок граніцы... Нумар трапіў у польскае консульства, якое змяшчалася на Савецкай вуліцы, насупраць цяперашняга ГУМа. Консул абурыўся: «Глядзіце, што робіцца: «Беларускі піянер» робіць замах на тэрыторыю польскай дзяржавы!» І ён заяўляе нашаму ўраду пратэст. Адным словам, уліплі мы ў непрыемную дыпламатычную гісторыю. Хоць самі і вельмі радаваліся, што патрывожылі трошкі паноў.*

*Вокладку для другога нумара намаляваў студэнт Маскоўскага мастацкага інстытута Міхась Філіповіч. На ёй абапал партрэта Леніна стаяць два піянеры — добра прычэсаныя, прыгладжаныя, у новенькіх спартыўных гарнітурчыках, у чысценькіх чаравічках... Атрымалі нумар работнікі Наркамата асветы, паківалі галовамі і паклікалі нашу рэдкалегію на сваю камісарыяцкую калегію.*

*— Дзе вы бачылі такіх піянераў? — задалі нам пытанне.— Гэта ж нейкія панічы або буржуазныя бой-скауты...*

*Што мы маглі адказаць ім? Даверыліся мастаку. Бой-скаутаў ён, відаць, лепш ведае, чым піянераў. Вось і намаляваў іх.*

*Ну, больш гэтага мы не зробім, рашылі мы. І на вокладцы трэцяга нумара змясцілі групку вясковых піянераў — у лапціках, у кажушках і світках, у шарачковых штоніках... Адным словам, такіх, якімі яны ў той час былі ў жыцці. Намаляваў іх мастак Анатоль Тычына.*

*Зноў не спадабалася вокладка нашым начальнікам.*

*— Лапці пара ўжо ў архіў здаваць, а не на вокладках маляваць,— сказалі яны нам.*

*Вось тут і разбярыся, што такое добра і што такое дрэнна.*

*Не надта моцныя мы, маладыя рэдактары, былі і ў літаратурных справах. Прыслаў аднойчы нам дзяткор маленькае апавяданне пад назвай «Пятачок загубіў». Апавяданне мне*

спадабалася, і я надрукаваў яго ў чарговым нумары за подпісам таго дзяткора. Сустракае потым, пасля выхаду нумара, мяне знаёмы настаўнік Пашкевіч і кажа, хітра ўсміхаючыся:

— Добрыя, аднак, апавяданні пішуць вашы дзяткоры...

— А што,— адказваю,— трапляюцца і добрыя.

І даведаўся я ад яго, што апавяданне «Пятачок загубіў» перапісана са школьнай хрэстаматыі і належыць яно пяру самога Льва Талстога...

Пасля гэтага я ўважліва перачытаў усе школьныя хрэстаматыі Льва Талстога і іншых аўтараў, каб больш не ашуквалі мяне мае малыя карэспандэнты.

Так у працэсе работы прыходзілася мне адольваць у тыя далёкія і нялёгкія гады рэдактарскую навуку.

А вучобу ў тэхнікуме я ўсё ж запусціў і апошні курс расцягнуў на два гады. К гэтаму часу я ўжо меў дзве друкаваныя кніжкі: зборнік вершаў і зборнік апавяданняў для дзяцей «Гул бубна».

У 1927 годзе я паступіў на другі курс літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педфака БДУ. Прыйшлося сур'ёзна заняцца вучобай. Ды і часопіс адбіраў шмат увагі і часу. Добра яшчэ, што не ўсе лекцыі мы наведвалі. Важна было здаць залікі. У тыя гады бывалі выпадкі, калі студэнт першы раз бачыў свайго прафесара ў канцы навучальнага года на заліковай сесіі...

## ТРЫЦЦАТЫЯ ГАДЫ

Я так прывык да нагрузак, што пасля універсітэта нейкі час сумяшчаў аж тры пасады: рэдактара часопіса «Іскры Ільіча», сакратара педагагічнага часопіса «Асвета» і выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў вячэрнім тэхнікуме прагнятрывалага будаўніцтва. Мяне цікавіла педагагічная праца, і я нават ледзь не быў «з'агітаваны» стаць выкладчыкам універсітэта. Тады, вядома, мне прыйшлося б пакінуць рэдакцыйную работу, якая для мяне ўжо стала асноўнай, прывычнай. Сувязей з педагогікай я ўсё ж не страціў і да апошняга часу: з 1932 года перавыдаецца складзены мною падручнік для 2 класа «Роднае слова».

У дадатак да пералічаных нагрузак я напісаў аповесць «Перамога», якая на закрытым рэспубліканскім конкурсе атрымала другую прэмію. Членам журы быў Якуб Колас. Ён вельмі добразычліва адгукнуўся аб маёй першай аповесці. Яго

рэцэнзію, напісаную ад рукі (журы перадало мне яе на памяць), я хаваў да самай вайны. Коласа я паважаў, як і ўсе мы, маладзейшыя. Я часта гаварыў з ім пра дзіцячы часопіс, раіўся, ён прыносіў мне свае творы для дзяцей. У Коласа я вучыўся пісаць — проста, ясна, без мудрагельства.

Выхоўвалі мае літаратурныя густы і іншыя старэйшыя пісьменнікі, асабліва Янка Купала. Помню, трапіўшы ў горад, дзе ўсё было не так, як дома, я не мог без хвалявання чытаць яго верш «Я ад вас далёка». Вершы і паэмы Янкі Купалы пра старую вёску зрабілі на мяне незвычайнае ўражанне. Я ж сам добра ведаў жыццё, якое з такою сілаю апісаў Янка Купала. Ды нават самыя актыўныя прыхільнікі розных «ізмаў» сярод маладнякоўцаў не адважваліся кідацца ў «рожкі» супраць тытана нашай паэзіі.

Са Змітраком Бядулем адносіны ў нас былі чыста сяброўскія. Яго прастата, шчырасць ва ўсім падабалася нам, і ўжо з першай ці другой сустрэчы мы гаварылі з ім, як роўны з роўным. Бядуля надрукаваў у газеце «Савецкая Беларусь» першае маё апавяданне. Раней ён рэдагаваў часопіс для дзяцей «Зоркі». Натуральна, што ён цікавіўся «дзіцячымі» справамі, сам пісаў для дзяцей і сачыў за творамі маладзейшых аўтараў.

Найбольш блізка з самага першага знаёмства я сышоўся з Янкам Маўрам. Хоць гады ў нас былі не роўныя, але справы агульныя. Добры ўплыў на маладых пісьменнікаў рабілі Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Міхась Лынькоў. Таленавітыя мастакі слова, яны былі для нас узорам чэсных людзей, шчырых сяброў.

А самай першай нашай школай, вядома, былі партыя і камсамол. З камсамолам я быў цесна звязаны каля двух дзесяткаў гадоў як рэдактар дзіцячых часопісаў.

Перад вайной я спрабаваў пісаць сцэнарыі. Па трох маіх сцэнарыях («Каваль-асілак», «Танін вакзал» і «Залатое дно») кінастудыя збіралася ставіць фільмы. Але пакуль ішла падрыхтоўка, пачалася вайна. Раніцай 22 чэрвеня я з рэжысёрам і апаратарам выехаў на Палессе. Мы павінны былі выбраць месцы для здымкаў фільма «Залатое дно» — пра асушку балот. У Жлобіне даведаліся аб вайне і вярнуліся назад. Адзін са сцэнарыяў («Каваль-асілак») выпадкова захаваўся ў рэжысёра Корш-Сабліна. Першы варыянт гэтага сцэнарыя (кароткаметражны) быў надрукаваны ў 1940 годзе ў часопісе «Полымя». Іншыя нідзе не друкаваліся і згарэлі ў першыя дні вайны разам з усім маім дабром.

## ДРУГАЯ ПАЛАВІНА ВЕКУ

*Адарваны ад радзімы і свайго чытача, у гады вайны я мала займаўся творчымі справамі. Працаваў нейкі час настаўнікам у г. Чыстапалі, потым — сакратаром раённай газеты ў сяле Шаманаіха Казахскай ССР.*

*У кастрычніку 1942 года раённы ваенкамат паслаў мяне на курсы малодшых лейтэнантаў у г. Андыжане. Вучыўся я там каля чатырох месяцаў. Найбольш даймала нас гнілая андыжанская зіма. Толькі два тыдні ў студзені пастаялі невялікія маразы, і мы крыху аджылі. На курсах вучылася добрая палавіна людзей немаладых, інтэлігентаў: інжынеры, аграномы, дацэнты, пісьменнікі. Аднак вучылі нас маладыя камандзіры па ўсіх правілах ваенных статутаў. Мы поўзалі па-пластунску, вялі бясконцыя наступленні, маршыравалі страявым і парадным крокам.*

*Скончыўшы курсы, я трапіў у Туркменію. Там фарміравалася стралковая брыгада. Цяпер ужо я сам вучыў байцоў свайго ўзвода валодаць зброяй і поўзаць па-пластунску. Малады наш камбат Шафранскі вельмі паважаў страявы крок. Звычайна ў час абеду ён падыходзіў да кухні. І калі ўзвод ішоў з заняткаў на абед не класічным страявым — даваў каманду: «Кру-гом!» Мы нехаця цягнуліся назад у поле,ператасоўвалі рады, хавалі найбольш безнадзейных усярэдзіну і зноў з песняю «Ты ждешь, Лизавета, от друга привета» вярталіся да кухні. Добра ж, калі на гэтым канчалася...*

*23 жніўня 1943 года ў баях за Харкаў я быў ранены. Каля паўгода лячыўся. Выйшаў са шпіталя з абмежаванаю годнасцю і таму больш на фронт не трапіў.*

*І ўсё для мяне зноў пачалося трахя не гэтак жа, як некалі ў юнацкія гады. Яшчэ ў Маскве мяне прызначылі ст. рэдактарам педагагічнай і дзіцячай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва БССР, потым — рэдактарам часопіса «Бярозка». З «Бярозкі» праз нейкі час я зноў вярнуўся ў выдавецтва на ранейшую пасаду. І толькі калі мне стукнула нарэшце пяцьдзесят, я пакінуў выдавецтва. Выраслі новыя кадры рэдакцыйных работнікаў, і мне не канешне было цягнуць на гэтай рабоце да пенсіі.*

*Мінуў нейкі час, і я зноў засумаваў па рабоце: не лёгка было ламаць уклад жыцця і прывычкі дзесяткаў гадоў. На гэты раз я стаў літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў.*

*А тым часам ідуць гады. Цяпер я — персанальны пенсіянер. Замест ранейшай службы працую ў садзе і агародзе. І ўсё часцей успамінаю дзіцячыя і юнацкія гады. Вось гэтак жа я жыў і тады — сярод прыроды, разам з прыродаю. Гэтак жа радаваўся сонцу і цёпламу ветру, добрай збажыне і кветкам, гэтак жа вітаў кожны новы ліст на яблыні ці грушы ў старым бацькавым садку... Вядома, я не шкадую, што некалі прамяняў вёску на горад. Але нешта сялянскае, вясковае жыло ва мне ўсе сорак апошніх гадоў. І я рады, што яно не пакінула мяне.*

*Пасля вайны я па-ранейшаму пісаў апавяданні і аповесці для дзяцей і падлеткаў, рабіў новыя пераклады і папраўляў старыя.*

*Даўно я зацікавіўся народнымі казкамі. Не раз чытаў іх, перачытваў. Шмат чуў казак некалі ў роднай вёсцы, асабліва ад цыганоў, якія пасля летніх вандровак спыняліся ў нашай вёсцы на зімоўку. У 1929 годзе я зрабіў другую ў гэтым жанры спробу — напісаў вершаваную казку па народных матывах — «Каваль Вернідуб». Панёс у выдавецтва. Рэдактар Цвікевіч пацiснуў плячыма: «Казка? Хто гэта цяпер друкуе казкі?» Прыйшлося чакаць, пакуль з казак знялі забарону: за казку заступіліся Н. К. Крупская і Максім Горкі. Потым я закінуў гэты жанр. Вярнуўся да яго зноў ужо толькі пасля вайны. Мне хацелася выбраць усё лепшае з беларускага фальклору і надрукаваць для дзяцей. Дапамог мне ў гэтай рабоце вопыт Якуба Коласа і Аляксея Талстога. Я пайшоў па іх следу, трымаўся іх прынцыпаў у пераказе народных казак: не даваў залішне волі сваёй фантазіі, але і не баяўся папраўляць там, дзе, мне здаецца, гэта трэба было зрабіць, не кажучы ўжо аб літаратурнай апрацоўцы. Урэшце ні адзін казачнік і не трымаўся нейкага пэўнага тэксту. Казка — творчасць калектыўная. Кожны здольны казачнік узбагачаў казку, уносіў у яе і сваю долю.*

*Даўно мяне вабіць і гісторыя. Яшчэ ў дзіцячыя гады я чуў ад старога селяніна Міхася — хадатая па судовых справах з князем Радзівілам: «Нам сервітут не разведзены!» Што такое сервітут і як ён можа быць зведзены ці разведзены, я не ведаў. Затое я добра ведаў скарбовыя, як у нас казалі, паплавы — Корбушыху і Абадзец, якія межаваліся са слабаджанскімі землямі. Нашы коні ці каровы часта заходзілі на гэтыя паплавы. Панскія стражнікі, як каршуны, налятаў і ў такі час, займалі жывёлу і гналі ў двор. А там дралі па тры скуры за патраву. Некалі ж, як даводзіў стары Міхась, паплавы гэтыя*

*былі селавым пасбішчам. Сяляне мелі на іх такое ж права, як і князь. Потым, пасля скасавання прыгону, княжацкія намеснікі (саміх магнатаў радзівілаўскага роду ў нас, здаецца, ніхто і не бачыў) нешта перакруцілі ў зямельных планах і адабралі паплавы ў сялян. Пачалася зацятая барацьба за гэтыя паплавы — і судовая, і фізічная. І цягнулася яна аж да самага Кастрычніка.*

*Я пачаў пісаць аповесць «Канец сервітуту». Але вытокі канфлікту аповесці павялі мяне далей у гісторыю. Вывучаючы эпоху прыгоннага права, у мяне ўзнікла задума асобнай аповесці аб прыгонным хлопчыку. Я адсунуў да часу сервітутныя справы і напісаў задуманую аповесць. Назваў яе «Адкуль ліха на свеце».*

*Асноўны герой аповесці «Канец сервітуту» — хлопчык Пятрусь. Ад яго імя і вядзецца расказ. Будзе ў гэтым расказе крыху і маёй біяграфіі. Бо як ні выдумляй, як ні абагульняй, а перад вачыма на першым плане ўсё ж паўстаюць жывыя факты і малюнкі.*

*Эпоха, пра якую мне хочацца расказаць сваім юным чытачам, вельмі драматычная. Толькі Кастрычніцкая рэвалюцыя развязала нарэшце векавыя канфлікты паміж сялянамі і панамі, знішчыла ўсялякія сервітуты і закончыла крывавую гісторыю Корбушыхі і Абадца.*

*Жнівень, 1962*

*Аўтабіяграфія мая, як відаць з адпаведнай даты, напісана даўнавата. За гэты час я не толькі пастарэў, але і напісаў тры новыя аповесці, апрацаваў новыя дзесяткі народных казак.*

*Пра аповесць «Канец сервітуту» я ўжо крыху сказаў. Нічога потым я не мяняў — пісаў так, як задумаў. Бо аснова яе мне добра вядома з дзіцячых гадоў. Я толькі пашырыў гэтую аснову, узбагаціў новымі фактамі, запазычанымі з архіўных матэрыялаў, не баючыся, вядома, і свайго пісьменніцкага творчага домыслу. Князя Радзівіла, напрыклад, я замяніў звычайным панам Ясінскім. Спрэчнае пасбішча, пра якое расказваецца ў аповесці, мы называлі Абадцом. У мяне гэтая назва крыху зменена — Абадок. Так рабілася і з іншымі героямі і фактамі. Яны фарміраваліся ў аповесці па маёй аўтарскай волі. Аднак сам я ўвесь час стараўся трымацца жыццёвай*

*праўды. Так жылі людзі і ў маёй роднай вёсцы, і ў іншых вёсках нашага краю.*

*Перачытваючы цяпер гэтую аповесць для перавыдання ў Зборы твораў, я нічога не адважыўся ў ёй змяніць або паправіць: мне і самому ўжо здаецца, што так яно і было, як напісана.*

*Цяжэй было мне пісаць аповесць «Кастусь Каліноўскі». Вобраз славутага Кастуся цікавіў мяне даўно. Хацелася глыбей пазнаць яго і расказаць пра тое, што я пазнаю сам, юным чытачам. Але ж перада мною была гара матэрыялаў — і архіўных, і гісторыка-літаратурных. І спрэчных, і бясспрэчных. Як да іх прыступіцца?*

*Больш-менш праясніўся гэты вобраз мне толькі пасля таго, як я напісаў аповесць «Адкуль ліха на свеце». Гэта ж адна эпоха, адна тэма, можна сказаць. Мой Язэп Паловіч жыве і пакутуе ў тыя часы, калі Кастусь Каліноўскі з сваімі сябрамі-аднадумцамі рыхтуе вялікае народнае паўстанне супроць цара-дэспата і яго слуг. Язэп такім чынам становіцца тым звяном, якое і звязала мяне як аўтара з яго заступнікам і абаронцам Кастусём Каліноўскім. І хоць аповесць напісана на строга дакументальнай аснове, у яе разам з Язэпам трапілі і некаторыя аўтарскія персанажы з папярэдняй аповесці «Адкуль ліха на свеце».*

*Пасля «Кастуся Каліноўскага» я нейкі час думаў над працягам аповесці «Канец сервітуту». Ды і чытачы падказвалі, што хацелі б яшчэ сустрэцца з Петрусём Паловічам.*

*Але што мне было рабіць з гэтым Петрусём? Пакінуць яго ў Галынаўцы ці вывесці на шырэйшы прастор? Я ўспомніў, што сам я адразу ж пасля рэвалюцыі пайшоў вучыцца ў Вышэйшае пачатковае вучылішча. А чаму б не зрабіць так і майму Петрусю?*

*У студзені 1918 года мне споўнілася чатырнаццаць гадоў. Шмат чаго я помню пра той цяжкі год. А іншыя патрэбныя мне і больш значныя матэрыялы я, таксама як і для ранейшых аповесцей, запазычыў з архіўных дакументаў пра гераічную барацьбу нашага народа супроць нямецкіх акупантаў. Доўга не мудруючы, я так і назваў гэтую аповесць — «Цяжкі год».*

*Народныя казкі, якія я апрацаваў для дзяцей, склалі тры зборнікі: «Каток залатым лабок» (казкі пра жывёл), «Бацькаў дар» (гераічныя і фантастычныя казкі) і «Людзей слухай, а свой розум май» (бытавыя казкі). Для гэтых зборнікаў мною выбраны з багатай культурнай спадчыны нашых дзя-*

*доў і прадзедаў найбольш цікавыя і дасканалыя варыянты. Адны з іх дапоўнены іншымі варыянтамі і апрацаваны літаратурна, іншыя — пераказаны мною. Я такім чынам станавіўся ў некаторай ступені як бы сааўтарам невядомых нам казачнікаў з народа. Казкі гэтыя шырока друкуюцца і ў нас у рэспубліцы, і перакладаюцца на іншыя мовы. Яны — залаты фонд нашай народнай класікі.*

*Вось што я хацеў коратка дадаць да сваёй ранейшай аўтабіяграфіі.*

*1978 г.*

## ЗМЕСТ

КАЗКІ

**Якімовіч А.**

Я 45 Збор твораў у 3-х т. Т. 3. Апавяданні, казкі, аўтабіяграфія. [Для сярэдн. і ст. школ. узросту/ [Мастак П. Калінін].— Мн.: Маст. літ., 1980.— 480 с., 8 л. іл.

У пер.: 1 р. 20 к.

У трэці том Алеся Якімовіча ўвайшлі казкі і апавяданні.

Я $\frac{70803-018}{М\ 302(05)-80}$ — падпісное **ББК 84 Бел 7**
**Бел 2**

**Александр Иванович Якимович**

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ
В ТРЕХ ТОМАХ
*Том третий*
*Рассказы, сказки, автобиография*
Для среднего и старшего школьного возраста
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар У. Б. Ідэльсон. Мастак П. В. Калінін. Мастацкі рэдактар В. І. Кліменка. Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо. Карэктары Я. Ф. Харко, Л. Т. Калюжная.

ІБ № 376

Здадзена ў набор 21.06.79. Падп. да друку 13.12.79. АТ 01352. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 25,20+0,84 укл. Ул.-выд. арк. 26,04. Тыраж 23 000 экз. Зак. 2344. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, Паркавая магістраль, 11.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.